# Алена Васілевіч

Выбраныя творы ў трох тамах

том

3

Апавяданні, успаміны, партрэты, эсэ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1983

# *Адно імгненне*

Апавяданні

## ТАЯ ПЕРШАЯ ЗІМА

Тая першая зіма застала мяне ў арэнбургскім стэпе. У сяле Мартынаўка. Сяло гэта, па сутнасці, складалася з трох сёл, расселеных па беразе безыменнай рэчкі з ніцымі вербалозамі над вадой: сяло рускіх, сяло тамбоўцаў і мардвы.

Рускія окалі і карысталіся прыкладна такімі моўнымі зваротамі:

— Корова, чай, пила? — Гэта калі трэба было спытаць, ці напоена карова.

Тамбоўцы, наадварот, да неверагоднасці акалі і якалі:

— Ванькя, падь-кя суда!

Мардва па мове раднілася больш з рускімі — окала. Усё гэта былі мужыкі і бабы шырокай касці, людзі негаваркія, непаваротлівыя, але працавітыя і на дзіва вынослівыя.

На першай пары мы з таварышкаю Фросяю кватаравалі ў рускіх — у камбайнера Яшкі. Сам Яшка, ростам да столі, з сажанёвымі плячышчамі (Якаў, ды які яшчэ Якаў!) дома амаль не стыкаўся. Дняваў і начаваў на страдзе — той пякельнай страдзе за сем — дзесяць вёрст ад дому, пра якую ў нас, на Беларусі, людзі калі і ведаюць, дык толькі з кніжак. Затое Нюра — жонка Яшкава — сядзела дома як прышытая. Чацвёра — адзін пад адным — крутагаловых Яшкавых сыноў трымаліся за матчыну спадніцу так надзейна, што кроку з двара зрабіць было немагчыма. Да таго ж, як кажуць у Расіі, Нюра ха-

дзіла «на сносях» пятым. Такім чынам, мы з Фросяй у цеснай Яшкавай хаце былі ўжо восьмай справай, былі як быццам і не вельмі патрэбныя... Аднак Нюра і Яшка і вухам не вялі. У першы ж дзень, калі нас, эвакуіраваных, прывезлі ў Мартынаўку (за паўтара месяца дарогі ў эшалоне нямытых і закопчаных гэтак, што дзеці з усяго мо сяла, бегучы за вазамі, крычалі нам услед: «Кіргізаў вязуць! Кіргізаў!» — гэтакія ўсе былі чорныя), Нюра адразу ж напаліла нам баню, напякла свежых «липежичков» — ляпёшак, як пухам, выслала духмянай саломай падлогу ў хаце. Ды яшчэ дала абедзвюм нам з Фросяй пераапрануцца з бані ва ўсё сваё — чыстае... У такім раі мы паснулі як забітыя, а Нюра пільнавала нас і вытурвала сыноў за дзверы, каб не галёкалі над вухам.

— Брысь, окаянные! Нетути на вас лешего! — хвастала яна хлапцоў Яшкавай папругай.

«Окаянные» знікалі з піскам і рогатам.

...Раз на тыдзень, звычайна ў суботу, выпарыцца ў бані і пераначаваць дома наведваўся сам гаспадар — Яшка. Да яго прыходу Нюра «затевала стряпню», якіх толькі не пякла пірагоў. І з буракамі, і з фасоляю, і з чаромхаю... Хлопцы ў гэты дзень менш біліся і толькі раз-пораз бегалі за вароты глядзець «тятю»...

«Тятя» дадому з поля фураваў на лісафеце (інакш веласіпед у Мартынаўцы не зваў ніводзін чалавек).

— Стройсь! — важна, як генерал, спускаўся з лісафета Яшка.

— С-стройсь! — сам першы ў струнку выцягваўся перад бацькам-генералам сямігадовы памкамузвод Колька — старэйшы Яшкаў нашчадак.

Трое меншых паслухмяна дрыпалі босымі ножкамі па дарозе і, засціла ючыся хмарай пылу, спешна рабілі сваё «с-стройсь».

— Аддзяленне — на першы-другі расчытайсь!

Аддзяленне рабіла «расчытайсь»: першы, другі... Трэцяга і чацвёртага — каторыя яны — разабраць ужо было цяжка.

— Нале-во! Левае плячо наперад, ша-гом, арш!.. Левай! Левай! Левай!

Строй — адна пад адну, як качаны, стрыжаныя светлыя галовы — жалезна рубіў левай. Сам Яшка, ганарысты і задаволены, свой лісафет вёў у руках збоку.

— Левай! Левай! З-запявай!..

Строй на нейкі момант раптам губляў нагу, збіваўся

з вайсковага рытму, аднак, падбадзёраны яшчэ адным генеральскім бацькавым «запявай», тут жа падцягваўся і на ўсе чатыры лады запяваў:

Расцвіталі яблыні і грушы...

Строй запяваў пра яблыні і грушы, хоць у гэтай яго Мартынаўцы не расло ніводнага яблыневага ці грушавага дрэва. (Старыя людзі часам зжывалі век і зроду ў вочы не бачылі яблыка.) Ладней, аднак, чым пра гэтыя нябачныя ніколі грушы і яблыні ў хлопцаў атрымлівалася пра самую Кацюшу: як выходзіла яна на круты бераг, як заводзіла песню пра шызага стэпавага арла...

Тым часам баявых сваіх мужчын ля варот страчала Нюра. Перад ёю выцягваўся ў струнку ўжо сам генерал — бацька Яшка:

— Таварыш камандуючая! Дазвольце далажыць!

О, наш гаспадар Яшка ведаў вайсковую службу! Як любіў хваліцца ён сам, на «дзяйсцвіцельнай» некалі хваста яму круцілі добра! Аднак хвост гэты быў Яшку памысны. Ён і цяпер, каб не трымала яго дома неприступная механізатарская бронь, гарантаваная законамі ваеннага часу (сам Яшка зваў яе бранёю), ён бы ніколі не застаўся праціраць штаны тут, на камбайне. Ён, як і ўсе добрыя людзі, на фронце танкам давіў бы фрыцаў! Аднак не пушчала браня... А што было б рабіць без яе тут, на гэтых без канца-краю пшанічных арэнбургскіх палетках, няшчасным бабам — адным без мужыкоў? Без мужчынскіх рук і сілы? Без Яшкі?

...Увосень, калі ў нас звычайна без пярэдыху цэдзяць дакучлівыя дажджы, а там, у арэнбургскіх стэпах, давяць ужо сухія на дваццаць пяць градусаў маразы, якраз у гэту самую пару Нюра нарадзіла блізнят-дзяўчатак. Галасіла сама Нюра (не ў час, не ў пару была такая раскоша — і гэтых чацвярых не заўсёды ўдоваль было чым пакарміць, а пра адзетак-абутак і гаворкі ўжо не было: крама стаяла голая — пальца абгарнуць не было чым). Спахмурнеў і Яшка. І ён бачыў: не ў пару... Ды што было рабіць? Жонку спрабаваў суцешыць жартам:

— Маленько промахнулся я, Нюрка. Поскольку фронту нужны солдаты — гвардейцев бы надо было...

Нюра залівалася яшчэ галасней:

— Подавился бы ты, окаянный!.. Куда я топеря с девками-то, с двумя-то?

Яшка толькі вінавата пераступаў з нагі на нагу.

— Ладно, не голоси... Потерпим маленько, пока война-то окончится... А там — чем девки-то плохи...

Не трэба было і казаць: у Яшкі цяпер хапала насельнікаў і без нас. Тое ж самае сказаў і старшыня калгаса Іван Якаўлевіч (у яго таксама была «браня» — свая: яшчэ з грамадзянскай вярнуўся ён на адной назе).

— Ясно дело, девки: у Яшки топеря изба по завязку.

Падумаў, падумаў, пашкроб за вухам.

— Неча делать, пойдете жить в тонбовцы... Приставлю я вас, леший его не возьмет, до деда Митяя...

Дзед Міцяй — галава заможнае хаты, куды перайшлі мы з Фросяй ад Нюры і Яшкі-камбайнера,— і ўся дзедава сям'я насілі вулічную мянушку Жыліны. Ад слова жыла.

Сам Мітры Іванавіч, нізкі, шчуплы дзядок з вострым клінам шэрай бародкі і пранізлівымі свярдзёлкамі вачэй, быў падобны да дзеда Кашырына. Ён быў і характарам нібыта родны брат горкаўскаму дзеду.

— Машкя, плесни-кя водицы в шти,— загадваў ён дачцэ.— Развели жиришшу... (Гэта, калі страва здавалася яму праз меру наварыстай.)

Машка — дзеўка гадоў за трыццаць, якой даўно пара было, ды не было за каго, пайсці замуж,— бухала ў бацькаву міску траха не паўлітровую конаўку вады з вядра.

— Будя, будя,— няласкава спыняла Машку маці. Унукі звалі яе «баушка Анісья», а суседзі за вочы казалі старая Жыліха.

Бабка Анісся, наадварот, была мажная, грузная і панурая — поўная процілегласць свайму сухому, выпетранаму дзеду. Яна ніколі не смяялася. Не сварылася ніколі. Яна толькі загадвала:

— Машкя, будя спаць! — І дачка ўсхоплівалася як апантаная — не дай бог, каб маманя паўтарыла загад!

— Веркя, карову хто даіць будя? — І нявестка Вера, пакорлівая, на мужчынскі лад скроеная мардоўка, хапала дайніцу і, на хаду завязваючы хустку, без слова знікала за дзвярыма.

Суботнімі вечарамі, пасля лазні, бабка Анісся адна выпівала самавар чаю з кітайскай (толькі для яе адной купленай!) заваркай. А ў нядзелю, пасля снедання, укленчвала на чыстай палавіне перад абразамі. Малілася яна ўголас, доўга, са слязьмі і галашэннем: малодшы сын Жыліных — Верын муж — ваяваў на фронце. На чатырох зяцёў дочкі атрымалі пахаронкі.

Адмаліўшыся і адплакаўшы, старая садзілася да ста-

ла — нявестка Вера падавала ёй палуднаваць. (Старая і варыла сабе і ела заўсёды асобна ад сям'і.) І калі на гэты час здаралася зайсці ў хату да Жыліных салдату-інваліду на мыліцах ці хлапчуку-сіраціне, бабка Анісся паважна аблізвала лыжку і сурова адпраўляла «папрашайкю»:

— Ідзі, ідзі з богам... Бог дасць.

Сама яна за ўсё сваё жыццё не падала ні ў адну працягнутую руку і кавалка сухога хлеба.

А ў каморы тым часам стаялі поўныя скрыні мукі. У склепе ціснуліся кублы сала. А на вешале, на печы, камянелі па тры пары валёнак на кожныя ў хаце ногі.

Нам, бежанкам, мне і маёй таварышцы Фросі, бабка Анісся скупейшы за паўлітра кубак «дзеланкі» з пераго-ну прадавала за пятнаццаць рублёў. А за салёны агурок, не выпускаючы яго з рук, коратка патрабавала:

— Кладзі рублік!..

І мы клалі, бо заўсёды, калі б ні спыталі ў нас, хацелі есці.

Сквапнасці гэтых людзей не было межаў.

Падпаветка дзеда Міцяя і ўсе падстрэхі пад хлявамі былі застаўлены сціртамі сухога наколатага дубняку і беразаку. Дубняк мяне не дзівіў. На чарназёмных арэнбургскіх стэпах, у ярах — па-тутэйшаму балках — толькі і можна стрэць дубняк. Прычым дзіўна — на той тлустай глебе, якая не ведае і не просіць у чалавека ніякага ўгнаення, не стрэнеш нідзе дуба-волата, які так часта сустракаецца на нашых беларускіх падзолах. Там дубняк мізэрны, нейкі калючы і чэпкі. Размову з ім весці можа толькі сякера. Сумна чалавеку, які вырас сярод лясоў, трапіць у арэнбургскі стэп. Едзеш на рыдване гадзіну, другую — і хоць бы табе дзе дрэўца, хоць бы кусцік дзе які зялёны. І пшаніцы той ужо не рад, марудна куляючыся з гары на гару, з балкі ў балку: кувыль-кувыль, кувыль-кувыль... Дарэчы, толькі гэтыя балкі, несучы несумненную шкоду чалавеку,— толькі яны і ажыўляюць той аднастайны пейзаж. Па схілах балак расце дубняк — лес, як кажуць у той мясцовасці. А на ўзлеску можна стрэць нават рабіну.

...У дзеда Міцяя падпаветка трашчала ад сухога беразаку. Адкуль ён яго навазіў — для мяне гэта асталося таямніцай. Сам дзед не любіў хваліцца сваім дабром. Не любіў хваліцца тым больш немаведама каму... Іншая справа, каб гэтыя немаведама хто не сядзелі склаўшы

рукі, каб не дарма займалі месца, калі ўжо сельсавет сілком упхнуў іх у хату. І таму кожны адвячорак дзед Міцяй знаходзіў нам з Фросяй работу: пілаваць нейкія калодкі, нейкія карчы, нейкія аскабалкі.

— Каб яны падушыліся ўжо гэтымі сваімі дровамі,— жадалі мы дабра сваім гаспадарам.

Аднак, хацелі мы таго ці не хацелі, а кожны вечар хадзілі памагаць дзеду Міцяю пілаваць гэтыя дровы. А іх было назапашана, напэўна, яшчэ на добрых дзесяць год.

— Ну вось, маленькя і папрацавалі...— задаволена выціраў шапкай лысіну дзед, пачынаючы яшчэ адну сцірту.— Зарабілі на хлеб... Хе-хе-хе! — Можна было падумаць, што пасля гэтага заробку бабка Анісся не здзярэ з нас па рублю за салёны агурок...

Неяк ужо зімой, аднойчы пасля вячэры, дзед Міцяй паведаміў навіну:

— Старшыня наказваў, выкавыраным будуць даваць лес на дровы...— Слова эвакуіраваныя ён наўмысля вымаўляў няправільна.— Па цэлай дзялянцы. Высечы. Складзі. А пасля калгас дасць падводу прывезці дадому.

Дадому... Як везці дровы — дык ужо і дадому.

Мы з Фросяй пераглянуліся. Усё было ясна.

— Хто ж тую дзялянку высеча? — звярнулася да дзеда Фрося.

Яна была старэйшая і дужэйшая за мяне. Але яна працавала на «мэтэесе» (сам дырэктар, знаёмячыся, скажам, з начальствам ці якім прадстаўніком з вобласці ці раёна, рэкамендаваў сябе: «Дырэктар мэтэеса»).

— Хто? — Дзед у здзіўленні ўзняў вочы. (Ён, вядома, не сядзеў без справы — падшываў суседцы валёнкі: хоць які, а ўсё ж заробак.) — Як гэта хто?

— Сапраўды — «Як гэта хто?»... Яна высеча тую дзялянку? — паказала Фрося на мяне.

— І яна і ты.

— Дык я ж працую. А яна... Яна ж дзіця зусім і сякеры не ўмее ў руках трымаць. Да таго ж...

Але дзед не даў Фросі скончыць.

— На цёплай печы, як здубянееце, умееце грэцца. Умейце і дзялянку высечы.

І мы прысмірэлі. Сапраўды — на печ мы лазілі штовечар. Мы і цяпер сядзелі на печы і дралі «баўшцы» Анісі пер'е.

На гэтым скончылася гаворка пра дровы. Справа пачалася назаўтра раніцаю. Дзед устаў раней звычайнага,

навастрыў сякеру, натачыў пілу і, вясёлы і ўрачысты, падпяразваючы папругай кажух, загадаў мне пасля снедання:

— Ну, збірайся. Пойдзем! — І паказаў на сякеру, што ляжала ўжо напагатове на лаве. І, мусіць, каб абрадаваць мяне, пахваліў сякеру: — Не секчы будзе — спяваць!

А дачцэ Машы аддаў другі загад:

— Машкя, достань-кя з чулана валёнкі.

— Якія?

— Не знаш — якія?..

І Маша здагадалася і прынесла мне з каморы валёнкі. Каб яны згарэлі былі, тыя валёнкі — былі яны вялізныя, абшмырганыя, стаптаныя. Дзед быў у гуморы, быў добразычлівы. Ён сам узяў у дачкі з рук валёнкі і паставіў іх грэцца на прыпечак. Мае ногі былі больш удзячныя за мяне самую. Ім было цёпла, куды цяплей, чым у лазовых лапцях, і яны ацанілі дабрату дзеда Міцяя: яны пайшлі.



Прайшло ўжо больш за дваццаць год, а я і сёння памятаю тую заснежаную, нібыта зачараваную раніцу. Іней на дубняку зіхаціць, пераліваецца, звініць нячутным звонам. У лесе ні шолаху, ні гуку — нібыта вымер свет. Нібыта жыццё адступілася ад зямлі і пакінула яе сам-насам з гэтым зачараваным хараством.

Дзед паказаў мне маю дзялянку, высек для пачатку некалькі — таўшчынёй з грабільна — прутоў, паказаў, дзе і як складаць мае дровы. А сам падаўся на сваю дзялянку — ён меў на яе правы ўжо як гаспадар «выкавыраных».

Я ўзялася за сякеру.

...Не адна я — эвакуіраваная — жыла тады ў той Мартынаўцы. Не адна я секла той зачараваны лес у тую даўнюю раніцу. І не адны мае слёзы мерзлі на шчоках ад лютага арэнбургскага марозу.

Хадзіла я на тую дзялянку нешта тыдні са два. І, здаецца, збольшага ўжо высекла яе і склала нават так, як вучыў дзед Міцяй. І можна ўжо было б і забіраць тыя дровы, як раптам завіхрыў, загуляў, паваліў буран. Той самы арэнбургскі буран, які некалі, паўтараста гадоў назад, ледзь не загубіў па дарозе ў Орскую крэпасць дзядзьку Савельіча з «барскім дитятею» Грынёвым...

Буран круціў хмары снегу з такой сілай, што на трэці дзень не пайшлі цягнікі — заваліла снегам чыгунку. Спы-

нілася пошта. Мясцовыя людзі расказвалі, што здараліся выпадкі, калі ў такі буран чалавек мог загінуць на вуліцы ці ў сябе на двары: не хапала сілы адолець шалёны снежны шквал.

Калі ўсё сціхла і супакоілася — зноў устала пытанне пра дзялянку, пра дровы, а цяпер ужо ў дадатак і пра каня: яго трэба было ісці прасіць у старшыні калгаса. Нам з Фросяй пашанцавала: каня нам далі на «мэтэесе» без просьбы. І вось мы едзем па дровы! На сваю ўласную дзялянку!

Закіданы снегам лес стрэў нас, прынамсі мяне, як зусім незнаёмы. Гэта бянтэжыла. Правальваючыся па пояс у снезе, я ніяк не магла знайсці свае дзялянкі.

— Няхай бы ты метку якую пакінула, ці што,— дзівілася з мае бяспамятнасці Фрося, ходзячы следам за мною.

— Метку... Я ж і так добра ведаю, дзе яна.

— Ну дык дзе ж яна?..

— Пачакай, мусіць, вунь там...

Так хадзілі мы ад адной сцірты дубняку да другой, ніяк не знаходзячы мае дзялянкі і мае сцірты дроў. Што за дзіва: на дзялянцы, куды мы прыйшлі адразу і дзе, я была ўпэўнена, павінны былі ляжаць мае дровы, прыкіданая снегам, тулілася нейкая мізэрная сціртачка. Мне было б сорамна паглядзець Фросі ў вочы, калі б я за два тыдні ўсяго толькі і насекла гэтых тонкіх дубцоў.

І мы шукалі зноў.

Нарэшце я знайшла сваю дзялянку. Праўда, здалося мне, што мая сцірта павінна быць ніжэйшая, і дубцы ў гэтай былі нейкія вельмі тоўстыя. Але далей разглядацца і разважаць ужо не было калі: у лесе пачало цямнець, трэба было спяшацца.

— Кіруй сюды! — закрычала я Фросі — яна з канём ехала па дарозе.

— Дзякуй богу! Нарэшце!..

Стаміўшыся шукаць, мы весела пачалі накладваць сані.

— Дык ты ж малайчына! — пахваліла мяне Фрося.— Гэтакую сцірту насекла. І тоўсты які дубняк! Вось стары ўжо будзе рады...

Мы склалі дровы, самі селі на сані і пафуравалі дадому. Дома дзед Міцяй памог нам скласці дровы ў падпаветку. Ён таксама пахваліў мяне, дакараючы Фросю:

— Віш, Ленкя твая — малайчына! Не тое што ты — паперкі толькі пішаш, а што з іх за карысць?

— Добра, добра, дзед, хопіць з цябе дроў.— Фрося была смелая і з дзедам гаварыла таксама смела.— Хопіць з цябе дроў да самай смерці!

— На шута яна — смерць! — Дзед не любіў гаворкі пра смерць і таму адразу ж перавёў на жыццё, на зямлю.— Каб не пакралі часам дроў — ранічкой заўтра і я падскочу ў лес.

...Дзед сваю дзялянку знайшоў у лесе адразу. Знайшоў — і не паверыў вачам: на яго дзялянцы не было яго дроў. Дзед кінуўся туды, кінуўся сюды. Думаў, мо хто з гэтых гультаёў, «выкавыраных», пакраў яго дровы і перанёс на свае сцірты. Але ўсе сцірты стаялі закіданыя снегам, і не відно было ніякага следу. Адзін толькі след вёў да яго дзялянкі. Па гэтым санным следзе дзед Міцяй і вярнуўся ў свой двор.

Чаму ён нічога не сказаў тады ні сваім хатнім, ні суседзям, ні нам з Фросяй — пра гэта я ніяк не магу даўмецца і сёння.

Аднак і сёння добра памятаю: калі мы накладвалі з Фросяй на сані мае дровы — мне яны ўвесь час здаваліся чужымі.

*1964*

## РАХМАТ

...А потым у мяне ўжо быў другі куток, была другая страха над галавой.

У прамёрзлай хаце татаркі Раз'і былі ў мяне мулкі куфар і татарская печ, якая грэла мяне сваёй шырокай спіной усю ноч. Грэлі мяне ў гэтай прамёрзлай хаце яшчэ і чатыры пары чорных, як вугалёчкі, вочак: Каця, Ханіф, Еўгар і Якуб. Бог ведае, адкуль яны ўзяліся тут, гэтыя Каця і Якуб, у мацеры, якая па-руску ўсяго і ўмела сказаць: «Агонь умірал»... Што азначала: газа выгарала — лямпа тухне.

За перакладчыцу ў нас была старэйшая дачка Раз'і Каця. Яна ўжо вучылася ў пятым класе і ладна ўмела гаварыць па-руску. Як і ўсе татаркі, Каця хадзіла ў шараварах і шырокай, як звычайна шыюцца начныя сарочкі, мешкаватай сукенцы. Маленькія завушніцы і нітка яркіх пацерак на шыі складалі яе ўпрыгожанне. Каця і сама была прыгожая дзяўчынка. Яна вабіла дзікаватай усходняй прыгажосцю лермантаўскай Бэлы. Вялікія чорныя вочы, нібыта дзве трапяткія сарначкі, глядзелі на субяседніка заўсёды як бы са здзіўленнем і крышку як быццам напалохана. Белы чысты твар з роўным зграбным носікам і пунсовымі вуснамі адцянялі густыя, аж сіняватыя, чорныя валасы. Каця заплятала іх у дзве касы. Адну яна перакідала за спіну, другая ляжала на грудзях.

Я звала Кацю Бэлай. І яна ахвотна адгукалася на гэта імя. Раз'я, наадварот, не ўпадабала гэтага.

— Зачэм Бэла гаварыш? Зачэм Каця малчыш? Чужой імя — глупый імя.

І мне даводзілася расказваць Раз'і пра Бэлу і пра паэта Лермантава, які напісаў пра яе. Раз'я не ўсё разумела, і Каця перакладала ёй тое, чаго яна не разумела. Раз'я слухала дачку і толькі ківала галавой. І калі мы, нарэшце, канчалі з перакладам, Раз'я ні то пыталася, ні то сама сцвярджала:

— Бэла якшы?.. Харашо Бэла?

— Якшы, якшы... Добра, добра...

Так была дасягнута наша з Раз'ёй узаемная згода. Потым яна ўжо сама расказвала суседкам, што прыбягалі да яе вечарам, як марзя (гэта значыць, я — руская) празвала яе дачку Бэлай. Лермантава яна, безумоўна, не памятала. Ведала толькі і сама ўжо суседкам расказвала,

што ён напісаў многа кніжак і адну пра Бэлу — Бэлу якшы...

Я не разумела таго, пра што расказвала Раз'я суседкам. Толькі па яе ажыўленым твары і па тым якшы, якое яна часта паўтарала, я здагадвалася, што на мяне Раз'я больш не сярдуе, што, наадварот, новае імя, прыдуманае мною яе дачцэ, ёй падабаецца. Адным словам, усё было якшы — усё было добра.

Суседкі звычайна не затрымліваліся ў Раз'і доўга. Хадзілі яны адна да адной даведацца, ці няма пісьма з фронту, ці няма якіх навін ці чутак адтуль, дзе ваявалі іх гаспадары. А тыя, хто атрымліваў пісьмо з фронту, насілі яго па хатах, каб паказаць суседкам. Гаварылі татаркі хутка і мнагаслоўна і ўсе разам, а то раптам змаўкалі надоўга і толькі цяжка і жаласліва ўздыхалі.

Пасля таго як суседкі разыходзіліся, самі засмучаныя і Раз'ю пакідалі засмучанай, Каця тлумачыла мне:

— Бацька ваяваў пад Масквой. Немцаў забіў. Ордэн атрымаў. А пісьма больш няма...— І яе чорныя, як сарначкі, здзіўленыя вочы засцілаліся слязьмі.

Сама Раз'я ніколі не плакала. Наогул я не бачыла, каб плакалі татаркі — гэтыя суровыя салдаткі і ўдовы апошняй вайны. Яны пакутавалі моўчкі. Моўчкі пакутавала і Раз'я. Толькі Якуба туліла да сябе яна неяк асабліва моцна, толькі яму выказвала нешта сваё, мацярынскае, пяшчотнае.

Гадунок Якуб ведаў яшчэ толькі матчыны грудзі, соску і сваю калыску. І таму Раз'ю заўсёды вельмі смяшыла, калі я садзілася калыхаць Якуба і спявала яму свайго, беларускага «Ката»:

Хадзіў коце па плоце
У чырвоным капоце...

Я спявала Якубу ўсе песні, якія толькі ведала: рэвалюцыйныя, народныя, пра каханне...

І гарлапан Якуб, які мог крычаць без дай рады дзве гадзіны запар, у момант сціхваўся, вытрэшчваў чорныя вочкі і толькі пускаў бурбалкі.

— Шайтан! — коратка кідала Раз'я.— Шайтан!..— І дадавала нешта яшчэ, хутка-хутка, па-свойму, па-татарску.

Каця пераказвала мне:

— Мама кажа: вось чарцянё, нібыта яно нешта па-руску разумее...

* * *

Так мы і жылі без мовы: я і Раз'я. Аднак добра жылі. Наша заінелая, як мядзведзь, хата звычайна ажывала вечарам, калі вярталася з калгаснай работы Раз'я, чырвоная і, здаецца, зашклелая з ветру ды з марозу. Рукі яе да таго настывалі, што сама яна не магла расшпіліць кажуха і развязаць хусткі.

Мы з Кацяй распранalі Раз'ю і снегам адцíралі ёй скалелыя пальцы.

— Шайтан!..— крывячыся ад болю, усяго толькі і казала Раз'я.

Без мужчын, адны, жанкі-татаркі ўсю зіму на ветры і на марозе малацілі на гарах (а Каця казала на юру) камбайнам пшаніцу.

Адагрэўшыся, Раз'я бралася за гаспадарку. Перш-наперш распальвала печ. І тады пачыналася самае вясёлае, самае жаданае: палалі кізякі, кіпеў кацёл, варылася вячэра — гаспадыніны мучныя клёцкі з бручкай і мая бульба. З сянец, з холаду і марозу, яна была звонкая, як шкло, і салодкая, як цукар.

Вячэралі мы ўсе разам, седзячы з нагамі на нарах, на кашме, паслаўшы чысты настольнік. Той вячэры — тым клёцкам з бручкай і той салодкай бульбе — цаны не было!

Пасля вячэры звычайна Раз'я бралася за іголку. Трэба было палатаць штаны Ханіфу — яны гарэлі ў яго, як на агні. Еўгар не адставала ад Ханіфа. Яна хадзіла яшчэ толькі ў першы клас, але і яна сукенкі і шаравары паласавала не горш за брата.

Каця вучыла ўрокі. Яна рабіла гэта заўсёды сур'ёзна і добрасумленна. Сшыткі ў яе былі заўсёды чыстыя, кнігі абгорнутыя. Таго ж самага Каця патрабавала і ад сваіх малодшых брата і сястры. Ханіф быў гультаяваты хлопец і вучэння вельмі блізка да галавы не браў. А Еўгар наогул яшчэ ніяк не разумела, навошта гэта абавязкова вучыць урокі кожны дзень. І, каб давесці ім гэта «навошта», старэйшая Каця не раз бралася за бацькаву папругу, што вісела на цвіку каля дзвярэй.

— Кіт! — пагрозліва тупала яна нагой і добра апяразвала папругай заўсёды першага Ханіфа.

Ханіф лямантаваў: чаму заўсёды абавязкова першага лупцуюць яго, а не Еўгар? Яна таксама не вучыць урокі, а дурэе.

Тады Каця перацягала папругай і Еўгар:

— Кіт! (Ану, за стол! За ўрокі!)

Пасля гэтага навука пачыналася ўжо агульная. Сама Раз'я ў Каціну педагогіку не ўмешвалася ні адзіным словам. Яна была згодна. Гэта было відно па яе праяснелым позірку і задаволенай усмешцы: дзеці павінны вучыцца!

Мы з Якубам былі заняты сваёй справай. Я спявала яму свае песні, а ён гуў мне нейкія свае апавяданні.

Так мы праводзілі ўсе нашы вечары.

Здаралася часам, што на Раз'ю раптам навальваўся нейкі неадольны сум. Яна ў такія вечары нічога не рабіла, а сядзела на нарах, падабраўшы пад сябе ногі, і толькі ледзь прыкметна пагойдвалася.

— Каця, ці не захварэла часам мама? — Звяртацца да самой Раз'і ў такія моманты я не адважвалася.

— Не-э...— адмоўна круціла галавой Каця.— Пісьмо нет. Бацьку памятае...

Раз'я насцярожвалася і прыслухоўвалася да нашай гаворкі.

— Дык, можа, давай напішам?..— пыталася я ў Каці.

— А куды?

— Куды-небудзь...

Раз'я насцярожвалася яшчэ больш.

— Энэ...— дакраналася да матчынага плечука Каця і далей гаварыла мацеры нешта хутка-хутка, паказваючы на мяне і на свой сшытак.

Раз'я нібыта прачыналася.

— Пішы,— загадвала яна мне,— узнавай, куда девал Гітлер мужык?..

І я садзілася і пісала. Пісала ўсюды, куды толькі можна было тады пісаць, куды пасылала таксама і свае пісьмы. Адказу на гэтыя пісьмы мы з Раз'ёй чакалі моўчкі, чакалі доўга і цярпліва. І ніадкуль ніхто нам нічога не адказаў, нічым не суцешыў, не абнадзеіў. Яе — весткай пра бацьку яе дзяцей. Мяне — весткай пра маё каханне.

Так мы і развіталіся з Раз'ёю, нічога не дачакаўшыся. Так больш ніколі і не стрэліся.

Добрая мая, маўклівая Раз'я! Мне так хочацца верыць, што ты ўсё ж дачакалася свайго Хафіза. Што ты пагадавала і добра пааддавала замуж дачок. Што дачакалася радасці ад сыноў. Ад свайго і майго маленькага Якуба.

Рахмат табе, мая Раз'я, за тваю добрую хату. Дзякуй табе.

*1964*

## ТРЭЦЯЯ ПАЛАТА

Наша вольнанаёмная раніца пачынаецца звычайна з раздачы хлеба. Хлеб раздае Дуся Смольнікава — дробненькая, чорная, як галка, жанчынка з папяросай у зубах. Да вайны Дуся сядзела на кадрах мінскай фабрыкі «Камунарка». А тут, у глухім татарскім райцэнтры, у эвакашпіталі яна — «управделами».

Нас, маладых дзяўчат, Дуся задушвае сваёй уладай. Яна чытае нашы пісьмы, сочыць за нашымі паводзінамі, піша рапарты (ёй вельмі падабаецца палохаць нас гэтым грозным словам рапарт) начальніку шпіталя.

Я ненавіджу Дусю і нараўлю кожны раз за вярсту абмінуць шпітальную кантору. Днём гэта ўдаецца. Раніцой жа — усе дарогі вядуць у Рым... У канторы Дуся раздае хлеб. Вільготны, цяжкі, як камень, цёплы добры хлеб — па шэсцьсот грамаў на дзень!

Хлеб гэты можна з'есці адразу. Можна падзяліць на дзве, на тры, на чатыры нават часткі. Я свой дзялю на тры. Прычым дзве часткі з'ядаю тут жа, адразу, у канторы, з чаем (чаем завецца ў нас бачок вару). З трэцяй, схаванай пад паліто, каб не замерзла па дарозе, бягу ў сваю бібліятэку. Аднак і тут утрываць немагчыма. Мне здаецца, што настуджаныя, у заінелых пераплётах кнігі глядзяць на мяне з крыўдай і дакорам, і таму я адвarочваюся ад іх да акна.

Справіўшыся з апошнім кавалкам, я нарэшце з палёгкай усведамляю: абавязак перад маімі святымі грамамі на сёння выкананы. Можна брацца за работу.

* * *

— Сэстра! Пажалуста — мы первы́я!..— Гэта грузін Аджымілашвілі з трэцяй палаты — яе, каб і хацеў, не абмінеш.

Як запалка, гарачы і, як дзіця, наіўны, пры кожным зручным выпадку Аджымілашвілі вучыць мяне гаварыць па-свойму, па-грузінску. І нічога не можа дабіцца. Апрача «гамарджобат, амхенагебо» (добры дзень, таварышы), я нічога не магу запомніць. Аджымілашвілі злуецца, аднак не адмаўляецца вучыць мяне. Наадварот, каб заахвоціць мяне, ён запэўняе, што я здольная вучаніца. З гэ-

тай прычыны ён прапануе мне нават сваё сэрца і руку. Прапануе, праўда, не мне першай — сваё сэрца і руку ён прапанаваў па чарзе амаль усім нашым дзяўчатам. Аднак прапанова ёсць прапанова. Не зусім дакладна, праўда, можам мы толькі вырашыць з Аджымілашвілі адно пытанне: як жа будзе з яго жонкай, якая жыве ў «Тыбілісы». Аднак аптыміст Аджымілашвілі не вельмі зважае на гэту дробязь і кожны раз прапануе новыя варыянты. Найлепш, на яго думку, калі жонка будзе жыць у адной кватэры, а мы ў другой — паблізу ад яе. (Жыць мы будзем, вядома, у «Тыбілісы».) Выдатна будзем жыць, абяцае мне Аджымілашвілі! Ён — цырульнік. Ён добра зарабляе. Я буду за ім як царыца. Буду есці вінаград і піць віно, буду хадзіць у шаўковых плаццях.

У Аджымілашвілі лёгкае раненне. Яму ампутавалі вялікі палец на правай руцэ. У час аперацыі ён крычаў як маленькі, а пасля аперацыі, калышучы, нібыта дзіця, сваю забінтаваную руку, доўга плакаў:

— Палчык мой, палчык!.. Гдэ ты тэпэр, мой палчык?..

...Па голасе чутно, што сёння Аджымілашвілі не ў гуморы.

— Сэстра! Гдэ маё пісьмо?

— Вам сёння няма.

— Должэн быць!..— І шклянка з нейкім вітамінным пітвом ляціць з тумбачкі вобземлю і разбіваецца на друзачкі. Аджымілашвілі плача.

Няхай паплача. Яго бяду лёгка адбядоўваць. Прысядзь толькі да яго на ложак, пагладзь жорсткую чорную чупрыну ды, як маленькага неслуха, падакарай:

— Ну што гэта такое, Аджымілашвілі?.. Такі мужны, такі прыгожы... Сын сонечнай Грузіі — і на́ табе...

І тады чорныя, нібыта аксамітныя, вочы Аджымілашвілі пачынаюць паступова мякчэць і мякчэць.

— Ай, Грузыя! Ай, Грузыя! — паволі астываючы і аддаючыся ў палон мілых успамінаў,ківаецца на ложку Аджымілашвілі. Задуменны позірк аксамітных вачэй скіраваны за акно, на заснежаны шпітальны двор, на заінелыя кажухі дрэў.

— Ай, Грузыя! Ай, Грузыя! — паўтарае сам сабе Аджымілашвілі, і яму бачыцца за гэтымі снежнымі сумётамі яго родная Грузія з яе сонцам, з яе казачнымі горамі, з яе гордымі чарнакосымі дзяўчатамі-красунямі.

— Ну, вось і малайчына. Вы ж у нас такі герой... А пісьмо вам будзе. Абавязкова будзе!

— Спасыба, сэстра,— канчаткова астывае і супакойваецца Аджымілашвілі.— А замуж ідэш?

— Ну вядома, пайду...

* * *

— Мамаеў, скачыце!

Мамаеў — ён спіць, закрыўшы твар газетай,— ускоквае як апантаны.

— Сястрыца, дай я цябе пацалую! — у захапленні крычыць ён, наровячы адной левай рукой нацягнуць халат (другая, правая, рука ў гіпсе) і памыкаючыся саскочыць на падлогу.

— Сядзіце ўжо! — прыкрыкваю я на Мамаева.— Сама падам.

Уральцу Мамаеву пісьмы ідуць штодня, часам і па два на дзень. Пакуль ён вандраваў пасля перадавой і медсанбата са шпіталя ў шпіталь, яго вясёлы нораў і, як у дзяўчыны, сінія вочы завялі не адзін дзесятак знаёмстваў з даверлівымі шпітальнымі сястрычкамі.

Сам Мамаеў ніяк не злоўчыцца пісаць левай рукой, і таму кожны дзень пасля мёртвай гадзіны адказы яго адрасаткам пішу я. Ва ўсіх гэтых адказах з аднымі і тымі ж зваротамі і развітаннямі мне даводзіцца мяняць толькі імёны.

«Здравствуй, многоуважаемая подруга Шура! В первых строках своего письма спешу уведомить, что я жив и здоров, чего и Вам желаю в Вашей молодой цветущей жизни...»

Апісаўшы ўсю сваю адысею ў заснежаны арэнбургскі стэп, Мамаеў звычайна канчае свае пісьмы гарачым цалаваннем «в горячие уста» і лірычным напамінкам: «Жду ответа, как соловей лета...»

На другі дзень тое ж самае паўтараецца Надзі, Люсі, Зіне, нейкай Анечцы, потым Машы...

Каб не зблытацца, пісьмы, на якія мы яшчэ не адказвалі, Мамаеў перавязвае ружовай стужачкай. Тыя ж, на якія ўжо ўсе пачуцці і пацалункі вычарпаны, перавязваюцца стужкай сіняй.

Спачатку я цярпліва дзень у дзень пісала тыя палымяныя дыктоўкі, не адважваючыся выказваць сваіх адносін да іх стэрэатыпнага зместу і формы, не адважваючыся абурацца іх аўтарам.

Аднак хутка я ўзбунтавалася.

— Я не буду пісаць вам, Мамаеў, штодня адно і тое ж і ўсім падрад!

— Сястрыца! Дык яны ж усё роўна пра гэта не ведаюць! — весела супакоіў мяне Мамаеў, маючы на ўвазе сваіх адрасатак.— Усё роўна ж ім прыемна!

Супроць такой логікі немагчыма было пярэчыць. Аднак я цвёрда стала на сваім: не буду! Буду пісаць адной якой-небудзь, а ўсім не буду.

— Дык адной жа нецікава, сястрыца! Што з тае аднае за радасць...

Уся палата памірала са смеху, а мяне разбірала злосць: падумаеш, знайшоўся харашунчык.

Думае, усе так і млеюць па ім.

А Мамаеў і сапраўды быў прыгожы: сам рослы, твар светлы, з румянцам на ўсю шчаку, позірк сініх вачэй адкрыты і такі прыветны... Не дзіва, што дзяўчаты паміралі за ім. Ды ён і сам усіх іх любіў і не шкадаваў ім ні пяшчотных слоў, ні пацалункаў.

У трэцяй палаце ён таксама неўзабаве зрабіўся агульным любімчыкам. Дзяжурныя сёстры — неразлучныя сяброўкі — пасварыліся праз яго, а палатная доктарка, як дзіця, ружовая і смяшлівая, бялявая «Сашанька» (Аляксандра Іванаўна), пасварылася з сёстрамі, строга забараніўшы ім тырчаць у трэцяй палаце без патрэбы. Нашто ўжо што, а нават і наш «Аракчэеў» Дуся Смольнікава, і тая знайшла раптам пільную патрэбу да трэцяй палаты: ёй, бачыце, спатрэбілася раптам запаўняць нейкія адмысловыя анкеты...

* * *

— А з вамі, Пятрэнка, мы сёння пачытаем казкі.

Украінцу Пятрэнку таксама няма пісьма. Няма, бо няма адкуль атрымліваць, няма адкуль чакаць пісем. Пятрэнка — чарнігавец. Як пайшоў дваццаць другога чэрвеня ў райваенкамат, то больш і не вярнуўся дадому. Дома ў яго асталася жонка з чатырма дзецьмі. Пятрэнку за сорак, і мне ён здаецца безнадзейна старым чалавекам. І таму мяне вельмі дзівіць і страшэнна смяшыць (што я старанна стараюся схаваць) дзіўны Пятрэнкаў клопат пра пятае дзіця, якое павінна было нарадзіцца ўжо без яго.

Пятрэнка — чалавек невялікай граматы, да таго ж па-руску чытае ён слаба, і я нашу яму кніжкі, толькі напісаныя вялікімі літарамі. Часцей за ўсё нашу яму каз-

кі. Ён любіць іх, і яны прыносяць яму асалоду. А яшчэ найбольшая радасць для Пятрэнкі бывае, калі я сама саджуся на яго ложак і сама чытаю яму гэтыя казкі. І трэба толькі бачыць, як па-дзіцячы наіўна і шчыра спачувае Пятрэнка пакрыўджанай, бездапаможнай казачнай драбязе. Як шчыра абураецца ён вераломствам усякіх хітрых лісоў і воўчай прагавітасцю. Як шкадуе розных зайчанят.

— З вамі, Пятрэнка, сёння мы будзем чытаць казкі! — знарок бадзёра паўтараю я.

Дабрадушны, разумны Пятрэнка добра разумее маю робленую бадзёрасць і, каб памагчы мне, сам прыгнятае свой смутак і гэтак жа роблена бадзёра згаджаецца:

— Казкі — цэ дзіло! Цэ добрэ...— І тут жа пасоўваецца на ложку, зручней умошчвае сваю перабітую ў калене нагу — загадзя рыхтуе мне мясціну, дзе сесці.

* * *

І Барысевічу няма пісьма. І Барысевічу няма адкуль чакаць вестак, бо і яго, як і Пятрэнкаву, зямлю топчуць чужыя, варожыя боты. Барысевіч і не чакае пісем. Ён толькі просіць мяне не аддаваць у другія палаты пласцінку з песняй «Кацюша». Ён і спіць, паклаўшы яе пад падушку. У Барысевіча маладая жонка Каця — і гэта патэфонная «Кацюша» цяпер адзінае, што нагадвае яму самае блізкае і самае сардэчнае. Тое, што не выкажаш ніякімі словамі. А калі і захочаш часам выказаць, то хутчэй толькі сапсуеш.

Барысевіч — беларус, мой зямляк. І таму да яго ў мяне пачуцці асаблівыя, не падобныя да іншых. Пачуцці гэтыя вельмі складаныя і супярэчлівыя. З аднаго боку, мы з Барысевічам як быццам звязаны адной пупавінай — аднымі і тымі ж успамінамі і хваляваннямі: пра родную зямлю, пра свае гаманкія лясы і нівы, пра нашы беларускія зімы і вёсны — такія цяпер ад нас далёкія і такія да болю патрэбныя нам тут, у гэтым замеценым снегам арэнбургскім стэпе.

З другога боку... Дружба з Барысевічам у нас усё роўна не ладзіцца.

— Дрэнная ў мяне землячка! — безнадзейна махае на мяне рукой Барысевіч.— Як да чужых, дык яна добрая, а як да сваіх — дык...

І сапраўды: у Барысевіча доўгі язык, і ён умее ляпнуць такое, што слухаць брыдка. І таму я не даю яму

спуску. Мне хочацца, каб мой зямляк, беларус, быў самы лепшы. А Барысевіч гэтага ніяк не разумее і разумець не хоча. Пра што б ні ўспомніў,— няхай сабе пра самае роднае, пра самае блізкае — усё роўна ўмудрыцца звесці гутарку на гарэлку, на паўлітра ды яшчэ на свае поспехі ў жанчын.

— Цьфу! — так і хочацца плюнуць на гэту яго дурную гаворку... Але не плюнеш. Пра Барысевіча-франтавіка яго аднапалчанін з сёмай палаты расказвае цуды. Барысевіч і ў атаку хадзіў першы, і адзін са сваім кулямётам улажыў пад Вязьмай траха не цэлы ўзвод немцаў, і танкаў фашысцкіх падарваў не адзін... Барысевіч і цяпер, паранены ў абедзве нагі, ні разу не застогне, не паскардзіцца на боль дактарам — ён толькі лаецца так, што сёстры, калі трапляюць на гэты час, вылятаюць з палаты як кулі.

— Кіньце малоць, Барысевіч, брыдка вас слухаць! — накідваюся звычайна я на земляка, калі ён ужо вось-вось гатовы распусціць свой язык «на поўную катушку».

— Усё ёй Барысевіч кепскі...— агрызаецца, але ўсё ж спыняе сваю пласцінку Барысевіч.— Усё ёй Барысевіч не дагодзіць... Пятрэнка ёй лепшы за мяне... Ды ён жа стары! У яго ж пяцёра дзяцей! (Самому Барысевічу няма і трыццаці.)

— Лепшы! — Тут ужо і я не магу ўтрымацца ад смеху.— У сто разоў лепшы за вас...

— Каіпаў ёй лепшы...— гэта ўжо Барысевіч гаворыць шэптам.

— Можа, даволі ўжо? Можа, хопіць?

Барысевіч здагадваецца, што перабраў меру, і змаўкае.

* * *

— Сястра!..— Каіпаў не ўскоквае, як іншыя, узрушана на пасцелі, не пагражае, не лаецца, не адварочваецца нема да сцяны. Ён чакае. Чакае, калі я раздам усе пісьмы і газеты, калі разнясу ўсім кнігі, і тады толькі падзывае мяне:

— Сястра!..

Я баюся яго зову. Баюся кожны раз, што не стрымаюся і тут жа, у палаце, на вачах усіх гэтых, такіх розных, ні ў чым не падобных адзін на аднаго дарослых мужчын, разравуся як маленькая.

Каіпаў прыкаваны да ложка. У яго пашкоджаны хрыбетнік. Каіпаў таксама ніадкуль не атрымлівае пісьмаў. Бачачы мае пустыя рукі, ён ніколі нічога больш не гаворыць, не пытае, не просіць, ён толькі працягвае мне загадзя падрыхтаваны белы трыкутнічак, адрасаваны ў Бугуруслан у эвакабюро. Я вінавата кладу гэты трыкутнічак у кішэню свайго белага халата, папраўляю без патрэбы коўдру на ложку, ніяк не могучы адысці ад гэтага ложка.

— Ну, ну...— лёгенька трэпле мяне па руцэ Каіпаў.— Усё добра... Усё добра, сястрычка...

«Усё будзе добра»,— хочацца абнадзеіць і мне яго, але язык мой не паварочваецца, і словы нібыта прырастаюць да перасохлага нёба. І я толькі ківаю галавой: усё будзе добра...

Але ж дзе яно будзе тое дабро, калі дактары кажуць, што Каіпаў ніколі больш не ўстане на ногі... Каіпаў сам урач, і свой стан ён разумее лепей за ўсіх дактароў, разам узятых... Аднак пра гэта ён не толькі не гаворыць — ён нават выгляду не паказвае, што разумее.

— Вы прасілі «Жана Крыстофа»...

— Дзякую. Я вельмі хацеў... Дзякую.

Больш з ім у нас няма ні пра што гаворкі. Каіпаў яшчэ раз дзякуе мне кіўком галавы і заплюшчвае вочы. Я ведаю, што ён не будзе спаць. Ён проста стаміўся. Стаміўся ад гэтай кароткай гутаркі, ад бясконцага чакання адказу, ад безнадзейнасці...

* * *

Так мінае дзень за днём. Так праходзяць месяц за месяцам... Дзе ж ён, гэты адказ на белыя трыкутнічкі Каіпава? Чаму маўчыць гэты Бугуруслан і яго эвакабюро? Чаму не напішуць яны, калі нічога не даведаліся, калі не знайшлі яшчэ дагэтуль, што яны не кінулі, не забылі, што яны шукаюць яе, гэту Веру Мікалаеўну, якую вось ужо столькі часу шукае і чакае прыкаваны да ложка Каіпаў?..

І я чакаю яе, гэту зусім незнаёмую і невядомую мне жанчыну. Я не бачыла нават яе фатаграфіі, і Каіпаў нічога, апрача імя, не сказаў мне. Я проста сама прыдумала яе вобраз. Сама ўявіла і звыклася з ім, і ён зрабіўся для мяне настолькі рэальны, нібыта жыла я з гэтай невядомай мне Верай Мікалаеўнай усё жыццё.

...Яна была настаўніца. Бегучы раніцай на заняткі ў інстытут, я страчала яе штодня на гарадскім бульвары з партфелем пад пахай. У сціплым цёмным касцюме з белым каўнерыкам, з непакрытай галавой, яна таксама спяшалася і знікала заўсёды за дзвярыма школы, што была насупроць бульвара. Днём, пасля ўрокаў, дадому яе праводзіў звычайна натоўп падшыванцаў — яе вучняў. Пасля школы яна ўжо не спяшалася, не спяшаліся і яе праваднікі. Яны так трашчалі, так балбаталі ўсе ў адзін голас, што немагчыма было зразумець, як яна іх слухае і як паспявае адказваць ім усім.

У святочныя дні яе можна было стрэць у гарадскім летнім садзе, дзе-небудзь на самым ускраі, на самай бязлюднай алеі. Там яна была зусім другая: па-другому апранутая, там яна звонка смяялася і зусім не як маці, а як дзяўчынка, навыперадкі бегала з сынам — хлопчыкам гадоў пяці-шасці.

Усё захапляла мяне ў гэтай незнаёмай жанчыне: інтэлігентнасць твару, прыгожага някідкай сціплай прыгажосцю, лёгкая паходка, вопратка і нават яе стары аблуплены партфель, напакаваны вучнёўскімі сшыткамі так, што яго немагчыма было зашпіліць. (І таму яна насіла яго пад пахай.)

Мне так хацелася быць падобнай на тую жанчыну, што непрыкметна для сябе я пераймала яе жэсты, яе паходку, я нават свой студэнцкі партфель пачала насіць так, як насіла яна свой.

Па-юначы захоплена я сачыла за кожным крокам той жанчыны, і дзіўна — ніколі чамусьці не страчала поруч з ёю мужчыны — яе мужа і бацькі яе сына.

Бог ведае, чаго толькі не малюе, куды не заводзіць і чаго толькі не абяцае палкае ўяўленне юнацтва. Маё ўяўленне малявала таго мужчыну чалавекам выключнай мужнасці і высакародства і, безумоўна ж, прыгожым. Маё паслужлівае ўяўленне малявала яго палкае каханне да гэтай пяшчотнай жанчыны. І я нават зайздросціла яму, гэтаму выдуманаму мною самою каханню...

...Каіпаў з трэцяй палаты ўяўляўся мне цяпер менавіта тым самым чалавекам, якога некалі так жадала я стрэць (і так ні разу і не стрэла) побач з той сціплай прыгожай жанчынай... Веру Мікалаеўну, якую Каіпаў шукаў з такой непераадольнай настойлівасцю, я не магла ўявіць сабе ніякай іншай жанчынай, чым тая настаўніца з майго цяпер такога далёкага горада.

І, мусіць, не ўсякі зразумеў бы, што, будучы пекалі па-юнацку закаханай у тую жанчыну, цяпер гэтак жа чыста і свята любіла я і Каіпава, звязваючы яго жыццё няйнакш як з жыццём жанчыны, прызначанай яму мною ж самою.

Я любіла Каіпава і ўпотай ад людскіх вачэй горка плакала над яго бездапаможнымі трыкутнічкамі і над яго лёсам: з кожным днём, нібыта раставаў, Каіпаў гаснуў і гаснуў...

* * *

Адзін за адным пакідалі трэцюю палату нашы «старыя». Першы пакінуў яе Аджымілашвілі. За гэты час ён навучыў мяне на сваёй мове яшчэ тром сакраментальным паняццям: «я люблю цябе», «дзякуй» і «бывай».

Потым паехалі ад нас прыгажун Мамаеў і добры, ціхі Пятрэнка. Мамаеў перад дарогай бесклапотна жартаваў і запісваў адрасы ўсіх сясцёр. А маўклівы Пятрэнка непрыкметна выціраў слёзы. Ён быў удзячны чалавек, і яго ў палаце ўсе любілі.

Апошні выпісаўся Барысевіч. Выпісаўся і, хоць яго пакідалі ў запасным палку, са сваркай і лаянкай дабіўся ў ваенкамаце накіравання і адразу ж зноў паехаў на фронт.

...Каіпаў памёр у маі, калі ўжо ўсё вакол ажыло і заспявала.

Праз тыдзень пасля яго смерці, адрасаваны на трэцюю палату, прыйшоў Каіпаву сіні трыкутнічак. Напракнуць мяне не было каму, і я прачытала яго.

«Друг мой! Родны мой! Якое шчасце, што мы зноў разам... Бо праўда ж — тысячы кіламетраў, хіба здольны яны разлучыць нас, пакуль мы жывыя? Цяпер мы ўжо ніколі, ніколі больш не разлучымся... Толькі лячыцеся добра, толькі хутчэй ачуняйце. У мяне хутка адпачынак — і я прыеду... Не, я прылячу. Ваша В. М.».

Адказ гэтай жанчыне напісаў камісар нашага эвакашпіталя.

*1964*

## ПІСАР СТРАЯВОЙ ЧАСЦІ

У кішэні ў Ганькі ляжыць хлебная картка і братава пісьмо. Хлебная картка — яна будзе карміць Ганьку ўсяго яшчэ толькі два дні — пячэ агнём у бок:

— Шукай, дзяўчо, хутчэй нейкае рады!

А братава пісьмо загадвае:

— Едзь у Тумайзу. Едзь да Лізы. У яе работа. У яе атэстат... І ў дадатак яшчэ і нейкі агарод яна там пасадзіла. Хопіць вам пражыць.

Хлебнай картцы Ганька не пярэчыць: рабіць нешта трэба — і неадкладна... А вось братавага пісьма яна і слухаць не хоча. І работа, і грашовы атэстат, і агарод — усё гэта ў яго жонкі. Да таго ж з дзіцем. А яна тут пры чым? Прыехаць і сесці ім на шыю... Пасля таго як яны перанеслі ленінградскую блакаду?.. Нізашто!

З гэтым клопатам — і ён, як у люстэрку, адбіты на яе твары — ідзе Ганька па вуліцы. Яшчэ зусім нядаўна вуліца гэта здавался ёй такой прыветнай, такой да яе прыхільнай. Так кожны раз некуды клікаў яе няўрымслівы ручай, што забягаў сюды па дарозе з недалёкіх гор і адразу ж, колькі было сілы, бег недзе далей, за сяло — няйнакш уцякаў ад самотных вербалозін. Вабілі Ганьку і ніцыя вербалозіны.

— Дзе ты швэндаешся толькі! Цэлую гадзіну чакай яе.

Божа мой, сто гадоў не чула яна гэтага роднага «швэндаешся». Ганьцы здаецца, што ў гэтым далёкім ад дому татарскім краі, яна забыла нават, як яно вымаўляецца.

А Наташа Саковіч не забыла! Прыгожая, самаўпэўненая, з ганарыста ўзнятай галавой, стаіць яна на высокім ганку і, колькі мае злосці, лае Ганьку. І сапраўды, дзе яна да паўдня прашвэндалася?

— Нідзе...— усяго толькі і знаходзіць адказу Ганька.

— «Нідзе, нідзе»...— перадражнівае яе Наташа.— Так цябе і будуць чакаць у штабе, такую важную асобу!

Ганька і сама ведае, што не будуць чакаць. Ведае, што і не павінны чакаць. Сапраўды — «асоба»...

— Я баюся...— сама таго не жадаючы, прызнаецца яна Наташы.

— Божа! Першы раз у жыцці страчаю такую дурніцу! — усплёсквае рукамі Наташа, і па яе твары відно, што і сапраўды гэта так: што такую дурніцу, як Ганька, яна страчае ў сваім жыцці першы раз.

— Я... не магу...— Узняцца вышэй першай ступенькі на гэты высокі ганак у Ганькі таксама не хапае адвагі.

— Ну, дык можаш сабе складаць зубы на паліцу...

Наташа стаіць на самай верхняй ступеньцы, стаіць з такім выглядам, нібыта гэты высокі ганак яе ўласны.

Ганька маўчыць.

— А, зрэшты, што гэта мне за клопат такі. Не хочаш — не трэба. Толькі май на ўвазе: больш прасіць і бегаць за цябе я не збіраюся! — зняважліва кідае Наташа і дастае з сумкі люстэрка, каб паглядзецца.

Як і кожны раз, як і заўсёды, калі страчаецца з Наташай, Ганька і цяпер не можа адвесці ад яе вачэй. Такой прыгожай дзяўчыны, як Наташа, няма ні сярод мясцовых дзяўчат, ні сярод эвакуіраваных. Нібыта і вайны няма, нібыта яна ў сябе дома, у мамы, у беларускім сырадоі купаецца — такі светлы і ружовы яе твар. На поўных пунсовых вуснах заўсёды ўсмешка, сэнс якой ніколі адразу не зразумееш. А позірк... Зрэшты, так пазіраюць і так усміхаюцца ўсе прыгожыя дзяўчаты, упэўненыя ў сіле свайго хараства.

Белай алюмініевай расчоскай Наташа ўзбівае і без таго пушыстыя, як шоўк, тонкія, светлыя валасы, падфарбоўвае губы. Потым адносіць люстэрка на выцягнутую руку і разглядае сябе з адлегласці.

— Ну, я пайшла,— кажа Наташа, складаючы назад, у сумку, сваё дабро.— У мяне справы,— суха кідае яна, намерваючыся спусціцца з ганка.

Ганька разумее, што як толькі яна гэта зробіць — пойдзе да сваіх спраў,— тады ўсё загіне. Усё, чаго і сапраўды Наташа старалася дабіцца для яе, дурное.

— Пачакай! — амаль у роспачы просіць Ганька і хуценька сама ўзбягае на тую вышыню, дзе яшчэ пануе ўсемагутная Наташа.— Я не буду...

— Чаго не будзеш?..— нават у яе бок не глядзіць Наташа.

— Баяцца...

— Бойся! — Наташа смяецца сухім знішчальным смехам.

— Я пайду...

Але Наташа хоча паказаць ужо ўсю сваю ўладу над Ганькай.

— Не хадзі. Мне гэта непатрэбна.

— Я пайду,— паўтарае Ганька, ледзь стрымліваючыся, каб не заплакаць.

— Ну, цяпер заравi... I на чорта я звязалася з табой, такой рэўзай... Сапраўды, што ты будзеш там рабіць? Начальнік штаба прасіў мяне, каб я параіла ім...

Гэта «начальнік штаба прасіў мяне» Наташа вымаўляе з такой важнасцю, што Ганьцы раптам робіцца боязна ўжо за другое: як жа ён, той начальнік штаба, цяпер сапраўды абыдзецца без іх з Наташай. Яна ж і сапраўды раіла яму яе, Ганьку...

— Я не буду! — рашуча выцірае вочы Ганька.— Гэта я так. Вось пабачыш.

Наташа не паспявае выказаць сваіх адносін да гэтай Ганьчынай бязвольнасці, як раптам адчыняюцца дзверы на ганак і на парозе з'яўляецца малады лейтэнант.

Ён, здаецца, увесь аж ззяе ад новенькай бліскучай партупеі. На нагах у яго фарсовыя боты з зялёнага брызенту. Фуражка з чырвоным аколышам і вузкая палоска чорных вусоў над верхняй губой надаюць яго маладому твару выраз паважнасці і ўлады.

— Наташа?! — адначасова здзіўлена і абрадавана ўсклікае лейтэнант і як добра знаёмай працягвае Наташы руку.— Што вы тут робіце ў нас?..

— Добры дзень, Валодзечка! — гэтак жа абрадавана і ахвотна падае сваю руку лейтэнанту і Наташа.— Я ў вас колькі часу працую ўжо, а вы і не ведаеце нават...— У голасе Наташы гучаць капрызныя ноткі, а вочы, выраз якіх ніколі адразу не зразумееш, вочы гэтыя і вабяць лейтэнанта і чаруюць.

— Прабачце, я толькі што з камандзіроўкі...— хоча апраўдацца лейтэнант, але Наташа не дае сказаць яму слова.

— Ведаю я вас! — прыкідваецца яна пакрыўджанай.— Ведаю...

— Даю слова гонару!..— прысягае лейтэнант.

— Ну што ж, так і быць: дарую! Я не злапомслівая,— велікадушна даруе нарэшце Наташа памілаванне лейтэнанту. Лейтэнант не спяшаецца выпускаць яе руку.

— Пазнаёмцеся, Валодзечка, з маёй самай-самай лепшай сяброўкай і зямлячкай. Яна таксама з Беларусі... Мы з начальнікам штаба дамовіліся, што яна будзе працаваць у нас у штабе... Яна вельмі, вельмі здольная! Яна толькі саромеецца зайсці, дык вы, Валодзечка, калі ласка, завядзіце яе да начальніка штаба і самі пагутарце з ім... Я вас вельмі, вельмі прашу!

Наташа тараторыць, усміхаецца, чаруе і нарэшце канчаткова топіць лейтэнанта ў бяздонным віры сваіх зменлівых цёмных вачэй.

— Для вас, Наташа, я гатовы на ўсё! — як воск, плавіцца лейтэнант, відно, зусім не ўнікаючы ў сэнс Наташынай просьбы.

— Вось і добра! Вось і выдатна!.. Вечарам стрэнемся на танцах у афіцэрскім клубе. А зараз, Валодзечка, я вельмі спяшаюся... Глядзіце ж, дапамажыце маёй сяброўцы! Яна такая цудоўная! Такая цудоўная! — У голасе Наташы гучыць такое палкае захапленне Ганькаю, што тая на нейкі момант зусім нямее: яшчэ толькі пяць хвілін назад Наташа гатова была знішчыць яе сваёй знявагай.

Наташа развітальна ўзнімае руку і, яшчэ раз адарыўшы лейтэнанта ўсмешкай, лёгка збягае з ганка.

Ганька і лейтэнантам застаюцца на ганку ўдваіх.

— Ну, дык і сапраўды давайце пазнаёмімся... Лейтэнант Вяткін — сын уласных бацькоў,— працягвае Ганьцы руку лейтэнант з той прысутнай вайскоўцам развязнай лёгкасцю, за якой, адчувае Ганька, не хаваецца ні кроплі сур'ёзнай цікавасці.

Ей, як і Наташы, ён таксама ўсміхаецца і таксама паціскае моцна руку, і голас яго гучыць ласкава. Аднак Наташы — Ганька добра бачыць гэту розніцу — усміхаўся і на Наташу глядзеў гэты лейтэнант зусім іншымі вачыма.

Ганька стаіць, нібыта язык праглынула. І толькі стаптаныя басаножкі свае на драўляным хаду разглядвае з такой пільнасцю, нібыта бачыць іх на ўласных нагах першы раз. Такая пільная зацікаўленасць не ўнікае ўвагі і лейтэнанта.

— Ф'ю-у-у! — прысвістае ён.— Дык вам жа тэрмінова трэба...— Аднак, убачыўшы, як заліваецца раптоўнай чырванню Ганьчын твар, недагаворвае, што ёй патрэбна тэрмінова, а, зрабіўшыся адразу сур'ёзным, строга загадвае Ганьцы: — Давайце пайшлі да начальніка штаба! — І адчыняе перад ёю дзверы.— Прашу!

Адступленне немагчымае, і Ганька пераступае парог.

* * *

Начальнік штаба — у яго на чырвоных пятліцах па адной «шпале» — нават вачэй на іх не ўзнімае. Як чытаў, так і працягвае чытаць нейкія паперы, якімі ў яго завалены ўвесь вялізны пісьмовы стол.

— Таварыш капітан! Дазвольце звярнуцца! — з парога казырае начальніку штаба лейтэнант Вяткін. (Ганька хаваецца за спіной лейтэнанта ні жывая, ні мёртвая.)

— Ну, давай, што там у цябе...— не адрываючыся ад папер, дазваляе начальнік штаба.

— Вось, таварыш капітан, з вашага дазволу... На работу...

— На работу? З майго дазволу? — здзіўлена спыняе чытанне капітан.— Каго? (Ён расцягвае словы, і ў яго атрымліваецца: ка́-го?)

— Ды вось, таварыш капітан...— Лейтэнант Вяткін паварочваецца направа, паварочваецца налева. Каб паказаць Ганьку начальніку штаба, ён адступае ўбок.

— Яе?! —ківае ў Ганьчын бок капітан і так расцягвае гэта «я-е», што Ганька зусім абмірае ад страху.

— Яе, таварыш капітан.

— Ды ты што — смяешся?.. У мяне што — дзіцячы сад ці штаб запаснога стралковага палка?

— Так точна, таварыш капітан: штаб запаснога стралковага палка... Але яна вельмі здольная!

Ганька жахаецца: лейтэнант Вяткін слова ў слова паўтарае Наташу.

— Здольная...— насмешліва крывіцца капітан.— А табе адкуль вядома?

— Ну... У яе адукацыя, таварыш капітан...

— Якая? — У капітана гучыць: я-кая?

— Ну... Ну...

Ну што можа ведаць пра Ганьчыну адукацыю лейтэнант Вяткін? І тады Ганька раптам сама адважваецца кінуцца яму на выратаванне.

— Я скончыла інстытут...

У позірку капітана несхаваны недавер.

— Інстытут... Хлусіш, напэўна.

— Чэснае слова!

— Чэснае піянерскае... Не хлусіш, дык усё роўна нічога не ўмееш!

Тут ужо ў Ганькі ратавацца няма чым.

— Набяром розных дзевак з вуліцы, а потым самі будзем насамі хлюпаць...— узнімаецца з-за стала капітан.

Ён высокі, цынглясты і, як і лейтэнант Вяткін, увесь у папругах (праўда, не такіх бліскучых і новых) і ў гэтакіх жа зялёных брызентавых ботах. Капітан толькі без вусоў і намнога старэйшы за лейтэнанта.

— Панабіраем, кажу, гэтых дзевак...— накіроўваецца ён да Ганькі з лейтэнантам.

Ганьцы б за гэтых «дзевак» абразіцца і з гонарам ляснуць дзвярыма. Але яна не робіць ні таго ні другога.

Усё роўна, як і з Наташай было, калі яна лаяла яе на чым свет стаіць. Дзіўны нейкі дзень. Ганька сама сябе не разумее і не пазнае.

— Пабачыш, набяромся мы з імі бяды,— не пакідаючы на свой лад іранічна крывіцца, ні то абяцае, ні то грозіць лейтэнанту капітан.

Той, відно, добра ведае нораў свайго начальніка, бо не палохаецца і не адступае ад свайго.

— Нічога, таварыш капітан, навучыцца.

— «Навучацца, навучацца...» — нязлосна перадражнівае капітан.— Не хапала мне толькі баб у штабе.

— Загад таварыша Сталіна, таварыш капітан,— бязбоязна ўсміхаецца лейтэнант, праводзячы рукой па вузкай чорнай палосцы вусоў.

— «Навучацца...» — быццам не чуе гэтай заўвагі, нездаволена паўтарае капітан.— Навучацца, дык бяры і вучы сам гэту кралю...

— Есць, таварыш капітан! — казырае лейтэнант Вяткін.

— У страявую часць, да Жукава. На месца Якімчука.

— Есць, таварыш капітан! — на абцасах павяртаецца лейтэнант, каб ісці выконваць яго загад.

— Пачакай!..— Капітан раптам заўважае Ганьчыны басаножкі.— Аддай ад майго імя загад у пэфээс, каб узялі іх на давольствіе... Вольнанаёмных...

— Есць!

Лейтэнант Вяткін, а следам за ім і Ганька выходзяць. Яны ідуць, як здаецца Ганьцы, па нейкіх бясконцых цёмных калідорах-закавулках. Лейтэнант толькі тое і робіць, што казырае. То сам — старэйшым па званню, то адказвае на прывітанне па званню малодшых.

— Ну, як наш капітан? Праўда, міравы? — пытаецца ён па дарозе ў Ганькі.

— Н-не ведаю...

Яна і сапраўды не ведае, якім ён ёй больш здаўся гэты іх (а цяпер ужо, відно, і яе) сухі, з'едлівы капітан: кепскі ён ці добры...

— Капітан наш міравы! — задаволена паціраючы рукі, з юначым запалам хваліцца лейтэнант.— Такія рэдка трапляюцца.

«Ну, мне ён такім не здаўся»,— так думае Ганька, аднак услых кажа зусім другое:

— Мне ён таксама спадабаўся...

— Вядома! Міравы капітан! — у трэці раз паўтарае лейтэнант.— Жукаў! Старшына Жукаў! — раптам крычыць ён у спіну кульгаваму чалавеку ў вайсковай форме.

Той спыняецца.

— Слухаю, таварыш лейтэнант!

— Прымай, брат, папаўненне. На месца Якімчука.

— На месца Якімчука?.. М-да-а!..— мнагазначна ўсяго толькі і кажа старшына Жукаў, гэтак жа, як і капітан, бесцырымонна разглядаючы Ганьку з ног да галавы.— М-да-а... На месца Якімчука...

І гэтае яго «м-да-а», і тое, як вымаўляе ён «на месца Якімчука»,— усё гэта яскравей усякіх слоў гаворыць, што такога папаўнення вочы б яго лепей не бачылі. Але старшына Жукаў хавае ўласны настрой, не дае Ганьцы адчуць яго.

— Што ж, выдатна! Бяру вас да сябе, грамадзяначка. На пасаду пісара страявой часці.— І Ганька заўважае, як у шырока пасаджаных светлых вачах старшыны мільгае іскрынка смеху.— Згодны?

Што ёй адказаць? Ці згодна яна на гэту невядомую ёй пасаду?..

— Я не ведаю...— Ганька не знаходзіць іншага, больш шчырага адказу.

— Маладзец! Я яе разумею. Бяру, таварыш лейтэнант, яе да сябе!

— Я на цябе спадзяюся, Жукаў.

— Усё будзе ў поўным парадачку, таварыш лейтэнант.

— Да пабачэння,— падае Ганьцы руку лейтэнант Вяткін.— Не хвалюйцеся, старшына Жукаў не дасць вас у крыўду.

Лейтэнант, адчуваецца, задаволены, што нарэшце вызваліўся, што па шчырасці выканаў просьбу Наташы. Што ж, ён і праўда стараўся. У Ганькі няма ніякіх падстаў крыўдаваць на яго. Ды і часу няма крыўдаваць. Старшына Жукаў, а збоку ад яго, стараючыся не адставаць, і Ганька кіруюць па штабному лабірынту далей.

— Ты, я бачу, дзяўчына — маладзец,— падбадзёрвае Ганьку старшына Жукаў, пераходзячы адразу на «ты».— І таму не бойся. Усё будзе ў парадку.

Ганьцы Жукаў падабаецца. І тварам, хоць ён у яго і непрыгожы, шырокі, з хваравітым адценнем. І вочы Жу-

кава ёй падабаюцца — светлыя, шэрыя, з вясёлымі агеньчыкамі нязлоснага спагадлівага гумару. Падабаецца ёй і тое, як ён ідзе: шырокім размашыстым крокам, моцна налягаючы на кароткі сукаваты кій.

— Ты толькі не звяртай вельмі ўвагі на хлопцаў, калі забудзе каторы часам, што завялася ў нас дзяўчына, ды ляпне тое, што не трэба. Армія — гэта табе, брат, не інстытут,— папярэджвае ён Ганьку.

...І вось нарэшце яны ў страявой часці (дзе Ганька павінна застацца «замест Якімчука») — у цемнаватым вялізным пакоі, застаўленым пісьмовымі сталамі. За кожным сядзіць мужчына ў вайсковым.

— Женщина?! Друзья мои, меня не обманывает зрение? Я действительно вижу в этих грубых стенах чудо — вижу женщину?! — Так патэтычна сустракае Ганьку баец Іваноў, яе новы калега — таксама пісар страявой часці.

Маленькі, лысы, з носам, падобным на спелую сліву (смех адзін — які ён баец?), ён усхопліваецца з-за свайго стала і схіляецца перад Ганькай у цырымонным паклоне.

— Откуда ты, прелестное дитя?! — дэкламуе Іваноў, не выпускаючы Ганьчынае рукі са сваіх рук.

— Ну, хопіць, хопіць, стары хрэн!.. Бач, абрадаваўся...— нязлосна штурхае Іванова Жукаў.— Дай і другім пазнаёміцца.

Лейтэнант Засенка прыкладна аднаго ўзросту з лейтэнантам Вяткіным. Толькі ў адрозненне ад Вяткіна Засенка вельмі сур'ёзны, без ценю ўсмешкі на твары.

Як і баец Іваноў, каб павітацца з Ганькай, ён таксама выходзіць з-за свайго стала і таксама падае ёй руку, другой адкідваючы з ілба ўпартую пасмачку светла-русых валасоў. Знаёмячыся з Засенкам, Ганька паспявае заўважыць, што ў яго, як валошка, сінія вочы.

За чацвёртым сталом, дакладней маленькім столікам, не звяртаючы ніякай увагі на Ганьчына з'яўленне, як з кулямёта строчыць, піша на машынцы чацвёрты насельнік гэтага і сапраўды, як канюшня, вялізнага і няўтульнага пакоя,— цемнатвары і цёмнавалосы, нярускага аблічча, з вусамі, як у Будзённага.

— А гэта наша машыністка — пісар Хвалецкі,— паказвае на вусатага Жукаў. (Вусы «машыністкі» — іх цяпер, апрача Будзённага, ніхто не носіць — насцярожваюць і чамусьці палохаюць Ганьку.)

Хвалецкі на момант адрывае рукі ад машынкі, прыў-

стае з месца і, кіўнуўшы Ганьцы без усякага выразу на твары, зноў тут жа садзіцца за свой кулямёт.

Пустуюць яшчэ тры сталы.

— А вось тут будзе тваё месца,— падводзіць Ганьку Жукаў да аднаго з іх, што стаіць паміж сталамі Іванова і Хвалецкага.

І, мусіць, не знаходзячы, чым яшчэ можна дапоўніць момант знаёмства, паўтарае:

— Вось тут ты будзеш...

Ганьцы б самы час задаць пытанне: «А што я буду?..»

Але яна баіцца гэтага пытання. На кожным стале яна бачыць лічыльнікі. А яна іх ніколі нават у руках не трымала. І ўсё ж яна садзіцца за свой стол. Садзіцца, бо з таго самага моманту, як пераступіла парог гэтага пакоя, яна ўжо «на месцы Якімчука». Яна пісар страявой часці.

* * *

Ідзе час і ўсё прыкметней робіць з Ганькі вайсковага чалавека. Сустракаючыся, напрыклад, з начальнікам штаба, яна ўжо, як на першым часе, не вітаецца: «Добры дзень, Мікалай Іванавіч...» Не звяртаецца да яго нават афіцыйна «таварыш Качалаеўскі». Як сапраўдны вайсковец, яна вітаецца толькі так: «Добры дзень, таварыш капітан!..»

— До-бры, до-бры! — цягне капітан, і не зразумееш адразу яго: насміхаецца ён з цябе ці проста адказвае жартам.

— Навучылася ўжо складаць страявую запіску? — раптам паварочваецца ён, прайшоўшы ўжо добрых крокаў дваццаць.

— Н-навучылася... Вучуся! — паспешна папраўляецца Ганька.

— Глядзі мне... Бо ў мяне нядоўга і на гаўптвахту.

І капітан ідзе далей.

Гаўптвахты Ганька не баіцца. Яна ведае, што тут капітан жартуе. А вось самой гэтай страявой запіскі яна баіцца горш за гаўптвахту... Ужо нашто цярпліва вучыць і правярае кожную яе лічбу старшына Жукаў, а яна ўсё роўна, як ісці на даклад да старшага лейтэнанта Ганчарука,— усё забудзе, усё зблытае, толкам слова растлумачыць не ўмее.

Ганчарук — педант, канцылярыст і прыдзіра — гатовы кожны раз з'есці Ганьку жыўцом за аднаго чалавека. Ня-

хай толькі паставіць яна яго на харчаванне без прадуктовага атэстата. Ганчарук будзе гадзіну бубніць пра адказнасць і пра ваенны час, будзе дзесяць разоў ганяць яе перарабляць страявую запіску.

Таму ратаваць Ганьку ад Ганчарука ходзіць кожны раз старшына Жукаў.

— Самае галоўнае,— тлумачыць ён Ганьцы,— хуткасць і націск! Сувораўская стратэгія! Пакуль Ганчарук раскумекае, што да чаго,— а ты яму без пярэдыху: «Таварыш старшы лейтэнант, па спіску на сёння маем столькі-та... У наяўнасці столькі-та... У санчасці чацвёра...»

— Дык іх жа ў мяне сёння ўсяго толькі двое ў санчасці.

— «Двое»... Дурная ты! У цябе ж сёння двое без атэстатаў прыехалі — суправаджалі маршавую роту. І ты павінна салдат пакарміць ці не? Ці ты праз гэтага бюракрата Ганчарука пакінеш хлопцаў галоднымі?

— Я разумею...— Жыццёвая мудрасць Жукава Ганьку захапляе, а вось самой ёй яна чамусьці ніяк не даецца.

— Ты павінна не баяцца Ганчарука, ты павінна сама на яго наступаць! — вучыць далей Жукаў.— У тваіх жа руках, разумееш, якая ўлада! Няхай толькі паспрабуе Розенберг і яго пэфээс не накарміць салдата, калі ён будзе стаяць у страявой запісцы... А страявая запіска ў каго?.. Не з дабра ж хлопцы скурылі атэстаты.

Пасля такой навукі Ганьцы кожны раз здаецца, што яна ўжо і сапраўды здольна наступаць на «бюракрата» Ганчарука. Аднак гэтак ёй толькі здаецца. А як толькі прыходзіць час ісці на даклад, яна зноў ные над вухам у Жукава:

— Жучок, родненькі, ну яшчэ толькі сёння давай сходзім з табою... Апошні, апошні раз...

— Апошні...— хоча здавацца злосным і, не ўмеючы злавацца, цяжка ўстае з месца Жукаў.

— Ну, пайшлі.

...І яшчэ ніяк не ўмее Ганька навучыцца карыстацца лічыльнікамі.

— Анюта! Вы, конечно, милы... Но поверьте, я за всю свою жизнь не встречал человека более бездарного, чем вы!..— істэрычна крычыць і хапаецца за галаву інтэлігентны Іваноў, не пакідаючы чырвоным алоўкам на Ганьчынай страявой запісцы жывога месца.

Сам ён да вайны быў інжынерам аднаго з буйнейшых уральскіх заводаў. І ён не можа ніяк зразумець, як гэта

чалавек, які скончыў інстытут, не навучыцца такой элементарнай рэчы, як работа з лічыльнікамі. Людзі з чатырма класамі працуюць рахункаводамі. І яшчэ якімі! А тут... Чалавек ніяк не навучыцца складаць і адымаць да тысячы. Жах нейкі!.. Нечуваная тупасць!

І Ганька не пярэчыць: ну, вядома ж, яна бяздарная тупіца. Таму ж яна і не хацела — як прадчувала — ісці сюды на гэту работу. Усё гэта праз Наташку...

Праўда, Іваноў не заўсёды такі.

Вечарамі, пасля работы, калі ўся страявая часць збярэцца і абсядзе стол каля расчыненага акна, калі ў летнім паўзмроку пачнуцца ўспаміны і летуценныя мары пра самае запаветнае — пра дом, пра родных і блізкіх, калі непрыкметна нехта адзін упаўголасу зацягне песню, і яе гэтак жа ціха спачатку, а потым усё галасней і галасней падхопяць усе хорам, калі гэтыя ўспаміны і жывы чалавечы сум перапоўняць і размякчаць сэрцы, тады, звычайна, Іваноў кажа Ганьцы зусім другое:

— Голубушка, не сердитесь, ради бога, на меня... Вы ведь чудесная, я знаю. А у меня скверный характер... Вы думаете, я не понимаю? У вас ведь в душе лира звучит, а я подсовываю вам костяшки!.. Вы думаете, я их люблю? Я ведь сам в душе поэт. Поэт, а не счетовод, дорогая вы моя Анюта! И потому я понимаю вас! Вам бы сейчас вдвоем спешить в кино... Вдвоем!.. Кстати, он у вас тоже, конечно, там?..

І гэта «он» і «конечно, там» (там, гэта значыць, на фронце) Іваноў вымаўляе так праніклёна, так спачувальна, што ў Ганьчыным сэрцы не застаецца на яго і кроплі крыўды.

Што ж — што праўда, то праўда. Як праўда і тое, што сам Іваноў — гэты смешны стары дзівак (Іванову сорак) — выдатны чалавек...

Звычайна на гэтыя самадзейныя вячэрнія канцэрты да страявікоў прыходзяць пэфэсаўцы — Ганьчыны таварышкі, гэтаксама, як і яна, пісары, Наташа Саковіч і адэсітка Гіта Ройф. Прыадчыніць нячутна дзверы і, ні слова не вымавіўшы за вечар, прастаіць у парозе начальнік пэфэс Розенберг. У Розенберга ў Крэменчугу засталася ўся сям'я: жонка, чацвёра дзяцей і цешча з цесцем. Розенберг ніколі не спявае. «Не магу ніяк камяка праглынуць...» — паказвае ён на горла.

Зойдзе часам ненадоўга і баском падцягне «Паехаў казак на чужбіну далёку» сам капітан Качалаеўскі.

Прыходзяць пэнша-адзін і пэнша-два (памочнікі начальніка штаба) лейтэнанты Вяткін і П'янкоў.

Вяткін трымаецца з Ганькай як хросны бацька: маўляў, я цябе тут парадзіў. Рослага, статнага сібірака П'янкова Ганька цікавіць не больш, як усякая іншая дзяўчына. Ён застаецца на гэтых вячэрніх канцэртах і не пакідае іх да канца толькі ў тым выпадку, калі застае Наташу Саковіч. А потым яны ўдваіх з лейтэнантам Вяткіным праводзяць Наташу дадому — да яе дзявочай зямлянкі. Наташы гэтыя провады падабаюцца. І яна любіць расказваць пра іх усім дзяўчатам.

А з Ганькай да яе дома — той жа самай зямлянкі — ідзе звычайна лейтэнант Засенка.

Як і Ганька, да вайны ён скончыў настаўніцкі інстытут. І, як і яна, таксама не працаваў у школе ніводнага дня.

Ганька з Засенкам развітваюцца не адразу, а доўга яшчэ ходзяць па бакавой ад Ганьчынае зямлянкі кляновай алеі. Ходзяць, пакуль не находзяць восем кіламетраў. (Такую меру яны чамусьці сабе прыдумалі.) А тады ўжо толькі развітваюцца.

Імя лейтэнанта Засенкі — Трафім. Але Ганьцы ён з першага разу, калі яны засталіся ўдваіх, назваўся Вадзімам. І Ганька так яго заве. Вядома ж, Вадзім — гэта не Трафім. Вадзім — гэта нешта лермантаўскае...

Праўда, Ганька ведае, што імя гэта Засенку прыдумала адна замужняя жанчына, якая яго любіла і з якою ён страчаўся да Ганькі. Аднак гэта акалічнасць не выклікае ў яе ніякіх нядобрых пачуццяў. Што ж, любіла — значыць, любіла. Страчаўся — значыць, страчаўся.

А яна, Ганька, любіць яго — Вадзіма? А ён яе любіць?.. Пра гэта яны ніколі не гавораць. Звычайна яны прагавораць свае восем кіламетраў і не згледзяць нават, калі час прайшоў. А вось пра гэта не гавораць ніколі.

Ганьцы наогул яшчэ ні адзін хлопец не сказаў ні разу, што любіць яе. Другім дзяўчатам дык гавораць з першага вечара нават. Наташы Саковіч, напрыклад. Ёй і лейтэнант Вяткін прызнаўся ў каханні. І лейтэнант П'янкоў. І нават начпрод Розенберг памірае па ёй ад кахання. А сама Наташа, як сцяна! Любіце хоць усе, колькі вас тут ёсць, мужчыны — ёй хіба шкада?.. А хочаце паміраць, дык таксама памірайце: яна вас не абабрала.

А Ганьцы ніхто яшчэ не сказаў, што любіць яе, што хоча за яе памерці. Нават той не сказаў, што сапраўды любіў і што сапраўды пайшоў паміраць...

А як соладка ў дваццаць гадоў пачуць гэтыя словы: «Люблю цябе», «Памру за цябе»... Як верыцца ім!

* * *

Запасны стралковы полк, дзе служыць Ганька, дыслацыруецца на тэрыторыі летняга лагера ў арэнбургскім стэпе. Лагер гэты незадоўга да пераезду сюды нашых запасных часцей пакінула войска з арміі польскага генерала Уладзіслава Андэрса. Сам генерал і ўся яго вярхоўная світа ўсё спадзяваліся дачакацца канца Чырвонай Арміі і рабілі ўсё, каб толькі зацягнуць вучэнне і ўзбраенне сваіх дывізій, каб не выставіць іх супраць немцаў і гэтым самым не падтрымаць Чырвонай Арміі. Летам сорак другога года, калі фронт павярнуў ужо ў другі бок, пыхлівае «паньство», не зрабіўшы ніводнага стрэлу ў абарону свае скрываўленае радзімы і канчаткова дэмаралізаваўшы армію, падалося ў Іран.

Пасля «славутай» арміі засталіся толькі абадраныя драўляныя баракі — генеральскія ваякі не пакінулі ніводнага дубэльта, ніводнай шалёўкі, нават бэлькі ўсе спалілі ў печах, каб не замерзнуць ад арэнбургскіх марозаў. Засталіся толькі — несумненная адзнака цывілізацыі — на кожным кроку панскія нужнікі.

І таму нашым небаракам-салдатам (квартыр'ерам), пакуль яны выветрывалі з лагера панскі дух, хапіла работы.

Ганьчын запасны стралковы полк рыхтуе маршавыя роты і адпраўляе на фронт. Туды, адкуль нават рэха вайны не далятае ў гэты арэнбургскі стэп. І ўсё роўна вайна кружыць, распрасцёршы злавесныя чорныя крылы; кружыць і тут, над гэтым выпаленым сонцам стэпам.

Маршавыя роты — адна за адной, адна за адной — ад'язджаюць на вайну амаль штодня. Усе маладыя хлопцы — большасць Ганьчыны аднагодкі. У маршавую роту пайшоў (і вось ужо колькі месяцаў няма пра яго чуткі) і той самы Якімчук, на месца якога ўзялі Ганьку.

У дні, калі рыхтуюцца маршавыя роты, у штабе няма вольнага часу не толькі днём, а і вечарамі. У такія дні ў штабе і настрой пануе не такі, як звычайна. Без супын-

ку строчыць на машынцы Хвалецкі — рыхтуе на маршавікоў дакументы. Замаўкае — слова за цэлы дзень ад яго не пачуеш — і, здаецца, зусім знікае ў паперах (толькі лысіна блішчыць над сталом) Іваноў. Жукаў у такія дні злосны і раздражнены. Ён нават кульгае мацней.

Моўчкі робіць сваю справу і Ганька. Не чытае крадком кніжку, што заўсёды ляжыць у яе шуфлядзе, не піша пісем, не бегае ў пэфээс да таварышак Гіты і Наташы. Пэфээс таксама збірае ў дарогу маршавыя.

...Здараюцца, вядома, і вольныя вечары. І тады Ганька і лейтэнант Засенка зноў шчыра адмерваюць свае восем кіламетраў па кляновай алеі.

— Таварыш лейтэнант, дазвольце звярнуцца да пісара страявой часці...— Пасыльны са штаба палка ведае, дзе каго шукаць.

— Давай!

— Таварыш пісар страявой часці, начальнік штаба загадалі, каб вы зараз жа з'явіліся ў штаб!

— У які штаб?! Я толькі што са штаба! — абураецца Ганька.

— Начальнік штаба загадалі...

— Я не пайду! Я ўсе свае справы скончыла і здала...

— Разгаворчыкі, таварыш пісар страявой часці!.. — У вачах лейтэнанта Засенкі скачуць іскрынкі смеху.— Давай валяй! — загадвае ён пасыльному.— А дастаўку пісара страявой часці ў штаб я бяру на сябе.

— Ёсць! — казырае пасыльны і робіць паварот кругом.

— Ён ужо не ведае сам, чаго выдумляць... Вось вазьму і не пайду! — Ганьцы так прыкра.

— Загад старшага начальніка не падлягае крытыцы, таварыш пісар страявой часці...— Лейтэнант Засенка хоча абняць Ганьку.

Ганька сярдзіта адводзіць плячук убок.

— Калі я ад цябе яшчэ раз пачую гэтага праціўнага пісара!..

— Дык што?.. Дык што тады будзе, мілы мой пісар страявой часці?..

«Мілы...» Ён гэтае слова кажа ўпершыню. Але ж яно адносіцца толькі да пісара. І можа зусім не адносіцца да яе.

— Мілы мой пісар...— неяк зусім іначай, чым звычайна, паўтарае лейтэнант і абнімае Ганьчыны тонкія і ад вячэрняй прахалоды як быццам вільготныя плечукі.

І Ганька не вырываецца і не злуецца больш.

Яна не адважваецца ўзняць вачэй на лейтэнанта: тое слова, якое ён гэтак пяшчотна вымавіў сёння ўпершыню, яно што — праўда?..

— Мне трэба ісці, Вадзік...— ціха кажа Ганька, не здолеючы разамкнуць кола моцных хлапечых рук.

— Яшчэ ўсяго адну толькі хвілінку, Ганечка...— просіць лейтэнант і цалуе Ганьку.

...А потым яны ўспамінаюць пра загад начальніка штаба, і Ганька з усіх ног кідаецца выконваць гэты загад.

— Асцярожна, таварыш пісар страявой часці, беражы нос! — крычыць наўздагон ёй лейтэнант.

Ён і сам бы ахвотна пабег з ёю навыперадкі. Але няможна: званне і форма вымагаюць ад яго сур'ёзу і прыстойнасці. Ганька не аглядваецца. Яна толькі адмахваецца рукой: што будзе, як начальнік штаба даведаецца?

Што цяпер будзе?..

*1966*

# ТЫ ПАЙШОЎ НАСУСТРАЧ ВАЙНЕ

*Памяці Лазоўскага Івана Яфімавіча*

...А я ўсё спадзяюся, што, можа, здарыцца цуда. Усё нечага чакаю. А можа... А можа... Знаходзяцца ж і цяпер яшчэ, і праз дваццаць год, людзі, калі чалавек астаўся жывы.

А ты... Ты не прапаў без вестак. Ты не быў паранены. Не быў кантужаны. Ты быў забіты.

Пахавальная, што некалі адным росчыркам перакрэсліла і перакроіла ўсё жыццё, да мяне трапіла толькі праз дваццаць год... У паперцы гэтай рукой штабнога пісара — сінім чарнілам — выведзена: «Загінуў смерцю храбрых». Васемнаццатага лютага тысяча дзевяцьсот сорак другога года. Пад горадам Чудавам.

За дваццаць год ляжання за бажніцай у бацькоўскай хаце (за гэтай бажніцай некалі спачывала ўся радаслоўная сям'і, сюды складаліся дзіцячыя метрыкі, тут чакала свае пары і твая метрыка...), за дваццаць год жорсткая паперка гэта парудзела і сцерлася. Не сцерліся толькі два няўмольныя словы: «Быў забіты...» Без пары паклалі яны ў труну маці. Дачасна сагнулі бацькаву спіну, нібы сухавеем высушылі старыя вочы.

...Быў забіты васемнаццатага лютага. У мароз, мусіць, а можа, у завею... Мусіць, як бег наперадзе роты з вінтоўкай наперавес, так і спаткнуўся, так і ўпаў, не здагадваючыся, чаму раптам такім гарачым зрабіўся снег. Так, мусіць, і ляжаў на гэтым гарачым снезе, шырока раскінуўшы рукі, аж пакуль не прыйшлі па цябе, позна ўжо вечарам, пасля бою.

— Эх, таварыш старшы лейтэнант... Таварыш ротны...

Ды не было, пэўна, каму бедаваць: мала хто застаўся жывы з тых, хто раніцай яшчэ лічыўся тваёй ротай. Не было часу бедаваць: трэба было спяшацца — каб не пакінуць на здзек ворагу — за ноч пахаваць усіх забітых. І цябе таксама пахаваць...

Я трымаю ў руках гэтую бязлітасную паперку — яна і сама ўжо ва ўладзе смерці,— перачытваю яе раз, другі, трэці... «Загінуў...» Загінуў, а я не плачу. Не плачу, бо ў мяне няма слёз, як няма ўжо і нядаўняга яшчэ сумнення і надзеі: «А можа... А можа...»

Я не плачу, я толькі намагаюся прыпомніць.

Прыпомніць, а дзе ж я сама была ў той дзень, калі ты гэтак раптоўна спаткнуўся на тым гарачым снезе. Што я рабіла ў той час, калі ты лавіў апошнім позіркам папялістую хмарку ў нізкім зімовым небе і клікаў на дапамогу. Можа, мяне таксама клікаў...

А я нічога гэтага не ведала. Не чула. Я была ад цябе так далёка. Была там, дзе не праляцела ніводная варожая куля. Дзе людзі ні разу не пачулі гарматнага выбуху. Дзе ноччу можна было спаць, не баючыся, што разбудзіць цябе паветраная трывога.

І ты даруй мне за гэта.

Я не памятаю, што я рабіла ў той дзень. Ды напэўна ж нічога асаблівага — усё тое, што рабіла штодня.

Мыла ў палатах падлогу. Прыбірала пасцелі. Карміла параненых. Напэўна яшчэ жартавала і смяялася...

І за гэта даруй мне.

Добра ведаю толькі адно, што ў той дзень — на людзях — я не паўтарала твайго імя, не расказвала, які ты быў у мяне... І ты за гэта на мяне не пакрыўдзіўся б. Тваё імя бясконца паўтарала, з табой бясконца гаварыла і клікала цябе ў той дзень, як і кожны дзень, як і заўсёды тады, маё сэрца. Каб ты ўмеў пачуць яго! Ты не застаўся б ляжаць там, пад горадам Чудавам. Ты ўстаў бы. Ты прыйшоў бы.

Як прыйшоў майскім адвячоркам — за месяц да вайны.

* * *

Не прыйшоў, а прыехаў, праўда. З другога горада, з-за свету. Не папярэдзіўшы, не напісаўшы, а так раптоўна, як снег на галаву.

І як мы стрэліся з табой у нашым інтэрнацкім калідоры.

— Ганька, цябе чакаюць...

Цікаўны, як у сытаўкі, нос Надзькі Бохан прасунуўся ў наш пакой і тут жа знік. Ого, каб без яе абышлася якая навіна!

Я куляй лячу ў калідор, лячу да дзвярэй нашай камендантшы Лампіцкай — там заўсёды чакаюць нас усе неспадзяваныя сустрэчы і навіны.

— Добры дзень...

Ты гэтакі ўзмужнелы, загарэлы, у новенькай з іголачкі форме і фуражцы, што аж вочы ламае! — курсант-выпускнік пяхотнага вучылішча.

І я, па плячук табе, шчуплае, ушчэнт збянтэжанае дзеўчанё.

— Добры дзень...

Быццам і не было той двухгадовай перапіскі — штодня па пісьму.

...Не ведаю, што было б, каб не дзяўчаты, мае таварышкі. Наўрад ці адважылася б я запрасіць цябе ў пакой. Сорамна — жаніх прыехаў...

...Як далёка засталася тая сустрэча ў нашым інтэрнаце. А здаецца, нібыта была яна ўчора. Колькі песень нераспявалі мы ў той вечар. Колькі высмеялі смеху. І з чаго б, здаецца? Ды ні з чога — так сабе. Усе мы былі маладыя, бестурботныя, закаханыя. Усе мы былі шчаслівыя бесклапотным шчасцем маладосці.

А які поўнік свяціў нам у той вечар, калі я пайшла праводзіць цябе да гасцініцы! Свяціў ён і назаўтра, толькі назаўтра ён нам ужо зусім быў непатрэбны... Назаўтра мы сядзелі з табой на чужым ганку на соннай Задруцкай вулачцы і сведкі нам былі зусім лішнія. І толькі выпадковая хмарка дапамагла табе, дапамагла нам. Яна засланіла дакуку-поўніка, і ты сказаў мне... Упершыню за два гады сказаў, хоць пісем перапісалі, хоць паперы звялі мы — вазы!

Днём мы блукалі па Дняпровых кручах. Умошчваліся і сядзелі на хвоі-ліры. Потым каталіся на лодцы. А потым абедалі ў нашым гарадскім рэстаране: елі каронны студэнцкі вінегрэт, елі гуляш і нават выпілі — удваіх — стопку чырвонага віна. І ўсё гэта на вачах у нашых хлопцаў, маіх аднакурснікаў! Аднак — і гэта было самае дзіўнае,— кідаючыся ў бездань, я адчувала сябе ў той дзень самым шчаслівым чалавекам на свеце.

На трэці дзень ты паехаў у свой горад, даслужваць сваю службу, давучвацца на сваіх курсах. А я засталася — таксама давучвацца — у сваім горадзе, мілым зялёным гарадку, па калена ў белым цёплым пяску, замкнутым у рагу дзвюх слаўных рэчак.

Я засталася, але са мной як быццам нешта здарылася. Знікла некуды зусім нядаўняя яшчэ рагатуха, якой варта было паказаць палец, каб рассмяшыць да слёз. У мяне з'явілася дзіўнае, зусім незнаёмае пачуццё адказнасці — перад сабой і перад табою. Ты сказаў мне, што хочаш, каб мы былі заўсёды разам. І я сказала табе, што таксама хачу, каб мы заўсёды былі разам... Вось чаму адразу, як ты паехаў, я раптам неяк пасталела, нібыта пад-

расла. А дзяўчаты казалі (вядома, здзекаваліся), што я нібыта паразумнела нават.

А потым ад цябе прыйшло пісьмо. Больш за мяне чакалі гэтага пісьма дзяўчаты нашага пакоя. Напіша — значыць, не дарэмна прыязджаў. А не будзе пісьма, дык... (Дурныя, што яны разумелі. Нам з табою было так добра!)

І пісьмо прыйшло, аж на дванаццаці старонках!.. Памятаю, дзяўчаты ў той жа дзень на ўсіх маіх сшытках-канспектах закрэслілі маё прозвішча і ўрачыста падпісалі тваё.

І мне гэта было так прыемна! У мяне было такое адчуванне, нібыта маё ўласнае прозвішча мне ўжо больш было непатрэбна, нібыта яно ўжо адслужыла мне сваю службу, і таму я магла лёгка ад яго адмовіцца...

Пасля таго пісьма мае таварышкі штодня будавалі і перабудоўвалі (як толькі ім жадалася!) наша з табой сумеснае жыццё. Я рабіла выгляд, што адбіваюся ад дзяўчат, старалася нават злавацца на іх, ды гэта мне зусім не ўдавалася: не ўмела ні прыкідвацца, ні маніць. Ды і як зманіш, калі рот у цябе да вушэй, калі на твары, як на чыстым аркушы, напісана: «Дзяўчаткі, гаварыце што хочаце, толькі гаварыце пра яго!»

І каб ты толькі ведаў, колькі пра цябе, пра нас з табой гаварылася тады ў нашым сёмым пакоі па вуліцы Смідовіча.

Цябе дзяўчаты чамусьці толькі хвалілі. Ты і такі, ты і гэтакі! Затое мяне... Затое мне даставалася! І панчохі цыраваць як след не ўмею — клапаціліся пра твае шкарпэткі... І крупнік варыць не навучылася.

А дзе яго было навучыцца, гадуючыся па чужых людзях? Есці гэты крупнік — і то не заўсёды даводзілася. І дарасла толькі па плячук табе, быццам я была вінавата, быццам я сама не хацела расці.

Але я чамусьці нічога гэтага не баялася: ведала, верыла.

І толькі пісем тваіх прагнула, як прагне чалавек напіцца ў спёку.

...Апошняя твая паштоўка прыйшла пад вечар 22 чэрвеня. У гэты дзень зранку наш курс здаваў першы дзяржаўны экзамен па асновах марксізма-ленінізма. А пад вечар усіх нас адправілі ўжо на акопы.

У той апошні перадваенны год любімай песняй у нас, моладзі, была «В далекий край товарищ улетает...». Мы

спявалі яе лёгка, бесклапотна, асабліва не ўдумваючыся ў сэнс яе слоў:

...Родные ветры вслед за ним летят.
Любимый город в синей дымке тает,
Знакомый дом, зеленый сад и нежный взгляд.

Перайначанымі словамі гэтай песні пачыналася і твая апошняя паштоўка:

«В далекий край, подруга, улетаю...

Толькі не паляцяць за мною ўслед вятры, толькі невядома, дзе і які будзе горад... А пра «нежный взгляд» і казаць няма чаго. Ад мяне, можа так здарыцца, хутка не будзе пісем. Тады ты не чакай, а пішы нашым дадому, на імя мае сястры Ліды. Пішы раз, другі, трэці...»

Значыць, ты ведаў?

Мне не давялося адказаць табе. У мяне не было твайго адраса.

Мне не давялося пісаць Лідзе — дваццаць шостага чэрвеня па тваёй вёсцы маршыравалі ўжо немцы. А сама я праз тыдзень пасля таго, як атрымала тваю апошнюю вестку, ішла ўжо ў натоўпе бежанцаў на Рэчыцу. Следам за мной, не адступаючы ні на крок, ішла вайна.

А ты... Ты пайшоў насустрач вайне.

...Дваццаць гадоў прайшло з таго зімовага дня, калі ты спаткнуўся на гарачым снезе пад горадам Чудавам і не пачуў, як клікала цябе маё сэрца.

На маіх скронях залёг ужо зазімак. І дзеці мае ўжо выраслі. А я, як і ўсе мае абкрадзеныя вайной таварышкі, усё яшчэ сню сваё юнацтва.

*1962*

## ХАЛОДНАЯ ГАРА

Пакуль рыхтаваўся састаў, вагон, у якім ехала Наталля Аляксееўна, адчапілі і загналі ў тупік аж на шэсць гадзін. Можна было праспаць гэты час, можна было схадзіць і паглядзець новы фільм,— Наталля ж Аляксееўна, ахопленая хваляваннем сустрэчы з горадам, з якім развіталася пятнаццаць гадоў назад, пайшла шукаць адраснае бюро. Рашэнне гэта ўзнікла ў яе раптоўна, і чым больш было яно нечаканым, тым мацней хвалявала яе. У гэтым горадзе жылі яшчэ людзі, дарагія ёй па ўспамінах. Адных з іх некалі больш любіла яна, другія любілі яе... Пятнаццаць год, якія пралеглі між тым днём, калі яна пакінула гэты горад, і днём сённяшнім, калі яна зноў ступіла на яго зямлю, астудзілі ранейшыя пачуцці. Сёння ж яны ажылі зноў, успыхнулі з новай сілай і прымусілі, як і некалі, зноў па-маладому забіцца яе сэрца.

Яна запоўніла і падала ў акеначка гардаведкі сіні квіток і, як было ёй загадана, пайшла пачакаць паўгадзіны. Яна абышла ўсю прывакзальную плошчу і зусім не пазнала яе. Тады, у кастрычніку сорак трэцяга года, калі іх запасны полк, пад бамбёжкай яшчэ, эшалонам прыбыў у гэты горад (адсюль толькі што былі выбіты немцы), тады тут не было ніякай прывакзальнай плошчы, не было і самога вакзала. Стаяў нейкі даўжэзны шэры барак, біткам набіты вайскоўцамі і гэтакімі ж шэрымі, як і сам барак, спакутаванымі людзьмі — пераважна жанкамі і старымі — з клункамі і дзецьмі.

Затое вуліца, што ішла ад вакзала ў горад, проста жахала. На гэтай вуліцы, чыста замеценай і прыбранай ужо, у дзіўных зашклёных кіёсках сядзелі нейкія тоўстыя чырвоныя цёткі і вусатыя дзядзькі і гандлявалі. Гандлявалі каўбасой, вяндлінай, цукрам, як пух, мяккімі, белымі булкамі і абаранкамі і нават марожаным і піражнымі. Адно піражнае каштавала пяцьдзесят рублёў. За марожанае патрабавалі трыццаць!

Афіцэрскі састаў з сем'ямі і жанчын, якія служылі ў палку, на першым часе размясцілі па кватэрах тут жа, на прывакзальнай вуліцы. Наталля Аляксееўна, а тады яшчэ ўсяго Наташа, трапіла на кватэру разам з сям'ёй камбата Чаплыгіна. Гэтаксама, як ад піражных і марожанага, не маглі яны адразу апамятацца і ад бялюткіх, накрухмаленых да таго, што аж рыпелі, гаспадыніных

просцінаў і навалачак, ад яе пуховых пасцеляў, ад відэльцаў і фарфоравых талерак і кубачкаў, да якіх пасля паўтарагадовага «сэрвісу» ў лагерных зямлянках страшна было нават дакрануцца... Успаміналася, як лісліва мітусілася і як праз меру старалася дагадзіць камбату і яго жонцы (а заадно і Наташы) віхлявая, з выгляду непрыкметная гаспадыня. Як чамусьці ўсё адпраўляла яна з воч ужо дарослую прыгожую дачку Юлечку. Ніяк не верылася, што гэта хутчэй паненка, чым даваенная камсамолка, бачыла вайну,— гэтак старанна закручаны і выпешчаны былі ў яе на галаве модныя пасля немцаў локаны-сасіскі... Было падобна на тое, што маці нечага пабойвалася — за сябе і за дачку —, хоць і бясконца сыпала «таварышам камандзірам»... Праўда, некалькі разоў прарываўся ў яе сярод гэтых «таварышаў камандзіраў» і «пан афіцэр». Тады гаспадыня бялела, як сцяна, і яшчэ больш лузалася са скуры.

— Нямецкія шкуркі, шкада што я спазніўся сюды прыехаць...— казаў пра гаспадыню і яе дачушку камбат.

Не больш як праз тыдзень, аднак, перадыслакацыя была закончана. Запасны полк пераехаў і размясціўся ў каробках ад даваенных казармаў на Халоднай Гары. З пухавікоў і падкрухмаленага дабрабыту пераехаў і камбат з сям'ёй. На Халодную Гару перабралася і Наташа.

...Наталля Аляксееўна абышла прывакзальную плошчу яшчэ раз, прачытала ўсе шыльды, заглянула амаль ва ўсе крамкі і кіёскі, накупіла, хоць і не мела намеру, рознай драбязы і бясконца ўсё глядзела на гадзіннік — яе паўгадзіне канца не было!

Яна села на лаўку пад густым каштанам і пачала ў думках маляваць сабе сустрэчу з Іванам Сцяпанавічам. Як яна прыедзе на Халодную Гару, як знойдзе яго вуліцу, як пастукае ў калітку. (У Мар'і Ігнатаўны быў тады свой дамок з садам — і наўрад ці захацелі яны перасяляцца ў які-небудзь высотны мур. Іван Сцяпанавіч да таго ж, памятала яна, да вайны, да арміі яшчэ, быў, здаецца, ні то лесаводам, ні то садаводам.) І як выйдзе на яе стук, можа, нават ён сам. У яго, напэўна, ужо сівая галава — сівыя скроні ў яго былі ўжо і тады. А вочы, напэўна, усё такія ж блакітныя і добрыя. І зморшчынкі вакол вачэй. А ў руках у яго будуць, няйнакш, садовыя нажніцы ці лапата. (Якраз нядзеля, пагодны дзень — і ён, напэўна, корпаецца ў садзе.) І каўнер сарочкі ў яго

будзе расшпілены. Ён і гімнасцёрку некалі пры кожным зручным выпадку расшпільваў. А за плячыма ў яго будзе стаяць хлапчук ці дзяўчынка (яго сын ці дачка) і будзе сур'ёзна глядзець на яе, незнаёмую жанчыну, а яна будзе стаяць перад імі і з усмешкай, якую ён напэўна ўжо даўно забыў, будзе чакаць, пазнае ён яе ці не. А потым пачуе гоман ля форткі і адарвецца ад сваіх жаночых спраў, выйдзе на парог веранды Мар'я Ігнатаўна — цяпер ужо, напэўна, распаўнелая (яна і тады не была худзенькай) і таксама, як і ў Івана Сцяпанавіча, з сівізной у светлых, на патыліцы закручаных валасах. Хоць і пастарэла ўжо яна, напэўна, усё яшчэ прыгожая. Мусіць, і Мар'я Ігнатаўна яе ўспомніць (успомніць, вядома), і паколькі ўсё адбылося даўно і даўно забылася, па праву старэйшай і мудрэйшай, будзе і яна запрашаць яе ў дом, будзе частаваць і будзе ўспамінаць мінулае. І, напэўна, у думках будзе радавацца: як усё тады добра склалася...

А потым, усё перагаварыўшы, і ўсё і ўсіх успомніўшы, і абгледзеўшы ўсё (ёй, безумоўна, пакажуць і хату і ў хаце, і сад і на садзе...), яна развітаецца з імі, з іх поўным утульным шчасцем. І тады Іван Сцяпанавіч пойдзе правесці яе. Мар'я Ігнатаўна разумная жанчына, ёй няма чаго цяпер баяцца, да таго ж у яе няма і часу праводзіць — справы, — Мар'я Ігнатаўна не пойдзе.

...Наўрад ці ёсць яшчэ дзе на свеце такія ўтульныя, зарослыя зялёнай муравой вулачкі, як на Халоднай Гары. Іван Сцяпанавіч павядзе яе гэтымі вулачкамі да той, гэтакай жа зялёнай, у мураве і садах, дзе пятнаццаць гадоў назад жыла яна ў старой добрай Надзеі Данілаўны. Яны спыняцца перад нізенькай форткай, пастаяць, паразважаюць: зайсці ці не зайсці?.. Даўно няма ўжо тут самой гаспадыні. У цяжкія бясхлебныя гады прадала яна дом і пераехала ў Ташкент, да сястры. Ды не прыдаўся ён ёй, той багаты, як пекла, гарачы горад: праз год памерла... Цяпер у яе доме жывуць чужыя, зусім незнаёмыя людзі. І ўсё ж калі зазірнуць цераз фортку, можна ўбачыць усё той жа высокі ганак.

І яны з Іванам Сцяпанавічам, як змоўшчыкі, будуць заглядаць цераз фортку. Потым яны паволі абыдуць дом з другой вуліцы — дом стаіць на рагу.

— Ты памятаеш, як пятнаццаць год назад адзін закаханы, не вельмі разумны старшы лейтэнант пацалаваў

на гэтым ганку дзікую казу?..— ціха спытаецца Іван Сцяпанавіч.

— Дзікую казу?.. Чаму дзікую казу?..— смутна ўспамінае нешта далёкае і ў той жа час нешта вельмі знаёмае Наталля Аляксееўна.

— Чаму?.. Таму што...

— Ах божа мой! Ну, канечне ж, дзікая каза!.. Дурная дзікая каза... Каб вы толькі ведалі, Іван Сцяпанавіч, якая яна тады была яшчэ дурная, тая дзікая каза...

— І той старшы лейтэнант быў таксама не разумнейшы...

— Чаму?

— Чаму?.. Таму што ён павінен быў настаяць на сваім. Павінен быў сказаць: «Не пушчу! Не паедзеш — і ўсё тут!..» А ён...— Іван Сцяпанавіч (як і некалі, ён курыць вельмі рэдка) паспешліва закурвае.

— Ах, каб ён гэта сказаў тады, каб ён тады зрабіў гэтак...— шэпча Наталля Аляксееўна.

Яны доўга ідуць моўчкі.

— Ну скажы ж мне, нарэшце, ці хоць шчаслівая ты? — раптам спыняецца і затрымлівае за руку яе Іван Сцяпанавіч.

Наталля Аляксеўна не адказвае.

— Ты ж мне ні разу нават не напісала...

— Не было пра што пісаць, мілы Іван Сцяпанавіч...

— «Мілы»... Цяпер ты кажаш «мілы». А тады?..

А тады? Тады і сапраўды, калі казаць праўду, яна не магла дачакацца дня, каб ён хутчэй ажаніўся з Мар'яй Ігнатаўнай, хоць і добра ведала, што любіў ён не Мар'ю Ігнатаўну, а яе. А сама яна тады любіла другога, які любіў таксама не яе... Тады яна не магла дачакацца таго дня, калі нарэшце вырвецца з гэтага горада. Тады яе чакаў інстытут, тады яна рвалася на сваю толькі што вызваленую радзіму. Тады ёй здавалася, што наперадзе ў яе было не адно, а сто жыццяў... А ён — ён быў чалавекам, у якога ўсё жыццё было ўжо ззаду. Прынамсі, так здавалася тады ёй. Ён быў старэйшы за яе на адзінаццаць гадоў. У яго была жонка, якую ён пакінуў. Другая, напэўна, пашкадавала б яго за гэту жонку. Паранены, са шпіталя, ён прыехаў дадому і застаў жонку з другім. І ён не тое што не дараваў ёй ці помсціў — ён проста не мог інакш. Не мог застацца яе мужам, хоць яна і звала яго потым. Не мог, як не ўсякі можа апрануць і насіць чужую брудную бялізну, ці як не ўсякі, хто хоча

есці, здолее даядаць з чужое талеркі... Пазней сама яна не раз з горыччу ўспамінала, якая дурная і бессардэчная была да яго. Тады яго лёс, яго жыццё зусім не краналі і не хвалявалі яе. Яму ж, мусіць, не так ужо лёгка і проста было стрэць і палюбіць другую. І любіў ён не так, як нярэдка другія любілі. Яму ад яе нічога не трэба было. Жартуй сабе, спявай колькі хочаш — табе ў твае васемнаццаць год гэта яшчэ ў самы раз. Толькі не будзь асой!.. Будзь хоць крышку прыхільнай і не думай, што калі мужчыну дваццаць дзевяць год, то гэта ўсё роўна, што сто. Гэта табе здаецца так толькі таму, што самой табе васемнаццаць. І замуж табе ісці (не смейся хоць у вочы) таксама ніхто не загадвае. Расці сабе яшчэ. Прыгледзься і прывыкні — і ты ўбачыш, як усё будзе добра. Скончыцца вайна — і ты пойдзеш вучыцца далей. І ў цябе будзе апора і помач...

— Не трэба мне ніякай апоры і нічые помачы не трэба! Я сама!

— «Я сама»... Так кажуць толькі дзеці ды яшчэ дзікія козы...

— Ну і няхай сабе дзікая каза!

— А я цябе ўсё роўна буду любіць...

— Клопат вялікі...

...Не, яна не любіла. Тады не любіла.

— Дык скажы ж мне, ці хоць шчаслівая ты?

— Лепей вы пра сябе раскажыце, Іван Сцяпанавіч.

— Я — што ж... У мяне як быццам усё нічога. Мар'я Ігнатаўна мая — чалавек цудоўны. Дзеці... Валерык таксама хлопец неблагі. Лётчыкам марыць... Наталка вось толькі ў нас з перцам (шкада, што ты яе не пабачыла — у бабулі, у мае мамы, госціць на вёсцы). Між іншым, на цябе характарам падобна... Гэтакая, як і ты некалі была, каза дзікая.— Іван Сцяпанавіч гаворыць пра гэта лёгка — адчуваецца, дачка — яго пястушка.— І — Наталка, заўваж!..— мнагазначна дадае ён.

— Дзякую,— коратка дзякуе Наталля Аляксееўна.

— А Мар'я Ігнатаўна доўга на мяне злавала, што я тваё імя даў дачцэ...

— І сёння будзе злаваць?

— Сёння?.. Не, сёння не будзе. Чаго ж ужо... Няма чаго злаваць.

— Гэта праўда. Няма чаго...

Так яны ішлі і гаварылі і ўспаміналі. І ў душы кожны з іх нечага шкадаваў і ў той жа час сумняваўся: а ці

было б ім гэтак добра, калі б яны тады, пятнаццаць год назад, асталіся ўдваіх.

Так яны дайшлі да пляца, забудаванага высокімі дамамі. Наталля Аляксееўна затрымала Івана Сцяпанавіча.

— Пачакайце... Тут жа быў выган? У сорак трэцім і сорак чацвёртым?

— Быў. І я не раз яшчэ праводзіў цябе гэтым выганам, каб ты не баялася...

— Гэта ж тут, на гэтым выгане, хлапчукі з усяе Халоднае Гары пасвілі коз! І не давалі мне праходу... Вы памятаеце гэтых нягоднікаў, Іван Сцяпанавіч? — зноў спыняецца Наталля Аляксееўна.

— Дзіва што памятаю. Памятаю, як ты плакала ад іх не раз...

— А памятаеце, як я пайшла на іх у наступ і якія шаўковыя яны пасля таго зрабіліся!..

Яна ўспамінала тых казапасаў з Халоднае Гары, і вочы яе цяпер ззялі... Якія гэта былі залатыя хлапчукі! Як яна іх потым любіла! Праўда, крыві яе выпілі яны нямала...

Безбацькаўшчына, круглыя сіроты, а то і зусім шпана з усяе Халоднае Гары, арэнай сваёй дзейнасці яны выбралі гэты пусты і голы выган, на якім хадзілі козы. І чаго толькі не выраблялі яны там! Рэзаліся ў ачко і ў арлянку, гандлявалі і мяняліся накрадзеным. Смалілі махру. На чым свет стаіць лаяліся і біліся — і, вядома ж, нікому не давалі праходу. Асабліва жанчынам. Пасля акупацыі ў гэтым горадзе, і праўда, аціхла нямала «нямецкіх аўчарак», і вось цяпер, праз іх, казіны выган помсціў кожнай маладой жанчыне, кожнай дзяўчыне. І не дай божа было прыспешыць крок ці абазваццa...

Ёй цярпець гэту пакуту даводзілася штодня. Раніцай было яшчэ нічога. Раніцай яна бегла к шасці гадзінам, каб прыняць па радыё зводку Савецкага інфармбюро і тут жа перадаць яе на ранішняй паверцы ў падраздзяленні салдатам. Вечарам жа, калі яна вярталася з работы дадому, яе чакала галгофа.

— Аўчарка! Нямецкая аўчарка!..— агідна ўлюлюкаў услед ёй выган.

Хутка яны запомнілі яе і, здзекуючыся і пацяшаючыся яе страхам і бездапаможнасцю, ішлі ўжо зусім у адкрыты наступ. Яны не асмельваліся набліжацца да яе толькі тады, калі яе хто праводзіў. (Часцей за ўсё гэта быў старшы лейтэнант Старадуб — Іван Сцяпанавіч —

але ж ён не заўсёды меў час праводзіць яе.) Затое на другі дзень, калі яна ішла адна, яны гатовы былі закідаць яе каменнямі.

— Ага, нямецкая аўчарка, фрыц драпануў, дык ты ўжо нашага!..

Яны ў свае дзесяць — пятнаццаць год, за вайну, за акупацыю, ужо ўсяго нагледзеліся і ўсяму навучыліся. І цяпер, самі таго не ўсведамляючы, помсцілі, як толькі маглі, за сваё абрабаванае і скалечанае дзяцінства. Часцей за ўсе помсцілі невінаватым за грахі тых, хто спачатку ўсмак грашыў пры немцах, а цяпер, як немцаў выгналі, лузаўся са скуры, каб гэтак жа ўсмак грашыць пры сваіх. Голы, спалены сонцам казіны выган на Халоднай Гары караў гэтыя грахі без літасці. Трэба было нешта рабіць. Пазабіваць іх — яна пазабівала б іх усіх да аднаго, і рука ў яе не здрыганулася б. Але гэта быў толькі адчай зняважанага, бездапаможнага чалавека. (Яны наперад сто разоў забілі б яе самую.) Некаму некуды на іх заявіць — у міліцыю ці куды — але каго яны баяліся і хто мог іх напалохаць?

Як і звычайна, памог выпадак.

Яна ішла дадому, трасучыся ад страху, і несла пад пахай пачку тых кніжачак ваеннага часу, якія пісаліся для акопаў і лесу, для салдат і несалдат — для ўсіх, хто бараніў Радзіму жыццём і крывёю. Крывёю сэрца пісаліся і тыя тоненькія кніжачкі... Як і кожны дзень, яшчэ здалёку яны пачалі абліваць яе брудам сваіх паганых языкоў. Некаторыя з іх не паленаваліся нават пакінуць карты — выстраіліся ўздоўж сцежкі, па якой яна заўсёды хадзіла.

— Гэй, аўчарка, ты яшчэ доўга будзеш тут шляцца?..

І тады яна як укопаная спынілася раптам перад тым, хто першы зачапіў яе. Ён заўсёды чапляўся першым. Худы, абарваны, як ваўчанё, аскалены. Адкуль у яго бралася столькі злосці і нянавісці?

— Паўтары!.. Ану, паўтары яшчэ адзін толькі раз!..— Яна хацела замахнуцца на яго кніжкамі, але нехта з іх стукнуў яе па руцэ, і кніжкі пападалі на зямлю.

— Гы-га!..— загалёкалі яны і кінуліся хапаць з зямлі кніжкі.— Цікай, хлопці!

— Гэй вы! — з пагардай крыкнула яна ім услед.— Вы ж не вартыя таго, каб у руках трымаць, не тое каб чытаць гэтыя кніжкі...

— А мы іх скурым!

Іншыя прыпалі да кніжак і больш ужо не звярталі на яе ніякай увагі.

— Скурыце?! Каго вы скурыце? Аляксандра Матросава скурыце? Ці Чайку? Ці Зою?.. Што вы ведаеце пра іх. Вы... З вашымі паганымі языкамі?..

— Ну ты, цішэй!.. Хто ты сама такая?..

— Я? Я працую ў запасным палку!

— Брэшаш ты, а не працуеш...

— А гэта?.. А кніжкі? Я — начальнік бібліятэкі!

— Гы-гы-гы... Начальнік без штаноў!

— Аддайце мне мае кніжкі. Не вам чытаць пра герояў! Пра партызан! Вы не маеце права...

І тады яны зусім нечакана адступілі.

— Пакінь нам да заўтра. Мы прачытаем...— Гэта сказаў толькі адзін з іх. Астатнія маўчалі.

Моўчкі, позіркам, абвяла яна ўсю іх банду. Адзін цвыркнуў скрозь зубы тоненькі струмень ёй пад ногі, другі ніякавата насупіўся, трэці калупаў чорным пальцам зямлю. Адзін смела стрэўся з яе позіркам.

— Мы прачытаем!

— Чытайце. Ты будзеш адказны за кніжкі. Заўтра я забяру іх назад — і заўтра прынясу вам другія.

Яна павярнулася, каб ісці сваёй дарогай, і яны расступіліся перад ёю...

— Ах, якія гэта былі нягоднікі! — засмяялася Наталля Аляксееўна, успамінаючы той час і тых апаленых вайной сваіх мучыцеляў.— Больш надзейных дружбакоў, як яны, Іван Сцяпанавіч, у мяне ўжо .ніколі не было...

— Я думаю! — гэтак жа ў тон ёй усклікнуў і ён.

Яны пасмяяліся яшчэ з тых успамінаў і з той прыемнай яе дружбы і пайшлі далей.

Ці мала было каго і чаго ўспомніць.

...Наталля Аляксееўна схамянулася: божа, на гэтай лаўцы пад гэтым каштанам, праседзела яна не паўгадзіны, а цэлы век... Адрас Івана Сцяпанавіча ўжо даўно знойдзены.

* * *

Адна рука за акенечкам гардаведкі трымала пасыпаны макам абаранак, у другой быў сіні квіток. Рот абыякава жаваў.

Наталля Аляксееўна паспешліва працягнула руку па той сіні квіток. Ад чакання, ад хвалявання і ад яшчэ

бог ведае якіх пачуццяў яна ніяк не магла адразу зразумець сэнс таго, што пісалася ў тым сінім квітку.

Прозвішча: Старадуб.

Імя і імя па бацьку: Іван Сцяпанавіч.

Год нараджэння: 1915.

Дзе пражывае: Памёр 24 красавіка 1954 года. Пахаваны на... могілках...

— Памёр?.. Не можа быць... Гэта, напэўна, памылка? Гэта не ён, а нехта другі...

— Няма, грамадзяначка, ніякай памылкі. Усе паміраюць. І мы з вамі памром!

Акенечка гардаведкі са звонам зачынілася.

Усе паміраюць... І мы памром... Але як жа вось так, раптам, памерці?..

Наталля Аляксееўна знайшла ў тупіку свой вагон і там, адвярнуўшыся да сцяны, праплакала некалькі гадзін. Аж пакуль не заснула.

*1968*

## АНТОНАЎКІ

— Калі ласка, ешце яблыка.

— Гм... Дзякуй. Толькі я спачатку выйду пакуру.

— Вы страшэнна многа курыце. Няўжо гэта так неабходна?

— Не неабходна, вядома... А немагчыма інакш. Звычка.

— Але ж вы самі бачыце, што вам гэта шкодна. Такі кашаль.

— Вядома, шкодна... Прабачце, я ўсё-такі закуру.

— Калі ласка.

Ён выходзіць курыць. Я застаюся адна. І ніяк не магу задаволіць сваю прафесійную цікавасць: з кім я еду, хто мой сусед. Томік лірыкі Пушкіна падказвае мне, што ён настаўнік, літаратар. Праўда, ён і па абліччы падобны да настаўніка. Строгі цёмны касцюм. Белая сарочка. Няяркі гальштук. На нагах цёплыя зімовыя чаравікі.

Аднак тая дакладнасць і педантычнасць, з якой ён раскладаў свае рэчы, вешаў паліто, шапку, давала падставы меркаваць і інакш: рахункавод ці, можа, рэвізор... Едзе ў камандзіроўку.

Быў і яшчэ адзін штрышок. У купэ ён зайшоў з ахапкам свежых газет (няйнакш купленых у кніжным кіёску). І па тым, як намётаным вокам прабягаў ён газетныя палосы, можна было заключыць, што выпісвае і чытае ён не адзін толькі «Вячэрні Мінск»... Кідалася ў вочы, што затрымліваўся ён больш на міжнародных аглядах. Тады, магчыма, лектар — распаўсюджвае навуковыя і палітычныя веды...

Праўда, у тыя дні газетамі і падзеямі за мяжой цікавіліся ўсе — то былі трывожныя дні, звязаныя з падзеямі на Кубе.

— Ну вось...

— Пакурылі?

— Адвёў душу.

— Так і дома і на рабоце?

— Так. Часам і больш...

— Не разумею!

— Ну, калі не разумееце толькі гэтага — то невялікая яшчэ бяда. Горш бывае, калі людзі не разумеюць іншых рэчаў...

Ён, адчувалася, быў негаваркі чалавек. Хутчэй маў-

клівы. І апошняя яго заўвага на маё «не разумею», як мне здалося, падавала надзею, што чалавек гэты яшчэ можа разгаварыцца. Аднак мне не хацелася быць дакучлівай.

— Ешце яблыка. Антонаўка.

Сама я ўзялася за другое.

— М-да... Антонаўка... А вы хто, дазвольце, будзеце па прафесіі — журналіст?

— Журналіст.

Адгадаць маю прафесію было няцяжка. Мяне ў дарогу праводзіла палова мае рэдакцыі.

— Вам... Дакладней, людзям вашай прафесіі — усё заўсёды ясна, усё зразумела...

Ён сказаў гэта, усміхнуўшыся ледзь прыкметнай іранічнай усмешкай.

— Заўсёды? Не, не заўсёды...

Ён адчуў, што я не падам у крыўду сваю прафесію.

— Я не давёў да канца свае думкі... Проста я хацеў сказаць, што людзі вашай прафесіі заўсёды павінны быць гатовы, павінны быць здольны (на апошнім слове ён зрабіў націск) пакласці на стол «матэрыял»... Як гаворыць ваш брат журналіст.

— А вы, аказваецца, добра знаёмы са спецыфікай работы нашага брата.

— У некаторай ступені...

— Даводзілася мець справу? І непрыемнасці былі?..

Ён зноў адказаў не адразу.

— Ды не... Зусім іншае.

Ён узяў антонаўку, пакруціў яе ў руках, удыхнуў пяшчотны пах і зноў паклаў яблык на столік.

— Зусім іншае...— задуменна паўтарыў ён і працягнуў руку да пачка папярос, звычка патрабавала неадкладна закурыць (ён нават карабок запалак страсянуў — ці ёсць запалкі), аднак, відаць, перамог сябе і пачак папярос і запалкі адсунуў убок.

— Вось вы, напрыклад, едзеце са мной ужо некалькі гадзін. І не ведаеце, хто я такі... Спытаць адразу — не было патрэбы, потым задаць такое пытанне — я сам не даў падставы. А між тым у вашым уяўленні ўжо складаецца пэўны вобраз, літаратурны тып, калі хочаце, гэтакага панурага скептыка...

— Не, вы не зусім такі,— я не стрымала ўсмешкі.

— Вось бачыце, я адгадаў.

Ён зноў узяў антонаўку, зноў пакруціў яе ў руках, панюхаў і, не надкусіўшы, зноў паклаў на столік.

— Ды ешце вы ўжо яго нарэшце!

— Дзякуй. Калі не будзеце пярэчыць і калі не будзеце баяцца, што вам будзе сумна, дазвольце мне расказаць вам адну гісторыю, якую пры выпадку вы можаце назваць... Ну, скажам... «Антонаўкі». Навела «Атнонаўкі»...

— Я буду слухаць вас з цікавасцю.

— Дзякуй. А калі будзе нецікава, сумна, давайце дамовімся адразу: вы мне скажаце — і я змоўкну.

— Добра. Скажу.

— Тады яшчэ адна просьба. У вас пад рукой выключальнік. Калі ласка, уключыце начнік, а гэту яркую лямпачку выключце. Мне так будзе лягчэй (ён так і сказаў — не латвей, не зручней ці яшчэ як інакш — а «лягчэй») расказваць.

— Добра.

Ён зноў быў працягнуў руку да папярос і запалак, але тут жа, нібыта апёкшыся, паспешліва адвёў яе назад.

— Ну дык вось. Гісторыя, праўда, ніякая не гераічная. Не грамадзянскага, як кажуць, гучання. Гісторыя вельмі асабістая...

...Семнаццаць год назад я ажаніўся. Ажаніўся не зусім звычайным чынам. Мая жонка, а тады яшчэ толькі мая абранніца, прыехала да мяне сама. Прыехала, хоць мы не бачыліся з ёю больш трох год... Я ваяваў. Яна працавала. Потым вучылася... Ну, а скончыла інстытут — і да мяне... Праўда, не скажу — я пісаў ёй, каб прыязджала...

— А вы самі — чаму ж да яе не прыехалі?

— Тады, ведаеце, час быў такі, адразу пасля вайны... Тады на жаніцьбу, як цяпер, не давалі тыдня, ці колькі гэта цяпер у нас даюць.. Тады трэба было працаваць... Ну вось прыехала, а тэлеграмы, як звычайна бывае ў такіх выпадках, мне не прынеслі. Так і прасядзела паўдня на двары, на чамадане. А суседкі, вядома, шу-шу-шу... Мяне з работы стрэлі за варотамі: «Жонка прыехала, а ты і не стрэў...» Уяўляеце, якая няёмкасць. Вядома, спяшаюся: а яна і праўда — сядзіць пад клёнам на чамадане... Ну павіталіся, усё як мае быць. Пацалаваліся. І мне, уяўляеце, раптам здалося, што яна як быццам і не яна гэта... Сказаць па праўдзе, за тры гады забыў я, якая яна была. Нібыта была вышэй ростам. Нібыта і харашэйшая была. А гэта ў кароценькай юнраўскай сукенцы з «маланкай» на баку, худая, рабаціннe на носе. Пацалаваў я яе, а сам адчуваю, што губы мае зрабіліся

раптам халодныя, як лёд. Ну, вядома, тут жа павёў я жонку (як жа было яе цяпер яшчэ назваць?) у сваю халасцяцкую кватэру, а ў мяне не прыбрана нават... А яна ці то таму, што па інтэрнатах увесь час жыла, што ніколі не дома, ходзіць па гэтых маіх няўтульных, пустых двух пакойчыках і так шчыра шчабеча, так шчыра захапляецца... Што ў мяне тут цудоўна, што цяпер у нас будзе яшчэ лепш... Я ж, каб не маўчаць і каб не здавацца няветлым, таксама хаджу ўслед за ёю і таксама нешта гавару, з нечым згаджаюся, а сам увесь час адчуваю, што словы мае, як і губы, стынуць і стынуць...

— І яна не адчула вашага настрою?!

— Уявіце сабе — не! Яна мяне кахала... Праўда, і я быў упэўнены, што кахаю яе... Былі ж у мяне за гэтыя гады стрэчы з дзяўчатамі. І жанчын я ведаў... Аднак ажаніцца я марыў толькі з ёю. Інакш за гэты час хіба я не здолеў бы...

— Гэта безумоўна.

— Ну, і вось. Ідзе ноч... А я не ведаю, як мне быць з ёю, з маёю жонкаю... Вы мяне прабачце за такія, можа, і непатрэбныя, падрабязнасці, аднак я нічога не хачу ўтойваць... Я забыў сказаць вам, што са мною ў той час жыў брат майго даваеннага сябра. Малады хлопец. Маладзей за мяне. Да прыезду жонкі я некалькі разоў рабіў яму намёкі, каб ён шукаў сабе іншую кватэру. А тут, не паверыце, я страшэнна абрадаваўся, што Мікалай жыве ў мяне! І мая жонка нікольki не здзівілася і не пакрыўдзілася, калі я, кладучыся спаць, сказаў ёй, што пакольki ў нас жыве чужы чалавек, то нам лепей легчы спаць... на асобных пасцелях.

— Ну, вядома! — усклікнула яна, пачырванеўшы.

Яна саромелася зусім другога, таго, чаго саромелася б на яе месцы кожная дзяўчына. Пра мае ж сапраўдныя адчуванні яна не здагадвалася... І так было цэлыя два тыдні, аж пакуль Мікалай не паехаў на выхадны дзень дадому.

А потым чым далей, тым усё горш і горш было. Ужо і яна пачала разумець гэта. Пачала здагадвацца, што яна мне, як жанчына, непатрэбна, што я не кахаю яе... Начамі, адвярнуўшыся да сцяны, я чуў, як яна ўздрыгвала ад плачу. Я не мог не ведаць прычыны яе слёз — і тым не менш плач яе раздражняў мяне і злаваў яшчэ больш. Ну, чаго яна хоча ад мяне... Чаго яна хоча?! — аж калаціла мяне ўсяго.

У такіх выпадках я пачынаў шкадаваць сябе, а не яе. Гэта яна прыехала і засланіла мне свет... Мне здавалася, што яна ашукала мяне. Праз яе я не ажаніўся, хоць не раз і сам быў закаханы, хоць не раз і мяне кахалі... Кахалі, як цяпер я быў упэўнены, куды лепшыя за яе. І харашэйшыя, і такія, што я не саромеўся б паказацца да знаёмых. Чамусьці мая і сапраўды вельмі звычайная па знешнасці жонка здавалася мне тады страшэнна брыдкай... А наіўнасць яе і непасрэднасць характару я інакш не разумеў, як абмежаванасць розуму.

— Чаго ты плачаш? — паварочваючыся да яе і прымушаючы сябе дакрануцца да яе халоднага плечука, пытаўся я ледзь стрымліваючыся.

Яна нічога не адказвала. Маўчала. Маўчаў і я. А потым, каб зрабіць ёй яшчэ больш балюча, уставаў і дэманстратыўна закурваў. І з папяросай зноў клаўся ў пасцель, усім сваім пакрыўджаным выглядам паказваючы, што праз яе ў мяне няма не толькі сну, а і жыцця...

І тады яна прасіла мяне:

— Не трэба... Не трэба курыць. Я больш не буду... Я не буду...

І яна сапраўды старалася не плакаць. Ёй і сапраўды хацелася здавацца вясёлай і прыгажэйшай. Хацелася падабацца мне... Але я быў як заведзены. Я поўнасцю ўваходзіў у ролю незаслужана пакрыўджанага і абражанага мужа.

— Ты ж сама разумееш,— казаў я,— што калі ў нас будзе так і надалей (быццам у гэтым «так» вінавата была яна), мы не здолеем быць разам... Нам патрэбна будзе нешта вырашаць...

Ах, каб вы толькі ведалі, за якое шчасце палічыў бы я тады яе згоду вырашыць гэта нешта так, як я тады хацеў... Але яна маўчала. А потым зноў пачынала плакаць.

Тады я пачынаў ужо злавацца ад таго, што яна не хацела таго, чаго хацеў я... «Ну, навошта ты мне? Скажы, навошта ты мне, калі я цябе не кахаю... Калі ты мне непатрэбна!..— так кожны раз хацелася мне крыкнуць ёй.— Чаго ты да мяне прыехала?!» І кожны раз я стрымліваўся... Я ж сам пісаў ёй, што кахаю яе. Сам зваў яе прыехаць да мяне. І яна чакала мяне, спадзявалася на мяне... Я не сказаў вам, што да мяне ў яе быў хлопец. Але ён загінуў на фронце... І вось цяпер я помсціў ёй і за яго. Цяпер я папракаў яе ім...

«Ну, вядома, я кепскі. Ён быў лепшы...» І, каб зрабіць ёй балюча, дадаваў: «Не сумняваюся, што па мне, каб са мной што здарылася, ты суцешылася б гэтак хутка, як і па ім...»

А калі яна не вытрымлівала і з плачам крычала мне, навошта я зваў яе — яна не паехала б сама, я знаходзіў новую іголку.

— Прыехала б... Цяпер вельмі разбірацца і раскідацца няма кім. Усё лепей, чым нікога...

Уяўляеце сабе, як гэта было нізка, подла і агідна?..

Але і гэта было не ўсё... З год нешта яна не цяжарыла. І я пачаў чапляцца да яе за гэта. «Я хачу, каб у нас было дзіця. Якое гэта жыццё і якая гэта сям'я без дзяцей? Я хачу дзіця!» І яна зноў плакала, быццам у гэтым была яе нейкая віна... А потым, калі зацяжарыла і вельмі цяжка насіла дзіця, мне зноў яна не падабалася... Твар яе пакрылі брыдкія рудыя плямы. Яна не магла выносіць паху стравы, не магла нічога гатаваць на кухні — ёй рабілася млосна. Я ведаў, што гэта здараецца і з іншымі жанчынамі. І ўсё роўна ўсё мне было нядобра, усё мяне раздражняла ў маёй жонцы...

— А яна што ж — усё гэта бачыла, усё гэта разумела і толькі... плакала?

— Н-не... Хаця, як вам сказаць... Да таго, пакуль я ў першы раз не падняў на яе руку... Пакуль не ўдарыў — плакала. А потым перастала плакаць.

— І ўсё гэта... І вас, і «руку» вашу ўвесь час цярпела і зараз церпіць?!

— Не, не церпіць... Яна мяне пакінула.

— Ну, што ж — і добра зрабіла! — з палёгкай вырвалася ў мяне.

— Ах, каб вы ведалі, як гэта невыносна...

Я ўжо ненавідзела гэтага чалавека. Я ўжо сама гатова была замахнуцца і ўдарыць яго жорсткім словам у самае сэрца. Ударыць так, каб ён не здолеў больш падняцца...

— Ах, каб вы ведалі, як гэта невыносна...— застагнаў ён.

І стогн яго, жывы чалавечы стогн, раптам скаваў мой язык, звязаў мае словы, занесеныя для ўдару.

Абое мы доўгі час маўчалі.

Потым зноў загаварыў мужчына.

— ...А потым нарадзіўся сын. Дзіця было як дзіця. Пялёнкі, бяссонныя ночы, хваробы — усё гэта было, як і ва ўсіх дзяцей, як і ва ўсіх сем'ях... З намі жыла мая

маці. Днём яна няньчылася з дзіцем. А ноччу я сам уставаў да сына: перапавіваў яго, калыхаў. Мне гэта было няцяжка — я страшэнна любіў сына!.. Аднак сядзеў ва мне, разумеецца, нягоднік... Жонка мая была нямоцнага здароўя, тым больш гэта бясконцая беганіна па візітах, па паверхах (яна ў мяне ўрач). Ну, малака хутка і не стала... Ноччу яна спіць, толькі раз-пораз усхопліваецца, як дзіця заплача, каб дапамагчы мне. А мяне гэта злуе толькі. Спіш — дык ужо спі! Я і без цябе абыдуся. І ні разу не праміну, каб не ўкалоць яе: якая з цябе карысць. Якая ты маці... А ёй, вядома, крыўдна. І яна...

— Плача?

— Плача...— дзіўна пакорна згадзіўся чалавек...— Плакала, пакуль, я ж кажу, я не падняў на яе руку... Аднак не думайце,— раптам заспяшаўся ён, мусіць, сапраўды баючыся майго ўдару,— не думайце, што ў нас заўсёды было так нядобра і змрочна... У нас былі і светлыя хвіліны! — раптам неяк нязвычна для яго, летуценна ўсміхнуўся ён.— Ах, якія светлыя хвіліны былі ў нас, каб вы толькі ведалі!.. Забыць немагчыма!.. Да смерці!..

Ён зноў доўга маўчаў. Ён толькі прагна курыў. Ён ужо даўно курыў, забыўшы папрасіць прабачэння, забыўшы, што мы сядзім у закрытым купэ.

— Уявіце сабе лета. Пачатак лета. І луг зялёны, у кветках і расе луг... Трава па калена. Мы паскідаем чаравікі і — як малыя дзеці, босыя па гэтай шаўковай траве, па гэтых кветках! Тады яшчэ быў цяжкі час, карткі. І ў нас быў свой агарод — бульба, фасоля... І вось на свой агарод мы хадзілі гэтым лугам. Я, здаецца, казаў вам, што была яна ў мяне лёгенькая, тоненькая... Зусім дзяўчынка. І ніяк нельга было ёй уталкаваць, што ёй ужо дваццаць пяць год, што яна замужняя жанчына... Убачыць зімой на тратуары коўзанку — і няхай сабе тут людзі не людзі, а яна, як маленькая — раз і пакаўзнулася... Вечарам панясе вядро са смеццем выкідаць — назад варочаецца ўся ў снезе. «Ты што гэта — у гурбу ўвалілася?..» — «Ды не! — смяецца.— Гэта я назад з пустым вядром наўмысля па снезе бегла. Весела!..» А ўявіце яе на гэтым лузе! «Давай, Алёша, хто больш разоў цераз галаву перакуліцца!..» Не паспею крыкнуць ёй: «Шалёная! У цябе ж дзіця...» Яна тады якраз зацяжарыла першым. А яна ўжо... толькі плацце ў траве мільгае... Ах, каб вы ведалі!..

Я гэта ведала. Ведала, што чалавека можна ўзнесці да неба. Можна і ў гразь утаптаць, знішчыць, забіць. Словам.

Закурваючы новую папяросу, ён між тым працягваў:

— Або яшчэ... Восенню, вось гэтакай парой. Як пазнімаюць ужо з яблынь яблыкі... Ляжым мы з ёю позна вечарам у пасцелі і ядзім антонаўкі. Антонаўкі ляжаць у кашы пад ложкам — працягні толькі руку і бяры: табе яблык, мне яблык... Мне яшчэ адзін і табе яшчэ адзін... А ў пакоі ад гэтых антонавак пахне, як у садзе!..

— Ну добра! — нарэшце не вытрымліваю я.— Дык і сапраўды ж было і добра і светла. Не адны ж толькі слёзы былі, не адно толькі хамства...

Ад апошніх слоў мой сусед неяк сціскаецца, нібыта яго знячэўку сцебанулі нечым пякучым.

— Не ведаю. Сам не ведаю нічога. Я ж вам кажу, што была яна такая вясёлая... Не, гэта не тое. Ну такая была, што замужжа не паклала на яе таго адбітку сталасці, які вельмі часта нават і вельмі маладых жанчын робіць нейкімі такімі шэрымі, такімі нецікавымі і непрывабнымі...

Дзіўная рэч! Гэты чалавек усё разумеў і ў той жа час нібыта па нейкай злой волі рабіў усё наадварот, рабіў усё назло, нават сабе самому.

— ...А мне тады чамусьці на кожным кроку хацелася патрабаваць ад яе іменна гэтай сталасці... Магчыма, таму яшчэ, што іншым, і асабліва мужчынам (я заўважаў гэта не раз!), у маёй жонцы гэта яе непасрэднасць, наадварот, якраз вельмі падабалася... Падабалася — я таксама заўважаў гэта не раз — і яна сама, мая жонка... Я бачыў і разумеў, што, калі б яна сама гэтага захацела, яна мела б поспех у мужчын... (Пасля родаў яна неяк вельмі змянілася, я сам гэта ўжо бачыў; папрыгажэла, рысы твару і рухі яе зрабіліся мякчэйшымі і больш пяшчотнымі). І хоць я ні разу не заўважаў гэтага за ёю, я стараўся сябе наўмысля ўпэўніць, што яна толькі і думае пра гэта, што яна толькі чакае зручнага выпадку... І, настроіўшы сябе на такі лад, божа, чаго я толькі не вытвараў!.. Я раўнаваў яе да кожнага дурня, да кожнага слупа, калі хочаце... І не тое каб раўнаваў, я проста прыдзіраўся, я імкнуўся як можна больш зняважыць яе... Я вам усё расказваю і таму не буду ўтойваць нічога: я не саромеўся, зусім не маючы ніякіх падстаў, абві-

навачваць яе ў нявернасці мне і лаяць яе на чым свет стаіць самымі бруднымі словамі, якія вы пачуеце не ад кожнага п'яніцы...

— Вясёлае жыццё было ў вашай жонкі!.. І колькі яна яго цярпела?

— Мы пражылі разам... дванаццаць год. У нас было трое дзяцей. Тры сыны...

— А цяпер як?

— Цяпер яна адна. Жыве з дзецьмі.

— А вы?

— А я... я ажаніўся...

— Ну, і лепшую знайшлі?

— Не...

— Зноў нядобрая?

— Не... Добрая. Спакойная, добрая жанчына... Вы мяне перабілі, і я многага вам не расказаў. Не расказаў, як жонка мая перастала плакаць... Як яна аднойчы, у адчаі і роспачы, паклялася, што ўсё будзе наадварот. Што я буду, як жабрак, чакаць яе ласкавага слова, шукаць яе позірку. Што я буду плакаць... І не паверыце — усё гэта збылося. За ўсе мае выхадкі... Ды што там — за ўсе мае здзекі яна мяне так узненавідзела, што ёй потым ужо было ўсё роўна, ёсць я ці няма, добры я ці злы... Яна мяне больш не кахала, і я больш ёй быў непатрэбны. Як некалі, у пачатку нашага сумеснага жыцця, была непатрэбна мне яна. Я ўсё гэта бачыў. Усё добра разумеў... Магчыма, яшчэ і можна было б што-небудзь перайначыць, каб я паспрабаваў дабром ці ласкаю. А я сваім жыццёвым прынцыпам ставіў помсту: «Ах, ты мне кепска сказала нешта ці зрабіла — дык я табе ў дзесяць разоў горш зраблю...» І так адно на адно. Адно на адно. А два гады назад я зрабіў такое злачынства... Я так яе абразіў... На людзях. У свята. Што ўжо нішто не дапамагло. Ні ўгаворы. Ні просьбы. Ні дзеці.

— Дык яна ж, мусіць, праз дзяцей усё гэта ваша... і цярпела?

— Думаю, што праз дзяцей. Каханне да мяне ў яе патухла даўно.

— Каханне!.. Якое можа быць пры такім жыцці каханне...

— Уявіце сабе, што было. А цяпер... А зараз... Кожную раніцу, як іду на работу, я спыняюся насупраць яе акна... Яна ў гэты час на кухні дзецям снеданне рыхтуе. (Старэйшыя двое ідуць на першую змену ў школу, а меншага

ў сад водзіць.) Стаю і гляджу на гэта акно на першым паверсе. То бачу, як яна каля пліты тупае, то прасуе нешта, то сядзіць, шые... Трое дзяцей. Хлапчукі. То зачэпяцца, парвуць. То паб'юцца.

— Ну, а яны — дзеці — як? З імі вы бачыцеся? Ходзіце да іх?

— Яна не забараняе: яны прыходзяць часам. Але, вядома, дзеці...

— А вы?

— А я да іх... не хаджу. Не магу!.. Разумееце, не магу! Кажуць, у яе там нейкі ёсць ужо... Ходзіць да яе. Рамантуе, бачыце, электраправодку або кран, як сапсуецца...

У голасе яго загучала непрымірымая мужчынская нянавісць да таго, другога, хто замяніў яго і напэўна выцесніў нават з успамінаў. Замяніў і выцесніў таму, што лепшы за яго...

— Ну і што ж, што ёсць, што рамантуе? У вас жа цяпер жонка ёсць таксама... Яна ж вам таксама мые і прасуе сарочкі. Дык пры чым жа тут дзеці. Вы да іх хадзіце, а не да жонкі, якой ні вы цяпер непатрэбны, ні яна вам.

— Дык ён жа, той, можа быць там!..— зноў, нібы сляпы на сцяну, наткнуўся ён на сваё тупое пераконанне...— А я... Я на злосць ёй ажаніўся!

— І на злосць жывяце з жанчынай, якую не любіце? І на злосць пакутуеце самі і яе, напэўна, прымушаеце, як і першую жонку, пакутаваць?

— Так... Гэта страшэнная пакута...

Яму нялёгка было зрабіць гэта прызнанне, тым больш чужому, незнаёмаму зусім чалавеку. Але гэта было адзінае, што здольна было хоць у нейкай ступені аблегчыць яго жорсткую пакуту. Да таго ж, як тапельнік, ён хапаўся за саломіну, спадзеючыся: а можа, усё-такі знойдзецца спачуванне ці хоць якая парада...

І я зноў, не хочучы і супраціўляючыся сабе, зноў пашкадавала яго:

— Ну, а каб паспрабаваць... Цяпер, калі вы ўжо столькі адпакутавалі самі і зразумелі. Можа, стрэцца з ёю. Можа, у імя дзяцей яна і згадзілася б... Вы ж не страчаліся з ёю? Не?

— Не страчаўся... І не стрэчуся. Не магу!.. У яе ж цяпер той, другі. Яна цяпер з тым...

У гэту тупую сцяну можна было біцца галавою, і нічога не змянілася б. Больш гаварыць, больш пераконваць

не мела сэнсу. Пад гэтай гісторыяй, ці навелай, як ён сам сказаў у пачатку нашага знаёмства, можна было паставіць кропку.

...Ад антонавак, што ляжалі на століку і аддзялялі мяне ад гэтага чалавека, ішоў тонкі, ледзь улоўны пах сонца, хараства і жыцця. Гэтым пахам хацелася дыхаць, яго хацелася піць бясконца, не пакідаючы. А тое жыццё, пра якое расказаў толькі што гэты чалавек, уяўлялася мне непагодлівай бездарожнай восенню. Без сонца, без цяпла, без антонавак... І мяне больш ужо не цікавіла, хто ён, гэты мой сусед: настаўнік, ці рэвізор, ці лектар, які распаўсюджвае веды... Хацелася хутчэй адчыніць акно.

Хацелася здаровага паветра.

*1962*

# ПАНІ СТАРШЫНІХА ПРЫЕХАЛА...

— Ці чуў бо ты, Чэсік, што да старшыні нашага пані яго прыехала?

Гарбаты Мікодым, не спяшаючыся, рассцілае пад дубам зрудзелы ад дажджовіцы і сонца суконны дамаатканы халат, выпростваецца на ім усім сваім нязграбным целам і з асалодай закурвае люльку. Люлька сіпіць і захліпваецца гэтаксама, як сіпяць і захліпваюцца Мікодымавы грудзі. Мікодым зацягваецца пякельным дымам і доўга бухае кашлем: бух-бух-бух...

— Каб цябе немач узяла, каб цябе...— тыльным бокам далоні выцірае ён з воч слёзы.

Адбухаўшы, зноў звяртаецца да падпаска Чэсіка:

— Дык, кажу, ці чуў ты, што да старшыні яго пані прыехала?

— Пані?..— Чэсік не чуў гэтай навіны. Яна звальваецца на яго, як гура снегу.— Пані прыехала?..— перапытвае ён, і чорны ад загару і сіверу твар яго, звычайна пахмурны і абыякавы, расплываецца ва ўсмешцы, адбіваючы па чарзе адно за другім самыя нечаканыя адценні: спачатку разгубленасць, потым спалох, а потым такую дзіўную пяшчоту...

Мікодым робіць выгляд, нібыта нічога гэтага не заўважае, і працягвае сваё:

— Дык вось, кажу, пакуль старшыня будзе вылежвацца са сваёй паняю, давай упусцім на гадзіну якую кароў у сенакос. Няхай паходжваюць з расой, а то пашы няма ані звання... Усё пазаворвалі, усё пакарчавалі гэтымі кустарэзамі... А цяпер з быдлам куды хочаш дзенься...

Новы кірунак Мікодымавых думак пра кароў і пра пашу пераключае Чэсіка на гэту тэму не адразу.

— А, можа, пані і не вылежваецца...— панура пярэчыць ён Мікодыму.

— «Не вылежваецца»...— перадражнівае падпаска Мікодым.— Дурны ты, Чэсік.

— А вось і не дурны...

— Ну, а не дурны, дык займай кароў ды пераганяй цераз канаву,— строга ўжо загадвае Мікодым.

Ён старэйшы калгасны пастух. Пасе кароў, як толькі пасля вайны заснаваўся калгас. Чэсік таксама даўно пасе кароў, але ён усяго толькі падпасак у Мікодыма.

Чэсіку хутка трыццаць год. Ён рослы, плячысты і прыгожы з твару. У яго бяскрыўдныя, як у малога дзіцяці, сінія вочы і ўсмешка таксама бяскрыўдная і заўсёды крышку як быццам недаверлівая. Чэсік баязлівы і паслухмяны. Рукамі сваімі ён можа падняць, напэўна, хату — капу сена ён бярэ і падае на стог за адзін раз.

Чэсіку хутка трыццаць год... Некалі ў вайну, на вачах у яго, немец забіў з аўтамата яго матку. Маці сядзела ў хаце на ложку і карміла грудзьмі дзіця — Чэсікаву сястру. Немец даў з парога ўсяго адну толькі чаргу... І пайшоў з хаты. Суседзі тады ледзь сцягнулі Чэсіка з печы. Ён тады доўга не гаварыў зусім, а потым доўга заікаўся... Паступова страх і заіканне прайшлі, а Чэсік, як быў, так і застаўся на ўсё жыццё дзіцем. На ўсё жыццё застаўся няшчасным чалавекам...

Бацька з вайны таксама не вярнуўся, а цётка, у якой гадаваўся Чэсік, памерла неўзабаве пасля вайны. Так ён і застаўся на белым свеце адзін, як палец, у цётчынай хаце. У сваю хату (яна доўга стаяла з забітымі вокнамі, аж пакуль не перацягнулі яе да рэчкі, на брыгадную лазню) заходзіць баяўся. Нават калі і вырас ужо, калі і забыў усё чысценька: і матку, і сястрычку, і тое кароткае чорнае дула аўтамата... Так і гібеў, небарака, жывучы з людское ласкі. А ласка тая вядомая: кепска чалавеку самому — тады ён і пра другога ўспомніць. А добра — дык хто там вельмі клапоціцца, што ў некага галавы няма да каго прыхіліць.

Над Чэсікам зжалілася старая Паўліха. Была яна глухая і жыла адна душою, у самым канцы вёскі, у старой, як і сама яна, хаце. Гаспадара пахавала яшчэ за панамі. Сыноў трох ■ вайны не дачакалася.

...Бядак бедака бачыць здаляка. Так і Паўліха. Пашкадавала сірату (ды яшчэ такога няшчаснага): адзін раз зварыла чыгунок гарачай бульбы ды занесла Чэсіку са свежым гурочным расолам. Другі раз забегла — апатрыла хату ды сёе-тое з адзення перамыла, каб падабнейшы быў. А як халады навалілiся, пачала заходзіць у печы прапаліць ці хоць дроў пакласці ды строга наказаць, каб глядзеў, каб, бронь божа, пажару не нарабіў... Сам Чэсік ніколі ў печы не паліў. Нават зімой. Днём ён заўсёды рабіў на кароўніку, дык было цёпла. Вечарамі грэўся па цёплых людскіх хатах. А ноччу хоць спаў і ў ледзяной хаце, але пад кажухом таксама цёпла было.

У аддзяку Чэсік прывозіў Паўлісе з лесу дровы. Прывязе, напілуе з хлапчукамі, а потым возьме пераколе ды гэтак акуратненька складзе іх у сціртачку пад паветкай. А то надумаецца ды ваду пачне Паўлісе насіць: налье поўны цэбар, налье начоўкі, а потым усе вёдры, якія толькі ёсць у гаспадарцы, паналівае. І ўсё гэта без загаду, па сваёй волі, моўчкі... Ну дык як ты яго, на месцы гэтай старой Паўліхі, не пашкадуеш? І каго ж ты пашкадуеш яшчэ, як не яго. І хто цябе пашкадуе, хто табе прывязе гэтых дроў ці пра ваду гэту ўспомніць...

Паступова да гэтага прывыклі і самі Паўліха з Чэсікам, і людзі прывыклі. Праўда, Паўлішын клопат пра Чэсіка зусім не перашкаджаў людзям (хіба не знойдуцца такія?) падвучваць хлапца на кепскае. Маўляў, ты добра зарабляеш у калгасе, а Паўліха цябе нясмачна корміць і абы-як апранае. Пасля такой гаворкі Чэсік звычайна прыбягаў да Паўліхі сварыцца... Паўліха не спрачалася з Чэсікам, нічога не адмаўляла — яна толькі садзіла яго за стол, налівала яму міску гарачай капусты, а сама даставала з-за абразоў ключ ад шафы. Потым адмыкала шафу і пачынала паказваць:

— Вось гэты суконны гарнітур, Чэсічак, хіба даўно мы табе яго купілі? Памятаеш, на Юр'я наўмысля хадзілі з табою ў Смаргонь... А вось гэту шаўковую блакітную рубашку? У каго на вёсцы ёсць харашэйшая? А вось гэтыя картовыя штаны — ні разачку не адзетыя. А яшчэ вось бравэрка, а паўбацінкі...

...Не задзірлівы і не злапомслівы, Чэсік у момант апаражняе міску заскваранай здорам капусты і ў момант забывае ўсё тое нядобрае, што яшчэ некалькі хвілін назад варам бушавала ў яго грудзях. Раз-пораз ускаквае ён з месца то памацаць шаўковую рубашку, то апрануць бравэрку — сіняе суконнае паўпаліто з цыгейкавым каўняром, то прымераць чаравікі... Чэсік цешыцца сваім багаццем, як дзіця, а Паўліха цешыцца Чэсікам. Дзякаваць богу, хлапцу ёсць у што апрануцца, ёсць што абуць. А людзі — ім ратоў не пазашываеш. Няхай сабе мелюць!

Нарэшце ўсё дабро зноў складзена ў шафу. Шафа замкнёна на ключ. І ключ схаваны за абразы.

На сэрцы ў абаіх лёгка і весела.

Тым часам пара і выганяць каровы з ранкаў, і Паўліха ідзе рыхтаваць Чэсіку торбу.

— Не баўся ж бо, дзеткі,— папярэджвае яна Чэсіка.— А то Мікодым будзе лаяцца.

Сама яна таксама спяшаецца. Ёй таксама пара на сваю ферму: каб хаця дзяўчаты не забылі паналіваць вады куранятам, а то пазаходзяцца ад смагі — гарачыня такая!..

— Глядзі ж, дзеткі, не пазніся! — яшчэ раз, з парога ўжо, наказвае Паўліха і бяжыць на ферму.

Чэсік бярэ торбу з ядой, бярэ пугу і, як штодня, як штолета, ідзе займаць калгаспыя каровы.

...Чэсік пагрозліва замахваецца — і раменная пуга свішча і сыкае ў паветры вужакаю. Каровы ведаюць Чэсікаву пугу і подбежкам, грузнучы па чэрава ў багне, перабіраюцца цераз канаву. Выбраўшыся на грудок, прагна прыпадаюць да смачнага роснага мурагу. Толькі і чутно: жвіў, жвіў, жвіў...

Сам Чэсік пераходзіць канаву па кладцы. Загад Мікодыма выкананы, і Чэсік можа пасядзець таксама. Адсюль каровы нікуды не пойдуць. Трэба толькі пільнаваць, каб старшыня калгаса не нарваўся.

Успамін пра старшыню калгаса зноў падкочвае да Чэсікавага сэрца дзве хвалі. Адна хваля цёплая і лагодная: да старшыні прыехала яго пані старшыніха, а яна такая прыгожая, такая вясёлая... Другая хваля нядобрая: яна студзіць Чэсікава сэрца і поўніць яго злосцю: а мо і праўду кажа Мікодым, што старшыня вылежваецца з пані старшыніхаю... І Чэсіку здаецца, што брыдчэйшага і горшага чалавека за іх старшыню калгаса няма на свеце. Здаецца, каб стрэўся з ім дзе-небудзь у лесе ці ў жыце — забіў бы! Такі кірунак думак робіць Чэсікаў твар тупым і звераватым.

— Чэсік, глядзі адно не ўпусці ў шкоду кароў!

Уладны Мікодымаў голас абуджае Чэсіка ад яго думак. Яны, як напуджаныя вераб'і, рассыпаюцца каторая куды, і Чэсік зноў застаецца сам сабою, з галоўным сваім клопатам — каровамі.

— Гляджу,— панура адказвае ён і накіроўваецца да белага каменя.

Камень гэты, нібыта яго ўзялі і наўмысля пагаблявалі, роўны і гладкі, што твой стол. На ім можна легчы і выцягнуцца — удоўж, упоперак. Можна сесці ўпяцёх. Можна скакаць нават. Ляжыць гэты белы камень тут з незапамятных часоў, і старыя кажуць, што ад яго і назва вёскі пайшла — Белая.

Узлезшы на камень, пабачыш, як бяжыць ўдалечыні Вілія, халодная, быстрацечная рэчка. Левы бераг яе нізкі, нібыта засланы зялёным аксамітам, толькі мясцінамі аксаміт перасыпаны, як вальцоўкай, мяккім залатым пяском. У гэтым пяску цэлае лета капаюцца вясковыя дзеці. Гэтыя пясчаныя мясціны выбірае сабе для вадапою заўсёды жывёла.

Правы бераг Віліі высокі, стромкі, чырвоны ад пластоў гліны, што залягаюць па той бок Віліі. На тым беразе магутныя лясы — дубовыя і хвойныя. Па той бок у невялічкіх маляўнічых вёсачках — Залессе, Падарэссе, Дуброва — кожны год плойма дачнікаў...

Там на цёплым залатым пясочку цэлае лета загараюць у стракатых купальніках гарадскія дачніцы. Каля іх, з берага, плёскаюцца і вішчаць ад захаплення іх дзеці, зялёныя і худыя, нібыта дома іх неармілі хлебам... За лета гэта худзеча так адбегаецца па цёплым пяску, так адап'ецца смачнага вясковага малака, так загартуецца пад давольным сонейкам і ветрам, што пад восень дзіўна робіцца, няўжо гэта тыя самыя заморкі?..

А то яшчэ вельмі цікава пазіраць, як прыбягуць на Вілію і пачнуць купацца гарадскія паненкі. Як пачнуць плаваць і дурэць! Вось паненкі дык прыгожыя! Тоненькія, зграбныя. Асабліва калі паскідаюць свае кароткія, нейкія ўсё роўна як надзьмутыя сукенкі ды панадзяваюць блакітныя і ружовыя каптурыкі...

Чэсік падбірае полы свайго некалі фарсовага афіцэрскага плашча (плашч гэты падараваў яму гадоў сем назад адзін палкоўнік, сын якога кожны год уцякаў у Белую на цэлае лета пасвіць калгасных коней) і, нібы цар, з пугай у руках умошчваецца на сваім каменным троне. З трона Чэсіку ўсё відно як на далоні: каровы, Вілія, у лагчыне за грудком аўсянае поле. Налева ад грудка — у засені старых негаманкіх хвой — могілкі. Не тыя вясковыя могілкі з крыжамі і помнікамі, з кустамі бэзу і лілеі, з птушыным шчэбетам і свістам — дзе хаваюць усіх вяскоўцаў. А зарослыя муравой, бязмоўныя, панурыя салдацкія могілкі — узгорачак на ўзгорачку, узгорачак на ўзгорачку — яшчэ з часоў першай імперыялістычнай вайны. Сярод іх узвышаецца некалькі большых узгоркаў — няйнакш брацкія магілы. На гэтых могілках не захавалася ні надпісаў, ні імён, ні нават крыжоў. Надпісы сцёрліся, імёны забыліся, а крыжы з цягам часу збуцвелі і згнілі доле.

Чэсік любіць блукаць па гэтых бязмоўных могілках, якія, хоць і падступаюць да самых вясковых гумен і агародаў, цяпер ужо нікога не палохаюць, не хвалююць і не цікавяць нават... У Белай не памятаюць, каб на гэтыя могілкі прыязджаў ці прыходзіў нават і хто-небудзь блізкі тым, што ляжалі тут у радок больш паўвека. Відаць, гэта былі могілкі загінуўшых без вестак. Без вестак загінуўшых...

Чэсік не ўмее адрозніць часоў і баёў. Яму здаецца, што і яго бацька, салдат другой сусветнай вайны, таксама ляжыць недзе тут. Трэба толькі знайсці, трэба толькі адгадаць бацькаў узгорачак...

Некаторы час Чэсік сядзіць на сваім камені-троне нерухома. Потым ён устае, тупае і, як генерал з вышыні свайго каманднага пункта, аглядае наваколле. Каровы ходзяць. З-за лесу выплыў і паволі коціцца па небе чырвоны бохан сонца. Святлее неба, і ўсё навокал святлее. І ў Чэсіка на душы робіцца святлей...

— Чэсік! Ты не заснуў там? — зноў турбуецца па той бок канавы Мікодым. Ён усё пад тым самым дубам — ён лішняга кроку не зробіць: а навошта Чэсік?

— Не заснуў! — павесялеўшым голасам адгукваецца Чэсік.

— То мо будзем выганяць... Каб старшыня часам не нарваўся...

Каб старшыня не нарваўся — сам Чэсік баіцца гэтага больш за Мікодыма. Баіцца, што старшыня будзе сварыцца на іх за тое, што ўпусцілі кароў у сенакос. Баіцца, што Мікодым раптам возьме ды скажа, што гэта не ён загадаў, а Чэсік сам узяў ды загнаў кароў на грудок... А самае галоўнае, што гэтага старшыню Чэсік сёння гатоў забіць.

Да старшыні прыехала з горада, яна кожнае лета прыязджае, яго пані старшыніха... Па тутэйшаму звычаю — усё яшчэ на польскі манер — яе так і завуць «пані». Пані, хоць яна і ходзіць разам з усімі жанкамі на работу, хоць умее і жаць, і сена грэбці, і лён браць і біць... І гаворыць, як усе гавораць у Белай. А ўсё роўна — пані. Бо ў горадзе яна вучыць дзяцей у школе. У горадзе яна ходзіць у капелюшы і пальчатках. А з горада як прыедзе сюды — твар у яе белы і далікатны, а не такі, як у тутэйшых жанок і дзяўчат... І сукенкі ў яе гарадскія, прыгожыя. І сама яна такая прыгожая, такая вясёлая і добрая...

— Займай, Чэсік! — падае каманду Мікодым.

І Чэсік злазіць з каменя і — свісь, свісь пугай — займае кароў з сенакосу. Ого, вунь якія круглыя зрабіліся! А здаецца, толькі што ўпусцілі. Вось сёння дзяўчатыдаяркі будуць хваліць яго, Чэсіка! Будуць адна перад другой упрошваць яго, каб узяў замуж — гэтак ён умее добра напасвіць кароў! Але на чорта яны ўсе Чэсіку. Нават Дуню Ушакевічаву Чэсік не ўзяў бы замуж, хоць яна і самая харашэйшая даярка, хоць яе і ў газету здымалі. На чорта і Дуня Чэсіку!.. Вось каб яна была такая, як пані старшыніха...

— Выкругліліся.— Мікодым ужо стаіць з кіем, пільнуе кароў ад загарадзі, каб каторая ўпраўнейшая ў калгасныя буракі не джганула.— Глядзі, Чэсік, каб цябе сёння дзяўчаты-даяркі не папацалоўвалі — каровы гэтулькі малака дадуць,— дражніць Чэсіка Мікодым.

— На чорта яны мне,— агрызаецца Чэсік.

— Дурны... «На чорта». Гэта дзяўчаты на чорта? Ого, брат, каб я меў столькі гадоў, як ты, я б пахадзіў каля іх...

— Ну, дык і хадзеце...— Гэтыя дурныя Мікодымавы жарты кожны раз толькі злуюць Чэсіка: патрэбны яму гэтыя дзяўчаты!

І, каб не слухаць Мікодыма, Чэсік займае кароў і барзджэй, барзджэй и выгану ў лес. Там таксама будзе дзе пахадзіць каровам... А самае галоўнае — у лесе, на маладых пасадках, можна ўжо будзе назбіраць суніц. Можна будзе знайсці гняздзечка і непрыкметна ўкрасці адно ці два яечкі... Суніцамі ён пачастуе пані старшыніху, яна, напэўна, не каштавала іх яшчэ сёлета. А яечкі аддасць пані старшынісінаму хлопчыку...

Мікодым ідзе ззаду чарады і толькі пасміхаецца ўслед Чэсіку: дурны-то дурны, а бач, упадабаў пані старшыніху...

* * *

У лесе Чэсік украў у сініцы-дуплянкі пяць маленечкіх блакітных яек. А на пасадцы назбіраў салодкіх духмяных суніц. Яйкі ён загарнуў у шырокі кляновы ліст і паклаў іх за пазуху — так не забудзеш пра іх і не падушыш. А суніцы насіў, насіў у прыгаршчах, а потым даўмеўся — высыпаў іх у шапку...

І вось, прыгнаўшы каровы на ранкі, Чэсік крадком абміноўвае чырвоны куток на калгасным двары (каб

дзяўчаты-даяркі не заўважылі — яны ніколі не даюць яму праходу), крадком уцякае ад Мікодыма, хоць звычайна дадому ідуць яны разам. Сёння ў Чэсіка іншы клопат, і ён, як быў з раніцы ў плашчы і цяжкіх гумавых ботах, так і ідзе ў суседнюю брыгаду, дзе кватаруе іх старшыня калгаса і куды ўчора прыехала пані старшыніха.

Чэсік ідзе сцежачкай між высокіх жытоў і ўяўляе сабе, як прыйдзе вязаць у жніво гэта жыта пасля жняяркі пані старшыніха. І як ён, Чэсік, таксама прыйдзе сюды і будзе, як і летась, памагаць ёй зносіць снапы, каб яна ног не пакалола ржышчам, і ставіць іх у бабкі... А да жніва яшчэ, як пачнецца касьба, як пачнецца грэбля сена, ён таксама будзе ладаваць за пані старшыніху ладкі і будзе насіць за яе копы да стога, каб у яе сярэдзіна і рукі не балелі... А пачнуць некалі лён біць на таку — ён і на лён будзе хадзіць, будзе памагаць біць. Ён не тое што бабы: ляп-ляп пранікам — і знаку ніякага няма.

Захапіўшыся разважаннямі, Чэсік не заўважыў нават, калі ён прыйшоў да старшынёвай хаты. Ён зайшоў з прыгумення, агародамі і, не адважваючыся зайсці адразу на двор, стаіўся за хлеўчыкам... Вось выбег з хаты і пагнаўся за катом бялявы хлапчук. Чэсік пазнаў яго — пані старшынісін сынок Коля — і памацаў у сябе за пазухай, ці не падушыліся яечкі... Неўзабаве за Колем старшынёва гаспадыня цётка Ганька вынесла нейкі белы скрутак (Чэсік не разабраў добра: дзіця, ці што?) і схілілася з ім над каляскай, што стаяла ў цяньку пад ігрушай-сапяжанкай. Скрутак раптам заварушыўся і заплакаў. Чэсік упэўніўся: дзіця. Толькі дзе яна ўзяла яго, гэта старая Ганька? Цётка Ганька загойдала каляску.

У гэты час расчынілася насцеж акно на старшынёвай палавіне, і голас, які Чэсік пазнаў бы за светам, паклікаў:

— Коля! Ідзі, сыночак, выпі цёпленькага малачка.

— Ай! — адказаў Коля, аберуч трымаючы ката.

А цётка Ганька таксама сказала Колю:

— Ідзі, дзеткі, выпі кубачак.

Але ёй Коля таксама адказаў «ай» і пабег з катом на вуліцу. А голас, ад якога ў Чэсіка закалацілася ўсё ўсярэдзіне, зноў сказаў з хаты:

— Цётка Ганька, не трэба яе калыхаць. Я буду зараз яе карміць. Дома я яе ніколі не калышу.

Чэсік здагадаўся: значыць, гэта пані старшынісіна дзіця. А летась яго не было...

А потым з хаты выйшла сама пані старшыніха. Сонца свяціла ёй проста ў вочы, і яна спынілася на ганку, зажмурылася, засмяялася.

— Ой, цётка Ганька! Як тут у вас добра, як хараша! — усклікнула яна.

Яна не была ўжо такой тоненькай, як летась. І залатыя валасы яе ўжо не плылі па спіне хвалямі, а былі закручаны ў вузел і заколаты на патыліцы. І плацце на ёй было другое. Летась яна цэлае лета хадзіла ў белым. Аднак Чэсік не заўважыў гэтае розніцы. Чэсік нічога не заўважаў.

Не зводзячы з пані старшыніхі вачэй, ён раптам і сам засмяяўся і зажмурыўся. І, не выпускаючы шапкі, працягнуў рукі насустрач пані старшынісе...

— А ў горадзе зараз такая гарачыня, такая пылішча!..— яна лёгка збегла з ганка і нагнулася над каляскай.

— Есці хоча,— зноў засмяялася яна — ужо да дзіцяці.— Дзве гадзіны.

І Чэсік зноў таксама ціха засмяяўся.

— Дзіва што хоча. Не пара хіба... У нас, у вёсцы, дык пра гэтыя гадзіны ніхто і вухам не вядзе. Захацела дзіця есці, дык маці ўзяла ды дала яму цыцку. А вы там у горадзе, вучоныя, усё па гадзінах ды па кнігах — і корміце і спаць кладзяце...

Дзіця зноў заплакала, і, сеўшы тут жа на траву, пані старшыніха расшпіліла сукенку і пачала яго карміць грудзьмі. Дзіця ссала прагна, ад асалоды і задавальнення круцячы галоўкай і тыцкаючыся носікам у цёплыя матчыны грудзі.

— Бач, выгаладалася.— Цётка Ганька пастаяла яшчэ хвіліну і пайшла ў хату.

А Чэсік усё не мог крануцца з месца, усё стаяў за хлеўчыкам і як зачараваны глядзеў на пані старшыніху.

У гэты час з плачам прыбег з вуліцы Коля, са свежай драпінай на шчацэ.

— Мама... мяне коцік...

— А я табе колькі разоў казала,— не бяры коціка на рукі, не цягай яго... Ён не любіць гэтага.

— Я толькі хацеў пакупаць яго ў сажалцы...

— А ён цябе прасіў купаць яго?.. Ну, хадзі сюды. А то напужаеш маленькую.

Размазваючы голай рукой па твары слёзы, Коля падышоў да маткі і ўмасціўся ёй на другое калена. Яна абня-

ла яго адной рукой, але яму так было нязручна, і ён сярдзіта ўзваліўся на сястру. Маці лёгенька адапхнула яго, але ён, яшчэ больш закапрызіўшы, стукнуў маленькую па голаму сцягенцу. Маленькая зацяклася ад раптоўнага болю, а маці сярдзіта сапхнула Колю на траву.

— Ты што гэта! Ану — ідзі прэч ад мяне... Я не люблю такіх нядобрых дзяцей.

— Ай! — зароў Коля і зноў палез да маці на калені, абхапіў яе за шыю і таксама прыціснуўся да грудзей.— I я хачу-у-у...

— Ну, пачакай, пачакай,— зразумела яго маці.— Вось накормім сястрычку, пакладзём яе ў каляску, і тады мы будзем з табою...

Але Коля не хацеў нічога слухаць.

— Яна брыдкая! — зноў замахнуўся ён на сястру, але маці ў час спыніла яго руку.

— Ды не... Яна проста маленькая яшчэ і дурненькая... А ты ж у нас ужо вялікі, ты ў нас разумны...

— Ай! — усхліпваў Коля і цясней хіліўся да маці, да яе цёплых грудзей, да яе ласкавых рук і пяшчотных пацалункаў.

...А Чэсік стаяў за хлеўчыкам, глядзеў на іх усіх траіх і ўсё стараўся нешта ўспомніць. I не мог успомніць...

Ён глядзеў, як пані старшыніха карміла грудзьмі малое дзіця, як яна лашчыла і пяшчотна цалавала Колю, глядзеў і як быццам бачыў ужо не іх, а бачыў — успамінаў нейкую другую жанчыну і другіх дзяцей... Праўда, тая другая жанчына была ў хустцы, была ў нечым цёмным, і дзіця на руках у яе таксама было ў цёмным... I хлопчык таксама сядзеў. Толькі не на каленях у маці, а на прымурку. Болей ён нічога не памятаў, ён толькі пакутліва намагаўся ўспомніць. Дзе ён гэта бачыў... Калі гэта было... Хто была тая жанчына...

— Пані старшыніха...— шэпча Чэсік.— Мама!.. Мама!..— паўтарае ён, раптам пазнаўшы яе...

Толькі дзе яна была столькі гадоў?.. Чаму яна гэтак доўга не ішла?..

— Мама! — галасна крычыць Чэсік.— Мама!..— і бягом, па градах, па загуменню, праз жыта кідаецца да свае старое хаты, што стаіць за лазню на беразе рэчкі.

...На разоры застаецца ляжаць толькі Чэсікава шапка. А ў шапцы — жмені са дзве суніц — пані старшынісе...

1964

## АДНО ІМГНЕННЕ

*С. Г. Р.*

...Потым, у сваёй майстэрні, цэлы дзень Сіўцоў адчуваў сябе нязвычна маладым і акрыленым. Адчуваў здольным на самыя адважныя задумы і ўзнёслыя парыванні. Нібыта было яму не сорак восем гадоў, а ўсяго толькі якіх дваццаць.

Звычайна ў яго было распачата некалькі работ адразу. Сярод іх заўсёды адна была галоўная. Да яе ён быў прыкуты, як катаржнік да тачкі. Нават і тады, калі не мог па цэламу тыдню прымусіць сябе падысці да яе, крануць кісцю. Ці калі ў дні ганарару з вясёлымі і бесклапотнымі жанчынамі запіваў вінам інтэлектуальныя спрэчкі (якія яны любілі заводзіць з такім глыбакадумным выглядам).

Нешта з яго работ заўсёды было для душы. Так і цяпер: грэлі яго амаль дапісаныя ўжо лугавыя званочкі ў белым фаянсавым гладышы на акне. (Загад малодшае дачкі: «Тата, мне намалюй!») У акно вее і лёгка надувае карункавую гардзіну гультаяваты чэрвень. Гудзе чмель. За гардзінай... Зрэшты, кожная гардзіна хавае сваю таямніцу.

«Тачка катаржніка» і тое, што прыносіла ўцеху, як ні дзіўна, займалі ў яго думках і сэрцы месца заўсёды побач. Асабняком стаяў і падаваў час ад часу праціўны голас зусім іншы клопат. Здзекуючыся з сябе, Сіўцоў зваў гэты клопат так: «Для дому, для грошай, для жонкі...»

На гэты раз («для дому, для грошай, для жонкі») на на стале ў яго ляжаў «пухавік» — чатырыста старонак добрасумленнага шэрапісу. Ён ніяк не мог дацягнуць іх да канца — абы толькі браўся за чытанне, як адразу хіліла на сон. Была падпісана ўмова, і аванс ужо быў пражыты, а ў яго накідана ўсяго адна толькі застаўка...

...Сіўцоў нават не адчуў задышкі — гэтак лёгка ўзнеслі яго ногі на шосты паверх, на седала, як празвалі сябры яго майстэрню.

На гэты раз ён не адчуў таксама раздражнення і да свайго «пухавіка» на стале — ён толькі ляпнуў па ім рукою, як ляпаюць па плячы наведвальніка, які надакучыў і ад якога хочацца хутчэй адвязацца: «Ладна, таварыш нуднік, дачакаешся ты мяне...»

Потым Сіўцоў з трэскам адчыніў акно і, перахіліўшыся цераз падаконнік, нейкі час глядзеў уніз, у глыбіню суседняга саду — там цнатліва бялелі ружы.

«Я встретил вас — и все былое в отжившем сердце ожило. Я вспомнил время...» Ён не ўспамінаў яго свядома, ён даўным-даўно не чуў яго. Словы і мелодыя старадаўняга раманса (Сіўцоў памятаў яго яшчэ з дзяцінства — бацька-каморнік любіў спяваць) раптам самі аднекуль наплылі на яго, затрапяталі ў горле, крануліся вуснаў.

У Сіўцова не было музычнага слыху, голасу ён таксама не меў. Ён спяваў толькі ў кампаніях, дзе былі яго сябры і дзе, як гаварылася між імі, «было воспринято»... І таму, сфальшывіўшы на першай фразе, ён не стаў больш спяваць. Сплёўшы пальцы на галаве і злёгку адкінуўшыся назад, ён уголас пачаў чытаць вершы Цютчава: «Как поздней осени порою бывают дни, бывает час, когда повеет вдруг весною и что-то встрепенется в нас... Тут не одно воспоминанье, тут жизнь заговорила вновь,— и то же в вас очарованье, и та ж в душе моей любовь!..»

...Божа мой, усё ж адбылося ў адно толькі імгненне. У адно імгненне... Трамвай раптам затармазіў, і ўсе, хто стаяў на праходзе, пападалі адзін на аднаго. І яна таксама, каб утрымацца на нагах, сутаргава схапілася за яго рукаў. Ён чытаў у гэты час газету, і яны стукнуліся галовамі. Ён не паспеў нават разгледзець яе твару, ён толькі адчуў на сваёй шчацэ дотык яе валасоў і ледзь улоўны іх пяшчотны пах.

— Прабачце!..— спалохана і ў той жа час неяк адчайна весела зірнула яна яму ў самыя вочы (якога колеру былі вочы ў яе самой?) і паволі пачала накіроўвацца да выхада.

Ён глядзеў ёй услед, пакуль яна не выйшла з трамвая. Глядзеў і адчуваў: разам з ёю выйдзе і знікне нешта такое, што за адно гэта імгненне раптам парадніла іх. Ён пакляўся б, што прачытаў гэта і ў яе вачах таксама, калі яны стрэліся позіркамі. Яна выйшла з трамвая і чакала, пакуль праедуць машыны, каб перайсці на тратуар. Яна стаяла спіной да акна, і ён, не зводзячы з яе вачэй, маліў яе: «Азірніся... Азірніся...» Яна чакала машын. Трамвай рушыў з месца — і тады яна таропка азірнулася на акно, на яго. Позіркі іх сутыкнуліся. Яна спешна перайшла дарогу і спынілася. І азірнулася зноў. Можа, яна папраўляла прычоску — на вуліцы быў вецер. Сіўцову ж здалося, што яна ўзняла руку для развітання. З ім...

Божа, які асел! Які ён асёл!.. Каб праехаць адзін, усяго адзін толькі прыпынак, ён не сышоў следам за ёю... Ён не адказаў бы сам сабе на пытанне: а што б ён сказаў гэтай жанчыне, як бы ён паводзіў сябе з ёю? Яна не была падобна на жанчын, ахвочых да выпадковых знаёмстваў. І сам ён таксама, хоць і любіў жанчын, не любіў банальных раманаў.

Ён не здолеў бы растлумачыць ні сабе самому, ні каму іншаму, што з ім здарылася такое — нібыта яго маланкай апаліла. Ён ведаў пэўна толькі адно: жанчына гэта была яму патрэбна. Недзе, некалі, па недарэчнай выпадковасці, ён размінуўся з ёю. І вось яна мільгнула, нібы маланка, імгненна апаліла яго і зноў знікла.

Ён не пайшоў адразу ў сваю майстэрню. Ён абышоў два кварталы, насустрач ёй, хоць добра разумеў, што яна магла павярнуць і направа, неабавязкова налева... Яна, мусіць, і павярнула направа. Ці зайшла па дарозе ў паліклініку, ці бібліятэку, ці ў гарадскую білетную касу. Колькі дзвярэй магло адчыніцца перад ёю, колькі кірункаў магла выбраць сама яна. Ён не заходзіў ні ў адны дзверы, не збочваў нікуды з таго адзінага напрамку, па якому павінна была ісці яна, калі б жадала стрэчы з ім гэтак жа моцна, як жадаў ён. Яны не стрэліся на гэтай прамой дарозе. (Усе стрэчы адбываюцца звычайна на нейкіх выпадковых завулках.) Зрабіўшы круг да таго трамвайнага супынку, які ён праехаў і дзе выйшла незнаёмка, Сіўцоў спыніўся, пастаяў некалькі хвілін на тым месцы, дзе стаяла яна, і зусім механічна, як і яна гэта зрабіла, ні то прыгладзіў валасы, ні то памахаў ёй на развітанне.

І паволі накіраваўся ў сваю майстэрню.

Яму было і сумна і ў той жа час нейк незвычайна светла і лёгка на душы. Уся істота яго за гэты час, пакуль ён ішоў насустрач сваёй незнаёмцы, нібыта паспела акунуцца ў жывую ваду. І яму самому здавалася, што з гэтай жывой вады ён выйшаў зноў маладым і чыстым, даверлівым і акрыленым. Ён крочыў шырока і лёгка, зусім не адчуваючы сваіх сарака васьмі гадоў, і яго, як і некалі Андрэя Балконскага, акрыляла спадзяванне: «Няпраўда, яшчэ нішто не скончана! Яшчэ ёсць жаданне і жыць, і тварыць, і любіць таксама...» Любіць!.. Сіўцоў да болю ў сэрцы раптам адчуў пакутлівую радасць гэтага пачуцця. Ён любіў бы яе, гэту жанчыну, з якой стрэўся і размінуўся паўгадзіны таму назад. Ён любіў бы яе!

...Сіўцоў зрабіў імклівы круг па майстэрні, спыніўся

перад мальбертам, змахнуў з яго выцвілае рудое пакрывала.

— Здаровы, арлы! Як тут у вас ідзе без мяне нарада?

І хоць «арлы» — нарада перад боем у зямлянцы камандзіра — нічога яму не адказалі, сёння ён глядзеў на іх таксама зусім іншымі вачыма, чым мінулы раз, тыдні два таму назад. Тады яму карціна яго раптам здалася такой безнадзейна шэрай і бяздарнай, а самае жахлівае — нікому не патрэбнай... Бог ты мой, колькі сам ён перагледзеў на розных выстаўках і ў музеях вось гэтакіх жа бравых камандзіраў і начальнікаў, як і яго, гэтакіх жа заліхвацкіх разведчыкаў і разведчыц у кажушках і з абавязковымі чырвонымі стужкамі на вушанках... Дык не, яшчэ і ён туды ж... Быццам яму невядома, што ўся гэта прыгажосць не што іншае, як куродым, што напусцілі яго браты-мастакі.

Сёння на сваіх арлоў Сіўцоў глядзеў зусім іншымі вачыма.

Ну, а хіба Мікалай Пшанічны — камандзір партызанскага атрада — не так збіраў іх у сваёй зямлянцы перад боем? А Вера Сафонава, Вера... Хіба яна была іншая: «Таварыш камандзір атрада, баец Сафонава з'явілася па вашаму загаду!» Стан перацягнуты па кажушку шырокай папругай, чырвоная ад марозу і сівеpу рука каля вуха. Зімовая тоненькая арабінка... А начальнік штаба масквіч Шэвелеў: «Я почти Иван Иванович — я Виктор Викторович» — гэта калі неабходна было пусціць туман у вочы, асабліва жанчыне... Ды і цябе самога, браце Саша, хіба не такім жа студэнтам у акулярах і чаравіках (ад марозу яліны трэскаліся!) прывялі ў той снежаньскі лес сорак першага года?.. Ты ж не выставіў сябе на пярэдні план (як-ніяк, гісторыя!) і аўтамата нават не павесіў цераз грудзі, хоць мець з ім справу даводзілася не раз і не два. Значыць, і тыя як быццам на месцы... Ну добра, добра, падумаеш, «Яўленне Хрыста народу»... Падумаеш, знайшоўся геніяльны Аляксандр Іваноў з посахам... Ды не, брат, разумею сам, што не «Яўленне» і што не Аляксандр Іваноў, а ўсяго толькі Аляксандр Сіўцоў — а ўсё ж які ні ёсць, а жывапісец свайго вялікага часу, свае эпохі... І таму — бярыся, мазіла, за кісць, закасвай рукавы і — да поту, пакуль не знямее рука!..

Канечне, у разведчыцы колер твару трэба збавіць... Пры гільзе, якая да таго ж яшчэ і капцела, дзяўчат такіх квітнеючых не наглядалася. Ды і настрой быў не той. За-

быў, мусіць: «Сашка, калі выжывем толькі, навек, назаўсёды будзем разам...» Выжылі! І не адзін бой выжылі. А дзе яно тое «навек будзем разам»?..

І ў самога камандзіра занадта жалезная рука. Пшанічны ўмеў крануць сэрца — таму і налягаў больш на яго, чым на кулак. А тут справа вядомая: пасля заўтрашняга бою ён ужо не з усімі імі вось так вочы ў вочы стрэнецца... Ды і сам ён не зачараваны. Не зачараваны...

Рука ўжо не слухалася Сіўцова. Камандзір атрада патрабаваў ад яго чалавечнасці — у імя справы, у імя перамогі!.. Чорт вазьмі, тут лёгка было збіцца на чуллівасць, здацца сентыментальным.

Рука яго трымала кісць і рабіла сваю справу зусім незалежна ад яго самога. Ахоплены тым парывам творчай страсці, які як быццам у кулак сціскае ўсю тваю энергію, Сіўцоў не заўважыў нават, як прайшло за працай некалькі гадзін. Лоб яго спацеў, ад напружання здранцвела рука.

Сіўцоў адклаў кісць, таропка падышоў да стала, закурыў цыгарэту. Шчаслівейшых мінут, чым такія вось мінуты неўсвядомленага творчага натхнення ў мастака, не ведаюць нават закаханыя.

...Цяпер, курачы ля акна і адпачываючы, Сіўцоў зноў успомніў яе. Нешта няўлоўнае ў ёй нагадала яму Веру. Пасадка галавы, позірк, рост. Толькі валасы — у Веры яны адлівалі золатам. Там... Тады... Праўда, за дваццаць пяць гадоў і золата зробіцца цьмяным...

Так усё склалася, што як быццам ніхто з іх траіх ні ў чым і не быў вінаваты. Ні яны, абедзве. Ні ён сам. Так павярнулася жыццё... Тады, у ліпені сорак чацвёртага, ён адразу ж пасля партызанскага парада ў Мінску апынуўся ў эшалоне, які адпраўлялі на фронт. Вера таксама: з лесу — і ў свой педынстытут, канчаць... З Машай стрэліся ў шпіталі, у канцы таго ж сорак чацвёртага. (Так што ў яго самога не было: «Даёш Берлін!..») Тады, пасля кантузіі, Маша выхадзіла яго з матчынай цярплівасцю. І ён астаўся з ёю. Астаўся, хоць была між імі розніца на пятнаццаць гадоў, быў у Машы муж-п'яніца і былі дзве дзяўчынкі... Пра пятнаццаць гадоў яны ніколі не гаварылі (тады гэтыя пятнаццаць гадоў зусім не заўважаліся), з мужам Маша развялася, а дзяўчынкі вельмі хутка прывыклі да яго і пачалі зваць татам... А там за першыя тры гады сумеснага жыцця Маша нарадзіла яму яшчэ дзвюх дачок.

І тады шукаць Веру, і пісаць ёй пісьмы, і нешта тлумачыць ужо не мела сэнсу.

З таго часу, за ўсе гэтыя дваццаць пяць гадоў, ён стрэўся з Верай адзін толькі раз: на партызанскім парадзе ў Доўскім лесе... Там яны некалі ўдваіх, разам, хадзілі ў разведку, хадзілі на жалезку. Там, у Доўскім лесе, яны кляліся адзін другому: калі толькі застануцца жывымі, быць назаўсёды разам...

Больш на партызанскія стрэчы Вера не прыязджала ні разу. І Сіўцоў ведаў (і не толькі адзін ён ведаў гэта), не прыязджала таму, што прыязджаў ён — кожны раз спадзеючыся на стрэчу з ёю. У яе жыццё не ўдалося. Праз два гады пасля замужжа аўдавела. Не засталося дзяцей. Другі раз замуж не пайшла.

Сіўцоў усё гэта ведаў.

А Маша? Маша была мудрай жонкай. Другая на яе месцы прыгняла б яго папрокамі і грызнёй, патрабуючы законнага кахання. (Маша раней яшчэ за самога Сіўцова зразумела, што іх абагульняла і трымала.) А яна ведала іншае: ніякае каханне, нават самае палкае, не магло збудаваць яе сямейнаму дабрабыту больш надзейнай бастыліі, чым яе чатыры дачкі. І самае галоўнае было тое, што ў самога вязня ніколі б не паднялася рука на падкоп пад гэту сваю бастылію... Чатыры дачкі!.. Дзве старэйшыя, паслухмяныя, добрыя, як дзве кроплі вады падобныя на шаснаццацігадовую Машу-перапечку з даваеннай фотакарткі. І дзве малодшыя, наадварот, як сухары, худыя, гарэзы песты...

Надзеленая не столькі розумам, колькі прыроджаным інстынктам самазахавання і захавання свайго сямейнага дабратыту (магутнейшая зброя жанчыны!), Маша ніколі не ўмешвалася ў мужавы справы і занятні і давала яму поўную волю. Нават калі здагадвалася і калі напэўна ведала пра яго грахі. У яе не было таксама звычкі (як у іншых жонак) вытрасаць да апошняй капейкі мужавы кішэні ці, яшчэ горш, у дзень палучкі званіць у бухгалтэрыю і цягацца з мужам атрымліваць ганарары. Свой сямейны дабрабыт Маша будавала на павазе і даверы. (Ні адзін, праўда, чалавек на свеце не ведаў, чаго каштаваў ёй гэты давер!) І сапраўды, Сіўцоў палічыў бы сябе апошнім нягоднікам, калі б ён не зарабіў і не прынёс штомесяц дадому, сям'і, Машы тых грошай, якія абавязаны зарабляць і прыносіць дадому, у сям'ю, жонцы кожны пристойны мужчына — галава сям'і. (Таму і ляжаў на яго рабочым стале той добрасумленны «пухавік» на чатырыста старонак.)

...Запалонены ўспамінамі пра даўно мінулае і пра тую штодзённую прозу жыцця, у якой захлынаецца (і захлынулася!) столькі высакароднейшых людскіх парыванняў, Сіўцоў са злосцю стукнуў кулаком па нямілым рукапісе (вось табе!) — нібыта гэта ад яго распладзілася ўся жыццёвая проза і шэрасць, і рэзка павярнуўшыся на абцасах, паспешліва зноў вярнуўся да мальберта.

...Камандзір атрада па чарзе пераводзіў позірк з аднаго твару на другі: «Такая абстаноўка, браткі...» Вочы начальніка штаба (ён і ў гэты момант не забываў, што поруч з ім сядзела прыгожая жанчына) жмурыліся ва ўсмешцы мужчыны, які не ведаў паражэнняў: «Я почти Иван Иванович — я Виктор Викторович...»

І толькі разведчыца і малады студэнт-мастак (яшчэ нават без аўтамата) хавалі ў позірках нешта сваё, затоенае, што цяпер не ўмеў зразумець нават сам Сіўцоў.

*1967*

# ХТО — ДУРАНЬ?..

Настрой у Аўсяніка быў паганы: нашкроб па кішэнях на адзін толькі кухаль піва. Аўсянік прыпаў да кухля, нібыта сто гадоў у вочы не бачыў пітва, асушыў яго адным духам і, нездаволены і раздражнены сваім жыццём, падаўся з піўной. Сапраўды, дзеля якога д'ябла выцягваецца ён штодня ад цямна да цямна. У людзей як у людзей — ва ўсіх па два выхадныя ўжо, а ў яго вечна гэта налева, вечна халтура... А каб на лішні кухаль піва — дык зроду няма ў запасе рубля. Учора, не паспеў штаноў, здаецца, яшчэ скінуць, як ужо абчысціла кішэні. Толькі ўсяго і меў з таго авансу, што глынуў и напарнікам Васькам з-пад стала ў забягалаўцы. Белую галоўку — на дваіх... А сёння з таго авансу — кавалак сухога хлеба з каўбасой і агурком у кішэню. Ад клапатлівай палавіны. У-у... Палавіна! Разнясло, што піўную бочку, без клопату, як у другіх баб: раджаць ды гадаваць дзяцей, ды пра мужыка думаць... Толькі і ведае: «Валодзька, дзе аванс? Валодзька, давай палучку!..» І паспрабуй не аддай. На ўсю вуліцу будзе: і п'яніца, і гультай, і пустадомак... І мала што яна, дык яшчэ і старая сава — цешча — кугакае са свайго кутка... Узяць бы ды шугануць абедзвюх на ўсе чатыры бакі. Мая кватэра, я тут гаспадар, а вы тут хто такія?.. З табой, галубка (да жонкі), мы не распісаны нават, а цябе (да цешчы) я знаць не знаю і знаць не хачу...

З такім настроем вяртаўся Аўсянік дадому.

Дома жонкі не застаў — была на другой змене. А цешча таксама — паехала да сваякоў на вёску. Задаволены, што ніхто не будзе яго пілаваць, Аўсянік адразу ацаніў абстаноўку: разабраць пасцель і заваліцца спаць. Да заўтра!.. І хоць быў ён злосны і абураны, сямейную сваю крэпасць — двухспальны нікеляваны ложак — разбіраў акуратна і па парадку: спачатку зняў і роўненька склаў карункавыя накідкі, потым капу, потым падзор. Толькі падушкі, хоць і непатрэбна было іх столькі, умасціў усе чатыры. (На злосць жонцы, бо ёй і падушак шкода — яму дык заўсёды самую горшую падсуне.)

...Пашкрэбалася ў дзверы і паклікала суседка па кватэры:

— Валодзька! Ты ўжо дома, Валодзька?

— Ну, дома...— азваўся Аўсянік, усё яшчэ пад уладаю свайго паганага настрою.

— Табе пісьмо. Пісьмо табе.

— Пісьмо?.. Мне?..— Аўсянік не памятаў ужо, калі пісаў сам пісьмы, не памятаў, калі пісалі яму.— Цікава, хто гэта здурнеў...

Ён выйшаў на калідор.

— Дзе яно?

— У кухні, на шафцы.

Суседка, старэнькая цётка Фаня — адзінокая з вайны жанчына,— сама была здзіўлена не менш за Аўсяніка: Валодзьку — і раптам пісьмо!

— З пошты прынеслі,— як быццам зрабіла адкрыццё, паведаміла яна.

— З пошты? — усё яшчэ не верачы, пакруціў пісьмо ў руках і паглядзеў яго на свет Аўсянік.— Мне?

— Табе, а каму ж... Там жа напісана: «Уладзіміру Іванавічу Аўсяніку»... Я дык і не ведала, што ты Іванавіч. Усе Валодзька ды Валодзька...

— «Усе»... Гэта ж толькі мае дурныя бабы «Валодзька»...

Пакруціўшы пісьмо ў руках, Аўсянік нарэшце адважыўся распячатаць яго.

«Дарагі, глыбокапаважаны Уладзімір Іванавіч! Прабачце, што турбуем вас, але без вас мы зусім прапалі. Коля забыў зачыніць дзверы на балкон, і бура пабіла акно ў маім пакоі. І мы не ведаем, што нам цяпер рабіць. Трэба недзе браць шкло. Але дзе яго браць і як яго ставіць? Такія вялікія шыбы... Прыедзьце, калі ласка, і памажыце нам. Галіна Андрэеўна».

Аўсянік аж успацеў, пакуль дачытаў пісьмо. Адразу яму здалося, што тое, што ён прачытаў, яму ні то сніцца, ні то трызніцца... «Глыбокапаважаны... Дарагі... Прабачце...» Ён забыў ужо, як гучаць гэтыя словы. (А яны ж гучалі некалі, гучалі!..) І таму яму здалося, што здарылася нейкая памылка і ён чытае не сваё, а чужое пісьмо. Але памылкі не было: пісьмо адрасавалася (ён перачытаў яго некалькі разоў) яму. І гэта не іншага некага, а менавіта яго,— яго! — звалі глыбокапаважаным Уладзімірам Іванавічам, і гэта яго прасілі памагчы. Прасілі... Прасіла цудоўная жанчына... У Аўсяніка аж захліснула ў грудзях, аж сціснула горла.

— Цётка Фаня! Пачытайце. Вось...— працягнуў ён пісьмо суседцы.

— Што здарылася, Валодзька, што? — спалохалася цётка Фаня і залапала сябе па кішэнях халата: дзе тыя акуляры, дзе?..

І яна, гэтак як і сам Аўсянік, некалькі разоў перачытала пісьмо, адразу не паверыўшы, ці сапраўды яму яно. Вяртаючы пісьмо Аўсяніку, цётка Фаня расчулена пакруціла галавой.

— Якія далікатныя людзі ёсць на свеце... Такое пісьмо не ўсякі напіша... Дык ты ж не лянуўся, пайдзі і памажы ёй. І адразу ж! — загадала яна Аўсяніку, інстынктам адзінокай жанчыны ўгадаўшы сваю горкую сястру.

— Пайду, няўжо ж не пайду! — аж заззяў Аўсянік.

— Пачакай. А хто ж яна, гэта самая твая знаёмая? І адкуль ты яе ведаеш?

— Ды летась яшчэ... Халтурыў у яе... Новы дом засялялі. Ну, рэч вядомая: таму замок паставіць, таму кран замяніць, таму... Ну, мы з Васькам і пайшлі па кватэрах. Я пазваніў акурат да іх. Яны на самай верхатуры, на адзінаццатым паверсе. Яна і дзеці. Цвіка няма каму забіць. Трое дзяцей. Дзве дзяўчынкі і пляменнік-сірата — у школу яшчэ таксама ходзяць... Ну, дык я ў яе, пасля работы, траха не месяц рабіў. Ветлая такая жанчына. Прыгожая...

Цётка Фаня слухала Аўсяніка, спачувальна ківала галавой і гэтаксама, як і ён, здаецца, весялела ад яго расказаў і ўспамінаў.

Яна ў тэатры спявае, і нават яму прыносіла білет у тэатр, ды ён, дурань, бухнуў, што нічога не разумее ў гэтых яе операх. Вось каб яна паспявала яму тыя, што спявала некалі Русланава ці Шульжэнка... («Синенький скромный платочек» ці якую там іншую...) У гады вайны яшчэ, калі ён, пры форме, з поўнымі кішэнямі грошай, тады яшчэ зусім малады (на зямлі ад дзяўчат адбою не было!) лятаў з Пецькам Зімою за бортмеханіка. Нямала яны ўсыпалі фрыцам (ім абаім да канца вайны шанцавала), нямала спірту выпілі (96 градусаў — полымем шугаў!), а колькі дзяўчат перацалавалі...

— І ты не пайшоў? Не пайшоў па гатоваму білету, без грошай? Паслухаць, як яна там спявае?

— Не пайшоў, цётка Фаня.

— Дурны....

— Дурны, як бот, цётка Фаня.

— Мішугінэ коп...— безнадзейна махнула рукой цётка Фаня і накіравалася ў свой пакой.

— Мішугінэ, яшчэ які мішугінэ! — з захапленнем паўтарыў Аўсянік.— Аднак што ж гэта я? Яна ж заве. Яны ж там прападуць без мяне... У іх жа там... Трэба ж

зняць мерку. (Дзе гэта мой метр?) Трэба сёння зняць, а заўтра ранічкай да работы забегчы выразаць шкло... А зашкліць можна будзе заўтра вечарам. Кіту таксама трэба купіць. Дзе ж яна сама яго купіць, той кіт. Яна пра яго, напэўна, ніколі і не чула... Ды і калі ёй было чуць: вучылася, напэўна, гадоў пятнаццаць, а потым пайшла спяваць. У такі тэатр — адкуль ні зірні, адусюль яго відаць. У такі абы-якую не возьмуць. У такі — напэўна толькі самых лепшых... Дзіўныя толькі спевы там у іх. Гэта ж дома зачыніцца ў сваім пакоі і некалькі гадзін без перапынку адно і тое ж: А-а-а-а-а-а-а... а-а-а-а-а-а-а... На тое, брат, опера. А ты, дурань, гэтак ёй тады ляпнуў: «Нічога не разумею...» Мог бы, і не разумеючы, вечар пасядзець і паслухаць, ды хоць бы на людзей паглядзеў у сапраўдным тэатры. Там, брат, не такія, як ты са сваім Васькамнапарнікам ці твая піўная бочка... Там, брат, людзі... А ў цябе адно толькі: гарэлка і халтура, халтура і гарэлка... Эх, Валодзька, Валодзька, н быў жа і ты чалавекам... Да вайны тэхнікум скончыў. У вайну ваяваў, як людзі. І дзяўчаты трапляліся табе ўдалыя... Дзе яна цяпер, тая Маруся-хахлушка, афіцыянтка, калі на Трэці беларускі `перакінулі?.. Усё спапяліў праклятлы спірт і грошы, якіх ты ніколі не лічыў... Прыгаршчамі сыпаў на вецер — з сябрамі, з дзяўчатамі... А як спісалі з авіяцыі (хоць і залатыя меў рукі!), як апусцелі кішэні, як спусціўся на зямлю механікам у нейкі задрыпаны гараж, так і сяброў тых не стала, і дзяўчаты пакінулі хіліцца і цалаваць... Адна Маруся шкадавала цябе, дурня, адна яна не адступілася. А чым ты ёй адплаціў? Дачку адна гадуе... Тваю дачку, якую ты за ўсе яе васемнаццаць год так ні разу і не сабраўся пагля-дзець. І дачка цябе, такога бацьку, не ведае нават... А ты ўсе гэтыя васемнаццаць год кідаешся як непрыкаяны па свеце, спіш з бабаю, якая табе непатрэбна і ты якой непатрэбен таксама, і ведаеш адно толькі — глытаць гарэлку... І ніколі рубля нават не пашлеш дачцэ, бо ніяк усё не вырвеш — з жончаных рук, са свайго горла...

Так, каючыся (не ўпершыню!) перад Марусяю, перад дачкою, Аўсянік успамінае, што і ў гэтае, у Галіны Андрэеўны, гадуюцца таксама адны дзеці... Без бацькі. Ён не раз хацеў і ўсё не адважваўся спытаць яе пра мужа... Няйнакш свалата, прайдзісвет — прыстойны чалавек хіба такую жанчыну пакінуў бы? Такую жанчыну! Ды каб яму такую — ён на руках бы яе насіў! (Марусі некалі, праўда, ён тое ж самае абяцаў... Абяцаў насіць на руках і сваю ця-

перашнюю жонку, Тоню...) І гарэлкі — кроплі ў рот не браў бы... Каб толькі яму такую!

Але куды яму было да яе... Ён шкадаваў яе і, як толькі здолеў, стараўся парабіць ёй усю тую мужчынскую работу, якой сама яна з дзецьмі зроду не дала б рады. І ён толькі баяўся, што рабоце хутка прыйдзе канец, і таму ён наўмысна расцягваў яе. А гаспадыня злавалася на яго, што ён гэтак марудзіць, што няма канца яго рабоце... Яна нічога не разумела. Яна не разумела яго. Але ён не крыўдзіўся на яе. За гэты час прывыклі да яго і яе дзеці. І ён прывык да іх таксама... Каб жа яна не спявала ў гэтым сваім тэатры, каб жа яна была роўняю яму... Ён пахваліўся пра яе і старэйшаму брату — настаўніку, і той, чалавек цвярозы і разважлівы, толькі рукой махнуў: «Выкінь, браце, з галавы...» А як яму было выкінуць яе з галавы, з сэрца, калі дзеля яе ён пачаў нават стрымліваць сябе ў гарэлцы, пачаў галіцца і наогул сачыць за сабою: ён ужо саромеўся прыходзіць да яе ў сваіх палапленых штанах, у якіх штодня хадзіў і ніколі нікога не саромеўся ў сябе на рабоце. Ужо і жонка пачала заўважаць за ім гэта дзіва і не ведала, што рабіць, цешыцца ці лаяць яго... І хто ведае, чым бы ўсё гэта скончылася, калі б зноў жа не тая самая праклятая гарэлка. Ён паабяцаў гаспадыні (так ён зваў яе ў вочы) дастаць ёй нейкія адмысловыя краны і ўзяў у яе наперад немалыя грошы. Кранаў ён у той дзень не дастаў, а назаўтра, зусім выпадкова (праз сто гадоў!) стрэўшы Пецьку Зіму, прапіў з ім за вечар тыя грошы, нават і не ўспомніўшы, адкуль яны...

Ён мог зрабіць чалавеку паслугу без грошай. І рабіў такія паслугі не раз, і яму было гэта і няцяжка і не шкода. Аддаваць жа даўгі — была яго магіла!

...У Аўсяніка тых грошай ніхто не патрабаваў назад. Яму верылі. І гэта было горш за ўсё на свеце. Горш за лаянку. (А лаялі яго дай божа колькі — асабліва гаспадыні, якіх ён падводзіў вось гэтак жа, і не адзін раз.) Горш, чым калі б яго выгналі з дому. Яму верылі ў той час, калі сам ён, абяцаючы і хлусячы, што ніяк не трапіць стрэць знаёмых водаправодчыкаў, добра ведаў, што ён і не стрэне іх цяпер, бо няма з чым страчацца... І ён зноў пачаў штодня піць і прыходзіць п'яным і да гаспадыні...

Ёй абрыдла яго работа, яго гарэлка, і яна адправіла яго.

Спачатку яму было сорамна, што ён прапіў яе грошы.

(Каб чые іншыя, ён і вухам не павёў бы: прапіў і прапіў — яго ўласных грошай людзі прапілі больш...) А потым ён звыкся і не адчуваў ужо сораму: у тым яе тэатры ёй, напэўна, добра плацяць, дык што ёй гэтыя нейкія дваццаць пяць рублёў... А потым і зусім забыўся.

...І вось раптам гэта пісьмо. І такое пісьмо! «Паважаны»... Не, «глыбокапаважаны і дарагі... Уладзімір Іванавіч»... А гэтыя свае совы толькі і ведаюць «Валодзька»... Сорак пяць гадоў, а ён усё Валодзька, нібыта блазен які... А яна — такая жанчына! І для яе ён — Уладзімір Іванавіч!.. Дык як жа не кінуць усё (к чортавай мацеры ўсе гэтыя падушкі і капы — будзе ён яшчэ тут з імі слацца зноў), як не бегчы, каб памагчы ёй там з дзецьмі. Сапраўды ж — на вуліцы восень неўзабаве, а яна з выбітымі вокнамі... Напэўна, будзе лаяць, што не прынёс тады ні тых кранаў, ні грошай... Ну, ды няхай лае. Няхай — ёсць за што... А цяпер — ісці, і неадкладна!.. Толькі пачакай — як ісці? Куды ісці — вось гэтакім пудзілам? Тыдзень не галіўся. Паўгода не стрыгся. Перш за ўсё ў цырульню!.. Пазычыць у цёткі Фані траячку...

— Ну, няўжо ж ты пойдзеш да артысткі, няхай сабе і шкліць вокны, з гэтымі сваімі пэйсамі? — Цётка Фаня бачыць усё навылет і ўсё разумее.— Вазьмі грошы і схадзі-такі ў цырульню... Не бойся, Тоні я нічога не скажу. Каб не было гвалту.

— Праўда, цётка Фаня, не кажыце,— узрадаваўся такому ўзаемаразуменню Аўсянік.

— Што я — малая, не разумею... Мішугінэ коп,— невядома пра каго, пра самога Аўсяніка ці пра яго жонку, зняважліва кажа цётка Фаня.

Заручыўшыся авансам і цвёрдым словам цёткі Фані, Аўсянік старанна вышароўваецца пад умывальнікам, а потым доўга прымярае перад люстрам новыя штаны і бялюткую кашулю. (Маладзец, халера, жонка, што не дала прапіць майскую прэмію і сама купіла яму штаны і кашулю!) Потым у самым выдатным настроі ідзе ў цырульню.

* * *

Ён не адразу пазваніў — пастаяў перад дзвярыма, каб перавесці дух ад хвалявання. Да таго ж у яго былі поўныя рукі. Ад пазычанай траячкі пасля цырульні ў яго засталося чортведама колькі грошай, і ён усе іх пусціў на га-

сцінцы: купіў трыста грам халвы, купіў арэхаў (ён ведаў, што і яна і дзеці любяць арэхі) і хапіла яшчэ на бутэльку піва. Яна-то не п'е, але за сустрэчу мо і не адмовіцца хоць паўшклянкі з ім выпіць...

Ён стаяў і прыслухоўваўся, ці хаця ж дома яны. А то сама яна мо ў сваім тэатры, а дзеці зноў мо пайшлі дзе да суседзяў на тэлевізар. (У іх не было тэлевізара, і яшчэ таму Аўсянік лічыў іх калі і не за самую апошнюю беднату, дык і не за «міністраў», ва ўсякім разе.) Спачатку не чутно было ніякага голасу. А потым ён пачуў смех. Яе смех! Яна заўсёды так смяялася, што каб чалавек быў нежывы нават — дык і то не вытрымаў бы, засмяяўся таксама ад гэтага яе такога заразлівага смеху. Яна смяялася, і смех яе набліжаўся — да яго, Аўсяніка, да гэтых дзвярэй, за якімі ён стаяў, не адважваючыся пазваніць. Значыць, яна была дома, была не адна, з дзецьмі, і зараз ён усіх іх убачыць... І ён націснуў кнопку.

За дзвярыма зноў пачуўся ўсплёск яе смеху, пачуліся хуткія крокі, і пачулася скрозь смех: «Хто там?..» Яна заўсёды так пыталася, хоць і ніколі не чакала адказу — адразу адчыняла. Дзверы адчыніліся.

Тады, год назад, калі ён прыводзіў да ладу яе кватэру, яна была зусім не такая, была іншая. Тады ў яе быў стомлены і немалады выгляд, тады яна часта раздражнялася і сварылася на дзяцей і на яго (за яго марудную работу, добрая яна была ці кепская — гэтага яна не разумела). Цяпер жа, каб ён стрэўся з ёю дзе-небудзь у горадзе, то напэўна і не пазнаў бы яе. З ёю адбыўся нейкі цуд!.. Яна стаяла на парозе ў гладкім, да зямлі, доўгім белым плацці, упрыгожаным на грудзях бледнай ружай (ці то прыйшла, ці яшчэ толькі збіралася ісці ў свой тэатр) і выглядала такой маладой і такой прыгожай, што Аўсянік аж адступіў назад. І як стаяў са сваімі пакуначкамі ў руках, так і не мог скрануцца з месца. Не мог слова вымавіць — ад захаплення, ад расчуленасці.

Яна зразумела яго — і шырэй расчыніла дзверы.

— Ага, знайшлі мы ўсё-такі вас, нідзе вы ад нас не схаваліся! — весела ўсклікнула яна, ніколькі не здзіўляючыся яго прыходу.— Коля! Коля! Ідзі, зірні, хто прыйшоў... Уладзімір Іванавіч...— крыкнула яна ў пакой і зноў гэтак жа весела прыкрыкнула на Аўсяніка:— Чаго ж вы стаіцё, нібыта прыраслі да зямлі, ці мяне не пазналі...

— Ды ўжо ж... не буду стаяць,— не могучы адарваць вачэй ад яе, азваўся нарэшце Аўсянік.— Вы такая зрабіліся, што вас і сапраўды не пазнаць... Памаладзелі... Куды там!

— Ну вось бачыце! А летась вы ўсё казалі, што я старая...

— Я не казаў, што старая...

— «Не казаў»... Коля! Коля! — клікала яна.

— А Коля... А дзеці дома? — усё яшчэ трымаючы ў руках пакункі, спыніўся ён у калідоры.

— Дзеці? Коля?.. Не, таго Колі... Дзяцей няма дома. Ёсць Коля другі...

І ў гэты момант з пакоя выйшаў мужчына. Ён быў яшчэ малады, прыгожы і вельмі добра апрануты.

— А-а... Дык гэта і ёсць той самы Уладзімір Іванавіч? — намагаючыся здавацца прыветным і гэтаксама намагаючыся схаваць у вачах і голасе ўсмешку, сапраўдны сэнс якой не ўнік увагі Аўсяніка, працягнуў ён руку госцю.— Галіна Андрэеўна толькі пра вас і гаворыць.

Па худым, спаленым сонцам і ветрам твары Аўсяніка прабегла таксама нешта накшталт усмешкі, толькі ўсмешка гэта была нейкая бездапаможная, сарамлівая... Ён міжвольна параўнаў свой несамавіты адзетак з адзеткам гэтага дагледжанага прыгожага мужчыны (гэтага Колі!), і на нейкі момант яму зрабілася брыдка за сваю адзежу, за пакуначкі з халвой і арэхамі і бутэльку піва, якія ён так усё яшчэ і трымаў у руках.

— Галіна Андрэеўна расказвала мне пра вас...— паблажліва зноў паўтарыў незнаёмы.

— А хто вы такі, што яна расказвала вам пра мяне?!

Гэта злосць ускінулася ўнутры Аўсяніка так нечакана, што спачатку ён нават сам спалохаўся таго, што ў яго вылецела.

— Уладзімір Іванавіч, дык праходзьце ж... Праходзьце... Вы ж нам так патрэбны... Мы ж без вас...— замітусілася Галіна Андрэеўна, запрашаючы Аўсяніка, аднак, не ў пакой, а на кухню.

— А дзе Коля? Дзе дзяўчаты? — гэтак жа раптоўна астыўшы, як і загарэўшыся, пайшоў услед за ёю Аўсянік. Зрэшты, што значыў для яго гэты здаровы гуляшчы мужчына (няйнакш, як артыст таксама). Аўсянік паклаў на стол пакункі і, не чакаючы запрашэння, сеў. І толькі цяпер адчуў, што спацеў, нібыта адмахаў добра молатам. Ён дастаў з кішэні хусцінку, выцер твар.

— Дык дзе ж дзеці, што няма дома?

— Дзеці ў лагеры.

— Усе трое?.. — насмешліва спытаў Аўсянік.

— Усе трое! — з выклікам адказала яна, зразумеўшы адценне яго пытання.

— А гэты... хто? Муж? — кіўнуў Аўсянік на дзверы. Мужчына на кухню за імі на пайшоў.

— Муж.

— Ясна дзела... А дзяцей, значыць, у лагер адправілі... Шкада...

— Што гэта вы раптам такі жаласлівы зрабіліся, Уладзімір Іванавіч? — успыхнула Галіна Андрэеўна, і ў яе нядобра звузіліся вочы.

— Ды так, хадзяечка... Значыць, муж. Коля...

— А вам што — не падабаецца, што ў мяне муж?

— Ды не, чаму ж... Жанчына вы яшчэ спраўная. І прыгожая... Чаму ж? Як жа адной, без мужа...

— Дык у чым жа справа?

— Ды не ў чым. Толькі вось...

— Што?

— Не па сабе вы яго выбралі. Наўрад ці патрэбны яму будуць вашы дзеці. Надта ён...

Па твары яе прабег цень болю.

— У мяне неблагія дзеці.

— Дзеці-то вашы неблагія, ды вось не ведаю толькі, ці ён...

— Уладзімір Іванавіч! Я прасіла вас прыехаць не для таго, каб вы судзілі мяне і чалавека, якога вы зусім не ведаеце! Мне патрэбна зашкліць акно! — рэзка ўстала яна.

— А навошта ж ён у вас?.. Дзеля якога клопату, калі акна нават зашкліць няварты?..

— Уладзімір Іванавіч!

— Ну, добра, добра, не злуйцеся, не буду. Зашклю вам. Толькі зайду другім разам — сёння ў мяне няма з сабой метра — зняць мерку.

Яна стаяла каля акна і маўчала. Белае плацце пры электрычным святле пералівалася і ззяла. Пералівалася і ззяла нешта ў яе адмыслова завітых цёмных валасах. На бледным твары яе, аднак, і следу ўжо не было зусім нядаўняга яшчэ смеху і весялосці.

— Ідзіце, Уладзімір Іванавіч,— нарэшце ціха прамовіла Галіна Андрэеўна.— І не трэба больш прыходзіць. Не трэба.

— Я прыйду... Чаму ж? Вы не сярдуйце толькі,— спалохаўся Аўсянік.— Вы ж ведаеце... Я заўтра, пасля работы...

— Не трэба больш прыходзіць, Уладзімір Іванавіч,— паўтарыла яна, не кратаючыся з месца.— Не трэба больш прыходзіць.

Аўсянік нерашуча падняўся.

— То мне ісці?..

— Ідзіце.

Ён накіраваўся да выхада. У дзвярах спыніўся і зрабіў крок зноў назад.

— Дык прабачце ўжо...

Яна моўчкі кіўнула галавой: добра, ідзіце...

І ён адчыніў сам дзверы, і сам іх не адразу зачыніў за сабою.

...Па дарозе дадому, хоць і не было з чым, ён зайшоў у піўную. І стрэў там свайго напарніка Ваську. Васька быў ужо гатовы. Аўсянік сеў да яго.

— У цябе няма?..— кіўком галавы паказаў ён пад стол.

— Яко наг, яко благ, яко нет ничего...— Васька ў падобных крытычных выпадках любіў цытаваць евангельскія тэксты.

— А рублёўка знойдзецца?

Васька пачаў аблапваць сябе з такім стараннем, нібыта збіраўся прапускаць сам сябе цераз прахадную манетнага двара.

— Для друг-га-а...— выцягнуў нарэшце ён недзе з кішэні скамечаную рублёўку.

Вартага ўвагі нічога ўжо не было. Было толькі чарніла... Аўсянік папрасіў шклянку. Унутры яго ўсё гарэла: душа, сэрца. Ад крыўды на яе (выбрала сабе артыста — а дзецям?..), ад злосці на сябе самога (цяпер табе, боту, парог туды заказаны назаўсёды), ад той несправядлівасці, якая пануе на кожным кроку: адзін вунь які гладкі, і ўжо напэўна мае выпіць за што — не тое што другому...

Аўсяніку неабходна было заліць і патушыць гэты пажар. Ён піў віно і ў той жа час увесь гарэў жаданнем расказаць, паскардзіцца Ваську — другу — і на сваю крыўду, і на сваю злосць, і на несправядлівасць жыцця, якое...

— Артыстка? К-каго ты знайшоў?.. Д-дурань...— не

даў яму выліць да канца душы Васька.— Б-баб яму мала, дык ён артыстку... Д-дурань... Вось я...

— Што ты!.. Што ты разумееш?..— замахнуўся на Ваську пустой шклянкай Аўсянік.— Ды яна ж... Ты разумееш што-небудзь: яна ж такая!..

— Такая... І-і-ік...— ікаў і соваўся ад смеху Васька.— Такая... Знаем мы такіх!.. Дурань ты, Валодзька...

— Дурань... Хто — дурань?..— Больш Аўсянік ужо не мог выліваць сваю душу Ваську.

Ён устаў з-за століка і, цяжка хістаючыся (не ад віна — ад крыўды свае, ад свайго гора), паволі выйшаў з піўной. Дадому ішоў ён доўга. Падоўгу спыняўся, аб нечым гаварыў сам з сабою, прыпёршыся да плота, махаў рукой і ішоў далей. І ўсю дарогу лаяў Ваську:

— Дурань... Хто — дурань?..

*1968*

# ІНТЭРВ'Ю

Пасля канцэрта Барыс Хмара павячэраў у сябе ў нумары ўдвух са сваім акампаніятарам і па даўняй звычцы, адзін, пайшоў пахадзіць па чужым горадзе. Быў позні вечар. Горад ужо засынаў. Рэдкія пешаходы хуталі галовы ў настаўленыя каўняры — вуліцы пранізваў студзеньскі вецер. Вецер хапаў за полы, засыпаў сухім калючым снегам вочы, кідаўся ўбок і шматаваў палотнішчы афіш. Вялізныя літары на афішах махалі зняможанымі сінімі крыллямі: Б-а-р-ы-с Х-м-а-р-а, Б-а-р-ы-с Х-м-а-р-а, Б-а-р-ы-с Х-м-а-р-а...

Барыс Хмара глядзеў на гэты начны сіні вырай хутчэй абыякава, чым з задавальненнем. Ён добра ведаў: тое, чаго не скончыць за ноч вецер, заўтра старанна зробяць людзі. Тыя самыя, хто гэтак жа старанна, на змену ўчарашняму, расклейвалі па ўсім горадзе сёння імя яго. Ды і наогул афішы даўно ўжо яго не хвалявалі. («Что наша жизнь? — Игра...» — усё часцей і часцей паўтараў ён Германа.)

Што афішы? Ён ішоў па вуліцы і міжволі ўспамінаў свой сённяшні канцэрт. У яго не было падстаў быць незадаволеным ім. У яго — сёння ён гэта асабліва адчуў — быў яшчэ запас (яму хацелася думаць — запас творчай маладосці). І публікаю ён быў таксама задаволены: яна была добразычлівай і ўдзячнай. Ён чытаў гэта на ўсхваляваных тварах і ў бліскучых вачах, калі выходзіў дзякаваць залу за шчырыя воплескі... Праўда, ён ведаў і другое: зароблены яны ім былі добрасумленна. Ён ніколі — ні ў маладосці, ні цяпер, маючы даўно ўжо сівую галаву,— ніколі не быў ні разважлівым, ні абыякавым. Сцэна была для яго святым алтаром, да якога схіляўся ён кожны раз не інакш, як бескарысна і з палаючым сэрцам.

Публіка ў гэтым горадзе была ўдзячная. Ён ведаў гэта яшчэ з мінулых сваіх канцэртаў... І ўсё роўна, недзе на самым дне душы яго трымцела крыўда. Магчыма, гэтаму не варта было надаваць значэння: дзе, у студзені месяцы, тут, у паўночным горадзе, было знайсці кветкі? (Аднак хоць адна жывая кветачка на ўвесь горад пэўна знайшлася б...) Магчыма, не варта было надаваць значэння і таму, што яго не праводзіў натоўп прыхільнікаў. (Тым больш смешна было б разлічваць пасля шасці-

дзесяці на захопленыя позіркі і томныя ўздыханні юных паклонніц.)

Усё гэта так, усё гэта было правільна і заканамерна. Кожнай песні — свой час.

У яго быў час свой. Непаўторны. Незабыўны. З кветкамі. (Яны падалі яму да ног.) З прыхільнікамі. (Яны цяпер ужо гэтакія ж сівыя, як і ён сам.) З паклонніцамі. (На жаль, іх таксама не ўбярог час.)

І ўсё ж не было б яму сёння так сумна, каб не гэтыя хлопчыкі. Яны, відно, чакалі яго на двары каля выхада. Абодва ў зімовых паліто, у зімовых шапках і смешных рукавіцах — хлапчукі гадоў па трынаццаць-чатырнаццаць. Ён спачатку не звярнуў на іх увагі. Выйшаў службовым ходам і, не азіраючыся, накіраваўся да машыны. Ён сеў поруч з шафёрам і, зачыняючы дзверцы, міжволі азірнуўся на іх. Хлапчукі цяпер стаялі крокі за чатыры ад машыны. Яны, мусіць, хацелі і не адважваліся папрасіць у яго аўтограф. Ці, можа, хацелі пачуць ад яго нейкае прыветнае слова. Так ці інакш ім ён несумненна быў цікавы і патрэбны. Быў патрэбны — ім адным з усяе залы. Ён памахаў ім рукой (яны зрабілі яшчэ крок да яго!) і захлопнуў дзверцы. Машына рванулася наперад, а яны засталіся стаяць.

Усю дарогу да гасцініцы ён маўчаў. Гэтыя хлапчукі ў зімовых паліто і шапках усхвалявалі яго. Ён моўчкі вылез з машыны, моўчкі падняўся на ліфце і прайшоў у свой нумар. Адчыніў дзверы — і застыў на парозе. Насустрач яму працягвала галінкі белая ў квецені вішня.

Адкуль яна ўзялася тут?! Ён падышоў да стала, узяў у рукі крышталёвую вазу і ледзь чутна, вуснамі, крануўся пяшчотных пялёсткаў. Вішня не пахла. Ад белых галінак веяла толькі чысцінёй і свежасцю. Адкуль яны ўзяліся тут? Дзе яны расцвілі ў гэтым скаваным студзенем горадзе?

Не скідаючы паліто, ён пайшоў да калідорнай. Яна стрэла яго ўсмешкай.

— Скажыце, калі ласка, адкуль у мяне такое дзіва?

— Дзівы, Барыс Платонавіч, заўсёды дораць жанчыны.— Калідорная многа год служыла ў гасцініцы, і прырода жыццёвых цудаў не была для яе таямніцай.

— О-о!..— у момант памаладзеўшы, усклікнуў ён.— А хто яна, тая чараўніца?

Калідорная трошкі сумелася.

— Яна не назвала свайго імя. Яна прыходзіла з двума хлопчыкамі. Адразу, як вы паехалі ў тэатр.

— З хлопчыкамі? З двума? Гадоў па трынаццаць-чатырнаццаць?

— Бадай, па столькі. Гадоў па трынаццаць-чатырнаццаць.

— Бязмежна ўдзячны вам! — Ён пакланіўся калідорнай і лёгкім маладым крокам (ніхто б ніколі не падумаў, што ў яго хворыя ногі і што ноччу ён па некалькі разоў устае з пасцелі, каб разламаць спіну — гэтак яна пячэ яму!) накіраваўся ў свой пакой.

...І вось цяпер, пасля вячэры, ён хадзіў адзін па замеценых зледзянелых вуліцах і думаў пра сённяшні вечар. Успамінаў хлопчыкаў. Значыць, на канцэрце яны былі са сваёй маткай... У першых радах іх не было. (Звычайна, за вечар, ён паспяваў запомніць амаль усіх, хто сядзеў у першых радах.) Можа, яны сядзелі дзе на сярэдзіне ці ў задніх радах... Значыць, гэта яны прынеслі яму ў гасцініцу галінкі вішні і ўслед за ім паехалі на канцэрт. Цікава, хто іх маці?.. Прыхільніца яго таленту, сама актрыса ці проста...

«Проста?!» — як укапаны, спыніўся ён раптам перад расшматаванай ветрам афішай.

Як жа ён забыў і як жа ён адразу не ўспомніў яе, прыехаўшы сюды два дні назад?! Яна ж сама некалі прыходзіла да яго ў нумар, у гэтай жа самай гасцініцы. Чатыры гады таму назад, калі ён даваў адзін усяго толькі канцэрт — у дні Вялікай дэкады. Яна прыходзіла тады да яго і брала інтэрв'ю для нейкай газеты, здаецца. Яна, здаецца, і прыслала тады яму тую газету. Цяпер ён успомніў, што тады, па яе просьбе, ён сам нешта пісаў у яе блакнот — нейкія ўражанні, нейкія пажаданні. І тады ён запрашаў яе на свой наступны канцэрт. (Ён збіраўся прыехаць і спяваць з тутэйшай трупай Барыса Гадунова і Мефістофеля.) І абяцаў, як прынята ў такіх выпадках, прыслаць ёй білеты. Толькі яна павінна была пазваніць яму, як толькі ён прыедзе. Павінна была пазваніць і сказаць...

Ён разумеў, што праз чатыры гады пасля такога выпадковага знаёмства не кожная жанчына адважыцца званіць мужчыну, тым больш званіць артысту, імя якога праслаўлена на ўсю краіну.

Ён успомніў яшчэ, што яна тады прасіла і ён падпісаў тады для яе сына (ці сыноў) свой партрэт, здаецца,

у ролі Грэміна... Ён нізашто не пазнаў бы яе цяпер. (Ці мала жанчын страчаў ён за жыццё, і ці мала каму дарыў ён партрэты і запрашаў на свае канцэрты?..) Ён успамінаў цяпер толькі, што яна тады спадабалася яму сваёй сціпласцю, што яна не была назойлівай, як большасць журналістак, і не старалася весці з ім інтэлектуальных размоў. (Ён цярпець іх не мог, асабліва з жанчынамі!)

Яна затрымалася ў яго нядоўга. Ён успомніў, што тады, гэтак, як і сёння, быў вельмі сцюдзёны дзень, і яна не параіла яму днём, да канцэрта, выходзіць гуляць на вуліцу. І ён паслухаў яе і цэлы дзень праседзеў у нумары і напісаў аж некалькі пісем адной вельмі мілай маладой асобе...

Карэспандэнтка не была маладой. Яна пакінула аб сабе прыемны ўспамін, які гэтак жа хутка развеяўся, як і ўзнік. Цяпер ён, напэўна, не пазнаў бы яе ў твар.

Ён не ведаў яе імя. Не памятаў, як звалася газета, якую яна прыслала яму, ён не мог прыдумаць, як знайсці яе тэлефон, каб пазваніць ёй. (Што сказаць — то ён знайшоў бы што!)

Што гэта была, аднак, яна, цяпер ён ніколькі не сумняваўся.

Барыс Хмара павярнуўся і таропка пайшоў назад у гасцініцу. І ледзь толькі адчыніў дзверы свайго нумара — насустрач яму зноў працягнула галінкі белая вішня.

*1968*

# ГРЭХ

Было неспакойнае начное дзяжурства, а потым гэтакі ж цяжкі быў дзень. Дадому яна вярталася як вымарачаная — без думак, без адчуванняў. Было адно толькі жаданне — хутчэй прыйсці і легчы ў пасцель. Дома — ведала яна — нікога не будзе. І гэта было добра. Добра таксама было тое, што яна пайшла хоць і кружною, затое бязлюднай дарогаю. Не будзе хоць гэтых бясконцых стрэч. «Добры дзень, доктар!..» — «Як нашы справы?» — «Выдатна! Мы з мужам толькі што вярнуліся з Гагры... Пляж, мора...» — «Глядзіце ў мяне: «Гагра»!..» Спяклася на смаляка, а ў самое... Большасць з іх, яе пацыентаў, былі сапраўдныя вар'яты. Адной неабходна імчацца са сваёй анеміяй недзе да чорта ў пекла — каб загарэць («Рукі і ногі што?.. А зірніце, якое ўсё цела!..» Нібыта некаму і сапраўды ўсур'ёз патрэбна было гэта яе спечанае «цела».) Другога на кожным кроку так і цікуе інсульт, а ён адно: давай яму сала — выпіць ён сам знойдзе... Трэці носіцца са сваёю язваю па камандзіроўках, нібыта на ім адным клінам свет сышоўся. Вар'яты...

Пачакай, а ты сама?.. Называецца, выбрала дарогу, каб не думаць, каб не хвалявацца хоць тут, на адзіноце. У баку ад цэнтральнай алеі, у засені пахілае вярбы, стаіць лаўка. Можна пасядзець. Калі толькі не апярэдзілі закаханыя. Хто-хто, а яны ў гэтых справах — каб без тлуму і чужой непатрэбнай балбатні — разбіраюцца... Ах, прабачце!.. Яна разумее, і яна зусім не хацела замінаць... Па той бок ніцага куста прапісалася новая лаўка — два дні назад яе тут не было. Пазіцыя — спіной да цэнтральнай алеі, да ўсяго свету — выдатная.

Валянціна Міхайлаўна ўстала і пайшла далей.

Вось так яно ў жыцці і бывае: маладое — займай сваё месца, старое — не замінай! Старое... А ці даўно, здаецца, былі і ў цябе такія ж, у засені паркаў, лаўкі і стрэчы — спіной да ўсяго свету?..

На невялічкай паркавай палянцы яе стрэлі даўнія знаёмыя — гіпсавыя хлапчук і дзяўчынка ў піянерскіх гальштуках. Хлопчык — прыкладны старэйшы брат — чытаў кніжку, дзяўчынка — прыкладная малодшая сястра — уважліва слухала... Яны чыталі гэту кніжку яшчэ з той пары, калі яе ўласныя дзеці хадзілі ў дзіцячы сад і гулялі стракатымі чародкамі ў гэтым самым парку ра-

зам са сваімі выхавальніцамі. Гіпсавыя хлапчук і дзяўчынка як былі, так і засталіся прыкладнымі дзецьмі. А што сталася з тых смешных стракатых чародак? З яе ўласных дзяцей што сталася?

...Пяты паверх — на добры яшчэ стары лад пабудаванага дома — мала захапляў. Ліфта не было. Заставалася суцяшацца тым, што паверх быў пяты, а не шосты. Мог жа быць і шосты.

У дзвярах, як звычайна аддыхаўшыся, яна палезла ў сумку па ключ. Але замок бразнуў знутры — і дзверы адчыніліся. Анюта была яшчэ дома. І ўжо не была: сумка, пальчаткі, парасон — усё гэта яна трымала ўжо ў руках.

— Салют!

— Ты не на занятках? — здзівілася маці.

— У нас першая пара філасофія.

— Ну дык што?

— А што мне там рабіць?

— Як гэта?

— У нас ніхто не ходзіць. Мы бастуем. Супроць шэрасці аб'ектыўнай сапраўднасці.

— Падумайце, філосафы! А як праз гэтую самую «сапраўднасць» — ды з інстытута! Тады што?

— Мамуля!..

— Сапраўды — будзем дыскуціраваць тут з табою на парозе...

Маці зайшла, дачка вярнулася.

— Ну што яшчэ?..— Абапёршыся рукой аб сцяну, Валянціна Міхайлаўна скідала туфель і адначасова шукала ў поцемку — босай нагою — пакаёвы тапак. Адзін. Потым другі. Дачка таксама чакала, каб памагчы скінуць мацеры плашч.

— Нічога. Арык званіў.

— Гэта, вядома, падзея.

— Будзе сустракаць і з інстытута праводзе дадому.

— Гераічна...

— І ў дваццаць чатыры ноль-ноль ты здолееш ужо прыціснуць да пяшчотных грудзей сваю блудную дачку... Мама, а блудных дачок гісторыя ведала, гэтак — як сыноў?

— Не хвалюйся: ведала... А самае галоўнае, што яны не пераводзіліся...

— Мамуля, ты ж у мяне — мамуля! — Чмок матку не-

дзе за вухам.— Цалуй і ты! Сюды, сюды — у самае вуха, а то памадай мяне выпацкаеш.

— Адчапіся. Я ледзь стаю на нагах...

— Што — усё гэтыя твае дахадзягі?..

— Ганна!

— Не Ганна!

— Для мяне — Ганна... І яшчэ: мне гэта твая дурасць...

— Мамулечка, што — сапраўды вельмі кепска?..

Яны ўжо сядзелі абедзве на кухні — адпачынак, супакаенне ад работы, ад хвалявання Валянціна Міхайлаўна знаходзіла перш за ўсё тут. («Мой кабінет...») Потым ужо ішла ў пакоі.

— Як гэты твой... падпольшчык?

— Кепска... Мой падпольшчык — кепска.

— Дык ён жа ўжо стары — колькі гэта яму?

— Як гэта стары!.. Яму шэсцьдзесят толькі.

— Шэсцьдзесят?! Н-ну-у...

Маці прамоўчала.

— А гэты — паэт?

— Паэт нічога. На тым тыдні выпішу.

— Шкада. Ён жа складае пра цябе вершы...

— Ганна!..

— Ну а... персанальны пенсіянер, што знішчыў цемру і асвяціў нам сонцам шлях у будучыню?..

— Ты сёння шалёная, Ганна...— Маці хацела і не магла супрацівіляцца даччыному настрою. Усе яны — у яе дома — ведалі кожнага яе хворага, ведалі дыягназы, характары, нават дзівацтвы кожнага. Так ужо было ў іх заведзена: кожны расказваў пра сябе ўсё, што меў за душою.

— Мамулечка, ну, раскажы, раскажы!.. Ён у вас пабудзе толькі да вясны ці агодзіцца і на ўсё лета?..— Дачка ведала сваю матку не горш, чым матка ведала сваіх пацыентаў. І дачка ведала таксама, чым і як трэба лячыць матчын настрой.

— Дык не хоча ж дадому! — паступова здаючыся, засмяялася Валянціна Міхайлаўна.

— Вось дзе няма ніякіх супярэчнасцей! — дурылася дачка.

— Шалапутка! — устала маці, каб пайсці памыць рукі і пераапрануцца.— Ад малога нічога няма? — спынілася яна ў дзвярах ваннага пакоя.

— Даўно не было! — абурылася дачка.— Учора ж

атрымалі. Проста праціўна: як дзяўчынка, кожны дзень піша пісьмы... Называецца, салдат...

— Ну, ты-то не пісала б...

— І не падумала б! Пра што б я мела пісаць вам кожны дзень? Вельмі трэба!

— Ну, вось тут ты ўся як ёсць,— скрозь шум і ўсплёск вады азвалася маці.

— Падумаеш! Вядома, такая, як ёсць, а не такая, як твае любімчыкі!

— А Дзіма не прыходзіў?

— А як жа! Прыляцелі з Алькаю, як шалёныя: «Мы ўжо будуемся!» А будаўніцтва таго — прывезлі на пляцоўку экскаватар. Добра, калі праз паўгода пачнуць толькі катлаван капаць...

— Прывезлі экскаватар? Дык гэта ж выдатна! — Валянціна Міхайлаўна выйшла з ваннага пакоя, быццам памаладзелая: даччына балбатня і ўмыванне вярнулі ёй раўнавагу.— Гэта ж цудоўна! Год, ну, няхай ад сілы паўтара — і пяройдуць...

— Няхай пяройдуць! Няхай ідуць! — прыхарошваючыся перад люстрам, заспявала Анюта.

— Бацька абрадуецца! — Валянціна Міхайлаўна пераапранулася. Дома яна звычайна насіла штаны і світэр. Так ёй было зручней круціцца ў хатнім калясе і на кухні.

— Ледзь не забыла! Табе тэлефанаграма.

— Тэлефанаграма?! Адкуль? Ад каго?

— Не палохайся: ад твайго Рамэо, а гэта значыць і ад майго бацькі!

Валянціна Міхайлаўна падышла да тэлефоннага століка. На газетным абрыўку — Анюцінай рукой — алоўкам было нашкрабана: «Чакаю пісьма. Сумую. Прызначаю спатканне пад цёмнымі алеямі»...

Усё зразумела: чытае «Цёмныя алеі» Буніна. І ніводнага сур'ёзнага слова, хоць і месяц ужо ў камандзіроўцы. Як і некалі — калі яшчэ студэнтам, з практыкі, пісаў ёй вось гэтак жа...

— Ну, мамуля, я знікаю!

— Ідзі, толькі глядзі...

А што глядзі?.. Хадзі на лекцыі і сапраўды слухай штодня — па дзве гадзіны — шэрую муць толькі таму, што нехта некалі зрабіў злачынства, пайшоў у выкладчыкі, і цяпер жыве з гэтага злачынства, катуючы іншых? Жыве з выгады і, пэўна, можа штурхнуць на свой шлях

каго-небудзь і з гэтых, іншых. «А што я горшы за нашага Малеўскага... Тузае ўсё жыццё падручнік ды яшчэ і ў кандыдатах ходзіць...»

Што глядзі?.. Не хадзі таксама на спатканні — не страчайся з хлопцам?.. Хто не хадзіў сам і сам не страчаўся? І, самае галоўнае, хто каго калі слухаў?.. Усё роўна ж будзе хадзіць, будзе страчацца.

Ну, вось, як ішла дадому, думала — не прыцягнецца. Думала, толькі пераступіць парог — і адразу ж у пасцель. А пераступіла — і зноў завялася! Павешала на плечкі раскіданыя па крэслах Анюціны сукенкі і спадніцы. Як яна будзе жыць адна з такім характарам? Як яна будзе жыць з мужам, калі ён толькі будзе?.. Дачцэ ішоў дваццаць трэці год, і гэта «калі будзе і ці будзе?» хвалявала яе ўсё часцей і часцей.

Як проста ўсё было, калі яны былі малыя. Ну, кепска елі. Ну, хварэлі (усе дзеці на свеце хварэюць). Ну, у яслі і сад было не ўладкаваць — нянькі трапляліся адна лепшая за другую... Але ж было нейкае жыццё. Сваё, уласнае!.. А гэта ж чым яны робяцца сталейшымі, тым усё горш.

Дзіма — старэйшы — ажаніўся, не паспеў скончыць яшчэ інстытута. Прасілі. Угаворвалі: «Нікуды твая Аля не дзенецца. (Яна ж ад яго ні на крок не адставала.) Да таго ж, калі яна такая выключная, як ты кажаш, дык яна ж сама павінна разумець, што табе неабходна закончыць інстытут». Дзе там! «Вы нічога не разумееце!..» Аля — надзвычайная. Ён без яе не можа жыць... На чацвёртым курсе (добра, што яшчэ на чацвёртым!) ажаніўся, перавёўся на вячэрняе, пайшоў працаваць. Не прайшло года — і надзвычайная Аля зрабіла вельмі звычайную справу: нарадзіла. Узяла з другога курса акадэмічны адпачынак на год, улезла ў вузенькі шэры халацік і ўжо не патрабавала ад свайго Дзімы ні вершаў, ні інтэлектуальных размоў з сябрамі... Нічога гэтага, як выявілася праз год, было ўжо непатрэбна. Спатрэбіліся перш за ўсё і патрабаваліся часцей за ўсё... грошы. Гэтыя нікчэмныя, не вартыя высокай чалавечай увагі паперкі, без якіх немагчыма было зрабіць і кроку. Яшчэ не паспеў нарадзіцца Славік, а ўжо як быццам разверзлася прорва. Адразу спатрэбілася чорт ведае колькі грошай: на пасаг, на каляску... Патрэбна было асвяжыць — толькі пабяліць (і за гэта маляры злупілі амаль увесь месячны Дзімаў заробак!) пакой да Альчынага звароту з раддома. А там і

пайшло і пайшло... Дзіцячая кухня, распашонкі, штонікі, лякарствы, сокі, вітаміны — Славіку, Алі... Дзіму ўжо нічога не трэба было... Дзімавай палучкі хапала не больш як на паўмесяца.

...Вось так яны з Ігарам Львовічам, бацькі, глядзелі, глядзелі на гэта самастойнае сынава жыццё — і не вытрымалі. Здаліся! А трымаліся. Гэта каб паказаць характар, каб правучыць, што без бацькоў, родны сын, твая паспешлівая самастойнасць лопне, як мыльны пухір. І яна лопнула. Але, як мыльны пухір, гэтак жа лопнула і жалезная прынцыповасць бацькоў. На другім месяцы Аля легла са Славікам у бальніцу (у Славіка было запаленне лёгкіх). І тут Валянціна Міхайлаўна і Ігар Львовіч здалі пазіцыі канчаткова: ды што ж гэта мы — нелюдзі нейкія, самаеды — свайму роднаму сыну не паможам? І пачалося! І пачалося!..

Ігар Львовіч ехаў у камандзіроўку — раней ён зроду не прывозіў, нават калі і ўласныя дзеці былі малыя, ніводнае адзежыны — адусюль ён вёз толькі кніжкі. Цяпер, куды б ні паехаў, адусюль ён цягнуў нейкія мадэрныя штонікі, куртачкі, берэты з пампонамі. Валянціна Міхайлаўна ўявіць сабе не магла, як ён там у сталіцах бегаў па універмагах, аблюбоўваў і купляў усё гэта. Як ён там напэўна раіўся з некім, хоць раней цярпець не мог, калі яна сама бегала ў гэтакіх жа пошуках — уласным дзецям, калі абмяркоўвала пакупкі з прадаўцамі.

А Славік рос і патрабаваў усё больш увагі. Цяпер патрабавала ўжо яе і Аля. І ёй цяпер пачаў вазіць з камандзіровак Ігар Львовіч. Дзякуй богу, і пра іх з Анютай ён успамінаў. Затое ўсё менш і менш пачаў ён прывозіць з камандзіровак кніжак.

Апошнім часам здарылася яшчэ навіна. Алі прыйшоў час ісці зноў у інстытут — і сваццы выставіла ультыматум: або наймайце хатнюю работніцу, або забірайце дзіця і глядзіце яго, як хочаце, самі. Яна не мае больш жадання быць служанкай у роднае дачкі з зяцем.

Ігар Львовіч сказаў, што ўсё гэта слушна. Мар'я Іванаўна эмансіпіраваная жанчына. Яна працавала. Яна заслужана атрымлівае...

— А я — якая, па-твойму, я — эмансіпіраваная ці не?! — накінулася на яго Валянціна Міхайлаўна.— Я да інфаркту дабіваю сябе каля ложка з чужым інфарктам... У мяне таксама дзеці, муж, сям'я... Я кручуся дома... Якая я, скажы?!

— Ты таксама...— У Ігара Львовіча мяккі характар, але гэта не азначае, што яго можна пераўпэўніць.— Але ж грошы... Я хачу сказаць, тая кампенсацыя, якую мы, у нашым становішчы, маем магчымасць рабіць для Мар'і Іванаўны... Яна... Яна не здольна — ты мяне, Валюша, зразумей правільна — узняць у чалавека крылы. Яна хутчэй прыніжае. І таму Мар'я Іванаўна...

— Ах, я ўсё разумею!.. Я ведаю, што гэта яго жаніцьба адправіць мяне на той свет... Яна ж з ім не размаўляе — твая эмансіпіраваная Мар'я Іванаўна...

— Не размаўляе? Гм... Жаночая логіка, прабач. Не размаўляе... Ну, і няхай не размаўляе! Няхай з ім размаўляе Аля! Аля, спадзяюся, з ім размаўляе?..

— Твая Аля хутка будзе гэтакая, як і яе мамачка, калі яны будуць жыць разам.

— Ну дык няхай яны жывуць у нас. У нас чатыры пакоі. Няхай воймуць генеральскі... Жэнеў. («Генеральскі пакой» — гэта быў хатні жарт пасля таго, калі малодшага сына Жэню забралі служыць у армію.)

— Няхай жывуць...

І Дзіма з Аляй пераходзілі і жылі. Потым Мар'я Іванаўна, знудзіўшыся па ўнуку, зноў вярнула іх да сябе. А потым зноў сто разоў патрабавала хатнюю работніцу. Вынайшлі кампрамісныя рашэнне праблемы: маладым будаваць кааператыўную двухпакаёвую кватэру, Мар'і ж Іванаўне, пакуль Славіка не аддадуць у яслі, дадаткова выплачваць тую суму, якая б пайшла на хатнюю работніцу, калі б яе ўдалося, скажам, знайсці. Усе былі задаволены. Праўда, Валянціна Міхайлаўна пры кожным зручным выпадку дапякала Ігара Львовіча: «Бачыў, якая ў цябе эмансіпіраваная сваццяl..» А Дзіма таксама катэгарычна заявіў бацькам, што ён не хоча ніводнае іх капейкі — так што ўсе грошы, якія бацькі заплацілі за іх з Аляй у кааператыў, ён ім верне, да рубля. Ён як-ніяк ужо дарослы чалавек і галава сям'і! (Бацькі згаджаліся: добра, вернеш, сын...) Ах, чаго яны каштавалі ёй цяпер, гэтыя мілыя яе дзеткі. Малодшы, Жэня, трапіў пад указ. Мінулы год не паступіў. Гэты год забралі ў армію — за месяц да ўступных экзаменаў. І гэта няхай бы ўжо сабе. Трапіў у аўтамабільныя часці. Службай задаволены. Ім таксама задаволены. Камандзір часці прыслаў падзяку. Навучыўся — на курсах — і водзіць ужо любую машыну. Дык трэба ж — клімат. Такой зімы, піша, там, дзе ён служыць, не было ўсе апошнія шэсцьдзесят год! Сорак градусаў мароз...

А ён у дзяцінстве перанёс рэўмакардыт... Учора было пісьмо, а сёння няма. Ды і не ўчора ж было — пазаўчора. Вельмі ёй у галаве брат! Арык — вось кім у яе галава забіта. А з гэтага ж нічога не будзе! Ветрагон. А яна сваё: «Мне не трэба іншага, не трэба лепшага...»

Трэба легчы. Легчы і заснуць.

Каб легчы і заснуць — перад гэтым яна грэе сабе чай. Кубак гарачага салодкага чаю.

Яшчэ трэба ўзяць грэлку да ног. Нешта яе трасе. З кучы часопісаў на журнальным століку яна бярэ адзін — «Вакол свету». Яна любіць гэты часопіс. Гартаеш яго — і нібыта сам блукаеш недзе па афрыканскіх саванах, сам вядзеш гутарку з дэльфінамі. І наіўна і захапляюча. А самае галоўнае — ад усяго выключаешся.

— Піць! Мамачка, я хачу піць! Хачу піць! — Гэта Волечка, суседка з васемнаццатай кватэры. Цудоўная дзяўчынка, толькі распешчаная. Адно дзіцятка ў бацькоў. Каб было трое ці чацвёра...

«Ну і што каб было трое?.. Намнога было б лепш?..»

— Піць! Хачу піць!..— тупае ножкамі ўнізе пад акном Волечка, і, ясная справа, маці кідае на паўслове гаворку з суседкай і вядзе яе паіць.

— Туп... Туп... Туп...— даносіцца неўзабаве з лесвіцы. Гэта Волечка штосілы тупае.— Туп... Туп... Туп...— глушэй, стамілася.

— Піць... Піць... Піць...

— Танечка, можна, дай...

— Валянціна Міхайлаўна, я толькі што яму давала. Яму ж шкодна...

— Дай, Танечка...

...Гэта яны ўдзвюх каля яго ноччу: дачка Таня і яна, палатны, а гэту ноч і дзяжурны ўрач.

— Піць...

А потым зноў пачынаецца рвота. Дзікі боль разрывае цела. Пантапон ужо не памагае. Потым зноў ён просіць піць.

Аднак на гэты раз пакута адступаецца хутчэй. Адыходзіць, праясняецца позірк. Па схуднеламу жоўтаму твару разліваецца супакаенне. Халодны пот стыне на абцягнутым васковай скурай ілбе (Таня выцірае яго чыстым ручнікам). Наступае адпачынак пасля печалавечага намагання. І ўжо ясна, хто каго пераможа. Ад сілы тры-чатыры дні...

— Валянціна Міхайлаўна... Пасядзіце каля мяне... Мы

ж з вамі... А ты, Танюшка... паспі... Яна ж ад мяне тыдзень ужо... не адыходзіць...

— Таня, ты сапраўды прыляж. Я пасяджу. Мы ж з вамі, Андрэй Іванавіч, старыя ваякі.— Ненадоўга, хоць на нейкі момант, скіраваць яго думкі, яго ўвагу як мага далей ад хваробы, ад гэтага ложка і палаты.

Палата ўжо асобная. Ужо... Можна гаварыць услых, можна жартаваць нават сярод ночы. Тут ужо ўсе сродкі дазволеныя.

— І выйшлі! І перамаглі!

— Тое ўсё было... раней...

— Не кажыце так! А летась тут, у нас, памятаеце, колькі мы вам уколаў укацілі. І нічогенька ж!..

— Летась, праўда...

Летась быў радыкуліт. Дзіцячая гульня: скруціла — адпусціла... А вось цяпер! Толькі тры тыдні ў пасцелі. І — агульнае паражэнне.

— Ведаеце, Валянціна Міхайлаўна... Я цяпер як толькі адсюль... ад вас выкарабкаюся... Адразу... Усё жыццё па-другому...

— Ну, вядома!

— Памяняю кватэру... У Ялту пераеду жыць...

— Чаму ў Ялту?

— Мора... люблю. Сонца многа... Хачу многа сонца...

— Будзе, Андрэй Іванавіч, мора, будзе яшчэ сонца...

Які ж гэта дурань выдумаў, што ім, урачам, усё роўна. Яна ж ведае яго даўно. Яшчэ з партызан. Жыццялюб. Жартаўнік. Здавалася, такому ніколі не будзе канца. Не можа быць.

— І яшчэ люблю... любіў... аднаго чалавека. Яшчэ адтуль... З лесу... З балота...

— Не трэба так, Андрэй Іванавіч,— «любіў»...Будзеце і яшчэ любіць.

— Буду?.. Вы думаеце... буду?.. Мусіць, не...— Ён пакруціў галавой і раптам пачаў зноў прыслухоўвацца да сябе. Там, недзе ўнутры яго, зноў абудзіўся гэты агідны штуршок болю. Вось ён паўтарыўся. Вось ірвануў і што было моцы падкінуў з ложка да самае столі ўсё яго збалелае цела. А потым адразу ж — мо ў тысячу нажоў — паласануў па кожнай яго клетцы. Усё пачыналася спачатку. Боль. Рвота. Дзікі боль. І больш нічога...

— Танечка! Таня!

— Я тут, Валянціна Міхайлаўна,— нячутна ўстала з крэсла Таня.— Ну, татачка, ну родненькі... Я ж з табою.

Я тут...— без усякай сувязі паўтарала Таня.— Я з табою... Ну, выпі, выпі, вадзіцы...

— Д-дачушка... Та-ня... ратуй...

Валянціна Міхайлаўна выйшла па дзяжурную сястру: увесці морфій.

— Піць... Хачу піць!..— тупала ў калідоры Волечка.

«Хачу піць... Хачу жыць... Хачу спаць...» — мітусілася ў галаве Валянціны Міхайлаўны. Стома і сон змагаліся нядоўга.

* * *

...У яе па дарозе на работу раптам адарвалася драўляная падэшва ад басаножкі. Дзіўна, басаножкі былі тыя самыя, што некалі,— яшчэ ў сорак трэцім годзе яна купіла іх у пустым бугурусланскім раймазе. Раймаг быў такі пусты, што ўявіць сабе нават цяжка было гэтакую пустэчу: на зашклёных прылаўках ляжалі толькі велізарныя замкі, пачкі іголак і некалькі тарак церці бульбу. І яшчэ на паліцы раймага туліліся тыя самыя басаножкі на драўлянай падэшве, перакрыжаваныя вясёлымі блакітнымі лямачкамі з паркалю.

Іголкі і таркі прадаваліся на «адзінкі» — на талоны з прамысловых картак. Як ні дзіўна, але на драўляныя басаножкі, гэтаксама як і на замкі, «адзінак» не патрабавалі. У яе тады не было прамысловае карткі, і яна спачатку пабаялася нават пытацца пра басаножкі. А потым убачыла — купляла нейкая жанчына — і купіла сабе.

І вось трэба ж было, каб прысніліся ёй тыя вясёлыя драўляныя басаножкі! Праз дваццаць пяць гадоў... Яна сніла іх і ведала, як гэта часта здараецца ў сне, што сніць. І ад гэтага ёй было весела. Весела таму, што хоць і прайшло дваццаць пяць гадоў і хоць яна даўно была ўжо замужам і мела траіх дарослых дзяцей, а ўсё роўна ў сне за гэтыя дваццаць пяць гадоў яна ніколькі не змянілася.

Яна бегла да сябе на работу ў бальніцу — і ў той жа час бальніца была і той кравецкай майстэрняй, дзе яна працавала дваццаць пяць гадоў назад. Яна перасекла гарадскі скверык — і ён таксама быў не скверык, а даўняя вуліца над даўнім імклівым ручайком, што скатваўся з гор і ныраў між ніцых вербалозін тады — дваццаць пяць гадоў назад... Усё было тое і не тое! А самае галоўнае, што сама яна, цяперашняя, была ўсё той жа даўняй, маладой.

У яе — трэба ж было гэтаму здарыцца якраз тады, як яна спяшалася на работу — адарвалася падэшва. Яна падняла з долу камень і пачала прыбіваць — на другім, вялізным камені — драўляную падэшву басаножкі. І ў гэты самы час з'явіўся доктар Янчанка з хірургічнага. Вось доктар быў цяперашні!.. Тады, дваццаць пяць гадоў назад, яна яго не ведала. Цяпер — ён быў малодшым за яе па ўзросту, яны былі калегамі. Ён падабаўся ўсім маладым доктаркам. І было за што! Ён меў таленавітыя рукі хірурга і на святочных вечарах натхнёна чытаў сучасных паэтаў. Часцей Куляшова: «Чалавек юбілейнага ўзросту» і Вінакурава: «Уходит женщина».

Яна цюкала каменем па падэшве, і падэшва крышылася і сыпалася на зямлю трухою.

— Ну, хто так рамантуе абутак? — Яна не пачула, як ён падышоў, як стаўззаду і цераз яе плячо глядзеў на яе бязрукую работу.

Яна спалохана выпрасталася, і цяжкая хваля падстрыжаных валасоў паволі сплыла з яе твару.

— А што ж мне рабіць, Геначка!..

Яна і сапраўды не ведала, што ёй рабіць з гэтай яе пакутай. Затое аднекуль з глыбіні, з сябе самое, яна ведала, як ёй патрэбна было трымаць сябе і гаварыць пра гэта з ім.

Ён не быў гаваркім. Хірургічная сястра, з якою ён заўсёды працаваў, расказвала, што на аперацыях, колькі б гадзін яны ні цягнуліся, яна ад яго чуе адно толькі слова: «Ну...» Працягвае рукі — то адну, то другую — і толькі патрабуе: «Ну...»

Яна стаяла, апіраючыся зямлі босаю нагою, і трымалася за яго плячук. І адчувалася і лёгка, і молада, і горача! Быццам не было тых дваццаці пяці гадоў. Яна не забывала пра іх, хоць і ведала, што ўсё гэта ёй сніцца.

Тым не менш яна адчувала сябе ў гэтым дзіўным сне гэтакаю, як і тады, недзе ў тым сорак трэцім. І вельмі лёгкаю і тоненькаю. І валасы спадалі на спіну ёй хваляю, а не былі гэтакімі, як цяпер — не ў сне,— выпадкова купленым у цырульні шыньёнам з чужых пафарбаваных валасоў.

...Доктар Янчанка рамантаваў яе абутак, і яны былі ўжо ў нейкім вузенькім пакоі. Як і ўсякі шавец, ён сядзеў на нізенькім табурэціку, а яна стаяла каля яго і трымалася за яго плячук. Яны маўчалі, хоць абое добра веда-

лі: лепш было б, каб яны не маўчалі. І яна сама ведала, што гэта маўчанне — нядобра. Нядобра таму, што ў яе ўжо дарослыя дзеці і муж, за якім яна пражыла вельмі добра амаль дваццаць пяць гадоў. Але маўчаць было прыемней, чым гаварыць. А калі раптам доктар Янчанка адкінуў убок яе басаножку, а сам рэзка павярнуўся да яе тварам, яна інстынктыўна падалася назад. І ў той жа час яна хацела і не магла працівіцца гэтаму. Яна хацела, каб доктар Янчанка абняў яе.

У гэты самы момант пад вокнамі затупалі, засмяяліся, загаманілі — у пакойчык, дзе яны былі з доктарам Янчанкам, увалілася ўся пяцімінутка. Яна пачала саджаць усіх за стол, пачала падаваць чамусьці адным першае, іншым — другое. У яе было мала нагатавана, і ёй было няёмка. А ўся пяцімінутка ела, смяялася і не звяртала на іх з доктарам Янчанкам ніякае ўвагі. А потым усе гэтак жа хутка паўскаквалі з-за стала і з гаманам і з жартамі вываліліся за дзверы. І яна нават не заўважыла, калі знік з усімі і доктар Янчанка. Ёй ужо не трэба было спяшацца на работу. Яе не цікавілі ўжо яе басаножкі, і яна цяпер не адчувала сябе ўжо тою, якою зрабілася, як толькі схіліўся над ёю доктар Янчанка. Цяпер ёй было столькі гадоў, колькі было. І цела яе не было ўжо такім імклівым і падатлівым, як усяго некалькі хвілін назад. І сама яна ўжо была старою і непрыгожаю. І ёй было вельмі сумна. І вельмі адзінока, нібыта вакол яе на тысячу кіламетраў не было ніводнае жывое душы. Нібыта не было за сцяною, у суседнім пакоі, за пісьмовым сталом яе мужа. Нібыта не існавала яе дзяцей, гэтаксама занятых у гэтых жа пакоях сваімі справамі. І муж і дзеці — не тое каб былі ў гэтым дзіўным сне непатрэбнымі ёй ці нялюбымі. Яны былі для яе проста нейкімі няіснымі.

Яна сядзела і чакала — праз тыя тысячы хісткіх, як тоненькая перакладзіна цераз руку, кіламетраў — іншага.

...У дзверы пастукалі. І разам з гэтым стукам, у адно імгненне, яна зноў нібыта з галавой акунулася ў жывую ваду і вынырнула адтуль зноў маладой, гарачай, з цяжкой хваляй валасоў на шчацэ.

Яна ведала, хто пастукаў. (Ён не мог да яе не вярнуцца!) І яна ведала, што будзе потым. (Будзе грэх, які яна сабе ніколі не даруе.) І яшчэ ведала: яна сама не здолее змагацца з ім. Яна ж усяго толькі жанчына...

* * *

У суседнім пакоі званіў тэлефон. Яшчэ не адрозніваючы, дзе сон, дзе ява, яна накінула на сябе халат і таропка пайшла да тэлефона.

— Добрай раніцы, Валянціна Міхайлаўна. Гэта я, Марыя Ігнатаўна. Доктар Волкава захварэла, і я прашу вас сёння выйсці на работу.

— Добрай раніцы. Я выйду.

— Валянціна Міхайлаўна, сёння ноччу памёр Мінаеў.

— Памёр... Гэтай ноччу?!

Гэтай ноччу памёр чалавек...

*1969*

# КАРЭСПАНДЭНТКА

У Лапічы — сяло, рассыпанае па абодва бакі чыгункі, закінула мяне камандзіроўка. І вось трэцюю ноч начую я ў Таццяны Самусевіч, школьнай прыбіральшчыцы, удавы. Трэцюю ноч, да другіх пеўняў, не спім мы з Таццянай, вядзём бясконцую гутарку. Цікавы для назірання чалавек Таццяна. Па-першае, яна піша пісьмы ў рэдакцыю. І гэта акалічнасць ніяк не можа прымірыць яе з Лапічамі. Падумаеш, адкуль ты такая разумная ўзялася, каб пісаць па рэдакцыях. Малапісьменная баба...

Але Таццяна не зважае: клопат вялікі, няхай сабе і малапісьменная, але ж выклапатала, дабілася праз тую ж самую рэдакцыю палёгкі суседцы. Зняў сельсавет незаконны падатак на ўдаву, хворую жанчыну. Няхай сабе дурная, але як напісала ў рэдакцыю, што старшыня прапівае людское дабро,— дык з той жа самай рэдакцыі напісалі ў раён, а раённае начальства прыехала ў іх калгас, разабралася і зняло п'яніцу са старшынства.

Праўда, з таго часу ў Лапічах пачалі глядзець на Таццяну з апаскай, пачалі пабойвацца яе. Чорт яе ведае, што яшчэ можа ўзбрысці ёй у галаву з яе рэдакцыямі... І з таго часу, каму б Таццяна ні пісала, пісьмы яе пачалі правярацца мясцовай цэнзурай. Валодзьку — сыну-мараку — напіша пісьмо на службу, і тое праверыць, і там лішняе выкрасліць лапіцкая цэнзура. А не дык і зусім не адправіць...

У такіх выпадках Таццяна адчувае сябе зусім бездапаможнай. Але каму ты паскардзішся, калі Лапіцкая пошта знаходзіцца ў адным памяшканні з сельсаветам, а начальнік пошты і старшыня сельсавета — кроўныя жонка з мужам... Адзін толькі паратунак — апускаць пісьмы на станцыі ў паштовы вагон. І Таццяна ходзіць кіламетры за два на станцыю і апускае свае пісьмы ў паштовы вагон. Тады яна адчувае сябе пераможцай: «Ану, паспрабуйце, завяжыце мне язык! Забараніце мне перапісвацца, з кім я хачу!»

І яна піша пра сваё ўласнае жыццё, пра жыццё сваіх суседак,— гэтакіх, як і яна, удоў. Любіць пісаць яна і пра сваіх птушанятак — пра вучняў свае школы, якую прыбірае старанней, чым уласную нават хату. А то часам прыдумвае і складае розныя гісторыі, якія з ёю самою ніколі не здараліся, але пра якія яна ў кніжках чытала...

Праўда, апісвае яна гэтыя гісторыі на свой лад — бо ў кніжках таксама ў кожнай па-свойму пішацца. Чытае Таццяна шмат, і пасля кожнай прачытанай кніжкі ў яе нібы крылле адрастае ад захаплення. Вось ёсць жа людзі на свеце, што складаюць так гладка і прыгожа! І тады яна сама бярэ ручку, вырывае з вучнёўскага сшытка аркуш паперы і лезе на печ. Печ у Таццяны малая, але ёй адной хапае. Падвесіць да бэлькі лямпу, паставіць дзежачку-блінцоўку (цяпер блінцоўка гуляе — няма сям'і, няма каму і блінцы пячы на сняданне) — і чым не канцылярыя?.. Таццяне чамусьці ўяўляецца, што ўсе самыя цікавыя кніжкі пішуцца ў канцылярыях за вялікімі сталамі... І піша.

А што ёй вечарамі цяпер яшчэ рабіць? Якую работу выдумляць сабе? Некалі, адразу пасля вайны, як дзеці былі яшчэ малыя, не згуляла яна ніводнага вечара. Усю зімачку, бывала, прадзе, а вясной кросны ставіць. Бо дзе было набрацца той крамы, каб і сябе і дзяцей апрануць? Асабліва хлапца — штаны так і гарэлі! А летам зноў было — хоць разарвіся. Цэлы дзень у калгасе на полі, а вечарам зноў прыбяжыш, дык не ведаеш, за што схапіцца: і карову падой, і свінчо накармі, і дзеці галодныя: «Мама, есці!..»

А цяпер што ж?

Цяпер Таццяна жыве адна. Сын Валодзька скончыў тэхнікум і вось ужо другі год служыць недзе аж на Чорным моры, у горадзе Севастопалі. На караблях плавае і таму пісьмы матцы піша рэдка. Часцей фотакарткі прысылае: то ў бесказырцы з лентамі, то ў бушлаце, то адзін, то з таварышам. Удалы хлопец. Не горшы за людскіх. Дарма што без бацькі, адны гадаваліся дзеці.

Хацелася б, вядома, каб пасля службы сын астаўся на жыццё дзе-небудзь паблізу. І месца было б, і работа знайшлася б: добры тэхнікум сынок скончыў, будаўнічы. Але дзе яно відана. Да службы працаваў ужо на добрай рабоце недзе аж пад самай Масквой. Там і пакой яму далі нават. Дык пэўна ж туды і паедзе. Не можа ж быць таксама, каб і дзяўчыны не засталося там. З Мінска, яшчэ ў тэхнікуме калі вучыўся, вельмі ж ужо адна дабівалася да яго пісьмамі. І ён ёй пісаў. Але хіба ж яна адна толькі ўдалая на свеце?

Дачка Насця зноў — пайшла замуж і аддзялілася. Пабудавалі сабе з мужам добрую хату, і бывай, матка!

Жыві здарова пад сваёй старой удовінай страхою... Аднак нічога не зробіш — такое жыццё.

Некалі і сама яна, Таццяна, як пачаліся калгасы, гэтаксама закамандавала гаспадару: хачу жыць сваёй хатай, сваёй сям'ёю! А ён тады таксама заставаўся адзіным сынам пры мацеры. Праўда, і маці тая — Таццяніна свякруха — была з норавам жанчына. Сама ў калгас не запішуся — і вам, маладым, дурным, няма чаго наперад за людзей вытыкацца! А яны, Таццяна з Костусем, не паслухалі матку, узялі ды і «выткнуліся» — першымі запісаліся ў калгас! А потым Костуся абралі старшынёй калгаса — так і старшынстваваў, аж пакуль на вайну не забралі. Пабудавалі яны тады сабе новую хату. Невялікую, не самую лепшую на сяле, але затое сваю... Свякруха так і памерла, ніводнага Таццянінага дзіцяці не то каб паняньчыла — на рукі нават не ўзяла. Як жа: нявестка адабрала і збіла з тропу адзінага сына! Яшчэ пакляла Таццяну:

— Каб цябе гэтак твае дзеці пакідалі, як мяне кінуў мой!

Аднак праклёны тыя не вельмі турбавалі тады Таццяну: дзеці раслі здаровыя. Самі яны з Костусем жылі дружна. Праўда, работы ў калгасе было многа. Але Костусь умеў людзей разумець, умеў разумна кіраваць гаспадаркай. За гэта і людзі яго паважалі, і калгас з году ў год дужэў. І сама яна, старшыніха, здаецца, не хадзіла па зямлі — на крыллях лётала...

Вайна ўсё знішчыла, зруйнавала.

Адбудоўваць жыццё пасля вайны Таццяна ўзялася ўжо адна — Костусь з вайны не вярнуўся.

І вось прайшоў час, усё як быццам забылася, загаілася. Сама ўзняла на ногі гаспадарку, сякі-такі набытак прыдбала. І дзяцей выгадавала. І навуку не горшую за людзей дала дзецям. Валодзька тэхнікум скончыў, а Насця — дзесяцігодку. У інстытут як ні дабівалася і сама яна, і Таццяна клапатала (ведама, няхай бы дачка вучылася ў горадзе!) — не прайшла. Але клопат вялікі: засталася на ферме і цяпер людзі лепшай даяркай лічаць. І зарабляе не горш заатэхніка ці агранома. Вось табе і інстытут... Праўда, пагаварвае Насця пра завочнае. Але дзе яно, мусіць, будзе тое завочнае, калі малога чакаюць.

Выраслі, адышлі дзеці — а з імі як быццам павінен бы адысці і клопат: няма каму наравіць, няма для каго спяшацца ўставаць. А ўсё роўна неспакойна душа: то ад сына доўга няма пісьма, то дачка зайшла нейкая пахмурная...

Захацела аддзяліцца, а ці ёй пры матцы роднай горш было? Вядома, добра, што пабудаваліся, што хату добрую паставілі... Але няхай бы хоць для людзей заікнулася: «Жыві і ты, мама, з намі...» Хіба не знайшлося б для яе месца ў тых іх трох пакоях? Дык не! Яна мо і сама не пайшла б да іх: у гаспадаровай, хоць і старой хаце, як ні кажы, а смялей, чым у зяцевай новай. І хлеба яна сабе яшчэ заробіць. Але няхай бы толькі сказана было тое слова...

Прывыкла Таццяна прачынацца ў пяць гадзін — і цяпер хоць ты вочы зашый. Будзе варочацца з боку на бок, думак перадумае немаведама колькі, а не засне больш, не звядзе вокам. І ўставаць не хочацца: колькі ў яе цяпер тае гаспадаркі засталося: асянчук-кабанчык ды дзве курыцы з пеўнем. Карову і свінню пароспую аддала дачцэ з зяцем — каб не з пустымі рукамі і не на голым месцы жыццё пачыналі. Аддзяліла ім таксама шафу новую, ложак нікеляваны, стол... Як пагрузіліся на машыну ды як крануліся з месца, думала, не вытрымае сэрца: «А дачушка ж ты мая, а дзеткі ж вы мае, чым жа вам такая кепская была маці?..»

Цэлы дзень, як непрыкаяная, хадзіла па пустой хаце і галасіла, быццам нябожчыка вынеслі з гэтае яе старэнькае хаты... А к вечару выплакалася, агледзелася: не такая ўжо яна і пустая гэта хата: жалезная школьная койка (школа дала яе Таццяне на часовае карыстанне), пасудная шафка (яшчэ нябожчык Костусь сам рабіў некалі да вайны). А каб куток не пуставаў — зяць загадзя змайстраваў невялікі столік... Паслала яго абрусам і не ўбачыла ніякай розніцы: у магазіне той стол куплены ці сваімі рукамі зроблены. Дзякуй богу, у хлопца рукі спраўныя... Потым вымыла падлогу, прыбрала, а як прыйшла вечарам Марфа — Таццяніна таварышка — зноў залілася слязьмі.

Аднак Марфа, таксама, як і Таццяна, удава з вайны, не любіла дарэмнага балота. І сама не кісла, якім бы горкім бокам ні паварочвалася да яе жыццё, і другім не давала кіснуць. Круглая і цяжкая, як на вялікую сям'ю хлебная дзяжа, Марфа скрыжавала на магутных грудзях пульхныя рукі і свае адносіны да Таццяніных слёз выказала вельмі коратка:

— Цьфу! Цьфу на цябе, дурніца!

— Але, табе добра... А людзі ж што скажуць...— недагаварыла і яшчэ мацней залілася слязьмі Таццяна.

— Людзі?! — нібы сякерай замахнулася Марфа.— Людзі? Мой сынок таксама не пытаўся ў мяне, а выбраў сабе на восем гадоў старэйшую... Вядзе яе па вуліцы пад ручку, а людзі глядзяць у вокны і пасміхаюцца... А я кажу: «Добра! Вадзі! Вадзі і жыві так, каб вам абаім добра было!» А што людзі скажуць — дык няхай яны раней на сябе паглядзяць, як яны самі жывуць!

Марфа скідае з сябе ватоўку, скідае хустку і, нібы добрая веснавая хмара, рушыць на Таццяну, маленькую, худую, у вузкай цёмнай спадніцы і кароткай паркалёвай кофтачцы. Дзяўчынка-падростак, а не баба.

— Ты зірні на сябе! — тым часам грыміць Марфа.— Высахла ў трэску, счарнела... Што ж ты — у сорак сем гадоў хочаш сябе ўжо жывою ў магілу закапаць? Выгадавала дзяцей — і хопіць! Захацелі жыць асобна — няхай жывуць! Не век жа ты будзеш на іх выстарчаць... А што людзі скажуць? Дык няхай яны гэтак, як мы з табой, удовы, пагадуюць, павывучваюць сваіх дзяцей, няхай пажэняць іх, а потым ужо і турбуюцца за нас.

Таццяна слухае Марфу, усхліпвае ўсё радзей і непрыкметна зусім супакойваецца. Умее яна, Марфа, супакоіць душу. Ніколі не будзе гаварыць табе спачувальных слоў ці шкадаваць цябе, наадварот, палае, накрычыць на цябе. Але ўсё гэта ідзе ў яе з глыбіні яе добрага спачувальнага сэрца. І чалавек, якога прабірае Марфа, адчувае гэта.

— Давай лепей будзем вячэраць. Адной мне таксама нудота. Валька ж мая сёння паехала на практыку,— пераводзіць гутарку на другое Марфа.— Выпхнула, нарэшце, дзеўку. А то бачыш, тэхнікум канчаць канчала, а як на практыку ў калгас, дык не хачу! Сталічная паненка знайшлася!.. Дык я ёй сваё слова і адрубіла: «Дачушка,— кажу,— твой бацька склаў галаву на вайне, а ты, як свіння, лыч адварочваеш ад зямлі, якую ён бараніў... А я, твая маці, дзе працую? На той самай зямлі, у калгасе. Дык вось, вывучыла цябе дзяржава на агранома, падзякуй ёй і не паказвайся мне на вочы, пакуль чалавекам не станеш...» Вось так я адправіла сваю дачушку... Дзе ў цябе востры нож, Таццяна? Гэта ж мне сёння сваха свежыны прынесла.

Потым Марфа дастае з кішэні яшчэ чацвярцінку, разлівае яе па шклянках і раптам сама коратка ўсхліпвае:

— Не тужы, таварышка. Пражылі горшае, пражывём лепшае... Хіба я думала некалі, што пражыву пахаронку па сваім Мікалаю... А вось жа — жыву.

Яны, па-жаночы, з разгону стукаюцца шклянкамі, выпіваюць.

— Ото ж паскудства! — рукавом выцірае рот Марфа і адкавяльвае ёмкі кавалак вантрабянкі.— Не паверыш, Таццяна,— працягвае Марфа,— у мяне часам здараецца такі настрой, што хоць ты плач — хочацца глытнуць мне яе, праклятай, глыток, ды і толькі!

— А мне ніколі не хочацца,— выціраючы слёзы (цяпер ужо іншага гатунку), адказвае Таццяна.— Іншы раз, дальбог, пазайздрошчу мужыку якому: вось, думаю, халера — выпіў, і яму лёгка і весела... А каб самой — дык нізавошта!

— Мужыкі — яны не дурні! Яны сабе заўсёды знойдуць уцеху, не тое што мы, бабы... Ты мне скажы,— раптам ажыўляецца Марфа,— знойдзеш ты хоць аднаго мужыка, няхай сабе самага апошняга зломка на сяле, каб ён застаўся ўдаўцом? Ніколі! Нашто табе далёка хадзіць — вазьмі нашага лапіцкага Хведзьку Вераб'я. Мужык — сама ведаеш, цана — паўкапейкі ў базарны дзень... А вось жа: і году не пабыў адзін пасля жонкі. Пайшла ж Гэлька. І не скажаш, каб кепская ці якая дурная баба была...

— Нешта ж убачыла, нешта ж знайшла яна ў ім...— думаючы пра штосьці сваё, далёкае ад Марфіных слоў, не адразу адазвалася Таццяна, адкусваючы маленькі кавалачак свежыны.

— Знайшла! — зняважліва адмахнулася Марфа.— Ды я, каб з ім удваіх на ўсе Лапічы засталася — і то не пайшла б за яго!.. Каб жа хоць прыстойны чалавек быў, дык чорт бы ўжо яго бяры з тым мужыком, а то ж яшчэ і бот з левай нагі!

— Каб прыстойны чалавек...— летуценна ўслед за ёю паўтарыла Таццяна.— Каб прыстойны чалавек...

...Не раз цікавіліся мужыкі і яе ўдовінай хатай. Ды ўсё не траплялася прыстойнага чалавека. Адзін гарэлку любіў больш, чым жонку, і не хаваўся, на ўвесь свет пахваляўся гэтым. Другі пакінуў дзяцей і жонку і пусціўся ў сабачую шкуру. Трэцяму перашкаджалі яе, Таццяніны, дзеці... А прыстойны чалавек так і не завітаў ні разу. Так і пасівела і пастарэла без пары — ад думак, ад клопату, ад адзіноты. А каб жа быў добры чалавек у хаце... Каб табе кожную раніцу не ламаць галаву, дзе ўзяць тое сухое палена ў печ, каб было каму страху залатаць... Каб прыйшоў аднойчы ён з работы, стомлены, абняў цябе за плечы, таксама стомленую, і сказаў гэтак добра і клапатліва: «Будуюцца людзі, Таня, давай і мы з табой нешта думаць. Не

ўломкі ж якія, дзякуй богу...» І як бы добра было памагаць яму: ехаць некуды ў лясніцтва выпісваць дзерава (ведама, жанчыне — ёй усюды лягчэй дастуліцца!). А потым на калгаснай машыне, разам з мужыком, ехаць па цэглу на завод! А потым, калі будзе ўпарціцца, і са старшынёй калгаса добра палаяцца: дай не адну і не дзве, а ўсе тры падводы перавезці тое дзерава з лесу!.. Клопату немаведама колькі: і на лесапілку ехаць дошкі пілаваць, і людзей наймаць, і карміць іх, і паіць... Але ж не адна ты! Ты сёння дома — ён паехаў недзе нечага старацца. Ён застаўся — ты пачапілася на спадарожную машыну і паехала па цвікі якія ці шкло на вокны... І ўсюды вы — удваіх. Бо і ты шчырая, працавітая жанчына. І ён прыстойны, клапатлівы чалавек...

Ах, таварышка, мая таварышка! Якое гэта вялікае шчасце ісці па жыцці поруч з такім вось добрым чалавекам. Каб паважаў ён цябе. Каб было ў цябе да каго прытуліцца ў радасці і ў горы. Каб было ад каго пачуць добрае, ласкавае слова...

Сядзяць жанкі, разважаюць, і ў кожнай свае думкі, свой боль і ўспаміны.

— Але ж, каб яно згарэла! — раптам устае і ваяўніча падхоплівае сябе рукамі ў бокі Марфа.— Не прапалі ж мы з табой, Танька, і ўдовамі! Вось гэтымі мазалямі,— яна стукае кулаком па стале,— гару работы перарабілі ў калгасе. Дзяцей выгадавалі і ў людзі вывелі!.. І гэтым я ганаруся!

У такіх выпадках Таццяну заўсёды разбірае смех: да чаго ж пацешная гэта Марфа, варта ёй толькі губы памачыць выпіўкай. Паглядзець збоку — літру, здаецца, можа выпіць баба і не скрывіцца. А Марфа, як малое дзіця — толькі хмель яе прастору патрабуе.

— Так я кажу ці не? — наступае на Таццяну Марфа. Таццяна не адразу адказвае ёй.

«Добрая ты, Марфа, цяжка мне было б без цябе. Ды і ты — няхай гора якое, няхай радасць,— ты таксама бяжыш да мяне...»

— Дзякуй табе, Марфачка, што зайшла ты да мяне, што нуду маю разагнала...

Я нуду сваю, нуду
Ды рукамі развяду...—

прытупнула спачатку на месцы, а потым плаўна прайшлася па хаце Марфа.

— А памятаеш, Марфачка, як мы кадрыль скакалі на тваім вяселлі! — раптам загараецца ўся ўспамінам Таццяна.— Памятаеш, мой Косцік, твой Мікалай...

— Памятаю!..— цяжка дыхаючы, асядае на табурэтку Марфа.— Ты была ў чырвоным атласным плацці, а я ў белым, вянчальным... Дальбог, Танька, не кепскія дзеўкі былі мы некалі! — у захапленні ўсклікае Марфа.

— Не кепскія! Пачакай...

І Таццяна дастае з шуфляды стары, пажоўклы ад часу альбом. Каторы раз глядзяць, пераглядаюць яны яго ўдзвюх з Марфай.

— Ты зірні толькі, які дуб быў твой Мікалай! — у захапленні ўсклікае Таццяна.

— Мой, праўда, быў што дуб,— згаджаецца Марфа.— Гэтакая сілішча была ў чалавека... А вось твой — арол! — яна лёгка ўздыхае, і ўздых гэты азначае, што яна, Марфа, ведае розніцу паміж дубам і арлом...

— Косця мой, праўда, быў нейкі не такі, як усе...— летуценна ўсміхаецца Таццяна.

— Пажыла ты, дзеўка, з мужыком. І разумны быў і ўдалы... І цяпер, сярод маладых, таксама такога пашукаць трэба...

— Паверыш, а я ўжо забыла, які ён быў. Усё чысценька забыла, як быццам і не было тых сямі гадоў. Як быццам і не была я ніколі жонкай,— вінавата прызналася Таццяна.

— Забываецца. Усё забываецца. І кепскае і добрае. Толькі кепскае забываецца хутчэй. Мой Мікалай не раўня тваму Костусю быў. І выпіць любіў і баб не мінаў... А я цяпер успамінаю толькі добрае...

— А яны дружылі — Косця з Мікалаем.

— Дружылі. Які б наш калгас цяпер быў, Таццяна, каб вярнуліся ўсе нашы мужыкі ды каб твой Косця і цяпер быў старшынёй... А то не шанцуе нам пасля вайны на старшыняў. Адзін прыйшоў, другі пайшоў... Можа, хіба гэты апошні, твой хрэснік, будзе чаго варты,— жартуе Марфа, намякаючы на новага старшыню калгаса, якога выбралі пасля Таццянінага пісьма ў рэдакцыю.

— Хто яго ведае, які ён будзе...

— Покуль што прыслухоўваецца да людзей, стараецца — значыць, не дурань,— сваё безапеляцыйнае заключэнне робіць Марфа.

— Ой, як нам трэба разумнага старшыню...

— Вось, можа, з твае лёгкае рукі і пойдзе ў нас спра-

ва на лад,— устае і соладка пацягваецца Марфа.— Нездарма ж цябе карэспандэнткай празвалі...

— Ай, маўчы хоць ты! — нездаволена адмахваецца Тацяна. Яна не любіць гэтага прозвішча.

Яно, вядома, было б ёй прыемна, але ж ці ты гэтым людзям растлумачыш, зачым яна піша, пра што піша. Проста іначай неяк ужо жыць не можа. Сядзе, выпіша, выкажа ўсё, што на душы,— і быццам жыць тады лягчэй і весялей робіцца.

Вось і гэты раз. Развіталіся яны з Марфай, хоць і слоў тых не было сказана, як лепшыя таварышкі, як родныя сёстры. І быццам і не было таго каменя, што гнёў яе цалюткі дзень. Цяпер бы легчы і спаць. Але Тацяне не хочацца спаць. І яна бярэ лямпу. Падвешвае яе да бэлькі. Зручней ставіць дзежачку-блінцоўку і вырывае з вучнёўскага сшытка аркуш паперы.

Гэты раз сваё пісьмо ў рэдакцыю Тацяна піша пра Марфу, сваю таварышку, жанчыну з добрым разумным сэрцам, удаву, як і сама яна, Тацяна, з апошняй вайны.

І каму гэта перашкаджае, што яна піша ў рэдакцыю?..

*1961*

## ЧУЖЫЯ ВЕРШЫ

Заняты дапрацоўкай паэмы, усе апошнія дні я хадзіў як учадзелы. Слухаў і не чуў жончыных скаргаў, што восень на носе, а мы сядзім склаўшы рукі і нічога сабе не думаем. І сапраўды, мінулыя гады ў гэту пару мы абое звычайна займаліся нарыхтоўкай на зіму.

Не моршчыцеся ад гэтай жыццёвай прозы, паэты, звыклыя лунаць толькі ў завоблачных вышынях. І не падымайце недаверліва брыво тыя, каму здаецца, што паэты здольны жыць святым духам...

Аднак цяпер мне было не да жончыных бочак, якія ўжо тыдні са два, налітыя вадой, кіслі пад вокнамі. Не захапляла мяне і цудоўная перспектыва некалі зімой паласавацца храбусткім салёным агурочкам або чырвоным, быццам толькі што з грады, памідорам...

Нават да ўласных дзяцей усе гэтыя дні мне не было ніякай справы. Сын-першакласнік ныў, што ў яго не атрымліваліся палачкі. А пяцігадовай дачцэ было сумна гуляць адной у лялькі.

Каб утрымацца на вяршыні сваёй бацькоўскай педагогікі, я не крычаў на дзяцей і не ўшчуваў іх. Я толькі цярпліва адпраўляў іх за дзверы свайго кабінета (так гучна называла мой шасціметровы закутак жонка). Адпраўляў да маці.

Дзеці крыўдзіліся, хныкалі і сапраўды ішлі да яе. Яна там нешта з імі рабіла, нешта тлумачыла ім, і яны сціхалі. А праз дзесяць хвілін зноў стаялі за маёй спіной і зноў патрабавалі маіх бацькоўскіх тлумачэнняў і клопату.

Звычайна ў такіх выпадках я не ўмеў доўга вытрымліваць ролі педагагічнага бацькі і ўцякаў у бібліятэку.

Так было і на гэты раз.

Свабоднае месца я ўбачыў яшчэ з дзвярэй: за крайнім каля акна сталом. Там сядзела адна толькі жанчына, і я мог працаваць, не звяртаючы на яе ўвагі.

Я паклаў на край стала свой рукапіс і адсунуў крэсла, гатовы цэлы дзень праседзець за гэтым сталом.

— Добры дзень, Ваня.

Я ўзняў вочы і не паверыў сабе.

— Жэня?! Адкуль ты ўзялася? І чаго?

— Ну, адкуль, ты ведаеш. І чаго — таксама,— паказала яна вачыма на цэлы стос груваcткіх парыжэлых фаліянтаў і кніг.

Праўда, і тое і другое я ведаў: Жэня канчала завочна універсітэт.

— Ну дык хоць павітаемся давай...

Яна ўзнялася са свайго месца, прыкметна распаўнелая, але, як і некалі, лёгкая, рухавая.

— Добры дзень, Жэнечка! Каго-каго, а цябе тут стрэць сёння я ніяк не спадзяваўся...

— Ну, вось бачыш,— засмяялася яна,— а я збіралася ісці званіць табе. Разумееш, мне патрэбны літаратурныя матэрыялы па гісторыі старажытнай Беларусі. Можа, ты ведаеш і параіш мне што-небудзь...

— Трэба падумаць,— адказаў я, а пра сябе адзначыў: «А каб не гэтая гісторыя і не гэтыя літаратурныя матэрыялы, дык, напэўна, і не ўспомніла б, што я ёсць на свеце».

Аднак Жэні я не выказаў сваёй крыўды. Я ніколі на яе не крыўдзіўся.

— Ты перамяніўся здорава! Калі ўжо ты перастанеш таўсцець?

— Не такі ўжо я тоўсты, як табе здаецца.

Я ведаў гэты грэх за сабою, і мне непрыемна было чуць пра гэта ад людзей, тым больш ад Жэні. І, каб перавесці гутарку з мае асобы на іншае, я запытаўся:

— Сапраўды, якім чынам ты тут? У цябе ж заняткі ў школе?

— Ай, не кажы. Ты ж ведаеш, што ў нас дырэктар школы — гэта казёл адпушчэння. Бач, ніхто, апрача мяне, не мае права атрымаць кнігі ў бібкалектары. Грошы перавесці таксама немагчыма — толькі з рук у рукі, за наяўны разлік. Вось і прыехала... Я ўжо два дні тут, а кнігі можна будзе паглядзець і выбраць толькі сёння ўвечары. Вось і сяджу. У студзені ў мяне ўжо дзяржаўныя!..

— Яшчэ пазаўчора прыехала?! — Я стрымаў папрок: якая карысць.

Прыстойнасць вымагала распытаць пра здароўе мужа, сына, пра жыццё наогул. Я абмежаваўся адным пытаннем:

— Як Валодзя трымаецца? Усё такі ж маладзец?

— Маладзец! А малюе як!

Пра мужа я не спытаў. Я не любіў яе Касцюка. Не таму не любіў, што некалі, як мне здавалася, кахаў яе самую, а так: мне ён быў непрыемны як чалавек.

Некалі ўсе мы трое вучыліся ў адным тэхнікуме. Толькі я канчаў на год раней за іх. Касцюк тады нічым асаблівым не вылучаўся. Прыгожым назваць яго было нельга. Пры добрым росце і ўдалым складзе цела ён меў нейкі

вельмі ненатуральны белы колер твару і вузкі лоб. Праўда, вучыўся добра... У Жэні з ім была дружба, і яна не раз хваліла яго мне. Я ж яго ведаў толькі здалёку і гаварыў з ім не больш разоў якіх трох.

У мяне з Жэняй адносіны былі самыя сяброўскія. Мы з ёю жылі ў суседніх вёсках, ездзілі разам на выхадныя дадому і разам вярталіся ў тэхнікум. Яна была гады на два маладзейшая за мяне і адносілася да мяне, як адносяцца да старэйшага сябра, якому можна даверыць сваё сэрца і душу, зусім не клапоцячыся пра яго самога... У той час яна была захоплена адным сваім аднакурснікам Валькам Брукам. Хлопец ён быў недалёкі, але вясёлы і востры на язык. Мусіць, гэта толькі і захапляла Жэню, хоць, праўда, хіба можна растлумачыць глебу нашых захапленняў? Розум часам кажа адно, а сэрца другое: падабаецца — ды і ўсё! І паспрабуй разбярыся. Так было і з Жэняй. Калі нам часам даводзілася аставацца ўдваіх, яна, не слухаючы ніякіх маіх довадаў, даказвала мне, што я не разбіраюся ў людзях... Другім разам, расчараваная і засмучоная, гаварыла зусім іншае, нават калі я і маўчаў і не пярэчыў ёй.

— Ты разумееш, Ваня, я сама бачу, які Валька...— Яна падшуквала патрэбнае слова, каб больш пэўна акрэсліць сваё захапленне.— Разумею, які ён...— Яна ці то не знаходзіла патрэбнага слова, ці то не адважвалася сказаць, што гэты яе Валька пусты і недалёкі хлопец, але я разумеў яе.— Усё гэта я бачу і разумею... Але калі мы разам — тады нам добра...

— Ну, вось бачыш... А Касцюк?

— Касцюк разумны, сур'ёзны, на яго можна спадзявацца. У яго галаве не гуляюць скразнякі, як у Брука...

Наогул яна часта захаплялася. Часам мне здавалася, што і я ёй не зусім абыякавы... Але, мусіць, гэта толькі мне самому так здавалася. І здавалася таму, што я сам не заўсёды быў абыякавы да гэтых спатканняў з ёю.

Я скончыў тэхнікум на год раней за Жэню. Мы з ёю зрэдку перапісваліся. У час фінляндскай вайны я быў паранены і напісаў ёй са шпіталя пісьмо левай рукой. Гэта, відаць, яе ўсхвалявала, і яна адказала мне цудоўным, цёплым пісьмом. Я тады нават упэўніў быў сябе, што гэта невыпадкова. Аднак пазней зразумеў, што гэта быў проста натуральны водгук яе палкай натуры. Атрымай яна пісьмо ад любога нашага студэнта з такім жа зместам і пры такіх акалічнасцях — яна і другому напісала б гэтак жа шчыра і горача. Такая яна ўжо была...

У вайну мы страцілі ўсякую сувязь і, калі сказаць праўду, зусім забыліся адно на аднаго. Я ведаў толькі тое, што яна была на фронце. Я таксама ваяваў і таксама меў другі, ужо сталы і надзейны адрас. Я перапісваўся са сваёй жонкай — тады яшчэ маёй толькі надзеяй і марай. Яна была ў тыле, і я быў шчыра ўдзячны ёй: яна ўмела сагрэць маё франтавое акопнае жыццё.

Цяпер мы з ёй дзівімся і смяёмся: адкуль яно што бралася. Яна ж магла напісаць мне тры пісьмы за адзін дзень! А што лепш магло ўсцешыць і сагрэць сэрца салдата, як не гэтыя праштампаваныя вайной пісьмы-трыкутнікі?..

Скончылася вайна. Мая акопная мара і надзея зрабілася маёй уласнай жонкай. У нас ужо быў сын. Мы жылі ў родным горадзе, у сваім жактаўскім пакоі. Аднойчы позна вечарам да нас пастукалі. Жонка з сынам ужо спалі. Не спаў толькі я. Я пайшоў адчыніць дзверы і адступіў назад. На парозе стаяла Жэня. Мы пасядзелі гадзіны са дзве ў мяне за сталом. Выпілі чаю. Пагаманілі, успомнілі юнацтва. Мая жонка — яна ўстала з пасцелі — не ведала Жэню, ці, правільней (я адчуваў гэта), не вельмі, мусіць, паверыла ў наша мінулае сяброўства. Як і ўсякай жанчыне — да таго ж раўнівай,— ёй уявілася, відаць, нешта куды глыбейшае. Таму яна неяк сціснулася, замкнулася ў сабе і здавалася няветлівай. Я бачыў гэта, і мне было няёмка і за яе настрой, і за тое, што я не ўмею перамагчы нацягнутасць у нашай агульнай гаворцы. Жэня таксама ўсё гэта бачыла і добра разумела. І яна таксама не была такой, як некалі — вясёлай і непасрэднай. Са мной яна старалася трымацца холадна (каб не пакрыўдзіць жонку — яны, жанкі, разумеюць адна адну лепш, чым мы іх), з жонкай жа — падкрэслена ветліва, што зноў-такі магло выклікаць у сэрцы, у якое запала зерне недавер'я і рэўнасці, усякія адчуванні.

На развітанне я запрасіў Жэню заходзіць да нас, калі ёй здарыцца бываць у нашым горадзе. Яна запрашала бываць у яе: ездзім жа мы на радзіму... Яна працавала ў сваёй вёсцы.

Я бачыў, што маёй жонцы Жэня не спадабалася, хоць яна і не гаварыла пра гэта. Не спадабалася яшчэ, я мяркую, таму, што Жэня выглядала неяк вельмі молада і прывабна, а мая жонка, цяжарная другім дзіцем, здавалася змучанай і без часу састарэлай. У такіх выпадках жанчыны не даруюць і не мірацца з чужым хараством.

Прайшло не менш года, як аднойчы на рабоце мяне паклікалі да тэлефона. Я спытаў, хто гаворыць са мной, і тут жа пазнаў голас: гэта была Жэня. Яна прыехала паступаць завочна. Мы сустрэліся ва універсітэцкім скверы і былі вельмі ўзрадаваны гэтай сустрэчай.

Нам ніхто не перашкаджаў, на нас ніхто не глядзеў недаверліва і нядобразычліва, і мы прыпаміналі сваё юнацтва з самым гарачым і шчырым захапленнем.

Я запрасіў Жэню — у душы таго зусім не хочучы — зайсці да мяне дадому... Яна засмяялася і неяк з адной толькі ёй уласцівай інтанацыяй і незласлівай насмешкай усяго толькі сказала:

— Ай, Ванечка, нам і тут добра. Вось пасядзім, пагамонім. А навошта дадому?

І я не настойваў.

Завочнае Жэніна вучэнне цягнулася шэсць гадоў. І сустрэчы нашы, не мяняючы свайго ні адцення, ні зместу, працягваліся таксама: раз у паўгода, у год...

Такой была і гэта наша сустрэча.

* * *

Перад самай вайной Касцюк ажаніўся на дзяўчыне-медычцы, якая працавала ў той самай вёсцы, куды і яго прызначылі настаўнічаць.

А калі пачалася вайна, здарылася так, што жонка, як медык, пайшла на фронт з першага дня, а ён астаўся пры немцах і добраахвотна запісаўся ў СБМ (саюз беларускай моладзі). І па ўласнай ахвоце выехаў потым у Германію.

Невядома, які хлеб ён там еў. Вядома толькі, што таго смаку, які зазналі нашы савецкія людзі, гвалтоўна загнаныя на германскія шахты і саляныя копі, на германскія заводы і фермы, Касцюк не паспытаў. Так на гэтым «хлебе» ён вывучыў амаль паў-Еўропы, а як скончылася вайна, сухі і чысценькі, зноў вярнуўся ў Беларусь. Жонка ж яго з фронту не вярнулася.

І вось прайшло не больш года, як другой яго жонкай стала Жэня. Цяпер Касцюк працаваў у той школе, дзе Жэня была дырэктарам, і як я чуў, меў там славу нядрэннага выкладчыка.

Аднак для мяне гэта не мела ніякага значэння. Яго памілаваў закон. Я — чалавек — не быў да яго літасцівым. У маіх вачах ён аставаўся ўсё тым жа Касцюком, які здо-

леў адвярнуцца ад Радзімы і ад свайго народа ў дні самых цяжкіх выпрабаванняў. І я не дараваў яму гэтага.

Аднойчы, выпіўшы чарку, я і Жэні сказаў пра гэта, калі яна спытала ў мяне, чаму я ніколі не пытаюся пра яе Аляксея.

— Ведаеш,— сказаў я ёй,— свайго Касцюка ты мне не ўспамінай. Няхай бы на яго месцы быў любы другі хлопец — і я лічыў бы яго лепшым сваім сябрам, як лічу цябе самую... Касцюка ж, прабач, не магу. І ты сама ведаеш і разумееш чаму.

Яна разумела і, сапраўды, з таго часу ні разу пры мне не называла яго імя.

Затое сам я, як ні стараўся, не мог зразумець Жэні. Некалі ў нас у тэхнікуме яна была адной з самых актыўных і дзейных камсамолак. Без яе не абыходзілася ніводнага сходу, ніводнага камсамольскага пачынання.

Вайна забрала ў яе бацьку і старэйшага брата — абодва загінулі ў партызанах, загінулі ад рукі такога ж вось свайго, вясковага касцюка. Той таксама потым уцёк з немцамі ў Германію. Праўда, назад не вярнуўся...

Я не мог гэтага зразумець. Адразу не мог нават дараваць ёй гэтага. Няўжо не было нікога іншага?..

Сама Жэня прайшла фронт сувязісткай. На фронце яе прынялі ў партыю. А як скончылася вайна, зноў адазвалі ў школу, прызначылі дырэктарам.

Аднойчы Жэня расказала мне, што на фронце ў яе быў харошы хлапчына, малады армянін Самвел. Ён яе кахаў. І яна кахала яго, абяцала пайсці за яго замуж.

І вось стрэлася з Касцюком...

Самвела яна ўспамінала часта. Успамінала з летуценнай усмешкай на вуснах. Мусіць, у яе сэрцы ён пакінуў незабыўны ўспамін. Але чаму толькі ўспамін? Чаму ён не завалодаў яе сэрцам і выпусціў з рук — у другія. Мне гэтыя другія рукі здаваліся бруднымі.

— Ведаеш, дзе я гэтым летам была? У Р. Мы ехалі ўсёй сям'ёй. Ах, каб ты паглядзеў, што зрабілі з ім немцы!..

— Не забывай — не адны немцы.— Я не мог стрымацца ад гэтага справядлівага папроку: яна была там, у разбураным горадзе нашага разбуранага юнацтва з тым, хто здрадзіў і памагаў немцам разбураць і паліць яго! Яна павінна была памятаць, што яму дараваў толькі закон. А людзі — не!

Яна глянула проста мне ў вочы, і бровы яе пахмурыліся — я не адвёў свайго позірку.

Яна не вытрымала яго і, гледзячы за акно, пачала расказваць:

— Я ўзяла Валодзю з сабой таксама. Заходзім у вестыбюль... Памятаеш, злева за столікам заўсёды сядзеў наш швейцар Плявака. Белая барада да пояса і форма, як у губернатара...

— А направа — раздзявалка... Там першакурснікі хаваліся ад Козака. Памятаеш, нашага матэматыка...

— Памятаю.

— Ты памятаеш, як ён казаў: «Калі я пастаўлю студэнту «здавальняюча», значыць, я ўкраду ў дзяржавы семдзесят пяць рублёў»...

— І ставіў «энзэдэ»...

— А памятаеш, як вашы хлопцы заступілі яго на Чортавым мосціку?..

— Ну, і што ж — як ён цяпер наш «приют экзаменов, трудов и вдохновенья...»?

— Не кажы. Мы з Аляксеем лёдзь там не заплакалі... Я ледзь не заплакала...— паспешна направілася яна.— Памятаеш, колькі ў нас кветак было на вокнах! А паркет — ззяў, як люстра. Дывановыя дарожкі... А зараз — ні кветачкі. Падлога дашчаная, шэрая, нефарбаваная... Прыбіральшчыца нявеглая такая: «Што вам тут трэба?» А я і кажу ёй: «Некалі, да вайны, мы тут вучыліся. Дазвольце нам зайсці паглядзець». Зайшлі ў сваю аўдыторыю — не пазнаць... Перагароджана, там цяпер два класы... Ты памятаеш Ханіна? Памятаеш, як ён чытаў у нас сярэднюю гісторыю? «Римская империя трещит по всем швам!..» І ўказальным пальцам так грукаў па дошцы, што мы баяліся, дошка сарвецца са сцяны і паляціць... Загінуў ён, бедны... І Пагуляй, наш завуч, загінуў, і парторг Грамыка...

— Не загінулі, засталіся толькі тыя...— Я ў час стрымаўся...

— Ну, ты ж таксама героем прайшоў усю вайну, а вярнуўся ж...— не пажадала на гэты раз схаваць свае насмешкі Жэня.

— Я прайшоў вайну салдатам.

Па твары яе прабег цень болю. За каго ёй было балюча? Наўрад ці за мяне.

Жэня неяк паспешліва закончыла свой расказ, прыпомніўшы яшчэ дзве-тры дэталі нашага студэнцкага жыцця: разбураны гарадскі сад «сорак на сорак» — куды мы бегалі на спатканні; Цымерманка — галоўная наша вулі-

ца — цяпер там бульба расце; Пясочная, 42 — там быў інтэрнат дзяўчат, там жыла тады Жэня...

— Ітак, праз паўгода ты закончаны гісторык. А далей? — пастараўся я жартам перавесці размову на іншае.

— А далей? Выберам з Аляксеем дзе-небудзь у лясным раёне школу. На беразе рэчкі. І будзем старэць паманеньку.

— Перспектыва, што і казаць, захапляючая. Тады ўжо цябе тут не стрэнеш.

— Прыязджай у госці.

— Дзякую.

Не жадаючы таго, мы гаварылі адно аднаму насуперак. І ўсё праз аднаго яго, праз гэтага яе Касцюка.

— Ты надоўга сюды?

— Заўтра ў сем гадзін раніцы еду.

— Чаму так спешна?

— Сам жа дзівіўся, як вырвалася, а цяпер: «Чаму так спешна?» Смешны які ты...

Позірк яе вачэй цёпла пагладзіў мой твар, крануў нябачныя струны сэрца, спыніўся на маіх руках.

— А ты ўсё такі ж мурзілка, як і сто гадоў назад! І цяпер умудрыўся запэцкаць пальцы чарнілам... А яшчэ паэт, вершы пішаш, кнігі друкуеш...

Ліха з ім, з гэтым Касцюком! За гэты яе позірк і незласлівую насмешку я дараваў ёй нават яго!

...Мы пайшлі з Жэняй у сталоўку, разам паабедалі, потым яна пайшла па сваіх кніжных справах.

І пакуль яна хадзіла, я працаваў з нейкім асаблівым натхненнем. Я быў нібыта пагружаны ў нейкую адухоўленую паэтычную лёгкасць, якая несла мяне, як на крылах.

Неўзабаве Жэня вярнулася і сказала, што павінна тэрмінова заняцца сваімі службовымі справамі, інакш заўтра не здолее выехаць. Яна паспешна здала ўсю сваю літаратуру і яшчэ раз на хвілінку прысела са мною.

— Я вельмі рада, што стрэлася з табою... Калі мы апошні раз бачыліся? Паўгода назад?

Так, апошні раз мы бачыліся паўгода назад, зімою, калі яна прыехала на заліковую сесію. Мы дамовіліся пайсці разам у тэатр. У тэатры было холадна. Мы дрыжалі і ледзь дасядзелі да канца пастаноўкі.

— А цяпер калі сустрэнемся?

— Мусіць, зноў зімой.

— Зноў праз паўгода? Як у добрых старых раманах.

— І сапраўды,— лёгка засмяялася Жэня.

Не, яе не засмучаў гэты тэрмін. Ну, што ж?.. А хіба я вельмі сох ці не спаў ночы праз тое, што не бачыўся з ёю па году? Не ж...

— Ну, дзякуй табе.

— Аставайся здаровы,— працягнула яна мне руку.— І не праводзь мяне. Не трэба.

— Дзякуй табе,— яшчэ раз падзякаваў я ёй за нашу сённяшнюю, такую нечаканую сустрэчу.

— За што? — засмяялася яна, стоячы ўжо на трэцяй прыступцы лесвіцы.

І лёгка збегла ўніз.

Я падышоў да акна ў калідоры — адсюль мне відаць было, як Жэня пераходзіла вуліцу. Я пастаяў, пакуль яна не схавалася ў скверы.

Схавалася, як звычайна, на паўгода? На год?

...На стале ў чытальнай зале мяне чакала мая паэма. Я рыхтаваў канчатковы варыянт для выдавецтва — здымаў птушачкі, настаўленыя шчодрай рукой нягласнага рэцэнзента.

Усе гэтыя дні я быў у палоне сваіх вершаў. Яны не адступалі ад мяне ні на крок, не пакідалі мяне ні на хвіліну. Я крамсаў і рэзаў іх без літасці. А яны ўсё роўна роем кружыліся ў маёй галаве.

Вось і цяпер я стаяў ля акна і, нават не заўважаючы гэтага, гаварыў сам з сабой вершамі. Я вымавіў іх услых, паўтарыў і здзівіўся: хіба гэта я склаў гэтыя вершы? Хіба на гэтай мове размаўляю я сам з сабою і са сваімі блізкімі? Што гэта азначае: «Co to jest — przyjazn albo kochanie?..».

Чые гэта вершы?

Я ўспомніў іх у перакладзе:

Калі не страчаю цябе — я не плачу,
Спакойны — калі цябе раптам пабачу.
. . . . . . . . . . . .
І ў смутку сабе задаю я пытанне:
Ці гэта дружба, ці гэта каханне?

Божа мой, вершы Адама Міцкевіча я гатовы быў выдаць за свае ўласныя!

Я вярнуўся ў чытальню і працаваў да вечара, выходзячы толькі пакурыць.

У думках я ўяўляў сабе, як заходжу ў выдавецтва, як стараюся спакойна выслухаць новыя заўвагі рэдактара, як, нарэшце, падпісваю ўмову, патрабую тут жа, пры мне,

вызначыць лічбу майго больш чым двухгадовага заробку... З гэтым тут, як заўсёды, не спяшаюцца і адкладваюць да наступнага разу: яшчэ не дамоўлена канчаткова з начальствам...

У думках я ўзрушваюся да таго, што выкурваю ў курылцы запар тры папяросы. Гэта мяне супакойвае, і зусім непрыкметна я зноў падыходжу да таго акна, з якога добра відаць перакрыжаванне вуліц і сквер, у якім знікла Жэня.

Знікла на паўгода? На год?..

Вершы зноў набіваюцца мне ў галаву, зноў штурхаюцца ў ёй — разабраць нічога немагчыма. Я даю ім волю і ў лірычным гамузе зноў адрозніваю нядаўнюю няпэўнасць і сумненне:

...І ў смутку сабе задаю я пытанне:
Ці гэта дружба, ці гэта каханне?..

Хто яго разбярэ, што гэта такое, калі і сам я не разабраўся амаль за дваццаць год вось такіх жа з'яўленняў і знікненняў: на год, на паўгода, на тры гады, на пяць...

*1958*

# ДОКТАР ВАЎКОВІЧ

Кожную раніцу а палове дзевятай да суседніх варот пад'язджала брычка на рысорах з чорным бліскучым сядзеннем. І кожны раз гэтак дакладна, што можна было, не баючыся памыліцца, ставіць гадзіннік, у гэты самы час у варотах паказваўся мужчына. Невысокі і немаладога ўзросту, калі было добрае надвор'е — у белым палатняным гарнітуры і саламяным капелюшы. У дождж у варотах з'яўляўся чорны цыратовы плашч з узнятым капюшонам.

Следам за мужчынам, на крок ззаду, ішоў сабака. Высокі, цынглясты, з сумотнай сабачай праніклёнасцю ў разумных вачах.

Павітаўшыся з фурманам, мужчына па-старэчы няспрытна садзіўся ў брычку. Усеўшыся, ён загадваў сабаку:

— Ну, Цэзар,— выканаў свой абавязак — і на месца.

Мудры Цэзар, разумеючы, што ад яго патрабуецца, пакорна паварочваў да брамкі, націскаў лапай клямку і знікаў у двары.

У гэты час фурман тузаў ляйчыну — і брычка кранулася з месца. Назад варочалася яна звычайна пасля шасці вечара.

Аднак здаралася, што яе не было і ў сем, і ў восем гадзін, і пазней.

Тады з зялёнай брамкі на вуліцу выходзілі нізенькая, з белай непакрытай галавой жанчына, светлагаловы хлапчук гадоў шасці-сямі і Цэзар. Некаторы час яны ўсе трое стаялі і пазіралі ў той бок, куды раніцай паехала брычка. Не дачакаўшыся яе, старая за руку з хлапчуком, а следам за імі і сабака, варочаліся ў свой двор. А крыху пазней яны зноў паказваліся ў брамцы і зноў глядзелі ў тым жа кірунку на рог вуліцы.

Так паўтаралася некалькі разоў, аж пакуль перад зялёнымі варотамі не спынялася знаёмая брычка. Мужчына развітваўся з фурманам і павольнай хадой стомленага чалавека накіроўваўся да тых, што, нібы пільныя вартавыя, чакалі яго ля брамкі.

Ён гладзіў па галаве і цалаваў малога, нешта гаварыў жанчыне, і яна нездаволена адказвала яму, відаць, вытаварвала за спазненне. Потым, узяўшы хлапчука за руку, у суправаджэнні Цэзара, яны знікалі за зялёнымі варотамі.

...Вечарамі, калі гаспадар быў дома, у суседнім садзе часта сумавала гітара і мужчынскі голас кожны раз скардзіўся ёй: «Выхожу один я на дорогу...»

Голас быў слабы, адспяваны, аднак у ім усё яшчэ гучалі водгукі той маладой прыгажосці і сілы, якая некалі даўно, мусіць, мела немалую ўладу.

І гэта брычка, што пад'язджала штораніцы да суседніх варот, і гэты сум гітары і адзінокага голасу, што ліўся проста ў маё адчыненае акно, не маглі, вядома, не прыцягнуць у гэтым польска-літоўскім гарадку, маім часовым прытулку, увагі, не выклікаць цікаўнасці — хто жыве за суседнімі варотамі?

— То ест пан доктор,— адказала мая гаспадыня.

— Які доктар?

— Звычайна — які. Які людзей лечыць.

— Гм... Стары чалавек?

— Не млоды мужчына, але...

Па тоне, якім адказвала пані Ядвіга,— так звалі маю гаспадыню,— было зразумела, што яна асабіста не лічыць пана доктара мужчынам, не вартым увагі.

— Цікавы чалавек? — тачыў мяне чарвяк цікавасці.

— А хто яго ведае... Ён не вельмі тут з кім знаецца...

— Ганарысты?

— Багаты.

— Вунь што!

— І скупы, што свет не ведае.

Было прыкметна, што пані Ядвіга хацела яшчэ нешта дадаць да характарыстыкі «пана доктара», толькі нельга было зразумець адразу — не адважвалася яна зрабіць гэта ці проста не хацела.

Паслужлівае ўяўленне тым часам падсоўвала мне ўжо гатовенькі «вобраз» старога скнары: адлічвае штодня жонцы грошы на выдаткі, у канцы тыдня падводзіць рахункі, сам заварвае чай. І тут жа ўспаміналася і другое: вячэрнія спевы ў суседнім садзе, гітара і гэта лермантаўская журба: «Выхожу один я на дорогу...»

— Я хачу пазнаёміцца з панам доктарам.

— Матка боска! Ён нежанаты мужчына!..

— Як?! А гэта нізенькая поўная жанчына з белымі валасамі — хто?

— Гэта сястра пана доктара... Па скупасці ён астаўся старым халасцяком...

— Вунь што... А хлопчык?

— Хлопчык? Ён таксама не ўпрыгожвае пана доктара...

— Гм... Ну, што ж, а я ўсё роўна пайду да яго лячыцца.

— Нех пан буг крые! — не разумеючы жарту, жахнулася шляхетная пані Ядвіга.— Я ніколі б не адважылася. Што могуць людзі падумаць...

Аднак ні людзям задумвацца, ні пані Ядвізе жахацца не давялося. Маё знаёмства з доктарам з пункту погляду тутэйшай маралі адбылося вельмі прыстойна і як мае быць.

* * *

— Дзын.— Вялізны, як гарбуз — чырвоны з сінім — мяч стукнуўся аб шыбу майго акна, перакуліў на паперы чарніліцу, саскочыў са стала і пакаціўся па падлозе. І ўслед за гэтым «дзын» за плотам у суседнім двары пачуўся дзіцячы лямант:

— Татачка, мяч.

На ганку паказаўся доктар.

— Якое няшчасце здарылася?

— Я яго падкінуў... А ён узяў і паляцеў. Туды...

— Гм... «Узяў і паляцеў»... Значыць, трэба ўзяць і пайсці папрасіць прабачэння ў пані Ядвігі і забраць...

— Ай, не хачу... І ты хадзі са мною, тата.

«Тата?» — у адносінах да старога доктара гэта было дзіўна і неспадзявана, як лермантаўскія вершы — і скнара, які адлічвае штодня жонцы грошы і сам заварвае чай.

— Ну, што ж, пакідаць таварыша ў бядзе не выпадае. Пайшлі, Юрый Даўгарукі.

Праз некалькі хвілін яны пастукалі ў мае дзверы.

— Калі ласка!

Дзверы адчыніліся, і, падштурхнуты ззаду, першым пераступіў парог «Юрый Даўгарукі».

— Ну,— зноў лёгенька падштурхнуў яго на крок уперад і зачыніў за сабою дзверы доктар.

— Добры дзень! — тоненька піскнуў хлапчук, глянуўшы на мяне спадылба.

— То-та ж, добры дзень! — гучна прывітаўся ўслед за ім і доктар.— Прыйшлі мы — прабачце, мы з вамі яшчэ незнаёмы — пакаяцца перад вамі. Самі ўжо мяркуйце, што рабіць: пакараць ці дараваць волю...

У яго мове была тая галантная старасвецкая напышлівасць, без якой ніяк не абыходзіліся некалі падобныя прамовы.

— Як можна караць такую светлую шаўковую галоўку...

І сапраўды, хлапчук быў такі светлы і ясны, што ад яго нельга было адвесці позірку: дапытлівыя вочкі на круглым твары, румянец — кроў з малаком, і кароткія валосікі, светлыя і шаўкавістыя, як лён.

Мусіць, адчуўшы па тоне майго голасу, што небяспека мінула, хлапчук вышэй узняў галаву і глянуў на мяне з хітранькай усмешкай.

«Ах ты, гарбуз!» — хацелася ўшчыкнуць гэту ружовую шчочку, але роля гаспадыні, якая павінна была вырашаць лёс, вымушала трымацца сур'ёзна і паважна.

— Прасі прабачэння,— загадаў доктар.

Хлапчук сцепануў плечуком — мабыць, вялікай прыемнасці гэта яму не абяцала,— аднак загад выканаў:

— Даруйце, я больш не буду...

— Абавязкова дарую. Толькі пры ўмове, што ты сам будзеш прыходзіць да мяне ў госці... Згода?

Хлапчук зноў ускінуў свае сінія вочы і, не ўбачыўшы на маім твары подвоху, дапытліва глянуў на старога доктара.

— Адказвай, што ж ты на мяне паглядаеш. Не мяне ж запрашаюць у госці,— стрымаў усмешку доктар.

— Калі ласка, калі ласка, доктар — і вы таксама...

Хлапчук тузануў доктара за рукаў: маўляў, давай згаджацца... Мы ўсе трое зразумелі адно аднаго, і ўсе трое раптам адчуліся так, быццам былі даўно знаёмы.

— Лёгка, брат, ты вылузаўся,— закашляўся ад смеху і цяжка апусціўся ў крэсла доктар.

Потым ён пачаў здымаць з мяне допыт: адкуль я, чым тут займаюся, як падабаецца мне іх глухамань.

Даведаўшыся, што прыехаць сюды мне параілі дактары, ён не абмінуў пацікавіцца, а якая хвароба? Даведаўшыся і пра гэта, пачаў распытваць, чым лячуся.

Я расказвала і ў той жа час сама назірала за доктарам.

Яму было, бадай, за шэсцьдзесят. Ён быў прыкметна сутулы, лысы, з паголеным тварам — толькі над губой невялічкі цёмны шматок вусоў. Для свайго ўзросту ён быў яшчэ даволі порсткі і рухавы. А магчыма, гэта ішло ад характару — адчувалася, што доктар не належаў да вельмі спакойных і ўраўнаважаных натур.

Аднак адчувалася і другое: яго прафесія была яго другой натурай. Вельмі ўважліва выслухаўшы тое, што тычы-

лася хваробы і лячэння, ён, як і большасць дактароў, перайшоў на той лёгкі тон, які так супакойвае людзей неспакушаных і, наадварот, які раздражняе таго, хто па горла нацярпеўся і дактароў і лекаў.

— Ну, нічога, міленькая, усё будзе выдатна. Вы яшчэ ў нас падскокваць будзеце.

Мне гэтага не патрэбна было — яго легкадумных абяцанняў і пафасу.

— Дзякуй, доктар, я адчуваю сябе добра і наўрад ці буду дакучаць вам...

Ён улавіў нездавальненне ў маім голасе.

— Бач, ганарыстая якая! Не падабаецца ёй яшчэ, што такі паважаны эскулап прапануе свае паслугі... Мая міленькая, цябе, я бачу, трэба лячыць яшчэ і ад другой хваробы — фанабэрства.

Зайшоўшы да мяне ўпершыню, зусім незнаёмы чалавек, ён звяртаўся да мяне ўжо на «ты», называў «міленькая» і збіраўся лячыць ад хваробы, якой я ніколі ў жыцці не хварэла... Аднак дзіўна: ён мяне адчытваў, а я разумела, што сердаваць і злавацца на гэтага чалавека нельга: гэта быў яго стыль.

— Ну, дык паладзім? — развітваючыся, ужо на ганку звярнуўся да мяне доктар Ваўковіч.— Прашу заходзіць да мяне ў госці... Мы ўсе будзем вам рады... Юрка, бачыце, колькі дабра непрыкметна награб з вашага дазволу (Юрка аберуч трымаў падараваную яму каробку алоўкаў для малявання, «Беларускія казкі», альбомчык «Вільнюс»)... Дык прашу! — паўтарыў ён неяк па-ваеннаму —няйначай то быў водгук колішняй ваеннай службы: не магла ж, напэўна, абысціся вайна без доктара Ваўковіча.



З гэтага дня завязалася наша цеснае сяброўства з Юркам, а потым і з той поўнай нізенькай жанчынай, якая заўсёды чакала ў брамцы старога доктара і звалася Мар'яй Сцяпанаўнай.

Юрка ўжо да вечара гэтага ж дня забег да мяне яшчэ два разы. Адзін раз зноў забраць свой мячык, які ён падкінуў, а ён зноў «узяў і паляцеў», а другі раз па справе: паказаць, як ён намаляваў падводную лодку. Захапіўшыся вывучэннем гэтага мастацкага твора, мы не толькі не пачулі, як клікала Юрку палуднаваць Мар'я Сцяпанаўна, а нават не заўважылі, калі яна прыйшла па яго сама.

Дабрэйшага чалавека за Мар'ю Сцяпанаўну да гэтага часу мне не даводзілася сустракаць. Гэта асаблівасць яе характару — дабрата — праменілася з кожнай маршчынкі яе твару і грэла кожнага, хто б ні трапляўся на яе дарозе, не кажучы ўжо, вядома, пра тых, хто складаў сэнс яе жыцця — брата Ванечку (старога доктара Ваўковіча) і Юрачку — любімца і ўцеху іх абаіх.

Трэба было бачыць, як яна карміла іх і як даглядала, калі катораму з іх нездаровілася, як клапацілася, каб, барані божа, каторы з іх не прастудзіўся ці не перагрэўся на сонцы.

Дзіўна, але маё першае знаёмства з усёй невялічкай сям'ёй доктара Ваўковіча не падмацоўвала той характарыстыкі, якую давала пані Ядвіга.

Перш за ўсё не відно было ніякага багацця. Быт Ваўковічаў быў вельмі просты, нават сціплы. Раскоша заўважалася толькі ў Юркавым жыцці, і то не столькі матэрыяльная, колькі духоўная, сардэчная — такую пяшчоту і такое ўменне зрабіць маленства дзіцяці сапраўды шчаслівым знойдзеш не ў кожнай сям'і.

І скупасці не было ніякай. Не паспяваў ты пераступіць парог, як цябе тут жа абавязкова чым-небудзь частавалі: доктар нейкім ніколі не бачаным садовым гібрыдам, Мар'я Сцяпанаўна кубачкам цудоўнай кавы з адмысловымі, таксама яе работы, коржыкамі... Юрка цягнуў табе якога-небудзь пластылінавага слана або зайца...

Праўда, доктара дома застаць было цяжка.

Цэлы дзень ён быў на службе. А пасля службы або браў сваю паляўнічую стрэльбу і Цэзара і ішоў прабегчыся, як ён казаў, на качак, або з вудамі накіроўваўся на рэчку.

Быстры мнагаводны Нёман не захапляў доктара-рыбалова. Рака гэта, паводле слоў доктара, была залеплена і без яго... Доктар быў рыбалоў-фанатык, рыбалоў-жрэц — ён не проста лавіў рыбу, ён свяшчэннадзейнічаў...

Доктара ніколі не захапляла перспектыва цягаць аднаго за другім шчупакоў або вокуняў. Не, з яго пункту погляду, гэта было рамяство... Доктар Ваўковіч пакланяўся майстэрству: ён паляваў толькі за царскай рыбай — за фарэллю. Праўда, уловы, як правіла, былі мізэрныя, але якое гэта мела значэнне, калі доктар, скажам, у выхадны дзень мог сабрацца і пайсці гадзінкі ў тры раніцы і вярнуцца дадому пасля абеду, ужо ледзь цягнучы ногі ад стомы і голаду (яду, якую клала яму кожны раз у кішэню

Мар'я Сцяпанаўна, ён заўсёды забываў з'есці)... Затое колькі ўражанняў было! Гэтай раніцай доктар падслухаў усе птушыныя спевы, падглядзеў, як прачынаецца сонны лес, як абуджаюцца травы і воды, як прачынаецца і ўстае сонца.

Фарэль не любіла прыгажуна Нёмана. Яе тулілі халодныя празрыстыя воды лясной рачулкі без назвы. Да гэтай безыменнай рачулкі імкнуўся ў вольную гадзіну і доктар Ваўковіч.

Праўда, такія шчаслівыя паходы выдаваліся ў яго не вельмі часта.

І ў сувязі з гэтым трэба крыху вярнуцца і расказаць пра яго доктарскае аблічча.

У гэты невялічкі польска-літоўскі гарадок доктар Ваўковіч прыехаў з сястрой-удавой адразу пасля вайны. Што яго прымусіла тут пасяліцца, сказаць цяжка. З расказаў самога доктара, можна было меркаваць, што вельмі многія яго таварышы працуюць у вялікіх гарадах, займаюць адказныя пасады, маюць вучоныя ступені (праўда, пра вучоныя ступені доктар Ваўковіч чамусьці адзываўся зняважліва, адчувалася, што яму на гэтых ступенях нешта некалі не ўдалося). Ён жа палічыў за лепшае забіцца ў гэты сапраўды глухі, далёкі ад чыгункі і добрых дарог гарадок і займацца, як сам ён падсмейваўся з сябе, тым, што на раду напісана,— лячыць людзей.

І сапраўды, Івана Сцяпанавіча ведала ўся акруга. Часта здаралася так, што, перш чым ехаць у раённую бальніцу, сялянскія калёсы, высока насцеленыя сенам ці канюшынай, на якой ляжаў хворы, спыняліся перад зялёнымі доктарскімі варотамі.

Аднойчы да яго прывезлі хлопчыка. Хлопчыка пакусалі пчолы, ён увесь распух і пакутаваў страшэнна. Перапалоханая маці думала, што дзіця памірае (і яно сапраўды магло б памерці), і спынілася перад доктарскімі варотамі... Ну дык як мог адмовіць ёй доктар, адправіць без дапамогі ў бальніцу, якая была на другім канцы горада?

Здаралася часам, што сапраўды трагічныя рэчы ў доктаравым доме прымалі адценне камізму.

Прыехаў неяк, таксама па дарозе ў бальніцу, да доктара Ваўковіча стары селянін-літовец, прывёз сваю старую: пакаўзнулася каля парога і ці то зламала, ці то вывіхнула нагу ў калене — не разабраць, але стогне і енчыць так, што сэрца разрываецца.

Вопытны хірург і да таго ж умелы кастапраў, доктар агледзеў, абмацаў гэту старую худую нагу, пасадзіў бабку ў крэсла, а дзеду загадаў патрымаць за плечы, каб вельмі не тузалася, калі ён пачне лячыць. І не паспелі старыя апамятацца, як, адшукаўшы сваімі чуйнымі пальцамі калецтва, доктар неяк па-свойму павярнуў хворае калена.

— Вой! — залямантавала бабка, але тут жа і сціхла, нібыта гэты доктар сваімі рукамі зваліў з яе старых знясіленых плеч цэлую гару дзікага болю.

— Яшчэ ў скокі пойдзеш, старая порхаўка,— з уласцівай яму грубаватасцю пажартаваў доктар са старой літоўкі, якая па-руску не разумела ні слова.— Порхаўка ж, праўда? — падміргнуў ён дзеду.

Дагодліва пасміхаючыся, той закланяўся доктару:

— Порахаўка, пан доктар, порахаўка...

— Нічога, цяпер памаладзее,— супакоіў старога доктар.

І калі той палез у кішэню, строга прыкрыкнуў на яго:

— Гэта яшчэ што за штукі? На вось гэты рэцэпт — і каб тваёй красуні я тут больш не бачыў.

Паспрабаваў бы хто сердаваць на такое лячэнне.

...Такі быў далёка не дакладны, а толькі прыблізна акрэслены партрэт доктара Ваўковіча, сапраўды часам вельмі дзіўнага і заўсёды аднолькава цікавага чалавека.

Самым, аднак, цікавым і загадкавым для мяне ў яго біяграфіі быў Юрка. Івана Сцяпанавіча і Мар'ю Сцяпанаўну Юра зваў татам і мамай... І гэта тым больш здзіўляла, што ў доктара і ў яго сястры быў ужо той узрост, калі падобныя Юркі хутчэй завуць іх дзедам і бабуляй.

Спытаць у самога Юркі, хто яго сапраўдныя мама і тата, вядома, было немагчыма. Ён так шчасліва жыў на свеце, што, здаецца, і не ўяўляў сабе, што можа быць нейкае яшчэ іншае жыццё, з нейкімі іншымі татам і мамай.

Ні адным словам ніколі не заікаліся пра гэта і Мар'я Сцяпанаўна з Іванам Сцяпанавічам.

...А дні тым часам беглі. Набліжаўся час майго ад'езду. Ён і радаваў — дома мяне чакала сустрэча з уласнымі дзецьмі, і крышачку засмучаў: я прывыкла да доктара Ваўковіча, да Мар'і Сцяпанаўны, да іх слаўнага Юркі.

У апошнюю нядзелю доктар Ваўковіч прапанаваў мне пайсці з ім у грыбы. Гэта быў вялікі гонар: доктар не любіў, як ён казаў, «соглядатаев» — ні на паляванні, ні на рыбалцы, тым больш у грыбах. І адмовіць было немагчыма.

Доктар разбудзіў мяне на шэрым досвітку — у тую па-

ру, калі звычайнаму чалавеку — не грыбніку — сон здаецца мілейшым за ўсё на свеце.

...Скажыце, вам пашанцавала хоць раз у жыцці сустрэць раніцу ў лесе і падслухаць, як нараджаецца чароўная лясная сімфонія?

...Густы туман засцілае вам вочы, росныя травы і галіны сцябаюць вас па нагах, па твары, мочаць вопратку. Панчохі прамоклі, і вы адчуваеце, як непрыемна абляпілі яны вашы ногі... (Бр-р, холадна і няўтульна! — калі ўявіць усё гэта ў цёплай пасцелі.)

І раптам, недзе ў голлі — першы гук. Гэта яшчэ не спеў, гэта толькі першы гук. Няйнакш, прачнулася нейкая птаха і спрабуе голас... На гэту спробу недзе зусім поруч адгукаецца тоненькім і таксама сонным голасам другая птушачка. Потым прачынаецца трэцяя, чацвёртая — і не праходзіць паўгадзіны, як увесь лес, быццам яго ўзялі і ласкава скаланулі за зялёную чупрыну, звініць і заліваецца птушыным спевам.

У гушчары не відно, але вы адчуваеце, што раніца сюды праб'ецца вось-вось, з першым сонечным промнем. І каб хутчэй сустрэць яго, вы выходзіце на палянку — і ахаеце. Што зрабілася з росамі! Яны зазіхацелі, заіскрыліся і, здаецца, таксама звоняць срэбнымі званочкамі ў паветры. Сонца ўзышло!

...Мы назбіралі з доктарам Ваўковічам грыбоў — ён поўны кошык, а я ўсяго толькі некалькі баравікоў — і селі адпачыць і паснедаць.

— Не шкадуеце, што пайшлі? — жуючы маласольны агурок, быццам няўзнак, спытаў у мяне доктар.

— Што вы, доктар, я вельмі ўдзячна вам.— Цяпер мне было сорамна прызнацца ў сваіх думках, з якімі я выходзіла з дому.

— Дзіва што ўдзячна! А сама, нябось, лаяла: стары чорт, надумаўся! Сам цягнецца, і мне цягніся за ім. Вельмі цікава...

Не зусім дакладна, але прыблізна нешта падобнае да гэтага сапраўды мне думалася. Але хто б у гэтым прызнаўся?

— Не, Іван Сцяпанавіч, гэта вы проста нагаворваеце на мяне...

— Вось яна — уся тут жанчына! Зробіць другога вінаватым, а сама сухая з вады вылезе.

І раптам мяне быццам што падштурхнула.

— Іван Сцяпанавіч, вы можаце адказаць на адно маё пытанне?..

— Калі яно толькі тычыцца не мяне, а вас,— па свайму звычаю грубавата прабурчаў доктар, распраўляючыся з курыным крылом.

— Менавіта вас.

— Гм... Цікава... Давайце.

— Іван Сцяпанавіч, хто Юрава маці і... бацька?

Доктар адклаў убок курынае крыло, хлеб і, выцершы сурвэткай рот, моўчкі пачаў загортваць яду ў газету.

Маўчанне цягнулася вельмі доўга.

— Яе няма,— нарэшце коратка адазваўся доктар.

— Прабачце, мне не трэба было пра гэта пытацца?

— Не... Чаму не... Спыталіся і спыталіся.

І зноў надоўга нас раз'яднала маўчанне.

— Яе няма... Яна памерла.

— А Юраў бацька?

— Ён не быў Юравым бацькам... Ён адмовіўся ад Юры, калі яго не было яшчэ на свеце.

— Разумею...

— Нічога вы не разумееце,— рэзка перабіў мяне доктар, не даўшы мне скончыць.— Не разумееце таму, што ў вашых дзяцей ёсць бацька...

— З чаго яна памерла? Яна ж, мусіць, не старая была?

— Маладая. Зусім маладая... Ад чаго памерла? Захварэла грыпам. Не вылежала і схапіла запаленне лёгкіх. І ўсё гэта на нагах. Ну, вядома, ачагі і скарацечны туберкулёз.

— Няўжо нічым нельга было памагчы?..

— Не... Юра вельмі падобны на яе. Яна такая ж, як і ён, была... Светлая, пяшчотная... Яна жыла на нашай вуліцы... Цераз дом ад нас.

Доктар зноў змоўк.

— Незвычайная жанчына была...— нарэшце зноў азваўся ён пасля доўгай зацяжкі папяросай.— Цудоўная жанчына...

І мне здалося, што ён чагосьці недагаварыў.

Больш на гэтую тэму ў нас гаворкі не было. Праз некалькі дзён мы з доктарам Ваўковічам развіталіся.

*1958*

## СУСТРЭЧА НА ДОСВІТКУ

Яна чакала гэтага стуку, і ён разбудзіў яе на досвітку. Яна не спалохалася, не ўскрыкнула, не схапілася за сэрца... Імгненна, быццам праз яе цела прапусцілі электрычны ток, расплюшчыла вочы і працягнула руку да крэсла — па адзежу. І пакуль апраналася, стук паўтарыўся зноў. Раз — павольна, паўза і затым тры разы дробна, як курыца зерне клюе: тук, тук, тук.

Гэта стукнула ў самае яе сэрца, але сэрца не забілася, як некалі даўно, не адгукнулася песняй: «Іду-у, мілы, іду-у!..» Яно нібыта абарвалася ад гэтага стуку і скацілася ёй пад ногі... Дрыжачай халоднай рукой яна доўга намацвала ўпоцемку і ніяк не магла знайсці цяжкога крука на дзвярах. А калі знайшла — не было сілы адкінуць яго.

— Лідачка, Ліда! Гэта я.

Яна пацягнула на сябе дзверы, і сама выйшла на ганак — насустрач гэтаму ранняму госцю.

— Вярнуўся?! — нібы не верачы і дзівячыся, што гэта ён, ціха ні то спытала, ні то папракнула яна.

Мужчына працягнуў рукі, каб абняць яе худыя плечукі, памкнуўся прытуліць да грудзей пасівелую, быццам і не яе — некалі залатую — галаву, і так застаўся стаяць у ранішнім паўзмроку з працягнутымі рукамі.

— Божа мой! — вырвалася ў яе з грудзей.

— Лідачка!

Яна цяжка апусцілася на лаўку, і толькі цяпер, адчуўшы тупы боль у сэрцы, моцна прыціснула рукой тое месца на грудзях, дзе білася сэрца.

— Пачакай... Усё гэта так нечакана, так раптоўна.

— Чаму ж раптоўна? Я ж пісаў. Ты пісала. Мы ж паўгода ўжо...

Яна горка пакруціла галавой.

— Семнаццаты год...

* * *

Вось гэтак жа ціха і нясмела пастукаў ён у дзверы ў глухую асеннюю поўнач сорак першага года. Праз паўгода пасля таго, як яна адправіла яго на фронт.

— Адкуль ты? — раптам адчуўшы, як перастаюць служыць ёй ногі, усяго толькі і спытала тады яна.

— Ціха... Хутчэй зачыняй і не запальвай, калі ласка, агню... Не трэба.

Па тым, якімі мітуслівымі былі яго рухі і як пужліва азіраўся ён па кутках роднай хаты, як нязвычна сутуліўся, здаецца, хочучы быць менш прыкметным, яна зразумела: сумленне яго было неспакойнае.

— Як жа гэта ты? Адкуль? — памагаючы яго адубелым рукам расшпіліць адзіны гузік на нечай чужой, заношанай сярмязе, зноў у страшэннай трывозе паўтарыла яна.

— Не пытай...— неяк асабліва безнадзейна махнуў ён рукой,— скажы лепш, што ў вас тут чутно: немцы?

У яго шэпце, ёй здалося, прагучала надзея.

— Немцаў у нас няма. Партызаны...

Яна хацела сказаць «падаюць голас», але ён не даў ёй скончыць.

— Партызаны?! — спалохана схапіўся ён за сваю забруджаную сярмягу і тут жа, стрэўшыся з яе строгім дапытлівым позіркам, ірвануў руку назад.

І ёй тады здалося, што яна ўсё адгадала і ўсё зразумела: гэта сярмяга была яго выратавальным кругам. Стрэўся з немцамі — што з мяне ўзяць: просты мужык-рабацяга, абы свая зямля, свой конь, свая хата...

Напаткаюцца партызаны: хлопцы, браткі, выратоўвайце! Бачыце, да чаго давялі савецкага чалавека тэўтоны!..

Аднак за кошт чаго і ў імя чаго быў набыты гэты выратавальны круг! І каб нацягнуць яго на сябе,— дзе скінуў ён свой сумленны салдацкі шынель?

...Пражыў Павел Жаўрыд тады ў роднай хаце ўсяго толькі тыдзень. Ды і то якое яно было тое жыццё? Начаваў у хляве на сене. Днём таксама нікому на вочы не паказваўся. Дзяцей з двара нікуды не выпускалі — каб яшчэ не надумаліся па суседзях хваліцца: «А наш татка дадому вярнуўся!..»

Назіраючы ўсё гэта, жонка была маўклівая, як сцяна, быццам яе зусім не было.

А на сёмы дзень гэтых хованак і маўчання неяк нечакана зайшла ў хату суседка-настаўніца — да вайны ў адной школе працавалі.

Жаўрыды якраз абедалі.

Дарослыя ўсе трое страшэнна збянтэжыліся, а дзеці пахваліліся суседцы:

— Соф'я Іванаўна, а татка пад'есць і зноў пойдзе спаць да кароўкі ў хлеў...

— Адкуль вы, Павел Ціханавіч?! — уражаная такой нечаканай сустрэчай і дзіцячым паведамленнем, усклікнула суседка, звяртаючыся да Жаўрыда.

— Не кажыце, Соф'я Іванаўна... З пекла.

— А дзе ж мой Косця? Мы ж з Лідзіяй Іванаўнай вас разам адпраўлялі...

— Не ведаю, Соф'я Іванаўна... Нас немцы захапілі ў акружэнне. Я ўцёк... А дзе ён, не ведаю.

— Што ж гэта будзе!..

Суседка плакала, а жонка стаяла, скрыжаваўшы рукі на грудзях, белая, як сцяна.

...У тую ж ноч Павел Жаўрыд пакінуў сям'ю, пакінуў родны куток і зноў пайшоў насустрач вайне.

На развітанне сказаў жонцы, што пойдзе дабівацца неяк да сваіх, паабяцаў, паспешна цалуючы яе нямыя халодныя губы, што, калі будзе жывы — абзавецца. Абзавецца, калі будзе жывы...

І непраглядная асенняя ноч нібы праглынула яго.

...З той безнадзейнай ночы ён вынырнуў толькі паўгода назад, вынырнуў разам з пісьмом, аплочаным аргенцінскай паштовай маркай.

Вялікі грэшнік, цяпер ён ірваўся да роднай зямлі, ад якой некалі сам адступіўся ў страху за сваё маленькае жыццё і так лёгка пакінуў яе ў вялікім горы, прамяняўшы на чужы рай.

Рай гэты аказаўся бяздонным пеклам, і, каб выбрацца з яго, трэба было зведаць самую цяжэйшую з чалавечых пакут — жыццё без радзімы.

Сваю віну за шаснаццаць год Павел Жаўрыд адпакутаваў, і радзіма даравала яму.

І вось стаіць ён на родным ганку, прыгнуты блуканнем і знявагай, немалады чалавек... Вочы яго выцвілі, валасы парадзелі, і сам ён нібыта стаў ніжэй ростам. Стаіць і чакае яшчэ аднаго суда: жончынага і родных дзяцей — ці прымуць яны яго да сябе?..

Але дзеці спяць і нічога не ведаюць. А жонка замест таго, каб кінуцца мужу на шыю, каб цалаваць і паліваць слязьмі дачасную сівізну і маршчыны мужа, сядзіць, таксама без пары састарэлая, і думае зусім пра другое.

Успамінае, як дваццаць чатыры гады назад стрэлася яна на настаўніцкай канферэнцыі з маладым сінявокім настаўнікам... І хоць стаяла зіма — валошка, здавалася, зацвітала на снягах — такімі сінімі іскрамі сыпалася весялосць з яго вачэй. Не паглядзеў, што пятнаццаць вёрст

прыйдзецца пехатой варочацца назад аднаму дадому — у мяцеліцу, у завіруху пайшоў праводзіць яе да маленькай, засыпанай снегам пачатковай школкі...

А потым прыходзіў кожную суботу. Адважны такі быў: ноч-поўнач, а яму хоць бы што — толькі абніме моцна на парозе, пацалуе горача ды папракне, не зводзячы з яе закаханага позірку:

— Сэрца ў цябе няма — праганяць чалавека ў такую пару з хаты.

Але ў яе было сэрца, гэткае ж, як і ў яго, гарачае і пяшчотнае. Пашкадавала кожны раз адпраўляць аднаго за свет, у бездараж, у цёмныя ночы... Не пусціла адзін раз... І з таго часу так і засталіся яны ўдваіх... Удваіх назаўсёды.

А ён раптам узяў ды і пайшоў у самую цяжкую ноч — ад яе, ад дзяцей. І каб толькі ад іх...

...Ён бачыў, што яго прыход не прынёс ёй той радасці, на якую ён спадзяваўся. І не ведаючы, чым растлумачыць яе такую відавочную халоднасць, ён схапіўся за дзяцей: яны, яны памогуць вярнуцца яму ў сям'ю! Ім трэба бацька. І яны крануць сваёй радасцю яе сэрца.

— Ну, раскажы ж мне, як вы тут жылі адны. Ці лепей вядзі, пакажы мне дзяцей... Якія яны цяпер. Ты пра іх чамусьці вельмі мала пісала.

— Усяго нельга было напісаць...

Яна не магла сказаць яму адразу, тут, на парозе, што дзеці адмовіліся ад яго. Адмовіліся, нагледзеўшыся на тыя пакуты, якія выцерпела яна за тое, што ён — іх бацька — аказаўся слабым чалавекам.

Ні ёй, ні яе дзецям ніхто не гаварыў: «Твой муж, ваш бацька зрабіў злачынства: ён здрадзіў вам і радзіме...»

Ёй і яе дзецям гаварылі іначай: «Твой муж, ваш бацька хаваўся на гарышчы тады, калі мой муж і бацька маіх дзяцей біўся і склаў сваю галаву пад Масквой».

Ёй нялёгка было гэта слухаць. І дзецям таксама.

Не раз, гуляючы ў вайну, хлапчукі сілком прымушалі яе сына быць тым, кім ніхто з дзяцей не хацеў быць,— дэзерцірам, здавацца ў палон...

«Твой жа бацька ўцёк ад нашых»,— па-дзіцячы жорстка і бессардэчна, у самае сэрца ранілі яны яе сына.

Яна не ведала, ці так зрабіў яе муж. Яна памятала толькі яго пужлівы шэпт, баязлівы позірк і мітуслівыя рухі ў тую асеннюю ноч сорак першага года, калі ён сказаў

ёй, што ўцёк з акружэння... А калі ён уцёк не з акружэння... А са свайго палка...

Дзеці страшэнна пакутавалі ад гэтага. Аднойчы яе старэйшая дачка Віка, прыбегшы з вуліцы ўся ў слязах, крыкнула ёй проста ў твар:

— Ведай, калі наш бацька здраднік, я... я ненавіджу яго!.. Я не хачу насіць яго імя!

Яна, маці, не знайшла тады слоў, каб суцешыць дачку.

А ён цяпер, вядома, не здагадваўся пра ўсё гэта. Ці мо толькі здагадваўся — адчуць жа ўсё тое, што яны перацярпелі праз яго, ён не мог.

— Яны ж спяць і нічога не ведаюць. Хадзем, пабудзім іх... Напэўна, вялікія ўжо? І чаму яны самі не напісалі мне ні разу?

— Вялікія... Адвыклі. Віка ўжо замужам, Андрэй таксама мужчына.

— Віка замужам? Ды ты выдумала!

Яна слаба ўсміхнулася:

— У яе гадах і ты ўжо быў жанаты.

— Ды пачакай, колькі ж ёй? Ёй тады было шэсць год... А прайшло... Няўжо ёй ужо дваццаць трэці год? І ўжо замужам?!

— Як бачыш.

— А Андрэю, значыць, дваццаць першы, а было чатыры... Божа мой, звар'яцець можна! Віка замужам...

— Пабудзіш, цішэй гавары... Няхай спяць.

— Ды як жа спаць? Бацька ж вярнуўся.

— Пачакай... Давай мы лепш самі пагаворым. А яны няхай спяць...

— Ды ты што ж, не рада мне, Ліда, ці што? Ці, можа, я лішні ўжо ў гэтым доме?

— Не, у гэтым доме ты ніколі не быў лішнім... А наконт радасці — не падганяй мяне. Амаль 17 год я жыву адна, і таму я забылася, якая яна ёсць, жаночая радасць. Ты пытаешся пра дзяцей і, напэўна, крыўдуеш, чаму я не разбуджу іх... Для мяне яны ўсё яшчэ маленькія... У мяне і да гэтага часу стаяць у памяці тыя ночы, калі яны не маглі заснуць ад страху і жудасці, калі яны прыціскаліся да мяне сваімі худымі цельцамі і толькі шапталі: «Мамачка!.. Мамачка!..» Я не ведаю, дзе ты быў тады, калі гарэла наша школа, наша кватэра, усё наша мястэчка... Калі немцы на матацыклах з аўчаркамі на ланцугах гналі нас, як жывёлу, за чыгунку расстрэльваць... У хвойнік. Памятаеш, мы туды ў лісічкі заўсёды хадзілі... Андрэй не

памятае, а Віка і цяпер не раз успамінае тую ноч... Нас адбілі партызаны. І камандзірам партызанскага атрада, ведаеш, хто быў? Наш матэматык Дубовік... Памятаеш, мы з Соф'яй Іванаўнай адпраўлялі вас разам на фронт... І памятаеш, як спаткала яна цябе ў нас дома, увосень сорак першага года...

У партызанах — пасля той жудаснай ночы я не магла больш заставацца ў мястэчку — мы вытрымалі блакаду. Сваіх дзяцей я вынесла з балота апухшымі з голаду. І не вынесла б, каб не наша армія, каб не салдаты. Яны аддавалі нам свой апошні кавалак хлеба... Я не ведаю, дзе ты быў, што рабіў, як жыў усе гэтыя гады... І ўсё ж я лічу, што не маю права хаваць ад цябе той праўды, якую мы перажылі з дзецьмі.

...А потым, калі скончылася вайна, калі ўсе, хто застаўся жыць, вярнуліся дадому, а на тых, хто не вярнуўся, прыйшлі пахавальныя, тады, ты думаеш, мы не чакалі цябе? Мы чакалі цябе, чакалі звестак ад цябе або хоць пра цябе — і мы баяліся гэтага. Для нас ты знік у цёмнай непраглядной начы... І таму ні я, ні мае дзеці не мелі чым апраўдацца, калі нас папракалі тыя, каго вайна пакінула ўдовамі і сіротамі. Хто была я! Жонка салдата? Партызана? А мае дзеці? Кім быў у вайну іх бацька?..

Я разумею, што ты хочаш сказаць: «Я выцерпеў на чужыне, можа, не менш, чым вы тут дома. І за гэта мяне памілаваў закон. Ён вярнуў мяне на радзіму...» Усё гэта я разумею...

Але, апрача законаў дзяржаўных, суровых і літасцівых, запісаных у кнігах, ёсць яшчэ адзін закон — няпісаны закон сэрца.

— Гэты закон, няўжо ён і зараз, праз столькі гадоў нечалавечых пакут і бадзянняў, няўжо не змякчае ён прысуду нада мной, тваім мужам і бацькам тваіх дзяцей? Няўжо ён назусім выкрасліў мяне з вашых сэрцаў?

— Я табе зараз нічога не магу абяцаць. Я не магу. Пажыві. Як дзеці, так і я...

1958

# ПРАЗ МНОГА ГОД

**Апавяданне-быль**

Шэрая постаць падалася з узбочыны на сярэдзіну дарогі і спынілася з узнятай угору рукой, галасуючы.

— Салдат,— здалёку пазнаў шафёр і сцішыў ход. Сам ён нядаўна толькі адслужыў у арміі і не паспеў яшчэ адвыкнуць ад салдацкай гімнасцёркі.

— Давай, брат, падкіну! — спыніў ён машыну.— Самі служылі, ведаем пачым фунт ліха.

Салдат спрытна ўскочыў на падножку і ў момант апынуўся ў цёплай, як хата, прасторнай кабіне самазвала,— трэцім ужо.

— Ці памесцімся мы?

— Цесна, ды не крыўдна,— супакоіў яго шафёр, вясёлы гаваркі хлапчына, відаць, вялікі ахвотнік да дарожных стрэч і знаёмстваў з самым розным людам.— Дарма, што вясна па календары значыцца, а ты, брат,— звярнуўся ён да салдата,— сёння ў гэтых сваіх наркомаўскіх доўга не паскакаў бы тут па дарозе... Вунь як на ноч бярэцца... І аўтобус пройдзе не раней, як праз гадзіну.

— Мароз,— згадзіўся салдат.— Я з гадзіну ўжо чакаю, дык наскрозь прабрала.

Ён быў сярэдняга росту, хударлявы, нешырокі ў плячах — калі прыглядзецца блізка, дык з твару зусім хлапчук. Аднак яго манера гаварыць, па-мужчынску стрымана і немнагаслоўна, выдавала ў ім чалавека ўжо сталага і сур'ёзнага. Гэта кідалася ў вочы з першага погляду.

Салдат сам нічога не гаварыў і вельмі скупа падтрымліваў гутарку, без якой ніяк не мог абысціся шафёр. Ён толькі адказваў на пытанні, сам як быццам нічым не цікавячыся.

Яго смуглы, насечаны ветрам твар, некалькі нават суровы для яго ўзросту, быў чымсьці заклапочаны, нават засмучаны. Строгія, без усмешкі, вочы з-пад чорных, у адну лінію ссунутых броваў глядзелі найбольш у адзін бок — за акно, на дарогу, якая стралой ляцела ўперад.

— Далёка тупаеш? — пацікавіўся шафёр.

— У Мінск.

— А пагоны дзе?

— Пагоны здаў ужо.

— Начыста, значыць, адваяваўся?

— Дэмабілізаваўся...

— Кра-сата! — неяк асабліва смачна выгукнуў гэта слова вадзіцель.— Сам, брат, быў радавым, ведаю! Я, праўда, і ў арміі баранку ўвесь час круціў... А ты, мусіць, папластунску?

— Ды не. Я — электрык,— стрымана адказаў салдат.— І з гэтай штукай,— ён кіўнуў на шафёрскую баранку,— таксама меў справу.

— А-а-а,— з павагай у голасе працягнуў шафёр.— А я думаў...— аднак, што ён думаў, не сказаў, а равёў гутарку на другое.— Ну, а цяпер куды думаеш падацца? Едзеш у Мінск, няйначай на работу ўладкоўвацца?

— Ды не,— неяк вельмі рашуча адхіліў яго меркаванне салдат.— Не на работу... На цаліну завербаваўся.

— Ф'ю-у! — аж прысвіснуў шафёр.— Ды няўжо табе дома, тут, у Беларусі, не знайшлося б справы? Бацькі ж, відаць, у калгасе недзе жывуць? Дык хіба ў іх там электрыкі не патрэбныя або шафёры, калі ты кажаш, што і ў гэтай справе кумекаеш... А ён надумаўся, дзівак!

— Даўно я, брат, гэта надумаўся. Даўно вырашыў... Ды вось толькі цяпер раптам так усё склалася, што і не ведаю, як быць.

— Бацькі, мусіць, табе хваста накруцілі?

— Ды не...— упершыню за ўсю гутарку неяк вельмі дзіўна ўсміхнуўся салдат.— Бацькоў сваіх я толькі ўчора ўпершыню сустрэў...

— Як гэта толькі ўчора ты ўпершыню сустрэў сваіх бацькоў?!

Сапраўды, такое паведамленне магло здзівіць каго хочаш — не толькі цікаўнага шафёра.

— Ды вось так... Як згубіў я іх у сорак першым годзе, дык да пазаўчарашняга дня думаў, што бацькоў у мяне няма, што на свеце я застаўся адзін, як палец... А пазаўчора раптам даведаўся, што і бацькі мае жывыя, і што брат, і сёстры ў мяне ёсць... І што наогул я...

— Нешта вельмі ты загадкава гаворыш. І не зразумееш цябе.

— Я і сам сябе яшчэ добра не разумею, столькі падзей у маім жыцці адбылося за гэтыя два дні...

— Дык ты нам, братка, раскажы! — ахвочы пачуць нешто незвычайнае, без усякіх хітрыкаў папрасіў салдата шафёр.— Гэта ж ты ўсё роўна, як другі раз на свет нарадзіўся.

— Можна сказаць, што так.

— Закуры,— прапанаваў яму шафёр, спрытна, адной рукой спраўляючыся з пачкам папярос і карабком запалак,— гладчэй гаворка пойдзе.

— Дзякуй. Не куру.

Салдат доўгім позіркам акінуў белую заснежаную дарогу за акном, невысокае, на мароз праяснелае неба і, коратка перадыхнуўшы, пачаў:

— У тысяча дзевяцьсот сорак першым годзе мне было гадоў пяць. Мы жылі пад Радашковічамі. За некалькі дзён да вайны маці завезла мяне ў Пухавіцкі раён да дзеда. Толькі паехала дадому, а тут вайна... Зараз я не памятаю, калі і як прыйшлі немцы і што яны рабілі. Памятаю толькі: было многа нейкіх машын — танкаў ці грузавікоў, не ведаю. Не ведаю таксама, нашы былі гэта ці нямецкія. Добра памятаю яшчэ тое, калі нас — многа дзяцей — везлі на поездзе... Памятаю ўсё: лес і лес... І вельмі хацелася есці. Не ведаю, адкуль узяўся ў нас хлеб у вагоне. Добра помню толькі, што я вельмі доўга цікаваў за ім і чакаў зручнага моманту, каб украсці. Нарэшце ўкраў... І хоць мяне збілі за кавалак таго хлеба так, што я страціў прытомнасць, але і зараз я адчуваю яго смак і пах так, як быццам я еў яго толькі ўчора...

Нас прывезлі ў Літву і пасялілі ў нейкім доўгім змрочным бараку з вузкімі вокнамі. Гэта быў дзіцячы прытулак. Адтуль, з таго прытулку, мала хто выйшаў уласнымі нагамі... Было страшна, калі білі, калі па цэлых сутках не давалі яды, калі саджалі ў карцэр — цвілы цёмны склеп, у якім вяліся пацукі і кажаны... Але страшней за ўсё было тады, калі ўсіх нас выстройвалі доўгай шарэнгай пад вокнамі нашага прытулку і нямецкі доктар, а следам за ім «міласэрная» сястра з чырвоным крыжам на белай касынцы абходзілі нашу шэрую шарэнгу і выводзілі з яе найбольш здаровых.

Я не памятаю, колькі разоў бралі ў мяне кроў, памятаю толькі, што мяне прыносілі непрытомным у нашу шэрую змрочную спальню не раз і не два. Нашу кроў пералівалі параненым салдатам фюрэра.

Успамінаць пра гэта было нялёгка, і салдат пазбягаў падрабязнасцей.

— У ліпені 1944 года ў той жа дзень, калі байцы нашы з'явіліся ў гэтым панурым гарадку, прытулак упершыню пад'еў уволю хлеба... Нашы салдаты пайшлі далей — пагналі немцаў,— і хутка ў нашым прытулку з'явіліся людзі ў цывільным адзенні. Некалькі дзён нас мылі

і стрыглі, а потым пасадзілі ўсіх на поезд і павезлі з гэтага гарадка, з гэтага праклятага прытулку... Спачатку я жыў у дзіцячым доме пад Ганцавічамі, потым мяне перавялі ў дзіцячы дом у Баранавічы. Там я скончыў сямігодку, там працаваў, адтуль і ў армію пайшоў.

— А чаму ж ты бацькоў не шукаў, дзівак? — шчыра здзівіўся шафёр.

— Не шукаў таму, што ні прозвішча, ні імён бацькоў я не памятаў. Не памятаў таксама назвы сваёй вёскі...

— Чорт ведае, што ў цябе за галава! Я памятаю ўсё чыста з трох год,— пахваліўся шафёр.

— Мусіць, брат, і твая была б такая, каб яе столькі білі...— не пакрыўдзіўся салдат.— Не памятаў нічога — і ўсё тут. Як ты кажаш, у галаве было, як у пустым гаршку. Я і прозвішча не сваё нашу — дзедава: Змачынскі.

— Палякі вы? — пацікавіўся шафёр.

— Дзед і маці — палякі. А бацька... І зараз не паспеў нічога даведацца.

— Дык чаго ж цябе нясе чорт так хутка ў гэты Мінск? Нейкі шалапут, брат, ты, бачу я,— шафёр быў чалавек непасрэдны, што меў на сэрцы — тое і рэзаў у вочы.

— Дзівак ты. Кажу ж, я завербаваўся на цаліну. А як даведаўся ад цёткі, што ў мяне бацькі ёсць — пакінуў ім у канторы адрас бацькоў, кажу, калі спатрэбіцца раптам выязджаць, дык дайце мне тэлеграму. І вось учора тэлеграма прыйшла — трэба ехаць.

— Пачакай, пачакай... А цётка адкуль узялася? Ты ж казаў, што адзін застаўся на ўсім свеце.

— Дык цётка ж таксама цяпер знайшлася! — усклікнуў салдат.

Покуль расказваў, ён неяк як бы пацяплеў і свяціўся цяпер шчырым, зусім дзіцячым шчасцем.

— І цётка знайшлася. І брат стрыечны знайшоўся... Ты толькі паслухай, як усё здарылася. Толькі ты не перабівай мяне,— звярнуўся ён да шафёра.— А то я ўсё пераблытаю. Столькі падзей — і так усё раптоўна здарылася...

— Добра, не буду, расказвай хутчэй, а то не паспееш да Мінска,— сказаў шафёр.

— Пра цётку я даведаўся ўжо тут, на месцы, у Мінску, на вярбовачным пункце. Выклікаюць гэта ўсіх нас па спіску, раптам я чую: Змачынскі Браніслаў! «Ёсць!» — і з месца ўстае хлопец такога, прыкладна, як я, узросту, такі ж, як і я, смаляк чорны. Потым мяне выклікаюць: Змачынскі. Я ўстаю. Пераглянуліся мы: маўляў, і тут

аднафамільца стрэць можна... А пасля праверкі падыходзіць ён да мяне і пытае: «Ты адкуль сам родам?» «Ды, кажу, быццам з Пухавіцкага раёна»... А чаму я памятаў гэты Пухавіцкі раён, дык вось чаму: калі мяне забралі ў прытулак, дык пры мне аказалася торбачка, а ў ёй дзевы дакументы: пашпарт, нейкія яшчэ даведкі... Таму і прозвішча мне такое запісалі «Змачынскі», і раён Пухавіцкі, адкуль папаў я ў прытулак.

— Ну, і што ж твой брацанік? — не ўтрываў усё ж, перабіў салдата вадзіцель.

— Брацанік, вядома, здзівіўся, чаму гэта я кажу «быццам». «Я сам, кажа, з Пухавіцкага раёна». Дзед, кажу, мой жыў у Пухавіцкім раёне, а я з дзіцячага дома... «А як звалі твайго дзеда?» — пытаецца. Баляславам,— адказваю. «Дык гэта ж, кажа ён, мой дзед Болесь! Яго немцы ў час вайны забілі ў Пухавічах... Гэта ж, мусіць, ён з табой там быў, калі яго забілі, а ты згубіўся...» — Не ведаю, кажу...— «Ладна,— гаворыць мой брацанік,— паехалі да нас дадому. Мая маці ўсё ведае, яна табе ўсё пра ўсіх і раскажа... Майго бацьку, дзеда Болеся сына, немцы таксама павесілі... Ён у партызанах быў. Прыйшоў да нас, а яго і злавілі».

Мы з брацанікам у той жа дзень на аўтобусе і паехалі да яго на вёску...

Прыязджаем вечарам, агні ўжо гараць. Заходзім у хату, я вітаюся з цёткай. А Бронік, мой брацанік, смяецца і пытаецца ў яе: «Угадаеш, мама, ці не, хто да нас прыехаў?» Цётка глядзела на мяне, глядзела ды і кажа: «Каб не ў шынялі, ды не такі малады, дык я б сказала, Касін Владэк... Я летась бачыла яго, як да Касі ездзіла... А так не ведаю, што і казаць. Не прызнаю».— «Які гэта Владэк? Што ў Мінску на трактарным працуе? — пытаецца брацанік.— Ды не, яны непадобныя».— «От, ты яго вельмі ведаеш — калі ты яго бачыў». Сыплюць яны гэтымі імёнамі, як гарохам: Кася, Владэк,— а для мяне гэта толькі гукі: нікога ж я іх не ведаю і не здагадваюся нават, што размова ідзе пра маю родную матку і пра роднага брата. «Дык чый жа ты, дзіцятка, будзеш?» — пытаецца ў мяне цётка.

А мне гэта яе шчырае ласкавае «дзіцятка» так захлынула грудзі, што я і слова прамовіць не магу... Стаю і плачу, як маленькі... Цётка таксама стаіць і не ведае, што рабіць. Тады Бронік давай хутчэй ёй усё расказваць. Тут ужо і цётка загаласіла: «А дзіцятка ж ты маё! А колькі ж

ты гора выцерпеў!.. І як жа ты не знайшоў іх, бацькоў сваіх. Яны ж жывыя і здаровыя. Жывуць, як і жылі, на сваім месцы, у сваёй вёсцы... Каб ты ж ведаў, колькі твая маці слёз па табе тады выліла. Яна ж вочы па табе выплакала. Тады ж, як ты з дзедам Болесем не вярнуўся, мы ў Пухавічах усе хаты абышлі, усіх людзей перапыталі, ці не бачылі цябе дзе часам... Бо пра дзеда мы ведалі, бачылі людзі... Ці ж памятаеш ты хоць, як дзеда твайго немцы забілі, калі вы з ім пайшлі па соль у Пухавічы?..»

...Па меры таго, як усё часцей і часцей паўтаралася імя дзеда Болеся, у маёй галаве, усё роўна як на негатыве, пачалі праясняцца няясныя ўспаміны...

...Ледзь брыдзе па вуліцы шэры натоўп абарваных, дашчэнту знясіленых людзей. «Гэта нашы палонныя салдаты, унучак»,— шэпча дзед і паспешна дастае з кішэні лусту хлеба, загорнутую ў анучку. Ён працягвае яе крайняму чалавеку — і ў той жа момант над яго галавой узлятае прыклад... Дзед выпускае маю руку і старчма падае на брук... Усё гэта адбываецца ў адно імгненне, і я не паспяваю апамятацца. А калі апамятаўся і падбег да дзеда — ён ляжыць на бруку ўвесь у крыві і, як маленькі, растапыранымі пальцамі грабецца па чырвоным камені... «Дзедка! Дзед!» — у роспачы крычу я, але другі ўдар цяжкім каваным ботам мне ў жывот шпурляе мяне на тратуар... Калі я апрытомнеў, то ўжо ні шэрага натоўпу, ні дзеда, ні тратуараў — нічога не было... Я ляжаў на дашчаным тапчане на вакзале, трымаючы ў счарнелай ад напружання руцэ толькі пасак ад торбачкі, якую мы бралі з дзедам, каб купіць у Пухавічах солі...

* * *

...Усю тую ноч у цётчынай хаце я не заснуў ні на хвіліну. А на досвітку ўстаў і зноў пайшоў на аўтобус. Вярнуўся назад у Мінск, каб папярэдзіць вярбовачную кантору, дзе я буду і куды адправіць мне тэлеграму ў выпадку, калі спатрэбіцца раптам выязджаць... І вось сёння раніцай атрымаў тэлеграму.

— Я б на яе плюнуў — і нагой расцёр! Такі выпадак, а ён — тэлеграма! — абурыўся вадзіцель.— Раскажы лепей, як ты з бацькамі стрэўся.

— Пра гэта, брат, словамі так проста не раскажаш... Можа, ты чытаў, у Аляксея Талстога ёсць апавяданне такое, «Рускі характар» завецца (шафёр адмоўна пакру-

ціў галавой: «Не, не чытаў»), дык там у яго апісваецца, як у вайну прыйшоў да бацькоў на пабыўку знявечаны сын. Яны яго не пазналі, а сам ён не прызнаўся, пераначаваў у іх і вярнуўся назад у часць. Цікава так апісваецца. Ты пачытай абавязкова... І вось я таксама іду да родных бацькоў, у родную вёску, а ні бацькоў сваіх, ні вёскі не памятаю.

Заходжу, значыць, у вуліцу, а ў самога ад хвалявання зуб на зуб не пападае і ногі падкошваюцца. А спытаць бацькавай хаты не магу. Стрэчу пажылога мужчыну, думаю: а можа, гэта бацька мой... Жанчына з вядром пройдзе — можа, гэта маці мая па ваду ідзе?.. Нарэшце, спытаў у дзяцей, дзе жывуць Адуцкевічы... Адуцкевіч — гэта прозвішча майго бацькі. Паказваюць: вунь там, на ўзгорку, буслянка на іх дубе будзе... Падыходжу да дуба з буслянкай, спыняюся перад бацькавай хатай, а сам адчуваю, слёзы так горла сціснулі, што слова не вымаўлю, з бацькамі роднымі прывітацца не здолею. Каб супакоіцца, спыніўся, разглядаю кругом. Бацькава хата, як і ўсе астатнія сялянскія хаты. Белыя аканіцы, два акны на вуліцу, два на двор. Пад вокнамі ад вуліцы агародчык. На двары, перад парогам, карова стаіць, перабірае нешта ў кашы. Куры сакочуць пад вокнамі. Свіння рохкае, есці просіць... Усё звычайнае, сялянскае.

Адчыніў я веснічкі, ступіў на бацькаў двор, ды так быццам і прырос да зямлі... У хаце, відно, пачулі скрып веснічак: старая жанчына ў паркалёвай хустцы прынікла да шыбы — воч з мяне не зводзіць.

Маці!

Не памятаю, як я апынуўся ў хаце. Прывітаўся, стаю ў парозе... Маці нізенькая, у цёмнай суконнай кофтачцы, спрацаванымі маршчыністымі рукамі прыціскае да грудзей круглы бохан хлеба (якраз збіраліся садзіцца абедаць). Бацька таксама сівы, як голуб, сядзіць на лаве, сякерай крышыць тытунь-самасад...

— Не пазнаяце? — пытаюся.

— А бог цябе ведае...— кажа маці, а сама гэтак дзіўна ўглядаецца ў мяне: цётка казала, што я вельмі падобны на старэйшага брата.

— Не чакалі сына?

— Сын наш,— адказвае бацька,— у Мінску робіць. А другога даўно на свеце няма.

— Ёсць,— кажу,— тата. Паглядзіце, ці не пазнаяце,—

і дастаю ім фотакартку, на якой яны абое, бацькі, яшчэ маладыя зняты і мы, усе чацвёра, дзеці...

Сам не ведаю, як яна захавалася, гэта фотакартка. Няйначай была пры дзедавых дакументах. Аднак нічога ж не засталося, ні дзедавага пашпарта, ні яго даведак, а картка гэтая блукала ўслед за мной... Мне аддалі яе на развітанне, калі я пакідаў дзіцячы дом у Баранавічах.

Што тут было, калі я паказаў ім гэту фотакартку! Маці, як стаяла, так і асунулася на падлогу. Бацька слова вымавіць не можа. Збялеў, рукі трасуцца... Жарты — вярнуўся сын, якога яны многа год назад пахавалі і аплакалі...

— Казічак, сыночак...— паўтарае адно маці і больш ні слова не можа выгаварыць.

У бацькі таксама рукі трасуцца: «Адкуль ты ўзяўся, сынок?»

А я і сам слова сказаць не магу. Хачу іх суцешыць, а слоў няма. Плачу, як маленькі...

Неўзабаве — адкуль яны толькі даведаліся — збегліся суседзі, радня. Мая родная сястра, старэйшая за мяне, прыбегла з мужам і дачкою... Яна таксама павісла мне на грудзі і галосіць: «Казічак, братка!..»

Не паверыце, прабыў я дома два дні, здавалася б, ад радасці ўсім трэба смяяцца — а ў нас там ад слёз мора...— усміхнуўся салдат.

— Ад радасці, брат, слёзы,— заўважыў вадзіцель.

— А тут раптам гэта тэлеграма.

— Узяў бы і не паехаў. Я, напрыклад, і з месца не скрануўся б... Не судзілі б, не бойся. Ты ж у іх грошай яшчэ не браў?

— Не. Ды не ў грошах справа. Я ж умову падпісаў. Нейкае пэўнае месца, можна сказаць, заняў у страі — і раптам не прыехаў! Гэта ж усё роўна, што дэзерціраваў... Бацькі таксама сказалі мне ехаць. Маці наказвала прасіцца ў начальства, каб умову скасавалі... Бацька таксама казаў: «Па закону трэба дзейнічаць, сынок. А не ехаць нельга»... У мяне, брат, бацькі, ого! Яны самі не дазволілі б мне так зрабіць.

Па таму ўжо, з якой гордасцю вымаўляў ён гэтыя новыя для сябе словы «маці» і «бацька», можна было меркаваць, якім шчаслівым і багатым адчуваў ён сябе цяпер.

Яго ўсё ж непакоіла думка, ці можна будзе скасаваць умову, якую ён падпісаў і якой цяпер не здолее выканаць.

— Не хвалюйся,— запэўніў яго вадзіцель,— там жа ў

бюро па вярбоўцы таксама людзі працуюць. Як жа яны могуць не зразумець выключнасць такога выпадку.

— Вось і мама мне пра гэта казала,— з нейкай незвычайнай мяккасцю прамовіў ён гэта пяшчотнае слова, якога не вымаўляў столькі год.

...Даўно ўжо відneліся агні Мінска. Марозны вечар расшыў зоркамі бяздоннае неба, вытрусіў з цёмнага рукава залаты рог маладзіка, звонкай імглой захутаў горад.

— Вось мы і прыехалі,— першы парушыў нядоўгае маўчанне вадзіцель.— Дык ты, брат, як адбудзеш усе там справы ў вашым бюро, заходзь начаваць да мяне, на Пушкінскі пасёлак. Спытай, дзе Косцік-шафёр жыве, табе любы пакажа.

— Дзякуй, браток... Я да брата паеду. Ён на трактарным жыве, на вуліцы Алега Кашавога. Вось яшчэ будзе адна сустрэча... Ён жа таксама нічога пра мяне не ведае... А яшчэ адна мая сястра, самая старэйшая, таксама замужняя — у Горкім жыве. Туды таксама ў госці паеду...

Ён быў шчаслівы, як дзіця.

— А цяпер, браток, спыніся. Дзякуй, што падвёз.— Ён працягнуў шафёру грошы, але той нават пакрыўдзіўся.

— Тады будзеш раскідацца грашыма, як заробіш, а покуль што ты на салдацкім яшчэ пайку — спатрэбяцца самому.

— У мяне яшчэ ёсць... Гэта мама паклала мне ў кішэню, спецыяльна на дарогу.

— Шчасліва, салдат! — крануў з месца машыну вадзіцель.

Салдат яшчэ нешта сказаў яму наўздагон, але слоў яго ўжо не было чутно.

*1957*

## ДЗЯДЗЬКА ІВАН

— Калі хочуць, нябога, пакараць чалавека, які ўсё сваё жыццё пражыў з працы, дык у яго адбіраюць гэтую працу...

Жалезнымі граблямі дзядзька Іван зграбае апалае лісце і прэлую траву і кідае на кучу сухога бульбяніку. Чыркні запалку — вясёлы аганёк лізне сваім тоненькім прагавітым язычком гэты тлен яшчэ нядаўна багатага лета, і не заўважыш, калі ўсё знікне...

Але дзядзька Іван — ён прыбірае на зіму свой невялічкі сад-агарод — робіць іначай. Не спяшаючыся, па-старэчы запаволенымі, але дакладнымі рухамі раскідае рэзгіны (і гэта дакладней усякіх слоў тлумачыць яго сялянскае паходжанне) і, згробшы туды бульбянік і апалае лісце, без цяжкасці закідвае рэзгіны за спіну і паволі накіроўваецца ў хлеўчык: нясе на подсціл парасяці.

Я сяджу на нізенькай лавачцы, укапанай пад самай шырокай яблыняй, і чакаю дзядзькавага звароту. Многа гадоў мы не бачыліся. Але дзядзька Іван мне здаецца такім жа, як і дваццаць пяць гадоў назад: усё такі ж белы, як снег, калючы вожык і коратка падстрыжаныя вусы. Як і некалі, дзядзька Іван не адпускае барады, голіцца. Праўда, апошні раз меў ён справу з брытвай, відаць, даўно — шчокі яго і падбародак зараслі калючай, як шчотка, белай шчацінай.

— Усё вы крыўдуеце, дзядзька Іван, што не працуеце... З вас жа работы хапае і дома,— мне хочацца разагнаць дзядзькаў сумны настрой.

— Хапае, чаму не: таўчы ваду ў ступе...— збіраючы да месца свае садоўніцкія прылады, лаканічна адказвае дзядзька Іван.

Дзядзька Іван не маладзён. Семдзесят восем гадоў мае за плячыма. Свету, людзей перабачыў за век! Ззамаладу некалі за шчасцем ад бацькавых трох дзесяцін аж у Амерыку ездзіў. Ды толькі чорт які яго бачыў там тое шчасце — як паехаў Ванькам Даўгунцом, так і вярнуўся ім... А чаго толькі не перарабіў, за што толькі не браўся — тады сілы хапала яшчэ на ўсё! — горы хіба толькі не варочаў.

Праўда, гледзячы на дзядзьку Івана, можна пазаіздросціць яму яшчэ і цяпер. Ходзіць ён роўна, не сутуліцца нават, хоць і бярэ заўсёды з сабой кій.

— У грудзях у мяне яшчэ сілы многа. Здаецца, яшчэ маладога падолеў бы... Толькі вось ногі часам падводзяць,— скардзіцца дзядзька Іван.— Як спусціцца кроў уніз — цяжка ўжо ёй падымацца ўгору. І тады на нагах усё роўна, як гіры, усё роўна, як не тваё яны... А я быў лёгкі некалі на хаду. На рабоце яшчэ, калі ты ўвесь час у руху,— лягчэй. А вось паспрабуй, выседзі цэлы дзень без справы — горш аслабнеш і надакучыш не толькі людзям, а і сабе...

Сядзіць дзядзька Іван дома, не працуе і не ведае, які занятак прыдумаць сваім старым, спрацаваным рукам. Ныюць яны ў яго без работы, ные ўсё цела, ные душа. Усё сваё жыццё працаваў, а вось на старасць узялі маладыя ды зрабілі палёгку... Сядзі цяпер, стары, успамінай тыя залатыя дні, калі ты ўсім быў патрэбны.

Дзядзька Іван не ўмее сесці і сядзець склаўшы рукі, без занятку. Прыбраўшы сад, ён бярэ лапату, абкопвае маладую яблыню.

Дзень золкі, непрыветлівы — дрыготка запаўзае за каўнер, прабірае плечы, а дзядзьку цёпла. Ад холаду ён расчырванеўся, расшпіліў кажух і паволі, моцна налягаючы на рыдлёўку, падганяе сваю работу.

— Ездзіў я гэтай восенню ў Даманшчыну... На пакрову толькі вярнуўся...— па адценні ў дзядзькавым голасе я здагадваюся, што гэта паездка ў яго жыцці — падзея надзвычайнай важнасці.

— Ну і як там?

— Не пазнаць Даманшчыны,— у кароткім дзядзькавым адказе гучыць усё тая ж урачыстасць.— Не верыцца, што яна гэта. Электрычаства гарыць, як у горадзе. Радзіва гаворыць. Усе новыя хаты сабе пабудавалі, моладзь павывучвалася...

Дзіва што не верыцца, дзіва што не пазнаць: дзядзька Іван пакінуў Даманшчыну яшчэ ў трыццатым годзе. Пакінуў тады, калі Даманшчына яшчэ толькі выбіралася на сцежку, якая прывяла яе да ўсіх гэтых дзіваў, што так уразілі дзядзьку цяпер.

Чалавек без хітрашчаў, ён не ўмее хаваць сваіх пачуццяў.

— Каб тады не здурнеў я, не паслухаў Марылі (жонкі), жылі б мы сабе цяпер, старыя, у сваёй вёсцы, у сваёй хаце, каля зямлі, якую тапталі дзяды і прадзеды. А так...

А так сапраўды жыццё склалася зусім не так, як хацеў, як меркаваў дзядзька Іван.

...Умеючы да ўсяго прыкласці рукі і ўсяму даць гэтымі сваімі рукамі раду, Іван Даўгунец, атрымаўшы ад савецкай улады ўласны надзел зямлі, хутка стаў на ногі. Ужо ў 1929 годзе меў ён лепшую за іншых у вёсцы хату (ад першага бервяна і цагліны і да апошняга цвіка сам усё рабіў), купіў малатарню. Дзяцей (іх было чацвёра) усіх вучыў у сямігодцы.

А калі загаварылі пра калгасы — жонка вачэй не дала звесці. Якому чорту лысаму ты дбаў усю гэтую гаспадарку... Хутчэй прадавай малатарню, а сам едзь дзе-небудзь уладжвайся на работу ў горадзе. Сям'я пасядзіць тут — трэба ж паглядзець, чым усё гэта кончыцца. Можа, давядзецца і хату яшчэ прадаць (не даравяць жа калгасу!) і самім таксама следам падавацца ў горад ці дзе ён там знойдзе сабе работу.

Ад гэтай грызні, як ад сухога мазаля, не пераставала шчымець сэрца... Нарэшце Іван здаўся: махнуў на ўсё рукой і паехаў у горад, завербаваўшыся ў брыгаду па будаўніцтву чыгуначных мастоў.

Некалькі разоў парываўся вярнуцца ён назад дадому, але жонка адрэзала ўсе шляхі да гэтага звароту: пасварылася з усім калгасам. Агульны калгасны сход пастанавіў размясціць часова сваю першую, толькі што адчыненую школу ў прасторнай Іванавай хаце — гаспадары павінны былі займаць два пакоі, а школа — трэці, «залу». Дык Марыля перагарадзіла на злосць усім «залу» дошкамі. Але школу ўсё роўна размясцілі.

Так праз малатарню, праз хату, праз ненасытную чалавечую сквапнасць раскідалася і жыццё, і ўся сям'я.

— ...На маёй сядзібе новы сад пасадзілі. Той, што я яшчэ некалі садзіў, у вайну вымерз, у сорак першым годзе... Новы сад цяпер расце.

Гэты «новы сад» дзядзька Іван вымаўляе без злосці на людзей (хоць і не ён сам, а яны карыстаюцца гэтым садам), вымаўляе хутчэй з нейкай радасцю і задавальненнем, што сад усё-такі жыве, расце на той сядзібе, якую таптаці некалі яго ногі.

— Адна толькі касцянка выжыла... Можа, і ты памятаеш, што пад свірнам расла. Зразу яе ігруш не можна есці, давяць у горле, але як паляжаць у свірне тыдні са два, як цукар салодкія робяцца.

Касцянку я добра памятаю. Гэтымі ігрушамі-даўлянкамі некалі мяне і маю маму частавала дзядзькава жонка Марыля...

— Ты не памятаеш, цябе яшчэ на свеце не было, як летам у дваццаць другім годзе пад гэтай маёй касцянкай сядзеў сам Якуб Колас. І «Раніцу ў нядзельку» чытаў, і «Дзядзьку ў Вільні»... З таварышам прыязджаў. Я ўжо не памятаю, чаго яны прыязджалі, але добра памятаю толькі, як сядзеў ён на траве, прыпёршыся спіною да касцянкі, а вакол яго, тут жа на траве, сядзелі ўсе нашы жанкі даманскія...

Прыезд Коласа ў Даманшчыну летам 1922 года вядомы там кожнаму ад малога да старога. Перадаецца гэта падзея ад старэйшых да малодшых, як паэтычная легенда пра народнага паэта. Не дзіўна, што і дзядзька Іван памятае коласаўскую «Новую зямлю», хоць сам яе ён, можа, і не чытаў ніколі.

— Уцалела гэта касцянка... Толькі, кажуць, радзіць перастала. Старая ўжо.

Мне зноў не цяжка разгадаць дзядзькаў сум: столькі ўспамінаў у яго звязана з Даманшчынай! Радзіма ж.

— Вось каб устаў стары Селівестар ды каб паглядзеў на Даманшчыну цяпер...— зноў у думках і словам звяртаецца да яе дзядзька Іван.— Другі раз ужо нізашто не памёр бы.

Я таксама добра памятаю і кульгавага дзеда Селівестара. Мы, малыя, некалі дражнілі яго «Дзед-перакаціў» — так перайначваў ён новае, не абжытае яшчэ ў тыя далёкія гады слова «кааператыў».

Перад смерцю дзед Селівестар абяцаў, калі ўбачыць на тым свеце сапраўдны «той свет», прысніцца другому вясковаму дзеду Васілю. Але так і не прысніўся...

— Чаму ж вы, дзядзька, не асталіся ў Даманшчыне, чаму яшчэ не пагасцілі?

— Пагасціў, чаму не пагасціў. Але ж век гасцём не пражывеш. Не пушчала мяне пляменніца: адпачывайце, кажа... Але які ж той у мяне будзе адпачынак, калі яны усе маюць справу, усе на рабоце, а я...

— Пайшлі б і вы рабілі што-небудзь у калгасе.

— Хадзіў. Думаеш, не хадзіў... У клубе з Селівестаравым унукам дзве грубкі яшчэ склаў. Спраўны хлапчына, добрыя мае рукі... Думаеш, без мяне там печкуроў не нарасло? Нарасло і печкуроў, і сталяры, і цесляры добрыя ёсць. Цэлая брыгада. Маладое, галубка, расце, а старое старыцца... Дык навошта я ім там, стары грыб, цяпер спатрэбіўся. Бач, сабраўся калі ў памочнікі. Позна. Трэба было раней варочацца.

У гэтых суровых словах гучыць няўмольная праўда.

— Таму хутка і вярнуўся. Трэба ўжо да канца трымацца гэтага кутка.

Дзядзька Іван жыве ў замужняй дачкі. У дачкі трое дзяцей, а мужа няма.

— Сядзіць,— хмурнее, успамінаючы зяця, дзядзька Іван.— Не ўмеў сумленна з працы жыць, дык цяпер вось разлічваецца... Самому яму то яшчэ нічога там не зробіцца — недзе на будаўніцтве працуе. Цяпер-то ўжо працуе!.. А вось дзеці павінны цярпець праз яго. За яго віну цярпець.

Дзядзька Іван не курыць, а так напэўна зацягнуўся б самакруткай. Непрыемнасцей хапае.

— І працавіты, сумленны хлопец быў. Чаркі ў рот не браў. Ды вось пайшоў на лёгкую працу, на лёгкі хлеб пагнаўся. Загадчыкам буйной базы быў. А каля такіх цёплых мясцін нямала сваласты круціцца... Так і наровяць, каб уварваць і сабе ў кішэню пакласці... Ну, а каб пакласці, дык перш за ўсё трэба выпіць. Вось і нашага гэтак уцягнулі. Спачатку па стопцы, а потым па шклянцы, а потым і базу абакралі... А хто адказвае? Вядома, загадчык. Не вадзіся са сваласой розную, не прапівай розуму і дабра, якое табе дзяржава і людзі даверылі... А цяпер вось і яна б'ецца як рыба аб лёд... Трое дзяцей — не жарты: і накармі, і апрані, і абуй. Той штаны парваў, той двойку прынёс... А раней, калі кожны амаль дзень хадзілі то ў кіно, то ў ціятры, дык не думалі, што адкуль бярэцца. А на ціятры і на кіно, ды і на ўсё іншае, трэба мазалём або галавой зарабляць.

Дзядзька Іван надоўга змаўкае. Позірк яго выцвілых блакітных вачэй на гэты раз як бы адсутнічае, блукае дзесь далёка адсюль, ад гэтага замаркочанага асенняга саду, ад гэтых нізкіх хмар, ад гэтага шэрага асенняга дня.

Я не кратаюся, баючыся спужнуць дзядзькаву задуменнасць.

— Глядзі, нябога,— раптам нібы прачынаецца дзядзька Іван,— як людзі забудаваліся!.. Вуліца, як Неўскі ў Петраградзе! (Дзядзька памятае ўсё яшчэ той Петраград, дзе ён некалі да імперыялістычнай вайны працаваў грузчыкам.) А калі мы вясною ў сорак шостым годзе з Грышкам (зяцем) закладвалі падмурак пад сваю хату, дык вось тут (ён махае рукою за плот) як вокам кінуць цягнуліся калючыя нямецкія драты. Лагер быў. Гэта яны тут нашых ваеннапалонных катавалі.

Дзядзька Іван цяжка ўздыхае і зноў надоўга замаўкае: у яго самога двое сыноў не вярнуліся з вайны. Хто ведае, можа, за такім калючым дротам і яны стрэлі сваю салдацкую смерць...

— ...А як забудаваліся, я і кажу сваім: «Давайце сад пасадзім...» Дык і ён і яна (гэта значыць і зяць і дачка) адразу на смех мяне паднялі. «Калі ты яе дачакаешся, тую садавіну?..» Я кажу: «Можа, і не дачакаюся, але ж вы і вашы дзеці дачакаецеся...» «Садзі», кажуць... Ну я і ўзяўся. Не паверыш, усе гэтыя прышчэпы — зараз гэта ўжо дрэвы! — я сюды за чатыры вярсты на сабе насіў. Быў у мяне адзін знаёмы садоўнік. Дык ён мне гэты сад без грошай падараваў... Памёр летась. Не такі яшчэ і стары быў, за мяне гадоў на пяць маладзей нават. А я вось жыву... Бачыш, яшчэ і яблык дачакаўся з маладога саду.

Позірк дзядзькі Івана святлее. Ён асцярожненька абкапвае маладзенькую яблыньку і ўжо звяртаецца не да мяне, а да яе:

— І ты вось вырасла і пачаставала дзеда яблыкам. А яны, дурныя, думалі, што дзед так хутка згорне лапы...

Дзядзьку Івану нялёгка жывецца пры дачцэ. Усё не так, усё не гэтак: не так сказаў, не там сеў, пенсіі за сыноў-франтавікоў не выстараўся... А як ты яе выстараешся, тую пенсію, калі адзін загінуў без весткі, а паперку-паведамленне аб смерці другога дзядзька згубіў разам з кашальком і ўсімі сваімі даведкамі.

І хоць чужым і лішнім чалавекам адчувае сябе дзядзька ў невясёлай даччыной хаце, ёсць аднак радасць і ў яго: маленькая ўнучка Нінка. Старэйшыя ўнукі ніколі не прамінуць, каб не агрызнуцца ці не пажартаваць з дзеда: то акуляры схаваюць, калі дзеду хочацца паглядзець у газету, то шапку перавесяць на другі цвік, і дзед паўдня ходзіць шукае шапкі.

А Нінка... Як кацянё, пяшчотная, трохгадовая ласушка, забярэцца на калені да дзеда, абхопіць за шыю тоненькімі ручкамі і прытуліцца ружовай шаўкавістай шчочкай да белай шчаціны дзедавай барады.

— Дзеда, а што ты мне прынёс?

— Бач, панадзілася. Нічога не прынёс,— спрабуе ашукаць дзед унучку.

— Не, прынёс, прынёс! Пакажы кішэні! — і дзве, нібы ваверкі ўвішныя, ручкі шмыгаюць у кішэні доўгага дзедавага кажуха і абавязкова штосьці выцягваюць у іх бяздонні: то цукерку, то пернік.

— Ага, што я казала! — у захапленні скача на дзедавых каленях Нінка.

— Ах ты, маё казлянятка,— гладзіць дзед светлую ўнуччыну галоўку, і яго добрыя блакітныя вочы засцілаюцца вільгаццю.

— Раскажы, дзед, казку.

Але дзед не любіць казак. Ён любіць расказваць пра тое, што можа быць сапраўды.

— Вось прыйдзе, унучка, вясна, пацяплее, возьмуцца людзі будавацца, і тады дзеду Івану некалі будзе сядзець з табою і казкі расказваць. Возьме тады дзед пілу, возьме сякеру, рубанак і пойдзе працаваць зноў, як і кожную вясну... Працы тады нам з табою, унучка, хопіць. Адных рук будзе мала. І туды будуць зваць дзеда Івана, і там патрэбны будзе дзед Іван... Тады мы з табою, унучка, зажывём іначай. Тады штодня дзед будзе насіць табе гасцінцы. Пачакай, няхай толькі пацяплее, няхай толькі вясна прыйдзе.

Я слухаю размову дзядзькі Івана з маленькай унучкай, і мне самой страшэнна хочацца, каб хутчэй пацяплела, каб хутчэй прыходзіла зноў вясна, каб хутчэй людзі пачыналі будавацца... Тады зноў адпачнуць рукі і душа старога дзядзькі Івана.

*1957*

# ВЕЧНАЯ ТЭМА

Мёртвую гадзіну ў старым цяністым парку праводзілі трое: лётчык грамадзянскага флоту Сакалоў, малады русы мужчына гадоў трыццаці, з румянцам, як у дзяцей, на ўсю шчаку, акцёр Громаў-Дар'яльскі, худы і чорны, з профілю вельмі падобны да Врубелеўскага Дэмана, і, нарэшце, хірург Анішчанка, каранасты, шыракаплечы асілак з тварам і магутнай шыяй колеру пажыганай цагліны.

Стаяла тая пара жніўня, калі сонца, здаецца, усё яшчэ пячэ на ўсю моц, але гэта толькі здаецца. Няма ўжо нядаўняй сілы ў яго промнях — выцягнула, выпіла яе лета.

Сакалоў, апрануты ў белыя часучовыя штаны і блакітную майку, ляжаў на спіне, падаслаўшы пад сябе газету. Громаў-Дар'яльскі і Анішчанка, абодва ў пакамечаных паласатых піжамах, размясціліся тут жа. Першы сядзеў, абхапіўшы калені кашчавымі рукамі, і курыў. Другі ляжаў на жываце тварам да зямлі.

Як і звычайна, калі людзі не маюць ніякіх спраў і абавязкаў, якія яны з лёгкім сэрцам перакінулі на спіны сваіх саслужыўцаў і цяпер успамінаюць аб гэтым няйначай як з дабрадушным адчуваннем, што яны некага перахітрылі, як і звычайна на адпачынку, размовы і спрэчкі часцей за ўсё вяліся адцягненыя, па-свойму філасофскія. І размовы гэтыя, і спрэчкі не мелі нічога агульнага, ці, ва ўсякім выпадку, былі вельмі далёкія ад таго, чым кожны з іх жыў дагэтуль адзінаццаць месяцаў у годзе.

На гэты раз размова зайшла на вечную тэму: аб каханні, аб жанчынах, аб вернасці.

— ...Лічыць, што ўсе жанчыны вартыя адна другой і ніводная не ўмее кахаць па-сапраўднаму і быць вернай,— гэта вы перахапілі, паважаны наш трагік. Проста вам асабіста не пашанцавала ў жыцці.

На поўных ружовых вуснах Сакалова іграла летуценная ўсмешка чалавека, задаволенага жыццём і сваім асабістым лёсам. Сакалоў быў усяго з год як жанаты, і яго сябры па санаторыю, пакепліваючы з яго, звалі яго маладажонам.

— Кіньце, юнача,— перакідваючы папяросу з аднаго кутка рота ў другі, зняважліва адмахнуўся Громаў-Дар'яльскі.— Гэта вы такі прававерны, покуль знаходзіцеся ў стадыі маладажона. А вось пажывіце яшчэ гадкоў не-

калькі — другую арыю заспяваеце. Магу запэўніць вас, што анёл, якому вы штодня адпраўляеце любоўныя прызнанні, яшчэ выпусціць свае кіпцікі.

Безнадзейны, на думку ўсіх знаёмых, халасцяк, акцёр не ведаў і недзе ў глыбіні душы страшэнна, як ланцугоў, баяўся сям'і і да так званага жаночага пытання адносіўся няйначай як скептычна.

— Думаю, што вы памыляецеся,— непрыемна ўражаны, пакрыўдзіўся Сакалоў.

— А што думае камісар? — з уласцівай яму іранічнай манерай звярнуўся акцёр да хірурга.

Хадзілі чуткі, што ў доктара была нейкая даўняя рамантычная гісторыя: ні то сам ён, ні то яго пакінула жанчына, якую ён некалі вельмі кахаў. Аднак хірург не любіў успамінаць пра гэту гісторыю нават у мужчынскіх кампаніях і трымаўся, калі размова заходзіла на гэту тэму, да таго замкнёна і непрыступна, што ніхто не адважваўся ні аб чым яго распытваць.

Доктар адказаў не адразу. Ён нават не перамяніў позы, а як ляжаў нічком, так і астаўся.

— Кожны мерае на свой аршын,— неахвотна, як у бочку, прабасіў ён.

— А калі больш канкрэтна, Іван Сяргеевіч? — прыўзняўся на адным локці Сакалоў.

— Здараецца ўсяляк. Здараецца часам у чалавечым жыцці такое, што сам чорт нічога не разбярэ і здзівіцца.

Пры апошніх словах хірург нейкім упартым рыўком адарваў цяжкую галаву ад зямлі і флегматычным позіркам акінуў сваіх субяседнікаў.

Загарэлы грубаваты твар яго належаў да таго тыпу, калі пра чалавека нельга сказаць, што яго вочы, напрыклад, або ўсмешка з'яўляюцца люстрам душы.

Не, твар доктара адразу не чытаўся.

І лётчык, і акцёр, звыклыя за месяц да ўсякіх нечаканых пераходаў у паводзінах свайго сябра па адпачынку, насцярожыліся, злавіўшы ў яго тоне нейкае зычлівае адценне.

І яны не памыліліся.

— Я не жанчыналюб, і жаночая спадніца няздольна закруціць мне галаву так, як, скажам, гэта можа здарыцца з вамі, малады чалавек,— кіўнуў хірург на лётчыка.— Я сустракаў розных жанчын, наглядзеўся нямала так званых вернасцей і нявернасцей і скажу вам, калі вас гэта цікавіць, вось што: не ўсякую жаночую нявернасць можна

асуджаць і кідаць у яе каменем і наадварот: іншая версія гроша паламанага не варта.

— Туманна, доктар...— жуючы ў зубах патухшую папяросу, выцягнуўся на траве Громаў-Дар'яльскі.

— Нічога, зразумееце,— абыякава азваўся доктар і, перавярнуўшыся на спіну і закінуўшы за галаву рукі, пачаў нейкім не сваім, памякчэлым голасам:

— Год назад я быў сведкам аднаго так званага недазволенага кахання... Адразу вельмі цяжка было разабрацца ў сваіх уласных адносінах да гэтага кахання, а потым, калі я разабраўся, дык зразумеў, што зайздрошчу яму... Хоць, шчыра кажучы, зайздросціць і не было чаму.

— Ніякага праяснення...

Не адказваючы Громаву-Дар'яльскаму, доктар апавядаў далей, не адрываючы позірку ад вяршалінкі тоненькай маладой бярозкі, што расла поруч.

— З год назад у нашу бальніцу паступіў хворы майго прыкладна ўзросту, гадоў гэтак пад пяцьдзесят. Адказны таварыш, выдатны работнік, у вайну — камандзір партызанскага атрада... З кулямі ён сустракаўся не раз і латак, як мы кажам, меў не адну. Да нас яго прывялі таксама старыя раны... Яму была зроблена тэрміновая аперацыя, аднак адразу яна не дала палёгкі, і доўгі час усе мы былі ў поўнай разгубленасці, што было прычынай гэтага: медыцынская памылка ці сама хвароба павяла сябе іначай, чым звычайна...

У нашага хворага былі дачка і жонка. Дачка такая, ведаеце, модная сталічная паненка, якой ніколі не выстарчала часу пасядзець лішнюю гадзіну каля цяжка хворага бацькі. Яна была студэнткай-выдатніцай нейкага інстытута, удзельнічала ў нейкіх там гуртках, недзе з некім спаборнічала... Гэта маці так апраўдвала яе пастаянную занятасць. Бацька абыходзіў такія дэталёвыя характарыстыкі і гаварыў карацей: «Прыходзіла дачка», «Дачка пераслала свежыя газеты»...

Сама жонка працавала, здаецца, таксама ў нейкім навукова-даследчым інстытуце. Ва ўсякім разе, мне так здавалася. На сядзячую, забяспечаную жонку яна нічым не змахвала. Гэта высокая хударлявая жанчына хадзіла заўсёды ў строгім англійскім касцюме і акулярах і ў дадатак курыла... Калі я сустракаўся з ёю ў палаце ці бальнічным калідоры, дык, не ведаю чаму, мне заўсёды рабілася неяк халаднавата і хацелася хутчэй з ёю размінуцца. Вось як, скажам, у летні дзень нойдзе раптам хмара на сонца і зро-

біцца адразу холадна, і ты не дачакаешся, калі зноў праясніцца неба...

Усякія наведванні страшэнна стамлялі нашага хворага і нават больш — нярэдка раздражнялі. Ён нават мяне прасіў не пускаць да яго нікога. Я спытаў у яго, а як жонку — ёй быў дазволены кругласутачны пропуск,— але ён прамаўчаў. Я здагадаўся, што з жонкай, па сутнасці, самым блізкім у жыцці мужчыны чалавекам, яму таксама было цяжка. І мне здавалася, што я нават здагадваўся, чаму. Нейкая ўжо надта правільная была гэта жанчына і не па-жаночаму цвёрдая. Нават тады, калі мы, урачы, сумняваліся, яна не губляла звычнай раўнавагі.

Я, стары мяснік, нямала за свой век меў справы з нажом і чалавечым целам, і слязьмі мяне не вельмі кранеш. Але скажу вам, што жанчына, якая ніколі не плача, мяне пужае і... замарожвае.

...Калі хвораму было лепш, яна роўным спакойным голасам, у якім ніколі не мянялася ніводная нотка, расказвала яму пра справы ў яго на рабоце, пра розныя там пасяджэнні і бюро, пра абарону нейчай дысертацыі... Ніхто ні разу не чуў ад яе той, часам зусім беззмястоўнай жаночай гаворкі, якая нашым, мужчынскім, нутром засвойваецца ў тысячу разоў лягчэй, чым самыя дакладныя навуковыя размовы...

Несумненна, яна па-свойму кахала яго. Чым жа іншым можна растлумачыць тое, што яна магла выседзець пры ім цэлыя суткі і не папрасіць падмены, не паскардзіцца на стомленасць?

Нашы жанчыны — персанал — дзівіліся яе характару, але ніводная з іх не захаплялася ёю і, мусіць, наўрад ці захацела б быць падобнай на яе.

Пазней, калі хворы прыкметна пачаў ачуньваць, я, надзелены ўладай галоўнага ўрача, выканаў яго просьбу і забараніў штодзённыя наведванні яго блізкімі...

Аднойчы — гэта было ў пачатку чэрвеня — у кабінет да мяне заходзіць маладая жанчына з букетам белых півоняў і просіць дазволу наведаць хворага. Я не ведаў, за каго палічыць гэту маладую асобу, і, памятаючы просьбу хворага, адмовіў ёй, спасылаючыся на суровыя бальнічныя законы, якія дазваляюць спатканні толькі па нядзелях, спатканне ж у сераду было б парушэннем гэтых законаў... І так далей у гэтым сэнсе.

Відно было, што яна не ўмела ламацца наўпрост.

— Я не магу чакаць так доўга,— толькі і прамовіла яна ўпаўшым голасам.— Я не магу...— значна цішэй паўтарыла яна.

І я сапраўды адчуў, што яна не можа чакаць, як не можа і не выканаць свайго намеру, хоць і не ведае і не знаходзіць сама выйсця з гэтага жалезнага бальнічнага закону. Лоб яе перасекла глыбокая зморшчына, якая неяк адразу змяніла выраз яе ажыўленага твару на пакутлівы. Яна не адрывала вачэй ад стала, механічна разгладжваючы рукой абрус, але мне здалося, што я паспеў заўважыць у іх слёзы, якія яна намагалася стрымаць.

У душы я ўжо рашыў дазволіць ёй спатканне, але нешта ўтрымлівала мяне сказаць ёй пра гэта адразу, адразу адступіць перад ёю. Пакуль яна маўчала, я ўважліва разглядаў яе. Вышэй сярэдняга росту, статная, яна была ў просценькім, але з добрым густам пашытым плацці. Лёгкія белыя туфлі і саламяны капялюш з букецікам палявых кветак дапаўнялі яе касцюм, які як лепш не трэба падкрэсліваў выразнасць яе няправільнага, але вельмі мілага, адухоўленага твару, бледнага ад скрытага хвалявання.

Міжвольна, зусім без патрэбы папраўляючы шпількі ў косах, закладзеных на патыліцу цяжкім чорным вузлом, яна паволі ўзняла галаву і, на нешта адважыўшыся (аб гэтым яскрава сведчыў яе позірк), трэці раз з болем паўтарыла:

— Я не магу чакаць да нядзелі... Я прашу вас, доктар, давольце мне пабачыцца... Я наўмысля прыехала з другога горада. Я не магу паехаць назад, не пабачыўшы яго, і не магу чакаць нядзелі. У мяне дзеці асталіся дома...

Яна гаварыла спяшаючыся, збіваючыся і баючыся, што я нічога не зразумею і адмоўлю ёй.

Але я ўжо ўсё зразумеў. І я маўчаў не таму, што не хацеў дазволіць ёй, а таму, што я быў збіты з панталыку сваёй здагадкай. Праўда, прыгледзеўшыся да яе твару больш уважліва, я ўбачыў, што яна не была такой маладой, як здалася мне адразу. Ёй было бадай каля трыццаці пяці. Але ўсё роўна... Якіх рамантычных гісторый не сустрэнеш на свеце!

— Добра, я дазволю вам спатканне,— баючыся, што яна не здолее больш змагацца са сваім адчаем і няпэўнасцю, паспяшаўся я супакоіць яе.

Яна адразу, здаецца, нават не паверыла ў такі хуткі паварот справы.

— Праўда? — І цяпер я ўбачыў у вачах яе, якія засвяціліся ўдзячнасцю і радасцю, слёзы.

— Толькі майце на ўвазе, хворы ў цяжкім стане, і ён ні з кім не хоча бачыцца,— зусім ужо недарэчы папярэдзіў я, сам не ведаючы, навошта патрэбна было гэта папярэджанне.

— Мне ён будзе рады! — ускліктула яна так упэўнена, што я не стрымаўся ад усмешкі.— Хадзем хутчэй! — І яна рванулася наперад, забыўшы пра тое, што трэба скінуць капялюш і апрануць бальнічны халат.

— Я пра ўсё забыла,— не пападаючы ў рукавы бальнічнага халата, прызналася яна.

Спачатку мяне ўразілі яе паводзіны: чаму яна ні словам не пацікавілася пра яго стан, а потым я зразумеў: сама не ўмеючы таго растлумачыць, яна сур'ёзна верыла, што яе з'яўленне выратуе яго, паставіць на ногі.

Можна было паклікаць сястру ці няню і загадаць правесці яе да хворага, але чамусьці зрабіць гэта мне хацелася самому. Я хацеў папярэдзіць хворага, што прыйшла госця, але позіркам, у якім была нямая просьба, яна забараніла мне рабіць гэта. Я адчыніў дзверы і прапусціў яе наперад.

Хворы ляжаў на спіне, заплюшчыўшы вочы. На лёгкі скрып дзвярэй ён паволі павярнуў галаву, і ў поглядзе яго адбіліся сполах і нявер'е.

— Родны мой! — забыўшыся пра півоні, працягнула яна насустрач яму рукі. Півоні ўпалі ёй пад ногі, і яна па гэтых белых кветках пайшла да яго ложка з працягнутымі рукамі.

Ён абедзвюма рукамі гладзіў яе галаву, якая, не ведаю, ад слёз ці ад смеху, дробна ўздрыгвала ў яго на грудзях, і паўтараў толькі два словы: «Дзяўчынка мая!..»

— Пікантны момант. Спадзяюся, вы, як джэнтльмен, своечасова рэтыраваліся і не засталіся быць сведкам такой інтымнай сустрэчы? — не стрымаўся акцёр, падносячы запалку да патухшай папяросы.

— Рэтыраваўся, а што ж мне яшчэ заставалася рабіць? — проста згадзіўся доктар.

— Якую мараль, у сувязі з гэтым, вы прапанавалі б, паважаны эскулап? Палюбоўніца заўсёды мілей, тым больш, калі яна маладая, а жонка старая...

— Вы цынік,— коратка адазваўся доктар. — Уся справа ў тым, што гэта жанчына была таксама яго... жонкай. Так, так, шаноўны трагік. Не глядзіце на мяне вачы-

ма Мефістофеля, які святкуе перамогу над дабрачыннасцю... Яна была яго жонкай у самыя цяжкія гады яго жыцця — у партызанскія гады.

— Справа зразумелая...— зноў паспрабаваў іранізаваць акцёр.

— Я мог бы адказаць вам, каб не быў перакананы, што на справе вы куды разумней і чысцей, чым ваш язык... Дык вось,— гэтак жа спакойна гаварыў далей доктар,— наш хворы расказаў мне пра гэту жанчыну... Здаецца, яшчэ ўвосень сорак другога года, аднойчы ўвечары, ён з некалькімі сваімі хлопцамі прыехаў у вёску, куды часта наведваліся таксама і немцы... Зайшлі ў крайнюю хату. А там вячоркі: хлопцы, дзяўчаты. Там была і яна, студэнтка медінстытута. У першыя дні вайны пайшла яна з таварышкай да яе бацькоў перачакаць ліхалецце, ды так і асталася тут. Дадому дабрацца было немагчыма. Сама яна была варонежская...

Ну, вядома, пасядзелі, пагутарылі з гаспадарамі, распыталі сёе-тое, што іх цікавіла, у моладзі, пасарамацілі іх, што сядзяць дома, на печы, склаўшы рукі. А на развітанне паабяцалі наведацца яшчэ... У наступны раз з імі пайшлі ўжо вясковыя хлопцы, пайшла і Надзя... У атрадзе яна, як умела, лячыла параненых і хворых, хадзіла разам з хлопцамі на жалезку і ў разведку, мыла і латала ім адзенне... І заўсёды, што б яна ні рабіла, за якую б справу ні бралася, у кожным жэсце яе, у кожным руху і слове заўсёды адчувалася жанчына, чулая, пяшчотная, клапатлівая. Яна ведала, калі лепш памаўчаць, калі лепш прыкрыкнуць на хлопцаў і добра палаяць іх. Ведала таксама, калі заспяваць ім, лясным салдатам, сардэчную песню. А спяваць яна ўмела так, што сэрца ў чалавека... Такі быў голас!

...Вось так непрыкметна ўсё і здарылася. Прыйшло каханне, а разам з ім і яго неразлучныя спадарожнікі: шчасце і пакуты... Ён нічога не звальваў на вайну, ні ад чаго не адмаўляўся. Яна таксама ведала, што ў яго ёсць жонка і дачка... Насустрач пайшлі яны адно аднаму, не аглядваючыся назад і нічога не загадваючы наперад. Не адны яны такія былі...

А калі скончылася вайна, у іх ужо быў сын... Потым прыехала яго жонка... Сустракаюцца так званыя разумныя жонкі, якія на ўсё, што б ні здарылася з іх мужамі, заплюшчваюць вочы, сцвярджаючы, што ўсё, што было без іх,— іх не абыходзіць... Да ліку такіх разумных жонак

належала і гэта жанчына. Усё абышлося ціха, без скандалу. «Законная» жонка заняла сваё месца. «Незаконная» паехала забудоўваць жыццё нанава адна, з сынам... Таксама не адна яна была такая.

Ён жа, атрымаўшы пасаду, адпаведную сваім баявым заслугам, пабаяўся непрыемнасцей на службе і застаўся прыкладным сем'янінам... І ўсё роўна, праз гады ўжо, гэтыя людзі кахалі адно аднаго. Кахалі пасля ўсяго перажытага, пасля ўсяго крыўднага і прыніжальнага, на што згадзіліся і пайшлі абое.

Яна пазней таксама выйшла замуж і мела ўжо другога сына ад другога чалавека...

— Ну, і чым жа скончылася гэта сустрэча? — нецярпліва спытаў у доктара Сакалоў, які верыў у шчырасць чалавечых пачуццяў.

— Чым скончылася? Яна прабыла дзён пяць... І скажу вам, што за гэтыя пяць дзён з нашым хворым адбыліся такія змены, якіх мы не маглі дабіцца агульнымі намаганнямі за два месяцы дагэтуль. Нельга было пазнаць гэтага чалавека. У яго ўзняўся настрой. Ён сам пачаў прасіць, каб яму прынеслі есці. Некалькі разоў запрашаў мяне зайсці да яго і дзякаваў мне за ўзнагароду, якую я падараваў яму за яго цярплівасць. Па натуры ён быў гумарыст і любіў пажартаваць.

...Я не ведаю, аб чым яны гутарылі, што ў іх было ў думках аб будучыні. Магу адно толькі сказаць, што я быў сведкам таго, як вялікае чалавечае пачуццё, у якім было змешана ўсё, што хочаце — і каханне, і вернасць, і нявернасць,— зрабіла бадай што цуд... Тыдні праз два наш хворы выпісаўся з бальніцы амаль зусім здаровым чалавекам.

Доктар змоўк і працягнуў руку па акцёравы папяросы. Закурыў.

— Ну, а яна? — не без цікавасці звярнуўся да яго акцёр.

— Яна? Паехала да сваіх сыноў, да мужа. Што яшчэ ёй заставалася.

— І на гэтым па ўсім каханні?

— Чаму «па ўсім каханні»? Каханне не ампуціруеш...— І, ужо не адказваючы акцёру, а быццам разважаючы далей з сабой, доктар працягваў: — Ну, яго я, дапусцім, разумею. Яму было каго, было за што любіць. Такія жанчыны не валяюцца на дарозе... А вось яна? За што

яна яго любіць, калі, па сутнасці, яна павінна ненавідзець яго... І ўсё ж, мусіць, было нешта ў іх адносінах такое, што трымалася ў яе сэрцы мацней за ўсе гэтыя крыўды і абразы... Нешта такое, чаго, гледзячы збоку, адразу не заўважыш, не зразумееш...

— Тайна сия велика есть...— пасля кароткага маўчання ўпершыню за ўсю размову згадзіўся Громаў-Дар'яльскі.

Сакалоў маўчаў, жуючы тоненькую метлюковую сцяблінку.

— Вечная тэма...

І доктар моцна зацягнуўся табачным дымам.

*1955*

# ПАСАГ

Усё здарылася так, як не раз здараецца ў жыцці. Аднойчы, неяк яшчэ ў самым пачатку касьбы, калі позна вечарам вярталіся з сенажаці, першы хлопец на сяле Васіль Сямак жартам падхапіў пад руку Аню Валошку і пад жарты ўсяе брыгады так і не выпусціў яе аж да самага дому. Дзяўчына спачатку адбівалася, раз нават добра ляснула Васіля па шчацэ, але, стаміўшыся змагацца, прыпыніла, нарэшце, крок і пакорна пайшла поруч:

— Ну цябе!

Нехта з жанок адразу ацаніў гэтую пару:

— Глядзі ты іх: хоць у загс адпраўляй.

А дзяўчаты — ім самой кожнай люба было б вось гэтак жа пад руку прайсціся з Васілём, прыгажуном і лепшым танцорам на ўсіх вечарынках — таксама сыпанулі кожная з свайго боку:

— Анька, не хіліся вельмі да Васіля — Галя дадому як прыедзе...

— Покуль Галя будзе экзамены здаваць, дык Васіль з Аняй драмаць не будуць...

Васіль Сямак, разгарачаны агульнай увагай да ўласнай асобы, змахваў моцнай загарэлай рукой з ілба свой заліхвацкі чуб, бліжэй хіліўся да Ані і ад жартаў адбіваўся таксама жартамі:

— Няхай Галя яшчэ трохі падрасце.

Аня Валошка, стараючыся адвесці ўбок настойлівыя хлопцавы рукі, абрывала яго:

— У цябе самога яшчэ не абсохла малако на губах...

І дзіўна, сэрца яе не пратэставала супроць Васілёвай настойлівасці...

Пасля вячэры неўтаймаваная моладзь сабралася на клубнай пляцоўцы зноў. Гарманіст заняў адпаведнае месца на лаўцы пад старым клёнам і, прынікшы адным вухам да нутра свайго гармоніка, ірвануў раптам мяхі, урэзаў польку.

Як і заўсёды, і ў гэты вечар Васіль Сямак вылучаўся з усіх калгасных хлопцаў. Высокі, зграбны, ён выбіраў на танцы толькі самых прыгожых дзяўчат, ні адной, аднак, не аддаючы перавагі.

Аня Валошка таксама не прапускала амаль ніводнага танца. Аднак позірк яе ўвесь час міжвольна не-не ды і скіроўваўся ўслед за кучаравым Васілёвым чубам. І ўвесь

вечар не пакідала яе нейкая незразумелая ні то трывога, ні то няпэўнае чаканне.

Вальс гарманіст пакінуў напаследак. І калі на круг выйшлі першыя пары, Аня раптам прыняла зусім нечаканае нават для самой сябе рашэнне: не пойдзе яна танцаваць вальс — пойдзе дадому... Яна адмовіла камбайнеру Валодзю, не апошняму хлопцу на сяле, не пайшла таксама са сваім брыгадным учотчыкам Грышам і, не чакаючы канца вальса, хацела непрыкметна выбрацца з круга. Не захацелася чамусьці ў гэты вечар аставацца і з таварышкамі, каб, як звычайна, яшчэ з паўгадзіны абмяркоўваць танцы.

Аня паднялася з месца і толькі памкнулася адступіць за шырокую спіну гарманіста, як аднекуль з-за круга ўзяўся Васіль.

— Давай, Аня, мы з табой пакажам клас,— як і заўсёды, узвышаючы над усімі голас, незалежна звярнуўся ён да дзяўчыны.

І не паспела яна апамятацца, як рука яе лягла на круты Васілёў плячук. Васіль уладна абняў яе за стан і адразу з месца плаўна закружыў на кругу. Што казаць — такога танцора пашукаць трэба было. Танцаваць з ім кожная дзяўчына лічыла за гонар.

...У Васіля была дзяўчына, з якою, як казалі на сяле, ён гуляў ужо каля двух гадоў. Галя, дзяўчына гэтая, канчала педвучылішча і цяпер здавала дзяржаўныя экзамены. Не саромеючыся, Васіль адкрыта ўсім хваліўся, што Галя яму падабаецца і што, як толькі яна скончыць вучэнне, яны пажэняцца. Яна прыедзе дадому і будзе працаваць у сваёй школе. А ён — што ж? — калгасны рахункавод. Для настаўніцы, ды яшчэ ў пачатковай школе,— гэта нямала... Сам Васіль некалькі гадоў назад скончыў, хоць і не вельмі паспяхова, сямігодку, потым нейкія шасцімесячныя курсы. Больш знацца з навукай ён не пажадаў, бо наогул не любіў вельмі сябе абцяжарваць. Яму памагала прыроджаная кемлівасць. І калгасныя справы ён павёў так, што хутка стаў вядомы як здольны, талковы рахункавод.

Кожны выхадны, калі Галя не магла прыехаць дадому, Васіль ехаў да яе сам. Аднак гэта зусім не перашкаджала яму весела праводзіць час дома і зусім спакойна круціць галовы іншым дзяўчатам.

Васіля на сяле любілі за вясёлы нораў, за ўменне падысці да кожнага чалавека, з павагай пагаварыць на яго

мове. Са старымі дзядамі-палітыкамі ён гаварыў пра палітыку, расказваў ім апошнія газетныя навіны і гэтак жа, як і яны, круціў цыгаркі і зацягваўся пякельным самасадам... Старой бабцы, куды б ён ні спяшаўся, знаходзіў час памагчы загнаць у двор чараду непаслухмяных парасят або паднесці да парога вядро вады ад калодзежа.

З маладзіцамі востра жартаваў, не чырванеючы ад іх часам і праз меру вострых жартаў.

І таму, хоць на сяле і глядзелі на Васілёва сватанне да Галі, як на справу зробленую, усё ж яго вельмі не асуджалі за лёгкасць паводзін.

— Маладзён яшчэ,— казалі сталыя жанкі.— Перакруціцца, няхай толькі ажэніцца. Да таго ж у Галі матчын характар. У той мужык не пісне, сядзіць як мыш пад венікам. А таксама некалі быў з форсам. Быў не падступіся. Прыкруціла...

...Пасля вальса Васіль, не адпускаючы Ані, пайшоў праводзіць яе дадому. Нікога гэта вельмі не здзівіла. Ат, каторую ён толькі не вадзіў? Сёння Аню, учора Кацю, а прыедзе Галя — у яе будзе сядзець цэлы вечар, носа нікуды не высткне.

Аня Валошка не належала да ліку вясковых красунь. Рослая, плячыстая, яна ўмела справіцца з любой мужчынскай работай на полі, у гумне. Хадзіла цвёрдым размашыстым крокам, моцна, па-мужчынску размахваючы рукамі. Ужо даўно ўсе яе таварышкі перанялі гарадскія завіўкі і моды, Аня ж, як запляла ёй некалі яшчэ ў дзяцінстве маці дзве русыя касы, так нічога не мяняла і дагэтуль. Таксама не ўмела сама вельмі разбірацца, што ёй больш да твару, што, як кажуць, ідзе, а што не ідзе. Проста любіла і часцей за ўсё шыла сама сабе вузкія цёмныя спадніцы і светлыя блузкі. І дзіўна, як бы ні змянілася мода, а ў сваіх простых строях яна здавалася заўсёды зграбнай, ладнай дзяўчынай.

Астаўшыся пасля смерці бацькі, старэйшая з усіх шасцярых дзяцей, Аня выконвала ў сям'і самую цяжкую работу. Але прырода не пашкадавала ёй сваіх фарбаў. Шчокі Аніны пунсавелі заўсёды макавым цветам, а прыгожыя паўнаватыя вусны, здавалася, кожную хвіліну маглі пырснуць густым вішнёвым сокам.

Гэтыя здаровыя, свежыя фарбы вельмі ўдала спалучаліся з сінім цяплом, якое бруілі добрыя, заўсёды трошкі быццам засмучаныя ці здзіўленыя вочы. Мусіць, у позірку вачэй гэтых адбівалася нялёгкае дзяцінства і не такое ўжо шчодрае на радасці юнацтва.

...Аня з Васілём спыніліся каля Анінага двара. Гаворка не вельмі клеілася. Аня ніяк не магла зразумець: чаму не знаходзіла яна ў сабе сілы адштурхнуць гэтыя настойлівыя рукі, чаму адчувала сябе ў гэты вечар з Васілём зусім іначай, як заўсёды, чаму адразу ж не адправіла дадому яго, па сутнасці хлапчука ў параўнанні з ёю... (Васіль быў на два гады маладзейшы за Аню.)

Васіль жа зусім не звяртаў увагі на Аніна замяшанне, гаварыў нешта такое, чаго яна ніяк не магла зразумець, а потым раптам прыцягнуў Аню да сябе і пачаў цалаваць.

Яна ледзь вырвалася з абдымкаў:

— Ты здурнеў зусім? А Галя?

— А што мне Галя? Няхай і яна цалуецца, я хіба забараняю? — засмяяўся Васіль.

Гэты смех выклікаў у дзяўчыны дваякую рэакцыю. Розум паспеў падказаць: гэтак жа ён будзе смяяцца і з цябе... А сэрца? Яно не здолела абурыцца.

— Невядома, што б ты ўсё-такі сказаў тады?

Ані зусім падсвядома захацелася пачуць яшчэ раз, што ў гэты вечар улада над ім належыць толькі ёй...

І Васіль пацвердзіў гэта:

— А калі мне, апрача цябе, нікога больш не трэба!

...Яна так і не заснула да самай раніцы. Агнём палалі сляды Васілёвых пацалункаў. Яна праводзіла рукой па сваім твары, дакраналася да шыі, грудзей і, здавалася, адчувала яго гарачыя рукі.

З гэтага вечара знешне нічога не змянілася. Аня, як і заўсёды, з першымі промнямі сонца ішла з усім звяном на лён, а калі на льне не было работы, ішла туды, куды загадваў брыгадзір. Як і раней, з усім спраўлялася і за ўсім паспявала; як і раней, душа балела за ўсякую непаладку ў звяне і радавалася кожнаму поспеху, кожнай пахвале. У той жа час душа яе двaілася. І другая палова яе належала толькі яму. Нехта ішоў у канцылярыю правяраць працадні за месяц, і гэта было звязана з ім (ён быў там, у канцылярыі). Брыгадны ўчотчык Грыша запісваў нешта ў свой новы блакнот — і гэта таксама мела дачыненне да яго (ён прывёз у нядзелю гэтыя блакноты з горада). Хлопцы раіліся: пайсці ў суботу на вечарынку ў суседнюю брыгаду ці ў сябе наладзіць — і гэта, безумоўна, канчаткова вырашыць належала толькі яму. Усюды ён, і нічога без яго.

Дзяўчаты, хто ад зайздрасці, а хто па звычцы, не прамінaлі выпадку, каб падкалоць Аню ці пажартаваць з яе

і з Васіля. І яна не злавалася на іх. Клопат вялікі, што яны там думаюць. Няхай бы толькі гаварылі пра яго — хоць цэлы дзень!

Часам каторая з пажылых жанок, якая ўсяго ўжо на сваім вяку пабачыла, папярэджвала Аню:

— Глядзі, дзеўчына, не ўскоч ты з гэтым ветрагонам, як у студню.

Аня старалася звесці ўсё на жарт:

— Раней усё жаніхоў мне сваталі, а калі некалькі разоў з хлопцам прайшлася ды пасядзела, дык ужо і бяда.

— Сядзець сядзі, ды не вадзіся вельмі далёка...

А маці дома дык зусім заядала:

— Навошта ён здаўся табе? Ён цябе возьме, ці ты за яго пойдзеш? Хлопец салдатаў яшчэ не адбыў. Ды і Галька настаўніцай прыедзе. А ты што — чатыры класы ўсяе навукі!

— Не ваш клопат! — рэзка абрывала Аня матку і ўцякала з хаты — куды вочы глядзяць: на агарод, у поле, да свайго лёну.

— Мой будзе клопат, калі дзіця ў прыполе прынясеш...

Аня старалася не чуць гэтых апошніх слоў.

А Васіль? Ён жартаваў, не адыходзіў ад Ані на вечарынках, кожны вечар чакаў яе за гумнамі каля зарослай пахучым аерам копанкі, шаптаў ёй словы, якім сам не надаваў ніякага значэння,— і не-не ды і наведваўся ў педвучылішча да Галі.

Потым і сама Галя прыехала дадому. І Васіль не адмаўляўся ад гэтай падвойнай гульні.

Аня ўсё гэта бачыла і добра разумела, аднак перамагчы сябе не магла. Прысушыў Васіль яе сэрца так, што сама яна ўжо не мела ўлады над ім.

А ўвосень, калі канчалі ўжо льны слаць, на сяле зашушукалі бабы:

— Анька, паглядзеце, як раздалася? Дальбог, нездарма гэта...

Дзень за днём, тыдзень за тыднем — і хутка не было куды ўжо хавацца і рабіць выгляд, быццам нічога не здарылася.

Аніна маці ўчарнела як зямля. Сама Аня змяпілася да таго, што пазнаць яе было нельга. Можна было цэлы дзень трапаць поруч з ёю лён або стаяць ля малатарні і не пачуць ад яе ніводнага слова. Здавалася, думкі свае і мову замкнула яна на цяжкі замок і дабіцца да іх не было ніякай рады.

На вёсцы цяпер усе шкадавалі яе і на чым свет стаіць лаялі Васіля, паводзіны якога абуралі да крайнасці.

Пасля таго як ён, зусім пакінуўшы нават заходзіць да Ані, зноў пачаў па́дацца за Галяй (Галя, прыехаўшы дадому на канікулы і пераканаўшыся на свае вочы ў тым, што было звязана з Васілём, плюнула на яго жаніхоўства і праз які тыдзень атрымала прызначэнне ў школу ў суседні раён; Васіль зноў пачаў ездзіць да яе кожную нядзелю на веласіпедзе), не вытрымала нават Васілёва маці.

— Чым жа ўсё гэта, скажы ты мне, кончыцца? — накавалілася яна аднойчы на сына, калі той вярнуўся ад Галі.— Хто ж гэта тваіх дзяцей будзе гадаваць, хто ж гэта іх падбіраць будзе?

— А дзе яны плачуць, мае дзеці? — хацеў адказаць жартам Васіль.

Але гэтыя жарты яшчэ больш раззлавалі маці.

— Скора заплачуць, пачуеш... Ты чаго ж гэта, нягоднік, абняславіў дзяўчыну, а цяпер туляешся па завуголлю, другой галаву чмуціш? Што ж цяпер будзеш рабіць? Бяры яе да сябе ў хату, жаніся, або сам ідзі ў прымакі...

— Яшчэ чаго не хапала, патрэбна яна мне тут у хаце. Я ў армію хутка пайду.

— Хоць к чорту на рогі ідзі, толькі не пакідай дзеўцы сораму на ўсё жыццё. Ідзі ў сельсавет і запішыся, каб людзі ведалі, што ў яе муж ёсць, а ў твайго дзіцяці бацька. Такі бацька!..— зняважліва кінула напаследак маці.

Што думаў і што адчуваў пасля гэтай размовы з маткай Васіль, ніхто не ведае. Аднак праз тыдзень, дагнаўшы Аню на вуліцы, калі яна выйшла з калгаснай канцылярыі, без усякіх прадмоў паведаміў:

— Сёння да цябе перайду. Рыхтуй паўлітра, вяселле будзем гуляць...

Здзекаваўся ён, жартаваў ці праўду казаў, яна не ўмела разабрацца, ды і не хацела. Мацней за ўсё жадала аднаго: каб толькі прыйшоў!

І Васіль прыйшоў і пражыў у Анінай хаце тры месяцы. У армію яго ўзялі ў студзені, а ў сакавіку Аня нарадзіла дачку. Не дачакаўшыся ад Васіля пісьма з імем для дачкі, сама яна пайшла ў сельсавет і сама запісала ёй тое імя, якое даўно ўжо берагла ў сваім сэрцы: Надзея...

Тры гады — для жанчыны-маці, дзіця якой гадуецца без бацькі і сама яна жыве чаканнем яго,— вялікі тэрмін.

Так было і ў Ані. Пасля таго як на свет з'явілася яе Надзейка, сорам, які дагэтуль гнуў яе, здаецца, аж да

самай зямлі, знік і развеяўся, як горкі дым. Надзейка стала для яе ўсім: надзеяй, гонарам.

І ўжо не саромелася болей Аня, грэючыся цяплом сваё Надзейкі, высока ўзняўшы галаву, сустракацца з суседкамі, сталымі жанкамі, не саромелася глядзець у вочы тварышкам. Ішла на сход — і малую з сабой брала. Хітравала перад цікаўнымі жанкамі:

— Няхай мама адпачне крыху, Надзейка і так за цэлы дзень ёй рукі выкруціць...

А позірк, калі б яго ўмеў хто прачытаць, казаў зусім іншае:

— Глядзіце, якая краска ў мяне на руках! Глядзіце на маю радасць, на маю ўцеху, на маю вялікую надзею!

Аня працавала звеннявой па льну. Не толькі працавала — на ўвесь раён славілася сваёй працай, сваім ільном... У хаце дастатак завёўся: хлеба і грошай уволю, гарадская мэбля, добрае адзенне не толькі ў самой Ані, а і ў малодшых сясцёр і братоў.

Надзейцы ішоў ужо трэці год, як Аню раптам паслалі ў Маскву на сельскагаспадарчую выстаўку. Маці і не заікнулася нават пярэчыць:

— Едзь, паглядзі хоць свету. Далей раёна нідзе ж не была. А дзіця — хіба не будзе каму дагледзець? У адной бабы няхватка будзе часу, дык другая прыбяжыць — возьме. Без гасцінца ўнучцы таксама парога ў хату ніколі не пераступіць...

А зімой, калі пачалася гаворка пра выбары, яшчэ адна навіна праляцела над сялом: Аню вылучылі кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета рэспублікі.

І акурат у гэты самы час адслужыў і вярнуўся з арміі Васіль. Прыехаў дадому франтам. Ці то за дарогу, ці то раней яшчэ чорныя вусікі завёў (і вусікі яму да твару былі!), скрыпеў новенькімі хромавымі ботамі, на апошнюю дзірачку папругі сцягваў тонкі стан... І, як раней, пабліскваў чорнымі цыганскімі вачыма...

Перамагла Аня і сорам і боль (добра, што хоць вечарам прыехаў у сяло; каб днём, людзям гаворкі было б — ды і так яе хопіць: мінаваў хату, дзе дачка амаль тры гады без яго гадавалася,— пайшоў у канец, у сваю хату), узяла Надзейку на рукі і панесла ў канец сяла да бацькі.

Ён пакручваў вусікі, рыпеў па хаце новымі ботамі, без патрэбы зганяў на спіне складкі на гімнасцёрцы.

Дачку на рукі ўзяў, чаравічкі нават з чамадана выняў

(значыць, думаў, памятаў, што яна дачку яму гадуе!), а пацалаваць не адважыўся...

Надзейка дзічылася халодных рук і калючых вусікаў і рвалася да маці. А маці, другая, Васілёва, скрыжаваўшы рукі на грудзях, стаяла каля прыпечка і моўчкі сачыла за гэтай сустрэчай.

Пасля стрыманага вітання за руку Аня сядзела на лаўцы і, не ведаючы, пра што гаварыць, аб чым пытацца, пакутліва шукала дапамогі ў Надзейкі:

— Ну, чаго ж ты ўцякаеш — гэта ж тата твой прыехаў. Глядзі, якія прыгожыя чаравічкі табе прывёз. Давай ножкі абуем...

— Не хачу чаравічкаў,— не паквапілася на падарунак няўдзячная Надзейка, ваўчком пазіраючы на таго, каго маці звала татам.

— Бачу я, няма ў вас, як у людзей, гаворкі. Дык я пачну,— нарэшце ўступіла ў гутарку Васілёва маці.— Вырашайце справу адразу: жыць дык жыць, а не, дык людзей не смяшыце... Я да цябе кажу, сынку мілы! Бачыш, як на цябе касавурыцца родная дачка, дарма што і падарунак здагадаўся за тры гады прывезці... Дык вось мая гаворка: збярыце людзей, зрабіце пачостку як мае быць, і жывіце, дзе вам люба. У мяне хата, як абозня, і ў Ані таксама месца хопіць.

— Ты што ж гэта, маці, адразу так крута забіраеш. Не паспеў сын парога пераступіць, як ты: збірай людзей, частуй, паі. Ды і мяне ж самога яшчэ ніхто асабліва не частаваў, не паіў.

— Ты ж абмінуў хату...— пакрыўджана ўсяго толькі напомніла Аня.

Але Васіль, не слухаючы яе, зноў павярнуўся да маткі:

— Апрача таго, я, маці,— салдат. Гол як сакол. Мне пасаг добры трэба.

Жартаваў ён толькі ці ўсур'ёз сказаў гэта, разабраць, як і заўсёды ў яго, было цяжка.

Тады маці, не вытрываўшы болей, грозна падступілася да яго:

— А гэтага пасагу, што вось сядзіць надзьмуўшыся і нават у твой бок не глядзіць, гэтага пасагу мала табе?

— Ну, маці, гэта агульная справа...

Анін погляд сустрэўся з Васілёвым, вясёлым і нагла бессаромным.

Але маці не слухала.

— Малы табе гэты пасаг, што яна адна тры гады га-

давала, а ты нават у пісьме ні разу не заікнуўся аб ім?! Я ўжо не раз мелася пісаць тваім камандзірам пра тваё бацькоўства, ды бяда — пісаць сама добра не ўмею, а людзей прасіць брыдка. Яна ўсё за мяне пісала. Дык, бач, усё гэтае дурное каханне выгароджвала цябе нават перада мной, тваёй маткай. А табе, бач, пасагу мала яшчэ! Ды ты ж ёй у падноскі няварты. Яна ж чалавекам якім стала, яе людзі ўладай сваёй выбіраюць, а ты!..

— Ну, хопіць, маці, чаго ты разышлася? — устаў і смачна пацягнуўся Васіль.

— Сапраўды хопіць! — зусім нечакана нават для сябе таксама ўстала і выпрасталася Аня.— Хопіць! Не рабі, Васіль, мне і сваёй дачцэ ласкі! Не думай, што калі тры гады я чакала і цярпела, дык і далей гэтак будзе... Вялікую ўладу ты меў над маім сэрцам... Ведай — яшчэ і цяпер яно не вольна... Але ведай і другое: пасагу нейкага адмысловага я збіраць табе не буду! Шукай яго дзе-небудзь у другім месцы...

Яна борздзенька апранула дачку і, моцна прытуліўшы яе да грудзей, ледзь не бягом кінулася з Васілёвай хаты.

...А ноччу зноў ні на хвіліну не звяла вачэй. Здаецца, спапяліла дурным непатрэбным жаночым чаканнем сэрца, на ўсе лады паўтараючы адно, бесклапотна і бессаромна кінутае ім слова: пасаг...

Поруч з маці спакойна і роўна дыхала Надзейка, светла ўсміхаючыся нейкаму свайму дзіцячаму сну.

*1955*

# ЗА АКНОМ ЧАРОМХА

*20 красавіка*

«Дружа Лявоне!

Жанчыны, калі яны адказваюць са спазненем на паўгода, «у першых радках свайго пісьма» выкладваюць прычыну маўчання, а затым просяць прабачэння.

Твой пакорны слуга, як табе вядома, не жанчына. Таму дазволь сказаць табе шчырую праўду: не адказваў на тваё пісьмо столькі часу таму, што проста не хацелася пісаць табе.

Пра што, уласна кажучы, пісаць? Пра тое, што кожны вечар правяраю гару сшыткаў і складаю планы ўрокаў? Ты гэта ведаеш. Што працай сваёй я не захоплены? Ты гэта чуў таксама. Што хачу жаніцца і ніяк не дабяру, як кажуць, сабе пары, хоць «жаночы элемент» пераважае над мужчынскім у нас у два разы...

Зайздрошчу я табе, чорт паласаты! Астаўся сабе ў сталіцы, і цяпер сам чорт табе не брат: здаеш кандыдацкі мінімум і, глядзі, гады якія праз два набудзеш утульнае месца ў навуцы і сталічную кватэру з усімі выгодамі. Ну, а да ўсяго гэтага жонка, як кажуць, сама прыложыцца... А ў мяне, браце, не тое, што ў цябе. У мяне планіда сельскага настаўніка...

Праўда, у пачатку навучальнага года мне прапанавалі месца інспектара нашага райана. Спакойнае месца (як бы там ні было, а чужыя двойкі баляць менш, чым уласныя). У дадатак да гэтай пасады я атрымаў бы яшчэ рысака і брычку — транспарт, прадугледжаны асвеце па штату...

Аднак я адмовіўся ад усіх гэтых службовых выгод, спаслаўшыся на тое, што мне больш па натуры самому рабіць памылкі і выпраўляць іх, чым пісаць справаздачы аб памылках і поспехах чужых...

Вось, брат, якія справы. Сёння дваццатае красавіка, а за акном такая свістапляска, што нос на вуліцу высунуць страшна: лепіць снег, а зверху яго дажджом палівае. Пагодка! А ў мяне сёння, як казаў некалі наш праформг Жэнька Казлоў, мерапрыемства. Табе, напэўна, ніколі ў галаву не стукне, што Аркадзя Бусел можа займацца тэатральнай дзейнасцю. А я, брат, пад старасць раптам адкрыў у сабе талент. Па тэатральнай разнарадцы часоў драматурга Астроўскага — ні больш, ні менш — геройлюбоўнік (ты не ўяўляеш, якая ў нас самадзейнасць тут:

школьная разам з калгаснай. Брат, рэпертуар мала не ідзе ў нагу з мхатаўскім). Ну, а часам, калі няхватка ці захварэе камедыйны план — я і тут патрапляю. Рознабаковы талент!

Праўда, сёння я з прыемнасцю застаўся б аднабокім, без усякага таленту. Валяўся б сабе на канапе, праглядаў бы сабраныя за тыдзень газеты і не думаў бы ні пра якія мэрапрыемствы.

Сёння мы павінны выступаць на раённай нарадзе перадавікоў сельскай гаспадаркі, або, іначай кажучы, павінны трэсціся на гэтую нараду дваццаць кіламетраў на грузавой машыне па чорт ведае якім надвор'і.

Ну вось, так яно і ёсць: ідуць ужо мае артысты па маю душу. А я яшчэ спадзяваўся: а можа, часам, адкладзецца... Прабачай, браце Лявоне, баюся, каб гэтага першамайскага прывітання табе не прыйшлося чакаць яшчэ з паўгода...»

*21 красавіка. Тры гадзіны ночы.*

«...Ці здолееў бы ты, Лявоне, акрэсліць, што такое чалавечае шчасце? Не, брат, гэтая задача не па табе. Гэта табе не дысертацыя. Калі і ёсць такі чалавек, які змог бы адказаць табе, дык гэта толькі адзін... Я!

Вось паслухай, што гэта такое, ад слова да слова:

«Дарагі дружа! Сёння такі цудоўны дзень, што я не магу стрымацца, пішу ўсім сваім сябрам, каб павіншаваць іх з гэтай прыгажосцю, з вясной... Я выняла раму і адчыніла акно. Насустрач маім рукам пацягнуліся пругкія бэзавыя галінкі. Я асцярожна гладжу набраклыя пупышкі і падношу іх да губ. Яны гаркавата-халодныя, пахучыя, жывыя... Свайго адчування я не ўмею акрэсліць словамі... Але я ўсё роўна вырашыла напісаць Вам. І ўлічыце, першаму з маіх сяброў.

Я не адказвала на Вашы пісьмы, хоць і атрымлівала іх у час. Спачатку хварэла, потым сесія надышла, а потым наогул было ўжо няёмка адказваць. Прашу забыць гэту маю віну і прабачыць яе мне.

Калі будзе ў Вас жаданне напісаць, не памятайце зла і не адкладвайце свайго адказу так надоўга, як гэта зрабіла я. І Вы ўбачыце, што я сваю віну папраўлю!

Налета я зноў збіраюся прыехаць у Дуброву. Праўда, гэта залежыць не толькі ад майго ўласнага жадання...

Бывайце здаровы. Разам з гэтым лістком пасылаю Вам кавалачак нябеснага блакіту. Утрымайце яго!

*Галіна».*

...Скажы, Лявон, які дурань выдумаў, што матэматыкі — сухары? Што яны не ўмеюць адчуваць прыгожага, што яны не здольны захапляцца?

Каб ты ведаў, як мы ўчора паставілі купалаўскіх «Прымакоў»! Скажу табе, што не толькі Мацейку, я ўпэўнены, што ўчора я здолеў бы іграць Рамэо, Барыса Гадунова, нават Дон-Кіхота!

Ты, напэўна, скажаш, што я трызню... Не, браце, не трызню. Ты падумай толькі, што можа зрабіць з чалавекам вырваны са звычайнага сшытка ў клетачкі ліст паперы!

І ўсё роўна я не памяняў бы яго ні на якую дысертацыю, не толькі напісаную, але і абароненую... Не вер ты мне, што пасля яго я змог бы лёгка абысціся без «мераприемстваў», пра якія пісаў табе за паўгадзіны да таго, як прыйшоў гэты ліст... І які ж я дурань, які бот в левай нагі быў, калі казаў, што праца мяне не захапляе. Якія, братка, у нас тут людзі, якія таленавітыя хлопцы і дзяўчаты ёсць у калгасе!

А ты паглядзеў бы на нашу школу і вучняў нашых! Малодшыя, хто не ехаў учора з намі, праводзілі нас, памагалі грузіць рэквізіт у машыну. Я глядзеў на іх стараннe і думаў сам сабе: «Не такі ўжо, Аркадзя, ты дурань, калі не падаўся ў інспектары, а застаўся з імі...»

А Дуброва? Дубровы нельга апісаць (тым больш матэматыку). Яе трэба бачыць. У Дуброву трэба прыехаць. Сабраўся б ты ўжо як-небудзь, бервяно, паглядзеў бы кавалачак раю на зямлі. Паглядзеў бы, як у нас тут хораша летам. Нёман стромкі, капрызны, а па ім — плыты, бясконца плыты... А на правым беразе хваёвы лес. Пісьменнікі, здаецца, меднымі завуць хваёвыя ствалы... Дык вось, як зойдзеш у наш бор ды прыслухаешся, здаецца, сапраўды, ледзь чутна звініць у паветры метал. Звініць!..

Летам амаль кожную суботу ў нашым клубе пастаноўкі бываюць. Не горш як у тваёй сталіцы.

Летам прыедзе сюды Галіна.

Ты ж не бачыў яе, не ведаеш. Эх, ды што ты ведаеш, акадэмік, апрача свайго мінімуму? Калі ўжо хто сухар, дык гэта ты, Лявоне.

...Ведаеш, як мы пазнаёміліся з ёю?

Летась, 12 жніўня, я ехаў у раён на веласіпедзе. Праз лес колькі тут дарогі той — кіламетраў пятнаццаць. Па гэтай дарозе ў мяне адна мясціна аблюбаваная. Паўз самую ўзбочыну шашы — бяроза. Старая, пакарэжаная, да

самай зямлі бурай прыгнутая. А вакол яе маладзенькі бярэзнік — праўнучкі. Я заўсёды спыняюся, як еду, перакурыць пад гэтай бярозай. Так мяркую і гэты раз. Мінаю паваротку, яшчэ сотня метраў — і раптам бачу: на тым месцы, дзе я звычайна кладу свой веласіпед, ляжыць чужы, а побач, абхапіўшы калені рукамі, адкінуўшы крыху назад галаву, сядзіць дзяўчына... Яна сядзела да мяне спіной і таму не заўважыла мяне і не пачула, як я пад'ехаў. Я знарок моцна прывітаўся. Яна ўся ўздрыганулася і павярнулася тварам да мяне.

— Адважваецеся адна сядзець у лесе і палохаецеся?

— Ой, я сапраўды спалохалася,— прызналася яна і падкурчыла чамусьці ногі. На ёй была сукенка з квяцістага шоўку, такая ж касынка была накінута на светлыя, ледзь кучаравыя на скронях валасы. Яна вельмі хутка пазбавілася ад свайго спалоху і першая спытала мяне:

— А вы хто?

— Я?.. Я чалавек... Настаўнік,— нават крышку разгубіўся я, захоплены знянацку яе адкрытым пытаннем.

— Цудоўна! — усклікнула яна, узрадаваўшыся майму паведамленню так шчыра, быццам яна спецыяльна сядзела і толькі чакала тут мяне.

Я кінуў свой веласіпед побач з яе і, як належыць «настаўніку і чалавеку», папрасіў дазволу закурыць у яе прысутнасці на месцы мае стаянкі. Яна міласціва дазволіла мне гэта і спытала, чаму я заву гэтую стаянку маёй? Я растлумачыў. Яна глянула вакол і сказала:

— Я таксама буду тут заўсёды адпачываць. Мне тут падабаецца.

Тады я гэтак жа проста, як і яна, запытаў, адкуль яна і як доўга збіраецца арандаваць маю стаянку. Дзяўчат бліжэйшых вёсак за два гады я ўжо ведаў. Гэта была наводная, як у нас тут кажуць.

Яна прыжмурыла вочы — як хочаш здзекуйся і чым хочаш папракай мяне,— яны былі ў яе такія сінія, якімі могуць быць толькі валошкі ў жыце. І вясёлыя, і насмешлівыя... Твар яе быў у меру круглы, у меру кірпаты. Свежасць шчок, якая была ў яе, можна было сустрэць толькі ў малых дзяцей, што насы яшчэ рукавамі выціраюць.

На маё пытанне яна прыжмурыла вочы і так, як робяць усе дзяўчаты, не адразу, а каб распаліць маю цікавасць, адказала неяк бокам:

— Я тут чужы чалавек.

Я сказаў, што я гэта бачу, але як усё-такі больш да-

кладна вызначыць, хто яна такая. Пасля гэтага дзяўчына дала больш падрабязную даведку. Яна студэнтка педінстытута, прыехала ў госці да цёткі, а ў Дуброву едзе да сяброўкі, да Каці Бадыль.

Я, вядома, Кацю ведаў, і тут жа чамусьці вельмі ўзрадаваўся, што ў яе ёсць такая сяброўка. Праз дзесяць хвілін мы з ёю жартавалі і падколвалі адно аднаго нязлоснымі шпілечкамі, быццам былі знаёмыя да гэтага сто гадоў.

Так непрыкметна прабег час, калі мы, нарэшце, успомнілі, што мне трэба ехаць у раён, а ёй да сяброўкі. Мы цёпла развіталіся, памахалі адно аднаму рукой, гэтым развітаннем нібы кажучы, што наша сустрэча была толькі першая... І кожны паехаў у сваю дарогу. Не ведаю, колькі праехаў я, як раптам мяне штурхнула зусім нечаканая думка: «Няўжо так абавязкова ехаць у раён сёння? У мяне ж там ні канферэнцыі, ні сходу, ні, урэшце, ніякай грамадскай справы. У мяне там усяго-наўсяго невялікі ўласны інтэрас: купіць рыбалоўчыя прылады... Такая тэрміновасць, падумаеш. Перабуду ж неяк аднаго паўдня і без кручкоў...»

Думаю, табе не трэба тлумачыць, што зрабіў я далей. Галіна ўмела ездзіць на веласіпедзе! Я доўга гнаўся за ёю, квяцістай вятрынкай. А яна ўсё ўцякала і ўцякала ад мяне... І я вырашыў зноў яе напалохаць. Нарэшце, скараціўшы адлегласць на якіх метраў дзесяць, я што моцы зазваніў. Яна хутка азірнулася, і я аж зажмурыўся ад яе позірку: столькі промняў, столькі іскраў, столькі смеху было ў ім!

— А я ведала, што вы не паедзеце ў раён,— крыкнула яна, не сцішаючы ходу. А потым зноў павярнулася і зноў цераз плячо крыкнула: — Я вельмі хацела, каб вы вярнуліся!

Калі так, то сам я больш нічога не хацеў.

...Мы стрэліся пад той жа бярозай назаўтра, у наступны дзень, а потым яшчэ і яшчэ... І дзе мы толькі не былі з нашымі веласіпедамі! Прыходзілася часам і цягнуць іх на руках. Тады Галіна жартавала: «Дзе не пройдзе алень, там пройдзе веласіпедыст, які згубіў галаву...»

...Так непрыкметна надышло дваццаць восьмае жніўня. Мы развіталіся. Мы далі цвёрдае слова пісаць адно аднаму. Галя паехала ў інстытут. Я не чакаў яе паштоўкі з першай станцыі. Я ў той жа дзень, як яна паехала, напісаў ёй пісьмо (дзе там пісьмо, спісаў цэлы сшытак

вучнёўскі), у якім, па-мойму, не было ніводнай выразнай чалавечай думкі.

На гэты спытак адказу я не атрымаў. Не атрымаў я яго і на сваё другое, трэцяе і пятае пісьмы.

Адказ прыйшоў учора...

І ўсё роўна ты не разумееш, што такое чалавечае шчасце... За акном, браце, снегу па калена накідала, а ў мяне ў вушах ведаеш, што звініць?

«За акном чаромуха калышацца...»

Братка Лявон, як гэту чаромху спявае Галіна!

Прыязджай на лета да мяне, не будзь дубовым пнём. Сатлееш ты там над сваёй дысертацыяй.

А ўрэшце, чорт цябе ведае, мо лепей сядзі і здавай свой мінімум. Па табе ж у нас на фізмаце сохлі ўсе дзяўчаты... Лепей я сам табе буду пісаць, як мы з Галінай лета праводзім.

Пачакай, а раптам яна не прыедзе?!.»

*1955*

# НАВАЛЬНІЦА

Адвакат Казанцаў яшчэ ніколі не адчуваў сябе такім стомленым і разбітым.

Выматала служба. Нямала адабраў здароўя і апошні працэс — групавая справа малалетніх парушальнікаў, сярод якіх толькі трое былі па-сапраўднаму вінаваты, астатнія ж былі ўцягнуты па дурасці.

Далася ў знак таксама жончына хвароба. Яшчэ не зусім старая жанчына, за апошні год яна так падалася, што цяпер пазнаць яе было цяжка. Сэрца.

Ну, ды і гады — яны таксама бяруць сваё, таксама вядуць свой разлік...

Казанцаў не любіў ні курортаў, ні санаторыяў. Чалавек некалі бездакорнага здароўя, ён кожны раз заўсёды яшчэ больш стамляўся ад той курортнай бяздзейнасці, за якую звычайна людзі так ахвотна плацілі шалёныя грошы і зусім сур'ёзна лічылі гэтую бяздзейнасць адпачынкам.

Дасюль свой адпачынак Казанцаў праводзіў часцей за ўсё ў сябра, сельскага настаўніка, такога ж, як і сам ён, заядлага паляўнічага, або, як казала жонка, насіўся на якія-небудзь дзікія экскурсіі па Каўказу ці па Крыму. Сама яна трываць не магла шалёных горных дарог і звычайна ад гэтых экзатычных падарожжаў адмаўлялася, аддаючы перавагу гарачаму жніву ў родзічаў-калгаснікаў. Пасля месяца такога занятку з сярпом у руках яна вярталася дадому заўсёды паздаравеўшы і сапраўды адпачыўшы.

У гэтым годзе ўрачы забаранілі ёй наогул усякія паездкі, а Казанцава пасылалі толькі на поўдзень (і толькі ў санаторый!) прымаць нейкія серавадародныя ванны.

Казанцаў цэлае лета адцягваў гэтую паездку, хітруючы не толькі перад дактарамі і жонкай, а нават і перад самім сабой, і ўсё меркаваў як-небудзь вырвацца на сябравы балоты, на качак.

Аднак тут у справу ўмяшалася Ніна — адзіная, ужо замужняя дачка Казанцавых,— і хітрамудрыя планы адваката лопнулі, як мыльная бурбалка. Яго сабралі, быццам непаўналетняга, у дарогу і, упхнуўшы ў рукі блакітную кніжачку-пуцёўку з намаляваным на ёй сінім кавалкам мора, трыма кіпарысамі і адной пальмай, загадалі: «Едзь, лячыся!..»

З дому Казанцава адпраўлялі жонка і цёця Поля, адзінокі чалавек, даўняя суседка Казанцавых, а цяпер, з прычыны хваробы жонкі, і гаспадыня ў іх нескладанай гаспадаркі. На вакзал праводзілі яго сябры-саслужыўцы і дачка Ніна — архітэктар з цэлым ужо годам працоўнага стажу, красуня, разумніца — гонар бацькі, якому яна ўсё яшчэ здавалася дзяўчынкай-падлеткам і якую ён інакш не называў, як грубавата-ласкава: «Нінуха».

Ніна адной рукой прыціскала да грудзей пунсовыя астры, другой трымала бацьку пад руку і ўвесь час давала яму парады наконт адпачынку:

— Ты ж глядзі, татка, выконвай санаторны рэжым...

Адвакат песціў поглядам сваю красуню-дачку і, любоўна трэплючы яе па шчацэ, адказваў ёй у тон:

— Ну, вось табе і маеш: сядзь на хлеб і ваду і зачыніся ў чатырох сценах...

Нехта з сяброў двухсэнсава пажартаваў:

— Другім жа ты не заўсёды адмаўляеш у гэтым...

Адвакат у адказ толькі пагразіў пальцам. За дзве хвіліны да адпраўкі поезда ён развітаўся з сябрамі, пацалаваў дачку і, забраўшы букет з яе рук, узяўся за поручні вагона.

— Татачка, адразу дай тэлеграму! Глядзі, на сонцы вельмі не пячыся, табе шкодна! Спытай у дактароў, ці можна табе купацца ў моры!..

Поезд набіраў хуткасць. Казанцаў стаяў у дзвярах тамбура і ўсё махаў рукой сваім праважатым, нічога ўжо не разбіраючы з таго, што наказвала яму Ніна...

* * *

Пагаліўшыся перад невялікім круглым люстэркам (адвакат не любіў цырульняў), Казанцаў замяніў сваю паласатую піжаму бездакорным светла-шэрым касцюмам і, старанна расправіўшы каўнер вышытай Нінай палатнянай сарочкі, адчуў ва ўсім целе тую прыемную лёгкасць і маладжавасць, якую заўсёды надаюць чалавеку халодны душ, чыстая бялізна і наогул добры настрой.

Суседа Казанцава па палаце не было. Ён ужо ў шэсцьсорак паехаў на ванны. Дзівячыся спрыту суседа і яго такой палкай ахвоце да лекаў, у душы сабе Казанцаў даў слова не паддавацца ўладзе лекаў. Зрэшты, ён плаціў грошы і ехаў сюды, каб хоць адзін месяц за год выспацца

як належыць, а не ўскокваць і апоўначы гойсаць на аўтобусах на нейкія ванны...

Спрыснуўшы сябе такім папулярным сярод мужчын «Шыпрам», Аркадзь Аркадзьевіч накіраваўся адшукваць тых дактароў і тыя кабінеты, куды былі напісаны яму дзяжурнай сястрой квіткі-накіраванні. А квіткоў гэтых было аж цэлых тры.

Вялізны санаторый адразу здаўся Казанцаву сапраўдным лабірынтам. Каб папасці на першы паверх, трэба было з другога падняцца ліфтам на чацвёрты і потым нейкім запасным ходам спускацца ўніз...

Пасля першага знаёмства з медыцынай было снеданне. Потым Казанцаў пайшоў на лячэбны пляж і купаўся ў моры (ніхто і не думаў забараняць яму гэтага). Пасля абеду быў ціхі час. Затым вячэрні чай, а пасля чаю трэба было станавіцца ў чаргу і чакаць у вестыбюлі аж да сямі гадзін касірку, каб узяць білеты на «Бадзягу»... Наспех павячэраўшы і адседзеўшы дзве серыі «Бадзягі», Казанцаў не захацеў ужо нават і кефіру. Лёгшы ў пасцель, ён адчуў сябе стомленым не менш, чым дома на працы, пасля пяці-шасцігадзіннага нялёгкага судовага пасяджэння.

І ў той жа час стомленасць гэта была лёгкай, нават прыемнай. Прычынай гэтаму было ўсведамленне таго, што, па сутнасці, усе службовыя пасяджэнні і справы зараз не мелі над ім ніякай улады і, наадварот, ён сам цяпер меў неабмежаванае права выкінуць іх з галавы на цэлы месяц і не ўспамінаць пра іх, быццам іх, гэтых спраў і пасяджэнняў, зусім не існуе на свеце.

Высокія шкляныя дзверы пакоя, дзе пасяліўся Казанцаў, выходзілі на балкон. Балкон вісеў амаль над самым морам. У штармавое надвор'е мора шалёна кідалася на каменныя хвалярэзы, буйнымі салёнымі пырскамі біла ў шкляныя дзверы.

Гэтую ноч мора спакойна адпачывала, гушкаючыся прыглушаным плёскатам стомленых хваль. З густой, як сажа, чарнаты ночы раптам вынырнулі імклівыя, вясёлыя агенькі невялікага кацярка. На ім, відаць, уключылі радыёлу, і Казанцаву адразу здалося, што заспявалі дзесьці зусім блізка ў санаторным скверыку. Ускалыхнуўшы начную цішыню, песня кранулася нябачных струн сэрца, міжвольна адазвалася жывым сумам па нечым далёкім, нетутэйшым.

Укрывает инеем
Землю добела.
Песней журавлиною
Осень отцвела...

Залаты шнурочак, робячыся ўсё меншай і меншай зорачкай, плыў у чарнаце ночы і разам з песняй чараваў патрывожанае сэрца:

Ой, рябина кудрявая,
Белые цветы.
Ой, рябина-рябинушка,
Что взгрустнула ты?

— Ну, як вам падабаецца ў нас? — з такім пытаннем нячутна вырас на парозе сусед Казанцава Леў Іванавіч Сонейка, круглы, нейкі незвычайна гладзенькі і ружовы чалавек з невялікай пляшынай на цемені, нібы ззяннем, акружанай рэдкімі валасамі колеру ржавых цвікоў.

Леў Сонейка яшчэ напярэдадні адрэкамендаваўся Казанцаву адэсітам, лічачы, што падрабязнасці для першага знаёмства — зусім лішняя справа. Працаваў ён ні то зубным тэхнікам, ні то ўзначальваў нейкую гандлёвую кропку — гэта ён неяк вельмі ўмела абышоў, намякнуўшы на тое і на другое.

Каб не паказаць суседу, што той прыйшоў не зусім у час і каб адразу не выклікаць яго нездавальнення ўласным суседствам, Казанцаў роблена бадзёра адазваўся:

— А ведаеце, нядрэнна.

— Нядрэнна, нядрэнна... Вам, навічкам, заўсёды так здаецца,— адразу раскусіў адваката Сонейка,— вось пажывяце тут з тыдзень або як я — заўтра ўжо будзе чатырнаццаць дзён,— што вы тады скажаце?.. А Рыта, Рыта! — нечакана захлібнууся Леў Іванавіч.

— Цудоўная артыстка,— згадзіўся Казанцаў.

— Артыстка-то артыстка, але калі ты глядзіш на яе і табе здаецца, што і ты гатоў, як той хлопец, паляцець за ёй у вір галавою — то вось гэта што, я ў вас пытаюся?

— Вось я і кажу: выдатная артыстка,— стрымана азваўся Казанцаў, чамусьці ўспомніўшы сваю дачку, Ніну.

Яму раптам расхацелася гаварыць з Сонейкам пра Рыту, і ён пажадаў суседу добрай ночы.

— А я «Расію» яшчэ пагляджу. Яна ў адзінаццаць роўна адшвартоўваецца...

«Адшвартоўваецца»? — ужо зусім засынаючы, раптам здзівіўся Казанцаў.— Чаму адшвартоўваецца?..

* * *

Першыя дні, падобныя адзін на адзін па сваёй бяздзейнасці, цяклі страшэнна марудна. І, каб не адчуваць гэтай бяздзейнасці, Казанцаў стараўся запоўніць іх тым, што складае звычайны змест адпачынку ў санаторыі. Хоць спачатку і заракаўся ён ездзіць на ванны з самай першай зменай у шэсць сорак, аднак вельмі хутка ўпэўніўся: так зручней. Так, па выразу Льва Іванавіча, заставалася больш рацыянальнага часу. (Леў Іванавіч меў схільнасць да «вучоных» слоў.)

Трэба сказаць, што гэты рацыянальны час Леў Іванавіч Сонейка выкарыстоўваў на дзіва «рацыянальна». Без яго не абыходзілася ніводнай экскурсіі, ніводнага паходу ў тэатр ці на канцэрт, ніводнай сустрэчы са славутасцямі, якіх у той месяц было хоць гаць гаці.

Да краёў напоўнены замілаваннем да ўласнай асобы, Сонейка аднойчы ўзяўся дакараць Казанцава:

— Дарэмна марнуеце час, Аркадзь Аркадзьевіч. Зусім дарэмна!

Адвакат паспрабаваў апраўдацца:

— Ды я, Леў Іванавіч, не паспеў яшчэ адаспацца як мае быць.

Сонейка толькі мнагазначна прысвіснуў:

— Уга, выспацца яшчэ паспеем!

І на наступны дзень сам, не пытаючыся ў Казанцава згоды, запісаў яго ў лік тых, што хацелі ехаць дваццаць і ісці пехатой пяць кіламетраў па казінай сцежцы да нейкіх вадаспадаў...

Казанцаву экскурсія спадабалася, і ў знак поўнай згоды з планамі Сонейкі ён толькі махаў рукой на кожную новую яго прапанову:

— Ну што ж, Леў Іванавіч, давайце запісвайце.

Гэтак жа сумленна, як і ўсе, хто адпачываў тут, Казанцаў наведваў рынак і першы тыдзень амаль штодня адпраўляў дадому і сябрам пасылкі з садавінай і вінаградам. Загадзя ведаючы, што пераплачвае ўдвая, ён, аднак, не хацеў адмовіцца ад магчымасці зрабіць прыемнае жонцы з дачкой і таварышам па рабоце.

Суседкамі па стале ў адваката былі тры жанчыны. Ленінградская прафесарша, сталая, паважная, у пенснэ і з старанна падкручанымі сівымі буклямі, веку, прыкладна, Казанцава, і дзве легкадумнейшыя масквічкі. Адна з іх сама, здаецца, працавала ў міністэрстве, а ў другой муж

займаў нейкую адказную пасаду. (І гэта ў вачах жонкі было куды істотней...)

Прафесарша, хоць і была па натуры вельмі жывы і таварыскі чалавек, у прысутнасці маладых масквічак трымалася падкрэслена строга і нават трошачкі зняважліва,— ёсць такая рыса ў жанчын, старэйшых перад маладзейшымі. Яна ім служыць тым, чым панцыр у чарапахі (надзейным сховішчам), і робіць іх знешне непрыступнымі.

Аднак гэта нікольві не абыходзіла яе суседак. Тыя, не саромеючыся яе прысутнасці, на ўвесь голас абмяркоўвалі свае штодзённыя планы: паехаць у рэстаран на гару Ахун і там астацца на танцы ці правесці вечар тут, на месцы. Яны зусім адкрыта крытыкавалі сваіх учарашніх кавалераў і, зусім не саромеючыся, кідалі выразныя позіркі на суседні стол, за якім сядзелі два браты-драматургі з аднолькавым прозвішчам у літаратуры і зусім рознымі поспехамі ў жанчын санаторыя.

У прысутнасці Казанцава суседкі яго рабіліся нейкімі прасцейшымі і як быццам лепшымі, ці, інакш кажучы, станавіліся больш падобнымі да таго, чым яны былі папраўдзе, і гэта было не дзіўна.

Прафесійны такт без усякіх цяжкасцей падказваў адвакату, як трэба ўмець гаварыць з кожнай з іх на іх уласнай мове і быць спагадлівым да іх слабасцей. Маладых масквічак нікольві не цікавілі нейкія нудныя праблемы арганічнай хіміі, якія, на іх думку, высушылі прафесаршу, ператварыўшы яе ў «синий чулок».

Казанцаў добра разумеў іх і яшчэ лепш разумеў прафесаршу. Некалі ў маладосці ён сам марыў стаць вучоным-хімікам... І вось цяпер, калі хімія зрабіла такія нечуваныя крокі наперад, і яго ўласнае сэрца не заставалася спакойным, раўнадушным да яе поспехаў. І таму, мусіць, суседства з гэтай немаладой па гадах і вельмі юнай у сваіх імкненнях і марах прафесаршай было для яго такім цікавым і прыемным.

Прафесарша адчувала гэта і, натхнёная яго зацікаўленасцю, кожны раз рабілася цікавейшай і як быццам маладзейшай.

За сталом Казанцаў частаваў сваіх суседак першым вінаградам, часам браў па іх жаданню білеты на ўсю кампанію ў кіно або на канцэрт.

Гастролі вядомага сталічнага тэатра пачыналіся «Навальніцай» Астроўскага. Купіўшы тры білеты, Казанцаў

запрасіў у кампанію Льва Іванавіча і прафесаршу і трапіў якраз на прэм'еру.

Бегла кідаючы позірк на прозвішчы артыстаў у праграме, ён спыніўся на адным, яму асабіста знаёмым: «Кацярына — А. Папова».

Вядома, магло быць і супадзенне. Аднак нейкае ўнутранае адчуванне падказала Казанцаву — не, памылкі быць не можа. «А. Папова» — гэта Анечка, Аня Папова — даўно забытае хваляванне яго сэрца...

І ён нават жартаўліва сказаў сваім суседзям пра гэта:

— Здаецца, таварышы, я сустрэўся са сваім старым каханнем.

— Цікава, цікава,— адразу загарэўся Леў Іванавіч, падкі на ўсякія нечаканыя і пікантныя здарэнні.

Прафесарша, як і, бадай, кожная б на яе месцы жанчына, адчула нейкі непрыемны ўколчык свайму самалюбству і не зусім шчыра ўсклікнула:

— Вы павінны абавязкова сустрэцца з ёю, Аркадзь Аркадзьевіч.

...І сапраўды, памылкі не было. Казанцаў пазнаў Аню Папову адразу, нягледзячы на тое, што час перамяніў яе амаль да непазнавальнага... Ранейшымі асталіся голас, жэсты і яшчэ тое нешта няўлоўнае ў яе паставе, чаго нельга было перадаць словамі і што было ўласціва толькі ёй адной.

Як артыстка адразу яна зусім не захапіла Казанцава. Кацярына была нейкая млявая, вельмі пасіўная, цяжкаватая. І Казанцаў, які любіў і тонка разбіраўся ў тэатральным мастацтве, адразу адчуў, што яна «не ў сваёй ролі».

«Чаму людзі не лятаюць?» — пыталася Кацярына, звяртаючыся да Варвары.

І, наглядаючы за кожным яе рухам, стараючыся ўлавіць кожнае адценне яе голасу, адвакат шкадаваў Аню — не Кацярыну — і бачыў: пытанне гэта не хвалявала яе сэрца, не было яго крыкам, яго болем. І міжвольна ўвесь час ён задаваў сабе адно і тое ж пытанне: як яна трапіла на сцэну? Навошта?

Яму і хацелася ў час антракту сустрэцца з ёю, і ён баяўся гэтага. Баяўся, што не здолее схлусіць ёй аб уражанні ад яе выканання, і яшчэ больш баяўся іншага: гэта сустрэча магла выклікаць у яе ўспаміны, якія (хто ведае!) маглі зусім сапсаваць ёй гэты вечар. А ён зусім не хацеў гэтага.

Леў Іванавіч, які не вельмі разбіраўся ў тонкасцях драматычнага вобраза, наадварот, лічыў Кацярыну выдатнай артысткай.

— Паглядзіце толькі, якое хараство! Яна ж зусім без грыму іграе! А рост, а пастава — ды гэта ж сапраўдная Ярмолава!

Яшчэ да канца першай дзеі Сонейка, пэўна, не менш за пяць разоў шэптам напамінаў Казанцаву, каб той зараз жа, у першым антракце, «арганізаваў» букет жывых кветак і адправіў іх Кацярыне за кулісы з запіскай адпаведнага зместу. Сам Казанцаў, вядома, павінен пайсці таксама, іначай ён будзе не мужчына...

Сонейка не дашэптваў, адвакат не слухаў яго да канца і, здаецца, хутчэй згаджаўся з падтэкстам стрыманага настаўлення прафесаршы:

— Вядома, букет кветак неабходна паднесці, і самому зайсці таксама...

А падтэкст гэтага настаўлення быў такі: «Ну, што ж зрабіць, калі чалавеку адмоўлена ў таленце? Аднак абавязак выхаванага чалавека зрабіць выгляд, што ён гэтага не заўважае...»

І ўсё ж ад кветак пасля першага акта Казанцаў устрымаўся, за кулісы таксама не пайшоў і не паслаў ніякай запіскі.

— Паспеецца яшчэ. Да канца яшчэ кветкі завянуць,— зноў пажартаваў ён і, асцярожна ўзяўшы прафесаршу пад руку, пайшоў аглядаць фае.

Прафесаршы захацелася піць, і адвакат накіраваўся з ёю ў буфет. Леў Іванавіч, наадварот, аддаў перавагу эстэтычнай асалодзе, якую давалі яму, як вобразна заявіў ён, архітэктура і наогул увесь ансамбль.

Казанцаў піў з прафесаршай у душным буфеце халодны як лёд пахучы напітак і між неабходнай у такіх выпадках гаворкай увесь час думаў пра Аню Папову.

* * *

Яна ўвайшла ў яго жыццё дзесяць гадоў назад. Здарылася ўсё гэта выпадкова і проста. Мужчына, амаль удвая старэйшы за яе, ён ваяваў, а потым, спаткаўшыся на Курскай дузе з куляй, больш за год валяўся па шпітальных ложках.

Нарэшце, у сярэдзіне сорак чацвёртага года, Казанцава выпісалі са шпіталя. Ён вярнуўся ў свой горад і,

радасна сустрэты паспеўшымі ўжо вярнуцца на родныя, яшчэ гарачыя, папялішчы знаёмымі і землякамі, адразу ж пайшоў на сваю ранейшую службу — адвакатам у народны суд. Пра сям'ю — жонку і дачку — так за ўсе гэтыя гады ён нічога і не дачуўся. Знаёмыя казалі, што нехта бачыў жонку ў першыя дні вайны ў Магілёве. Яна эвакуіравала маёмасць бальніцы, дзе працавала галоўным урачом. Дачкі пры ёй не было. Ніну вайна захапіла ў піянерскім лагеры. Сам Казанцаў як выехаў дваццатага чэрвеня сорак першага года ў камандзіроўку, так больш і не вярнуўся дадому, так больш ні жонкі, ні дачкі і не бачыў з таго часу.

Вайна набліжалася к канцу, а чуткі пра іх усё не было.

Казанцаў пасяліўся ў сябе на рабоце ў невялічкім калідорчыку, прыстасаваным пад пакой, і, да ўсяго за гэтыя гады прывыкшы, не скардзіўся на свой лёс і нічога асаблівага пакуль што не жадаў ад яго.

З Аняй Паповай першы раз ён сустрэўся па службе, у судзе. Яна старалася за нейкую старэнькую, сыны якой загінулі на фронце, а добрыя суседзі, вярнуўшыся пасля эвакуацыі ні то з Ташкента, ні то з Ашхабада, самаўпраўна занялі яе пакой. Старая гібела на калідоры, а «законныя ўласнікі» яе пакоя пісалі на яе адну за другой заявы...

Ні старая, ні яе заступніца ніякіх юрыдычных законаў не ведалі і як пачынаць справу таксама не ведалі. Нехта параіў звярнуцца ім проста ў суд.

Справа, вядома, была незаконная. Хоць юрыдычнай і ўсякай іншай валтузні было нямала, суседзяў выселілі, і старая зноў перабралася ў свой пакой.

Другая іх сустрэча адбылася ў навагодні вечар. Час быў позні. Сямейныя людзі і добрыя кампаніі ўжо збіраліся выпіць па навагодняй чарцы.

Аня Папова толькі вярталася дадому з дзяжурства. Перад адным з акон напалавіну разбуранага дома яна спынілася. Там, за акном, да расшытых марозам шыб, нібы ў казцы, працягвала рукі навагодняя ялінка. Сапраўдная, лясная, жывая! Ялінкі яшчэ не скончылі прыбіраць. Высока ўзняўшы ўгору рукі, маладая жанчына вешала на яе бліскучыя каляровыя цацкі. Поруч маленькая дзяўчынка, гадоў чатырох, з усёй моцы цягнулася на пальчыках і таксама нешта вешала.

Аня стаяла і не магла крануцца з месца, быццам за-

чараваная. Гэта чужая святочная ялінка нечакана захліснула ўсю яе душу даўно не вядомым ёй пачуццём, напоўніла салодкімі ўспамінамі аб уласным дзяцінстве, аб доме, аб маці і малодшай сястры...

Яна адразу не заўважыла хударлявага мужчыны ў акулярах, які выйшаў з разбуранага пад'езда гэтага дома. Ён прыпыніўся за два крокі ад Ані і, настаўляючы каўнер шыняля, дабрадушна-насмешліва пацікавіўся:

— Ялінкай захапляецеся?

Яна спалохана павярнула да яго галаву і адразу не знайшла, што сказаць.

Ён глядзеў на яе так, быццам стараўся прыпомніць, дзе сустракаў яе раней. І не мог прыпомніць. Яна ж адразу пазнала яго, прыветна ўсміхнулася і напомніла:

— Мы сустракаліся ўвосень у вас, у судзе...

— Правільна! Я ж вас добра памятаю! — чамусьці абрадаваўся і ён і, паспешна сцягнуўшы пальчатку, працягнуў ёй руку: — З Новым годам вас, заступніца пакрыўджаных і зняважаных!

У голасе яго гучала ледзь улоўная насмешлівая нотка, аднак Аню яна не пакрыўдзіла.

— А справу мы ўсё-такі выйгралі! — горача сказала яна.

— Ведаю, ведаю. А як жа магло іначай быць, калі на абарону правоў чалавечых выступіла такая сіла? Інакш і быць не магло.

— Насміхаецеся? — хацела і не магла пакрыўдзіцца Аня.

— Чаму насміхаюся? Вы б маглі быць выдатным адвакатам...

— Як, напрыклад, хто? — жартаўліва перабіла яна.

— Ну, ці мала ёсць выдатных адвакатаў? — зразумеўшы Аню, засмяяўся і ён.

Яны дайшлі да канца квартала, перакідваючыся нязначнымі заўвагамі і жартамі. На рагу мужчына спыніўся.

— А чаму ж гэта вы не сустракаеце Новы год і недзе ходзіце апоўначы, і ў які бок наогул кірунак трымаеце?

— Па-першае, я хаджу не «недзе», а іду дадому з работы, і кірунак мой вунь у бок гэтых руін,— махнула яна рукой у белай рукавіцы.— А па-другое?.. Па-другое — гэта пытанне цяпер я магу задаць і вам...

Ён адразу прамаўчаў, уздыхнуў і зусім сур'ёзна і шчыра прызнаўся ёй:

— Сказаць па праўдзе, няма дзе і няма з кім сустракаць мне яго, гэты Новы год.

Яна таксама адказала не адразу.

— Нашы робяць складчыну, збіраюцца ў адной нашай супрацоўніцы... А дома ў мяне таксама няма з кім і няма дзе сустракаць — у мяне прыватны ложак у гаспадароў.

Яны ішлі пасярэдзіне вуліцы. Уласна кажучы, вуліцы не было: з абодвух бакоў, прыкіданыя снегам, абступалі іх нямыя руіны.

— Вы не баіцёся тут хадзіць? — пацікавіўся адвакат.

— Не тое каб баялася, а не люблю. Усё-такі непрыемна сябе адчуваеш, асабліва калі ідзеш позна вечарам і сустракаешся з якім-небудзь мужчынам... Хто яго ведае, усякія цяпер людзі блукаюць...

— Лепей было б перабрацца куды-небудзь бліжэй.

Яна таксама марыла пра гэта, але ў цэнтры і кватэру знайсці цяжэй і плаціць за яе даражэй трэба.

Усё гэта была праўда.

— А дзе вы працуеце і, прабачце, як вас завуць, калі мы ўжо з вамі нейкім чынам пазнаёміліся бліжэй? — і адвакат назваў сябе поўнасцю.

Яна назвала сваё імя, сказала, што працуе ў ваенным шпіталі бібліятэкарам. Да вайны скончыла дзесяцігодку... Маці гітлераўцы забілі, а малодшую сястру вывезлі ў Германію. Бацька на фронце.

...У шпіталь яе таксама загнала вайна, голад і холад, яшчэ ў сорак першым годзе, калі яна эвакуіравалася ў Башкірыю. Там Аня з радасцю ўхапілася за месца санітаркі, за шэсцьсот грамаў хлеба і вольнанаёмны харч у шпітальнай сталоўцы.

На работу яна прыходзіла заўсёды першая і дадому ішла самая апошняя. Уласна кажучы, які там у яе быў дом: кароценькі тапчан каля самых дзвярэй у хаце маўклівай, заўсёды няветлай гаспадыні-башкіркі з кучай малых дзяцей, якія, як і маці, ні слова не разумелі па-руску.

Цэлы дзень круцілася яна, як вавёрка ў коле: змятала пыл, мыла падлогу, карміла ляжачых хворых, мяняла ім бялізну, памагала мыцца ў ванне. Спачатку ў холад і ў жар кідала яе бездапаможная нагата мужчынскага цела. Яна згаджалася рабіць самую цяжкую работу за сталых жанчын-санітарак: абы падмянілі яе тут. А потым звыклася з усім. Менш пачала бянтэжыцца і праз меру вольныя салдацкія жарты навучылася стрымліваць без слоў —

толькі бровы мацней хмурыла. Хто яго ведае, якая сіла хавалася за строгай лініяй гэтых броваў, аднак языкі прыкусваліся ў момант і жарты набывалі зусім іншы кірунак. Тады і сама яна пачынала жартаваць з салдатамі. І яны паважалі яе і любілі.

Потым яе перавялі ў шпітальную бібліятэку. І па меры таго, як усё далей на захад адступаў фронт, услед за ім пасоўваўся і шпіталь. Дайшоўшы да Беларусі, ён спыніўся ў вялікім горадзе і асталяваўся тут.

Што і казаць, жыццё склалася ў яе нялёгка. Аб гэтым сведчыў і знешні яе выгляд. Старое, ношанае-пераношанае паліто было ёй і коратка і цесна. Некалі хромавыя фарсовыя па назе боты-джымі таксама настойліва патрабавалі падмены. Уражанне цёплай рэчы рабіў толькі каўнер — аблезлая рыжая лісічка.

Зусім не згаворваючыся, яны, чужыя і зусім незнаёмыя адзін аднаму людзі, ужо больш гадзіны хадзілі па ўезджанай машынамі і санямі вуліцы і ніколькі не адчувалі той няёмкасці, якая звычайна бывае паміж незнаёмымі людзьмі.

Аня першая ўспомніла пра выпадковасць іх сустрэчы і пра тое, што абое яны зусім іначай збіраліся сустракаць гэты навагодні вечар.

— Вы шкадуеце? Ці, можа, вас хто чакае? — толькі цяпер спахапіўся адвакат.

— Не, не шкадую, і ніхто мяне не чакае,— супакоіла яна яго.— Гаспадыня толькі бурчаць будзе, што турбую яе.

— Тады бяжыце хутчэй, і няхай вам прысняцца такія ж прыгожыя, як сённяшні вечар, сны...

Яна падала яму руку, ён моцна паціснуў яе і паабяцаў неўзабаве абавязкова пазваніць.

...Пазваніў ён праз тыдні два і спытаў, ці ёсць у яе жаданне пайсці ў тэатр. Аня ахвотна згадзілася. Яны сустрэліся ў дамоўлены час каля білетнай касы і шчыра ўзрадаваліся адно аднаму.

Потым дамаўляліся і разы тры хадзілі разам у кіно. Аднойчы Аня сустрэла Казанцава на вуліцы з нейкай маладой прыгожай жанчынай. Яны, мусіць, былі вельмі заняты сваёй размовай, бо заўважыў Казанцаў Аню толькі тады, калі яны ўжо зусім параўняліся.

Ён прыпыніў яе на хвілінку і, паказаўшы на сваю спадарожніцу, якая сачыла за імі са спакойнай цікавасцю, сказаў:

— Я збіраўся пазваніць вам сёння, а па міласці Вольгі Васільеўны аж цэлы тыдзень буду заняты па горла... Пазваню вам, Анечка, аж на тым толькі тыдні...

Аня ніяк не магла растлумачыць сабе, чаму яна паспешней, чым звычайна, пацягнула назад сваю руку, калі ён развітваўся з ёю. Не магла таксама зразумець, чаму такой непрыемнай здалася ёй гэта прыгожая, добра апранутая Вольга Васільеўна. Не магла як мае быць разабрацца ў сваім настроі і адказаць сабе, чаму ён быў такі кепскі ўвесь гэты бясконцы тыдзень... Казанцаў пазваніў, як і абяцаў, няскора і папрасіў Аню прыйсці ў клуб на літаратурны вечар. Ён дастаў два запрашальныя білеты і будзе чакаць яе каля ўвахода.

Гэты вечар Аня трымалася неяк халадней, чым заўсёды, больш маўчала і, бадай, ні разу не ўсміхнулася. Звычайна яны хадзілі пад руку. Гэты ж раз, робячы выгляд, што яна хоча паправіць косы, Аня вызвалілася ад рукі адваката і потым старалася ўвесь час трымацца неяк воддаль ад яго.

Прычына такіх незвычайных паводзін высветлілася, калі ішлі дадому. На пытанне Казанцава, ці не здарылася ў яе якой-небудзь непрыемнасці, Аня доўга маўчала, потым раптам павярнулася да яго тварам і зусім нечакана нават для самой сябе рэзка спытала:

— А хто гэта такая... Вольга Васільеўна?

Адразу не зразумеўшы, якое дачыненне да гэтай размовы мае Вольга Васільеўна, адвакат перапытаў:

— Вольга Васільеўна?... Вольга Васільеўна народны суддзя, дзе я працую. Можна сказаць, супрацоўніца мая.

І тут жа, аб нечым здагадаўшыся, ён узяў Аню за руку, спыніў насупраць сябе і настойліва паглядзеў ёй у вочы. Яна не вытрывала яго позірку і ўпарта павярнула галаву ўбок.

— Аня! — ціха паклікаў Казанцаў.— Аня!

Яна не павярнула галавы.

— Анька! — шэптам паўтарыў ён і, узяўшы яе твар абедзвюма рукамі, прыцягнуў да сябе і пацалаваў. Яна схавала твар у яго на грудзях і доўга не адрывалася ад яго.

Ён гладзіў яе валасы і дакорліва гаварыў:

— Якая ж ты яшчэ дурная дзяўчынка...

— Праўда?..

Яна не хацела ўваходзіць у сэнс яго слоў. Яна была вельмі шчаслівая.

Казанцава такі нечаканы паварот справы адразу азадачыў. Сам ён, сустракаючыся з Аняй і кожны раз перажываючы пры гэтым нейкае незвычайнае душэўнае абнаўленне, ні разу, аднак, не адчуў патрэбы перайсці мяжу тых лёгкіх і простых сяброўскіх адносін, якія склаліся паміж імі. Яна падабалася яму сваёй шчырасцю і непасрэднасцю. Да яе не трэба было неяк штучна прыстасоўвацца. З ёю было проста і лёгка.

Аднак пра большае ў Казанцава і думак не было. Як жанчына яна не займала галоўнага месца ў яго сэрцы. Сваім існаваннем яна не бударажыла яго думак, не перашкаджала працы, не парушала выпрацаваных гадамі звычак і ўкладу жыцця.

Пачуццё Ані спачатку збянтэжыла адваката, а потым закружыла галаву.

Аднак, не хочучы быць несумленным ні перад сабой, ні перад ёю, у далейшым ён стараўся сустракацца з Аняй радзей, больш пачаў спасылацца на занятасць.

Так цягнулася некалькі месяцаў. А пад восень Аню зусім нечакана для Казанцава выклікалі на экзамены ў Маскву.

На гэтым старонка іх знаёмства абарвалася.

* * *

З другога акта Кацярына быццам перарадзілася. На змену пасіўнай жальбе прыйшоў пратэст і жаданне волі, і глыбокі голас, ускалыхнуты непадробнай страсцю, загучаў па-новаму. Позірк загарэўся, і сама яна ўся раптам загарэлася, ажыла...

«Эх, Вара, не ведаеш ты майго характару! Не дай божа здарыцца гэтаму, а ўжо калі мне ўсё тут абрыдне, дык не ўтрымаць мяне ніякай сілай. У акно кінуся. У Волгу!..»

Гэты новы голас Кацярыны абудзіў успаміны адваката аб даўняй сустрэчы з маладой, не разгаданай ім дзяўчынай і напоўніў яго сэрца нейкім няясным смуткам. Што яго хвалявала: лёс Кацярыны ці лёс той добрай дзяўчыны, у жыцці якой ён, напэўна, астаўся самым нежаданым успамінам,— адвакат не мог разабрацца. Абедзве яны зліліся ў адным вобразе, і адрозніць іх на сцэне было немагчыма.

...Пасля спектакля з вялікім букетам белых руж, не ўмеючы справіцца з ахапіўшым яго хваляваннем, Казанцаў накіраваўся за кулісы.

У яе прыбіральні чуўся густы мужчынскі бас:
— Міленькія, я вас чакаць цэлую гадзіну не збіраюся.
Яму адказаў бойкі голас Варвары. Казанцаў пазнаў яго.
— Толькі і сонца, што ў акне! Мы паедзем з Іванам Пятровічам.
— Таварышы, мне ж сёння неабходна на тэлеграф.
Гэты голас належаў ёй: Кацярыне-Ані.
— Падумаеш — дзень нараджэння! Павіншуеш заўтра.
— Лізачка, іначай ніяк нельга...— Мяккі ціхі смех перарваўся гучным пацалункам.— Ты гэтага яшчэ не разумееш.— І пасля нядоўгай паўзы: — Ну, што ж, можна ісці ўжо.
— Нарэшце! — прабурчаў бас.
Казанцаў паспяшыў адчыніць дзверы.
Аня Папова, трымаючы ў зубах шпількі, стаяла перад люстэркам і заколвала на патыліцы цяжкі вузел кос.
— Якіх толькі цудаў не бывае на свеце! — і так, як гэта рабіла яна некалі, успляснула рукамі.
— Не спадзяваліся? — коратка спытаў Казанцаў, з лёгкім паклонам аддаючы ёй ружы і не спускаючы з яе вачэй.
— Спадзявалася? Наогул...
— Закрэсліла,— гэтак жа коратка і, таксама як некалі, з ледзь улоўнай насмешкай падказаў ён.
— Вы змяніліся... бадай, не пазнаць вас...
— Вы хочаце сказаць: пастарэў?
— Ну, мужчынам гэта не страшна,— хутка знайшла выхад яна, і ў гэтай лёгкасці ён адчуў ужо прафесійную, набытую звычку мяняцца, хаваць свае сапраўдныя пачуцці.— Дарэчы, пазнаёмцеся.
Мужчына, яе калега, не пастараўся нават схаваць сваё незадаволенасці, дзяўчына — Варвара — звычайнай жаночай цікавасці.
Калі знаёмства адбылося, Аня прапанавала:
— Лізачка і Барыс, вы едзьце без мяне. Я прыйду пазней. Я паспею — і звярнулася да Казанцава: — Ну, а мы з вамі, Аркадзь Аркадзьевіч, прагуляемся пакуль. Усё роўна мне трэба на тэлеграф... У нас сёння з выпадку прэм'еры банкет у рэстаране... Мы можам з вамі пайсці,— ні то прапанавала, ні то запытала яна ў Казанцава.
Яна вельмі змянілася: папаўнела, пахарашэла, набы-

ла тую няўлоўную жаночую грацыю, якой не хапала ёй дзесяць гадоў назад. Тады яна паходзіла больш на нязграбнага хударлявага падлетка, чым на дарослую дзяўчыну. А цяпер...

І Казанцаў не ўтрымаўся, сказаў ёй пра гэта.

— Праўда? — нейк безуважна перапытала яна і перавяла гутарку на другое: — Раскажыце лепей пра сябе. Як вы наладзілі жыццё? Ці знайшлі сям'ю?

— Уявіце сабе — знайшоў. Аж у сорак шостым годзе. Мая жонка служыла тады ў акупацыйных войсках у Германіі. А дачка выхоўвалася ў дзіцячым доме ў Тамбове... Жонка знайшла яе і ведала пра яе... І вось выпадак. Прыязджае яна ў камандзіроўку ў Маскву і сустракае аднаго нашага блізкага знаёмага, гамяльчаніна. Распытвае, вядома, пра яго сям'ю, дзяцей, жонку... Той у сваю чаргу пытаецца ў яе: «А з Аркадзем Аркадзьевічам вам удасца пабачыцца?»

— Як пабачыцца! Ён загінуў на Курскай дузе. Мне пісаў аб гэтым знаёмы ўрач-падпалкоўнік, які добра ведаў яго...

— На якой дузе? Ён жывы і здаровы і працуе ў М., у народным судзе.

Можаце ўявіць становішча мае жонкі пры гэтым паведамленні... У той жа дзень яна на самалёт — і ў М. Ну, а я к таму часу ўжо ажаніўся... Пагутарылі ўсе мы ўтраіх шчыра і адкрыта... І панёс я ў той жа дзень у загс адну заяву на развод, а другую з просьбай... зарэгістраваць мяне зноў з маёй першай жонкай. Так вось другі раз ажаніліся... Праз тры дні яна вылецела назад у Германію, а я паехаў па дачку ў Тамбоў.

— Рамантычная гісторыя, нічога не скажаш... І дачка ўжо цяпер дарослая?..

— Дваццаць тры гады. Замужам. І год працуе ўжо архітэктарам мая Нінуха.

— Як час ідзе! — задуменна ўсклікнула Аня.— Страшна падумаць — мне ўжо трыццаць. Здаецца, зусім нядаўна сама хадзіла ў першы клас, а ў гэтым годзе мой сын пойдзе ў школу... Пахваліцца вам, Аркадзь Аркадзьевіч, маімі сынамі? Іх у мяне двое! — дастала яна з сумкі фотакарткі сваіх дзяцей.— Гляньце, якія...— голас яе гучаў той мацярынскай гордасцю, якой ніхто не асмеліцца кінуць папрок.

— Хлопцы цудоўныя! — згадзіўся Казанцаў, разглядаючы фотакарткі.— На бацьку падобны?

— На бацьку! — залілася яна румянцам шчаслівай жанчыны і маці: — Ён у нас цудоўны!

— Гэта добра... Я вельмі рады за вас, Анечка... Вы і сама цудоўная.

— Ну, не. Я хутчэй дурная...— засмяялася яна, і ў позірку яе раптам успыхнула новае адценне.— А ведаеце, Аркадзь Аркадзьевіч, я думала, што век не дарую вам... За тое, што вы не адпісалі на мае пісьмы, якія я пасылала вам з інстытута.

— Анечка, я ж добра ведаў, што вам так толькі здаецца...

— Не, не! Тады не здавалася! — горача запярэчыла яна.

— Тады не здавалася... Але ж цяпер вы ўпэўніліся ў гэтым, сустрэўшы другога чалавека...

— Цяпер — зусім іншая рэч! — нават не паспрабавала схаваць яна сваёй задаволенасці тым, што ўсё адбылося так, як ёсць.— Каб вы ведалі, які цудоўны чалавек мой муж! І таленавіты.— У яе голасе зноў прагучала тая ж нотка гордасці, з якой гаварыла яна аб дзецях.

— Акцёр таксама?

— Спявак. Ён таксама на гастролях. Летам мы з ім заўсёды не разам. А дзеці ў бабулі — яго маці... Так і вандруем! Затое калі мы разам!.. Заўтра дзень яго нараджэння...

Не, іншага лёсу яна не жадала.

Яны ўдваіх зайшлі на тэлеграф. Аня адправіла тэлеграму. Потым Казанцаў правёў яе да рэстарана.

— Можа, пойдзеце са мной, Аркадзь Аркадзьевіч?

— Не, Анечка, шчырае дзякуй. Ідзіце, весяліцеся, а я паеду...

Яна не настойвала. Развітваючыся, запрасіла:

— Зайдзіце яшчэ калі. Мы тут доўга прабудзем.

— Развітацца зайду абавязкова. А так жа ў вас часу няма. Рэпетыцыі штодня, пастаноўкі.

— Гэта праўда,— лёгка згадзілася яна.— Але заходзьце.

Калі яна знікла за дзвярыма, Казанцаў яшчэ пастаяў крыху, потым узяў таксі і паехаў у санаторый.



Ён доўга сядзеў і курыў на балконе. Насцярожанае маўчанне ночы парушылася раптам нечаканым раскатам грому. Вогненнай пугай сцебанула па чорным небе маланка. Затым яркая пісуга яе прарэзала другі край неба. Над самай галавой бухнуў яшчэ адзін удар. Мора глуха зараўло, навалілася на хвалярэзы. Хлынуў лівень.

Казанцаў выцер хусцінкай кроплі дажджу на твары, дакурыў папяросу і пайшоў у пакой.

— Што гэта вам не спіцца? — праз сон прамармытаў Леў Іванавіч.

— Навальніца.

— Навальніца... У вашым узросце навальніца спаць не дае! — Леў Іванавіч нацягнуў коўдру на галаву і адвярнуўся да сцяны.

Казанцаў нічога не адказаў.

1955

## ПАДЧАРЫЦА

Абапёршыся локцямі на стол, Валя дачытвае апошнія старонкі кнігі. Лёс герояў так захапіў яе, што яна нават забыла пра брата Лёньку, які сядзіць тут жа і ламае галаву над красвордам.

— Сем па гарызанталі — каштоўны камень на «ыст»... Радыст? Але не...— разважае сам з сабой Лёнька і мо ў дваццаты раз звяртаецца да Валі: — Валя, ёсць такі камень — «радыст»?

— Ох і назола! А да «трактарыста» ты часам не дадумаўся сваёй разумнай галавой? — злуецца Валя і, ведаючы, што ад брата, калі ён чаго дамагаецца, не так хутка адчапіцца, абыякава працягвае руку да «Беларусі», разглядае красворд.

Валі пятнаццаць год. Яна сямікласніца. У шостым класе Валя праседзела два гады, бо цяжка хварэла маці, і яна больш паўгода не хадзіла ў школу — была дома за гаспадыню.

Валя — ладная чарнявая дзяўчынка. Яе светлы твар з няяркім румянцам на круглых шчочках адцяняюць цёмныя кучаравыя валасы, якім Валя ніяк не дасць рады. Як гладка іх ні зачэша, як туга ні запляце ў кароткія коскі, а яны і з косак выпаўзуць і непаслухмяным хмелем заўюцца на скронях.

Калі дзяўчынка злуецца або задумваецца над чым-небудзь вельмі сур'ёзным, густыя чорныя бровы сыходзяцца на пераноссі так блізка, быццам зрастаюцца. Выраз твару ў Валі вельмі зменлівы: то ўважлівы і лагодны, калі яна вас слухае і згаджаецца з вамі, то пануры і замкнуты, калі яна слухае і робіць тое, што ёй не па сэрцу. Смяецца Валя звонка, так, што каго хочаш прымусіць смяяцца разам з сабой, але калі раззлуецца — не чапай яе лепей!

На Валі паношанае і мытае-перамытае плацце, сіняе сацінавае ў белыя палоскі. Але Валя ўмее прыкрываць узрост свайго адзення. Плацце абнаўляе белы, падкрухмалены каўнерык, вышыты і прамярэжаны ўласнымі Валінымі рукамі. І дзіўна, ад гэтага бялюткага каўнерыка неяк нават менш прыкметнай здаецца цыроўка на локцях.

Лёньку адзінаццаты год. Ён у чацвёртым класе і ў тым узросце, калі чалавеку страшэнна хочацца быць са-

мастойным, а гэта не заўсёды ўдаецца, бо не хапае жыццёвага вопыту.

Узяць бы сабе і гэты сённяшні красворд. Лёнька сам рад быў бы рашыць яго без пабочнай дапамогі. Але паспрабуй ты, адгадай, які чэшскі кампазітар напісаў оперу «Прададаная нявеста», калі ты ні пра гэтага кампазітара, ні пра яго нявесту — оперу ні разу ў жыцці не чуў.

Валя таксама не ведае назвы каштоўнага каменя.

— Не ведаю я гэтых тваіх каменняў,— і бярэцца за кніжку.

— Валька, а частка хімічнага элемента? — далоняй засланяе старонку Валінай кніжкі Лёнька і гэтым самым хоча затрымаць адступленне сястры.

— Не ведаю,— не жадаючы ні аб чым іншым думаць, апрача лёсу сваіх герояў, Валя катэгарычна загадвае брату: — Хопіць на сёння красворда. Заўтра ўдваіх закончым рашаць. (У гэтым загадзе ёсць і пэўная доля хітрасці: хоць Лёнька і не вельмі вялікі адгадвальнік красвордаў, але ўсё ж такі Валі нецікава пасля яго адгадваць, нават калі ён і палавіну красворда запоўніць.) — Вячэрай і спаць кладзіся. Раніцай не дабудзіцца ніяк цябе...— І тут жа зноў з прагнасцю Валя глытае апошнія радкі кнігі...

— Ну, скажы тады прозвішча чылійскага паэта, калі не ведаеш, як завецца хімічны элемент,— ные Лёнька.

— Сказала, не ведаю, дай мне дачытаць кнігу.

Сталёвы тон адказу сястры падказвае Лёньку мудрае рашэнне: лепш пакінуць яе ў спакоі, усё роўна яе ўжо нічым не адарвеш ад гэтых зашмальцаваных старонак.

Нарэшце кніга дачытана.

Валя з уздыхам загортвае вокладку, доўга ў задуменні глядзіць у расшытае срэбнымі марознымі ўзорамі акно...

Хто не перажываў у юнацтве гэтага моманту шчырай горычы развітання з героямі кнігі, якая некалькі дзён, пакуль ты чытаў яе, засланяла табе не толькі ўсіх тваіх блізкіх, а нават цэлы свет?

Сядзіць і глядзіць у заінелае акно і Лёнька, падпёршы кулаком круглую, як качан, і нязвыкла калючую пасля ўчарашняй стрыжкі галаву. Красворд яго дайшоў да той мяжы, пасля якой, колькі ты ні бíся і колькі ні марнуй сваю памяць, ужо нічога не адгадаеш.

І Лёнька вырашае, што і сапраўды на сёння хопіць.

— Валя, давай есці, я спаць хачу.

Ён не чакае бацькі і пасля вячэры, як і ўсякі чалавек з чыстым сумленнем, адразу ж засынае моцным сном.

* * *

Валя змахнула пасля Лёнькі стол, зноў заслала яго абрусам (мама ткала, калі яшчэ дзяўчынай была) і села вязаць суконны шалік бацьку. Ёй таксама хацелася есці, але Лёню яна сказала, што яшчэ не выгаладалася. Ведала, бацька не любіць адзін вячэраць і заўсёды стараецца нідзе не затрымлівацца, каб сесці за стол разам з дзецьмі.

А хто ж яго цяпер пачакае, калі не яна, Валя?

І дзяўчынка змахнула з вачэй няпрошаную слязінку.

Год назад пахавалі яны маці, і ў сям'і цяпер за маці, за гаспадыню засталася Валя.

Бацька забавіўся недзе і надоўга. Забыўшы на голад, Валя непакоілася: заўтра ж ён збіраўся ехаць у раён на нейкую нараду. Яму трэба было б раней легчы і выспацца як належыць, а вось ужо адзінаццатая гадзіна, а яго ўсё няма... Напэўна, зноў сядзіць у праўленні. Як прыехаў у калгас заатэхнік, дык у таткі кожны дзень якаянебудзь непрыемнасць: то сіласу мала даеш каровам, то атава чорная, то страха ў кароўніку свеціцца. Быццам тата адзін павінен за ўсё гэта адказваць, быццам у калгасе няма старшыні. А гэты Апенька ні ў чым не разбіраецца. Хоча вялікім работнікам сябе паказаць — у кожны цэбар паранкі рукі свае саджае, правярае ўсё...

Пачуўся лёгкі стук у дзверы (так заўсёды бацька стукае, каб не напалохаць часам, быццам у хаце маленькія дзеці засталіся), і Валя, кінуўшы вязанне на стол, пабегла ў сенцы адсунуць засаўку. Нават не пыталася хто: чутно было, як старанна абмятаў бацька венікам валёнкі.

— Яшчэ сядзіш, дачушка? — ад слоў бацькі, як і заўсёды, вее стрыманай ласкай і клопатам. Сёння гэта крышачку прыкметней: бацька адчувае сябе вінаватым, што затрымаўся пазней, чым звычайна.

— А Лёнька ўжо звіўся, спіць? — вешаючы кажух і шапку на цвік у парозе, паглядзеў ён у бок Лёнькавага ложка.

— Даўно ўжо. Павучыў урокі, красворд парашаў, а пасля вячэры адразу і спаць.

— А ты?

— А я шалік табе раблю.

— Не, я кажу, урокі вывучыла, павячэрала?

— Трохі вывучыла, у нас заўтра лёгкія.

— Урокі, дачушка, трэба вучыць як след, а не трохі,— строга заўважыў бацька.

— Дык калі ж я табе шалік зраблю? Толькі прыхваткамі і раблю...

Спрытна арудуючы вілкамі, яна даставала гаршкі з печы.

«Цяжка ёй страшэнна... Вось цяпер бы і сказаць ёй. Усё роўна неяк гэта трэба зрабіць, адважыцца...» — Але бацька адагнаў гэтую думку, не даўшы ёй да канца аформіцца, ён баяўся, што калі адважыцца сказаць уголас тое, што думаў, мірны вечар у яго хаце можа ў адзін момант узарвацца, як падпалены парахавы склеп.

І ён сказаў другое:

— І дарэмна. Чорт яго бяры той шалік, не такія халады яшчэ.

— Ну, але, не такія халады. Яшчэ прастуды не захапіў, з голай шыяй ходзіш...

За сталом яны сядзелі кожны на сваім месцы: бацька на пафарбаванай драўлянай канапе пад акном, а Валя на зэдліку, насупраць. Гэтак ёй зручней было ўставаць і падаваць на стол.

Кідаючы недаўменны позірк на бацькаву міску, Валя занепакоілася:

— Нясмачная хіба капуста, што ты кепска ясі, тата? Можа, і так, ■ досвітку ж у печы стаіць. Але я выгаладалася, дык мне смачна...

— Не, дачушка, капуста смачная, і гаспадыня ты ў мяне выдатная. Я ем, ты не зважай на мяне...

І, каб не пакрыўдзіць дачку, ён паспешліва зачарпнуў лыжку стравы і... ледзь праглынуў яе. Страва не ішла яму. Яго непакоіла адна думка, якую ён не рашаўся выказаць.

— Калі табе не хочацца капусты, я смажэнікі падам. Цётка Алена збанок агуркоў прынесла. Смачныя. На зубах храбусцяць. Цётка казала, на той год мяне навучыць, як саліць... Свае на той год будзем есці...

— Не, дачушка, і смажэнікаў не хочацца.

— Ці не захварэў ты? А можа зноў гэты Апенька грыз цябе? — ужо ўсур'ёз занепакоілася яна.

— Ды не,— бацька стараўся надаць бадзёрасць голасу, супакоіць дачку.— Я здаровы. І з Апенькіным мы сёння сумесна праглядалі рацыёны, і ён застаўся задаволены маёй раскладкай.

Ён расказваў Валі пра рацыёны і пра заатэхніка Апенькіна, ■ сам думаў: «Зусім не пра гэта трэба было гаварыць... Так, мабыць, і сёння не скажу...»

— Ну, то калі ўсё добра, дык на, выпі шклянку малака ды кладзіся, а я яшчэ крыху пасяджу... Я і забылася спытаць: ты заўтра рана едзеш?

— Не, дачушка, не еду. Адклалі нараду... Кладзіся і ты спаць, не калупайся з гэтым шалікам. І так з цябе хапае. Пятнаццаць гадоў, а ўся гаспадарка на табе. Вучыцца табе трэба, а не цягнуць гэты воз...

— Ну, што ж, татка, рабіць,— Валя перабіла бацьку, не даўшы яму закрануць тое, аб чым ён цвёрда намерыўся загаварыць зараз жа, у гэты самы момант,— вы ж і Лёнем мне памагаеце, і цётка Алена амаль кожны дзень наведваецца, часам і карову падоіць. Так і спраўляюся не горш за людзей, і вучуся не так ужо кепска... Ты спі і нічога не думай,— забараніла яна бацьку далейшую гутарку на гэту тэму.

— Вось я і хацеў, Валя, пагаварыць сёння...

— Няма чаго аб гэтым гаварыць. Мне няцяжка.

Ёй лягчэй было цягнуць на сабе клопат аб іх, мужчынах,— бацьку і брату, цягнуць усю гаспадарку і вучобу ў школе, чым слухаць спачуванне сабе нават ад самых блізкіх людзей, нават ад бацькі. Тады ў яе выступалі слёзы крыўды на свой не вельмі ўдалы лёс, тады ёй успаміналася маці, і жаласць да яе, якую не паспеў прытупіць яшчэ час, разрывала ёй сэрца. І, каб не даваць волі слязам і каб заглушыць боль у сэрцы, яна старалася абрываць усякае спачуванне сабе ў самым пачатку.

Добра ведаючы гэта, бацька змоўк.



Дзеці збіраліся ісці ў школу. Ужо на хаду, спяшаючыся і колючы іголкай пальцы, Валя прышывала гузік да паліто на Лёньку, і той, каб сястра часам «не зашыла яму розум», трымаў у зубах кончык сваёй драўлянай школьнай ручкі. Печ у хаце была выпалена, падлога падмецена — рабіць гэта з бацькавай і братавай дапамогай Валя ўпраўлялася да школы.

Бацька, як і заўсёды, чакаў, пакуль пойдуць дзеці, і, каб не пакінуць чаду ў хаце, залівАў апошнія галавешкі. Скончыўшы з галавешкамі, ён падышоў да Валі, паклаў руку на яе худы плячук і, саромеючыся і бянтэжачыся, раптам загаварыў:

— Дзеці, я хачу прывесці вам маці...

Сказаў і адразу адчуў, што не так трэба было гаварыць.

Ён ужо тысячу разоў абдумваў гэту гутарку і ўсё роўна, як толькі загаварыў, адразу адчуў, што сапсаваў усю справу.

Сустрэўшыся з бацькавым позіркам і прачытаўшы ў ім нерашучасць і збянтэжанасць, Валя зразумела, што бацька не жартуе.

А Лёнька спачатку неяк бяссэнсава ўсміхнуўся, а потым, як і сястра, усвядоміўшы гэты непрыемны для іх абодвух сэнс бацькавых слоў, сярдзіта засоп і адвярнуўся да акна.

Бацька застаўся адзін са сваімі словамі.

Некалькі хвілін у хаце стаяла маўчанне.

— Ты хочаш, а мы не хочам! — Валіны вочы ўспыхнулі нядобрым пагражальным бляскам.

— Дачушка, чаму? Ты ж зацягалася з гэтай гаспадаркай. І так ты адстала на год у школе... Табе вучыцца трэба, а не цягнуць гэты воз,— паўтарыў бацька тое, што казаў учора.

— Дык, можа, мачыха яго будзе цягнуць цяпер за мяне ды яшчэ ў дадатак вучыць мяне будзе?

— Не ўсе ж мачыхі аднолькавыя, дачушка...

Валін голас перарваўся ад слёз і злосці:

— Калі табе кепска з намі, ідзі сам да яе, а нам нікога не трэба. Пражывём самі. З голаду не памром, калгас дапаможа...

Лёнька маўчаў. Ён разумеў толькі адно, што бацька сваім прызнаннем наклікаў нейкую страшэнную непрыемнасць на іх сям'ю і што бараніць ад гэтай непрыемнасці сябе і яго, Лёньку, будзе толькі Валя. Сам бацька тут ужо нічым не дапаможа... І яму было крыўдна на бацьку, аднак крыўду гэту ён не мог, не ўмеў, як сястра, выліць у патоку жорсткіх слоў. Ён маўчаў і толькі механічна выводзіў па замёрзлай шыбе новае ў сваёй хаце, непрыветлівае і халоднае, як шкло гэтае, слова: «мачыха»...

— Я не пайду ў школу, я буду дома...

Бацька маўчаў. А Валя, не памятаючы сябе, крычала:

— Лёнька, зараз жа распранайся. У школу не пойдзеш!

На другі дзень, застаўшыся пасля ўрокаў удваіх з класнай настаўніцай, па яе запытанне, чаму яны, Салаўі,

не былі ўчора ў школе, Валя паспрабавала мужна глянуць ёй у вочы і не здолела, залілася слязьмі:

— Тата жэніцца...

* * *

Нелады з мачыхай у Валі пачаліся з-за чорнай шарсцяной тараноўкі.

Неўзабаве пасля бацькавай жаніцьбы, неяк у нядзелю, Валя прыбрала ў хаце, выпрасавала Лёневу рубашку і сваё святочнае плацце і сабралася пайсці гуляць да дзяўчат. Дастала з куфра матчыну шарсцяную тараноўку і стала любоўна прымяраць яе перад люстрам. Хустка гэта ёй вельмі падабалася. Яшчэ нават калі маці была жывая, Валя любіла ўбірацца ў гэту хустку.

— Вось бачыш, матцы ўжо і нельга за табой лепшае што надзець,— папракала некалі маці, і ў яе папроку гучала ласка і задавальненне, што дачка ўжо вялікая.

...Бацька, як і звычайна, быў на ферме. Мачыха, спазніўшыся снедаць з усімі, мазала пшанічныя блінцы маслам і запівала іх параным малаком.

— Ну і выстраілася, няма чаго казаць. Як старая баба, чорную хустку закруціла. Ніхто цяпер і не носіць такіх. Нямодна...

Прося, павольная, замашна́я жанчына гадоў пад сорак, расчырванелася над талеркай з маслянымі блінцамі і расшпіліла верхнія гузікі мультановага стракатага халата. Валя не магла цярпець гэтага халата, які ні то па ляноце, ні то не маючы часу мачыха ніколі не зашпільвала на ўсе гузікі.

«Гармата... Яна яшчэ моду ўказвае»,— у момант узнялася злосць у Валіных грудзях супроць мачыхі. Аднак яна і галавы не павярнула, так абразіла яе гэта знявага да матчынай хусткі.

Просі не хацелася ні сваркі, ніякіх непрыемных размоў у хаце.

У тую раніцу Просі проста хацелася пагутарыць, а аб чым — якая розніца.

— Ты лепей зрабіла б сабе шалік,— не маючы ніякага злога намеру, зноў сказала яна.— Усе дзяўчаты парабілі. Ды і настаўніцы ўсе, як адна, у шаліках ходзяць...

— Ну і няхай сабе ходзяць, каму трэба, а мне добра ў гэтай хустцы,— стрымліваючы злосць, якая варам бур-

ліла і гатова была вось-вось вырвацца з грудзей, адрэзала мачысе Валя.

— Дзіва, што добра, на бабу старую падобна...— адчувалася, што сама Прося лічыць сябе за старую яшчэ не збіралася.

— Вельмі ўжо вы маладзенькія...

Завязваючы піянерскі гальштук, Лёнька чмыхнуў у кулак.

Яго смех чамусьці ўзарваў Просю, якая дагэтуль зусім спакойна слухала Валю.

— А ты што разумееш у гэтым? Ён яшчэ будзе насміхацца,— губляючы нядаўнюю раўнавагу, абурылася на Лёньку Прося.

— А чаму ён не разумее? — заступілася за брата Валя і скамандавала: — Лёнька, хадзем гуляць!

Просю агарнула пачуццё нудоты і крыўды.

За што вось яны надзьмуліся і паляцелі абое з хаты? А яна ж ім слова кепскага не сказала. Толькі і заiкнулася пра гэту няшчасную тараноўку... Людзі казалі, што ў Антося дзеці — прыклад усяму сялу. І паслухмяныя, і ласкавыя. А яно вось якая гэта ласка. Так і кінулася, як аса: «Вельмі ўжо вы маладзенькая...» І Лёньку падбівае...

Прося выцерла рукавом вочы і ўзнялася, каб паглядзець, ці не пара адкідваць у клінкі адтопленае малако. За гэтым заняткам і застаў яе Антось.

— Ты нейкая хмурная сёння? — адразу заўважыў ён жончын настрой.

Яе раптам агарнуў жаль да самой сябе.

— Будзеш вясёлая, калі табе, як каршакі, у вочы кідаюцца...

— Хто кідаецца?

— Сказала Валі, што ёй брыдка ў чорнай тараноўцы, дык так адгаварылася...

Антосю не трэба было тлумачыць, ён добра разумеў, якое значэнне мела гэтая хустка для дачкі, добра разумеў таксама і другое, як нічога яна не азначала для жонкі.

І ён прамаўчаў, а вечарам, застаўшыся ўдваіх з Валяй, стараючыся гаварыць як можна мякчэй, звярнуўся да яе:

— Ты, дачушка, усё-такі мірылася б з маткай.

Гэта яго просьба так і ўзарвала Валю:

— Я не жадаю з ёю ні сварыцца, ні мірыцца. Яна мне

не патрэбна. Якая ёй справа да мае... да мамінай хусткі? Дык яна яшчэ скардзіцца!

— Яна не скардзілася...

— Дзіва што не! А чаго ж ты хутчэй заступацца за яе ўсхапіўся... А калі ў Лёні чаравікі парваліся, дык ты гэтага цяпер не бачыш!..

Калі яна гарачылася, дык, як і нябожчыца маці, не зважала на парадак абвінавачванняў і не забывала ніводнай віны.

А віна была... І яскравым сведчаннем яе былі Лёнькавы чаравікі. Яны сушыліся на прыпечку, і адзін з іх, «выскаліўшы зубы», нібы здзекаваўся з бацькі: «Ага, забыўся пра сына».

Назаўтра, наперакор звычаю, Прося не прыгатавала дзецям снедання, як рабіла заўсёды дагэтуль, а ўнесла з кубла кусок сала і, не кажучы ні слова, грукнула яго на стол.

І брат, і сястра не дакрануліся да яго, а з наступнага дня рыхтаваць снеданне і сабе і брату Валя пачала сама.

* * *

Валя з Лёнькам вучылі ўрокі. Валя перапісвала ў чыставік сачыненне па літаратуры, а Лёнька сядзеў над арыфметычным прыкладам.

Прыйшоў з фермы Антось, папрасіў хутчэй даваць палуднаваць. Мыючы рукі над вядром, паведаміў:

— Паедзем зараз з Апенькіным у першую брыгаду. Сёння там лекцыя пра валагодскіх жывёлаводаў. Лектар, кажуць, аж з вобласці прыехаў.

— Няма чаго рабіць, дык зноў, мабыць, байкі будзе расказваць, як той, што неяк з восені прыязджаў,— абыякава сустрэла яго паведамленне Прося.

— Ну, гэта ты дарэмна,— запярэчыў Антось.— Калі б не пісалі для нас кніжак ды не вучылі нас, дык са сваімі ведамі мы, галубка, далёка не заехалі б.

Прося падала на стол міску гарачай стравы, і сама таксама ўзялася за лыжку.

— А вы, моладзь, елі? — сядаючы за стол, звярнуўся Антось да дзяцей.

— Елі, чаму ж не. Не сядзецьмуць жа дагэтуль галодныя.— У голасе Просі прагучала нездаволенасць, і цяжка было зразумець, чым яна была выклікана: Анто-

севым пытаннем ці тым, што дзеці сапраўды пад'елі ўжо і не галодныя.

— Дык мо яшчэ са мной поліўкі пачэрпалі б, га, Валя?

Па старой звычцы, бацька не стрымаўся ад успаміну аб не такіх ужо даўніх, прыветных гадзінах сумеснай яды з дзецьмі, і ўспаміны гэтыя засвяціліся ў яго вачах мякім пяшчотным святлом.

Валя сэрцам адчула бацькаў настрой, і погляд яе, у апошнія часы часцей за ўсё строгі і нездаволены, таксама праясніўся і зрабіўся па-ранейшаму добрым і шчырым.

— Не, татка, не хочацца. Мы нядаўна з-за стала.

Лёня не вельмі разабраўся ў гэтай бязмоўнай пераклічцы бацькавых і сястрыных пачуццяў і, выціраючы сціркай нешта ў сшытку, нездаволена прабурчаў:

— Добрая вам поліўка, калі ў мяне прыклад не рашаецца...

Паўз вокны прамільгнула высокая постаць у сінім паліто, і Антось занепакоіўся:

— Апенькін ужо ідзе, прыбяры, дачушка, канапу.

Валя ў момант выканала загад: прыбрала з канапы падручнікі, сунула ў пячурку бацькавы рукавіцы, абрусам прыкрыла кухонны столік.

Па гарадской звычцы пастукаў у дзверы і зайшоў у хату заатэхнік Апенькін, малады, хударлявы мужчына ў акулярах.

— Добры дзень у хату! Прыемнага апетыту, Антон Іванавіч,— гучна прывітаўся Апенькін, і ад яго звонкага голасу быццам неяк адразу весялей у хаце зрабілася. Лёня на вітанне заатэхніка азваўся, як добры знаёмы (не раз у бацькі на ферме сустракаліся), а Валя глянула на яго здзіўлена і не зусім даверліва: нямала рабіў ён непрыемнасцей бацьку, як толькі прыехаў, а цяпер глядзі ты, які галасісты...

— Вучымся, маладая гвардыя? — пытанне было вельмі звычайнае і агульнае ў падобных выпадках, але прагучала яно неяк асабліва па-сяброўску, і Валя, супраць свайго жадання, не змагла стрымацца ад такой жа шырокай, як у самога заатэхніка, усмешкі і адказала:

— Вучымся...

Паціраючы рукі і пацепваючы плячыма (відаць, гарадское, па модзе пашытае для восені паліто не вельмі

ратавала заатэхніка ад зімы), Апенькін звярнуўся да Антося:

— Паедзем і мы з вамі, Антон Іванавіч, вучыцца, каб моладзь нас часам не выперадзіла.

Тон заатэхнікавай размовы надаў Лёньку смеласці, і ён не стрымаўся:

— Вельмі ўжо вы старыя.

Усе засмяяліся, а Антось запрасіў заатэхніка:

— Барыс Міхайлавіч, сядайце, калі ласка, за стол, папалуднуем разам.

— Толькі што з-за стала. Дзякую. Наеўся як туз.

— Ну дык, можа, узвару ігрушавага хоць вып'еце? Налі, Прося.

— Сядайце, распранайцеся. Такога ўзвару, як у мяне, у вашай гаспадыні не паспытаеце,— заспявала і Прося, стараючыся быць перад чужым гарадскім чалавекам гасціннай і ветлівай.

— Не, мая Ганна Рыгораўна выдатны кулінар. Такімі мяне часам стравамі здзіўляе, што я і ў Мінску, у рэстаране, ні разу так смачна не еў.

— Ну вось бачыце,— стараючыся схаваць сваю крыўду за няўважлівасць госця, зноў заспявала Прося і пачала наліваць узвар у талеркі,— а вы, усе гарадскія, баіцеся ехаць да нас, у вёску.

— Ды не, не ўсе,— быццам сумеўся чагосьці Апенькін і тут жа сказаў Антосю: — А мне, Антон Іванавіч, пасылка ўчора прыйшла. Дробу сябар прыслаў. У рэдакцыі газеты працуе. Паэт, пачынае ў часопісы ўваходзіць. А паляўнічы — класік! Адменнае пападанне — ліса бярэ адным стрэлам, проста ў вока... Піша: як-небудзь дні на тры прывалім да цябе з хлопцамі на паляванне. Знатна будзе, Антон Іванавіч? Нябось, не абмінуць нас, грэшных, увагай журналісты? Глядзіш, закоцяць яшчэ оды на жыцце такіх дзеячаў, як мы з вамі.

— Каб часам наадварот не здарылася,— коратка заўважыў Антось, адстаўляючы ўбок пустую міску.

— Яны гэта ўмеюць. Здараецца і так, што адзін узнясе высока, а другі следам за ім так шугане на зямлю...

— Вось-вось, якраз гэтак было з нашым калгасам. Ну, вы ж самі бачыце, што жывуць у нас людзі не так яшчэ, каб вельмі ў дастатку. Праўда, пасля вайны адбудаваліся, з зямлянак усіх выцягнулі, электрастанцыю пабудавалі... А працадзень да гэтага года ў нас болей пяцісот грамаў не цягнуў... Дык вось, я кажу, як пусцілі мы

электрастанцыю, да нас гэтых карэспандэнтаў, не раўнуючы, як варання наляцела. І свой раённы круціцца, і з вобласці, і з Мінска... Усе пішуць, усе распытваюць, кожны стараецца не прамінуць ніводнага кроку старшыні калгаса... А ў нас тады быў Дробыш. Язык у яго падвешаны добра. Любіў, каб пра яго гаварылі ў раёне, каб у газетах пісалі. Аж канаў. І вось ён ім дыктуе: пабудавалі электрастанцыю, электрыфікуем усе сельскагаспадарчыя працэсы, электрадойку наладзім, атрымаем па сем з паловай тысяч літраў малака ад каровы, нажнём жыта, накапаем бульбы, калгаснікам дадзім!.. І вось гэтак, і вось гэтак. А карэспандэнты аж млеюць ад захаплення, бо Дробыш іх ужо ў камунізм уводзіць у нашым калгасе... (А людзі ў гэты час па хлеб у Мінск ездзілі...) І што ж, надрукавалі, на паўстаронкі размалявалі наш калгас у абласной газеце...

А праз месяц прыязджае такі малады, шчупленькі хлапчына з Мінска на машыне разам з нашымі людзьмі, што па хлеб ездзілі, і, не заходзячы да старшыні, давай да калгаснікаў наведвацца. У мяне акурат начаваў. Ну чаго ж людзям таіцца? Кожны расказвае, як яно і што робіцца ў нашым калгасе, ды яно і так відно... З тыдзень быў і толькі ў апошні дзень зайшоў да старшыні, прагледзеў усе кнігі ў бухгалтэрыі і паехаў. А яшчэ праз які тыдзень наш калгас як грымнулі ў цэнтральнай газеце! Дробыш ледзь не звар'яцеў, а людзі хвалілі гэтага карэспандэнта! Убачыў праўду... Вось тады мы выбралі Піліпа Баразну старшынёй. Дарма, што малады, а з галавой хлопец.

— З ім калгас выб'ецца ў людзі,— упэўнена згадзіўся з Антосем заатэхнік.

Антось канчаў палуднаваць, а Апейькін бегла праглядаў газеты. Непадалёку ад заатэхніка сядзеў Лёнька і перакрэсліваў у чарнавіку адно за другім рашэнні свайго непадатлівага прыкладу. Ад няўдачы і хвалявання Лёнька расчырванеўся, запэцкаў чарнілам не толькі рукі, а нават у сябе пад носам і, страціўшы ўжо ўсякую надзею на самастойныя веды, як і звычайна, звярнуўся да сястры:

— Валя, паглядзі, мо ты знойдзеш у мяне памылку...

Валя адклала ўбок свой сшытак і ўзялася за Лёнькаў прыклад.

Заатэхнік краем вока сачыў за яе рашэннем, чакаў выніку.

— Нічога не разумею, быццам бы ўсё правільна рабіла....— Валя зверыла свой адказ з адказам па задачніку і засталася яўна расчараванай несупадзеннем.— Нічога не разумею.

— Вось і ў мяне таксама, Валька,— абрадаваўся Лёнька, што не толькі ў аднаго яго не атрымліваецца прыклад, а ў сястры таксама. І ў яго тут жа з'явілася шчаслівая здагадка: — Напэўна, прыклад няправільна складзены.

— Не, пачакай, я паспрабую яшчэ раз.

— Эх вы, акадэмікі, хто ж пачынае раскрыццё спачатку фігурных дужак, калі ёсць звычайныя і квадратныя? — падсунуўся бліжэй да Лёнькі Апенькін.

І зноў Валя з Лёнем не пакрыўдзіліся на яго, а, наадварот, адчулі нязвычную цеплыню і прыязнасць да гэтага чалавека з вясёлымі смяшынкамі ў светлых, блакітных вачах.

— Ну, і сапраўды галава! — стукнула сябе далоняй па лбе Валя.

— Эх ты, Валька! — хутка змяніў погляд на прыклад і сваё ўласнае становішча Лёнька,— а яшчэ сямігодку канчаеш.

— Бачыш ты яго, ён яшчэ ў героі гатоў сябе запісаць,— засмяяўся Апенькін, упэўніваючыся, што ў арыфметыцы Лёня трымае сябе самым тыповым двурушнікам.

— Я ж акурат так пачынаў рашаць гэты прыклад, ды толькі крышачку зблытаўся...

— Маўчы ўжо лепей, рашацель,— абурылася на Лёньку Прося, прыбіраючы са стала.— Няма, каб сесці ды ўрокі вучыць... Толькі і ведаеце, што гойсаць з гэтым Корзунавым шыбенікам... Што вы рабілі ў суботу ў Сцёпавым садзе?

Мусіць, у словах мачыхі была нейкая непрыемная праўда, бо Лёнька зачырванеўся, як макавы цвет, адвярнуўся ад бацькі і паспешліва ўзяўся гартаць задачнік.

Здагадваючыся, што сумленне сына не зусім чыстае, Антось строга паглядзеў на яго, паўтараючы пытанне жонкі:

— Што ты рабіў у Сцёпавым садзе, Лявон?

— Нічога,— яшчэ больш зачырванеўся і яшчэ ніжэй нахіліў твар да кнігі Лёнька.

— Як жа нічога, калі Сцёпіха мне ўчора каля трыера казала, што вы з гэтым Карзунцом вуллі паролі і хацелі адчыніць. Добра, што сам Сцёпа нарваўся ў час...

— Мы ж не паролі... Мы не лезлі! — гатовы ўспыхнуць ад сораму, крыўды і такога абвінавачвання, выкрыкнуў Лёнька.— Мы толькі слухалі, як яны шавеляцца і гудуць. А потым Сцёпа выйшаў з гумна і закрычаў, што мы хочам вуллі паадчыняць і мёд пакрасці...

Адчувалася, што сорам гэтага абвінавачвання ўжо быў перажыты адзін раз Лёнькам, перажыты моўчкі, без сведак, адзін на адзін са сваім сумленнем.

— Я ледзь з сораму не згарэла, уся брыгада чула...— Просі здавалася, што абвінаваўчага матэрыялу было яшчэ недастаткова.

— Дык калі ён застаў іх каля вулля, чаму не вёў іх да бацькоў? — спыталася Валя.

Валі хацелася заступіцца за брата. Яна ведала, што сам ён не здольны на такія ўчынкі — хіба падбухторыць хто...

— Замаўчы, Валя, не лезь, куды не просяць — гэтак жа строга спыніў і яе бацька.— Не хапала яшчэ, каб людзі вадзілі маіх дзяцей з пакражай.— І да сына ўжо грозна: — Калі гэта яшчэ паўторыцца, літасці не прасі. Чуеш, Лявон?

Лёня сядзеў, уткнуўшыся носам у задачнік, і на бацькаў зварот не азваўся ні словам.

— У добрых бацькоў не водзяць дзяцей з пакражай!..

Валя не хацела сказаць таго, што сказала. Яна і потым ніяк не магла ўспомніць, адкуль яны з'явіліся, як вырваліся гэтыя жорсткія словы. Ёй зразумела было толькі адно, што выкліканы яны былі крыўдай за брата: навошта было пачынаць такую гутарку пры чужым чалавеку?

— Ты што сказала? — усім корпусам павярнуўся да яе бацька, і на твар яго нібы чорная хмара лягла. Змяніць нічога ўжо немагчыма было, і Валя не пажадала нічога мяняць.

— Не сумнявайся: Корзуніха не чакала моманту, каб пры людзях нагаварыць бацьку пра свайго сына... Калі быў вінаваты, сама ўсчула...

— Божачка, мой божа, зноў мачыха вінавата,— загаласіла Прося,— вінавата, што не ўсчула, а што ж было б, каб, не дай божа, пальцам яго кранула... Тады ты першая вочы мне выдрала б...

— Калі ён сапраўды краў, дык трэба было так яго крануць, каб у яго назаўсёды адпала ахвота да чужога...

А калі гэта толькі бабскі язык меле, дык няма чаго з дзіцяці рабіць злодзея.

Валя ў момант астыла, і ў словах яе не было ні злосці, ні знявагі да мачыхі. Вуснамі дзяўчаці гаварыла сталая разважлівая жанчына, чалавек, якому прыйшлося ўжо сутыкнуцца з жыццём па-сапраўднаму, твар у твар.

Бацька слухаў абедзвюх жанчын і маўчаў. Яго абурала заступніцтва дачкі за хлапчука, якому раз назаўсёды трэба было запамятаць, што чужы мёд не зробіць жыццё салодкім і да добрага не давядзе... І ў той жа час недзе ў глыбіні душы варушылася думка, выказаная дачкой: родная матка сапраўды добра адлупцавала б, калі б гэта была праўда, а не чакала б моманту, каб зрабіць сына злодзеем у чужых і бацькавых вачах.

Родная маці...

Антось Салавей цяжка ўзняўся з-за стала, моўчкі апрануўся і, адчуваючы перад Апенькіным сорам за толькі што выбухнуўшую сварку, глуха прамовіў:

— Хадзем, Барыс Міхайлавіч.

Той коратка развітаўся, і яны выйшлі. У хаце засталася нямая цішыня.

* * *

Іспі на кансультацыю па алгебры па Валю зайшла таварышка Надзейка, смяшлівая, чырванашчокая, са светлымі, нібы льняныя палойкі, косамі.

Валя дагладжвала новае плацце, якое яна шыла да экзаменаў.

— Сама дашыла? Напэўна, сапсавала. Прынесла б, мая мама табе пашыла б. Проська ж таксама краўчыха — не магла яна табе пашыць,— адразу аб усім затараторыла Надзейка.

Старанна разгладжваючы бакавое шво, Валя не без гордасці адказала:

— Сама скончыла, навошта мне чыя дапамога.

— А я іголкі ў руках трымаць не ўмею.

Валя з усмешкай слухала таварышку і не перабівала.

— А ты ўсё ўмееш і робіш усё сама. Проська таксама не падверадзілася б...

— Ну, яна ж таксама не сядзіць склаўшы рукі. Кожны дзень у калгас на работу ідзе... Яна мне казала: «Дай, я табе пашыю», але я не люблю, як яна шые: налепіць

зборачак ды фальбоначак розных, а што да чаго і не разбярэш.

— Па-мойму, яе спецыяльнасць — халаты,— паказваючы на стракаты мультановы Просін халат, залілася смехам Надзейка.

— І тут перабаршчыла: столькі гузікаў наляпіла, што зашпільвацца не спраўляецца,— гэткай жа нязлоснай насмешкай над мачыхай адказала Валя і, хвіліну памаўчаўшы, выказала Надзейцы свой страх: — Смех смехам, а вось я алгебру заўтра магу праваліць. Нічога ў мяне не атрымліваецца з задачамі на ўраўненні з двума невядомымі...

Надзейка, якая адчувала сябе па алгебры моцна, бесклапотна запэўніла Валю:

— Не правáліш.

Сяброўкі сядзелі каля расчыненага акна. Пад акном рос куст бэзу. Бэз толькі што расцвіў, і тонкі пах яго поўніў пакой вясновай свежасцю. Надзейка перагнулася цераз падаконнік, уткнулася тварам у бэзавую квецень. Валя скончыла прасаваць і таксама высунулася з акна. Пад страхой вяліся ластаўкі. Адна сядзела на яечках і прарэзлівым піскам нешта камандавала. Другая трымала ў дзюбцы саломінку і ніяк не здагадвалася, куды зручней яе прымасціць. Мусіць, той, што сядзела ў гняздзечку, не падабалася такая няспрытнасць, і гэта было прычынай яе незадаволенасці.

Раптам Надзейка выпрасталася і павярнула да Валі нязвычна сур'ёзны для яе твар.

— Кім бы ты хацела быць, Валя?

— Я табе ўжо казала — я хачу працаваць у калгасе...

— Божа, сум які! — перабіла Валю Надзейка.— А я хачу ў горад! Як я зайздрошчу маёй мінскай цётцы! Куды толькі яна мяне не водзіць, як я прыязджаю да яе на канікулы: і ў кіно, і ў тэатр... Я, Валя, хачу быць артысткай. Я нядаўна прачытала кніжку «Авадзень» і ўявіла, якой бы я была Джэмай у тэатры! Памятаеш? «Артур! Мой сябар, мой хлопчык!..»

На падаконніку, зажмурыўшыся і не перажываючы ніякіх драматычных маналогаў, бестурботна драмаў стары кот Рыжык з адсечаным хвастом. Надзейка прыпала круглай ружовай шчакой да шаўкавістай галавы Рыжыка і на момант замерла. Валя пакацілася са смеху.

«Артур! Мой Артур!» — трагічным шэптам паўтарыла зноў Надзейка.

— Надзейка, паглядзі на Рыжыка, ён таксама зразумеў, што перад ім вялікая артыстка,— давячыся ад смеху, ледзь вымавіла Валя.

Гультаяваты Рыжык расплюшчыў вочы і, не выявіўшы ніякага захаплення, толькі ляніва мяўкнуў.

— Няшчасны,— кінула яму сваю знявагу Надзейка.— Што ты разумееш?

...Начапіўшы Валіна плацце на вешалку, Надзейка накіравалася з ім да шафы.

— Ого! Тут і носа няма куды ўткнуць. Проську хоць яшчэ раз замуж аддавай — столькі строяў.

— А я там не вешаю. Я маміну і сваю адзежу павесіла на сцяне і прасцінай закрыла... Мне непрыемна, каб яе спадніцы віселі разам з мамінымі рэчамі.

Разумеючы, што гутарка на гэту тэму робіць балюча сяброўцы, Надзейка з уласцівай ёй лёгкасцю тут жа пераключылася на другую тэму:

— Дзе вы такі прас куплялі? А я колькі ні грызу сваю маму, каб таксама купіла электрычны прас — нішто не дапамагае. «Невялікая, кажа, пані. Можаш і старым пагладзіць. Жару ў печы хапае...» А што бацька кажа пра твой намер? — зноў вярнулася да нядаўняй тэмы Надзейка.

— Тата хоча, каб я дзесяцігодку канчала, а мачыха ўсё сельскагаспадарчы тэхнікум мне сватае. І спецыяльнасць, маўляў, добрая, і блізка, зручна будзе харчы вазіць... Але я ведаю, чаму такі цікавы ёй гэты тэхнікум: яна хоча, каб я з дому пайшла...

— А ты не ідзі! — тон Надзейчынай парады быў самы катэгарычны.

— Не ведаю яшчэ, як яно будзе. Можа, яшчэ і ў тэхнікум пайду...— прамовіла Валя.

— Ну і правільна! — што правільна, Надзейка да канца яшчэ не дадумала і тут жа зноў пачала захапляцца сваёй будучыняй.— А я буду артысткай! І мама мая ўжо згадзілася... Як толькі здамо экзамены, я зноў паеду да цёткі, буду хадзіць у тэатры!..

Экзамены — і дзяўчаты зноў спусціліся з-пад хмар на зямлю.

— Хадзем хутчэй на кансультацыю, а то спознімся,— першая спахапілася Валя.

— Хадзем,— неяк адразу астыла Надзейка і паглядзелася ў люстэрка.— Ну, якая я Джэма — чырвоная, як радыска...

* * *

Назаўтра пасля выпускнога вечара бацька сказаў Валі:

— Канчай, дачушка, дзесяцігодку, а там будзе відно. Папрацуеш у калгасе, а потым і ў інстытут, калі захочаш, пойдзеш.

— Ну але, пойдзе ў інстытут ды заедзе недзе за свет, што і торбу не падасі. Вялікая карысць ад гэтых інстытутаў. Вунь Апенькін канчаў, а цяпер разам з табой на ферме цялят узважвае,— запярэчыла Прося.

— Ну і дурная ты баба,— не вытрымаў, каб не вылаяцца Антось.— «Апенькін цялят узважвае»... Ды Апенькін дысертацыю марыць абараняць на гэтых цялятах, як ты кажаш. Вучоным чалавекам будзе! — Антось заўсёды глядзеў далей і разумеў справу глыбей, чым Прося. І Валя любіла бацьку за гэта. Ён ніколі не замыкаўся ў коле вузкіх інтарэсаў, якія былі блізкія толькі яму самому або яго сям'і. Антось любіў глядзець у будучыню, і хоць у яго ўласных і калгасных справах не заўсёды быў жаданы парадак і лад, ён не апускаў галаву, а верыў у лепшае.

— Дык то ж мужчына,— не пакрыўдзілася Прося.— А дзеўкам якая карысць пятнаццаць год вучыцца? Усё роўна пойдуць замуж... Ці мала такіх вучоных сядзіць і дзяцей няньчыць?..

— Рана яшчэ пра замуж гаварыць.

— Не рана, калі хлопцы дадому праводзяць. З Жэнькам Цвіркавым вунь да раніцы сёння сядзелі ў нас на лаўцы...— Прося зусім не мела злога намеру, яна хацела толькі пажартаваць.

Але Валя, як і звычайна, калі яе крыўдзілі або няўмела закраналі тое, што мела для яе асаблівы сэнс, у момант закіпела:

— Ну і добра, калі мяне праводзілі, ну і добра, калі я сядзела. Якая вам да гэтага справа? Сем гадоў разам вучыліся, дык нельга і пасядзець ужо разам. І ніхто да раніцы не сядзеў.

— Я так і ведала, што ад цябе людскага слова не пачуеш. Гэта пасля сямігодкі, як аса ў вочы кідаешся, а як яшчэ тры гады на бацькавым хлебе пасядзіш, тады ўжо трэба будзе выбірацца з хаты.

— Не бойцеся, не буду я тры гады на вашым хлебе сядзець. І без яго не загіну, і ў наймічкі не пайду!

І, расхваляваная, Валя выбегла з хаты.

— Навошта ты яе гэтым хлебам папракнула? Няўжо яго не хопіць каму-небудзь з нас, калі мы будзем усе разам? — з дакорам заўважыў жонцы Антось.

— Дык ён табе сам у горла не палезе, няхай толькі яна пасядзіць у цябе гэтыя тры гады на карку.

У голасе Просі на гэты раз гучала непадробная злосць і жаданне ўкалоць абаіх: і гаспадара, і падчарыцу. Антось упершыню па-сапраўднаму зразумеў гэтае Просіна пачуццё і з цяжкім уздыхам згадзіўся ў думках: «Сапраўды будзе лепей, калі Валя пойдзе вучыцца кудынебудзь у тэхнікум. І ёй будзе спакайней, і ў хаце пацішэе...»

Нічога, аднак, услых не сказаўшы, ён таксама, як і дачка, накіраваўся з хаты.

У дзвярах сутыкнуўся з Лёнем. Той наляцеў на бацьку з вудай і скрынкай чарвякоў.

— Ты куды, гэта, рыбалоў? — спытаў бацька, з задавальненнем разглядаючы загарэлы сынаў твар.

Басаногі, у адных трусах, Лёня здаваўся злепленым з куска пажыганай цэглы — так роўна і трывала ўзяўся загар за яго рукі, за худую спіну, за цыбатыя ногі.

— У руку чаго ўзяць... Валя дома?

— Не, пайшла. Скажы маці, яна табе сала дасць.

— А куды Валя пайшла? — неяк адразу абвяў Лёнеў настрой.

Гэта не ўнікла ад бацькі, і, каб не даць Лёню перадумаць, ён падагнаў яго:

— Пакінь тут на парозе гэтых сваіх чарвякоў ды ідзі хутчэй бяры яду, пойдзем разам. Я таксама іду да рэчкі. Хачу паглядзець, як там каровы на пакосе ходзяць. Першы дзень сёння выпусцілі.

— Я зараз, тата. Пачакай,— абрадаваўся Лёня.— Я толькі вазьму...

Праз некалькі хвілін ён вярнуўся з добрым акрайцам хлеба ў руках.

— А сала? — спытаўся Антось.

— Я папрасіў матку, а яна кажа: «Бяры сам». А я не хачу сам па кублах лазіць.

— Бач, які ты вялікі пан. Ты ж не абедаў разам з намі, лётаў недзе... Хадзем удваіх, як ты кажаш, лазіць па кублах...

— Тата, а ведаеш, хлопцы дражнілі Сняжка, а Мішка Корзунаў каменем у яго кінуў, дык я яму добра даў!

— Скажы свайму дружку Мішку, што калі гэта яшчэ раз паўторыцца, дык я настою, што ў праўленні з яго бацькі здымуць дзесяць працадзён. І гэта яшчэ будзе добра, бо калі бык раззлуецца, ён вам кішкі павыпушчае...

— А мяне, тата, Сняжок не баіцца. Ён ляжыць, а я яму лоб гладжу, і ён нічога. І Валі нашай ён не баіцца.

— Глядзіце, не вельмі лазьце каля яго,— папярэдзіў бацька.

— А вунь, тата, і Валя ідзе са сваёй класнай настаўніцай.

Валя і сапраўды выйшла са школьнага двара ўдваіх з невысокай смуглай жанчынай. Настаўніца нешта горача даказвала Валі, а тая слухала яе, схіліўшы крышачку набок галаву, маўчала і нельга было здагадацца, згаджалася яна з тым, што ёй казала настаўніца, ці заставалася пры сваім пераконанні.

«Па дакументы хадзіла»,— здагадаўся Антось, і на душы ў яго зноў стала неспакойна.

— Вось як добра, што мы з вамі сустрэліся, Антон Іванавіч, я да вас якраз ішла,— адказваючы на Антосева вітанне, прамовіла настаўніца.

— І я рады вам, Ларыса Міхайлаўна.

— Вам вядома, што надумалася без вас ваша непакора? — без усякай прадмовы запытала настаўніца.— Яна хоча паступаць у тэхнікум... І я, і дырэктар, і ўсе настаўнікі раім ёй ісці ў восьмы клас. Яна здольная. Праўда, апошні год Валя ішла неяк вельмі няроўна...

— І я ўгаварваю Валю, каб яна засталася ў школе...

— Тата, навошта ты кажаш аб гэтым, калі сам добра ведаеш, што я не перадумаю.... І ведаеш прычыну гэтага...

Антось нічога не адказаў дачцэ, а звярнуўся да настаўніцы:

— Скажу вам, Ларыса Міхайлаўна, як настаўніцы маёй дачкі і паважаючы вас, скажу, не таячыся, хоць і нядобра гэта рабіць пры дзецях. Нядобра ў нас зараз дома, таму і вучыцца будзе цяжка... Вы былі ў нас дома не раз і ведаеце нашы ўмовы, ведаеце прычыну. Больш я вам нічога не скажу. Скажу толькі, што я сваім дзецям не вораг і хацеў бы, каб ім жылося і вучылася як найлепш.

Усё было сказана, усе маўчалі.

— Ну што ж,— падумаўшы, прамовіла Ларыса Міхайлаўна.— Няхай будзе так. Можа, гэты выбар будзе сапраўды больш разумным.

* * *

Валя з дня на дзень чакала выкліку на экзамены, а з тэхнікума не было ніякай весткі. Першыя часы Валя сама кожны дзень сустракала паштальёна Федзю Жука і надзеяй, што ён прынёс ёй жаданае пісьмо.

Белабрысы Федзя, з тварам, густа пасыпаным рабаціннем, падцягваў услед за веласіпедам карацейшую нагу і адказваў ёй:

— Яшчэ пішуць.

За гэты адказ тыдня праз паўтара Валя так узненавідзела Федзю з яго рабаціннем і карацейшай нагой, што нават пакінула пытацца ў яго пра пісьмы. Проста стаяла ў веснічках кожны раз, калі ён кульгаў па вуліцы са сваім веласіпедам, і нават у яго бок не глядзела. А ён, як той дурань, зноў скаліў зубы, нічога на свеце не разумеючы:

— Валя, табе яшчэ пішуць!

Потым Валя пакінула і да веснічак хадзіць. Толькі кожны дзень пасылала да Федзі Лёню спытаць: «Ці няма нам пісем?» — хоць тых пісем ім даўно ўжо ніхто не пісаў. Бацькавы франтавыя сябры, як і сам ён, мусіць, згубілі і забылі яго адрас, а радня ўся жыла блізка і наогул ніколі не пісала.

Нарэшце Валя не вытрымала і сама пайшла на пошту даведацца, ці не прапала часам у дарозе яе пісьмо з дакументамі. Тады, мабыць, наогул усе яе чаканні дарэмныя...

Але на пошце сказалі, што такія даведкі наводзяцца праз месяц пасля таго, як пісьмо адпраўлена. А да месяца яшчэ было далёка.

Заставалася чакаць, ламаць галаву і спадзявацца.

...І вось, нарэшце, калі Валя ўжо і Лёньку забараніла заікацца аб пісьмах, пісьмо прыйшло. І прынёс яго не хто іншы, як той жа Федзя Жук. Ён трымаў у руках звычайны белы канверт, надпісаны нечым не вельмі разборлівым почыркам, і, як заўсёды, смяяўся.

— Федзечка, міленькі, аддай,— схапіла яго за руку Валя, забываючы, што яшчэ ўчора гэты самы Федзя ёй здаваўся самай апошняй істотай на свеце.

Вузенькая, надрукаваная на машынцы паперка выклікала Валю на прыёмныя экзамены.

— Трэба тату паказаць! — закружылася па хаце Валя, прыціскаючы да грудзей гэтую паперку.

...На калгасным двары ў цяні старога клёну ляжаў вялізны чорны бык Сняжок.

— Сняжок! Сняжок! — пяшчотна паклікала яго Валя і не стрымалася, пералезла цераз высокую загародку.

Бык узмахнуў цяжкай галавой, скрыгануў ланцугом, які трымаў яго прыкаваным да слупа, зрабіў яшчэ адзін дарэмны ўзмах, каб вызваліцца ад ланцуга, і, не спяшаючыся, узняўся на ногі.

— Ты сумаваў без мяне, маленькі? — бясстрашна накіравалася насустрач яму Валя.— А ў мяне сёння і частаваць цябе няма чым. Забылася, Сняжок, прабач.

Бык працягнуў галаву да яе рукі, шаргануў яе гарачым языком і коратка мыкнуў.

— Пакідаю я цябе, Сняжок, паеду далёка, далёка,— гладзячы яго між рагоў, прамовіла Валя, летуценна ўсміхаючыся той невядомай дарозе, якая чакала і клікала яе цяпер.

Сняжок глядзеў на яе пакорнымі чорна-блакітнымі вачыма, і ў іх, здавалася, можна было чытаць яго шчырае спачуванне і сум.

Бацька выйшаў з аборы з даяркай Мальвінай і заатэхнікам Апенькіным і не заўважыў Валі.

— Давайце Фіялцы ў пойла солі і ўбачыце, што ў яе паступова вернецца апетыт,— гаварыў Апенькін, працягваючы ранейшую размову.

— Антон Іванавіч, як жа гэта яна там апынулася? — спалохаўся ён, убачыўшы Валю.— Сняжок жа нікога не надпускае...

— Яе не зачэпіць, яна яго маленькім выхадзіла,— заўважыла Мальвіна.— Карова-маці прапала, і застаўся ён адзін, маленькі, няўдалы, а тут яшчэ нешта з ім здарылася і ўпаў ён на ногі. Хацелі прырэзаць. Дык колькі яна слёз выліла праз яго. Маці яе яшчэ тады цялятніцай на ферме працавала... Вось Валя і ўпрасіла: «Сама буду даглядаць яго, і паіць, і траву рваць...» І выхадзіла. Бачыце, якое цялятка вырасла.

— Татка, глянь!— перабіла яе Валя і ўзняла высока белы канверт.

— Атрымала нарэшце? Ну, што табе пішуць?

— Усё ў парадку. Пятага на экзамены!

— У сельскагаспадарчы тэхнікум падала дакументы. Аграномам будзе,— неяк няпэўна, ні то радуючыся, ні то шкадуючы, растлумачыў Антось Апенькіну.— Калі паступіць...

— Паступіць, павучыцца трохі ды зноў у свой калгас прыедзе працаваць,— упэўнена выказала сваю думку Мальвіна.

— Мала часу ўжо засталося, ідзі прагледзь сёе-тое па падручніках, каб не зблыталася на экзаменах,— параіў бацька.

— Я ўжо ўсё паўтарыла. Схаджу на поле, у нас яшчэ капуста не абматычана.

— Пэўна, маці без цябе сотак адна не адолее. Лепей, як бацька кажа, пайдзі ды кніжку пачытай,— параіла і Мальвіна, не разумеючы Валінага настрою.

А Валі хацелася, каб сёння ўсе ў вёсцы даведаліся, якое важнае пісьмо яна атрымала.

— Не, я схаджу гадзіны на дзве... Ну, Сняжок, бывай,— прымацавала да рог Сняжка кляновую галіну Валя.

— Прыгожая дачка ў вас расце,— гледзячы ўслед Валі, прамовіў заатэхнік Апенькін.

Тоненькая, з непакрытай цёмнай галавой, яна ішла па вузкай палявой сцежачцы, ільняное поле расступалася перад ёй лёгкімі блакітнымі хвалямі. Чырвоны паркалёвы сарафан Валі здалёку здаваўся жывой рухомай кветкай.

— Дзіця яшчэ,— упершыню ўбачыўшы дачку такой, якой зрабіў яе час, пашкадаваў развітацца з яе маленствам бацька.

* * *

Уступныя экзамены прайшлі ў Валі добра.

У тэхнікуме яна ўзяла даведку аб тым, што залічана на першы курс, атрымала накіраванне ў інтэрнат, і ў дадатак ёй паведамілі, што яна будзе атрымліваць павышаную стыпендыю.

І калі Валя прыехала дадому па рэчы, дык на яе ўжо ўсе глядзелі не як на вучаніцу, а як на чалавека самастойнага, які, можна сказаць, выйшаў на ўласную дарогу.

Валя радавалася гэтаму і крышку сумавала.

Збіраючыся апошнюю ноч начаваць у бацькавай хаце, яна абняла за плечы Лёньку і, як маці, пачала яго ўгаварваць:

— На зімовыя канікулы я абавязкова прыеду, а на Кастрычніцкія святы, можа, вы з татам выберацеся. А ты

пішы мне. І з мачыхай старайся не задзірацца. Лепей змаўчы...

— Каб ты была дома...— сумна перабіў яе Лёня.

— Дык я ж буду! Скончу тэхнікум і вярнуся. Вярнуся дадому.

— Доўга яшчэ...— не стрымаўся, заплакаў Лёня,— яна мяне таксама будзе папракаць... Без цябе яна будзе яшчэ горш...

— Не бойся, не будзе. Яна не злосная... Яна не кепская... Толькі ты слухай яе. У мяне дрэнны характар, я не ўмею змаўчаць, а ты змаўчы... А потым мы з табой заўсёды будзем жыць разам. Заўсёды...

Яны так і паснулі, абняўшыся, на вузкім Лёневым ложку.

*1954*

## «МОЙ ТАТА ПРЫЕХАЎ»

1

Па заданню рэдакцыі Даша Пятроўская збіралася ў камандзіроўку. Заданне яе захапіла, яна ў момант загарэлася ім і зараз рыхтавала свае нямудрыя дарожныя пажыткі.

Пастукала і зайшла суседка Воранава — жонка Дашынага таварыша па рабоце.

— Ізноў у камандзіроўку? — яна на момант спынілася ў дзвярах.

— Ізноў, Галіна Васільеўна, ізноў! — адарвалася ад чамадана Даша.— І ведаеце куды? У Маскву.

— Пашанцавала табе. Па тэатрах паходзіш. І як надоўга едзеш?

— Надоўга, на тры тыдні. Адказнае і вельмі цікавае заданне... Я хачу вельмі прасіць вас, Галіна Васільеўна, панаглядайце, калі ласка, тут без мяне за маёй Марынкай. Каб Надзя клала спаць яе ў час, як прывядзе вечарам з сада. А я вам пакіну на ўсякі выпадак свой адрас.

Дашына суседка, гадоў на дзесяць старэйшая за яе, сама маці трох дзяцей, супакоіла Дашу, разумеючы яе хваляванне:

— Едзь і ні аб чым не турбуйся. Марынка будзе дагледжана.

Даша скончыла зборы і пачала апранацца.

— Модніца ты, усё ў цябе па-свойму, усё з такім густам пашыта,— шчыра пазайздросціла Галіна Васільеўна, разглядаючы новае Дашына паліто.

— Люблю, грэшніца, строі, люблю прыгожыя рэчы,— з вясёлым смехам прызналася Даша.

— А хто з нас, жанок, не любіць іх? Толькі не кожная ўмее...— заўважыла суседка.

— Што ж, па добраму старому звычаю прысядзем на развітанне, каб паездка мая ўдалася? — сказала Даша, смеючыся аднымі вачыма.

— Калі такая справа, трэба пасядзець,— ахвотна згадзілася Воранава.

— Ну, вось і ўсё. Можна і адпраўляцца,— Даша глянула на гадзіннік.

— Ні пуху табе, ні пяра.

— Не дзякую,— звычай не дазваляе... Бывайце здаро-

вы, Галіна Васільеўна. Прашу вас яшчэ раз: прыгледзьце за Марынкай. Я да яе ў сад не буду заязджаць, а то яна расплачацца: «Хачу ехаць з табою»...

2

...Няшчасце здарылася на трэці дзень пасля Дашынага ад'езду. Раніцай Марынка, здаровая і вясёлая, пайшла ў сад. Па дарозе забегла яшчэ да сваіх сяброў, «малых варанят», як у жарт звала сваіх сыноў Воранава. Галіна Васільеўна з задавальненнем ушчыпнула Марынку за тугую румяную шчаку і, ласкава павярнуўшы вакол сябе, лёгенька падпіхнула да дзвярэй.

— Бяжы, Марыначка, хутчэй, а то спознішся. Ды глядзі за Надзю трымайся, калі будзеце вуліцу пераходзіць.

Але наказу яе Марынка ўжо не чула і пушыстым белым медзведзянём з вясёлым піскам кацілася па лесвіцы.

Пад вечар у кватэру Дашы Пятроўскай пазванілі з сада: захварэла Марынка. Высокая тэмпература і рвота.

Надзя — Дашына домработніца — прыбегла да Воранавых: што рабіць?

Тыя якраз абедалі.

— Зробім вось як: я выклічу па тэлефоне таксі да сада, а вы тым часам абедзве паедзьце туды,— адставіўшы ўбок талерку, сказаў Воранаў.

— Пачакай, Ваня,— у замяшанні спыніла яго жонка,— яшчэ ж невядома, якая хвароба ў Марынкі. А раптам інфекцыя... А ў нашым жа доме ва ўсіх дзеці...

— Гэта сапраўды... Тады што ж, табе не прыйдзецца ехаць, бо ты ўсё-такі бліжэй да дзяцей... Паеду я з Надзяй.

— Правільна, едзь ты. Напэўна, там будзе ўрач. Тады і відно будзе...

— Навошта вам урач? Вось ён, уласнай персонай,— пачуўся ў гэты час з парога мужчынскі голас. У пакоі паявіўся высокі плячысты мужчына гадоў трыццаці пяці ў форме маёра медыцынскай службы.

— Вось як дарэчы ты, Платон,— абрадавалася яму Галіна Васільеўна,— захварэла ў дзіцячым садзе дзяўчынка нашай суседкі, а сама яна ў камандзіроўцы, і мы не ведаем, як лепей зрабіць...

— Гісторыя сапраўды невясёлая,— згадзіўся той, скідаючы шапку і хусцінкай выціраючы паголеную галаву.— Давайце я з кім-небудзь паеду туды.

— Паязджай, Платон, калі ласка. Ваня і Надзя таксама паедуць,— узяла яго за рукаў Галіна Васільеўна.

Маёр глянуў у куток да шафы, дзе стаяла Надзя. І толькі цяпер заўважыўшы яе, лёгкім кіўком галавы прывітаўся з ёй.

— Калі ў дзяўчынкі рвота і высокая тэмпература, я не раіў бы Івану ехаць у сад... Мы ўдваіх справімся,— паказаў ён вачыма на Надзю.— Хвароба яшчэ не ўстаноўлена, і таму вам абаім пры наяўнасці вунь такой гвардыі,— ён кіўнуў галавой на траіх Воранаўскіх хлапчукоў, прыціхшых за сталом,— варта пакуль што ўстрымацца ад наведвання дзяўчынкі. А вось наконт транспарту — выклікай, Іван, таксі сюды адразу.

Маёр Платон Лагода даводзіўся Івану Воранаву стрыечным братам. Ён нядаўна вярнуўся з заграначнай камандзіроўкі і зараз, карыстаючыся адпачынкам, прыехаў пагасціць да брата, з якім не бачыўся аж з сорак пятага года. Служыў ён у Ленінградзе, сям'і ўласнай не меў — усё не выстарчала часу на жаніцьбу — і жыў са старой маці і сіратой пляменніцай, дванаццацігадовай дачкой брата, які загінуў на фронце. Маці дзяўчынкі памерла неўзабаве пасля вайны.

Лагода любіў свой стары горад на беразе вялікай ракі. Там прайшлі яго дзяцінства і юнацкія гады, там ён вучыўся, там нарадзілася яго першае каханне. Адсюль, проста з інстытута, у сорак першым годзе пайшоў ён на фронт.

Мусіць, усё гэта разам узятае і было прычынай таго, што, не звяртаючы ўвагі на зіму, Платон Лагода не паехаў да мора, да цяпла, а праводзіў адпачынак у родным горадзе, дзе яму ўсе былі рады.

— Ці абедаў хоць ты, Платон? — спахапілася Галіна Васільеўна, калі ён, прапусціўшы Надзю наперад, намерыўся зачыніць за сабой дзверы.

— Я ж званіў табе, Галачка, што сустрэўся з сябрамі, з якімі не бачыўся вечнасць, і паабедаў у рэстаране. Не турбуйся, я не галодны. Дзякуй,— неяк асабліва мякка падзякаваў ён братаву жонку, звяртаючыся да яе з павагай, уласцівай тым мужчынам, якія паважаюць не адну нейкую, а жанчыну наогул.

За пяць хвілін яны былі на месцы. Да Марынкі ўжо быў выкліканы ўрач. Маладая жанчына ў акулярах якраз правярала ў дзяўчынкі пульс, калі ў пакой, дзе ляжала Марынка, зайшоў маёр Лагода.

— Прабачце, калега, я не педыятр... Але, паколькі дзяўчынка некаторым чынам мая цяперашняя суседка, мяне прасілі заехаць паглядзець яе...— крыху збянтэжыўся перад гэтай кволай жанчынай плячысты Лагода.— Што вы знаходзіце ў хворай?

— Вы ведаеце, сказаць што-небудзь пэўнае пакуль што цяжка. Калі ласка, распранайцеся і паглядзіце дзяўчынку вы. Магчыма, нам дваім лягчэй будзе разабрацца... Падайце, сястра, маёру чысты халат.

І, пакуль Лагода распранаўся, яна зноў схілілася над дзяўчынкай, якая гарэла нібы ў агні.

Што-небудзь пэўнае пакуль што не мог сказаць і Лагода, аднак ён быў той жа думкі, што ў дзяўчынкі пачынаўся менінгіт.

Праз паўгадзіны Марынку адвезлі ў бальніцу...

Адпраўленая тэлеграма не застала Дашу ў Маскве. Абставіны прымусілі яе на другі ж дзень выехаць у адзін з падмаскоўных гарадоў.

А Марынцы не лепшала. Наваліўшыся так раптоўна, хвароба не жадала хутка здавацца, і становішча дзяўчынкі было пагражальным. Ад яе пасцелі не адыходзілі ні на хвіліну. Часам яна трызніла, нешта гаварыла, некага клікала. Яшчэ некалькі дзён таму назад такія ружовыя, поўныя шчочкі яе цяпер апалі, пунсовыя губкі пасінелі і выцягнуліся. Бездапаможна ляжалі паверх коўдры схуднелыя ў сініх жылках ручкі. Толькі і было на твары, што вачаняты; гарэлі яны і, нічога не адрозніваючы перад сабой, глядзелі ў прастору.

Да Марынкі нікога не пускалі. Кожны дзень, раніцай і вечарам, прыходзіла ў бальніцу Надзя — даведацца, ці не лягчэй Марынцы. Заносілі штодня які-небудзь ласунак ёй Воранавы, але ім усё варочалі адразу ж назад. Колькі разоў прасілася Галіна Васільеўна пасядзець, самой падзяжурыць каля дзяўчынкі, і ёй кожны раз катэгарычна адмаўлялі: даглядаць дзяўчынку ёсць каму.

Толькі маёру Лагодзе як урачу дазвалялася наведваць Марынку. Ён прыходзіў кожны дзень і, калі дзяўчынцы рабілася горш, затрымліваўся надоўга.

Аднойчы вечарам Марынцы было асабліва кепска. Яна кідалася на пасцелі і працягла стагнала. Хутка знямогшыся, яна пачала ціхенька клікаць, гледзячы на Лагоду і не бачачы яго:

— Гэта ты, татка?.. Ты прыехаў?

— Я прыехаў...— гэтак жа ціха адказаў ён, кладучы на сваю халодную далоню палаючыя жарам Марынчыны рукі.— Я прыехаў і буду з табой. Ляжы спакойненька...

Яна прыслухоўвалася да яго голасу, а потым нячутна вызваляла тоненькую ручку і сама пачынала гладзіць яго па рукаве, кратаць гузікі.

— Ты не паедзеш больш у камандзіроўку, будзеш з намі заўсёды?.. Не трэба, не едзь, мне будзе сумна, і я зноў буду плакаць...

Яна прасіла, і ў голасе яе звінелі слёзы і сум па бацьку, і ў той жа час у ім гучалі капрызныя ноткі дзіцяці, якое адчувала ўжо сваю ўладу над дарослым.

Лагода не меў сваіх дзяцей і таму не вельмі ведаў іх душу, аднак цяпер ён разумеў і адчуваў, чаго не хапала гэтаму хвораму дзіцяці... Брат і нявестка расказалі яму невясёлую гісторыю Марынкі і яе бацькоў. І таму пяшчота, з якой цягнулася да яго дзяўчынка і якую яна сама шукала ў яго, ускалыхнула Лагоду і перавярнула ўсю яго душу.

— Нікуды болей не паеду, маленькая... Буду заўсёды з табою. Засні толькі...

Яна ўдзячна пацерлася шчочкай аб яго шырокую хударлявую руку і ўпершыню за ўсе гэтыя два тыдні пакут заснула спакойна, са шчаслівай усмешкай на змучаным тварыку.

### 3

Даша вярнулася з камандзіроўкі, калі Марынка пачала ўжо ачуньваць. Колькі ні рыхтавала Галіна Васільеўна Надзю не казаць Дашы пра Марынчыну хваробу адразу, Надзя ўсё роўна не вытрымала.

— Дар'я Пятроўна, наша Марыначка ў бальніцы, менінгіт...— Залілася яна слязьмі, як толькі Даша пераступіла парог.

Спачатку Дашу нібы абухом стукнулі па галаве, а потым яна, ні слова не кажучы, кінулася да Воранавых.

— Здаровая! Здаровая! Хутка бегаць будзе,— абняла Дашу за плечы Галіна Васільеўна і пачала, як сястра ці маці, быццам маленькую, гладзіць Дашу па шчацэ.

Ад гэтай ласкі і ўвагі Дашу канчаткова пакінулі сілы. Не могучы ні спытаць, ні прагаварыць ані слова, яна прыпала Воранавай да пляча.

— Не плач, галубка, не плач, родная. Усё ўжо добра.

Марынка ўжо амаль здаровая. Адпачні трошкі, з'еш чаго-небудзь — і пойдзем.

— «З'еш»!..— Даша паглядзела на Галіну Васільеўну вачыма, поўнымі слёз і дакору, быццам тая параіла ёй зрабіць нешта несумленнае.— Але як жа яна?.. У якой бальніцы яна ляжыць, без мяне... адна?.. Я зараз жа паеду туды!

— Пачакай, я таксама паеду з табой,— сказала Воранава.

...Марынка сядзела на ложку, абкладзеная дзіцячымі кніжкамі і цацкамі і няньчыла дзівосную, у рост сабе, ляльку.

— Дачушка! — кінулася да яе маці.

— Мама! Мая мама! — радасна закрычала Марынка і таксама заплакала.

— Ну як жа ты, дачушка? Ужо здаровенькая і нічога ў цябе не баліць? — абнімала Даша Марынку, адразу нічога не заўважаючы, што было наўкол яе.

— Не баліць. Глядзі, во! — Марынка працягнула да маці ляльку з каштанавымі косамі. Лялька ўзмахнула густымі чорнымі вейкамі і паволі апусціла іх на свае шкляныя сінія вочы. І тут жа, як і сама Марынка, капрызна паклікала:

— Ма-ма!

— Дачушка, адкуль гэта ўсё ў цябе? Хто гэта табе надарыў? — ад здзіўлення не ведала што і падумаць маці.

— Тата. Мой тата прыехаў,— сур'ёзна паведаміла Марынка, клапатліва кутаючы ляльку.— Ты хіба не бачыла яго?

— Н-не, я яшчэ не бачыла... А ты бачыла?

— Вядома, бачыла. Ён учора таксама быў у мяне. І чытаў мне Бурацінку,— гэта такі драўляны хлопчык Бурацiна быў, мама... Ты мне таксама пра яго сёння прачытаеш?

«Значыць, да Марынкі прыходзіў бацька, Андрэй? — не ўсведамляючы як след свайго пачуцця, міжвольна абрадавалася Даша.— Значыць, ён не забыў Марынку... Ён сядзеў пры ёй і пакутаваў, ведаючы сваю віну...»

— Дачушка, кветачка мая палявая, сонейка маё яснае!..— схіліўшыся над дзяўчынкай і бясконца цалуючы яе схуднелыя ручкі, са слязьмі на вачах ледзь чутна паўтарала Даша. Гладзіла цёмныя кудры Марынкі і прыслухоўвалася, як радасна білася сэрца:

«Быў! Быў!..»

4

Аднойчы, прыйшоўшы з двара, Марынка спытала ў Дашы:

— Мама, а дзе мой тата, памёр?

— Чаму памёр? Тата ў камандзіроўцы, і хто табе сказаў, што ён памёр? — разгубілася і нават спужалася гэтага пытання Даша.

— Ніхто. Я сама ведаю. Калі людзі доўга ёсць-ёсць, а потым пойдуць і іх доўга няма і няма, значыць, яны памерлі. А мой тата таксама быў, быў у нас, а потым пайшоў, і яго ўжо зусім няма. Значыць, памёр.

Марынка тлумачыла адсутнасць бацькі па-дзіцячаму лёгка і без ценю смутку на твары і ў сэрцы.

Не ведаючы адразу, як лепш растлумачыць дачцэ гэта цяжкое для іх абедзвюх пытанне, Даша спытала яе зусім не аб тым, аб чым думала:

— А ты, Марынка, любіш свайго тату?

— Люблю, бо ён мяне заўсёды на веласіпедзе катаў, і кніжкі чытаў кожны вечар, і ў кіно хадзіў са мною...— І гэтак жа, як і раней, лёгка і бесклапотна зноў спытала ў маці:— А ты яго не любіш?

— Чаму? — захацела ўсміхнуцца Даша і не здолела, толькі ўздыхнула: «Дзе Марынцы, дзіцяці, зразумець усё, дзе ёй разабрацца ў тым, што здарылася?»

— А чаму ты не напішаш, каб ён хутчэй прыязджаў дадому? — у голасе Марынкі зазвінелі крыўда і слёзы.— Усіх таты паедуць і прыедуць, а мой не...— І яна заплакала тымі дзіцячымі слязьмі, якія хутка прыходзяць і яшчэ хутчэй высыхаюць.

— І твой, Марыначка, тата прыедзе. Толькі не трэба плакаць...

...Тры гады таму назад Андрэй Хваля — вядомы скульптар, выдатны, на думку ўсіх знаёмых і самой жонкі, муж і наогул ва ўсіх адносінах станоўчы чалавек, з пакутлівай усмешкай шчырага раскаяння, узяў жонку за рукі і толькі ўсяго і сказаў ёй:

— Ты, Даша,— цудоўная жонка і выдатны чалавек... Я цябе не варты, і... даруй мне — мы павінны... Прашу, зразумей мяне...

Андрэй Хваля ўбачыў, як уздрыгнуў Дашын падбародак і збялелі шчокі. Ён адчуў вострую жаласць да яе і, каб чым-небудзь палегчыць нанесены ёй удар, паспрабаваў суцешыць:

— Я разумею... Ты... Марынка...

— Не трэба пра гэта,— пакруціла галавой яна і, не адважваючыся канчаткова паверыць у яго рашэнне, прамовіла: — Вось, аказваецца, на якім нетрывалым сучку трымалася наша шчасце.

Поўнымі слёз вачыма яна глядзела яму ў твар, стараючыся сустрэцца з позіркам яго вачэй, якім заўсёды так верыла. Андрэй Хваля адышоў да акна, потым зноў наблізіўся да Дашы.

— Асуджай мяне, як хочаш, толькі... не выкрэслівай з Марынчынага сэрца. Я ўсё зраблю, каб ёй жылося добра, каб яна не ведала цяжкасцей...

Гэты яго крок быў недаравальны, і ў Дашы загаварыла маці, моцная і ганарлівая сваёй сілай.

— За дачку табе няма чаго турбавацца. У яе ёсць маці!

Дашы Пятроўскай тады было дваццаць сем гадоў. Тры гады назад яна скончыла факультэт журналістыкі і адразу ж пайшла працаваць у газету. У яе быў муж — чулы і разумны дарадца і друг, і Марынка, іх трохгадовая дачка.

Чаго яшчэ было хацець ад жыцця, запоўненага прагай кіпучай дзейнасці, шчасцем маладосці і каханнем!

І вось у адзін момант, быццам жыццю гэтаму падставілі падножку, усё разбілася.

Яны доўга маўчалі. Першай загаварыла Даша.

— Зараз збяру твае рэчы,— яна падышла да шафы і, расчыніўшы яе, пачала механічна знімаць мужава адзенне, складаць яго сарочкі, бялізну.

Дзверы за Андрэем зачыніліся... Як і звычайна, трэба было павярнуць толькі адзін раз ключ і ісці ў пакой. Марынка ўжо спіць у сваёй пасцельцы... У кватэры прыбрана, утульна — садзіся за стол і пішы. Пачынай, перакрэслівай дзесяткі сказаў, адкладвай убок адзін за другім ледзь пачатыя аркушы — шукай патрэбны твайму артыкулу ці нарысу пачатак, які ніяк адразу не даецца ў рукі, не кладзецца на паперу. А знойдзеш гэты выраз, гэты пачатак — і тады самі пальюцца ў цябе думкі. І не згледзіш, калі час пройдзе, колькі спісаных аркушаў адкладзе ўбок паспешлівая рука, баючыся спазніцца і адстаць ад думкі... А потым зноў зазвініць у калідоры званок — і якое шчасце працягнуць свае рукі насустрач другім — моцным, цёплым, родным!..

Трэба толькі павярнуць адзін раз ключ... Даша механічна замкнула дзверы і накіравалася ў пакой. Раскіданыя на стале і на падлозе паперы, расчыненая шафа,

толькі што пачаты і забыты пачак «Казбека» — усё гэта вярнула Дашу да рэчаіснасці.

«Пайшоў. Назусім, назаўсёды пайшоў»,— прыпала яна тварам да спінкі канапы.

...І цяпер, выціраючы Марынчыны слёзы і пяшчотна цалуючы яе ў залацістыя валасы, Даша першы раз за ўвесь час свайго разрыву з Андрэем задумалася: ці правільна зрабіла яна, забараніўшы сустрэчы бацькі з дачкой? І не магла сабе нічога пэўнага адказаць.

5

Адразу ж з бальніцы Даша паехала ў рэдакцыю. Трэба было паведаміць аб выніках камандзіроўкі і здаць матэрыял, які быў зроблены там, на месцы, а затым тэрмінова засесці за нарыс у наступны нумар. Дадому яна вярнулася толькі ў дзевяць гадзін вечара.

Пераапранулася ў сваё просценькае хатняе плацце і, супакоеная, цяпер пайшла да Воранавых даведацца аб усім, што тут адбылося без яе.

— А вось і Даша, а я хацела ісці цябе клікаць разам з намі павячэраць,— узрадавалася Галіна Васільеўна.— Ну, усё ў парадку ў бальніцы?

Даша акінула быстрым позіркам прысутных і чуць даўжэй затрымалася на высокім, у ваеннай форме, чалавеку, які ўстаў, каб прывітацца з ёю.

— Знаёмцеся, калі ласка. Гэта мой брат, Платон Іванавіч Лагода, а гэта Пятроўская Дар'я Пятроўна, наша добрая суседка,— пазнаёміў іх Воранаў.

— Вельмі прыемна,— стрымана працягнула руку маёру Даша.

Жвавая па натуры і гаваркая з блізкімі, у прысутнасці незнаёмых людзей Даша неяк заўсёды замыкалася ў сабе, рабілася маўклівай і як быццам пахмурай, зусім не падобнай да сябе. Ведаючы гэтую рысу Дашынага характару, Воранава пастаралася адразу ўцягнуць яе ў агульную размову і папрасіла:

— Я пайду на кухню рыхтаваць вячэру, а ты, Даша, накрывай стол, а потым усё раскажаш нам пра Марынку...

— Калі ласка,— ахвотна ўзялася выконваць просьбу гаспадыні Даша.

Лагода не адводзіў ад яе позірку. Ён здагадаўся, што гэта была Марынчына маці, і быў здзіўлены і абрадава-

ны кантрастам, паміж сваім уяўленнем аб гэтай жанчыне і тым, якой паўстала яна перад ім наяве.

Яшчэ пры першым знаёмстве з Марынкай Лагода стараўся ўявіць сабе яе маці. І яна чамусьці ўяўлялася яму не іначай як непрыкметнай жанчынай, прыгнечанай няўдала складзеным жыццём.

— Як вы думаеце, Іван Васільевіч, не забракуе ваша жонка маю работу? — расстаўляючы прыборы, звярнулася да Воранава Даша.

— Жонка не ведаю, а я ўжо забракаваў. На стале няма галоўнага.

— У перакладзе на мову гаспадара — «живительной влаги»? За гэта я адказнасці не нясу,— усміхнулася Даша і стрэлася поглядам з Лагодам.

Як упрыгожвала яе цёплая ўсмешка!

І не сказаў бы нават пра яе, што вельмі прыгожая жанчына. Але калі Даша смяялася, дык смяялася кожная рыса яе твару: свежыя паўнаватыя вусны, роўненькія, адзін у адзін, зубы і асабліва вочы, цёмныя, выразныя, заўсёды нібы крышку засмучаныя, яны смяяліся, грэлі...

Даша была сярэдняга росту. Хадзіла яна лёгка і роўна і галаву несла крышачку прыўзнятай. Косы Даша, як ні хацела, выгадаваць не магла, і валасы падалі ёй на плечы лёгкімі падвітымі локанамі. І гэта рабіла яе маладзейшай.

Даша належала да ліку тых жанчын, хараство якіх не кідаецца ў вочы, а непрыкметна вабіць, захапляе, грэе.

І Лагода адчуў, што цяпло, якое бруілася з яе вачэй, адразу пранікла ў самае яго сэрца, моцна завалодала ім. Ён зразумеў: гэта была тая ўлада, аб якой ён заўсёды марыў і якую сустрэў і адчуў на сабе ўпершыню.

— Як Марынка? — падсоўваючы Дашы крэсла, калі яна скончыла збіраць на стол, упершыню звярнуўся да яе Лагода.

— Марынка? Дзякуй, яна ачуньвае...— падзякавала і крыху здзівілася Даша: адкуль ён ведае яе дачку? І ў сваю чаргу спытала:— Вы ўжо таксама ведаеце маю Марынку?

— Ведаю...— І Даша ўлавіла ў яго кароткім адказе нешта недаказанае.

— Я так радавалася гэтай камандзіроўцы, але хіба я паехала б, каб ведала, што так усё здарыцца?..— неяк адразу пасмутнела і змянілася яна ў твары пры ўспаміне аб Марынцы.

— Усё самае страшнае ўжо засталося ззаду.

— Пачакайце, вы былі ў Марынкі ў бальніцы? — аб нечым не зусім пэўна здагадваючыся, трывожна перабіла яго Даша.

— Быў, і не адзін раз, і мы з Марынкай пасябравалі...

Цяпер ёй было ўсё ясна. Хадзіў да Марынкі і дарыў ёй усё не бацька, не Андрэй... За гэты час, ён мо ні разу і не ўспомніў пра яе, інакш хоць пазваніў бы.

Бледная, з моцна прыкушанай ніжняй губой, Даша сядзела нерухомая, занадта пільна разглядала ўзор падушкі на канапе, і падбародак яе дрыжаў дробна-дробна.

— Ну, не трэба, не трэба, чаго ж цяпер хвалявацца, калі ўсё добра скончылася,— абняла яе Галіна Васільеўна.— Платон кожны дзень быў у Марынкі...

Але Даша толькі адмоўна пакруціла галавой, просячы гэтым самым не гаварыць нічога далей. Яна зрабіла яшчэ адно намаганне: стрымаць у сэрцы тую вялікую крыўду, якая перапоўніла яго і рвалася выліцца разам са слязьмі.

І Даша перамагла сябе.

— Вялікае вам дзякуй, Платон Іванавіч,— працягнула яна руку Лагоду.— Дзякуй ад усяго сэрца за маю Марынку... А я спачатку думала, што гэта Андрэй, бацька, прыходзіў да яе,— крыху памаўчаўшы, прамовіла яна і, каб не рабіць чужую вячэру сумнай, звярнулася да Воранавай:— Я ненадоўга да вас, Галіна Васільеўна, я хутка зноў пайду да Марынкі...

— У гэты час? — здзівіўся Воранаў.— Цябе ж ніхто не ўпусціць туды. Вазьмі і па тэлефоне пазвані, вось і даведаешся аб усім.

— Не, пайду. Я толькі гляну, як яна спіць...

Яна ўсміхнулася, і гэта ўсмешка яе цёплай ласкавай хваляй кранулася Лагодавага сэрца.

— І я з вамі пайду, Дар'я Пятроўна, возьмеце?

— Калі ласка,— з радасцю, як добраму старому знаёмаму, адказала яна.

— Ну, дык калі так, хутчэй за стол усе садзіцеся,— таксама радуючыся, што агульны настрой зноў узняўся, загадала ўсім Воранава.

— Ну, таварышы, каб усё добра скончылася, вып'ем па чарцы вось гэтага нявіннага пітва і, бог з вамі, ідзіце,— урачыста наліў усім чаркі белым партвейнам Воранаў.

— За Марынчына здароўе,— узняў чарку Лагода.

— Дзякуй, Платон Іванавіч. За ваша таксама,— расчулена адказала Даша.

Вячэралі нядоўга. Даша спяшалася. Платон наогул нічога не еў, спасылаючыся на абед, які быў сёння пазней звычайнага. Воранавы разумелі аднаго і другога і асабліва не настойвалі.

Даша пайшла да сябе і хутка вярнулася апранутай.

— Я гатова, Платон Іванавіч.

— Я таксама, толькі вось ніяк не знайду, дзе мая шапка.

— Платон, яе хлопцы ўсё мералі, напэўна, у спальню зацягнулі,— успомніла Галіна Васільеўна і сапраўды вынесла адтуль Лагодаву шапку.

— А можа, старэнькая, і мы з табой сваю старасць вынеслі б на людзі? — звярнуўся да жонкі Воранаў.

— Не, ты адпачні, табе яшчэ ў рэдакцыю трэба схадзіць, а ў мяне таксама ёсць справы,— адмовілася Галіна Васільеўна, робячы мужу нейкія ўмоўныя знакі. Ён нічога не зразумеў, але згадзіўся:

— Не дык не...

— Будзеце потым наракаць,— паспрабавала сагітаваць сяброў Даша.

— Няхай сядзяць дома, куды ім старым захапляцца месячнымі вечарамі,— пажартаваў Лагода.

...А вечар і сапраўды быў чароўны. Над прыціхлым горадам, урачыста сеючы халоднае ззянне, плыў поўны месяц.

Колькі разоў у сваім жыцці глядзяць на яго людзі. І колькі самых розных пачуццяў, заўсёды такі аднолькавы, бязмоўны і халодны, будзіць ён у чалавечых сэрцах!

Як кліча некуды юначае сэрца вось такая месячная ноч, як многа абяцае яму!

Трывожыць яна і сэрца сталага чалавека. І яму навявае яна нейкія чароўныя казкі-пачуцці. Але часцей за ўсё абуджае бязмоўнае шкадаванне пра тое, што засталося ў ранняй маладосці і што не вернецца, хоць і да старасці яшчэ далёка.

Чароўны вечар захапіў Дашу і Лагоду, як толькі яны выйшлі з дому. Маўчанне перарваў Лагода.

— Як шкада, што мне заўтра трэба ўжо ехаць...

— Як заўтра? — прыпынілася Даша і першы раз за ўвесь вечар так блізка стрэлася з яго позіркам.

Лагода трымаў яе пад руку, і яна толькі цяпер убачы-

ла светлы рубец на яго правай шчацэ — ад падбародка да вуха.

— Што гэта ў вас? — зусім падсвядома дакранулася яна рукой да таго месца, дзе ў яго быў рубец.

— А гэта так, адна ваенная зарубіна,— адчуваючы, як загарэлася пад яе тонкімі пальцамі яго шчака, адказаў ён і ўзяў Дашыну руку ў сваю.— Не хочацца мне заўтра ехаць, Дар'я Пятроўна... Каб вы толькі ведалі, як не хочацца...

— Ой, сапраўды, як шкада! — горача адгукнулася яна.— І нічога нельга змяніць, адцягнуць хоць дні на два-тры ад'езд?

— Нельга.

— А я думала, што вы яшчэ доўга будзеце гасціць...

У бальніцы былі нядоўга. Дзяжурная сястра дала Дашы чысты халат і дазволіла ёй паціхеньку, усяго толькі на пяць хвілін, зайсці да Марынкі. Вярнулася Даша расхваляваная, са слязьмі на вачах.

— Што з вамі, як Марынка? — занепакоіўся Лагода.

— Нічога. Спіць. Абняла моцна ляльку і спіць. Кажуць, хацелі забраць яе на ноч, дык Марынка расплакалася: «Не дам! Мне яе прынёс мой...» — І Даша, не дасказаўшы, накіравалася да вешалкі за паліто.— Сястра кажа, што яна вельмі сумуе і ўсё пытае, чаму яе тата не прыходзіць да яе...

Па дарозе з бальніцы Даша і Лагода селі на трамвай. Сядзелі на адной лаўцы, гаварылі мала. І калі іх позіркі сустракаліся, на яго бязмоўнае пытанне адказам быў вялікі смутак Дашыных вачэй.

Назаўтра з рэдакцыі Даша пазваніла Воранавым, што прыедзе праводзіць Лагоду на вакзал, к поезду — раней не зможа вырвацца.

...І вось заставаліся лічаныя хвіліны да адыходу поезда. Разумеючы прычыну лёгкай усхваляванасці і непакою Лагоды і стараючыся супакоіць яго, Галіна Васільеўна быццам між іншым гаварыла:

— Напэўна, Даша не паспела здаць у час матэрыял у нумар...

Правадніца папярэдзіла праважатых, каб пакінулі вагон. Воранавы развіталіся з Лагодам і пайшлі ўжо, каб на хаду поезда памахаць яму рукой. А званка адпраўлення ўсё яшчэ не было... Не было і Дашы. Лагода ступіў

ужо на падножку вагона. І раптам яго прыкаваў да падножкі вокліч:

— Платон Іванавіч! — Ад хуткага бегу і хвалявання Даша задыхалася.

— Што здарылася, Даша? — Лагода нават сам не заўважыў гэтага слова «Даша», якое вырвалася з самага сэрца, перапоўненага захапленнем і радасцю.— Я не ведаў, што думаць...

— Я не магла знайсці ваш вагон. Прамы на Ленінград, мне сказалі, у тым канцы саставу. І я дзесяць хвілін бегаю вось тут па пероне, шукаю ўпоцемку...

Дзесяць хвілін! Яна страціла дзесяць хвілін — такіх неабходных, такіх дарагіх... Але ў Лагоды таксама не было часу шкадаваць аб гэтым.

— Даша, поезд вось-вось пойдзе...

— Ах, праўда! Платон Іванавіч, дарагі, родны, як мне вас аддзякаваць за Марынку?..

— Не трэба дзякаваць, Даша. Я шчаслівы гэтымі апошнімі хвілінамі, якія вы дорыце мне...

Ён так і не выпускаў яе рук са сваіх і не адводзіў захопленага погляду ад яе шчырых, зараз такіх іскрыстых вачэй.

...Зазвінеў апошні званок, і ў тамбуры нехта з палёгкай усклікнуў:

— Нарэшце! На чатыры хвіліны затрымаліся...

Поезд рухаўся. Лагода стаяў на падножцы. Стараючыся ісці поруч і ўсё адстаючы і адстаючы ад яго, махала яму рукой Даша.

...Праз тыдзень яна атрымала кароценькае пісьмо.

«Дар'я Пятроўна! Мілая, дарагая Даша! І так і гэтак — усё роўна мілая і дарагая. Напішыце мне ў адказ вельмі мала, але затое шчыра: ці згадзіліся б вы, каб хоць калі-небудзь да Марынкі прыехаў тата, з якім яна сустрэлася ў бальніцы?

*Платон Лагода»*

* * *

Праз паўгода пасля гэтага пісьма, у адзін з апошніх майскіх ранкаў, трымаючы Дашу і Лагоду за рукі, Марынка прайшла па сваім двары з ганарлівым выглядам самага шчаслівага чалавека ў свеце.

— Дзеці, глядзіце, мой тата прыехаў!

*1953*

# БАБІНА ЛЕТА

Не бушавала, не буйным цветам разлівалася — млела і песцілася пад скупымі праменнямі восені бабіна лета, з цікаўнасцю заглядваючы ў вокны новай хаты ўдавы Варвары.

— Півоні лепей бы куст пасадзіла, чым гэтым няшчасцем агародчык загаціла,— жартавалі мужчыны, не прамінаючы кінуць заўвагу наконт Варварынага агародчыка.

— Півоня ўспыхнула і патухла, а бабіна лета да самых маразоў грэе,— смяецца ўдава, і, сапраўды, ці то ад цвету гэтага апошняга, бледна-ружовага, ці то ад смеху ўдовінага, іскрыстага, звонкага, цяплей робіцца на сэрцы...

Чараўніца жанчына!

Не вельмі захапляліся ім, гэтым смехам, толькі Варварыны суседкі. А калі казаць праўду, дык і недалюблівалі прыгожую ўдаву. Між сабой любілі пагаварыць пра Варвару, аднак тое, што гаварылася за спіной, ні ў адной не хапала адвагі сказаць ёй у вочы. Як ні кажы, дрэннага за Варварай ніхто не заўважаў. А што смяецца яна званчэй іншых, дык, сумленна кажучы, каторая з іх адмовілася б ад гэтых жаночых чараў? Ды і сама Варвара, па натуры добрая і спагадлівая жанчына — на слова была вострая і рэзкая. У крыўду сябе ніколі не давала. Часам хто-небудзь з жанок захоча паспачуваць ёй: цяжка, маўляў, жанчыне адной без гаспадара — хто што захоча, тое і скажа, і зробіць...

А яна і вокам не міргне:

— Мне ніхто не адважыцца ні сказаць абы-што, ні зрабіць чаго благога. Я сама за сябе пастаяць умею. Ды і савецкая ўлада на маім баку, заступіцца, як трэба.

У суседкі пасля гэтага адпадае ўсякая ахвота да спачуванняў ганарлівай удаве, а недзе глыбока ў сэрцы заварушыцца камячок крыўды: «Бач, вялікае начальства з сябе строіць... Ёсць жа ў калгасе і за брыгадзіра большае начальства».

А Варвара, улавіўшы суседчын настрой, не паказвае нават выгляду, што заўважыла гэта. Яна спакойна і проста кідае:

— Дык уходжвайся хутчэй, Кацярына, ды на канюшыну хутчэй хадзем. Хмарыцца, каб дажджу часам не

нагнала... Пайду астатніх баб клікаць, нешта сёння марудзяць.

Ускінула граблі на плячо і накіравалася ў сваю дарогу, лёгкая, жвавая, з ладным тонкім станам. Любата паглядзець!

Узяў усемагутны час усё-ткі сваё: загаіў рану ў сэрцы, высушыў слёзы і на светлы Варварын твар зноў павеяў лёгкім подыхам. І зноў, нібы кветка, красуецца Варвара, некалі самая прыгожая дзяўчына ў вёсцы, а зараз знатны брыгадзір.

...Летам сорак чацвёртага года атрымала Варвара звычайны канверт, праштампаваны вайной... Тры дні як непрытомная хадзіла з кутка ў куток, брала то адну, то другую рэч, якую некалі ў руках трымаў Пятрусь, і зноў галасіла. Прыпаміпала кароткі час сумеснага жыцця, і, хоць было яно, як і ва ўсіх людзей, не без цьмяных плямак, зараз ёй здавалася яно такім шчаслівым, такім светлым.

Неяк раніцай зайшла да яе суседка. Трох мужчын забрала з яе хаты вайна.

— Ты мяне паслухай, Варвара... Я трох не дачакалася з вайны: мужа і двух сыноў. Адна засталася, як палец... А ў цябе дзеці, і ты цяпер ім павінна быць не толькі маткай, але і бацьку замяніць. Дык вось паслухай мяне: слязьмі не дапаможаш гору. А жыць трэба. І дзяцей гадаваць. Ды і сама маладая яшчэ... Ідзі на працу. За самую цяжкую справу вазьміся, такую, каб рук не пакладаць. Іншага лякарства не знойдзеш сваёй ране. Помні маё слова...

— А куды ж дзяцей дзену? Малыя, як іх адных дома кінеш — і паб'юцца, і пажару наробяць яшчэ...

— Вазьмі бабку Матруну. Таксама ж асірацела за вайну. Адна жыве: ні кала ні двара. Які ўжо з яе работнік у полі, а дома яшчэ тупала б. Абедзвюм вам будзе добра: у яе — гатовы кавалак хлеба, а ў цябе — дзеці дагледжаны. І ты яе не пакрыўдзіш, і яна ў цябе за родную маці будзе...

— А ці згодзіцца? — нейкай слабай надзеяй успыхнулі на момант Варварыны вочы.

— Згодзіцца, чаму не: я сама пагавару з ёю. А ты бярыся за брыгаду. Антось Дубовік на фронт едзе, а ты на яго месца заступай.

— Няхай сабе і брыгада,— думаючы зусім пра другое, абыякава згадзілася Варвара.

* * *

У пераможскага старшыні Алеся Мяты свая хата ў маладым садку, нібы ў вянку, хаваецца, а ён ніколі не прамінае падзівіцца на просценькі агародчык удавы Варвары.

— І скажы ты, як яно разліваецца ў цябе,— захапляецца ён пяшчотным бабіным летам.

— На тое і бабіна лета,— жартуе Варвара, і, здаецца, не з вачэй яе сініх, бяздонных, а з самага сэрца ляцяць іскры ў патрывожанае мужчынскае сэрца.

Нашто непахісным, а часам, нібы лёд, халодным здаецца яно, а тут вось заляцелі ў яго іскаркі ўдовінага смеху, і непрыкметна растае яно, робіцца такім падатлівым і мяккім, нібы воск.

Адмераўшы нялёгкімі ботамі роўна столькі дарог, колькі адвяла іх на салдацкую долю вайна, вярнуўся дадому Алесь Мята і хату сваю застаў зусім пустую. Жонку і двое меншых дзяцей, як сям'ю партызана-камуніста, закатавалі немцы. Застаўся старэйшы сын Андрэй. Але і ён, прайшоўшы праз вайну партызанам, зараз вучыўся ў інстытуце ў Маскве і прыехаў дадому ў кароценькі водпуск, каб пабачыцца з бацькам. Тры дні сурова, пасалдацку, успаміналі яны нядаўняе мінулае і адначасова будавалі планы на будучыню. На чацвёрты дзень запрог Алесь калгаснага каня і завёз Андрэя на станцыю. Моцна пацiснулі яны адзін аднаму рукі, пацалаваліся. І павёз цягнік сына ў Маскву, а бацьку — рухавы малады конік назад, у «Перамогу».

Пасля ад'езду Андрэя неяк асабліва недарэчнай здалася Алесю Мяце прастора ўласнай хаты. «І навошта яна мне аднаму такая абозня? — разважаў сам з сабой Алесь,— гэта ж тут цэлы полк размясціць можна... Хоць ты ідзі да суседзяў, у кватаранты каго кліч...»

І, мусіць, многа яшчэ іншых роздумаў турбавала б Алеся Мяту ў адзіноце ва ўласнай хаце, каб не час і не справы, якія не далі доўга задумвацца.

Выйшаў ён з плугам у поле. Босыя ногі ступалі па цёплай зямлі, і гэта цяпло і пах густой жыватворнай вільгаці, здавалася, па жылах цяклі і такім бадзёрым і моцным рабілі цела, даўно сумаваўшае па працы, што з дзяцінства ўвайшла ў кроў і стала неабходнай, як глыток чыстага паветра, як скібка добра выпечанага жытняга хлеба.

* * *

І адкуль яно прыходзіць, адкуль з'яўляецца пачуццё гэтае, незразумелае, незвычайнае, якому і назвы нават адразу не адшукаеш?

Цэлымі гадамі жывуць і добра ведаюць адзін аднаго два чалавекі. Жывуць і жывуць. Сустрэліся, прывіталіся, а разышліся — зноў адзін аб адным забылі да наступнай сустрэчы.

А потым зусім нечакана надыдзе такі момант, які пераверне ўверх дном душу абодвум гэтым людзям. І не скажаш, што тут заўсёды трапляецца нейкае выключнае здарэнне. Часцей за ўсё дык гэта зусім нязначны факт, дробязь, на якую іншы раз і ўвагі не звярнуў бы. І вось сапраўдны пераварот зробіць гэта дробязь у сэрцы, і тады думай: што ж усё-ткі здарылася?..

Неяк адвячоркам — гэта было пад восень — Алесь Мята выйшаў з калгаснай канцылярыі разам з Варварай Акунец. Нарады на працу на заўтра былі складзены, штодзённая кароткая нарада брыгадзіраў і членаў праўлення праведзена. Усе бліжэйшыя задачы прадуманы і абмеркаваны, і цяпер старшыня са спакойнай душой ішоў дадому. Праўленне і канцылярыя, і наогул увесь калгасны цэнтр быў у першай брыгадзе, за пяць кіламетраў ад дому старшыні.

У гэты дзень, як на злосць, спусціла яшчэ камера веласіпеда, і хадзіць шукаць па вёсцы спраўны веласіпед у хлопцаў Алесю не хацелася. Ат, і так дойдзе.

Варвара таксама спяшалася дадому, непакоячыся, як там дзеці і старая бабка Матруна самі без яе спраўляюцца.

Ішлі, размаўлялі аб усім штодзённым, звычайным, аб калгасных справах, аб заўтрашнім клопаце.

Алесь Мята дастаў на хаду махорку, скруціў цыгарку і звычным рухам, лапаючы па кішэнях штаноў і пінжака, пашукаў запалкі. Не было.

— Таксама мне курэц, а ходзіш без агню,— пажартавала Варвара.

— Не кажы...

— Пачакай, доідзем да мае хаты, я табе вынесу карабок... Ці мо сам зойдзеш паглядзіш, як брыгадзір твой жыве?..

— Ды яно-то трэба было б, але няхай, Варвара, як-

небудзь іншым разам я зайду, а то, па праўдзе сказаць, сёння пазнавата ўжо...

— Ну то пачакай, зараз вынесу,— лёгенька скрыпнуўшы новымі веснічкамі, Варвара знікла. Толькі і паспеў Алесь заўважыць дробныя светлыя галоўкі бабінага лета ў агародчыку.

— На, прыкурвай,— чыркнула сама яна запалкай, падносячы агонь да папяросы, якую ён не выпускаў з рота.

— Вялікае табе дзякуй, Варачка,— некалькі разоў узапар зацягваючыся, каб распаліць папяросу, шчыра падзякаваў Алесь.— Выратавала ты мяне. А то курцу, ведаеш, без курыва, што п'яніца без гарэлкі. Жыццё не ў жыццё...

— Вазьмі на дарогу, а то яшчэ захочаш курыць,— працягнула яна запалкі.

— А і сапраўды, часам яшчэ надумаюся закурыць. Дзякуй, бывай здарова...

— Ідзі здаровы, Алесь,— кінула яна, тут жа парываючыся бегчы назад у двор.

* * *

Ішоў дадому Алесь Мята, курыў, і, можна сказаць, не ішоў, а самі ногі яго неслі. І не мог ён ніяк зразумець, чаго так лёгка і светла было на сэрцы ў яго, чаму дарога здалася яму такой кароткай; чаму не цягнула яго ўласная хата і чаму да позняй ночы праседзеў ён на парозе, курачы папяросу за папяросай ад Варварыных запалак.

Неяк трывожна сёння і ў Варвары на сэрцы. Ухадзіўшыся з хатнімі справамі, накарміўшы і адправіўшы спаць дзяцей і бабку Матруну, яна садзіцца за стол, падсоўвае бліжэй да сябе лямпу і пераглядае Косцікава і Валіна адзенне. Спрытна арудуючы іголкай, яна кладзе латку на Косцікавы штаны, яшчэ зусім новенькія (тыдня не пранасіў нават), разлупленыя на калене жывасілам... У Валі зноў гузік у сукенцы вырваўся. Ужо не маленькая і сама здолела б прышыць, але ці ёй у галаве. Ведама, дзіця...

Варвару непакоіць думка, што ўжо цяпер трэба было б ёй паехаць у горад і купіць ім абаім што-небудзь з верхняй вопраткі. Са старых світак і павырасталі, ды і папасілі, можна сказаць: рукавы і латала, і падоўжвала... І абутак трэба. Косцік за вясну збіў чаравікі, а Валі

туфлі цесныя. Вось табе яшчэ адзін выдатак... Хоць і нялёгка адной з усім справіцца, а горш за людскіх сваіх дзяцей пускаць не хочацца.

І так ім без бацькі даводзіцца нялёгка.

Варвары чамусьці без усякай сувязі прыходзіць на памяць прысутуленая шырокая Алесева спіна і яго твар, асветлены аганьком запалкі.

«І не баіцца ён ноччу кожны раз праз лес хадзіць. Здаецца, каб азалацілі, ніколі не пайшла б адна».

І чыста па-жаночаму пашкадавала: «Прыйдзі вось мужчына цяпер у поўнач дадому і рабі адзін што хочаш. Нават есці няма каму табе падаць...»

Уявіла, як ідзе па лесе Алесь адзін: сонна шапоча лісце на дрэвах, трашчыць сучча пад нагамі, недзе спрасоння пішчыць нейкая птушка... Цёмны лес нібы прыслухоўваецца да таемных гукаў і цішы... «Ніколі не пайшла б адна,— яшчэ больш упэўнена думае Варвара.— А Алесю нічога, прывык і не зважае...»

І яна ўяўляе, як ён ідзе адзін лесам, курыць, і яркія іскаркі папяросы асвятляюць яму дарогу. Яе іскаркі...

І Варвара ўсміхаецца ад гэтай думкі.

* * *

Косціку ўсяго пятнаццаты год пайшоў, а надумаецца што-небудзь зрабіць, дык хоць ты яму кол на галаве чашы — не адгаворыш.

— Кінь, кажу табе! Дай мне сякеру,— у каторы раз крычыць Варвара сыну.

А ён, добра ведаючы цану жаночай сіле, не ўступае ў спрэчкі з маці, а намагаецца сам, чаго б гэта ні каштавала, на друзачкі разбіць гэты праклятьі дубовы камель. Не ёй жа, мацеры, калоць яго.

— Косцік, сыночак,— пераходзіць ужо на просьбу Варвара.— Хопіць ужо, на цэлы тыдзень і так накалоў. Пашкадуй сваю сілу — колькі яе ў цябе ёсць...

Косцік на момант выпростваецца, рукавом выцірае потны лоб.

— У цябе больш,— пакрыўджаны апошнімі яе словамі, адказвае ён і зноў прымаецца за камель.

Адчыняюцца веснічкі, і абое яны паварочваюць галовы на скрып.

— Маладзец, гаспадар! Матцы на паўгода без клопату галава. Бачыш цяпер, Варвара, мужчынскую сілу,—

стрымана гаворыць Алесь Мята, накіроўваючыся да падпаветкі, дзе ваюе Варвара з Косцікам, а Косцік — з таўшчэзным дубовым камлём.

— Няўжо ж што,— зардзелася ад задавальнення маці,— дапамога ўжо ёсць. Не трэба звяртацца да суседзяў... Вось толькі не памірымся ніяк,— паказвае яна вачыма на сына.

— Давайце, хіба я вашу спрэчку спыню.

Гах!.. гах!..— толькі свішча сякера, і ў момант непадатлівы дубовы камель у моцных мужчынскіх руках разлятаецца на кавалкі.

— Чыстая работка! — з захапленнем, быццам тут ёсць і яго заслуга, кажа Косцік. І, паглядаючы на матку, урачыста пытае:

— Бачыла, як трэба?

— Дзіва што бачыла...

— Э-э, Косця, бачу, брат, у цябе тут заціск ініцыятывы,— складваючы ў акуратную сціртy наколатыя дровы, звяртаецца да хлопца Алесь Мята і ківае на Варвару.

Косця разумее жарт старшыні калгаса, але, не хочучы паказаць сябе маленькім, у тон яму адказвае:

— Яна заўсёды так, абы ўзяў сякеру ў рукі, дык толькі і чуеш: «Дай лепш я, бо ты яшчэ часам...»

— Нагу ці руку адсячэш,— усміхаецца Алесь.— Яно, брат, усе маткі такія.

Не вытрымлівае і Варвара, смяецца:

— Ты глядзі, яшчэ яны тут удваіх будуць насміхацца з мяне...

— Чаго насміхацца... Мы проста кааліцыяй пойдзем на цябе. Так, Косця?

— Так,— ахвотна згаджаецца Косцік і гэтак жа, як і Алесь, хітра пасмейваецца.

Дровы складзены ў касцёр. Косцік вешае пілу ў падпаветцы на цвік, Алесь змахвае з пінжака прыліпшае смецце, зашпільваецца. І тут Варвара заўважае: у пінжаку ў Алеся не хапае гузіка...

— Пачакай, Алесь, хвілінку. Скінь пінжак, у цябе вунь гузік вырваўся...

— А-а,— Алесь механічна выцягвае нітку, на якой трымаўся некалі гузік, і, адчуўшы сябе няёмка перад Варварай (ці то за яе прапанову, ці то за тое, што такі неахайны — гузіка не прышые), скорагаворкай адмаўляецца:— Ды нічога, гэта ён у мяне ўчора...— і лезе ў кішэню, шукае гузік.

— Калі табе з гэтымі гузікамі вазіцца, скідай, я ў момант прышыю,— рашуча загадвае яму Варвара і тут жа аддае другі загад:— Збегай, Косцік, вазьмі ў шуфлядзе чорны гузік і іголку з чорнай ніткай.

— Ну, вось яшчэ, не хапала табе маіх гузікаў,— слаба супраціўляецца Алесь.

— А табе маіх дроў? — глядзіць на Алеся Варвара, і яе глыбокія сінія вочы шчыра супакойваюць Алеся: ёсць аб чым гутарыць...

— Садзіся, пасядзі. Я ў момант,— кажа Варвара.

І сапраўды, невялікая рука яе спрытна снуе над Алесевым пінжаком. Гузік прышыты. Варвара раскідвае пінжак на каленях і крытычна праглядае рукавы: ці не падпаролася падкладка, ці не абтрапаліся краі. Усё ў парадку. Вешалка толькі адарвалася, і на каўняры відзён след ад цвіка.

— Адну хвілінку,— зноў кажа Варвара і прышывае вешалку.

— Дзякуй, дзякуй, Варачка. Толькі ты дарэмна гэта. Я і сам здолеў бы. У партызанах навучыўся ж.

Варвара, добра разумеючы Алеся, не пярэчыць.

— Дзіва што навучыўся,— кажа яна.— Толькі ўсё роўна так, як жанчына, не зробіш. Таму вельмі не саромейся, мо што пашыць трэба, дык я ж умею, і машына ў мяне ёсць. Прынось. Пашыю.

— Дзякуй, Вара, у цябе і без мяне хапае спраў.— Алесь крышку марудзіць, каб не адразу пакінуць двор Варвары, і звяртаецца да яе сына:— Ну, а як з рыбалкай, Косця?

— Я хоць заўтра, толькі каб было з кім. Ды каб човен быў...

— Човен у мяне ёсць. Давай, брат, заўтра ў тры гадзіны раніцы. Не праспіш? Каля брадка сустрэнемся... Гадзінку парыбалім, а там разам з людзьмі і на працу паспеем...

— О, то справа! — радасна згаджаецца Косця.— Я не прасплю.

Варвара глядзіць на іх абодвух з усмешкай і думае: «Ужо дамовіліся... А Косцік — зусім як сталы мужчына...»

І ёй прыемна, што яны між сабой дамовіліся, што харошы дзень сёння выдаўся. Вельмі харошы...

* * *

Быў суботні вечар. Варвара вярталася з поля дадому з захадам сонца.

Хацелася пабыць са сваімі думкамі сам-насам, і яна адстала ад жанок.

...Вось ужо два тыдні як ляжаў у бальніцы Алесь Мята. Адкрылася старая рана, і трэба было зноў рабіць аперацыю — вымаць асколкі. Цэлы тыдзень Варвара насіла адну думку — пайсці ў нядзелю праведаць Алеся. Нічога асаблівага ў гэтым яна не бачыла — звычайная чалавечая ўвага. Аднак, калі яна сказала аб сваім намеры жанкам, яе добрыя суседкі з усмешачкай пераглянуліся: каму ж, маўляў, і не праведаць Алеся, як не ёй, Варвары. Улавіўшы двухсэнсавае адценне жаночых усмешак, Варвара глыбей замкнула ў сабе свой намер і свае думкі і больш аб гэтым не заікалася нікому. Калі так, дык чаму ж і сапраўды ёй не пайсці, не праведаць Алеся!

Яна міжвольна лавіла сябе і на другім: чаму, уласна кажучы, гэтае пытанне так хвалюе яе і чаму сама яна быццам не да канца верыць, што яе намер не толькі звычайная чалавечая ўвага да Алеся, а нешта глыбейшае і цяплейшае...

Прыйшоўшы дадому, яна па звычцы спынілася ў дзвярах — выцерла ногі аб палавік. У хаце адчувалася вільгаць чыстай, нядаўна вымытай, падлогі і пахла палявымі кветкамі. На стале, засланым белым падкрухмаленым абрусам, стаяў свежы букет. І фіранкі Валя павесіла новыя: з марлі, падсіненыя і таксама злёгку падкрухмаленыя. У хаце было чыста і ўтульна, і Варвара з бязмоўным захапленнем і замілаваннем стаяла і глядзела на сваю дачку, якая ўзбівала вышэй і так высокія падушкі.

Падышла да яе і, узяўшы за тоненькія рукі дзяўчаці, неяк асабліва пяшчотна прыціснула да сябе.

— Гаспадыня мая залатая... А Косцік дзе?

— Пайшоў з бабай Матрунай у хлеў, загарадку карове загарадзіць, у абед рагамі разбушавала.

Віхрам уляцеў у хату Косцік.

— І ты ўжо, мама, дома? Глядзі, які парадак наша Валя навяла — нават ступіць боязна.

— Гаспадары мае любыя! — расчулена прамовіла Варвара, любуючыся сваім шустрым віхрастым сынам.

— Рыхтуй, Валя, вячэру,— загадаў Косцік сястры,— а я пайду дроў яшчэ прынясу на заўтра.

— На вуліцу ўжо хочаш імчацца? — папракнула Валя.

— Хутчэй, хутчэй, не марудзь!

Маці з усмешкай сачыла за іх рухамі і размовай і думала: «Такія розныя яны ў мяне, і ў той жа час такія падобныя адно на аднаго. Мае дзеці!»

Назаўтра, надзеўшы сваё святочнае плацце, Варвара пайшла ў бальніцу да Алеся Мяты.

Там ёй сказалі, што Алесю дазволяць выйсці ў сад. Варвара прысела на лаўку ў альтанцы, апавітай дзікім вінаградам. Яе не было відно, затое яна бачыла ўсіх, хто выходзіў з бальнічных дзвярэй.

Алесь Мята выйшаў на ганак у караткаватым для яго высокага росту сінім халаце і мяккіх тапачках. Адной рукой ён падтрымліваў мыліцу, а другой механічна прыгладжваў кароткія, з прыкметнай сівізной на скронях валасы і вачыма недаўменна шукаў некага. Вось ён зрабіў крок уніз па прыступах, і Варвара ўбачыла, як на твар яго лёг адбітак болю. І тут жа ёй здалося, што гэта боль пранік ёй самой аж у сэрца.

— Алесь,— падалася яна насустрач яму,— гэта я прыйшла цябе праведаць... Мо не рады будзеш... Напэўна ж, не чакаў?

Ці патрэбна было пытаць, ці сумнявацца яшчэ ў гэтым? Зблажнелы за два бальнічныя тыдні Алесеў твар ад такой нечаканай радасці змякчыўся і прасвятлеў.

— Што не чакаў, дык не чакаў... А што прыйшла, дык за гэта не ведаю, як і дзякаваць табе...

— За што тут дзякаваць. Надумалася — і прыйшла. Цэлы тыдзень збіралася, ды сам жа ведаеш, якая пара: ні на хвіліну не вырвешся... А гэта я табе клубнікі прынесла, а то ў бальніцы тут, напэўна, і не паспытаеш яе...

— Дзякуй, Варачка, толькі навошта ты...

— Ды садзіся ты, не стой, цяжка ж табе. Хадзі вось сюды, у цянёк...

— Ну, дык расказвай, якія навіны ў калгасе. Здаецца, год там не быў... Пазаўчора да мяне прыходзілі Зіма Пятрусь з Лугавым Іванам. Мы тут, можна сказаць, сапраўдную нараду наладжвалі...

— Дзіва што, брыгадзіры і старшыня... Што ж яны табе гаварылі? Зіма, нябось, слязу пусціў: яго брыгаду абдзялілі, дзве касілкі далі ў Варварыну брыгаду, а яму толькі адну...

— Было і гэта,— засмяяўся Алесь,— ёсць такі грэх за чалавекам — прыбядніцца.

— Я ж так і ведала. Ён мне самой душу дастаў за гэту касілку. Заўсёды чалавеку здаецца, што ўсе яго хочуць абдзяліць, а другім, паадварот... Кажы лепей, як твае справы, калі аперацыя, ці мо так абыдзецца? Мо вылечаць без аперацыі?

— Не, Вара, не абыдзецца. У аўторак... Добра, што ты зайшла сёння да мяне. Цяпер мне весялей будзе і на аперацыйны стол класціся,— пажартаваў Алесь.

— Лепей было б, Алеська, без яго абысціся... А што дактары кажуць, не вельмі страшная аперацыя?

— Што яны кажуць? Кажуць, што ўсё будзе добра, ды я і сам тое ж думаю: усё будзе добра. Ну, а сама як ты маешся, Вара?

— А нічога, маюся. У брыгадзе таксама, не хачу крыўдзіцца, справы ідуць. Столькі ўжо сена накасілі ды насушылі! Мурог у гэтым годзе, як ніколі...

— Ты ўжо вунь як загарэла,— заўважыў ён, слухаючы яе і міжвольна любуючыся здаровым смугла-ружовым загарам, што памаладзіў Варварын твар і роўна лёг на прыгожую шыю і поўныя рукі, адкрытыя да локцяў.

— Мне нядоўга, за лета што цыганка чорная зраблюся... Ды чаму ты ягад не ясі? — каб адвесці яго позірк ад сябе і схаваць сваё замяшанне, падсунула Варвара кошык з клубнікай бліжэй да Алеся.

— Ем, ем, ты таксама еш. Занудзіўся я па справе, па калгасу і... па ўсіх вас занудзіўся...

— Ну, нічога, пацярпі. За калгас не хвалюйся, за дом таксама. Там жа ў цябе нехта ёсць? Суседзі даглядаюць?.. Адным словам, не хвалюйся. Ачуняеш, тады зноў усё будзе, як і было.

Алесь глядзеў на Варвару, слухаў яе голас і сам сабе чагосьці непрыкметна ўсміхаўся.

Яна заўважыла гэту, як ёй здалося, нейкую дзіўную яго ўсмешку і не стрымалася, сама засмяялася і запытала яго:

— Чаго гэта ты глядзіш так на мяне і пасміхаешся?

— Пасміхаюся таму, Варачка, што, здаецца мне, не зусім усё будзе так, як было...

— А як жа будзе? — спачатку здзівілася яна, а потым, глянуўшы ў яго вочы, якія шукалі яе пагляду, здагадалася, што ён недагаварыў, і разгубілася і пачырванела.

— Усё будзе добра, толькі ачуньвай,— паўтарыла яна, каб не маўчаць.

Сястра паклікала Алеся ў палату. Ён са шкадаваннем паглядзеў на Варвару: цэлы дзень так і праседзеў бы тут разам з ёю.

Варвара правяла яго да ганка.

Яна пайшла з бальнічнага двара, а Алесь Мята, аж пакуль і не знікла яна за варотамі, стаяў на ганку і глядзеў ёй услед.

* * *

Жартуюць, па-свойму насміхаюцца з Алеся мужчыны:

— Дакуль ты будзеш боты біць дарэмна? Не іначай не даецца, брат, у рукі брыгадзірша?

Алесь дабрадушна косіць чорным цыганскім вокам, круціць у добры палец таўшчынёй цыгарку і, зацягнуўшыся пякельным дымам уласнага самасаду, не адмаўляецца:

— А то даецца. Пэўна, што не.

І жанок цікавіць такая няпэўнасць:

— Калі, Варвара, вяселле будзем гуляць? Годзі вам валаводзіцца...

— Пасагу, малады кажа, мала,— жартуе Варвара.

— А каб ён не дачакаў, каб ён... Мала яму тваіх працадзён, дык яшчэ пасаг дай,— усур'ёз абураюцца сталыя жанкі.

А маладзейшых не правядзеш.

— Ой, не круці, дзеўка. Напэўна, абое хочаце вяселле скруціць... Ды не ўдасца. Так і ведайце: усім калгасам самі ўвалімся ў хату. Тады нікуды не дзенецеся...

Позна вечарам, калі ўжо і калгасныя справы ўладжаны, і свая гаспадарка дагледжана, і нават Валя з Косцем, прыйшоўшы з вуліцы, соладка паснуць у сенцах, часам прысядзе да стала Варвара, пакладзе агрубелыя ад працы і смуглыя ад сонца рукі на белы абрус, адпачывае, думае.

Кожны раз (калі не вельмі спозніцца) рыпне падгніўшая дошка на ганку,— і вось ён на парозе, крыху прысутулены, заўсёды з добрай усмешкай у глыбока запаўшых чорных вачах.

— Ну, як справы, суседка-кума?

— Ціха ты! Дзяцей перапужаеш! — шэптам загадае Варвара.

— Ай-яй, забыў. Даруй, галубка,— смешна, як гэта робяць дзеці, затуляе ён рот карычневай далоняй і, спыняючыся перад Варварай, працягвае насустрач ёй рукі:— Ну, то мо прывітаемся?

Ён пяшчотна гладзіць жорсткай рукой па яе загарэлай шчацэ і, не выпускаючы яе рукі са свае, вядзе да лавы, садзіць поруч з сабой.

— Стаміўся я сёння, Вара,— ціха апавядае Алесь, і Варвара даверліва глядзіць яму ў вочы і ўважліва слухае яго.— На веласіпедзе ў раён ды назад, гэта лічы ўжо сорак кіламетраў. Ды там яшчэ ў «Першы май» з Лазавым падскочылі...

— Ну, і як там, у «Першым маі»?

— Нічога сабе,— закурвае і аглядаецца, куды кінуць запалку, Алесь. Не знайшоўшы попельніцы, устае і кідае на прыпечак.— У іх ёсць чаму павучыцца, але, скажу табе, я чакаў убачыць большае...

— Кепска робяць, ці што?

— Не, робяць не кепска, і не мала, а следу гэтай працы не відно. Парахневіч, нібы той кулак. На продаж усё, у банк. А будова старая. І калгасныя будынкі, і хаты калгаснікаў шэрыя... Машын, праўда, шмат у яго. Тры грузавікі, у самога «Масквіч», шэсць жняярак, малатарні, трыеры... Сіласакамбайн нават!.. А вось дарогі нікуды не вартыя. Электрыфікацыя таксама яшчэ на стадыі першабытнага ладу.

— Ну, ты пачнеш,— засмяялася яна.— Вельмі ж ужо ў цябе самога ўсё добра...

Ёй прыемна было слухаць яго, бо ён расказваў ёй і раіўся з ёю заўсёды, як з роўнай сабе, упэўнены, што яна яго зразумее і здолее, калі спатрэбіцца, сама даць разумную параду.

— У мяне таксама не ўсё добра,— дабрадушна згадзіўся Алесь.— Але калі ўжо ўзяць і тыя ж самыя дарогі, дык ты і сама чула, як Лазавы жартаваў, што як уз'едзеш пасля першамайскай на пераможскую дарогу, дык адразу ў сон хіліць. Ізноў жа будаўніцтва. У нас усе брыгады пасля вайны пабудавалі хаты як лялькі. Ды і электрыфікаваны мы амаль поўнасцю. А ў першамайцаў-мільянераў лямпы...

— Ну і хвалько! Ну і хвалько! — зноў са смехам падражніла яна...

— Вось табе і хвалько! А ўрэшце, няхай сабе і хвалько! — з выклікам звярнуўся ён да Варвары.— Табе ж хва-

люся, нікому чужому...— і працягнуў ёй рукі, якіх яна так чакала.

— Стаміўся? І есці, напэўна, хочаш, а нічога не кажаш,— ласкава папракнула яна, заглядаючы яму ў вочы.

— Хачу, Вара, і есці,— прызнаўся ён.

— Дык я ў момант. На вось табе ручнік і мыла, ідзі памыйся ў сенцах пад рукамыйнікам... Пачакай, я лямпачку ўкручу новую, дзеці казалі: тая перагарэла...

— Не турбуйся,— мякка, але настойліва спыніў яе Алесь.— Электрыкай давай ужо я сам займуся. Мо якраз там яшчэ нічога і не перагарэла.

І пакуль яна рыхтавала вячэру, тупаючы ад кухоннай шафы да стала, ён умела разабраў патрон і паведаміў Варвары:

— Вось бачыш, казала: лямпачка перагарэла, а тут справа ў патроне. Зараз будзе гарэць...

— Я нічога ў гэтай справе не разумею. Толькі ўсяго і ўмення, што плітку ўключу і выключу. Косцік у мяне гэтым аддзелам загадвае.

Яны вячэралі ўдваіх. Ён еў хутка, з апетытам здаровага мужчыны, які моцна папрацаваў і прагаладаўся, а яна амаль не дакраналася да ежы, толькі падкладвала яму.

— А ты чаго так сядзіш? — клапатліва пытаўся ён.— Чаму не ясі?

— Я ж з дзецьмі, Алесь, павячэрала. Ты не зважай на мяне. Еш. Мо табе каўбасы падрэзаць? — падсоўвала яна да яго талеркі, баючыся, што яму будзе мала, і ў душы так прагнучы пачуць яго пахвалу свайму ўмельству.

— Ну, Варачка, дзякуй, накарміла,— выціраючы рот чыстым ручніком, які падала яму Варвара, рашуча адсунуў Алесь ад сябе талеркі.— Смачныя ў цябе агуркі, некалі даўно, памятаю, у маці нябожчыцы вось такія заўсёды смачныя ды ўдалыя былі...

— Толькі агуркі? — перапытала яна, хітра спадылба пазіраючы на яго.

— Вось дзівачка! Усё смачнае, іначай хіба ўмалоў бы я столькі,— грубавата пажартаваў ён.

Прыбраўшы са стала, Варвара села на лаве насупраць Алеся і чамусьці прыпомніла старшыню першамайскага калгаса Парахневіча.

— Ён жа, здаецца, пасля вайны зноў ажаніўся? Бачыла я неяк іх разам у горадзе. Ладная жанчына...

— Ты лепшая...

— Знайшоў лепшую... Скажаш ужо,— чырвань праступіла на смуглых Варварыных шчоках.

— А каб не лепшая, хіба столькі часу абіваў бы я твае парогі?.. Ну, падумай сама, дакуль мы будзем так цягнуць?

Некаторы час моўчкі, не ўзнімаючы на яго вачэй, Варвара разгладжвала рукой абрус і, мусіць, вагаючыся ў душы, аб нечым настойліва думала, не знаходзіла адразу ў сабе адвагі сказаць яму тое, што яе заўсёды так моцна непакоіла і хвалявала.

Падпёршы шчаку далоняй, Алесь сачыў за выразам яе твару і чакаў адказу.

Яна паволі ўзняла галаву, і погляды іх сустрэліся: яго — насцярожаны, поўны чакання, яе — мяккі, пяшчотны і ў той жа час занепакоены:

— А дзеці?

— Дзеці? — перапытаў ён і, успомніўшы, што аб іх ён неяк ні разу ўсур'ёз не задумваўся, бо гэтае пытанне не было для яго складаным, адказаў:— Твае дзеці мяне не пужаюць... Да таго ж мы з Косцем найлепшыя сябры.

— Не кажы так, Алесь. Сябры, пакуль сябры, а як прыйдзецца...

— Ну, дык гэтак нам трэба век адным векаваць. Бо яшчэ і мой Андрэй, напэўна, скрывіцца, як даведаецца, што бацька ў сорак пяць гадоў надумаўся ажаніцца...

Ён разважаў коратка і пераканаўча: які сэнс ад гэтае адзіноты і каму яна патрэбна? Ім самім ці дзецям, якім, як і былі, так і застануцца яны бацькамі?.. І Варвара розумам згаджалася з ім: хіба горш будзе дзецям, калі ў іх будзе бацька і маці? Але яе сэрца, сэрца маці, было неспакойна. Ізноў жа за дзяцей: як паглядзяць яны на гэту справу?..

Аднак яна не стала зноў паўтараць яму тое ж самае, а спытала аб іншым.

— А жыць? Дзе ж мы жыць будзем?

— Ведаю цябе! — чамусьці развесяліўся Алесь.— Цяпер пачнеш: як ты кінеш сваю хату і такі ўтульны двор і сад, і ў заключэнне ўсё зваліш на брыгаду, так сказаць, прывядзеш грамадска-палітычную прычыну тваёй нязгоды пераехаць да мяне, бо твая брыгада перадавая і другую нідзе ты, вядома, такую не падбярэш... Але што ты мне скажаш на такое маё рашэнне: я сваю хату аддаю пад калгасныя яслі! — І ён ва ўпор паглядзеў на Варвару.

Гэтага яна сапраўды не чакала. Варвара і разгубілася і абрадавалася адначасова ад такога нечаканага павароту справы.

— Дык што ты скажаш? — перапытаў Алесь Мята, не спускаючы з яе ласкавага, крыху насмешлівага позірку.

Злавіўшы гэты позірк і ў момант стрымаўшы сябе і свае пачуцці, Варвара толькі і знайшлася:

— Нічога, вось што...— і, радуючыся сваёй уладзе над ім, пажартавала:— Што ж з табой беспрытульным рабіць будзеш. Прыйдзецца ўзяць у кватаранты...

* * *

Развіталіся Алесь Мята з Варварай, калі ўжо зусім усход пабялеў і зоркі ў небе пачалі тушыць адна за другой кволыя агеньчыкі.

Развітваліся яны за парогам, у агародчыку. Схілялася перад імі, працягвала насустрач галіны і загароджвала ім сцежку ўсыпанае срэбным цветам бабіна лета...

*1952*

# ВАСІЛІСА

— Вось гэтакі ж быў некалі і мой п'яніца...

У голасе Васілісы дрыжыць трапяткое, пяшчотнае пачуццё. Твар яе расчулены, на вуснах блукае летуценная ўсмешка, а вочы сінія, цёплыя, звычайна крышачку прыжмураныя,— вочы яе дагаворваюць усё астатняе. Мы сядзім з Васілісай на высокім ганку, а ўнізе, на ўтрамбаванай стараннымі нагамі пляцоўцы,— вальс «Амурскія хвалі»... Позірк Васілісы скіраваны ўслед толькі адной пары. Дзяўчына — ладненькая, прыгожанькая, у светлым лёгкім плацці з крэпдышыну, з дробнай завіўкаў, якая не столькі надае ёй прыгажосці, колькі нешта псуе і шкодзіць яе міламу вясковаму твару. А хлопец і вельмі ўдалы. Адчувае, што ўсе позіркі і ўся ўвага скіраваны на іх, дваіх,— і чаго ён толькі не вырабляе з гэтымі «Амурскімі хвалямі»! То пройдзецца некалькі тактаў у тэмпе лянога і соннага танга, то закружыць дзяўчыну плаўным віхрам, то спрытна перакруціць яе на адным месцы і прапусціць у сябе пад рукой... І ўсё гэта, не спускаючы з дзяўчыны позірку, у якім чорт ведае чаго толькі не вычытае маладое неспакушанае сэрца...

І ўсё гэта адбіваецца ў вачах дзяўчыны: яны і няўпэўненыя, і нясмелыя, і шчаслівыя... І хоць дзяўчына стамілася, хоць дыхаць ёй робіцца ўсё цяжэй і цяжэй — і да раніцы, здаецца, не пажадае яна разлучыцца з гэтай салодкай пакутай.

— Хопіць, Надзейка! Яго не пераскачаш! — не вытрымлівае, нарэшце, крычыць дзяўчыне Васіліса. Нізкі голас Васілісы гучыць мяккім пералівам — здаецца, у грудзях яе буркуе ласкавая добрая птушка.

— Мая зямлячка. З нашага раёна. Пазнаёміліся мы яшчэ летась, у Мінску... І з таго часу дружым. Пісьмы пішам нават адна адной, дарма, што яна маладая, а я ўжо старая...

Гледзячы на Васілісу, робіцца смешна: старая... З кім, з кім, а з ёю ў гэтым вальсе здаўся б і той няўтомны хлапец... Прыгожая жанчына Васіліса! Трыццаць шэсць год мае, а ніколі не скажаш. З такім зайздросным бляскам вочы. Чорная, як воранава крыло, каса вакол галавы. І радок белых, што часнок, зубоў, адкрытых чароўнай усмешкай... Так на выгляд гадоў дваццаць пяць — дваццаць шэсць дасі жанчыне. Праўду могуць падказаць толькі дзве глы-

бокія маршчыны на лбе ды яшчэ рукі, вялікія, цёмныя рукі, якія перарабілі гару работы.

Толькі цяпер вось, у гэтым лясным, утульным доме адпачынку для калгаснікаў, гэтыя рукі ляжаць спакойна — і зноў не столькі адпачываюць, колькі пакутуюць без работы... Пакінула дома ўсю працу, а сама паехала гуляць аж на цэлыя два тыдні, паехала, як маладзенькая, танцаваць штовечара. А там мама і Любка, дачка, адны ўпраўляюцца на ферме з каровамі... Мама старая, а Любцы ўсяго пятнаццаты год... І ў Любкі школа — восьмы клас, камсамольскія даручэнні, ґурткі школьныя розныя. А кароў трынаццаць — дык дзе той спакой будзе, сабе і гэтым рукам?

— Васіліса, дык вы і дэпутат? — пытаюся я.

— Дэпутат. Ганаруся,— усміхаецца сваёй мілай усмешкай Васіліса.

І так шчыра, так натуральна гучыць яе крышку нараспеў сказанае «Ганару-у-ся»... Дзіва што ганарыцца. Хіба няма чым?

— Надзейка ў нас на цэлы раён славіцца,— расказвае пра сваю маладую таварышку Васіліса.— Летась у Маскву на Усесаюзную выстаўку ездзіла... (А Надзейка... ёй цяпер і не ў галаве гэта яе слава. Прыгожы трактарыст так і не адыходзіць ні на крок ад яе — і дзяўчына гарыць макавым цветам)... У іх выпасы добрыя, не тое, што ў нас — адно куп'ё. Вось і паспрабуй, падкармі карову так, каб яна табе рэкорды біла... У нас даяркам цяжка. Я, апрача дойкі, яшчэ і трыццаць сотак буракоў для сваіх кароў пасадзіла. А каля буракоў папахадзіць, ого, колькі трэба! У нас усе даяркі так — не я адна. Многа работы, але ж затое кароўкі будуць з малаком...

Слова «кароўкі» Васіліса вымаўляе гэтак ласкава і шчыра, што і не бачачы іх, гэтых яе «каровак», уяўляеш, як яна ходзіць каля іх, як гутарыць з імі, як частуе іх салодкімі смачнымі буракамі, дагледжанымі гэтымі яе цёмнымі, натруджанымі рукамі.

— Я і не хацела сюды ехаць, у дом адпачынку. Адно, што кароў пабойвалася пакідаць на маму і Любку, а другое, каб я ўжо гэтакая перадавая была па вобласці ці хоць па раёну, а то ж такіх даярак, як я, многа... Але тут старшыня нашага калгаса на мяне насварыўся: «Едзь, кажа, у нашым калгасе ты самая старая даярка»... Гэта ён мае на ўвазе мой стаж,— удакладняе Васіліса. Як і ўсякай

жанчыне, ёй не хочацца, каб пра яе казалі, што яна «самая старая»...— Я ўжо дванаццаць год працую на ферме.

Загаварыўшыся, мы з Васілісай непрыкметна выходзім з двара дома адпачынку і па крутой сцежачцы паволі спускаемся да маўклівага возера. Возера ляжыць у нас пад нагамі.

Заходзіць сонца, і касыя промні яго фарбуюць люстраную азёрную роўнядзь дзівоснымі пераліvамі танчэйшых адценняў: ад ружовага да блакітнага... Вось апошні прамень прабіўся скрозь зеляніну і крануўся шыбы ў крайнім корпусе, што стаіць на самым узгорку, заслонены ад возера дзвюма кашлатымі хвоямі. Шыба раптам запалыхала, раптам неяк трывожна закалацілася і таксама быццам парушыла немату вячэрняга спакою.

Мы стаім з Васілісай і доўга-доўга маўчым, супакоеныя і ў той жа час глыбока ўсхваляваныя веліччу і хараством прыроды.

— Ведаеце,— нарэшце ціха гаворыць, напэўна, працягвае свае думкі Васіліса.— Я нарадзілася і вырасла ў вёсцы. Можна сказаць, вырасла ў лесе. Рэчка ў нас таксама ёсць. На картах, праўда, яна не намалявана, але ўсё ж рэчка... Вось такія ж, як і тут, на беразе ракіты. За рэчкай луг. Прыгожа! І вось што дзіўна: здаецца ж, можна чалавеку за жыццё нагледзецца на якую хочаш прыгажосць і прывыкнуць... А не прывыкнеш жа, не прывыкнеш... Мы дома з Любкай кожны раз, як выдасца гадзінка, возьмем і пабяжым на рэчку пакупацца... Дома я за маладую — мама ўсё даглядае, а я фермы трымаюся... Дык, ведаеце, стану я вось гэтак на беразе і гляджу, гляджу — не магу нагледзецца. І сэрца замрэ-замрэ! І, здаецца, паляцела б я вось гэтак некуды далёка-далёка!.. І так цябе, бывае, расчуліць уся гэтая прыгажосць, што, не паверыце, хочацца плакаць і смяяцца ад шчасця, што жывеш ты на свеце і што свет такі прыгожы...

Мы зноў доўга маўчым і зноў, ужо ў глухой чарнаце ночы, Васіліса працягвае свае думкі ўголас:

— Вось так і ў людскім жыцці. Якое гэта, мусіць, шчасце ўсё жыццё пражыць з добрым чалавекам вось так поруч удваіх — і не нагледзецца, не прывыкнуць ніколі...

— Васіліса, а дзе?..

Я адчуваю, што Васіліса чакае гэтага пытання, што ёй патрэбны гэтыя ўспаміны, што сэрца яе сёння перапоўнена імі...

Яна яшчэ некаторы час маўчыць, а потым неяк асабліва па-свойму, мякка, адказвае:

— Недалёка ад мяне жыве. У суседняй вёсцы — тры ўсяго вярсты...

— І чаму ж, Васіліса?..

Яна зноў нейкі час маўчыць і зноў гэтак жа мякка і нават з лёгкай усмешкай адказвае:

— Па дурноце... Па маёй дурноце. Маму паслухала. Брата старэйшага...

Успамін пра брата астуджвае Васілісін голас, тушыць яе добрую ўсмешку, абуджае даўнюю крыўду і злосць.

— Ім, бачыце, маме і брату, ён не падабаўся... Мама вар'яцела проста — я ў яе ядынка была,— на польскі лад зазначае Васіліса,— дык ёй здавалася, што прыгажэй за яе дачку нікога на свеце няма...

— Ну, такі і прыгожая...

— Нічога была дзяўчына. Прыгожая,— проста згаджаецца Васіліса.— Але ж маме здавалася, што яе дачцэ і роўні будзе не падабраць...

— Дык, можа, і, праўда, у зяця былі якія хібы?

— Былі — чаму не. Любіў выпіць пры выпадку... З вайны гэта ў яго яшчэ. Але, ведаеце, хмель у яго такі добры быў. Ніколі, як іншыя, не ўсчыніць ні сваркі, ні лаянкі... Толькі ўсё смяецца, ды да ўсіх ужо такі ласкавы... А мяне — дык гатовы на руках насіць: Вася, Васечка... Падыдзі, я цябе пацалую...» Ён у мяне інвалід быў, без нагі. У партызанах яшчэ, калі мы былі ў блакадзе, адмарозіў нагу — аднялі вышэй калена... Ну, я на яго крыху пасваруся, крыху палаю. А ён сваё: «І пра цябе я, Васечка, не забыўся, і табе цукерак прынёс...» Як маленькай усё роўна...— усміхаецца тым далёкім, крышку і сапраўды смешным успамінам Васіліса.— Рахункаводам ён працаваў, яшчэ калі МТС былі... Ну, я на яго яшчэ крыху пасваруся, ды і памірымся... Такі ўжо ласкавы быў, што каб і хацеў, дык не зазлуеш на яго. А мама мая... А мама!.. «Ты і п'яніца», «Ты і дурань», «Ты і крывы...» Ну, спачатку ён усё адгаварваўся, то смехам, то жартам. Усё «цешча» ды «цешча»... Але ж усяму ёсць канец... Мне б, дурной, бачачы ўсё гэта, за Любку, ды з ім ад мамы, на кватэру хоць... Хіба не жылі б? Ён працаваў, я працавала... Пабудавалі б хату і жылі б... Ён мне сто разоў казаў: «Хадзем, Вася, хадзем. Пабачыш, палагоднее цешча...» А я — не! «Я сваю маму не пакіну. А калі табе яна кепская — ты і ідзі...» Ну, далей, болей. Пачаў ён піць ужо

і занадта... А тут яшчэ мой братка вельмі разумны прыехаў. «Я не дазволю ўсякаму п'яніцу здзекавацца з маёй маці!» І да мяне: «А ты, дурніца, не магла знайсці нікога горшага за гэтага п'яніцу? Ты з ім яшчэ наплачашся...»

Як населі, як населі... Так вось і з'елі, можна сказаць, чалавека...

— І даўно гэта, Васіліса?..

— Даўно. На трэці год замужжа. Любцы другі год толькі пайшоў.

Даўно мінаваў той час, і Васіліса ўспамінае яго ўжо без болю. Яе ўспаміны агортвае толькі лёгкі цень суму... Гэты трактарыст, што танцаваў так удала сёння з Надзейкай, да таго ж падобны...

Вось гэтаксама і яна, Васіліса, сустрэлася некалі са сваім на вечарынцы. Як узяў на першую польку, так і не выпусціў цэлы вечар. З партызанаў прыходзіў. І яна сама за ім у партызаны тады пайшла. Разведчыкам у партызанах ён быў. І ці то шанцавала яму, ці то праўда, такім адважным усё ўдаецца... Аднойчы пераапрануліся з сябрам, таксама разведчыкам, адзін у папа, другі ў дзяка, і прыехалі ў іх сяло ў той самы дзень, як немцы зайшлі... Трэба было ім звесткі атрымаць... А то наладжвалі вяселлі і таксама ехалі вяселлем пад самым носам у немцаў... Яна сама, Васіліса, аднойчы ехала за «маладую» ў такім партызанскім «вяселлі»... Як праязджалі нямецкія пасты, так калацілася, што, думала, са страху сэрца з грудзей выскачыць... А ён, Аляксей, хоць бы што: яшчэ сарваў з яе вэлюму кветачку і кінуў немцу-вартавому. А той стаяў і зацекаўся ад смеху; бач, яму было смешна з рускага вяселля... Аляксей адважны быў, вясёлы. А самае галоўнае: такі ўжо ласкавы і спагадлівы быў у жыцці... Часам і сама ведаеш, што зрабіла кепска, і самой нядобра і сорамна, а ён толькі скажа: «Наступным разам, Васечка, падумай добра — разумнейшай будзеш...» Такі вось быў чалавек.

— А цяпер?..

— А цяпер жыве з другой жанчынай. Таксама выпівае... Ну як выпівае? Як усе мужчыны, як усе людзі. Але ціха жывуць. Яна разумная. Клапоціцца пра яго. Сын ёсць. Ціха жывуць...

— А Люба — як?

— Пра Любку ён таксама клапоціцца. Але, ведаеце, як для бацькі, нават і вельмі добрага, дзіця, якое без яго выгадавалася... Клапоціцца, але таго сына, напэўна,

больш любіць. Таксама і яна. Я кажу: «Аляксей заходзіў» і яна «Аляксей»... Ёй жа толькі другі годзік быў, як ён пайшоў...

Васіліса змаўкае, і зноў мы надоўга застаемся кожная са сваімі думкамі. Вось такое яно жыццё ў людзей — у кожнага сваё шчасце, у кожнага свае памылкі...

— Сустрэнемся часам...— ціха, нібы ручай, журчыць у цемнаце мяккі голас Васілісы.— «Ну, што, Вася, пытаецца, як жывеш?» — «Добра, Алёша, жыву. А ты як?» — «І я, Васечка, добра...» Паглядзім гэтак адно аднаму ў вочы — і разыдземся...

...Васіліса паводзіць плячыма ад начной сырасці і раптам бянтэжыцца, што загаварылася і нагаварыла непатрэбнага.

— Ой, хадзем ужо, а то я застудзіла вас тут сваёй гаворкай. Каму гэта цікава...

Мне вельмі шкада развітвацца з Васілісай. Заўтра, да свету, я паеду ўжо з гэтага дома адпачынку, і хто ведае, сустрэнемся мы з Васілісай яшчэ калі ці не. І я прашу яе:

— Васіліса, як будзеце ў Мінску, зайдзіце, пакажыцеся. Так хочацца яшчэ вас пабачыць.

— Абавязкова зайду, абавязкова пабачымся. Прыеду ў Мінск.

Я задаю Васілісе яшчэ адно, зусім жаночае пытанне:

— Васіліса, а чаму вы не выходзіце замуж? Такая прыгожая...

— Мне раяць! — смяецца Васіліса.— Ці аднаго мне раілі! Ды ўсё не адважваюся: такога, як мой Аляксей, не будзе... А за горшага не хачу!

Ах, жаночае сэрца!

*1960*

## ІВАНАВА ФАБРЫКА

— Ці не будзе так ласкава пані, як паўстаюць дзеці, пасядзець якой паўгадзінкі ў алешніку — каля мае фабрыкі? — просіць ранічкой мяне Іван, гаспадар хаты, дзе я летую з дзецьмі.

— Што ж я там зраблю ў тым алешніку?

— А пані нічога і не спатрэбіцца рабіць. Сядзі з малымі ды пячы сабе на агні сала... Ды агонь каб не звёўся, падкладай памаленьку дровы.

— І больш нічога не трэба?

— Ніц нічога!.. А я на адной назе — справа надта пільная! — адвінуся і зноў тут жа буду.

Што ж, калі такая пільная справа — трэба пасядзець...

— А туды ніхто не прыйдзе?

— Няхай пані не клапоціцца...

І вось, пакарміўшы дзяцей (сваіх двое, і ў гаспадароў двое таксама) бяру я сала, бяру акраец хлеба, спізорык (выразаць ражэнчыкі) і разорай, цераз агарод, па росным яшчэ гарбузніку, па мокрым бульбоўніку, вяду сваю басаногую каманду ў алешнік.

Большыя пераскакваюць лапушны гарбузнік, а меншыя кіснуць: колецца...

— Зараз, дзеткі, сала будзем пячы на ражэнчыках...

Алешнік адразу ж за агародамі: роўная сценка густога насупленага кустоўя. Над сценкай гэтай ледзь прыкметны блакітны струменьчык — здалёку і не заўважыш. Папахвае дымам.

Іван расхінае насустрач нам кусты, паказвае, куды трэба кіравацца. Я са сваім вывадкам плішчуся следам.

І вось мы ў алешніку. Пасярэдзіне мурожнае лапіны (нібыта яе наўмысне тут нехта выцерабіў) — Іванава «фабрыка»: самагонны апарат, вядро з вадой, чайнік, яшчэ нейкае начынне...

— Вось і ўся тут будзе работа, пані: пячы сала ды не зводзіць агню толькі! — натхняе мяне Іван.

Ён ніколі не скардзіцца на свой настрой — ён у яго заўсёды выдатны! — а гэты раз дык асабліва: здаецца, гатоў у скокі пайсці.

Што ж датычыць мяне, дык я зусім не падзяляю яго весялосці. Няхай яна згарыць, гэта яго «фабрыка»... Што я буду рабіць, калі часам хто нарвецца яшчэ сюды, у гэты алешнік? Ці мала людзей вакол ходзіць... А Івана не

спыніць. Ён падрыхтаваў ужо кожнаму малому па ражну, ужо сам чапляе на гэтыя ражны па скварцы, вучыць малых, як пячы сала на агні...

І малыя — іх не трэба доўга ўпрошваць — поруць у попел скваркамі, апякаюць гарачым тукам пальцы, пішчаць, зацекаюцца ад смеху...

— А сама пані, можа, памочыць рот вось гэтым?..— хітра падміргвае мне Іван і выцягвае з альховага куста паўлітру празрыстага, як сляза, першаку.

Зусім весела!

Я махаю яму рукой: ідзі ўжо хутчэй.

— Дык я на адной назе, пані! — абяцае мне Іван, перакульваючы добрай паўшклянкі.

Ох, я ведаю ўжо — за лета нагледзелася! — гэту яго адну нагу... Але што цяпер ужо зробіш? Згадзілася ж...

І я таксама бяруся за ражон...

...Тым часам спечанае на агні сала робіць сваю справу. Дзеці мае расчырваненліся і ўплятаюць вымурзаныя ў попеле скваркі так, што аж вушы трашчаць — не адцягнеш... Я і сама не адстаю.

Цудоўная раніца! Быццам трыццаць якіх гадоў назад, у сябе дома, на выгане каля свіней...

— Хачу яшчэ сала!

— І я хачу!

— І мне дай!

Уга, сюды мо каб і кубельчык цэлы ўзяў, то і яго мы тут ухадзілі б як бачыш — каля гэтай Іванавай «фабрыкі».

Аднак сала салам, а абавязак абавязкам. Каб не астыла, бронь божа, брага, неабходна сачыць за агнём: каб і не шугаў вельмі, каб і не зводзіўся... І я сачу і памалу падкладаю дровы... А каб кацёл не лопнуў, трэба ж вады падліваць увесь час. І я падліваю вады. І воч не зводжу, сачу, каб «святы струменьчык», як кажа Іван, быў не надта жвавы, бо «малако» пойдзе, а не самагонка...

Клопат гэты нязвычны так займае ўсю маю ўвагу, што я не чую і не бачу нават, як паволі рассоўваюцца кусты, як спыняецца ў гэтых кустах і ўважліва і доўга назірае маё старанне... участковы міліцыянер.

— Здрастуйця! — нарэшце абзываецца ўчастковы.

І тады я ўзнімаю ад «святога струменя» галаву...

— ?!

— Здрастуйця! — выдатна разумеючы маё адчуванне, весялее ўчастковы.

Дзеці туляцца да мяне.

— Д-д-обры... д-дзень...

— Чым гэта вы тут займаецеся?

— Нічым... Сала пячэм...— хапаюся я за саломіну.

— Гм... «Сала»... Сала — выдатная рэч! Асабліва вось пад гэта!..— участковы прысядае і пстрыкае па чайніку, у які ўсё яшчэ сарамліва сочыцца «святы струмень»...

Я маўчу.

— І чыя ж гэта фабрыка? — дапытваецца далей у мяне ўчастковы, важна абходзячы вакол самагоннага апарата.

— Н-не ведаю...

— Гм... «не ведаю». А дзеці чые ж гэта? — ківае на малых участковы. (Дзеці яшчэ цясней ліпнуць да мяне.)

— Мае.

— Усе? Гэтакая маладая і ўжо настаралася гэтулькі?..

— Настаралася...

— Ну што ж...— дастае з планшэткі паперу і аловак участковы.— Складзем пратакол, грамадзяначка. Згодны?

Божа! Пратакол — гэта ж турма!.. Калі я скажу — турма Івану... Калі не скажу — турма мне... Не скажу — скажу... Турма ўсё роўна.

Мусіць, са мною робіцца нешта кепскае... Бо я перастаю раптам бачыць, я толькі чую, як пачынаюць галасіць і тузаць мяне дзеці:

— Ма-ма-а!..

— Цё-тачка-а!..

Я чую, як яны галосяць, а сказаць нічога не магу...

І яшчэ и чую, як рагоча на ўвесь алешнік Іван.

— Пані! Гэта ж я пажартаваў! Гэта ж я сам падаслаў участковага... Пайдзі, кажу, кум, напалохай пані — маю кватарантку... А я пастаю ў алешніку, паслухаю, што яна будзе казаць...

Кумы — ім абодвум весела — рагочуць на ўвесь алешнік.

— Дурань... Дурні! — крычу я ім.— Чулі? Чулі?!

Кумы не крыўдзяцца... Яны здаволены.

*1965*

# МЫС ДОБРАЙ НАДЗЕІ

Русакоў прыехаў у санаторый лячыцца ад хваробы, якое ні сам ён не ведаў, не ведалі і дактары, якія лячылі яго. Агульная стомленасць. Нервовае знясіленне... Дактары раілі Русакову поўдзень, сонца і марское купанне, а ён махнуў на ўсе іх парады і раптам узяў ды купіў сабе пуцёўку ў гэта балота... «Балота» таму, што палац санаторыя быў акружаны азёрамі і запушчанымі сырымі паркамі. І час быў — для гэтых мясцін — горш не прыдумаеш: канец лістапада. Русакова адгаворвалі, палохалі. Жонка нават плакала, што хвароба яму патрэбна ёй на злосць... Але ён заўпарціўся: паеду толькі да князя!

І прыехаў, калі восень паспела ўжо да рэшты распрануць паркі і недалёкія лясы і калі тутэйшыя азёры ўжо не толькі не вабілі, а, наадварот, палохалі холадам і плёскатам няўтульных глухіх хваль; калі набрынялыя хмары аж правісалі над галавой і лілі няўтомныя дажджы, ад якіх хацелася выць.

Пра гэта сказаў Русакову і санаторны доктар, які павінен быў назіраць і лячыць яго ўвесь гэты пуцёвачны тэрмін.

— Як гэта вы, паэт,— сказаў доктар,— выбралі такі нецікавы час. Ніякай жа паэзіі...

Русакоў ужо і сам бачыў, што ўпартасць яго была неразумная, але прызнавацца ў гэтым яму не хацелася, і, не хаваючы раздражнення, ён толькі адказаў доктару:

— Дзе ж яе набрацца на ўсіх, тае паэзіі, дарагі доктар. Цяпер яе кожны патрабуе гэтак, як аспірын у аптэцы.

Каб жа Русакова раздражняў толькі гэты нецікавы час, як казаў доктар. Каб жа гэта ніякай паэзіі не было толькі тут, у гэтым яго балотным санаторыі... Перш за ўсё яе не было, яна як быццам сышла ці зусім нават вымерла ў ім самім. Ён даўно не пісаў вершаў. З ім нешта здарылася: вершы пакінулі яго. І ён не ўмеў іх даклікацца, не ўмеў выкрасаць у сабе тую цудадзейную іскру, якая здольна вокамгненна запаліць фантазію і вобразны свет паэта. Яны, бязмоўныя, нібыта дрэмлюць у паэце, пакуль не ўспыхне гэта іскра.

І гэта было пакаранне.

Вось ужо колькі часу — самому Русакову здавалася, што гэта цягнецца вечнасць — не пераступаў ён парога ніводнае рэдакцыі, ён не толькі не хадзіў у рэдакцыі — з

нейкага часу ён нават пачаў унікаць стрэч з сябрамі-паэтамі. Перш за ўсё тых традыцыйных стрэч у дні выплаты ганарару, без якіх немагчыма ўявіць жыццё паэта. Без якіх, скажам дакладней, у паэта няма жыцця. І калі ты пішаш і друкуешся, не мае значэння, сам ты атрымліваеш ганарар ці атрымліваюць яго твае сябры. На гэту традыцыйную стрэчу ў наступны месяц яны прыйдуць да цябе самога. Русакоў ніколі не быў дробязным і грошы з сябрамі звычайна спускаў бесклапотна і шырока. Аднак цяпер, не маючы ганарару, ён не мог дазволіць сабе піць за чужы кошт. І справа была, вядома, зусім не ў выпіўцы, зусім не ў гарэлцы — за што свет і людзі, не разумеючы іх, спрадвеку караюць паэтаў. Страшна было тое, што цяпер ён пазбягаў, што яго гнялі і раздражнялі нават спрэчкі і гаворка, якія звычайна вядуцца (і з роду вяліся!) сярод паэтаў пры такіх стрэчах. Зводзяцца яны непазбежна да аднаго — да чытання ўласных вершаў. Адзін аднаму... У гэтым заўсёды тоіцца — і для самога Русакова таксама заўсёды раней утойвалася — радасць творчага абнаўлення і ўзаемнага ўзбагачэння, радасць таго бескарыслівага, хоць нярэдка і самаздаволенага спаборніцтва, якое зрэшты і яднае ўсіх паэтаў у адзіным стракатым брацтве.

Русакоў пакутаваў таму, што ён не меў адвагі, а больш шчырым было б прызнанне, што яму не дазваляла ўласнае самалюбства з'яўляцца цяпер у гэтым брацтве з пустымі рукамі. І зусім не таму, што ён увайшоў там у нейкую «абойму» ці хадзіў у карыфеях. Вершы былі яго сутнасцю, складалі сэнс яго жыцця і грамадзянскага абавязку, былі тым, чым бывае любая сумленная праца для любога сумленнага чалавека... А ён у дадатак яшчэ быў і паэт... Уничижение паче гордости. Русакоў не бедніўся і не крывадушнічаў: ён любіў у сабе Паэта і ганарыўся ім. Інакш ён не быў бы паэтам.

Ён даўно не пісаў вершаў.

Не раз у роспачы ўспамінаў ён, як лёгка з'яўляліся да яго вершы ў маладосці. (Праўда, да каго яны ў маладосці не з'яўляюцца.) Ружовае воблачка. Срэбны серп маладзіка. А гарэзлівы позірк і павеўная дзявочая постаць... Божа літасцівы! Яму ніколі не патрэбна было нават садзіцца да стала. (Дарэчы, стол пісьмовы ў яго з'явіўся ўжо куды пазней, чым сівізна.) З яго хапала пачка ад цыгарэт і самага звычайнага алоўка ў кішэні — дзе б ён ні ішоў, дзе б ён ні ехаў. Ён не быў святы. Не... Але нават і тады, калі

ён падаў, і тады ад яго не адступалася, не пакідала яго і заўсёды працягвала яму руку яго ўсёцярплівая, усёдаравальная Муза.

І вось яна адступілася ад яго.

І гэта было пакаранне.

І каб жа толькі яму аднаму. Гэта было пакаранне ўсім яго блізкім.

Некалі прывёў ён у сваю абшарпаную баковачку на старой, яшчэ драўлянай, Камароўцы даверлівае, няўмелае дзяўчо, і яно стала яго жонкай. Дзяўчо не ўмела прышыць гузіка, не ўмела зварыць крупніку. Яно здольна было толькі глядзець на яго закаханымі вачыма і слухаць яго вершы так, нібыта чытаў яму гэтыя вершы сам бог. У гэтым Русакоў і бачыў прызначэнне сваёй жонкі: ісці па зямлі і вітаць пад небам толькі побач з ім — Паэтам!

Цяпер жа, калі жонка спасцігла жыццё і даўно ўжо зрабілася для яго ўсім — каханкай, сястрой і маці,— цяпер ён ужо не бачыў яе перавагі, цяпер ён быў да іх абыякавы, нават няўдзячны. І яго не толькі не захапляла — цяпер яго нават раздражняла яе імкненне, як і раней, як і некалі, унікаць у яго вершы, у яго настрой. Ён крычаў на яе, што яна перашкаджае яму, што яна нічога не разумее, што яму надакучылі яе клопаты і ён стаміўся ад іх, ён хоча толькі аднаго — спакою... Усё гэта было жорстка, несправядліва, але Русакоў не мог нічога зрабіць з сабою, не мог сябе пераламаць.

Ён не падпускаў цяпер да свае душы і дзяцей — сына і дачку. І дзеці яго цяпер раздражнялі... А як ён любіў іх і як ганарыўся сваім бацькоўствам, калі яны былі маленькія. Колькі напісаў пра іх вершаў!

У дзяцей было сваё ўласнае жыццё, і яны зусім не звярталі ўвагі ні на бацькаў настрой, ні на яго самога. Яны цяпер самі не адчынялі яго дзвярэй, і гэта крыўдзіла і аддаляла яго ад сына і дачкі яшчэ больш. Ён лічыў іх чэрствымі і бессардэчнымі і, што яны выраслі такімі, вінаваціў адну толькі іх маці — сваю жонку. І жонка плакала...

У Русакова было такое адчуванне, нібыта ён круціцца ў нейкім вар'яцкім коле і ніяк не можа ні спыніць гэта кола, ні павярнуць яго ў іншы бок.

...А калі прыходзіла прасвятленне, Русакоў каяўся, рабіўся лагодным, ва ўсім стараўся дагадзіць жонцы і дзецям, каб загладзіць сваю віну перад імі. І яны ўсе трое, шчыра любячы яго, тут жа ўсё забывалі. І ён зноў адчуваў сябе шчаслівым, нібыта да яго вярнуўся безнадзейна згуб-

лены скарб: у яго такая мудрая ласкавая жонка, а дзеці выраслі (калі гэта здарылася?!) прыгожыя і разумныя...

І ўсё вакол здавалася цудоўным, і ўсім вакол зноў было з ім весела і цікава.

Пакуль не пачыналася ўсё спачатку.

...Дактары раілі Русакову сонца і мора. І жонка маліла: «Паедзь, адпачні ад усіх нас, ад дому. Змяні абставіны...»

А ён усё роўна як на злосць усім узяў і купіў пуцёўку — на самую нягоду — у гэты былы князёўскі палац сярод панурых азёраў. І цяпер марнаваўся аж з трыма ардэнаноснымі старшынямі калгасаў у вялізнай спальні княгіні з князёўскім гербам на балконнай рашотцы, з выглядам на шэрае возера. Старшыні ноччу непрабудна храплі — аж трэсліся сцены палаца. Днём яны таксама ўмелі знайсці сабе адпачынак і ўцеху. У Русакова ж не было нічога — ні сну, ні адпачынку, ні ўцехі. Толькі бясконцы сівы дождж.

Ён ужо намерыўся быў уцякаць дадому, як раптам уначы задуў сівер, прыціснуў замаразак, і — адкуль яна толькі ўзялася ў гэтым разводдзі! — пасыпала дробная крупа. І на раніцу ўжо раскіслая зямля і счарнелыя дрэвы як быццам адмаладзелі. І — дзіўная рэч — Русакоў таксама адчуў сябе раніцой так, нібыта і яго вызвалілі з палону.

Адразу ж пасля снедання і не вельмі абавязковых працэдур ён паспешна апрануў паліто, адзеў шапку і, баючыся якога-небудзь выпадковага спадарожніка, накіраваўся паркам да возера. Неба было чыстае, пад нагамі курылася сухая замець, з возера задуваў пругкі вецер. Бадзёры зазімак за адну ноч нібыта зрабіў у прыродзе пераварот.

Марознае паветра, хуткая хадзьба таксама бадзёрылі і маладзілі. Русакоў і не прыкмеціў нават, калі дайшоў да Паповай горкі — так прызываўся ў тутэйшых людзей пакаты пагорак непадалёку за паркам, як збочыў на гэты пагорак і патупаў па даўно зруйнаваным падворышчы. Межы гэтага колішняга падворышча вызначаліся старымі разлапістымі кустамі бэзу ўперамежку з арабінамі. Бэз квола звінеў зледзянелым, нібыта бляшаным, зялёным лісцем. На чорных арабінах пунсовелі гронкі прымерзлых ягад.

Адсюль, з Паповай горкі, возера з усімі яго затокамі і астраўкамі бачылася як на далоні... Не міне і тыдня, як

па застылай ледзяной роўнядзі можна будзе хадзіць як па падлозе. Адсюль можна будзе дайсці да таго вунь астраўка, што злучаны з процілеглым берагам паэтычным мастком. Пад гэтым мастком да апошніх дзён, да самых замаразкаў, начавала дзве пары белых лебедзяў, дзве даволі сумныя бяздзетныя сям'і, у якіх толькі і занятку было, толькі і клопату, каб хаця не выглядаць горш за суседзяў. Раніцой, на досвітку, лебедзі парамі выходзілі на бераг і доўга спраўлялі ранішні туалет. Далікатна агладжвалі ганарыстымі чорнымі дзюбамі гнуткія змяіныя шыі, гучна пляскалі ў паветры беласнежным крыллем — рабілі гімнастыку і бясконца глядзеліся з берага ў ваду: ці ўсё як мае быць у іх нетутэйшай адзежы. Пры гэтым яны ўвесь час перагаварваліся на сваёй кароткай гусінай мове.

— Ге? — глядзелася ў ваду і нягучна пыталася ў мужа жонка-лебядзіха.

І гэта кароценькае «Ге?», калі б яно ішло не ад птушкі, а ад жанчыны, напэўна, заняло б поўны мех слоў.

— Ну, як — я падабаюся табе? Я добра сёння выглядаю? Я прыгажэйшая за гэту даўгашыюю?

— Ге-е! — задаволена адказваў муж-лебедзь.

І зноў жа, каб гэта гаварыў не лебедзь, а які-небудзь балбатун мужчына, гэта можна было б перакласці прыкладна так:

— Якое можа быць параўнанне! Якая даўгашыяя можа раўняцца з табою! Ты самая цудоўная на свеце!

— Ге! — кідала крылом апошні мазок, апошні штрых на сваю бялюткую «пачку» жонка і, задаволеная сабой і сваім мужам, зграбна ступала ў люстра ранішняга возера.— І ты ў мяне самы лепшы на свеце!

Другая пара — паводдаль — вяла прыкладна той жа дыялог:

— Ге,— казала пра суседку лебядзіха,— усё думае, што няма за яе нікога прыгажэйшага на свеце.

— Ге-е,— паблажліва цягнуў муж-лебедзь.— Нават калі б я застаўся адзін з нашай суседкай на бязлюдным возеры, ты, мілая, і тады магла б спачываць спакойна...

— Ге-ге-ге-ге! — лебядзіха-жонка, шчаслівая, кідалася ў ваду.

Адплыўшы ад берага, мілыя сем'і зноў страчаліся на незамутненай вадзе і далікатна віталі адны другіх з добрым ранкам. І разам ужо — крыло ў крыло — плылі да кармушкі.

— Ге-ге-ге! — гаманілі жонкі.— Які ў вас сёння цудоўны выгляд!..

— А ў вас якая высакародная пастава!

— Ге... Я, сказаць праўду, добра выгаладаўся, пакуль мая дарагая палавіна клапацілася пра сваё, невядома каму толькі яно патрэбна, хараство,— шчыра прызнаваўся муж адной, з апаскаю пазіраючы ў бок жонкі.

— Ге... Калі жонка з раніцы да вечара знае адзін толькі клопат — глядзецца ў люстра...— уздыхаў другі.

Гэтымі днямі лебедзяў перавялі — на зіму, на халады — у лебядзіны дамок. І возеру цяпер як быццам не хапала яго галоўнай маляўнічай дэталі.

...Русакоў збег з Паповай горкі і абышоў возера з другога боку. Пастаяў нейкі момант насупраць астраўка, да якога з берага быў перакінуты гарбаты масток, і раптам, нібыта азораны маланкай, успомніў іншы даўні час, убачыў іншую даўнюю ваду.

Тады гэты астравок заўсёды быў аблеплены рыбакамі. І адзін сярод іх, відаць, быў жартаўнік, а магчыма, рамантык. Не інакш, гэта ён тады сабраў параскіданыя па астраўку кансервавыя бляшанкі, нанізаў іх адну на другую і прымацаваў да высокага слупка. Бляшанкі на сонцы адсвечвалі, мільгалі, і таму, хто плыў па возеры, здалёку здавалася, што на астраўку мільгае маяк.

Так яны тады і гаварылі з Верай Мікалаеўнай:

— Сёння высадзімся каля маяка.

Яны абое тым летам трапілі сюды ўпершыню.

Вера Мікалаеўна прыехала адпачыць пасля хваробы. А Русакоў пісаў тады паэму, якая прынесла яму вядомасць (нават славу!) і грошы, якія таксама былі яму зусім не лішнія.

Як яму пісалася ў тое лета! Адкуль што бралася...

Ён не раз цяпер, ужо ў сталым узросце, дапытваў самога сябе, калі ж ён быў сапраўдным паэтам: у маладосці, калі ён умеў нястомна радавацца кожнаму дню, кожнай, нават самай нязначнай, праяве жыцця, гатовы натхнёна складаць вершы, зусім не клапоцячыся пра пошук і выбар тэмы... Ці зараз, калі ён ужо спасціг таямніцу майстэрства, калі адточаным, як лязо брытвы, радком, ён, здавалася, умеў усё! Аднак гэта «ўсё» з'яўлялася яму і прыходзіла цяпер да яго ўсё радзей і радзей. І аддавалася цяпер яму ўсё з большай і большай пакутай.

Ці не так бывае ў каханні: тая, што ў росквіце юначых сіл і хараства бачыла ў табе бога і гатова была ісці за та-

бою на край свету, спасцігшы свет (і таксама самога цябе спасцігшы — зусім не бога!) — аднойчы раптам адчуеш ты,— ідзе побач з табой у вялікай пакуце.

...Ах, з якім захапленнем і спадзяваннем пісаў ён тую сваю даўнюю паэму!

...У пяць гадзін, пасля «ціхай гадзіны» ён браў лодку, садзіўся на вёслы і, трымаючыся непадалёк ад берага, чакаў. Вера Мікалаеўна днём заўсёды спала. (Пасля хваробы яна хутка стамлялася, і сон замяняў ёй лекі.) І вось праходзіла хвілін якіх дзесяць — пятнаццаць, і на лесвіцы, што вяла да прычала, паказвалася зграбная постаць з блакітным, як воблака, шалем вакол шыі... На лаўках, над возерам, дзе сядзелі жанкі, якім гэты назіральны пункт як бы дапаўняў іх лекі, адразу ж пачыналася ажыўленае абмеркаванне гэтага з'яўлення.

Русакоў кіраваў да прычала, памагаў Веры Мікалаеўне сесці ў лодку, і яны адплывалі. Кожны дзень у новыя воды. Адзін дзень яны плылі па праліву Лаперуза, на другі высаджваліся на бязлюдным востраве. На трэці... У іх быў уласны мыс Добрай Надзеі, была свая бухта Ціксі. Быў яшчэ адзін востраў — Вогненная Зямля...

— Terra incognita! — прычальваў Русакоў лодку да выспачкі, на якой маглі стаць два чалавекі, не болей.— Прашу!

Вера Мікалаеўна ступала на зялёную выспачку і смялялася ў адказ:

— Толькі паэты ў наш час умеюць адкрываць новыя землі і воды...

— Перш за ўсё паэты ўмеюць адкрываць жанчын!

Ён быў тады яшчэ малады, і гэтыя адкрыцці даваліся яму без цяжкасці. Гэтыя адкрыцці натхнялі яго. І — навошта грашыць — сам ён не папракаў сябе за гэта. Каму гэта шкодзіла?

— Валодаю я Верай і Надзеяй! — патэтычна дэкламаваў Русакоў, калі яны высаджваліся на мысе Добрай Надзеі.

Вера Мікалаеўна ўпершыню ў сваім жыцці стрэлася з жывым «сапраўдным» паэтам, і ёй падабаўся гэты лёгкі, нязвычны ёй тон.

Русакоў вылучыў Веру Мікалаеўну сярод іншых жанчын, якія тады адпачывалі, адразу: па тым, як яна апраналася, як хадзіла, як гаварыла. Ва ўсім, што б яна ні рабіла, у яе было сваё, толькі ёй прысутнае непадабенства. І Русакоў не мог яго не заўважыць. Выпадкова стрэўшыся

і загаварыўшы першы раз, яны ўжо наступны раз абое былі рады сваёй стрэчы. Ім было прыемна і лёгка разам. У кожнага з іх раней, вядома, былі ўжо ўласныя землі і воды, але гэта зусім не пазбаўляла іх адчування навізны ў іх адносінах.

І не было б нічога дзіўнага (і, мусіць, не было б вялікага граху), калі б на глебе таго п'янлівага хараства і пяшчоты, якім, здавалася, дыхала нават сама летняя прырода, калі б між імі тады ўзнікла каханне.

Аднак абставіны склаліся зусім інакш. Аднойчы прыйшла тэлеграма, а за тэлеграмай, следам, прыехаў і сам муж Веры Мікалаеўны. Ён хваляваўся за яе здароўе — ён адправіў яе з дому слабою,— і ён выстараўся сабе адпачынак, каб пабыць некалькі дзён з жонкай разам і каб аблегчыць ёй дарогу назад, каб самому прывезці яе дадому.

За што ж можна было папракнуць гэтага чалавека? Ці як можна было жадаць яму недабра?

Вера Мікалаеўна стрэла мужа з непадробнай радасцю: яна належала да ліку тых мілых цвярозых жанчын, якія не без падстаў лічаць, што лепш спакойна і зручна жыць на зямлі, чым гнацца за нейкім там зманлівым жураўлём у небе. Хто ведае, ці ўгонішся ты за ім?..

Больш Русакоў з Верай Мікалаеўнай ніколі не сустракаліся. Яны нават ні разу не напісалі адзін аднаму святочнай паштоўкі. І яна, напэўна, гэтак, як і ён, ужо даўно забыла яго і ніколі не ўспамінае нават...

Русакоў пастаяў на беразе, а потым па гарбатым мастку перайшоў на астравок. Пастаяў на тым месцы, адкуль маргаў некалі смешны маяк з кансервавых бляшанак. Прайшоўся, адчуваючы, як пружыніць і рыпіць пад нагамі прамерзлая і заснежаная трава. І паволі зноў вярнуўся на бераг. Паволі пакрочыў далей, насустрач белай завеі.

...Па Вогненнай Зямлі гуляе ў белым сцюжа...

У твар яму секла, як наждак, дробная снежная крупа. Ён падняў каўнер. Засунуў рукі ў кішэні.

Гуляе ў белым...

Усё навокал і сапраўды было ўжо ў белым: зямля, дрэвы, зашэрхлая ўздоўж берага вада. І сцюжа мацнела. У затуленай чаратамі бухтачцы трымцеў ад гэтай сцюжы адзінокі човен. Русакоў спыніўся каля яго, каб аддыхацца, каб не хапаць ледзянога паветра. Вогненная Зямля адсюль ужо толькі ўгадвалася ў белай замеці.

Па Вогненнай Зямлі гуляе ў белым сцюжа...

У бухце... Провидения... паснулі карасі...

Гэта смешнае сумяшчэнне бухты Провидения і карасёў дало настрою Русакова імгненны штуршок: як быццам з ім успыхнула іскра запальвання. Смешнае тут жа зноў азвалася элегічным:

Патух маяк. Вы помніце?.. І тужыць
Надзея Добрая. Каго мне упрасіць
Вярнуць ізноў ёй Добрую Надзею?..

Ён ішоў, спыняўся, паўтараў сам сабе словы і радкі, якія нараджаліся ў ім самі па сабе, незалежна ад яго волі, не падуладныя яму. Яны злятаді з яго светлага адчування, з яго мімалётнага ўспаміну, як дыханне.

...Замёрз праліў Па-дэ-Кале... А чоўну сніцца цёплы бераг... Трымае хвалю ён аберуч... Пакорную і зманную, але... Замёрз праліў Па-дэ-Кале... Замёрз... Замёрз...

Ён гаварыў сам з сабою ўслых, ён стараўся нават крочыць у такт гэтым нечакана абуджаным у ім рытмам. І ён не заўважаў нават, як уся яго істота непрыкметна запаўняецца радасным жыццём. (Так наліваецца сокам пад сонцам яблык.) У яго было адчуванне, нібыта ён толькі што выдраўся са страшэннага буралому, выбіўся з бясконцага змрочнага бездарожжа на тупкую сцяжынку, і над гэтай сцяжынкай выблісніў раптам яму промень.

Ён ведаў, гэта вярталіся да яго вершы. І яму было боязна спалохаць іх... Каго мне ўпрасіць вярнуць ізноў мне Добрую Надзею? Надзею... Добрую...

Ён паўтараў гэтыя словы, народжаныя ў пакутлівым хаосе яго душы, як заклінанне, як паўтарае набожны чалавек малітву. І ён адчуваў, як гэта малітва непрыкметна вяртае яму даўно забытае ім прасвятленне і палёгку.

* * *

У двары санаторыя, на ганку, яму стрэліся яго цяперашнія суседкі па стале — маладыя дзяўчаты, ткачыхі з камвольнага.

— Ірачка! — жартаўліва заступіў Русакоў дарогу той, якая была бліжэй да яго.— Хочаце, я вас з Валяй сёння высаджу на востраве Мадагаскар?.. Валечка, хочаце?

Дзяўчаты далікатна ўсміхнуліся, яны саромеліся яго, вядомага паэта, вершы якога яны вучылі ў школе. Да таго ж за сталом ён ніколі ні пра што з імі не гаварыў: толькі вітаўся, жадаў прыемнага апетыту, а пасля яды адразу

ж развітваўся і тут жа знікаў — у сваім пакоі або ў бібліятэцы.

— Ну дык як? — ён быў вясёлы, а на марозе і на ветры ён памаладзеў і здаўся ім зусім непадобным на сябе.

Дзяўчаты пераглянуліся. І як бы з апаскай памкнуліся ў бок ад Русакова.

— Не хочаце? — ён развёў рукі. На твары яго блукала ўсмешка, якой за гэтыя два тыдні ніхто ў яго не бачыў. Ніводзін чалавек.

— Хочам! Хочам! — у адзін голас паабяцалі Іра і Валя і хуценька збеглі з ганка.

— Замёрз праліў Па-дэ-Кале! — гукнуў услед ім Русакоў.

Дзяўчаты азірнуліся на яго і, затуліўшыся ад смеху касынкамі, прыпусціліся бегчы: ён здзівіў іх і напалохаў ..

Русакоў сам уголас засмяяўся і памахаў ім рукою. І лёгка ўзбег на высокі ганак. Яму раптам захацелася ўбачыць на сваім стале чысты аркуш паперы. Стандартны аркуш шэрай газетнай паперы.

На белай глянцавай паперы вершы яму не пісаліся.

*1975*

## ГАВАРЫЛІ ТРЫНАЦЦАЦЬ МІНУТ

### 1

На другім канцы провада — за шэсцьсот кіламетраў — ніхто не абзываўся, і тэлефон настойліва званіў у гучную цішыню ночы. Страхаў сядзеў у крэсле каля тэлефоннага століка і чакаў: вось устае з пасцелі, вось паспешліва накідвае нешта на плечы... Зараз возьме трубку. І ўяўляў сабе да драбніц знаёмы пакой: на гэтакім жа, амаль як і ў яго, паліраваным століку гэтакі ж хісткі мадэрновы тэлефонны апарат; побач піяніна з кіпай нот, кніжная паліца і тахта в таршэрам. Ну, і, вядома, тэлевізар. Стандартны сучасны інтэр'ер, стандартная сучасная кватэра... Дзіўна было толькі, што ў такі позні час ніхто там не абзываўся.

— Абанент не адказвае, што будзем рабіць?

Сапраўды, што было рабіць? Страхаў машынальна зірнуў на гадзіннік: была палова першай гадзіны ночы.

— Калі ласка,— засяпшаўся ён, баючыся, што тэлефаністка павесіць трубку.— Давайце яшчэ раз паўторым. На гадзіну... Мне вельмі неабходна дазваніцца!..

— Чакайце, паўторым,— абыякава перабіла яго тэлефаністка і павесіла трубку.

Адчуваючы глухое раздражненне, Страхаў устаў з крэсла і закурыў.

— Цікава, дзе можна прападаць да гэтага часу... Усёй сям'ёй.

Страхаў вярнуўся ў свой пакой і насцеж расчыніў акно. Ён курыў, дыхаў на поўныя грудзі настоенай на ліпавым цвеце начной цеплынёй і з вышыні свайго пятага паверха глядзеў цераз вуліцу на мармуровых ільвоў абапал велічнай лесвіцы, што ўзнімалася да цяжкіх дзвярэй музея ўсходніх мастацтваў. Над ільвамі, над аграмадзінай музея, над кашлатымі ліпамі бруілася падсвечанае пражэктарамі меланхалічнае зялёнае сяйво. Ён пражыў у суседстве з гэтымі львамі больш за дваццаць год, з таго самага часу, як неўзабаве пасля вайны дэмабілізаваўся з арміі і атрымаў кватэру ў гэтым доме. Ён ніколі не мог нагледзецца на гэта начное хараство, на гэтыя чары, і яму заўсёды здавалася, што ён бы звяў і зачах, калі б у яго раптам не стала магчымасці вось так бяздумна, як гэтай ноччу, глядзець з акна на загадкавы сон мармуровых ільвоў... Гэтыя

чары прыносілі заўсёды яму супакаенне і палёгку, і ён, здавалася яму — па добрай ахвоце,— не прамяняў бы іх ні на якія іншыя.

Так яму здавалася і зараз.

У калідоры праразліва зазваніў тэлефон, і Страхаў паспешней, чым нават сам ён мог спадзявацца, кінуўся на гэты заклік.

— Алё! Алё! — закрычаў ён у трубку.

— Я слухаю,— на гэты раз вельмі хутка азваліся адтуль, за шэсцьсот кіламетраў.

— Маргарыта?!

— Я зараз паклічу яе,— было такое адчуванне, нібыта гавораць тут побач, за сцяной.— Рыта! Рыта...

Страхаў чакаў. Ён ведаў: вось-вось у яго сэрца абрынецца і захлісне яго хваля голасу, якога ён не чуў...

— Я слухаю.

— Добры вечар! Дзе ты прападала? І хто гэта ў цябе дома?

— Гэта Тамара.

— Скажы Тамары Уладзіміраўне, што я прашу ў яе прабачэння, што не павітаўся з ёю... Я не пазнаў яе голасу.

— Нічога, яна не пакрыўдзіцца,— хваля была роўная, нібыта закалыханая ў калысцы.

— Дзе ты была? Да цябе не дазваніцца.

— Адкуль ты звоніш?

— З дому, вядома.

— З дому?.. А што, Антаніны Іванаўны няма дома?

— А табе патрэбна Антаніна Іванаўна?

— Не, вядома... Але звычайна, калі яна дома, ты не звоніш.

— Яна начуе ў Віталія. Цябе гэта здавальняе?

— Што-небудзь здарылася?

— Нічога асаблівага не здарылася. Захварэў Алік.

— Нешта сур'ёзнае?

— Ёсць падазрэнне на адзёр. А маці на курорце.

Яна ведала ўсіх, усю яго сям'ю. Яна ўсё ведала.

— Ну, дык чаго ж ты маўчыш?

— Ты даўно не званіў. І раптам...

— Ты не рада?

— Не, проста...

— Я пісаў табе. Ты мне не адказала.

— Ты прысылаў віншавальную паштоўку да свят... (Няўжо ён і сапраўды не пісаў ёй са свят, пасля той паштоўкі?.. Думаў жа. Колькі разоў збіраўся напісаць.)

— Ты мне так і не адказала: дзе ты была?
— Мы з Тамарай толькі што вярнуліся з вакзала...
— Ты яе сустракала?
Ён таксама ўсё ведаў і пра яе самую, і пра ўсіх яе блізкіх.
— Не, мы праводзілі...
— Хлопцаў? Дарэчы, куды ты іх на лета адпраўляеш?
— Іх ужо не трэба адпраўляць. Яны ўжо самі! — ён адчуў у яе голасе ўсмешку і гонар.
— Саша перайшоў ужо на другі?
— Саша ўжо на другім курсе і з будаўнічым атрадам паехаў у Казахстан.
— І форму, вядома, атрымаў?
— А як жа! Форма і эмблема на рукаве: «Студэнцкі будаўнічы атрад»!
— А Мікола дзе?
— Коля з усім сваім класам на сельскагаспадарчай практыцы ў калгасе.
— Яны ў цябе малайцы!
— Малайцы! — лёгка адгукнулася яна.
— Дык каго ж вы праводзілі? — Ён не пачуў адказу ці яна не адказала? — Каго вы праводзілі ў такую пару?
У трубцы, чутно было, заспрачаліся два галасы, потым пачуўся цвёрды Тамарын голас:
— Мы праводзілі на вакзал Рыцінага мужа.
— Якога мужа? Якой...— Страхаў спаткнуўся на паўслове.
— Мы... праводзілі... на вакзал... мужа... Маргарыты,— выразна, нібыта дыктуючы дыктоўку, паўтарыла Тамара.
— Калі ласка, Тамара Уладзіміраўна... Перадайце трубку Маргарыце Уладзіміраўне... Што ўсё гэта азначае, ты можаш мне растлумачыць?
— Віктар... Ты даўно не пішаш і не звоніш мне.
— Ты забыла, што я рабіў гэта і раблю ўжо амаль дванаццаць год! — стараючыся стрымаць сябе, працягнуў руку па цыгарэту Страхаў.— Ты забыла!
— Не, Віктар, я нічога не забыла. І калі хочаш, я табе напомню: апошні раз ты пісаў мне — віншавальную паштоўку — тры месяцы назад. А званіў паўгода назад... А не бачыліся мы з табою ўжо два гады. З часу твае апошняе камандзіроўкі...
— І хто твой абраннік?
— Чалавек. Мужчына.
— Вычарпальная характарыстыка. Табе з ім добра?

— Я паважаю яго. І веру яму.
— Дзякуй за шчырасць.
— Я з табою заўсёды была шчырая.
— Дык усё-такі ты гэта сур'ёзна ці толькі... так?
— «Так»?.. Такога, Віктар, з мяне хапіла.
— Захацелася іншага?
— Я стамілася, Віктар.
— А як жа я? Пра мяне ты хоць успомніла?
— Я ніколі пра цябе не забывала.
— Ты мяне сёння ў гэтым упэўніла.
— Я стамілася, Віктар.
— І гэта ўсё, што ты можаш мне сказаць?
— А чаго ты яшчэ не ведаеш?
— Пераконваюся, што ведаю не ўсё.
— Ты сам добра ведаеш, што кажаш няпраўду.
— Ты праўдзівая?.. Ну, што ж, бывай.
— Бывай.

Тэлефаністка спытала:
— Скончылі гаварыць?
— Скончылі.
— Гаварылі трынаццаць мінут.

...Тэлефонная трубка апусцілася, і на Страхава, як пры стыхійным бедстве, раптоўна ўзваліўся ўвесь разбураны свет.

Ён так і не кратаўся з месца з гэтым сусветным цяжарам на плячах. Так і стаяў, не зводзячы воч з тэлефона, нібыта гэта ў яго хісткім пластмасавым нутры была затоена ўся неймаверная непапраўнасць таго, што ў адзін момант, нібы землетрасенне, разбурыла не толькі сцены, а і падмурак усяго яго жыцця. У адзін момант. За трынаццаць мінут. («Гаварылі трынаццаць мінут...»)

Дрыжачымі пальцамі Страхаў дастаў з пачка цыгарэту, паляпаў па кішэнях піжамы — запалак не аказалася, і ўсё гэтак жа акрэслена не ўсведамляючы і не пагаджаючыся з тым, што з ім толькі што здарылася, накіраваўся ў свой пакой. Запалкі ляжалі на падаконніку. Страхаў, ламаючы запалкі, прыкурыў і зрабіў запар некалькі пякучых зацяжак. Яго гняла духата пакоя, і ён да пояса высунуўся ў расчыненае акно.

Ільвы не зварухнуліся нават. Як прытворна драмалі, так і драмалі. І глыба музея не раскалолася. І ліпы, абцяжараныя росным духмяным квеценню, аж знемагалі ад страсці.

Недзе ля парка, на павароце, азваўся дзяжурны трам-

вай. А ўнізе пад акном, дробна працокалі абцасікі і пачуўся стрыманы хлапечы смех.

Аказваецца, каменным ільвам і каменнаму свету не было ніякае справы да Страхава.

2

Страхаў не мог адразу знайсці сабе месца: ён то хадзіў па пакоі, то садзіўся да пісьмовага стала і сядзеў як скамянелы, машынальна выводзячы па люстраной паверхні: «Гаварылі трынаццаць мінут... Гаварылі трынаццаць мінут... Гаварылі...»

Ён не заўважыў нават, калі ён скурыў пачак цыгарэт. Ён выходзіў на калідор, падыходзіў да тэлефона і браўся за трубку. Нейкі момант ён быў ва ўладзе шалёнага намеру зноў набраць нумар міжгародняй і яшчэ раз пазваніць... І дамагчыся ўсё разбурыць там, дзе ўсё гэтак вырашылася без яго і супраць яго — нібы яго не існуе больш на свеце... І тут жа, разумеючы бяссэнсіцу такога кроку, ён стомлена клаў трубку назад. Каму ён будзе званіць? А самае галоўнае — каму цяпер патрэбны яго званок? Цяпер...

Апошні раз ён званіў ёй... Паўгода назад?

Страхаў ішоў на кухню, адкрываў кран з халоднай вадой і чакаў, пакуль не сыдзе цёплая. Ён піў амаль ледзяную ваду, але і ледзяная вада не здольна была заліць полымя, якое яго спальвала.

«Я паважаю яго... І я веру яму...» Яго. Яму... Гэтыя словы білі па мужчынскаму самалюбству, зневажалі. Выдатна, Маргарыта Уладзіміраўна! Выдатна! Паважайце. Верце... Праўда, мы гэта чулі таксама. І не толькі гэта! Чулі і чыталі. У вуснай і пісьмовай формах. І можам паўтарыць і вам самой і таму, каго вы зараз гэтак паважаеце і каму верыце гэтак... У наш час адлегласць — не перашкода, каб да канца высветліць адносіны. Варта толькі заказаць, як, скажам, сёння, тэлефон. «Добры вечар... З кім маю гонар? Ах, гэта вы зараз на пасадзе мужа Маргарыты Уладзіміраўны... Дазвольце прадставіцца: нейкім чынам і ў пэўнай ступені ваш папярэднік...»

Пачакай, пачакай! Ты звар'яцеў! Шантажыраваць жанчыну, як апошні нягоднік... У твае гады!

У Страхава аж выступіў халодны пот. Ён зайшоў у ванны пакой, зняў ручнік і пачаў выціраць твар, шыю, рукі.

«Што гэта сапраўды з табою, брат?»

Помсціць жанчыне такім чынам? Помсціць за тое, што яна павінна была зрабіць даўно і не зрабіла толькі таму, што любіла цябе?.. Ты ж сам добра ведаеш: віны яе ў гэтым няма, а калі і ёсць віна, дык вінаваты перш за ўсё ты сам.

Апошні раз ён званіў ёй — паўгода назад... Што і казаць, з гадамі, з узростам ды яшчэ за адлегласцю (шэсцьсот кіламетраў!) неабходнасць пісаць пісьмы, званіць, ездзіць у камандзіроўкі... З часам патрэбнасць гэта паступова ўсё слабела і слабела, і, наадварот, мацнела ўпэўненасць: што можа змяніцца ў жыцці жанчыны, на руках у якое двое дзяцей, хлапчукоў-падлеткаў, а зараз ужо і юнакоў?

І вось, аказваецца, магло змяніцца.

Але як жа так? Не напісала, не пазваніла, не спытала... Ах, і дурань жа ты, брат! Дурань з сівою галавою: хто ў каго калі пытае, калі такое здараецца?

І ён зноў пачынаў распальваць сябе і шукаць спосабу, як пакараць яе за здраду. Ён адправіць ёй гальштукі, якія яна падарыла яму (дома ён сказаў, што купіў у камандзіроўцы). Яны яшчэ прыстойныя — магчыма, згодзяцца...

«Ты зноў за сваё? Ну, брат, і паскуднік жа сядзіць у тваім нутры...»

Сядзіць! І не збіраецца падстаўляць правую шчаку. Гальштукі будуць адпраўлены бандэроллю. І бурштынавыя запанкі — таксама яе падарунак. «Вяртаю з удзячнасцю...» Будуць адпраўлены яшчэ...

Што яшчэ? Хопіць! Выпі валяр'янкі, калі распусціўся, нібыта...

Не, не хопіць! Ёсць яшчэ... Ёсць пісьмы! Цэлы партфель. «Стихи и проза, лед и пламень» — за дванаццаць амаль год. Цяпер кола гісторыі пачне круціцца ў адваротным кірунку. Кожны тыдзень, не, кожны дзень — па аднаму — будуць вяртацца крылатыя вестуны да гнязда, з якога яны вылецелі!

Вам гэта будзе даспадобы, Маргарыта Уладзіміраўна? А вашаму таму, каго вы зараз гэтак паважаеце і каму верыце? А ён будзе вас паважаць і будзе верыць вам, сустракаючы штодня гэты зваротны вырай?

Вось ён стары, даўно ўжо непатрэбны аблезлы партфель у самай ніжняй шуфлядзе пісьмовага стала. Яго ніхто там не чапае, ім ніхто не цікавіцца. (Даўно ўжо ніхто не чапае і не цікавіцца ні паперамі яго, ні яго сэрцам, ні ім самім...) Аднак, калі не хлусіць самому сабе,

калі, як на споведзі, перад самім сабою, прыпомні, калі ты сам перабіраў у руках і перачытваў гэты трапяткі вырай, замкнёны на маленькі ключык?..

Дык чаго ж ты хочаш?

Ён нічога не хоча.

Ён хоча толькі выпусціць гэты вырай назад — няхай цяпер ён ляціць туды, адкуль прыляцеў.

І пакуль Страхаў вытрасаў партфель на свой пісьмовы стол, пакуль вызваляў з ганебнага палону дні, месяцы і гады безагляднага чаду, зманлівых надзей, падсвядомай хлусні і свядомага маўчання — усе гэтыя ўзлёты і падзенні стоенай сутнасці ўласнай душы, якая столькі год натхнялася і жыла чаканнем вось гэтых ружовых, блакітных, белых, а зараз пажоўклых ужо канвертаў (да запатрабавання...) — увесь гэты час на яго твары адбівалася адно толькі пачуццё — помсты. Толькі помсты і пакарання!

Ён яшчэ нават патрос гэты пусты ўжо партфель, каб у яго нутры не ўхавалася ні радка, ніводнай літары нават...

Апошняй выпала засунутая на самае дно, у самы глыбокі куточак, пластмасавая фігурка Помніка затопленым караблям, купленая некалі ў Севастопалі, куды яны ездзілі з Маргарытай. У Маргарыты дома гэты сувенір стаяў на яе пісьмовым стале. У яго кватэры ён здаваўся надта танным. Антаніна Іванаўна — жонка — замахвалася нагогул выкінуць яго. Квадрыга чыгунных стаеннікаў — імянны пісьмовы прыбор і белапенная Афрадзіта — настольная лямпа і тут жа гэтая капеечная пластмасавая безгустоўшчына... Шкадуючы гэты мілы яго сэрцу напамінак, Страхаў замкнуў і яго разам з Рыцінымі пісьмамі на маленькі ключык у аблезлым партфелі.

Цяпер ён трымаў яго ў руках, і гэты танны пластмасавы сувенір набываў у яго вачах значэнне прарочага сімвала: Помнік затопленым караблям. Затопленым...

Усё затанула ў адзін момант. За трынаццаць мінут.

...Яму раптам да драбніц успомніўся той стракаты севастопальскі кіёск, набіты рознай драбязой, дзе яны з Маргарытай куплялі тады сувеніры. Маргарыта была ўпершыню ў Севастопалі, і ёй хацелася прывезці адтуль сувеніры ўсім сваім сябрам і знаёмым. Яна тады і яму накупляла розных буклетаў і праспектаў. Аднак найбольш узрушваў яе вось гэты пластмасавы Помнік затопленым караблям. І хоць ён быў усяго толькі мізэрнай копіяй Помніка велічнаму мінуламу — у яе вачах гэта не мела ніякага значэн-

пя. Хутчэй за ўсё таму, што ў Севастопалі ў марской пяхоце ваяваў і загінуў у маі сорак чацвёртага яе старэйшы брат.

Яны прывезлі ў Севастопаль ружы, і Маргарыта паклала іх да падножжа абеліска Славы на Сапун-гары.

— Можа, і ён тут ляжыць... Мама да самае смерці ўсё не верыла, усё чакала... Усё: «Мой Валечка і мой Валечка...»

...Ля Графскай прыстані здымаліся масоўкі. І яны таксама пастаялі ў натоўпе цікаўных. Цокалі па асфальце рамізнікі, і тоўпіліся нейкія паношаныя пані ў аблезлых гаржэтках і капелюшах з вуалеткамі; разгублена мітусіліся распараныя і расхлістаныя паны ў кацялках; чаплялася за руку старога вусатага генерала і кудахтала азызлая, у дарагім футры, генеральша. Мільгалі ў гэтым стракатым натоўпе афіцэры ў залатых мікалаеўскіх пагонах.

— Га-а-спада! Га-а-спада! — істэрычна парываўся даводзіць нешта натоўпу маладзенькі паручнік, размахваючы драпежным носам маўзера.

Ішлі звычайныя кіназдымкі, і было цікава назіраць кіношную кухню.

Яны адсталі ад свае турысцкае групы, і Страхаў сам паказваў Рыце горад, дзе яму быў знаёмы кожны камень. Ён і сам да вайны таксама служыў тут на Чарнаморскім флоце, служыў у Севастопалі. Страхаў і Рыта гулялі па Прыморскім бульвары, доўга стаялі насупраць сапраўднага Помніка затопленым караблям. Рыту на кожным кроку захапляла і хвалявала навізна ўражанняў. Страхаву ж успаміналася яго маладосць, яго служба ў гэтым цудоўным белакрылым горадзе. Ім абоім у гэты дзень больш хацелася маўчаць, чым гаварыць. І яны былі рады, што пазбавіліся свайго бязладнага турысцкага натоўпу.

А калі вярталіся назад з Севастопаля, Маргарыта дастала з сумкі гэты маленькі пластмасавы сувенір і, аддаючы яго Страхаву, папрасіла:

— Няхай ён заўсёды стаіць у цябе на пісьмовым стале. Як напамінак.

...У тую восень на рэдкасць нястомна цвіла японская мішмула. Ужо і снежань стаяў — праўда, таксама дзіўна сухі і сонечны,— а важкія жаўтлявыя суквецці ў тугіх далонях вашчанай лістоты ўсё набіралі сілу і буялі, буялі...

Тады, у тую крымскую восень, ні ён сам, ні яна нізашто не паверылі б, што некалі можа прыйсці дзень, калі гэты пластмасавы помнік набудзе такі горкі прарочы сэнс. Помнік затопленым караблям...

### 3

Страхаў не заўважыў нават, як зноў падышоў да расчыненага акна.

Ён уявіў сабе, як вярталася гадзіну назад з вакзала Рыта. Як яна развітвалася ў вагоне з тым, другім... Як глядзела яму ў вочы (у яго сціснулася сэрца — ён так выразна ўяўляў сабе гэты яе позірк!): Як папраўляла гальштук і лёгкім дакрананнем пальцаў праводзіла па скронях. А то яшчэ была ў яе звычка, калі доўга ці пільна глядзіш ёй у твар,— закрываць твае вочы далонямі. Ад гэтых яе заўсёды халодных далоняў надоўга заставаўся на твары ледзь улоўны пах духоў... Яна заўсёды баялася, каб цягнік не крануўся без папярэджання і каб не застацца ў вагоне. І аднак яшчэ больш страшнае было ёй само развітанне... І вось ужо цягнік кранаецца з месца, і яна спалохана цалуе яго на пероне ў апошні раз, а потым ідзе, усё хутчэй і хутчэй, поруч з вагонам. А потым усё адстае і адстае. І нарэшце застаецца на пероне адна. І стаіць, пакуль не знікне апошні вагон. І толькі тады, больш не азіраючыся, паволі накіроўваецца ў будынак вакзала. А там, у кніжным кіёску, купляе канверт і паштоўку і адпраўляе наўздагон — да запатрабавання — аднолькавае пытанне: «Як мне быць без цябе?..»

Колькі такіх паштовак-пытанняў даганяла яго самога следам!.. Атрымліваючы іх, ён радаваўся ім і крышку сумаваў разам з ёю. І ў той жа час ганарыўся сваёй мужчынскай уладай над яе жаночым сэрцам... І ніколі, аднак, не садзіўся пісаць ёй адказ тут жа, адразу на пошце. Самому яму для гэтага патрэбны быў адпаведны настрой і месца.

Ён ведаў, што сум, тым больш жаночы, мае шчаслівую здольнасць хутка развейвацца... Іншая справа, што сам ён без гэтага жаночага суму адчуваў бы бясконцую адзіноту, што яму гэты сум прыносіў як быццам ачышчэнне, рабіў яго лепшым (ва ўсякім разе яму самому так здавалася).

Аднак ці настолькі лепшым, каб разумець і каб імкнуцца пазбавіць ад гэтага суму жаночае сэрца? Ён не

хлусіў сабе, перад уласным сумленнем ён быў шчыры: на гэта ён быў не здольны.

Яму было добра так, як было і як усё ішло само па сабе.

...Ці заходзіла яна сёння на вакзал, ці купляла паштоўку і пасылала яе ўслед таму, другому?

Але навошта ёй была тая паштоўка, калі ён вернецца да яе і застанецца ■ ёю. І яна таксама застанецца з ім. Назаўсёды?!.

І Страхаву зноў зрабілася холадна. Ён вярнуўся да стала і з гуры канвертаў узяў першы, што трапіў пад руку. Ён дастаў складзены ўдвое аркушык ■ вучнёўскага сшытка ў клетачку і спачатку бегла, адразу не ўнікаючы ў сэнс, а потым паступова паглыбляючыся ў чытанне, непрыкметна перанёсся ў той свет, якім і цяпер яшчэ дыхаў гэты даўні аркушык.

«Ты не ўяўляеш нават, якую гару зваліла я з плеч! Са студзеня ў нашым доме ідзе капітальны рамонт. А зараз ужо верасень... Усе мы за гэты час перахварэлі, ніхто не хадзіў у адпачынак. Наш гастраном штомесяца перавыконваў план: навыперадкі адзін перад другім мы скуплялі «каленвал» і «чарніла» (бачыш, як далёка я пайшла!), каб толькі дагадзіць нашым мучыцелям-майстрам. А яны — чаго яны толькі не выраблялі! Прыйдуць водаправодчыкі, напрыклад, і перакрыюць на тыдзень ваду, і мы цягаем вёдры з калонкі за паўвярсты. А тынкоўшчыкі і маляры развядуць гліну і фарбу, усё заляпаюць і таксама знікнуць на паўмесяца... Загадалі, і ■ купіла дванаццаць банак фарбы, а яны знеслі і палову прадалі маёй суседцы з ніжняга паверха, і я купляла зноў, бо пагражалі, што кінуць работу і пяройдуць у суседні пад'езд. А тады паспрабуй дачакайся іх адтуль!.. Мой сусед па пляцоўцы, пракурор, смяецца з мяне: «Ну, што гэта вы, Маргарыта Уладзіміраўна, быццам не ў савецкай дзяржаве жывяце...» Канечне, яго пракурорша жыве ў савецкай дзяржаве. У яе рамонт пачаўся, як і ў мяне, у студзені і ў лютым ужо быў скончаны. А я... А ў мяне... Добра быць пракуроршай...

Як твае справы? Як жыццё? Тваё апошняе пісьмо як заўсёды было пяшчотнае і мілае. Дзякуй... Ну вось ломяцца ў дзверы ўжо хлопцы. Забылі сёння ключ дома. (А званок — нешта зрабілася — не звоніць.) Пайду адчыняць і хутчэй карміць сваіх драпежнікаў... Цалую. Маргарыта».

...Яму няцяжка было ўявіць той, даўні яе капітальны рамонт. Той яе смех з сябе. Смех скрозь слёзы... Страхаў яшчэ раз прабег пісьмо вачыма. Як ёй патрэбна была на час таго рамонту мужчынская помач і падтрымка... А не паскардзілася ж. Напісала, калі ўжо ўсё звалілася з плеч. Ну, а каб і паскардзілася? Каб нават паклікала?.. Ён жа таксама ніколі не быў вольны ад уласных спраў, ад уласнага клопату.

Ён узяў яшчэ адзін канверт. Патрымаў яго і пачаў чытаць.

«Сёння споўнілася роўна шэсць год з таго самага дня, як мы з табою разам. Разам, хоць я не маю абсалютна ніякага права сказаць, што ты мой, а ў цябе таксама не хопіць адвагі сказаць тое ж самае пра мяне... Скажу табе па шчырасці: часам я адчуваю такую стому ад гэтай безнадзейнай дарогі... Калі ты што-небудзь прыдумаеш, напішы мне. Ды што тут можна прыдумаць?

Які тэрмін яшчэ ў Віталія? Ці не будзе перагляду яго справы? Ах, ты мой бедны, бедны чалавек...»

І прыпіска ўнізе: «Нічога не трэба прыдумваць і шукаць. Я застаюся з табою...»

...Пра што ён мог тады думаць, што ён мог шукаць? Ён тры гады не ведаў, на якім жыве свеце, пакуль Віталь адбываў турэмны тэрмін. Ён не мог глядзець людзям у вочы: сынок толькі што прызначанага галоўнага інжынера завода быў удзельнікам кражы «Волгі».

Жонка адмовілася пайсці на суд («Там цяпер усё вырашаць і без мяне...»). А сам ён тады прайшоў усе кругі пекла.

Маргарыта прыехала на другі дзень пасля суда. Як яму была тады патрэбна яе спагада і падтрымка! Тыя чорныя дні ў яго жыцці былі б яшчэ чарнейшымі, без гэтых вось яе канвертаў... Ён прасунуў у глыбіню папяровай гуры на стале свае рукі, нібыта ўзважваў на раскрытых далонях затоены ў ёй змест.

І зноў, гэтак жа механічна, узяў і разгарнуў першы, які трапіў у рукі, аркушык.

«Я насмяшу цябе... Сёння мы хадзілі з Эмай Міхайлаўнай на канцэрт у філармонію. (Ты ведаеш Э. М. — гэта мая супрацоўніца, я вас летась знаёміла каля нашай прахадной.) Канцэрт падмянілі: захварэў Рэйзен, і абышліся ўласнымі славутасцямі... Але нам не захацелася вяртаць білеты, і мы пайшлі.

Пасля першага аддзялення, у антракце, Э. М. пасміхаецца і кажа мне:

— А вы не ўважліва слухалі...

— Не уважліва? Здаецца, не.

— Вы ўсміхаліся ўвесь час свайму суседу.

(А ў мяне збоку і сапраўды сядзеў сусед — мужчына.)

— Суседу?

— Я назірала за вамі.

— Але я зусім не яму ўсміхалася...

— А каму ж?

— Яго гарнітуру...

— Гарнітуру?!

— Гарнітуру. Мы з ім знаёмыя...

— Знаёмыя ўсё-такі з гарнітурам ці з суседам?

Я не паспела ёй нічога адказаць, бо якраз у гэты час на сваё месца вяртаўся мой сусед. На ім быў шэры польскі гарнітур. Э. М. толькі пацiснула плячыма. А мне раптам зрабілася нястрымна весела. Гэты настрой не пакідае мяне і зараз».

Страхаў павярнуўся і міжвольна перакінуў руку на спінку крэсла, дзе вісеў яго ўласны гарнітур. Таксама шэры і таксама польскі... Гарнітур ужо быў не новы, але Страхаў любіў яго: ён быў выдатна пашыты і быў вельмі зручны. І куплялі яны яго ўдваіх з Рытай. І не так ён сам, як яна тады радавалася, што яны знайшлі яму такі выдатны гарнітур. І да таго ж зусім недарагі.

Колькі ў іх было такіх сумесных уцех і радасцей... У Рыты быў на гэта талент: і самой умець радавацца і другому перадаваць гэты настрой. Нават калі прычына да гэтага была і зусім нязначная на першы погляд... У яго дома, каб некага па-сапраўднаму ўзрадаваць, перш за ўсё патрэбна было вызначыць, колькі каштуе твой благі намер...

«Я насмяшу цябе...— горка ўсміхаючыся, уголас паўтарыў ён першы радок яе пісьма.— Я насмяшу цябе...»

І ён разгарнуў яшчэ адзін канверт.

«Сёння ў Колі дзень нараджэння і, каб не таўчыся на кухні і не наладжваць «банкета» (з гэтага выпадку мы летась банкетавалі), мы набралі яды і ўсе ўтраіх на цэлы дзень закацілі на возера. Хлопцам яно не ў навіну, а я, уяві сабе, за ўсё жыццё апынулася тут — за дзесяць крокаў, можна сказаць, ад дому — упершыню. Вядома, адстаялі гадзіны паўтары ў чарзе на лодку, затое, ужо дарваўшыся да яе, не выпусцілі з рук да самага вечара.

Захаплення было! Перш за ўсё, я навучылася веславаць (хлопцы абодва вяслуюць выдатна!). Мы прычальвалі і высаджваліся на бязлюдных астравах і наладжвалі ў джунглях паляванне на тыграў і дзікіх сланоў; мы праганялі смагу сокам какосавых арэхаў, а па скальных малюнках і па раскопках здагадваліся пра паходжанне тутэйшых цывілізацый, адкрывальнікамі якіх былі мы!.. Скончылася ўсё тым, што мяне, белую жанчыну, схапілі туземцы і павялі да свайго правадыра. Правадыр, абвешаны ніжэй пояса лісцем папаратніку, сядзеў у вігваме сярод зарасляў малінніку і вырашаў мой лёс: даравать мне жыццё ці кінуць жывую ў вогнішча... І паколькі за правадыра быў наш чуллівы Сашка, лёс мой, як ты бачыш, вырашыўся шчасліва. Гэту падзею, як і патрабаваў рытуал, мы адзначылі дзікімі скокамі і спевамі вакол вогнішча... А потым накінуліся на сумкі з ядой і вымялі з іх усё да крошкі!

Мне здаецца, што за сённяшні дзень з гэтымі сваімі дзікунамі я памаладзела на дзесяць год... Я ўсё-такі шчаслівая! Праўда ж?»

...Страхаў гэта ведаў: яна была шчаслівая маці. Яго жонка гэтага шчасця ад дзяцей не мела. Як, дарэчы, не мела яна шчасця і з ім, сваім мужам. Паміж імі даўно ўжо не існавала цеплыні і шчырасці. У іх заўсёды быў надзейны дастатак і дабрабыт. Сам ён ніколі не меў звычкі абмяжоўваць ці тым больш рэвізаваць жончыны выдаткі. Яна ж, не ведаючы ні ў чым пільнай патрэбы, умела весці іх не толькі з размахам, але і з густам. Абое яны любілі ў жыцці зручнасць і камфорт. І збоку гледзячы, усё ў іх было «як у людзей»: мой муж, мая жонка... Нават паездкі за граніцу сумесныя... І ў той жа час кожны з іх жыў сваім уласным жыццём, адмежаваным ад другога сцяной маўклівага разумення, што сцяну гэту разбурыць ужо немагчыма, ды і няма сэнсу разбураць яе.

Можа, таму і дзеці, пра ўсё гэта спачатку здагадваючыся, п потым ужо і разумеючы, можа, і дзеці таму ў іх выраслі такія. Сыну, апрача грошай, ад бацькоў нічога было не патрэбна. Дачка таксама, хоць і была ўжо замужам і мела ўласных дзяцей, глядзела на маці, занятую на службе, не маладую ўжо жанчыну, не інакш як на хатнюю работніцу.

Дзеці не паважалі бацькоў, а яны, бацькі, не маглі зразумець, чаму ў іх выраслі такія дзеці. І яны зайздросцілі шчаслівым бацькам.

Страхаў зайздросціў заўсёды Маргарыце. Зайздросціў з той самай першай іх выпадковай сустрэчы, калі яе сыны былі яшчэ зусім малымі дзецьмі.

...Будучы ў камандзіроўцы, ён зайшоў у нядзельны дзень паабедаць у летняе кафэ ў гарадскім парку. Як і звычайна ўсе столікі былі занятыя. Ён абышоў усю залу і толькі ў самым кутку, ля акна, убачыў адно не занятае крэсла. Праўда, на сядзенні ляжала жаночая сумка. Яна, відаць, належала жанчыне, якая сядзела за столікам з двума хлапчукамі па абодва бакі ад яе. А магчыма, была і другая ўладальніца, і яна толькі на нейкі момант адлучылася. Страхаў стаяў непадалёку, нейкі момант вагаючыся, спытаць пра гэта месца ці не. Наўрад ці так пажадана ўжо было яго суседства... Жанчына і дзеці заўважылі яго няпэўнасць, і маці, нешта ціха сказаўшы старэйшаму хлапчуку, паказала вачыма на пустое крэсла. Хлапчук устаў, узяў з крэсла сумку і перадаў яе маці. І азірнуўся на Страхава. І ўсе яны трое неяк вельмі падобна і прыязна паглядзелі на яго і ўсміхнуліся.

І тады ён хутка падышоў і, звяртаючыся да жанчыны, спытаў дазволу сесці за іх столік.

Спачатку яго прысутнасць прыкметна скоўвала іх, і хлапчукі прымоўклі і толькі ўсмешліва пераглядаліся цёмнымі, вельмі падобнымі вачыма. Яны і падстрыжаны былі аднолькава — абодва з кароценькімі грыўкамі, і светлыя гарнітурчыкі на абодвух былі аднолькавыя, і сандалі з белымі гольфамі. Розніца ва ўзросце ў іх таксама была невялікая: было ім, напэўна, гадоў па шэсць-восем.

Калі падалі марожанае з клубнікай, аказалася, што Страхаву і большаму хлапчуку паклалі па чатыры ягады, а маці і меншаму толькі па тры. Ягады былі вялікія, чырвоныя, з яркімі зялёнымі хвосцікамі... Ад гэтай смакаты і прыгажосці — белы, ружовы і жоўты камячок марожанага на вазе, а зверху клубніка! — нельга было адвесці воч.

І меншы не вытрымаў:

— Мама, у Сашкі чатыры...— схіліўся ён да матчынага вуха.

— Сапраўды? — як быццам здзівілася маці (прычым здзівілася ўголас), пераводзячы позірк з большага сына на меншага. І затрымала позірк на меншым.

Той апусціў вочы.

— Гэта маме! — крышачку паспешней, чым гаварыў звычайна, азваўся старэйшы і прысунуў сваю вазу да маці.

У меншага праяснеў твар. І маці не адмовілася, не стала пярэчыць. Яна толькі падзякавала старэйшаму сыну.

— Можа, мы з Колем памяняемся? — разумеючы ўладу спакусы і не ведаючы, як лепей у гэтай сітуацыі выразіць пытанне, звярнуўся да маці Страхаў.

— Не, не! Дарослым — па чатыры, а дзецям — па тры. Пакуль яны яшчэ не дарослыя.

Адчувалася, што гэта быў няпісаны закон сям'і. І парушаць яго ніхто не меў права. Страхаў нават збянтэжыўся. У яго ўласнай сям'і існаваў закон зусім іншы: меншаму саступаў большы і меншаму дагаджалі дарослыя. Бо ён меншы...

З кафэ яны выйшлі ўсе разам. Па дарозе, у павільёнчыку кветак, жанчына купіла белых нарцысаў, і Страхаў правёў іх і развітаўся каля аўтобуса: яны павінны былі ехаць на могілкі. Ён не адважыўся тады спытаць у іх, хто ў іх там спачывае і каму гэтыя кветкі. І яны яму нічога не сказалі.

Аўтобус крануўся, і хлапчукі замахалі яму праз акно рукамі. Жанчына таксама ледзь прыкметна кіўнула яму галавой.

Страхаў пастаяў нейкі момант, паглядзеў услед аўтобусу і павольна пайшоў да свае гасцініцы.

А назаўтра ён стрэў гэту жанчыну ў кабінеце галоўнага інжынера на заводзе, куды прыехаў у камандзіроўку.

## 4

«Учора мне раптам надумалася стрэцца з табою. Памятаеш, мы некалі дамовіліся ■ табою хадзіць на спатканне кожны вечар... да тэлевізара. Калі перадаюць інфармацыйную праграму «Час». («Вы смотрите информационную программу «Время»...)

Я ніколі раней табе не казала і не пісала, што да гэтага спаткання я рыхтавалася кожны вечар, як да спаткання сапраўднага: я кідала ўсе свае справы, якія ні былі б яны важныя і неадкладныя... Я пераапраналася к гэтаму моманту ў нешта абавязкова небудзённае. Я глядзелася ў люстра і рабіла ўсё тое, што робіць звычайна жанчына, калі яна спяшаецца на спатканне з каханым і хоча выглядаць прыгожай...

Учора праграму «Час» я глядзела ў сваім старым халаце і на галаве ў мяне былі нераскручаныя бігудзі. У мяне не было нават прыбрана ў кватэры... І ўчора інфарма-

цыйная праграма «Час», як і сама я, здалася мне сумнай і нецікавай. Учора мне было і слухаць і глядзець яе нецікава і сумна. І, не дачакаўшыся канца, я выключыла тэлевізар».

Ён даўно ўжо забыў пра тую даўнюю іх — сто гадоў назад — дамоўленасць. Дакладней, ён не тое, што забыў ці ніколі не ўспамінаў пра яе. Не. Ён не раз думаў і нават пра сябе ўсміхаўся, уяўляючы, што вось і яна, Рыта, як і ён у гэты самы момант — «Московское время двадцать один час» — зручна сядае ў крэсла перад экранам тэлевізара... Ён думаў. Ён не раз успамінаў. Але ён проста не рабіў з гэтага нейкай выключнай падзеі ці нейкага свяшчэннадзейства... Ён успомніў, што гэта параўнаўча нядаўняе Рыціна пісьмо, калі ён чытаў яго, яно і рассмяшыла яго і выклікала міжвольнае раздражненне: жаночыя фантазіі. Не хапала, каб і ён штодня пераапранаўся перад інфармацыйнай праграмай «Час». Ці, можа, каб яшчэ завязваў гальштук. На вачах у жонкі...

Цяпер жа змест таго Рыцінага пісьма прачытваўся ім зусім па-іншаму. Значыць, г э т а ўжо тады пачалося? Ці, можа, г э т а ўжо было і тады, калі яна паспрабавала яшчэ раз з ім спаткацца? Паспрабавала, хоць на гэту сустрэчу, як яна прызналася ў сваім пісьме сама, у яе ўжо не засталося ранейшага натхнення...

Ён паспрабаваў на момант уявіць яе з бігудзямі (яго жонка — яна вельмі клапацілася пра свой знешні выгляд — кожны вечар накручвала дома валасы на бігудзі і трымала галаву ў нейкім старасвецкім каптуры), у мультановым халаце, хоць ён добра ведаў, што яна не любіла халатаў і дома хадзіла ў просценькіх сукенках. Ён не мог уявіць сабе, каб яна сядзела ў крэсле перад тэлевізарам у непрыбранай кватэры... Не, на спатканне — з ім — т а к о ю і т а к яна не магла прыйсці. І калі прыйшла — значыць... Значыць, г э т а ўжо было тады...

Ён хацеў знайсці самае першае яе пісьмо, хацеў прачытаць самыя першыя яе пісьмы, якія яна пісала яму некалі. Ён паспешліва, нервова перабіраў адзін канверт, другі, трэці... І ніяк не мог адшукаць у гэтай папяровай гуры таго яе пісьма, тых яе пісем. Позірк яго спыніўся на сінім паштовым аркушы. «Только любовь дает в этом мире утешение и силу жить дальше, а без нее эту силу взять неоткуда...» Гэта не мае словы, гэта словы пісьменніка, якога я вельмі люблю. Мне здаецца, што яны напісаны пра мяне самую...»

«Гэтыя словы напісаны пра мяне самую...» — зноў услых паўтарыў Страхаў.— «Пра яе? А пра мяне хіба не?»

І зусім ужо без усякай сувязі ўзбуджаная памяць яго, нібы пражэктарам, выхапіла з далечыні часу самыя першыя крокі іх зближэння, самыя першыя хвіліны, калі яны зразумелі адзін аднаго па вачах, па нейкіх зусім выпадковых словах, па разгубленасці і няўпэўненасці, як быццам абое яны былі зусім яшчэ юнакамі — без вопыту гадоў і жыцця.

...Ён дачакаўся канца рабочага дня і прыйшоў стрэць яе на прахадной. Ён баяўся не пазнаць яе і згубіць у натоўпе. Баяўся, што ў яе могуць узнікнуць справы, якія затрымаюць яе, або, наадварот, па справах яна магла пайсці раней з завода.

Яна была ў светлым палатняным касцюме, аздобленым сціплай вышыўкай. І, стоячы з боку ад прахадной, ён прагна прыглядаўся, ашукваючыся і спадзеючыся, да ўсіх светлых жаночых касцюмаў. Твар пазнаць у імклівым натоўпе было цяжэй. Да таго ж твар у яе быў вельмі звычайны.

І пакуль выліваўся людскі паток, ён міжволі задаваў сам сабе пытанне: а што ён ёй скажа?..

Яна выйшла з прахадной, калі паток ужо схлынуў, калі ўжо зусім не было патрэбы напружваць зрок і ўвагу... Яна чамусьці здалася яму вельмі мала падобнай на сябе ўчарашнюю і на тую, з якою ён стрэўся раніцай у кабінеце галоўнага інжынера. Гэтай змене і гэтаму непадабенству быў віною не інакш як яе летні капялюш з шырокімі загнутымі ўніз палямі. Капялюш мяняў яе аблічча, надаючы яму тую жаночую прывабнасць і загадкавасць, якая ўздзейнічае на ўяўленне мужчыны часам мацней, чым самая дасканалая прыгажосць.

Яна выйшла не адна. Іх было трое: мужчына сярэдніх год і маладая статная жанчына.

На Страхава ніхто не звярнуў увагі, і ён пайшоў за імі паводдаль. На першым жа скрыжаванні яны развіталіся і пайшлі кожны ў свой бок. І тады Страхаў дагнаў яе і пайшоў поруч.

Яна азірнулася на яго, спачатку нават спалохалася, а потым твар яе ўспыхнуў і асвяціўся ўсмешкай. І ў гэтай усмешцы — Страхаў паспеў гэта заўважыць — адбілася радасць.

— Даруйце мне... Я хацеў вас убачыць,— не пазнаючы свайго голасу, усяго толькі і вымавіў Страхаў.

Усмешка сышла з яе твару гэтак жа імгненна, як сышла і раптоўная краска. Замест іх з'явілася нейкая пакутлівая кволасць. Яна не ведала, што яму адказаць, яна не знаходзіла патрэбных слоў.

— Я сёння еду. У мяне ўсяго толькі дзве гадзіны засталося. Я вас больш...— Страхаў спыніўся і недагаварыў.— Я павінен быў вас убачыць,— цвёрда паправіўся ён.— Я інакш не мог.

— Але чаму? — усяго толькі і спытала яна, не прыпыняючы кроку.

— Я і сам не ведаю...— шчыра прызнаўся ён.

Яна засмяялася:

— Вы ж рызыкавалі спазніцца на самалёт ці на цягнік. Я ж магла затрымацца. Магла пайсці раней...

— Я пра гэта думаў таксама.

— І ўсё-такі чакалі? — Ёй, жанчыне, гэта было прыемна.

— Чакаў... Мы не павінны былі сёння размінуцца.

Яна толькі моўчкі пакруціла галавой: гучала ў яго голасе нешта такое, што не дазваляла ёй зводзіць гэту дзіўную гутарку на жарт. Ды ёй і не хацелася, каб гэта было жартам.

— Я хачу спытаць у вас толькі адно: я маю права званіць і пісаць вам дадому?

Яна нейкі час маўчала. Потым адказала адным усяго толькі словам:

— Маеце.

Ён правёў яе да самага яе дома. Яна паказала яму свае вокны. Ён папрасіў, і яна сказала яму нумар свайго тэлефона. І яны развіталіся. І ён паехаў у аэрапорт.

А назаўтра вечарам пазваніў ёй ужо з дому. І з таго часу пачаў званіць ёй і пісаць пісьмы амаль штодня.

І яна пісала яму кожны дзень..

Стрэліся яны зноў толькі праз год, калі ён зноў прыехаў у камандзіроўку.

З таго часу пайшоў дванаццаты год...

* * *

Вярнуў Страхава да рэальнасці тэлефонны званок. Ад стомы, ад напружання, ад нечаканасці, ён так здрыгануўся, што ў левым баку яго нібыта пракалолі нечым вострым. Ён кінуўся да тэлефона, як кідаецца, топячыся, чалавек да выратавальнага круга.

— Я слухаю! Я слухаю!.. Я слухаю...— з надзеяй паўтараў ён у тэлефонную трубку.

— Госпадзі, можна падумаць, што ты ўсю ноч не клаўся спаць, а сядзеў і толькі чакаў гэтага майго званка.

Страхаў схапіўся вольнаю рукою за спінку крэсла.

— Алік разбіў ноччу тэрмометр. Выйдзі раней на работу і купі па дарозе ў аптэцы новы. І занясі Віталю.

Страхаў маўчаў.

— Ты мяне чуеш?

— Чую.

— Да работы купі і занясі! Абавязкова!

— Куплю і занясу да работы...

*1973*

## ЗІМОВАЯ ДАРОГА

Цяжкі, як камень, Іванаў сон абудзіла Волька:

— Перамяніся, бацька. Вазьмі, во, чыстую кашулю...

Выкачаная на лаве палатняная кашуля — толькі што з двара, з марозу — аддавала вільготным халадком і пахла сіверам. Волька трымала кашулю ў руках і трэсла Івана за плячук.

— Бацька, ці чуеш, бо, ты?

— Чаму гэта я не чую? — зазлаваў у сне Іван.— Давай перамянюся,— і ён працягнуў руку — па кашулю — да Вольчыных рук.

Рука яго мацала настылае паветра і не знаходзіла кашулі.

— Дзе ж яна ў цябе? — канчаткова абудзіўся Іван.

Кашулі не было. І Вольчынае рукі на плечуку не было таксама. Была толькі нахаладалая за ноч хата.

І хата не абазвалася.

— Божухна мой...— бездапаможна ўпала на коўдру Іванава рука.— Калі ж ты ўжо забярэш мяне да яе...

...Бог не хацеў яго забіраць і адпусціў яму ў гэтай астылай нямой хаце доўгае жыццё — з таго самага дня, як пахаваў ён сваю Вольку і застаўся на свеце адзін. Праўда, тады пры ім былі яшчэ дзеці. Дзве малодшыя дачкі. І яны ніколі не маўчалі, пастаянна ўсё не ладзілі між сабою і нечага заўсёды сварыліся. Але без яе, без Волькі, хата ўсё роўна здавалася Івану нямою.

...Першыя гады яна хоць снілася яму. Усё не хацела паміраць і ўсё прасілася ратаваць яе ад смерці, як прасілася тады, калі ляжала ў раённай бальніцы ўжо ў асобнай палаце.

— Іванка, завязі мяне ў Мінск. Можа, там дактары ведаюць лепш за гэтых...

А калі на нейкі час хвароба адпускала яе і давала як быццам палёгку — перад тым, як зноў накінуцца на яе спакутванае цела,— яна ўсё клапацілася пра хату, пра дачок, пра яго самога.

— Падай, Іванка, заяву старшыню на шыфер. Каб да восені, да дажджовіцы, страху перакрыць... А то ізноў, як палье...

— От, не клапаціся ты пра страху. Нідзе яна не дзенецца,— угаворваў яе Іван.

— Яна-то не дзенецца...

І схуднелаю, цёмнаю, як дрэва, рукою (а ці даўно гэтыя рукі былі поўныя і белыя, як у маладое!) яна зняможана змахвала адзінокую слязу, што доўга кацілася па запалай шчацэ. Гэтыя слёзы яе разрывалі Іванава сэрца. А трэба ж было мацавацца, трэба ж было не паказваць нават выгляду, што ніякі ўжо Мінск і ніякая страха ёй ужо не спатрэбяцца і не памогуць...

— Абы ты хутчэй паднялася і вярнулася дадому...

— Каб жа паднялася... Каб жа вярнулася, Іванка...

— Вернешся, галубка... Мы яшчэ з табою... Нам жа яшчэ дзяцей паладкаваць трэба.

— Дзявок не трымай... Хлопцы абодва нічога, то няхай сабе ідуць... Дарма, што малады.

Ён ведаў, што яна турбавалася пра замужжа іх малодшых дачок Іры і Галі. Як і ўсякая маці, яна турбавалася, каб дочкі не заседзеліся, каб пайшлі замуж... Дочкі яшчэ не заседзеліся. Адной — Іры — ішоў дваццаты год. Пасля курсаў яна працавала рахункаводам у школе і жыла дома. А Галя — самая малодшая — тая па хваробе асталася на другі год у восьмым класе — дык Галя яшчэ мусіла дзесяты клас канчаць толькі. Аднак у абедзвюх ужо былі — як не быць, самая пара — неблагія хлопцы.

— Сама яшчэ будзеш вяселлі ім спраўляць.

Але яна ўжо не слухала яго, а разважала хутчэй сама з сабою, нібыта прыслухоўваючыся да сябе самое знутры.

— Цяжка Галі будзе жыць з яе характарам... І табе з ёю будзе цяжка... Яна і на парог не пусціць...

Іван і гэта ведаў: кажучы так, яна мела на ўвазе тую, другую жанчыну, якая можа прыйсці пасля яе.

— Пра што ты гавораш... Апомніся, галубка!

Ён нязграбна гладзіў сваімі шурпатымі, задубянелымі ад векавечнай сялянскай працы рукамі яе твар і плакаў скупымі мужчынскімі слязьмі.

...Іван расказваў свае сны суседкам, і кожная з іх разгадвала гэтыя яго сны па-свойму. І выходзіла заўсёды, аднак, адно агульнае: крыўдуе Волька на тым свеце, што Іван ёй помніка не паставіў. Вось і сніцца таму... Крыж крыжам, але як ні кажы, на цяперашнім часе, драўляным крыжам і на тым свеце не абысціся... А каторая з суседак не праміналa яшчэ і ўкалоць Івана: дзякаваць богу, дырэктары саўгасаў ды маёры ў нас з торбамі не ходзяць.

Дырэктарам саўгаса рабіў Іванаў сын Алесь. А за маёрам была замужам старэйшая дачка Каця.

З помнікамі было цяжка. Паблізу заказаць прыстойны

было немагчыма: у раёне ляпілі абы-што. А дзеці хацелі паставіць мацеры добры помнік. І таму што добрага не было дзе заказаць, таму і цягнулася вось так.

Нарэшце Іван намогся: буду ставіць такі, які здолею паставіць! І тады сын Алесь — дырэктар саўгаса — паехаў аж на Украіну. Потым яшчэ раз ездзіў. І толькі за трэцім разам — дабіўся-такі па знаёмству! — прывёз нарэшце нават і вельмі ж завідны помнік. З вельмі дарагога каменя — не тое, што гэтыя цэментовыя гаршкі: перазімуе і на вясну абсыплецца.

Той чорны, з іскрыстым блакітным бляскам камень, і выгаварыць было спачатку цяжка: лабрадарыт. Толькі і здабываецца ён на Украіне ды на Урале. Ды яшчэ ў Амерыцы ён ёсць.

І вось той помнік — на ўсе могілкі другога такога не было — усё роўна што нажом адрэзаў: перастала сніцца Волька Івану. Як быццам і не было яе ў яго. Як быццам на свеце яе не было ніколі... А ён нібыта жыў (здавалася яму цяпер), можа, сто ці, можа, дзвесце гадоў на гэтым свеце, жыў адзін, як пустэльнік.

Дочкі, пра якіх балела сэрца перад смерцю маці, пайшлі замуж абедзве ў той жа год. І ўжо вяселле ім спраўлялі цёткі — Вольчыны сёстры. І ўжо яны радаваліся і плакалі за нябожчыцу, што не дачакалася гэтае радасці: Іру і Галю аддавалі ў адзін дзень, і вяселле рабілі за адным сталом.

Дочкі адразу ж пасля замужжа, як ластаўкі з гнязда, вылецелі. Малодшая Галя за гаспадаром паехала недзе аж на Урал. (Каб канчаць тут, дома, дзесяты клас, і слухаць нават не хацела.) А Іра, хоць і жыла паблізу, у суседнім раёне, але ўсё роўна маючы ўжо свой уласны прытулак, маючы гаспадара, а праз год і дзіця,— і яна ўжо толькі сягды-тагды наведвалася бацькі, і толькі летам на ягады ды на садавіну прыязджала сям'ёю. Прыязджала летам у адпачынак і самая старэйшая дачка Каця, што была за маёрам. І ў тае быў хлапчук. Дык летам Іванава адзінота была яшчэ не такая адчувальная.

Прыгоніць з пашы на дзень брыгадных коней, то ў дачок ужо ўсё і прыбрана і нагатавана. Усё, як было некалі пры нябожчыцы мацеры. Дочкі пайшлі па ёй.

...Калі яна толькі паспявала ўсё рабіць: чацвёра дзяцей, і хата, і агарод, і гаспадарка, і калгасная праца... А ніколі ні сама на вуліцу не выйшла абы ў чым, ні гаспадара не адправіла, ні дзіця ніводнае не выпусціла з хаты абы-

як, як у іншых жанок: пайшла замуж, нарадзіла дзіця — дык і абабілася адразу, дык і ў хату ўжо не ўлезці.

А яго Волька!..

І цяпер, пасучы коней у барку, ніколі не мінае Іван тае разлатае хвоі, што высіцца непадалёку прагаліны, дзе некалі стаяла старая сушня. У той сушні, некалі да калгасаў яшчэ, церла лён уся Дуброва, адкуль Іван узяў сваю Вольку. Нямала паслужыла яна яшчэ і калгасу, пакуль не пачалі здаваць лён на заводы трастой, ды пакуль не прыйшоў камбайн... Ужо даўно нават старыя жанкі забылі пра тую сушню, а маладыя нават не ўяўляюць, што ў той сушні рабілі, маладыя ўжо церніцы ў вочы не бачылі... Старую сушню потым перавезлі да рэчкі на калгасную лазню, пакуль не збудавалі цагляную.

А хвоя засталася на месцы. З маладзенькае кудлатае хвойкі выгналася пад неба.

...У першыя гады пасля жаніцьбы, пад гэтай хвояй на ўскрайку барка, Іван заўсёды страчаў сваю Вольку, калі яна бегла ад мацеры. А бегала яна на першым часе дадому, парабіўшы ўсё, што загадае свякруха, хоць на паўгадзінкі, амаль штодня: дарогі між іх вёскамі было мала больш за вярсту. Свякруха — Іванава маці — мела нораў круты і не любіла за гэта нявестку: «Выбраў, сынок, прыгожую жонку — цяпер цешся... Яна будзе пàгаліць, а ты яе чакай ды сустракай...»

І ён, не звяртаючы ўвагі на тую матчыну звягу, і, праўда, цешыўся жонкаю: і прыгожая была (харашэйшае за яе па ўсіх суседніх вёсках не было), і спявала, і скакала, і зрабіць усё ўмела, за што ні бралася. І самае галоўнае, што адбіў яе Іван у Васіля Забелы... А Васіль быў — Іван сам гэта добра разумеў — таксама не апошні хлопец. І добра, што адбіў. У трыццаць трэцім годзе ўсю Забелаву сям'ю раскулачылі і саслалі ў Котлас...

Дочкі былі падобныя на Вольку: яны таксама былі і ўдалыя і спрытныя. Але ўсё роўна — бачыў Васіль — падобныя-то падобныя, а хата яго пасля Волькі засталася без душы. Волька некалі, маючы сваіх чацвярых дзяцей, выгадавала яшчэ і аддала замуж і пляменніцу-сіраціну ад стрыечнае сястры. А потым узяла і дагледзела да смерці Іванаву далёкую цётку, якая не ўжылася з нявесткаю і сынам. А ў іх яна была за родную маці. Толькі ўсё прасіла ў Волькі: «Ты мне, нябога, не шкадуй работы, пакуль мае рукі служаць і вочы свецяць...» І за зіму спрадала ўсю амаль Вольчыну пражу.

А дочкі ўжо не! Усё яны нечага не могуць падзяліць. Усё нечага, як з'едуцца, сварацца, усё нечага ім не хапае, мала.

Вольчыны родныя сёстры ўсё гэта бачылі і разумелі лепш за самога Івана.

І таму недзе на трэцім годзе пасля Вольчынае смерці, яны самі падшукалі яму — на свой пагляд — ніштаватую кабеціну, бяздетную ўдаву. І тая, жывучы ў нянька́х і служанках па пляменніках, згадзілася пайсці за Івана, каб мець і самой нейкі сталы прытулак і яго, старэйшага за яе чалавека, калі давядзецца, дагледзець да смерці. І Вольчыны сёстры і сама Насця — так звалі тую жанчыну — прымалі жыццё якое яно ёсць: жывому трэба жыць.

Адзін толькі Іван глядзеў на старанне швагерак, якія і пасля смерці сястры не цураліся яго і клапаціліся пра яго адзіноту, наколькі дазваляў ім іх уласны клопат, сам толькі Іван глядзеў на сваю будучыню з гэтай чужой жанчынай, як быццам усё гэта датычылася не яго самога, а некага староннята. Ён ніяк не мог уявіць сабе, якое месца будзе займаць яна ў яго хаце пасля Волькі. Волькі ён не забываў ні на адзін дзень. Яна нязменна была з ім, дакладней, прысутнасць яе мінулага існавання запаўняла ўсю яго істоту нават і тады, калі ён быў заняты нейкаю справаю або калі сядзеў і гаманіў з людзьмі на бяседзе, калі яго запрашалі.

«Каб жыла мая Волька...» На першым часе гэтыя словы ён не мог вымавіць без плачу. Абы ўспомніў з кім у гаворцы — так і не мог стрымаць слёз.

Паступова, аднак, слёзы высахлі, і ён успамінаў сваю Вольку толькі цяжкім уздыханнем. Слёзы прыносілі яму палёгку. Неадольная ж маўклівая пакута гняла яго душу, як камень.

І вось гэта чужая, невядомая яму жанчына, якое ён яшчэ і ў вочы не бачыў, павінна была прыйсці ў яго хату і замяніць яму Вольку, заняць яе месца.

Сам, без парады з дзецьмі, Іван не мог рашыцца на такі крок. Як паглядзяць на гэту яго жаніцьбу дзеці? Што яны скажуць яму? І ён пасля доўгіх разваг і няпэўнасці нарэшце напісаў сыну, што хоча пабачыцца, просіць яго выбраць час і прыехаць. Па якой справе прыехаць, з якой прычыны, не напісаў. Аднак сын ці то пра што здагадаўся, ці мо адчуў трывогу ў бацькавым пісьме, прыехаў адразу ж, як толькі атрымаў пісьмо. Па дарозе спыніўся ў цётак, і тыя ўсё яму і выказалі пра бацьку... Усе вы, маў-

ляў, дзеці цяпер і вучаныя і разумныя, але бацьку аднаму, як ваўку, у хаце палёгка ад гэтага невялікая. Гаспадарку, якая была яшчэ пры мацеры, трымае і зараз. Каб усім вам пасылкі з кілбасамі ды салам пасылаць на зіму, ды каб як летам усе з дзецьмі з'едзецеся, было чым усіх вас карміць... А вы пра тое не падумаеце, як яе трымаць, гэту гаспадарку, старому чалавеку, аднаму жыўшы душою...

— Дык навошта яму тая гаспадарка? Мне яна патрэбна ці Каця не абыдзецца без яе? Ну, а Іра з Галяю... Дык Іра зноў жа са сваім Генам не сядзяць галодныя. А Галі з Урала таксама не блізкі свет ездзіць на бацькава малако і сала...

— Вельмі ты разумна разважыў! А хто бацьку павінен сарочку мыць, ці яду якую рыхтаваць, ці ў хаце апатрыць? — насядалі на Алеся цёткі.— Мы абедзве, старыя, таксама ўжо не набегаемся за вярсту мыць яму ці прыбіраць.

— То вы, можа, яму памочніцу ўжо знайшлі? — спытаў Алесь, уважліва ўглядаючыся ў рашучыя твары сваіх і сапраўды ўжо старых цётак.

— Бацьку трэба жаніцца,— нарэшце пайшла ў адкрытае наступленне адна.

— Калі трапляецца падхадзяшчы чалавек,— удакладніла другая.

— Гэта сам бацька так думае ці вы за яго? — стрымліваючыся, зноў спытаў Алесь.

— Бацька нічога сам не вырашыць без вашае, дзяцей, згоды. Яму тое жаніла на чорта, але ж неяк трэба век дажываць...

— Добра,— коратка кінуў Алесь і, гэтак жа коратка развітаўшыся з цёткамі, выйшаў з хаты, сеў у свой службовы «газік» і рвануўся з вуліцы.

Некалі ў дзяцінстве любіў ён хадзіць з маці ў госці да гэтых самых цётак. Цёткі тады былі маладыя і прыгожыя. І маці яго была маладая і прыгожая. І такія вясёлыя былі тыя госці. Так цёткі малога яго любілі і частавалі заўсёды смачненькім... І раптам ён, ужо даўно сталы мужчына, раптам ён адчуў такую непапраўнасць у сваім жыцці, нібыта заставаўся ўсё такім жа маленькім, як тады, калі бегаў па гэтай самай вуліцы, трымаючыся за матчыну спадніцу... Ён даўно адвык і ніколі вельмі не клапаціўся пра сваіх бацькоў. Ён прыязджаў да іх з жонкаю і дзецьмі ў госці і гэтак жа лёгка пакідаў іх і яшчэ злаваўся, калі

маці некалі папракала яго і плакала, што ён не піша ім... І за ўсе гэтыя амаль тры гады, як памерла маці, страту яе, як ні дзіўна, упершыню гэтак востра адчуў ён на гэтай чужой, затоптанай жывёлай, вузкай вуліцы. І ўпершыню яскрава ўявіў сабе, якім самотным і непрыкаяным павінна быць жыццё яго старога бацькі — аднаго на ўсю хату, аднаго дзень пры дні — у святы дзень і ў будзень. Ні з кім не абазвацца, нікому слова ні сказаць, ні ад кога не пачуць адказу. Адзін, як у лесе... А яны, усе чацвёра яго дзяцей, усе яны жывуць кожны сваім жыццём і рэдка калі маюць час за гэтым уласным жыццём успомніць пра яго. А ён, стары і пакінуты імі, чакае цяпер і баіцца (вядома ж, баіцца!) іх суда і гневу.

...Алесь сам, першы, загаварыў з бацькам, калі яны селі ў той вечар за несамавітую бацькаву вячэру:

— Заязджаў я, тата, да цётак... Ну, што ж, калі яна нічога жанчына... То няхай сабе... Трэба ж, каб нехта пыніў вам гэту хату.

— Мне, сынок, нікога ўжо не трэба. Ды баюся, каб пад канец вам нікому не быць завалаю... Клаве тваёй я буду патрэбен, стары зломак? Ці зяцям?.. Ды і адзін на ўсю гэту гаспадарку я, браце, ужо нягож.

— А гэтай жанчыне...— сын хацеў спытаць: «А ёй вы патрэбны будзеце, тата?» — але сказаў другое:— А ёй патрэбна будзе гэта ваша гаспадарка?

— Я на яе хату перапішу... Яна ж таксама, небарака, не мае ўласнага кутка, дзе галаву прыхіліць. Жыве па людзях. А вам гэта старая хата ўжо ўсё роўна...

— Мне гэта хата не патрэбна! — рашуча адмовіўся сын.

— І ў дзявок, дзякуй богу... Галя вось толькі за светам...

— Ну, Галю вы ў гэтай хаце не ўтрымаеце каля сябе!— як быццам падводзячы вынік, сказаў сын.

Ён пераначаваў ноч — ён адчуваў — апошнюю ноч у бацькавай хаце і на раніцу паехаў дадому, да ўласных спраў, да свае сям'і.

А Іван тыдні праз два паехаў з малодшаю швагеркаю і прывёз у сваю хату тую жанчыну.

* * *

І сам Іван, і швагеркі, і ўся радня, і суседзі бачылі: неблагая жанчына Насця, але не Волька. І маладзейшая па гадах, і не сказаць, каб якая няўдаліца ці пустэча. Але не Волька!

Такі быў беспаваротны прысуд гэтай жанчыне.

Насцю Іван прывёз за два тыдні да пакровы. Дык яна паспела яшчэ выкапаць і ўсю яго бульбу, і ў калгас — на буракі — пачала адразу ж хадзіць з жанкамі, і хату яго як бачыш апатрыла.

Пры дочках, як гасцілі летам, Іван бярогся: і ў ботах не зойдзе на чыстую палавіну (ужо і ўнукі навучыліся муштраваць: «Дзед, дзед, тапачкі забыў!» — і наперабой адно перад другім цягнуць тыя тапачкі дзеду), і світку не кіне на лаву, а павесіць у сенцах на цвік, і карыта з бульбаю сярод хаты не забудзе... А як паехалі ўсе, як зноў застаўся сам-насам са сваёй самотай, так і махнуў рукою на ўсе тыя іх прыборы і чысціню, якія яны наводзілі яму перад ад'ездам. Хто там цяпер да яго хадзіў вельмі. Хіба толькі браціха Мікалаіха даведаецца ці стары Костусь зойдзе, пасядзіць на парозе ды, не выпускаючы самакруткі з рота, пахваліцца, якога «Масквіча» спраўнага купіў зяць у Мінску. Прыязджалі ў нядзелю сям'ёю, дык ён дзяцей з усяго засценка папавожваў тут па дарозе.

А так, каму гэта вялікая цікавасць хадзіць да яго, старога... Гэта пры Вольцы-нябожчыцы Іванава хата мала калі зачынялася. То адна суседка, ваду беручы, забяжыць раніцай, то другой нечага спатрэбіцца пазычыць, а то з гоманам і смехам траха не цэлаю брыгадаю ўваляцца жанкі і дзяўчаты, ідучы на поліва ці на грэбліва, піць бярозавы квас... А яшчэ ж было і шытво: адна просіць сашчапіць хлапчуку рубашку, а тая няўдала выбрала сабе ў краме, дык перашыць трэба. Яна ж, Волька, яшчэ і абшывала — не толькі сваю сям'ю, а і суседак. І не абы-як сашчэпіць, бывала, а «Работніцу і сялянку» выпісвала з выкрайкамі і модамі... Дык і з суседняй вёскі часам дзяўчо прыбяжыць некалі: «Цётачка, на выпускны вечар пашыйце!..» І яна будзе сядзець ноч, калі пасне ўжо ўся сям'я, і будзе шыць таму дзяўчаці тую выпускную сукенку...

Адкуль у яе бралася ўсё гэта! Гэта ахвота кожнаму дагадзіць, кожнаму зрабіць прыемнасць... Іван не раз сварыўся на яе: «Табе больш за ўсіх трэба! Няхай вязуць у

Слуцак у майстэрню...» А яна яму са смехам: «Дык дзе ж яна цяпер у тую майстэрню ўб'ецца? Цяпер жа там паўнютка гэтакіх, як яна, выпускных... А як жа яна будзе без новае сукенкі на тым сваім выпускным вечары? Гэта ж табе будзе не абы-якая вечарынка, а бал!» — ёй самой вельмі падабалася гучанне гэтага круглага, як маладзенькі гарбузок, слова: «бал»...

Дзеці спалі на чыстай палавіне, як яны казалі, «у новай хаце». А сабе з Іванам Волька слала пасцель на шырокім, што застаўся яшчэ ад свякрухі, драўляным ложку за квяцістаю шырмаю ў прэдняй хаце, дзе была печ. У Волькі і ў гэтай іх хаце з печчу, з чыгунамі, з мыцельнікам, з усім вясковым начыннем — у Волькі і тут была чысціня і ўтульнасць. Быццам не было ніякае гаспадаркі, ніякага тлуму.

Яны заўсёды спалі ўдваіх на гэтым старым непафарбаваным драўляным ложку. На гэтым ложку нарадзіліся іх дзеці... Іван клаўся ў ложак і бурчаў на жонку, а Волька, не злуючыся на яго, падсоўвала зручней да святла машыну і садзілася дашываць сукенку таму выпускному дзяўчаці.

Над вёскаю даўно ўжо спачывала ноч. Па небе паволі веславаў поўнік. Бязмоўны і супакоены, абступаў хату сад. І каб на акне не было фіранкі, да гэтага бяссоннага акна, напэўна, прытуліўся б куст роснага бэзу: «Каму гэта не спіцца ў такую цёплую рахманую ноч?»

Волька любіла такую сонную адзіноту і цішыню, любіла гэта начное шытво пад лагодны гаманок швейнае машыны. За шытвом паспявала яна перадумаць усё пра сваіх дзяцей: старэйшых дачку і сына — жанатых ужо, і пра малодшых дачок — іх жыццё толькі яшчэ пачынала квітнець... У такія ночы ўспаміналася ёй уласная маладосць, што даўно ўжо адляцела і адснілася...

Непрыкметна аддаючыся гэтым сваім успамінам, абвеяным светлым смуткам, яна напаўголасу, каб не патрывожыць сон гаспадара, нераспеўвала за ноч усе песні сваё маладосці.

Под чинарой густой<br>
Мы сидели вдвоем.<br>
Месяц плыл золотой...<br>
Все молчало кругом.

Яна зроду не бачыла, якая тая чынара. Мусіць, гэтакая ж магутная, густалістая, як была некалі Янава ліпа.

Усё роўна, што пад страхою, сядзіш пад ёю на лаўцы. Пад залатым месяцам... «Сядзіш...» Ой, старая, старая баба!

— Ці хутка ты гэту сваю чынару скончыш сёння?

— Ой, і праўда — трэба канчаць!.. Неўзабаве ж світаць пачне і карову трэба ўставаць даіць. Канчаю, Іванка! Іду, кладуся...

* * *

Вольку не паднімеш, а жыць неяк трэба — Іван жыў з гэтаю жорсткай непапраўнаю праўдай, як з прысудам, які не падлягае перагляду. І, жывы чалавек, нават ужо і зміры́ўся з гэтым прысудам.

Ну, а Насця — яна таксама ведала, што ідзе не на вялікую радасць. Ды ўсё ж была надзея, што пад старасць будзе нейкі ўласны прытулак. Пляменнікі і пляменніцы наперабой адно перад другім, звалі яе жыць да сябе, пакуль былі малыя дзеці... Але ж дзеці раслі — дзецям толькі, пакуль яны малыя, патрэбна нянька — і тады чужы чалавек у хаце адразу рабіўся лішнім. І гэтым чужым і лішнім у хаце чалавекам была заўсёды яна, цётка, якую пляменнікі спачатку бралі да сябе вельмі ахвотна, а потым яшчэ ахвотней адпраўлялі.

І вось, калі трапіўся такі выпадак, калі выбліснула надзея на ўласны прытулак, Насця не паглядзела, што Іван немаладзён. І яе ўласная маладосць бог ведае дзе засталася... Турбавала яе — па-жаночы — што ніяк ён не забудзе нябожчыцу жонку. Але ж як там ні было, жонкай цяпер была яна.

Іванавы дочкі — вось што больш за ўсё палохала і клапаціла Насцю. І тут яна нічога не перабольшвала. Іванавы дочкі не прызналі яе, і першае лета ні адна з іх да бацькі ў госці не прыехала, хоць ён і зваў іх, і чакаў, і нудзіўся па ўнуках («Каб жыла Волька... Каб жыла родная маці. Пры ёй жа гэта хата звінела б дзяцінымі галасамі цэлае лета, а так і пісьма ніводная не прыслала...»)

А яшчэ праз год, відаць, згаварыўшыся, дочкі з'ехаліся ўсе ўтрох, разам з дзецьмі.

І тут пачалося!

І ты, бацька, дурны. І ты сляпы. І ты нічога не бачыш і не разумееш... А гэтай аферыстцы патрэбна толькі твая хата, а ты як звалішся з ног, тады ты ёй патрэбен не будзеш. Тады ты будзеш дзяцей шукаць, ды будзе позна!

Так вада — кропля за кропляй — точыць камень.

Так за тое лета штодзённая грызня, сваркі і бессардэчная дурнота зрабілі таксама сваю справу.

Трэба было б умяшацца Алесю і як старэйшаму, як мужчыну цыкнуць і спыніць дурное бабскае сыканне. Ды Алесь, відаць, палічыў за лепшае не ўмешвацца і застацца ўбаку. А сам Іван, растрывожаны і разгублены, спачатку ўсё стараўся мірыць дачок [redacted] мачыхай, а потым і ён пачаў сварыцца з Насцяю...

— А божачка мой, няхай яна згарыць гэта ваша хата! — даведзеная да роспачы, не вытрывала аднойчы, паклялася Насця.

— Ага, бачыў! Яна яшчэ сама паможа спаліць гэту тваю хату! — сляпая жаночая злосць не мае дна.

— Маю хату паліць! — не разбіраючы дарогі ў гэтай чорнай смале, ужо і сам закіпеў Іван.— Ды я вас усіх!.. Вон з мае хаты!

З яго хаты пайшла толькі Насця.

А дочкі пасля гэтае калатні паспелі яшчэ наварыць варэння, насушыць садавіны, а як скончылася цяпло, як мінуўся адпачынак, і яны раз'ехаліся кожная ў свой бок.

Радня звала Івана дурнем, ён і сам згаджаўся [redacted] гэтым, і ён нават ездзіў перапрашаць Насцю і зваць, каб вярнулася назад, ды Насця не вярнулася.

— Не трэба мне, Іване, твае хаты. Не хачу я ведаць тваіх дочак... Жывіце з богам.

Праз людзей Іван дачуўся, што тае восені Насця пайшла рабіць санітаркаю ў бальніцу і там пры бальніцы атрымала нават нейкі пакойчык.

А Іван зноў застаўся адзін як палец.

* * *

І вось апошні год зноў пачала сніцца яму Волька. То некуды заве ўсё, то нечага просіць, а гэта вось бялізну прынесла яму перамяніцца. Палатняную кашулю, толькі што выкачаную качалкаю на лаве... Ён ужо не памятае, калі ён насіў іх, тыя палатняныя кашулі. Кацят, старэйшая дачка, усё шле і возіць яму зяцеву бялізну. Зяць сам не зношвае. Дзе ён там, маёр, паносіць усю тую бялізну ды ўвесь той адзетак і абутак, колькі яму ўсяго выдаюць на той ваеншчыне. Дык дачка ўсё вязе і шле. Насі толькі бацька... Каб жа яно насілася.

I зноў кожны раз думкі яго міжволі пераносяцца ў тыя даўнія дні і вечары — у вайну і пасля вайны адразу,— калі яго Волька, каб толькі як хоць збольшага апрануць сям'ю, не злазіла з прасніцы. Цэлую зімачку пры газоўцы — не было ні газы, ні шкла дзе купіць на лямпу — прала, а пад вясну ткала... А дочкі ніводная і ніткі вывесці не ўмеюць, не тое каб прасці ды ткаць, дзе яно цяпер хто што ўмее, калі мануфактурай рознай і ўсім гатовым шытым крамы скрозь завалены. Ды яшчэ кожны ці кожная круціць носам: дай ёй ці яму не інакш як капрон ці балонню...

Праўду, аднак, кажучы, дык і нашто яна тая патрэба прасці ды ткаць ці, не разгінаючыся, рачкаваць у зямлі, калі зусім другое жыццё настала. Каб жыла Волька... Зроду не паверыла б, каб устала, ды каб сказаў ёй, што людзі ў космасе лётаюць гэтак, як некалі на возе ездзілі... А цяпер жа хто на тым возе куды едзе: хіба зялёную масу на кароўнік які няўпраўны даглядчык падвязе. А то падвозчык нафугуе самазвал — і накарміў паўфермы за адзін раз. А ўжо куды ехаць — дык і кроку пехатою ніхто не ступіць. Баба ў суседнюю брыгаду, каб у краму падскочыць, прастоіць паўдня на аўтобусным прыпынку — але затое паедзе! А за гэты час некалі яна два разы пехатою злётала б у тую краму і вярнулася.

Каб жыла Волька... Толькі б цешыцца жыццём. І яму, самому, старшыня калгаса мінулы год дадому пуцёўку прывёз: «Едзьце, дзядзька Іван, падлячыцеся, пагуляйце. На людзей паглядзіце і сябе пакажыце людзям... Вы ж у нас заслужаны калгаснік».

Ён адразу нават рукамі замахаў: «Куды я, стары, паеду?..» Але старшыня настояў, ды і радня ўся ў адзін голас напала: «А то не заслужаны!»

Яно і праўда: з першага калгаснага дня, яшчэ ў трыццатым годзе, з самае першае баразны не выпусціў ён з рук ні плуга, ні сяўні, ні касы... Уга, колькі работы перарабіў! Каб ссыпаў усю тую пашню, што ён пасеяў ды абмалаціў,— дальбог, гару з Каўказ насыпаў бы... На машыны потым ужо маладзейшыя пераселі. За машынамі яму, вядома, было ўжо не ўгнацца. Але ж і коні, што яшчэ засталіся, усё роўна як на развод толькі, некаму ж таксама трэба было даглядаць. Дык ён, пакуль коні не перавялі ў суседнюю брыгаду, і быў цалюткі год пры іх. Летам пасвіў, а зімой даглядаў.

І вось ужо і коней тых не было, а пуцёўку калгас яму ўсё роўна выстараўся, і ездзіў ён па той пуцёўцы, аж у

Радзівілаў палац у Нясвіжы. От, нагледзеўся хараства і дзіва! Гэта ж падумаць, у тым палацы, дзе некалі раскашаваў адзін чалавек — няхай сабе і князь,— цяпер чатырыста чалавек раскашуе! І кожнага даглядаюць, і лечаць, і кормяць у тых князёвых пакоях...

Каб жыла Волька, от бы папахвальвалася суседкам, што яе Іван разгульваў у палацы самога Радзівіла...

...Вось так далёка збочваюць з настылае хаты Іванавы думкі, а ён міжволі зноў вяртаецца ў гэты свой сон пра Вольку, пра чыстую сарочку, якую давала яна яму перамяніцца... Бывала, маладою яшчэ, наставіць чыгуны лугу, намые ў ночвах, а потым панясе на рэчку паласкаць і выбіваць пранікам (і зімой на рэчцы паласкала ў палонцы). А ўжо як паразвешвае на плоце тыя сарочкі, ды ўціральнікі, ды абрусы, дык аж вочы коле — гэтакае ўсё ў яе бялюткае... А потым з ветру, а зімой з марозу, як прынясе ў хату ды як выкачае качалкаю... Што цяпер гэтыя блакітныя маёравыя трыкатажныя споднікі ці рубашкі: ні таго сіверу з двара, ні тае бадзёрасці. Ні радасці...

Радасці не было, хоць не было і клопату, хоць магло і горш быць, як трапляецца ў іншых старых. Яго дзеці — грэх скардзіцца — і пішуць яму, кожны раз абавязкова нешта вязуць... Ды колькі яму, аднаму старому, цяпер чаго трэба, маючы і пенсію ладную і помач з калгаса. Але ж і яны вязуць... Здароўя толькі ніхто не прывязе. Ды калі ты застаўся адзін, дык ты адзін...

Пазалетась старэйшая дачка Каця, што за маёрам, намаглася забраць яго да сябе ў горад. На іх саміх, з хлопцам (аднаго ўсяго толькі і прыдбалі), трохпакаёвай кватэры дзіва што хапала. І яму паставілі канапу ў хлопцавым пакоі. Але дзе ты там улежыш на той канапе, калі захочацца часам днём прылегчы. Ён жа гэты свой пакой з гэтакімі ж, як сам, урвісамі пераварочвае дагары нагамі. І ты, дзед, не абзавіся!.. А ў зале, як толькі папрыходзяць з работы, усе глядзяць тэлевізар. І ўжо часам і поўнач, а як хакей, ці футбол, ці яшчэ як на коньках катаюцца, дык і за поўнач глядзяць... Вядома, гуляшчыя гарадскія людзі. Ён і сам усю тую зімачку і ўдзень і вечарам толькі тое і рабіў, што глядзеў на тэлевізар, не трацячы ні на што ні капейкі. Дачка адразу сказала: «Нам твае пенсіі не трэба. Можаш складваць на ашчадную кніжку...» А зяць яшчэ пажартаваў: «Можаце, бацька, у рэстаран хадзіць...» Дзіва што!

І не да ашчаднае кніжкі было яму.

Усю зіму пасылаў ён сваю пенсію самай малодшай дачцэ Галі. Грэх, можа, так было думаць, але не раз ён думаў: шчаслівая нябожчыца Волька, што нічога не бачыць і нічога не ведае. Яму, бацьку, усё засталося: і сорам, і боль, і клопат... Тады, не скончыўшы дзесяцігодкі, выскачыла замуж. І няхай бы ўжо жыла, калі так здарылася. Дык не, аказалася, што ўжо непатрэбна стала ёй тое замужжа. Дзіця кінула гаспадару, а сама завербавалася і паехала лес пілаваць недзе ў Карэлію. Блізкі свет, дзе той Урал і дзе тая Карэлія... Як быццам на тым Урале мала было лесу, калі ён ёй ужо гэтак спатрэбіўся... Дома пілы з роду ў руках не трымала. Удалася немаведама ў каго, як віцінка кволая ды далікатная. Маці некалі моцна дыхаць на яе баялася... А там жа, у той Карэліі, у тым неправаротным лесе, там жа план, там жа кубаметры... І, вядома, захварэла. І не сама нават, а нейкая дзеўчына, што бедавала разам з ёю, прыслала пісьмо. І ён, бацька, сам ездзіў шукаць яе ў той Карэліі. Знайшоў, прывёз дадому, на сваё вясковае малако і сала. І нічога — за лета акрыяла, паправілася. А на восень зноў узялася за сваё. «Навошта мне здалася вёска і твой калагас? Што я тут буду рабіць?» — «А што твая маці тут рабіла ўсё жыццё? А што я раблю? А брат твой, дырэктар саўгаса, што робіць у вёсцы, як ты кажаш?»

«Вы — свядомыя, а я — не!» — і рагоча, ёй, бач, весела.

«А дзіця гаспадару навошта ты пакінула? Якая ты маці... Забяры і сама гадуй. Хата ёсць, можа, і чалавек падхадзяшчы знойдзецца...»

Дык што яна?

«Паеду вучыцца. А як стану на ногі, тады і дзіця забяру». І паехала. Амаль год не было ні гуку. На розыскі праз міліцыю пасылалі. Пахавалі ўжо... І раптам пісьмо з горада Іванава. «Працую на фабрыцы ткачыхай. Жыву ў інтэрнаце. Забрала дачку...»

Вось таму і слаў Іван усю тую зіму сваю пенсію ў тое Іванава, дзе ткала яго прапашчая дачка — так ён лічыў — і дзе гадавалася яго ўнучка. З кім не здараецца бяды... І пасылку сабраў і паслаў да Восьмага сакавіка. Ды тут ужо Каці закалола... «Навошта ты ёй пасылаеш? Ты ведаеш, што яна там робіць, як яна там жыве?.. Можа, і дзіцяці таго пры ёй няма. Такая маці...» — «А навошта ёй ашукваць?..» — «А навошта ёй матацца па свеце і не жыць гэтак, як усе людзі жывуць?»

Вядома, добра жыць, як жывуць усе людзі... Але па-

спрабуй і ты сама, галубка, жыць гэтак, як яны жывуць, усе людзі... Табе за тваім маёрам, ды яшчэ гэтакім завідным чалавекам, можна жыць «як людзі»... Але чаму ты не жывеш гэтак, як жыве твая суседка-ўдава? Ты, за спіной у гаспадара жывучы ў выгодзе і гадуючы адно дзіця, у трохпакаёвай кватэры раскашуеш. А ў тваё суседкі ў адным пакоі сын з нявесткаю ды дачка з зяцем. Ды яшчэ таксама па дзіцяці маюць... А, глядзі, каб быў жывы гаспадар гэтае тваё суседкі, то, напэўна, і ён бы гэтак, як і твой маёр, выстараўся б ёй нешта лепшае замест гэтага пакоя, дзе ёй самой ужо і месца няма... А цяпер скажы мне, галубка, сама б ты згадзілася жыць так, як ты кажаш, жывуць усе людзі?.. Ой, наўрад ці згадзілася б... Так і сястра твая: не ўгадала выцягнуць той білет, на які ўсё адразу выпадае: і добры чалавек, і кватэра, і грошы...

Так, як умеў, заступаўся Іван за сваю малодшую дачку. Няладную дачку, ды што зробіш. Некалі Волька-нябожчыца яшчэ казала: пяць пальцаў на руцэ, а які згодзішся адрэзаць? Кожны аднолькава баліць.

А старэйшай дачцэ, жывучы ў выгодзе за ўдалым чалавекам, усё хацелася толькі вінаваціць малодшую сястру... А вінаваціць яе — уга — было каму! Не было каму заступіцца толькі... Усе мы бываем вінаватыя. І заўсёды ёсць каму судзіць нас. Заступніка цяжка знайсці.

...За зіму Івану гарадское жыццё ў дачкі так агоркла, так зблажэў ён на тым яе чацвёртым паверсе, нібыта адлежаў цяжкую хваробу. І не вытрымаў, як толькі добра ўзялося на цяпло, настояў, каб дачка завезла яго дадому. Цяпер ужо і Каця вельмі не пярэчыла. І яны, маладыя, знябыліся з ім, старым, на кожным кроку папраўляючы і вучачы яго гарадскому жыццю... А дзе ты яму навучышся? Дзе ты да яго прывыкнеш? Гэта ўсё роўна, як выкапаць старое дрэва ў лесе ды перасадзіць яго ў агародчыку пад вокнамі.

Вярнуўся Іван у сваю хату і зноў узяўся за сваё жыццё. Папрасіў каня ў брыгадзіра, і пляменнік з жонкаю пасадзілі яму на сотках бульбу. Швагеркі парабілі грады. Потым, каб быў на ўсё лета нейкі рупесак, купіў ён сабе парсючка і нават квактуху пасадзіў на яйкі (як збіраўся да дачкі — куры зімаваць пакінуў у брацціхі).

...Так вось яшчэ адно лета мінулася. Не сказаць, каб у вялікім клопаце. Аднак і гэта непраходная, як нябачная хвароба, самота таксама не пакідала Івана. Даведвалася

яго зрэдку Іра — сярэдняя дачка. Жыла яна ў суседнім раёне, дык аўтобусам пад'язджала які раз у тыдні тры ці чатыры. Прыязджала памыць яму бялізну ды хату прыбраць. Ды і ёй самой не заўсёды выпадала з часам: і дзецьмі вельмі хутка абсыпалася, і рабіла ў швейнай майстэрні, і дома свой нейкі агарод мела. Дык клопату хапала і без яго, бацькі...

Сын Алесь з нявесткаю ездзілі на адпачынак некуды лячыцца. Навошта было тое лячэнне ім, абоім маладым, здаровым... Але ж цяпер такая мода. Ідуць у адпачынак, дык няма каб адпачывалі — не, едуць лячыцца... Кацю і маёра Іван таксама не чакаў да сябе на лета: нагледзеліся яны на яго за зіму. Мо таму ўсе ўтраіх — і хлопца бралі з сабою — і ездзілі некуды да мора.

Ну, а пра Галю і гаворкі не было. І яна не выбрала пары прыехаць зірнуць на таго бацьку і паказаць яму ўнучку. Пісала, што на нейкія курсы маецца паступаць. Наладзілася, відно, такі давучвацца. Узялася нарэшце за розум. То і клопат вялікі ўжо з тою яздою...

Так што да маці на магілку, апрача яго самога, таксама не было каму схадзіць. Сам ён хадзіў да яе па святах і ў нядзелю абавязкова. Любіла нябожчыца кветкі. Хата пры ёй была, як у вянку, абсаджана кветкамі. Цяпер у яго пад вокнамі раслі і цвілі толькі бэз, язмін і здзічэлыя ружы. І Іван насіў іх ёй на могілкі.

Жанкі-суседкі, седзячы на лаўках, праводзілі кожны раз сутулую Іванаву постаць спачувальнымі позіркамі:

— Трэба ж, гэтакую чалавеку бог памяць даў...

— Няўжо ж... Кажуць, мужык жонку памятае пасля смерці столькі, колькі гаршчок на прыпечку кіпіць...

— А вот жа памятае чалавек!..

— Ой, жаначкі, яе, Вольку, і чужому нельга забыць.

І ўсе згаджаліся, што праўда, то праўда. Ніколі — за ўсё жыццё — ні з кім яна па-дурному не пасварылася, не пазайздросціла на чужое... Пасля Вольчынай смерці як быццам апусцеў той канец вёскі.

— І Насця была нічога баба, каб не з'елі яе Іванавы дочкі...

— Ой, знайшлі параўнанне! Толькі што «нічога»... Насця і блізка каля Волькі не стаяла.

— Насця — не Волька была,— падводзіла вынік якаянебудзь сталая разважлівая жанчына.

— Але ўсё ж быў нейкі рупесак пра Івана, а цяпер што?

— А цяпер дзеці паехалі на курорты, а ты, бацька, хадзі сабе на могілкі...

— Галя каторы год ужо дома не была...

— А як ёй, той Галі, тут паказацца?..

— От, яны некага вельмі саромеюцца цяпер!

— Іван казаў, што забрала ўжо дзіця.

— А што Іван казацьме?

— Мо ўжо другога якога сабе знайшла.

— Уга, так ужо кінуцца на яе другія, калі сама гаспадара кінула!

— Нябожчыца Волька другі раз памерла б, каб дажыла да такога сораму...

— Ой, жанкі, хто гэта ведае, хто ў іх там добры, хто кепскі.

— Няўжо ж, якая гэта дурніца кіне добрага гаспадара?

— От кінула ж! Няхай цяпер знойдзе лепшага!

Людзі збоку заўсёды ўсё бачаць і ведаюць пра нас лепш, чым мы самі.

* * *

Потым надышла гэтакая ж няўтульная, як Іванава старасць, восень. Бясконца цадзілі дажджы, квасілі настылую зямлю. Набраклыя хмары віселі гэтак нізка, што грабільнам можна было зачапіць. І ніяк, хоць і даўно была пара, не браліся замаразкі.

Аднойчы, устаючы паліць у печы, Іван неяк нядобра павярнуўся ў пасцелі, і раптам яму нібыта выстраліла ў паясніцу. Ад гэтага стрэлу ўсё яго цела пранізаў дзікі боль, быццам яго наскрозь праткнулі іголкай. З гэтым болем і з гэтай жахлівай іголкай у целе Іван праляжаў адзін у хаце да вечара, пакуль выпадкова не зайшоў да яго сусед Костусь.

Костусь спалохаўся, убачыўшы Івана: небарака так зблажэў за гэты дзень, што яго было не пазнаць. Стары Костусь адразу ж вярнуўся дадому і паслаў сына ў школу выклікаць па тэлефоне «хуткую дапамогу». А то, не дай божа, без помачы — сам, адзін чалавек у хаце,— яшчэ зацячэцца...

«Хуткая» Івана адратавала. Дала ўколы і забрала ў бальніцу. А тыдні праз два ён на аўтобусе і дадому ўжо вярнуўся... Па зіме ўжо, па снезе.

Вярнуўся-то вярнуўся, але дабра ўсё роўна не было.

Як быццам зламалася за гэту хваробу ўнутры Івана нейкая нябачная спружына. І хадзіў ён, і нешта намагаўся рабіць, і есці прымушаў сябе, а сілы не было...

Прыязджала Іра, хацела забраць бацьку да сябе. Ды Іван і слухаць не захацеў. У яе трое дзяцей, як бобу, работа, гаспадарка — толькі яго ёй і не хапала... Іра насварылася на бацьку, паплакала і напісала пісьмо Каці і яе маёру. А тыя няподаўгу напісалі бацьку, што калі ён згодны, то прыедуць і забяруць яго... Іван у той жа дзень адпісаў ім, што яму палепшала, і няхай яны не турбуюцца: не трэба па яго прыязджаць... Дзе-дзе, а на іх чацвёртым паверсе ён паміраць не хацеў.

Алесь, калі даведаўся бацькі пасля бальніцы, доўга не разважаў:

— У наступную нядзелю прыеду на сваёй машыне, каб аўтобусамі не трэсціся, і паедзеш, бацька, на гэту зіму да мяне...

Мінуў тыдзень. І вось прыйшла гэта нядзеля.

І вось прыснілася Івану Волька.

— Перамяніся, бацька. Вазьмі, во, чыстую кашулю...

Гэта ж яна збірала яго ў гэтую бясконцую яго зімовую дарогу...

*1975*

# ГОРКІ ЛІПАВЫ МЁД

*В. А. Д.*

Мне трэба паслаць дадому святочную тэлеграму, і я іду на пошту. Іду ў чужым горадзе насустрач узбуджанаму стракатаму натоўпу, непрыкметна для сябе самога паддаючыся ўладзе неадольнага жадання: па тварах стараюся здагадацца, куды, напрыклад, спяшаецца высокі мужчына ў легкаватай для зімы сінтэтычнай куртцы, [redacted] пакункамі ў абедзвюх руках; або які клопат выправіў на гэту тлумную вуліцу вашчаную бабульку ў дапатопным капялюшыку, [redacted] паточанай моллю муфтачкай, з тварам, на якім даўно ўжо адмерлі ўсе жывыя страсці; або вось гэтыя двое, што, здаецца, нават фізічна праменяць вакол сябе токі шчасця. Яна — само мімалётнае ззянне, зіхаценне і завідны бляск маладых вачэй, валасоў, зубоў і нават нейкага нязвычна светлага пушыстага футра. І ён — над усім натоўпам — гэтакі ж дасканалы, спартыўны, непераможны. Як сам малады бог.

...Цёмнае бяззорнае неба, не спяшаючыся, вытрасае апошні рукаў старога года і бясконца цярушыць і цярушыць, пасыпае зямлю белай крупчаткай. Паветра пахне лесам, смалой, нядаўна ссечаным ельнікам, і ў гэтай свежасці, напоенай лясным здароўем, здаецца, лунае абяцанне нейкіх бясконца светлых і маладых спадзяванняў і надзей. Непрыкметна для сябе самога я збочваю на гукі музыкі ў Гарадскім садзе, дзе цяпер заліты каток. Каток амаль бязлюдны і ахутаны паўзмрокам. Выкрасаюць толькі іскры з-пад канькоў трое ці чацвёра хлапчукоў, ды вучыць трымацца на «снягурках» сваю дачушку маладая маці.

І больш на катку — ні душы.

Я доўга стаю, не кратаючыся з месца, і гляджу, гляджу, як у чароўным танцы кружацца і мякка сцелюцца долу сняжынкі, гляджу на хлапчукоў і ўспамінаю свайго сына (чым ён заняты ў гэты час дома?), чамусьці з міжвольным сумам думаю пра маладую жанчыну з дачушкай: чаму яны, у гэту пару, не радуюцца святочнай ялінцы, а тут — і толькі ўдваіх...

Я гляджу на аранжавыя электрычныя ліхтарыкі на слупах вакол катка, і мне раптам прыходзіць на думку, што гэтыя ліхтарыкі падобны на даўнія-даўнія спюдзё-

ныя мандарыны, якія некалі елі мы з Лідачкаю. Таксама на катку.

Бог ты мой, колькі гадоў прайшло, колькі вады сплыло з часоў таго катка!



Мы жылі тады на Камсамольскім бульвары. Бульвар быў абсаджаны магутнымі каштанамі і абнесены нізкай чыгуннай загароджай старадаўняга ліцця. Па вёснах, калі каштаны зацвіталі, у іх далікатных фарфоравых кандэлябрах успыхвала безліч свечак. І тады над Камсамольскім бульварам стаялі белыя ночы. Нас, падлеткаў, у тыя ночы нельга было даклікацца дадому.

Я мог бы нават і цяпер прысягнуць: другога такога бульвара і такіх каштанаў не меў ніводзін горад у свеце. Нават Кіеў. Нават Парыж...

На Камсамольскім бульвары ўзвышаўся помнік чатырнаццаці партызанам, закатаваным у дваццатым годзе белапалякамі. І я сам, і кожны з маіх сяброў-аднагодкаў ведалі іх паіменна, як ведалі адзін аднаго. У нашым горадзе не было больш ніякіх помнікаў. Гэты быў адзіны. І мы шанавалі яго і ганарыліся славай і мужнасцю тых, што ляжалі тут, пад сціплай цэментовай пірамідкай. Зверху пірамідкі іскрылася чырвоная пяцікутная зорка з бляхі.

Даглядаць помнік — фарбаваць зорку, каб не патухала, і несамавітую драўляную агароджу, каб трывала пад дажджамі і халепай, саджаць кветкі вясною — такі быў няпісаны закон для нас, дзяцей і падлеткаў Камсамольскага бульвара. І мы — кожны — хутчэй бы далі адсекчы сабе руку, чым парушылі гэты закон. Ён быў святы.

І школа, у якой я вучыўся, таксама знаходзілася на Камсамольскім бульвары. У тыя гады наша школа звалася Узорнай. Узорных школ у раёне было ўсяго толькі дзве. Наша была Першая Узорная. І таму нельга было прыдумаць лепшае для яе месца, чым Камсамольскі бульвар... Па суседству з нашай школай, за драўляным плотам, цягнуўся вялізны пляц, на якім штодня гарцаваў і сек лазу эскадрон данскіх казакоў. (У нашым горадзе размяшчалася кавалерыйская часць.) Мы, хлапчукі, на пераменках не злазілі з высачэннага плота... Чырвоныя лампасы, неймаверны палёт каня, калі ён бярэ перашкоду, і, як маланка, занесеная над галавой конніка шабля!

Усе мы тады выхоўваліся на літаратурных і яшчэ жывых прыкладах герояў Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. І ўсе мы без выключэння, падлеткі, марылі быць толькі такімі ж дужымі і адважнымі, як нашы суседзі данскія казакі. Мы сваю будучыню тады ўяўлялі не інакш, як вось у гэтакім толькі пераможным алюры па жыцці.

...Быў слаўны наш горад яшчэ і Летнім садам. Другім па харастве пасля Летняга саду ў Ленінградзе... Каму належала аўтарства такога непахіснага сцвярджэння, ніхто пэўна не сказаў бы. Аднак ніводзін наш гараджанін не сумняваўся: ленінградскі Летні сад на першым месцы, наш — на другім. У цэлай краіне!

(А бачылі той Летні ў Ленінградзе мо якіх некалькі чалавек з нашага горада.)

З вясны і да восені ў Летнім садзе суботнімі і нядзельнымі вечарамі ў блакітнай фанернай ракавіне іграў духавы вайсковы аркестр і прадаваліся білеты на дашчаную танцпляцоўку: на танцы сходзілася моладзь з усяго горада. У Летнім садзе прызначаліся і спатканні ўсіх закаханых.

Зімою там залівалі каток, і катком, вядома, валодалі ўжо мы, падлеткі.

Я тую зіму хадзіў на каток з Лідачкаю.

* * *

Мне ішоў чатырнаццаты год, калі раптоўна, у ад'ездзе ад дому, памёр ад разрыву сэрца (так некалі казалі пра сённяшні інфаркт) мой бацька-каморнік. Мы з мамаю засталіся толькі ўдваіх, засталіся без апоры і амаль без сродкаў да жыцця. Мама кідалася туды, кідалася сюды, але грошай, якія яна зарабляла ў сваім «швейпроме», па часе трыццатых гадоў, хапала нам ледзь толькі на хлеб. Праўда, і хлеба ўволю не было, бо і хлеб давалі па картках.

У мае мамы было праклятае буржуазнае мінулае: мой дзед, а мамін бацька, да рэвалюцыі быў уладальнікам магазіна лялек. За гэта цяпер мама і несла пакаранне: яе нікуды не хацелі браць на работу. Яна мела музычную адукацыю і добра валодала французскай мовай. Але каму была патрэбна французская мова ў нашым раённым гарадку? (У той час усе школы вывучалі толькі нямецкую мову.) Або ў каго былі тыя лішнія грошы, каб наймаць

яшчэ настаўніцу вучыць дзяцей музыцы? Якая музыка! Пра яе тады і вухам ніхто не вёў. З мяшчанствам і дробнабуржуазнымі перажыткамі вялася вайна. Ці даўно пакінулі выключаць з камсамола дзяўчат за шаўковыя панчохі, а хлопцаў за гальштукі!

Не, з уменнем і ведамі мае мамы ўзнімаць пралетарскую культуру не было чаго нават і думаць. А думаць неабходна было. І перш за ўсё, як нам выбрацца з нястачы...

І мама прыдумала: узяць у нашы два невялікія пакойчыкі з кухняй кватарантак-дзяўчат. Памятаю, мама была вельмі рада тым сваім камерцыйным крокам: дзяўчаты, здаецца, ёй так нічога і не плацілі, але іх бацькі (барадатыя вясковыя мужчыны), дамаўляючыся аб плаце, браліся забяспечыць нас на ўсю зіму апалам. А з гэтым у нас і зусім было пагана. Горш нават, чым з хлебам. Бо дзе магла мама, непрактычная гарадская жанчына, узяць тых дроў ці таго торфу. І за што — узяць?

І, праўда, тая зіма, калі ў нас жылі Даша з Лідачкаю, запомнілася мне, як самая цёплая і самая ўтульная ў маім жыцці зіма.



Большага непадабенства знайсці было немагчыма — чым Даша і Лідачка!

Даша ў першы ж дзень, як толькі пасялілася ў нас, камандавала мною ўжо як хацела: то збегай прынясі вядро вады, то падай анучу, то перасунь з месца на месца канапу і стол... Яна збіралася мыць падлогу і мелася ў першы ж дзень паставіць дагары нагамі ўсю нашу кватэру. І калі я, па сваёй звычайнай няўклюднасці, не паспяваў вокамгненна выконваць яе загады, Даша тут жа хвастала мяне вузенькім паяском ад свае цеснаватае і караткаватае ёй сукенкі і весела, нібыта ў званок званіла, залівалася смехам. Я гойсаў з хаты на двор, з двара ў хату і таксама рагатаў без дай рады.

А Лідачка — худзенькае, кволае дзяўчо з вялікімі, нібыта чымсьці ці то здзіўленымі, ці то спалоханымі вачыма на хваравітым бледным тварыку,— Лідачка не ведала, з якога боку да чаго прыступіцца, і толькі моўчкі, дзікавата пазірала на ўвесь гэты вэрхал у чужой кватэры.

— Ану, вымятайцеся і лепш не замінайце! — выгнала нас з Лідачкаю на двор, на халадэчу, Даша. І знайшла, вядома, нам работу — вытрасаць палавікі.

Лідачка была на цэлую галаву ніжэй за мяне, хоць між нашым узростам і стаяла чатыры гады розніцы, хоць яна і вучылася ўжо на трэцім курсе педтэхнікума. Рукі ў яе былі такія тоненькія і слабыя, што варта было мне добра страсянуць палавік, і ён тут жа вырываўся з гэтых яе рук-цявінак. Наровячы злавіць палавік, Лідачка бязгучна смяялася і няўлоўна зграбным рухам галавы адкідвала русую касу цераз плячо.

— Лепш я сам...— дзіўна, але я не ведаў як лепш да яе звяртацца: на «вы» ці на «ты», як з Дашаю. З Дашаю з першага кроку ў нас усё было ясна. А тут...

— Не, я таксама... А то мне холадна.

І сапраўды на двары было холадна, і, паспяшаўшы хутчэй скончыць вытрасанне, мы з Лідачкай пабеглі ў кватэру. Яна паперадзе — адчыняць дзверы. А я з абярэмкам палавікоў — следам.

— Куды? Куды? — лямантам і выкручанай мокрай анучай спыніла нас у парозе Даша.

І мы з Лідачкай, трасучыся ад смеху, стаялі ў сцюдзёным калідоры пад дзвярыма да таго часу, пакуль чырвоная і задыханая Даша, змахваючы прыліпшую да потнага лба цёмную хвалю валасоў, не адчыніла нам дзверы.

— Стойце! А то вы нацягнеце мне бруду!..

І мы яшчэ, стрымліваючы смех, стаялі ў расчыненых дзвярах, на парозе, пакуль Даша слала па чыстай вільготнай падлозе палавікі.

Мама вярнулася з работы з другое змены і не пазнала нашай кватэры: усё кругом блішчала, мэбля была пераастаўлена, а самае галоўнае — палілася і зырка палыхала гарачынёй у хатні надвячорак наша грубка-галандка.

Так пасяліліся ў нас Даша з Лідачкаю, і мы з мамаю вельмі хутка забылі, што яны нашы кватаранткі, а мы іх гаспадары. Усім нам цяпер здавалася, што галоўная гаспадыня ў нашай кватэры зусім не мама, а Даша.

А Лідачка? Яна не мянялася. Яна па-ранейшаму заставалася толькі Лідачкаю.

...Яны вучыліся на адным курсе, але ў розных групах, і таму ў Дашы апрача Лідачкі была яшчэ процьма сябровак і сяброў. Усе яны хадзілі да нас, як дадому, і ўсімі імі Даша камандавала гэтак жа, як мною і Лідачкаю. Але ніхто на Дашу не злаваўся, і ніхто не баяўся яе.

Даша любіла танцы. І яна не прамінала іх ніколі ні ў сябе ў тэхнікуме, ні ў Летнім садзе, хоць студэнтам ха-

дзіць туды на танцы чамусьці ні то забаранялася, ні то лічылася непрыстойным. Я ўжо не памятаю.

З танцаў Дашу да самага дома кожны раз абавязкова праводзілі кавалеры. Кожны раз — новы. Сваіх калавераў, дома, перад намі, Даша высмейвала і знішчала на чым свет стаяў.

Лідачка не хадзіла на танцы, хоць ёй, відаць, таксама хацелася. Назіраючы за ёю ўпотай, я добра бачыў: кожны раз пасля таго, як Даша, напудрыўшыся і адзеўшы сваю лепшую сукенку, знікне са смехам за веснічкамі, Лідачка робіцца маўклівая, сумная і як быццам яшчэ больш кволая.

— А чаму ты не ходзіш на танцы? — пытаўся я ў Лідачкі.

— Таму што мне нецікава,—усім сваім выглядам забараняючы мне далейшыя пытанні, незалежна адказвала Лідачка і бралася за кніжку.

Але я добра бачыў, што чытанне ёй не ішло ў галаву.

— Цябе ж Даша звала...— я шчыра шкадаваў Лідачку, што ёй сумна, і ў той жа час, не разумеючы сябе самога, радаваўся, што яна не ходзіць на танцы і што яе не праводзяць гэтак, як Дашу, «кавалеры».

— Дашы цікава — няхай яна і ходзіць, а мне нецікава! — не падымаючы галавы ад старонкі кнігі, прыкметна званчэйшым, чым звычайна, голасам паўтарала Лідачка.

— А можа, і табе было б цікава...— бубніў я, невядома з якой патрэбы чапляючыся да Лідачкі.

— А табе што! — усхоплівалася з месца Лідачка і, сярдзіта шпурнуўшы кнігу на стол, ішла ў другі пакой.

А я заставаўся і адчуваў сябе так, як быццам я быў самы больш віноўнік у гэтым яе няшчасным настроі.

Праходзіла колькі часу, і з суседняга пакоя паціху абзывалася наша старая гітара. На гітары ў нас любіў іграць бацька-нябожчык. І мама таксама іграла. Яны часта, калі бацька яшчэ быў жывы, любілі вечарам сесці і разам спяваць. Бацька браў гітару, мама захоплена глядзела на яго і, на вачах робячыся вельмі маладой і прыгожай, падавалася крышку наперад. Бацька няўлоўна кратаўся струн, браў адзін акорд, другі... Мамін голас выліваўся з грудзей так, як выліваецца на мурожны бераг нізкая аксамітная хваля.

Ты сидишь у камина и смотришь с тоской,
Как печально камин догорает
И как яркое пламя то вспыхнет порой,
То бессильно опять угасает...

У нас, вядома, не было ніякага каміна. Але калі б нават і быў, то сядзець перад ім у самоце ўсё роўна не знайшлося б каму: бацькі мае былі яшчэ маладыя і жылі заўсёды ў добрай згодзе, не наракаючы на жыццё, якое ў тыя часы вельмі не турбавала людзей непамернымі да яго патрабаваннямі. А пра мяне і казаць не было чаго: у мяне не тое, каб сумаваць — пад'есці і то не заўсёды хапала часу.

У нас, праўда, была заўсёды чамусьці вельмі халодная кватэра, і заўсёды, асабліва асеннімі і зімовымі вечарамі, хацелася цеплыні. Магчыма, таму я любіў слухаць той гітарны «камін». Аднак сам я гітары ніколі нават у рукі не браў: патрэбна было мне тое мяшчанскае брынькаанне! (Сваім бацькам я паблажліва дараваў іх слабасць...)

Як толькі пасяліліся ў нас, захацелі навучыцца іграць на гітары і Даша з Лідачкаю. У Лідачкі пакуль што далей старога, яшчэ дарэвалюцыйнага «Вальса гімназісткі» справа не ішла.

Это учение просто мучение.
Ох, надоело оно!
Вечно грамматика и математика,
А про любовь ничего.

Мяне заўсёды разбіраў смех з іх гітарнай навукі. Чамусьці ўсе заўсёды пачыналі яе не інакш як з гэтай тупой гімназісткі.

Але няхай ужо лепей будзе гімназістка, чым слёзы, якія не ведаеш, чым суняць. Бо часам, астаўшыся адна, Лідачка і плакала.

* * *

Неяк зімой, у адзін з такіх сумотных вечароў, я ўгаварыў Лідачку пайсці са мною на каток. Спачатку яна адмаўлялася і слухаць не хацела нават, а потым неяк смешна позіркам змераўшы мяне — доўгага і тонкага, як вудзільна,— раптам пачала рагатаць, пачала паспешліва перад люстрам пераплятаць тоўстую русую касу і — згадзілася.

— Пайшлі!

На вуліцы добра марозіла, і мы не ішлі, а беглі. Я, стараючыся далёка не закідаць свае доўгія ногі, бег наперадзе. А Лідачка, ледзь паспяваючы, за мной. Адзін раз яна спатыкнулася і ледзь не ўпала. І схапілася за мяне. Я ўтрымаў яе і, як мацнейшы, як мужчына, потым ужо

ўсю дарогу трымаў за руку. А на катку вучыў яе перш за ўсё ўпэўнена стаяць на каньках і падхопліваў, калі яна, палахлівая і няўмелая, гатова была вось-вось упасці на лёд. І калі яна, з баязлівым смехам, усё ж падала — то, шчаслівы, я паднімаў яе і зноў, як малую дзяўчынку, моцна трымаў за руку, не адпускаючы ад сябе ні на крок.

І як я ганарыўся сабою! Што вось я такі вялікі і дужы, што я мог бы не толькі вадзіць яе за руку, а нават здолеў бы падняць яе на рукі і кружыцца з ёю на руках і выпісваць, якія хочаш фігуры пад музыку:

Сердце, как хорошо на свете жить...

Аднак на гэта ў мяне адвагі не хапала. Ды і невядома было, як бы яшчэ Лідачка паглядзела на гэту маю адвагу. Яшчэ раззлавалася б і больш ніколі не пайшла б са мною. А так — мы ўсю тую зіму хадзілі з Лідачкаю на каток удваіх. І яна ўжо сама мяне звала і чакала, калі я не паспяваў вывучыць урокі ці быў заняты якой-небудзь справай.

Мама і Даша смяяліся з нас: «Пажэнім Андрэя з Лідачкаю...» Смяялася з імі і Лідачка. А я толькі чырванеў, злаваўся, але ніколі не адмаўляўся.

Мне ў тую зіму неяк вельмі лёгка і незвычайна радасна жылося на свеце. І мама пакінула скардзіцца на мяне. І ў школе я ні з кім ні разу нават не пабіўся, нікога не пакрыўдзіў, слухаў настаўнікаў і вучыўся добра. З устойлівых сераднякоў я раптам вырваўся амаль у выдатнікі і надзейна замацаваўся ў іх непахісным авангардзе... А ўжо што я вырабляў на ўроках фізкультуры, якое «сонца» круціў на турніку, якімі «хрысціўся» гірамі... Ад нараджэння я быў хілым і нязграбным хлапчуком, з вузкімі плячыма і грудзьмі, як у кураняці. А тут мне раптам захацелася стаць дужым і прыгожым! Стаць такім асілкам, пра якога ўвесь горад ведаў бы і гаварыў. І не проста асілкам, які б варочаў бярвенне ці там нейкія мяхі жыта... У марах я бачыў сябе да таго ж яшчэ і рыцарам. Я вельмі яскрава ўяўляў сабе, як позна вечарам вяртаецца з чытальні Лідачка, а на Чортавым мосціку ёй заступае раптам дарогу нейкі п'яны дурань... Ды што там п'яны. П'янага і адным пальцам можна сапхнуць у ваду! Некалькі бандытаў заступілі Лідачцы дарогу... І як яна напалохалася, як кінулася бегчы! Але куды ты ўцячэш ад гэтых жалезных ручышчаў. Лідачка просіць, моліць, плача... А гэтыя бандыты толькі выскаляюцца... Ну добра ж!

Вы ў мяне зараз пасмяецеся! І — р-раз! — маланка ў вачах і брык цераз парэнчы ў ваду! Адзін... І — р-раз! — другі... І — р-раз!.. Каму яшчэ смешна? Табе, гад?.. Атрымлівай! І табе?.. На і табе!.. Усе? Бывайце і ўспамінайце, з кім мелі справу... А Лідачка... Ну, не плач, не плач! Калі я тут — дык чаго ж плакаць?.. Ах вунь што — яна звіхнула нагу, яна зусім не можа ступіць... Ну, бярыся за шыю. Мацней, мацней! Мне не цяжка! Мне зусім не цяжка. Ты ж, як пушынка. Як пярынка ўсё роўна. Ты толькі трымайся мацней, і я цябе вось так данясу да самага нашага дома.

Як цудоўна быць дужым і смелым і высакародным!

...Мама ў тую зіму зусім не скардзілася на мяне. Яна дзівілася толькі:

— Не пазнаю я свайго Андрэя,— гаварыла яна пра мяне Дашы і Лідачцы.— Ці даўно было не прымусіць яго памыць шыю і вушы... А зараз ад люстра не адходзіць... Сяк-так сабрала грошай на чаравікі, дык баюся, што ён парве іх, ваксуючы па дваццаць раз.

А я і сапраўды хацеў быць не толькі дужым, але і прыгожым. Я хацеў падабацца Лідачцы... Хацеў, каб ёй было гэтак жа радасна глядзець мне ў твар, як мне самому — на яе... Ах, які я быў шчаслівы і высакародны ў тых сваіх падлеткавых марах і парываннях!

...Але прыйшла вясна. Пачарнеў, змізарнеў і нарэшце ўзняўся ў неба лёгкім воблачкам наш каток — і разам з гэтым воблачкам быццам адляцела кудысьці ў нябачную далеч і Лідаччына зімовая прыхільнасць да мяне.

Ужо даўно зелянелі надрэчныя лугавіны, ужо адцвіталі сады і буяў у квецені бэз, як аднойчы, схапіўшы па алгебры «дрэнна» (з выдатнікаў цяпер я вельмі імкліва каціўся ўніз па нахіле да той мяжы, за якой, здзекліва выскаляючыся, то паказвалася, то зноў хавалася другагоднікцтва), адзінокі і нікому не патрэбны, брыў я па таму самаму Чортаваму мосціку, з якога некалі зімою, у марах сваіх, нёс я на руках аж да самага нашага дома Лідачку...

І раптам я пачуў смех! Знаёмы смех, якога дома ў нас я, аднак, ніколі не чуў. Дома ён проста гучаў, дома ён быў проста смехам. А тут! Тут ён бруіўся недзе з самай глыбіні грудзей ці, можа, з самага сэрца... Лідачка ішла насустрач мне з прыгожым хлопцам. Я гэта адразу ўбачыў, што ён прыгожы. У яго было ўсё прыгожае: і твар, і валасы, і пастава. І ён курыў!

Лідачка глядзела на яго. І вачэй у яе такіх — як і смеху — дома таксама ніколі не было. Яна глядзела і бачыла ва ўсім свеце толькі яго аднаго, гэтага прыгожага хлопца. А мяне, калі мы нават параўняліся (і я адвярнуўся да іх спіною), яна ці то не пазнала, ці не звярнула на мяне ўвагі, ці проста не заўважыла.

Дадому яна прыйшла позна. І Даша, чамусьці, злуючыся на яе, усяго толькі сказала:

— Ах, як расквітнела!

— І расквітнела! А цябе зайздрасць бярэ? — і сапраўды, зусім не падобная на сябе самую, з выклікам і шчасцем у вачах азвалася Лідачка.

— Ты — дурніца — вось хто ты! —не сцярпела Даша.

— Ну, і няхай! Ну, і няхай! — заспявала Лідачка і раптам кінулася цалаваць Дашу.

— А ты ведаеш, што ён пра цябе Ларысе казаў? — строга, як маці, спыніла Лідачку Даша.

— Не ведаю і не хачу нічога ведаць! — Лідачка закрыла твар рукамі і засмяялася і заплакала — адразу.

Я сядзеў у другім пакоі. Дзверы былі прыадчыненыя, і я ўсё чуў і бачыў. І мне было бясконца балюча.

* * *

Прыйшла і мінулася вясна. Мінуліся экзамены. Я сяктак усё ж перапоўз у наступны клас. І нават без пераэкзаменовак. Даша з Лідачкай таксама скончылі свой педтэхнікум і атрымалі дыпломы і накіраванні на работу. Даша дадому паехала першая. Лідачка чамусьці затрымалася на два дні. Даша, развітваючыся з усімі намі, плакала, і смяялася, і патрабавала, каб мы ўсе абавязкова ёй пісалі пісьмы. І сама абяцала пісаць усім.

Лідачка маўчала. Я здагадаўся, што яна хацела пабыць яшчэ, каб пабачыцца з тым сваім прыгожым хлопцам. Яна некуды хадзіла і сумная вярталася назад, а потым зноў хадзіла...

Праводзіў Лідачку на станцыю ехаць дадому адзін я. Яна пакідала наш дом абыякавая, спакойная, ні слёз, ні смеху, як у Дашы. Як быццам тут заставаліся пустыя сцены і не было людзей, якія любілі яе. Так і мама мая сказала потым, калі я вярнуўся са станцыі.

Мы доўга чакалі цягніка. Лідачка, засмучаная і маўклівая, сядзела на прывакзальнай лаўцы і час ад часу ўсё азіралася на тую сцежачку, па якой мы з ёю ішлі на стан-

цыю. Як быццам чакала некага. І вочы яе былі поўныя слёз.

А калі прыйшоў цягнік, яна гэтак жа моўчкі падала мне руку і пайшла да вагона. Я панёс услед яе рэчы. Я так хацеў, каб яна хоць што-небудзь мне сказала. Хоць якое слова. Хоць адно!

Цягнік крануўся, і Лідачка памахала мне рукою.

— Напішы мне пісьмо! — крыкнуў я ў адчаі.

Яна кіўнула галавой.

* * *

Я цэлае лета чакаў яе пісьма.

А калі ўжо страціў усякую надзею, нарэшце прыйшла ад Лідачкі пасылка.

Я ледзь дачакаўся маму, каб ісці разам забраць пасылку на пошце. Я так падганяў маму, што яна абурылася нават:

— Андрэй, я цябе не пазнаю! Нават непрыстойна вось так... Як быццам ты галодны ці паміраеш...

Мама нічога не разумела.

Я думаў, што сэрца маё не вытрывае, пакуль мама збіралася, потым пакуль мы ішлі на пошту, потым вярталіся назад, потым адчынялі скрынку.

Божа, папера, газеты... Няма канца гэтай скамечанай паперы і газетам. І нарэшце — слоік мёду! Празрыстага, залатога.

— Ліпавы мёд... Ну, і Лідачка! — сказала маці.

А я ўсё трос —ператрасаў скамечаную паперу. І не мог вымавіць ні слова.

Мама пільна паглядзела на мяне доўгім позіркам і, быццам упершыню ўбачыўшы мяне, адсунула слоік убок.

— Пісьмо Лідачка, напэўна, па пошце паслала,— сказала мама.

Я выбег на вуліцу. На вуліцы свяціла сонца. Я кінуўся ад яго ў сад. У самую гушчыню. Каб нічога не чуць. Каб нікога не бачыць.

Я да вечара плакаў. І з гэтымі слязьмі пакідала мяне назаўсёды маё маленства.

*1974*

## НАД ГОРАДАМ ПРАШУМЕЎ ЛІВЕНЬ

Усю кароткую майскую ноч цнатлівую зеляніну садоў і вуліц лашчыў пажадлівы лівень, а раніцай на паліраваную лістоту дрэў і вашчаны бляск недаспелых чарэшань, на здаволеную зямлю зноў абрынулася сонца, і зноў у кожнай травяной жылцы завіравалі цяпло і вільгаць, і пайшло навыперадкі бушаваць не бачнае воку зялёнае жыццё. Выпрастаныя за ноч ад гарачыні і стомы таполі ў поўдзень зноў ужо слалі гораду пад ногі пяшчотны шызы пух. І сам горад, адмыты ліўнем, здаваўся дзіўна памаладзелым і светлым, нават як быццам не падобным на самога сябе.

Такім ён і стрэў мяне праз дваццаць восем год з дня нашага расстання.

* * *

— Р-раз, р-раз, р-раз... Левай, левай, левай...

Нараўлю трапляць «р-раз» і «левай» і я таксама, ідучы паводдаль збоку.

— Аддзяленне, прыставіць нагу! Адпачывай.

Прыстаўляю нагу, адпачываю і я ў цяньку таполі... Пачакай, ці ты гэта, старая знаёмая?.. Гэта цябе прывезлі сюды — бог ведае адкуль — некалі салдаты? Вас трох, таварышак-таполек, прывезлі і пасадзілі пад вокнамі казармы... Так вы з той восені і засталіся тут — на звыштэрміновай службе, пажыццёва?

Дваццаць восем гадоў ішла я да гэтага прыпынку. Адпачываю. Стамілася.

— Памяняць руку! — зноў падае каманду сержант, і зноў бяруцца за рагі брызентавых хатылёў салдаты. Па двое на хатыль. Ношкі, адчуваецца, важкія: з аднаго тырчыць халява бота, з другога высунуўся падкаваны абцас. Няйнакш аддзяленне атрымала на складзе ОВС новы абутак.

Некалі на складзе ОВС мы, дзяўчаты-вольнанаёмныя, выцыганьвалі сабе салдацкія абмоткі на панчохі... Нялёгкая была справа. Начальнік ОВС, сутулы, з пабітым воспай тварам капітан Іголкін, быў непрыступны, што мур. Усмешачкі там нейкія дзявочыя, ці зграбныя ножкі, ці аблітыя гімнасцёркай грудзі — усё гэта ў вачах адданага служакі было глупствам, не болей. Дакумент па ўсёй форме, папера за подпісам вышэйшага начальніка — толькі яны мелі ўладу і маглі пахіснуць капітана Іголкіна. І та-

му, перш чым стукацца ў дзверы ОВС, дзяўчаты ступалі на прыступку вышэй — у закутачак-кабінет да начальніка інтэнданцкай службы маёра Мармура. Тут усе жаночыя магчымасці былі надзейныя, асабліва крык з плачам. Мясісты, чырвоны, шырокі, як хлебная дзяжа,— ён не змяшчаўся на звычайным крэсле і ў сваім закутку-кабінеціку ўзвышаўся на нейкім груваасткім троне, збудаваным салдатамі гаспадарчага ўзвода,— Мармур пад дзявочым позіркам (асабліва калі ў ім яшчэ сядзелі прыхаваныя чарцяняты!) плавіўся воскам. І калі капітан Іголкін у сваю чаргу скардзіўся яму на яго паблажлівасць, начальнік інтэнданцкай службы ўздыхаў: «Што рабіць, капітан... Вы ж самі ведаеце, нашы фабрыкі зараз не выпускаюць фільдэперсавых панчох. Адпускайце дзяўчатам абмоткі...»

— Адставіць разгаворчыкі! — уладна забараняе сяржант, і аддзяленне ў момант змаўкае. Дысцыпліна. Армія. Не хлопчыкі ўжо, хоць яшчэ і не мужчыны. Салдаты.

Тыя — мае — з той восені сорак трэцяга года былі аднагодкамі сённяшніх. Тыя, каму лёс наканаваў вярнуцца,— бацькі ўжо гэтых сённяшніх. Немагчыма ўявіць... Гэты стромкі сяржант з дзюбатым тварам і ўладным камандзірскім голасам — ці не радня ён часам Валодзьку Сокалу з першай стралковай роты?

Валодзька Сокал і сёння стаіць у мяне перад вачыма як жывы: балбатун, нястомны імправізатар на палкавой сцэне, спявак, гітарыст, задзіра з дзяўчатамі. Наша першае з ім знаёмства, памятаю, пачалося з таго, што мы з Валодзькам смяртэльна пасварыліся, схапіўшыся з-за нейкай дробязі. Назаўтра ён, аднак, зноў заявіўся ў бібліятэку і зноў пачаў сваё, і я выгнала яго. Аднак ён не быў ні злым, ні злапомслівым. Хутка мы з ім памірыліся і потым ужо былі найлепшымі сябрамі. Адно толькі пісьмо з фронту прыйшло мне ад Валодзькі Сокала. «Дарагая зямлячка (у яго ўсе дзяўчаты былі зямлячкамі), ратуй старых сяброў. У мяне тут пад бокам, у акопе, ляжаць Лёнька Ткачэнка і Марат Віхроў. Ох, і ўрэжам жа мы фрыцам, ты нам толькі газет прышлі на курыва, а то вушы пухнуць — няма з чаго скруціць цыгарку... Клянёмся ўсе трое табе ў каханні і будзем памятаць да смерці...»

Нават пішучы пра смерць, Валодзька Сокал жартаваў і са смерцю... Газеты я паслала ім у той жа дзень, як прыйшло пісьмо,— адказу не дачакалася. Пазней прыйшло афіцыйнае паведамленне на штаб нашай часці: гвардыі сяржанту (на фронце Валодзька паспеў атрымаць па-

вышэнне ў званні — у нас ён быў яфрэйтарам) Сокалу Уладзіміру Іванавічу за мужнасць і бяспрыкладны гераізм пры выкананні воінскага абавязку пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

...А вось гэты, з краю, русы хлапчына з тонкім інтэлігентным тварам, ён таксама некага мне нагадвае. Няпэўна, нібыта на выцвілым, пажоўклым фотаздымку ўгадваецца... Ці не Марат Віхроў з Днепрапятроўска? Кожную вольную гадзіну ён праседжваў у нас у бібліятэцы. Ён і Валодзька Сокал. Валодзька абавязкова патрабаваў «Кракадзіла» і ўсе часопісы з красвордамі, а Марат — той захапляўся біяграфіямі выдатных людзей... Памятаю, аднойчы, калі ў бібліятэцы нікога не было, Марат дастаў з нагруднай кішэні гімнасцёркі загорнутую ў белы аркушок паперы фотакартку. З фотакарткі глядзеў мілы дзявочы твар.

— Падабаецца? — у Маратавым голасе гучала стрыманая захопленасць.

Усе мы, даваенныя дзяўчаты, некалі не вельмі мудравалі над сваімі галовамі: коратка стрыгліся і прыручалі стрыжкі таннымі заколкамі. Толькі хіба ўжо самыя звышмодніцы — толькі яны рабілі ў цырульні паравыя шасцімесячныя завіўкі. Тыя завіўкі ў такім горадзе, як, скажам, сённяшні Слуцак ці Рагачоў, можна было палічыць па пальцах.

У Маратавай дзяўчыны, зусім як у пушкінскай Тацяны, валасы спадалі на плечы локанамі... Марат з ёю разам вучыўся ў кансерваторыі, і яна была вельмі здольная піяністка. Марат не любіў ніколі ні выхваляцца, ні выстаўляцца гэтак, як умеў Валодзька Сокал. Аднак тут ён не мог стрымацца. Марат любіў марыць: як толькі скончыцца вайна, ён адразу ж вернецца ў кансерваторыю, і тады яны абавязкова пажэняцца... А потым яны будуць разам даваць канцэрты (фартэп'яна са скрыпкай), будуць ездзіць па краіне, а можа, нават і за мяжу давядзецца... Ён гаварыў пра гэта, як пра справу, ужо тут, у нашым ЗСП — запасным стралковым палку,— канчаткова вырашаную. Гаварыў, нібыта на зямлі не было смерці, не было вайны, нібыта самога яго не чакала яе ненасытная пашча... Я слухала Марата і сама забывала, верачы ў непераможную ўладу кахання, пра ўсё гэта. Я абяцала Марату даслаць яму ўсе пісьмы яго каханай, якія яна будзе пасылаць яму на наш палкавы адрас, пакуль не атрымае яго новага адраса з фронту.

Пра фронт гаворка тады вялася як пра звычайную камандзіроўку.

Дзіўна: столькі часу прайшло, але варта мне ўспомніць тых хлопцаў з нашага ЗСП, як перада мной перш за ўсё ўзнікаюць іх характары і паводзіны, а затым ужо мая зрокавая памяць паступова пачынае ўзнаўляць іх аблічча.

Напрыклад, Лёня Ткачэнка з Кіева. Ён здзіўляў нас, як малых дзяцей, расказваючы, якія казачныя заробкі меў да вайны, працуючы зубным тэхнікам. Лёнька меў аж некалькі гарнітураў, меў да кожнага гарнітура сарочкі і гальштукі і нават адпаведны абутак. У дадатак да ўсяго гэтага ў яго была яшчэ ашчадная кніжка! (У мяне быў страхавы поліс, здаецца, на трыста рублёў — перад самай вайной у нас, у інстытуце, было праведзена арганізаванае страхаванне жыццяў...) Лёнька быў жанаты, меў дачку і на дзяўчат глядзеў, як на пустое месца.

Такім я ўспамінаю Лёньку Ткачэнку, кожны раз гэтак ладна запраўленага ў салдацкую амуніцыю — ад рыжай прасоленай потам гімнасцёркі да тугіх, як пас у малатарні, абмотак — што, здавалася, яго немагчыма было распакаваць.

Ні Марат Віхроў, ні Лёнька Ткачэнка нікому з нас, хто чакаў іх пісем, не напісалі. Была чутка, што яны загінулі ў адным баі з Валодзькам Сокалам. Але пра іх лёс у штаб палка не прыйшло ніякіх афіцыйных паведамленняў. На вайне не ўсім суджана было застацца героямі пасмяротна.

...Аддзяленне кіруецца да прахадной. І прахадная на тым жа самым месцы. І карпусы казармаў тыя ж самыя. Толькі тады, за спешкаю і няхваткаю шкла ў нядаўна адбітым у немцаў горадзе, вокны былі напалову замураваныя. Замураваныя свежаю цэглаю прабоіны ў сценах здаваліся тады жывымі ранамі. Сёння сцены гладка патынкаваныя і пафарбаваныя ў стрымана шэры колер. Вокны сёння ззяюць, нібыта люстраныя.

Вартавы на прахадной староніцца. Аддзяленне праходзіць. Знікае. А я іду далей...

І раптам у мае думкі, у мае горкія ўспаміны, нібыта запускаюць каменем — такі прарэзлівы гэты нетутэйшы, гартанны голас.

— Дэвушка, а дэвушка ілі дамачка... Эта малчык ілі дэвачка?

«Дэвушка ілі дамачка» — гэта міні-спаднічка і гулкія абцасікі, і ў дадатак цяжкая, нібыта адлітая з металу,

хваля адбеленых перакісам валасоў. Адзін толькі паварот галавы — і сонечная хваля сплывае на загарэлы, даскана-ла вылеплены плячук.

— Вай-вай-вай! — аж млее на каменнай агароджы расхлістаны чарнавусы і чорнавалосы Ахмет. Няйнакш адбывае пазачарговы нарад, прыбірае закутак двара і, выкарыстаўшы момант, калі адвіхнуўся нагляд, не вытрымаў — гарачая паўднёвая кроў! — уздамберыўся пад неба зірнуць, а што там робіцца за агароджай.

«Дэвушка ілі дамачка» вядзе за руку малое гадоў трох. Яго і сапраўды не пазнаеш адразу, хто яно «малчык» ці «дэвачка». Спякота — і малое ў лёгенькай маечцы і трусіках. Светлыя кольцы валасоў уюцца на кволай тоненькай шыйцы. Маладой маме ці сястры не абыякава чарнавусае, белазубае захапленне з вышыні. У адказ Ахмет атрымлівае гарэзлівы позірк, сінейшы за спякотнае неба ў яго на радзіме. Ахмета гэта сінеча ўзрывае, быццам дынамітам.

— Цэ-цэ-цэ! — цокае Ахмет, гатовы вось-вось зваліцца пад ногі прыгажуні.— Как завут, скажы! — крычыць ён ёй наўздагон.

Абцасікі святкуюць перамогу ўласнай жаночай зброі.

Малое доўга азіраецца на Ахмета, што асядлаў раскаленую, як патэльня, агароджу і ніяк не можа пазбавіцца хімічных чараў.

Ах, Ахмет, Ахмет, зацьменне табе на галаву наслалі гэтыя чары. Але няхай — не такі дакучлівы будзе гэты твой сённяшні пазачарговы нарад.

Мяне Ахмет, вядома, не бачыць. «І мая мама гэтакая ж сівая, як гэта жанчына...» — на адзін толькі момант спатыкаецца яго позірк, і ён тут жа забывае пра нас абедзвюх.

* * *

Вось ён, вось ён, той самы дом насупраць, цераз дарогу! Той самы, дзе ўвосень сорак трэцяга года я аблюбавала сабе пакой на пятым паверсе. Пасля зямлянак, у якіх мы жылі амаль два гады ў Тоцкіх лагерах, нам з маёй таварышкаю Фірай Ройф хацелася вышыні, і мы выбралі сабе пяты паверх. Жонкі лейтэнантаў Вяткіна і Данадаева пасварыліся і ледзь не пабіліся за другі паверх (абедзве былі помначальніцамі штаба), а нас з Фіркай здавальняў пяты.

Усё было вельмі проста. Сярод развалін пакінутай нем-

цамі Пампеі цудам уцалела некалькі каробак. Каробкі стаялі пустыя: можна было выбіраць любы пакой, любую кватэру, хоць цэлы паверх. Праўда, папярэдне неабходна было замураваць разбураную сцяну, ліквідаваць «прамое пападанне» ў столь і падлогу, паставіць дзверы і вокны, адрамантаваць паравое ацяпленне і водаправод... Але мы, маладыя, стараліся на гэта не звяртаць увагі і не думаць пра гэта. Самае галоўнае, здавалася нам, выбраць.

Мы з Фіркай не былі сквапныя. Я згадзілася на пакой, яе задавальняла два. Фіра мелася адразу ж, як толькі заселіцца ў сваю кватэру, паслаць выклік і перацягнуць да сябе з Бугульмы дзядзьку Ізю з цёткай Маняй і сясцёр, Софачку і Адачку, і таксама яшчэ сірату стрыечнага брата Рафіка... Фіры, канечне, патрэбны былі два пакоі. А ў мяне не было нікога.

Лейтэнант Бекетаў — камроты першага вучэбнага батальёна — добраахвотна браўся заняцца маім маючым быць інтэр'ерам і адначасова даваў мне свецкія парады. (Пра Бекетава казалі, што ён не вельмі далёкі сваяк Аляксандра Блока. Бекетаў не адмаўляўся ад гэтага сваяцтва, ён і не згаджаўся з ім, ён толькі дэкламаваў, калі ў яго пыталіся пра гэта, асабліва дзяўчаты: «Я послал тебе черную розу в бокале золотого, как небо, аи...»)

— Вось тут...— лёгкі, ледзь улоўны рух наска фарсовага наглянцаванага бота.— Вось тут, каля гэтай, сёння не існуючай сцяны... Анечка, заклінаю вас, стойце на месцы, мы ж усё-такі на пятым паверсе! Тут, Анечка, вы павінны будзеце паставіць сэ-крэ-тэр. (Я не вельмі дакладна ўяўляла сабе прызначэнне сэкрэтэра ў сваім пакоі.) Каб пісаць за ім пісьмы. (Лёгкая спружыністая праходка па самым краі прабоіны ў падлозе, наскрозь, да ніжняга паверха...) Перш за ўсё, вядома, прадмету вашага захаплення. Ну, і, вядома... (Выпрабавальны стук зацягнутаю ў скураную пальчатку рукой па бакавой сцяне: ці надзейная.) Ну, і, вядома, хаваць ад яго тыя пісьмы, якія чытаць яму будзе зусім не абавязкова...

На лейтэнанце Бекетаве шынель з тонкага «генеральскага» сукна попельнага колеру. Дасканала падагнаная ваенторгаўскімі краўцамі грудзіна і плечы надаюць яго ладнай паставе нейкі своеасаблівы афіцэрскі шык: ззяюць гузікі, ззяе новенькая партупея, ззяюць залатыя пагоны. (Здаецца, у Аляксандра Блока таксама ёсць здымак у пагонах.)

— Ідзём далей. Вашу сафу, Анечка, мы паставім вось тут. Так будзе інтымней... Не трэба толькі стракатых дываноў! Сціплы арнамент і стрыманая гама колераў. На падлогу дыван таксама, толькі...

— Віця!

— Прашу вас, не перабівайце мяне, калі ласка! Звярніце ўвагу, якім дысанансам гучаць гэтыя банальныя шпалеры таннага блакітнага колеру... Я думаю, што замест іх мы прыдумаем нешта іншае... Праўда, такога мілага сціплага паркалю, як, скажам, у Алупкінскім палацы графа Варанцова, мы не знойдзем, бадай... Графу Варанцову ён быў прысланы, калі я не памыляюся, з Англіі. У нас, на жаль, не будзе такой магчымасці...

— Віцька, што ты вярзеш! — Фіра Ройф стаіць каля самае надзейнае мае сцяны. Яна баіцца скрануцца з месца.

— Эсфір! Прыгажэйшая і мудрэйшая з дачок свайго мудрага племя! Як ты звяртаешся да чырвонага камандзіра... Да афіцэра Савецкай Арміі?!

— Віцька, хопіць тлуміць ёй галаву... Ты ж бачыш, што яна ўсё роўна як лунатык, як учадзелая... Ты хлусіш ёй, а яна верыць...

— І зусім не веру! Проста я хачу...

— Яна хоча!.. А ты ведаеш, што ўчора сказаў Ткачэнка?

Ткачэнка — начальнік адміністрацыйна-гаспадарчай часткі — учора сказаў, што ўсе разбураныя немцамі дамы, якія можна яшчэ выратаваць, будаўнічы ўзвод будзе адбудоўваць для вызваленага насельніцтва горада. І катэгарычна забараніў лазіць па каробках (нехта ж данёс!) каму б там ні было! Афіцэры з сем'ямі і вольнанаёмныя будуць жыць на прыватных кватэрах.

— Што такое Ткачэнка з пункту погляду гісторыі? — пытаецца Бекетаў і сам адказвае: — Выпадковасць. Каліф на гадзіну...

Але ўсё ўжо разбурана, і ўжо нічога не трэба. Не трэба сэ-крэ-тэ-ра. Не трэба сафы, не трэба дываноў і англійскага паркалю абіваць сцены.

Ах, якую мару разбіла ў дрызачкі ўлада начальніка АГЧ Ткачэнкі!.. Яна і сёння цешыць мяне, тая восеньская мара сорак трэцяга года. Не выпадкова ж перайшла я вуліцу і стаю пад чужымі вокнамі, задраўшы галаву, пэўна, ужо добрых дзесяць хвілін. Людзі здзіўлена абыходзяць мяне і азіраюцца: стаіць...

* * *

Мары з блакітнымі шпалерамі абрэзалі крылы, а мяне з маім клуначкам пасялілі на глухой, зарослай травою Садовай вуліцы. Вясной Садовая патанала ў ружовай яблыневай квецені, а ўвосень прыгіналася ад садавіны.

Пайду на спатканне з Садовай вуліцай.

...Але адкуль тут узялася трамвайная пятля? Некалі да бібліятэкі Караленкі я хадзіла штодня чатыры кіламетры пехатою, а цяпер трамвай № 4, № 13, № 22... Напэўна, цяпер пехатою ўжо ніхто не ходзіць, усе толькі ездзяць.

І трохпавярховы універмаг блытае мой кірунак: так ці не так я іду?.. Вышчарблены тратуар па другі бок нібыта супакойвае: «Так ідзеш...» Але ж дзе тады пустка, якую неабходна было мне мінаць некалі абавязкова? На гэтай пустцы мяне заўсёды страчала гарластая гурма хлапчукоў-абарванцаў, якія пасвілі там коз. Усё гэта была безбацькоўшчына, круглыя сіраты, а то і зусім шпана з усяе Халоднае Гары. Арэнай сваёй дзейнасці яны выбралі менавіта гэты пусты, як бубен, голы выган, на якім хадзілі козы. І чаго толькі яны не выраблялі на тым выгане! Рэзаліся ў ачко і ў арлянку, гандлявалі і мяняліся накрадзеным. Смалілі пакельную махру. На чым свет стаіць лаяліся і біліся — і, вядома ж, ніводнаму чалавеку не давалі праходу. Асабліва жанчынам і дзяўчатам. Пасля акупацыі ў гэтым горадзе і, праўда, аціхла нямала «нямецкіх аўчарак», і вось цяпер, праз іх, гэты казіны выган помсціў кожнай маладой жанчыне, кожнай дзяўчыне. І барані божа, было прыспешыць крок ці абазвацца...

Мне гэту пакуту даводзілася цярпець штодня. Раніцай яшчэ было нічога. Раніцай я бегла к шасці гадзінам, каб прыняць па радыё зводку Савецкага інфармбюро і тут жа перадаць яе на ранішняй паверцы ў падраздзяленні салдатам. Вечарам жа, калі вярталася з работы дадому, мяне чакала Галгофа. Услед мне агідна ўлюлюкаў, здавалася, увесь выган.

Трэба было нешта рабіць. Пазабіваць іх усіх!.. Але гэта быў адчай толькі бездапаможнага чалавека. (Яны наперад сто разоў бы забілі мяне самую.) Некаму некуды на іх заявіць — у міліцыю ці куды, але каго яны баяліся і хто б здолеў іх напалохаць?

Як звычайна, памог выпадак.

Я ішла дадому, калоцячыся ад страху, і несла пад пахай пачак тых кніжачак ваеннага часу, якія пісаліся для

акопаў і лесу, для салдат і партызан, хто бараніў Радзіму жыццём і крывёю. Крывёю сэрца пісаліся і тыя кніжачкі.

Як і кожны дзень, яны заступілі мне дарогу...

— Гэй, ты, ты доўга будзеш яшчэ тут шляцца?

Ён заўсёды чапляўся першы, гэты худы абарванец, аскалены, як ваўчанё.

— Ану, паўтары! Паўтары яшчэ адзін толькі раз! — сама не памятаючы сябе (што я магла ім зрабіць?), як укопаная стала я перад гэтым ваўчанём. Я хацела замахнуцца на яго кніжкамі, але нехта з іх стукнуў мяне па руцэ, і кніжкі пападалі на зямлю.

Яны кінуліся хапаць іх з зямлі.

— Аддайце мне мае кніжкі! Не вам чытаць пра герояў, пра партызан...

— Мы іх скурым! Гы-гы-гы!..

— Мы прачытаем іх!

— Чытайце. Ты будзеш адказваць за кніжкі. Заўтра я іх забяру назад — і заўтра прынясу вам другія.

І калі я павярнулася, каб ісці сваёй дарогай, яны раптам расступіліся прада мною і прапусцілі мяне...

Цяжка паверыць, што ў мяне потым бадай не было больш надзейных дружбакоў, чым тыя мучыцелі...

Пусткі няма. Пустка знікла. Ці я ўсё-такі заблудзіла?.. Упіраюся ў нейкую абгароджаную будоўлю, чытаю шыльду, як і ў нас, на дашчаным плоце: «Будаўніцтва дома вядзе СМУ... Начальнік будоўлі... Прараб...»

Не адразу знаходжу і Садовую вуліцу. Многа новых дамоў набудавалася, і вуліцу не пазнаць. Машын цяпер хапае, рэйсавы аўтобус нават ходзіць, і пасля начнога ліўня тут не прайсці. А некалі ж тут такая мурава слалася. Ці ты гэта, Садовая?..

Дом № 109 як быццам зняўся з месца і некуды таксама перасяліўся. Добра памятаю, стаяў жа як быццам на тым вунь рагу... Раптам пазнаю нізенькую хаціну (як яна ўрасла за гэты час у зямлю!) роднае сястры мае гаспадыні. А вось і яна сама ў веснічках, з кіёчкам у руках. Каб не ведала, што Надзея Данілаўна памерла, не паверыла б, што не яна гэта. Такое падабенства.

— Клаўдзія Данілаўна! Не пазнаяце мяне?

— Не, не пазнаю... Не пазнаю...

— Я...

— Дзе ж пазнаць. Зусім не падобная. Як жыла некалі ў Надзі, дзяўчынка ж зусім была.

— Была...

— А дзе ж Саша?

Божа мой, яна яшчэ памятае і яго.

— Няма.

— Няма,— сумна ківае галавою старая і больш ні пра што не пытаецца.— І Надзі няма...

— А я вось прыйшла сустрэцца.

— Дзякуй, што не забыла. Надзя цябе любіла і шкадавала... Здалёку, пэўна, прыехала?

— Здалёку.

Я абдымаю яе белую галаву. Наш дом — так я заву яго ў думках — адразу ж за суседнім. На рагу... Але што гэта са мной сёння? Хіба гэта наш дом? А дзе ж старыя яблыні, дзе разлапісты бэзавы куст перад ганкам, чаму на двары не расце ні травінкі? Гараж. Нейкія хляўчукі. Асфальт даканаў усё. Маладая жанчына ў спартыўных штанах і майцы спрытна падае цагліну за цаглінай сівому мужчыну. Той захватвае кельмай цэментавага раствору з дзіцячай цынкавай ванначкі і ўмуроўвае цэглу ў новую сцяну — нейкую незразумелую прыбудоўку ад вуліцы. Тут жа ў ночвах з мутнай вадой палошчуцца дзве дзяўчынкі гадоў па чатыры, па пяць.

І я раптам адчуваю, усёй сваёй істотай, неяк раптам дзіўна аслабелай, адчуваю, што мне не хочацца пачынаць гаворку з гэтымі людзьмі, не хочацца заходзіць у гэты дом, дзе некалі лёс падараваў мне дні маладога светлага шчасця, а потым, напэўна, каб пакараць за яго, паслаў — пасля смерці мамы — самую непапраўную страту.

І я хутчэй іду, ледзь не бягу з Садовае вуліцы. Каб не бачыць, як чужыя людзі замуроўваюць маю маладосць.

* * *

Каб стрэцца з ёю ў гэтым горадзе ў апошні раз, я пачакала на прыпынку трамвая — за цэлы дзень хадні ногі гулі, як чыгуны — села і паехала на вакзал. І таксама нічога там не пазнала.

Гультаявата завярнуўся тралейбус. За ім падышоў другі, сярдзіта пазваніў, наступаючы на другога, трэці... Таксі падхапіла кампанію барадатых выскаляк з рэчавымі мяшкамі, з пакункамі кніг, з рулонамі ватмана, з абавязковай гітарай. Бабы ў капронавых хусцінках, у даношаных сынамі куртках скрозь на маланках, з не падобнымі на нашы, слуцкія, кашамі з-пад клубнікі рынуліся

прыступам браць аўтобус. У чарзе да піўной бочкі нешта спрабавалі даказаць адзін аднаму добра надпітыя дзядзькі.

— Що ти мені буровиш... Що ти мені буровиш...— наступаў адзін.

А другі бараніўся:

— Та я ж, куме, ничога, та я ж тільки пошуткував...

У цяньку каштана, не звяртаючы ўвагі на свет і людзей, цалавалася яшчэ зусім зялёная пара — абоім гадоў па семнаццаць, не болей. І тут жа на старой сцяне, над усімі гэтымі галовамі, узнімаўся даўні нязломны серп і молат... Я пазнала яго: ён узняўся на гэтай старой тарцовай сцяне яшчэ ў тую памятную восень сорак трэцяга года. Пад сярпом і молатам метровыя літары высякалі як прысягу на жыццё: «Мы наш, мы новы свет збудуем!..»

Тым часам цёткі адбілі аўтобус і пераможна пафуравалі ў бок цэнтра горада. Дзядзькі выцадзілі піва з куфляў да кроплі і, выціраючы рукавом блажэнныя раты, глядзелі на свет усёдаравальнымі вачыма. А гэтыя двое, маладыя, усё цалаваліся.

...Мой эшалон адпраўляўся якраз у такую ж пару, у гэтакую ж самую спякоту. Трэба было толькі знайсці ў непрыкаяным чыгуначным гушчары, дзе ён стаіць, на якім пуці, у якім тупіку. Трэба было дакарабкацца да яго пад вагонамі пэўна некалькіх дзесяткаў чыгуначных саставаў і ўціснуцца з клункамі ў цяплушку. (Навуку гэту за гады вайны я прайшла грунтоўна.) Папярэдне неабходна было таксама яшчэ адшукаць у шэрым вавілонскім стоўпатварэнні вайсковага каменданта і ў яго атрымаць канчатковую візу на дакументах — дазвол на пасадку ў эшалон. Інакш салдаты і блізка не падпусцілі б.

...Паравоз у галаве майго эшалона падаў зычны голас, і два мае клумкі адзін за адным паляцелі ў цяплушку. У апошні раз пацалавалі мяне вусны, якія ні разу мне не схлусілі, і ў маім сэрцы ўспыхнула і канчаткова патухла апошняя надзея: «Не прыйдзе...» Яшчэ раз ускрыкнуў паравоз, здрыгануліся колы вагонаў. І мой лёс ускочыў услед за мною ў цяплушку ўжо на хаду.

Горад К. адстаў ад мяне на дваццаць восем год.

...І вось мы стрэліся з ім і зноў развітваемся. Хто ведае, магчыма, назаўсёды. Я махаю яму рукою, і старыя таполі махаюць мне ў адказ і замятаюць мае сляды і сыплюць на валасы мае сівым пухам.

*1972*

# МАРЫУЛА

И долго милой Мариулы
Я имя нежное твердил.
*А. С. Пушкин*

На пероне, як і звычайна пры вялікай вузлавой станцыі, нібыта перад канцом свету, снаваў і мітусіўся стракаты людскі натоўп, стаяла густая гамана і тлум.

— Расступісь! Расступісь! — расштурхвалі гэты натоўп, везучы перад сабою металічныя каламашкі, нагружаныя рэчамі, насільшчыкі з бляшанымі нумарамі на грудзях.

— Каму марожанае? Марожанае! Гарачанькае! Салодкае! — высокімі галасамі выспеўвалі марожаншчыцы, стоячы над сваім салодкім таварам, у белых паркалёвых куртках і гэтакіх жа белых высокіх каптурах.

І тут жа, седзячы на зямлі каля кніжнага кіёска, іграў на скрыпцы стары п'яны цыган у ружовай расхрыстанай да пояса кашулі. Вакол яго, працерабіўшы ладны шмат асфальту, з рогатам і дзікімі гартаннымі воклічамі, скакала некалькі гэтакіх жа маляўнічых цыганоў, таксама п'яных, толькі маладзейшых. І сярод іх была зусім маладзенькая цыганка ў залатых, як калёсы, круглых завушніцах, у белай, з доўгімі махрамі, шоўкавай хустцы на бліскучых чорных валасах. Цыганка скакала, і яе спадніца шугала па асфальту платформы стракатай завірухай фальбон і зборак. Вакол з рогатам ганяліся босыя кучаравыя цыганяты. Зусім маленькіх, грудных, учапіўшыся аберуч, трымалі дзяўчаткі-цыганачкі — самі дзеці гадоў па восемдзевяць не болей. Сталыя цыганкі абступілі гэта жывое кола непадробнай дарожнай весялосці, гнучыся кожная пад цяжарам ці то якога-небудзь груваскага клумка на спіне, ці перавязанага старой вяроўчынай аблезлага чамадана, ці нават цынкавых ночваў, нечым напакаваных і абшытых мешкавіннем.

Захрыпеў дынамік, нібыта збіраўся адкашляцца, і паведаміў, што наш цягнік адправіцца праз пяць хвілін.

І вось тут пачаўся ўжо сапраўдны Вавілон. Цыганоў падхапіла, нібыта віхурай. У адзін момант збіўшыся ў цесны натоўп, яны прыступам рушылі на цягнік. У наш вагон усё з гэтакім жа рогатам, гаманой і сваркай яны ўціснулі дваіх.

Худое смуглае дзеўчанё гадоў сямі ў паркалёвай блакітнай сукенačцы, якімі звычайна завешаны крамы дзіцячага адзетку, і старую цыганку, таксама апранутую зусім не па-цыганску. У вузкай шарсцяной спадніцы і чорнай плюшаўцы, якія і да гэтага часу ўсё яшчэ носяць пажылыя жанкі на вёсках. І хусткі такое я ніколі не бачыла на цыганках: звычайнай суконнай хусткі з белай каймой па рудому полю. Некалі ў нас дома такія хусткі былі вельмі завідныя: ім не было зносу.

Цыганка была прыкметна падпітая, аднак гэта не перашкаджала ёй трымацца незалежна і з годнасцю. Сваімі клункамі і кашолкамі, перавязанымі рознакаляровымі матузамі, яна загрувасціла ўсё купэ, аднак суседзі, таксама немаладыя муж з жонкаю, не адважваліся сказаць ёй папярок нават слова. Наадварот, каб не спатыкацца і не падаць, мужчына сам узяўся ўладкоўваць яе рэчы. Цыганка сядзела на лаўцы і толькі кіўком галавы, моўчкі, выказвала сваю згоду.

Прыціхлае, сядзела каля яе і дзеўчанё. Па тым, як папярэдліва імкнулася яно лавіць кожны позірк старое — а старая не абзывалася да яго ніводным словам — адчувалася, што значэнне гэтых позіркаў дзяўчо разумела і без слоў.

Нарэшце, як толькі апрасталася месца, старая цыганка падкінула сабе пад галаву плюшаўку і адразу ж заснула на голай лаўцы.

Дзеўчанё нібыта гэтага толькі і чакала.

Праз паўгадзіны яго ведаў ужо ўвесь наш вагон.

* * *

— Падары брошку! Падары! Падары!

Ах, як ён даспадобы ёй, як ёй хочацца завалодаць ім, гэтым маім скарбам.

— Не падару.

— Чаму не падорыш? Падары!

— Не можна. Гэта падарунак.

— А хто падарыў?

— Хто падарыў — той падарыў.

— А ты мне падары!

— Не падару...

— Пада-ры-ы...

Смуглае, гнуткае, як у яшчаркі, цела. І на двух блакітных сподачках — дзве агністыя чорныя зоркі. Яны і

падміргваюць, і просяць, і вабяць. І ўжо ніяк не ўтрымацца, каб не запусціць руку ў жорсткую, як шчотка, хлапчукоўскую стрыжку: ах ты, разбойніца! Чорная, аж сінявая, шчотка круціцца ва ўсе бакі, бароніцца, і на ўсё купэ разліваецца бязбоязным смехам:

— Падары-ы!..

Маім суседкам — яны таксама едуць з Сімферопаля — не падабаецца гэтая весялосць.

— Бач ты, цыганя, нікога не баіцца.

— Няўжо ж, каб гэтак наша пусціў адно, дык не абазвалася б.— А вось якраз цераз сцяну, у суседнім купэ, і «наша» сапраўды. Укормленае, насупленае, усю дарогу, колькі ўжо едзем, усё нешта жуе. І, праўда, і слова яшчэ з сябе не выціснула. Затое мамачка, гэтаксама перапечка на смятане, не зачыняе рота, адно і адно, як заведзеная пласцінка:

— Валерка, з'еш пернічак!

— Валерка, выпі малачка!

— Не стой ля акна, Валерачка!

— Куды то пайшоў, Валерка!

— На, Валерка, яблычка!

Валерка... Валерка... Валерка...

Ад гэтага абрыдлага валеркання распухлі вушы!

— А цябе як завуць?

— Марыула.

— А тваю бабулю як?

— Яна спіць...

— А да каго ты едзеш?

Імгненны, як маланка, выпрабавальны — вочы ў вочы — позірк.

— Да мамы...

Да мамы? А чаму ж раптам гэтак пасмутнелі вочкі? Чаму ледзь улоўны цень, што прабег раптам па тварыку, патушыў бясклапотную ажыўленасць і гульню?

— Гэта ж баба вязе яе да мацеры, а маці замужам за другім, дык, можа, яна там той мацеры з вотчымам не вельмі і патрэбна будзе.

Яны ўсё на свеце і пра ўсіх ведаюць, гэтыя дасведчаныя людзі!

— Давай, Марыула, мы з табой пагуляем па калідоры.

— А брошку падорыш?

— Брошку не падару, а падару ручку.

— Яна не піша?

— Як гэта не піша? Яшчэ як піша! Глядзі!..

— Пакажы! — вочкі зноў у момант разгараюцца, твар святлее, і па ім зноў успыхвае цікавасць і скваппасць да жыцця.

— Калі ласка, валодай!

— Бачыш ты, не было б то цыганя. Выцаганіла-такі...

Мае суседзі сядзяць ужо над сваімі кашолкамі з ядой. Вячэраюць. Не вытрываць — пахне нечым печаным, смажаным, хатнім. Але паспрабуй — выцыгані!

— Хадзем, Марыула, пагуляем з табою ў калідоры...

Марыула цешыцца ручкаю і адразу ж знаходзіць ёй работу: ручка будзе ў яе «быццам градуснік».

— Я буду мераць тэмпературу. Добра? — пытаецца яна ў мяне, і тут жа мне першай і «мерае тэмпературу», уяўна страсае «градуснік», ставіць мне пад паху. Робіць яна ўсё гэта спрытна і з веданнем справы — яе толькі што выпісалі з бальніцы, у яе быў апендыцыт, і ёй рабілі аперацыю. Змераўшы тэмпературу, Марыула, «як доктар», робіць запіс: нешта старанна крэмзае на аркушыку з майго блакнота. Потым яна па чарзе ўсяму нашаму купэ лічыць пульс. Зноў, як доктар, бярэ кожную з нас за руку і, прыклаўшы палец да вуснаў (ціха, маўчыце!), пачынае бязгучна лічыць. Лічыць яна ўмее да ста!

Суседкі мае павячэралі, палагаднелі, і цяпер яны ўжо ахвотна дазваляюць Марыуле «лячыць» іх таксама.

Гэты калючы дзічок сваёй непасрэднасцю і звонкім смехам непрыкметна зачароўвае ўвесь вагон. Да нашага купэ сходзяцца «лячыцца» амаль усе суседзі. А да тых, хто не прыходзіць, Марыула ідзе сама. І ніхто не адмаўляецца. Ну, ну, палячы, Марыула...

Тым часам пара падумаць і пра сон ужо.

— Давай, Марыула, будзем і мы вячэраць.

— Баба спіць...— робіць пальцам знак гаварыць цішэй і сама шэпча Марыула.

— Дык мы яе і не будзем будзіць. Няхай сабе спіць,— шапчу і я ў адказ, хоць Марыуліна баба спіць за два купэ ад нас.

Мы сядзім з Марыулай на маёй пасцелі, вячэраем, і яна кажа мне:

— Я да цябе заўтра таксама прыйду.

— Вядома, прыйдзеш.

— Я не хачу ехаць у Чарнігаў,— памаўчаўшы, раптам прызнаецца мне Марыула, і на яе худым смуглым тварыку адбіваецца такая дарослая сумота.

— Не хочаш? Чаму?

— Баба не хоча, каб я больш жыла ў яе, а я хачу...— у чорных вочках Марыулы закіпаюць слёзы і гора.

— Дык ты ж да мамы едзеш, мама будзе цябе шкадаваць.

— Не будзе...— круціць галавой Марыула і, як старая жанчына, сціскае вусны, каб не заплакаць.— Яна цяпер шкадуе Мікалая... Яму ўсяго адзін год,— паказвае яна адзін палец на руцэ.

— Ой, адзін усяго толькі год! Чаго ж ён варты, той Мікалай! — робленай вясялосцю імкнуся я суцішыць боль у маленькім сэрцы.

— Мікалая ўсе будуць шкадаваць,— стаіць на сваім Марыула.— І мама. І...

Яна не навучылася яшчэ зваць татам чужога ёй, Мікалаевага бацьку. Ёй яшчэ давядзецца вучыцца і прывыкаць зваць яго так. Яна і думаць яшчэ не ўмее пра гэта. Яна толькі адчувае, едучы на цягніку з Сімферопаля ў Чарнігаў, што яе там не будзе каму шкадаваць, хоць там і жывуць яе маці, і маленькі брат Мікалай, якому адзін усяго толькі год, і яго бацька...

Людское дзіця.

Худзенькая разумная цыганачка.

Яна так даверліва хіліцца да чужое рукі, што шчыра прыгарнула яе, так шукае спагады ў чужых вачах, у голасе.

...Уначы я ўстала і выйшла паглядзець, калі не будзе зачынена купэ, на сонную Марыулу. Яна спала на голай лаўцы, скруціўшыся, як кацянё, клубочкам у нагах у бабы. Баба, відаць, усё ж прачыналася, бо Марыула была накрыта яе рудою хусткаю.

* * *

Назаўтра раніцою не паспелі мы яшчэ паўставаць, як у дзверы пашкрэблася ўжо Марыула.

— Уставай! Уставай! — схілілася яна да мае падушкі і пачала дурасліва блытаць мне валасы.

Марыулу не пазнаць было!

Куды падзелася тое ўчарашняе кволае дзеўчанё ў кароткай паркалёвай сукеначцы.

— О, якая ты сёння прыгожая!

— Ты як артыстка ўсё роўна! — падхапілі мае суседкі.

— Я — цыганка!

Марыула няўлоўна зграбна, адной рукой, кранаецца

свайго дзіцячага стану, другую нейкім таксама невыказна спеўным рухам узносіць над галавою, прытупвае нагою і тады з-пад парасона яе зборыстай зялёнай спаднічкі выпырхвае чырвоны гумавы боцік. З гэтым нечаканым бляскам зліваецца небаязлівы агністы позірк і гэтакая ж незалежная белазубая ўсмешка.

Аднак Марыула зусім не збіраецца наладжваць тут, у нашым яшчэ сонным купэ, скокі. Яна толькі наглядна дэманструе нам прыклад свае цыганскае жыццядзейнасці. І сапраўды: вось яно, шасцігадовае дзіця, каторую пару ўжо на нагах, гатова ўжо ў якую хочаш дарогу! Гатова непатрабавальна і гэтак таленавіта!

Як і падабае сапраўднай цыганцы, сёння Марыула ў доўгай у незлічоных зборках спаднічцы і яркай жоўтай кофце, якая вельмі пасуе да яе смуглага твару і чорных вачэй. Прыроджанае адчуванне прыгажосці падказала ёй, і Марыула не пакінула без увагі і свае шорсткія чорныя валасы: іх яна перавязала вузкім сінім ні то шалікам, ні то поясам. Трэба было, аднак, бачыць, як быў завязаны гэты шалік — не шалік, пояс — не пояс. Абыякавы вузел збоку, над маленькім вушкам, а няроўныя канцы шаліка маляўніча спадаюць на худзенькі плячук. Сапраўды, толькі ўзяць паставу і прытупнуць нагой...

— Ты — артыстка, Марыула!

— Не, я — цыганка! — вясёлы чырвоны боцік зноў, як снягір, выпырхвае з гушчару зялёных шаўковых зборак.

— І ты прыгожая, Марыула!

— А брошку падорыш?..

Паспрабуй, перамажы пароду!

— А ты падары-ы...— лашчыцца Марыула і кладзе галаву на маю падушку.

— Пачакай, я зараз пайду памыюся, і будзем снедаць.

— Я не хачу. Я паснедала ўжо з бабаю,— адмоўна круціць галавой Марыула і просіць:— Можна, я буду маляваць у тваім сшытку? — паказвае яна на маю сумку, дзе ляжыць блакнот, і дастае з нетраў свае шаўковае зялёнае спаднічкі, з кішэні, учарашнюю ручку.

— Я намалюю мамін дом,— бярэцца яна за работу і абяцае:— Я табе і курэй намалюю і ката.

— Намалюй мне свайго брацікa Мікалая.

— Ну яго,— пязлосна адмахваецца Марыула,— ён у штаны пісяецца.

Сапраўды, якое можа быць мастацтва пры такой ганьбе!

Мы пачынаем снедаць, запрашаем Марыулу, але яна нізашто не бярэ ні ў каго з нас ні кавалачка, толькі цукерку, але і цукерку не есць.

— Я бабе занясу,— кажа Марыула і хавае цукерку ў кішэню.

...А цягнік усё ідзе і ідзе. Усё далей і далей ад Сімферопаля і ўсё бліжэй і бліжэй да Чарнігава...

Я выйшла ў калідор і стала ля акна. Неўзабаве выйшла на калідор і старая цыганка. У маладосці, відаць, цыганка была прыгожая. Старасць хоць і зрэзала маршчынамі яе твар, аднак не сцерла колішняга яго хараства, не патушыла агню ў чорных пагардлівых вачах. Яны і цяпер палыхалі ў яе, як распаленае вуголле. Цыганка пастаяла ля акна, паглядзела, як гоніцца ўслед за цягнікам калёсная дарога, як мільгае спалены сонцам і ўжо счарнелы ад восеньскіх халадоў стэп, і на яе твары, які таксама быў падобны на гэты стэп, не адбілася ніякага пачуцця.

Толькі ў прыжмураных вачах — а можа, гэта мне толькі падалося — запёкся ні то жаль, ні то ўспамін.

...Як некалі даўно-даўно па гэтакай калёснай дарозе ехаў яе табар. Як раскідваў ён на ноч свае буданы ў стэпе. Пачуліся ёй даўно забытыя галасы. І як апёк агню, працяў яе, яшчэ зусім маладзенькую, у тую ноч, у тым далёкім стэпе, першы пацалунак маладога цыгана... А потым, як узяў яе замуж, ужо ніколі больш не цалаваў, а толькі біў. А яна раджала дзяцей, хадзіла па вёсках варажыць бабам (і пры выпадку красці!), і ўсё, што наварожвала, усё несла яму, свайму гаспадару... Даўно ўсё мінулася. І ночы у табары, і пацалункі, і ўсё тое жыццё. Цяпер старая цыганка жыла на ўскраіне вялікага горада, у цагляным уласным доме. Жыла з сынам і нявесткаю толькі. І цяпер яе сын і нявестка працавалі на заводзе. І хоць пачатак і гэтага жыцця таксама ўжо губляўся недзе ў засмужанай далечыні, усё роўна не магла прывыкнуць старая цыганка да драўлянае ды яшчэ пафарбаванае падлогі (якое параўнанне з пяшчотным шамаценнем пад босымі нагамі шаўковай травы!), не ўмела звыкнуцца з газавай плітой, ад якое не было ні дыму, ні полымя, ні іскраў. Нават ложак асобны цяпер яна мела, а ўсё роўна, каб пацешыць старое цела, любіла кінуць на падлогу якую-небудзь адзежыну і гэтак на падлозе, бліжэй да мілае зямлі, пераначаваць ноч. І прачыналася раніцой як быццам маладзейшаю. Яна хоць сёння праменяла б гэтую нямілую ёй каменную хату з усёю яе непатрэбшчынай на маладосць

у рваным будане дзе-небудзь у спэпе ці на ўскрайку гаманкое дубровы пад зорным небам.

...Старая цыганка падыходзіць і спыняецца ля майго акна.

— І красівая і вучоная, а долі не маеш,— распеўна, пазавучанаму звяртаецца яна да мяне.— Усё ўмееш, усё маеш, а долі не знайшла.

Божа, колькі разоў яшчэ ў дзяцінстве чула я, як варажылі цыганкі лёс маёй маме, маім цёткам і суседкам. І мяне заўсёды зачароўвалі гэтыя магічныя іх словы і палымяны позірк.

— Многа не папрашу, а ўсю праўду скажу. Дай руку, вучоная, паваражу,— і дастае з кішэні калоду зношаных карт.

Назіральнасць і прыроджаны розум падказваюць ёй: выпадак той, калі пра хараство і маладосць няма ўжо чаго ўспамінаць. А вось «вучоная» — пры акулярах — якраз будзе дарэчы. І старая цыганка, ужо тасуючы карты, не шкадуе на мяне зманлівых чараў:

— У казённым доме і паважаная і разумная, а ў сваім уласным, вучоная, мала радасці маеш... Многа не папрашу, а ўсю праўду скажу! — зноў абяцае мне цыганка і яе дагэтуль як быццам скамянелы твар робіцца натхнёным.

— Якая ў цябе ўнучка цудоўная! — Трэба ж неяк мне ад яе адкупіцца, а то і сапраўды раскіне на картах усё маё жыццё (як быццам я сама яго не ведаю).— Разумная ўнучка і прыгожая,— паказваю я на Марыулу, якая сядзіць на маёй пасцелі і старанна малюе нешта ў маім блакноце.

— Э,— кідае сярдзітый позірк у наша купэ цыганка.— Не цешся, вучоная, унукамі. Застанешся адна — унукі вады не паднясуць,— змрочна прадказвае яна.

— А твая ж унучка цябе любіць.

— Жывуць не з любоўю, жывуць з чалавекам. Запомні гэта.

— А твой чалавек дзе? Дзе гаспадар? — раблю спробу перахапіць ініцыятыву ў свае рукі ўжо я сама.

— Памёр,— неахвотна і не адразу адказвае цыганка, і твар яе зноў замыкаецца і робіцца гэтакі ж спапялелы, як стэп, што ляжыць за акном цягніка.— У турме памёр. За казённыя грошы.

...І мне міжволі ўспамінаецца, як адразу пасля вайны жыла я ў вялікім сярэднерускім горадзе і працавала ў рэдакцыі. Як аднойчы ў кабінет да рэдактара ўваліўся натоўп цыганоў. Чалавек дваццаць. Усе барадатыя, чорныя,

у ботах і паддзёўках. Маладыя ўсе былі, белазубыя. А ў старэйшых раты былі поўныя золата... Цыганы працавалі ў нейкай арцелі, рабілі, здаецца, бочкатару і, відаць, іх падлавілі на нейкай афёры з накладнымі. Усім гуртам даказвалі яны рэдактару, што той начальнік (гэта значыць, заказчык) жулік і што яны просяць гэтага начальніка (гэта значыць, рэдактара), напісаць пра яго ў газету. Пакараць... І ўсё іх брыгадзір ці загадчык арцелі кідаў рэдактару на стол жмутак нейкіх пакамечаных, замурзаных, рознакаляровых накладных, у якіх наўрад ці здолеў бы разабрацца сам рэдактар. І калі рэдактар параіў цыганам звярнуцца з усімі сваімі накладнымі лепей да пракурора — усю арцель у адно імгненне быццам ветрам выдзьмула з яго кабінета... А на другі ці на трэці дзень прайшла па гораду чутка, што знікла, з'ехала некуды цэлая цыганская арцель і звезла ўсе накладныя, усе дакументы і грошы. І немала грошай. Знікла за адну ноч... Знайшлі тую арцель недзе аж у Сібіры, мо праз паўгода — не раней. А суд ішоў у тым жа сярэднерускім горадзе, дзе была наша рэдакцыя...

Я не стала дапытвацца ў цыганкі, дзе і калі спаткаўся з «казённым домам» яе гаспадар.

— А куды Марыула едзе?

— Да маці вязу,— зноў гэтак жа неахвотна і панура адказала яна. Было відавочна, што адабраная з яе рук у мае ініцыятыва, была ёй не да спадобы. Але я ўжо не хацела адступацца.

— А чаму Марыула дагэтуль жыла асобна?

— Бацька кінуў, а маці за другога пайшла...

— А чаму ж бацька кінуў?

— Руская адбіла.

— А гэты, другі, добры чалавек?

— Усе яны добрыя, пакуль спяць,— сярдзіта буркнула цыганка.— У яго ўжо сваё дзіця ёсць, дык навошта яна яму? — кіўнула яна на Марыулу.— Дык яна яшчэ на свайго бацьку, як дзве кроплі вады падобная...

— Яна ж такая ласкавая...

— Ласкавая... А маці, каб і гэты не кінуў, будзе дагаджаць яму.

— Дык няхай бы, калі так, Марыула пры бабе жыла.

— Ага, пры бабе! — як маланкай, бліснула вачыма старая цыганка.— А сын з нявесткай загадваюць: «Вязі!..» Яе ў школу ўжо трэба аддаваць. А ці лёгка мне везці...—

і без усякага пераходу, раптам злосна, па-цыганску пазвала: — Марыула, ты чаго шляешся абы-дзе?

І Марыула пакорна, не абазваўшыся нават і словам, як мышанё, вышмыгнула з нашага купэ.

— Не трэба на яе крычаць,— паспрабавала я заступіцца за Марыулу.— Яна ж добрая дзяўчынка.

Старая цыганка не абазвалася мне ні словам і паволі, старэчай хадой накіравалася следам за Марыулай.

А мне як быццам камень лёг на сэрца.

Да самага Чарнігава Марыула больш не паказалася на калідоры, не зайшла да нас, у купэ. Няцяжка было здагадацца, што баба забараніла ёй хадзіць да нас.

У Чарнігаве яны выйшлі не развітаўшыся. Марыула была ў гэтакай жа, як у бабы, рудой суконнай хустцы і ў гаматкім — на вырост — цыгейкавым футарку. Цяжкі клунак, які яна несла ў руцэ, цягнуў яе да зямлі. Яна ледзь паспявала за бабаю і доўга ўсё азіралася і азіралася на наш вагон.

Ці пазнала б яна мяне цяпер?..

*1977*

# ПАДГОР'Е

Усё здарылася так раптоўна, нібыта выстралілі з ружжа.

Дробыш памяняў кватэру і пад Кастрычніцкія святы пераехаў жыць у Алупку. А недзе ўжо неўзабаве пасля Новага года даўні — яшчэ з партызанства — Дробышаў сябра, галоўны ўрач бальніцы атрымаў ад яго кароценькую паштовачку: «Браце Мікіта Іванавіч, навалілася на мяне нейкая немач. Не ем, не сплю. Ледзьве цягаю ногі... Дазволь прыехаць, паказацца табе».

Мікіта Іванавіч — стары канавал (так ён сам зваў сябе) — прабег вачыма паштоўку і толькі хмыкнуў: каго-каго, а Дробыша ён ведаў лепш за сябе самога. Некалі ў сорак трэцім у партызанах, як сядзелі ў блакадзе ў Бранецкім балоце, ён мала не шавецкім нажом крамсаў Дробыша. І пасля вайны ўжо таксама патрымаў яго на сваім аперацыйным стале... Хоць увогуле-то Дробыш зусім не быў слабаком. То былі кожны па-свойму рызыкоўныя выпадкі, але Дробыш выкараскаўся не толькі з дапамогай дактароў. Не меней, чым лекі, памагаў яму і ўласны характар: вытрываў пад нажом, значыць, нідзе не дзенуся — буду жыць.

І калі раптам такая паштоўка, значыць... Мікіта Іванавіч адказаў тэлеграмай: «Валяй!»

І Дробыш — ён і не сумняваўся, што атрымае адказ такога зместу — ■ жонкаю, самалётам, назаўтра ж вылецеў у горад, дзе пражыў лепшыя гады свайго жыцця і які ён пакінуў, як цяпер ён ужо сам гэта разумеў, гэтак безразважна.

* * *

Дробыш заснуў адразу, як толькі самалёт набраў вышыню і выраўняўся. Прачнуўся ён ад таго, што Вера Калядка са зборнага цэха кінула на яго дырэктарскі пісьмовы стол белы скрутак. Скрутак гэты пакаціўся, пакаціўся і, усё разгортваючыся і разгортваючыся, раптам зрабіўся зусім-зусім голенькім дзіцем. Хлопчыкам...

Скрутак-хлопчык бездапаможна дрыгаў кволымі сінімі ножкамі і заходзіўся прарэзлівым крыкам. Сама ж Вера Калядка толькі ляснула дзвярыма кабінета — быццам і не было яе тут. Хлопчык-скрутак пырснуў цёплым струменьчыкам на зялёнае сукно стала, на паперы, на калені Дро-

бышу... І тут немым голасам закрычала Дробышава сакратарка Нэлачка і кінулася ратаваць ад дзіцяці яго, Дробыша... Пяшчотная смуглая шчака і свежыя вусны былі так блізка, што Дробышу захацелася пацалаваць Нэлачку. Ён павярнуўся ў крэсле, каб абняць яе — і ў гэты самы час якраз і прачнуўся... Не зусім прачнуўся, бо ўсё яшчэ адчуваў сябе здаровым і моцным і адчуваў, як нястрымна хацелася яму пацалаваць Нэлачку. І дзіця як быццам было таксама вось тут жа, побач. Ён нават міжволі правёў рукою па каленях, апырсканых дзіцем... Спачатку ён нават не разабраў, дзе ён знаходзіцца. Колькі ён праспаў? Якая была гадзіна? Агледзеўшыся, ён успомніў, што ляціць у самалёце, успомніў, што той яго дырэктарскі стол і кабінет, і тая Вера Калядка са зборачнага з дзіцем былі сто гадоў назад.

Сто гадоў! Быў тады і завод. Яго завод. Вядомы ўжо на ўсю краіну. І ён, Дробыш, дырэктар завода, хадзіў у модным па тым часе шэрым кітайскім габардзінавым макентошы (шэры габардзінавы макентош быў адзнакай не толькі часу, але як быццам і сацыяльнай вагі) і нязменна красаваўся ў самых нават высокіх прэзідыумах і на ўсіх святочных трыбунах.

Не, не! Ён не толькі красаваўся. Ён пасля партызан, можна сказаць, уласнымі рукамі будаваў той свой завод. І нават тады, калі завод добра ўжо станавіўся на ногі і на ўсю моц размахнуўся ўшыркі і ўдоўжкі, ён, дырэктар, не грэбаваў і не саромеўся — калі была такая выключная патрэба — у ватоўцы і кірзачах,— укалваць з ломам у руках разам са сваім завадскім пралетарыятам. Яму падабалася, і ён заўсёды толькі так зваў тых пасляваенных хлапчукоў і дзяўчатак, што ішлі і ехалі тады па набору і без набору з вёсак узнімаць з попелу зруйнаваныя гарады, ехалі і ішлі, не маючы ўяўлення нават, як і чым яны будуць іх узнімаць і будаваць. Гэта потым ужо наадкрывалі розных тэхнічных вучылішч і пачалі рыхтаваць кваліфікаваных рабочых. А калі ён, Дробыш, прыйшоў дырэктарам,— яго пралетарыят меў на ўзбраенні толькі рыдлёўкі і драўляныя насілкі. Кельмы — потым — былі ўжо будаўнічай тэхнікай.

І яны тады разам з тым сваім кажушным і бахілавым пралетарыятам не толькі збудавалі завод — яны яшчэ і праславілі гэтым заводам свой горад і рэспубліку. Нават за межы дзяржавы ступілі: «Made in USSR».

У яго тады быў яшчэ надзейны запас фізічнай і духоў-

най сілы. І ведаў у яго хапала. Можа, не самых навейшых, не зусім тых, якіх вымагаў ад кіраўніка імклівы час. Аднак пра гэты, зусім яшчэ неадчувальны ў агульным балансе яго дзейнасці, дэфіцыт ніхто нават не здагадваўся, не тое каб гаварыў. І адзіны, хто не даваў яму спакойнага жыцця, быў ён сам, Дробыш... Але ён валодаў шчаслівай здольнасцю беспамылкова арыентавацца ў кожнай тэхнічнай навацыі, умеў выключна мэтанакіравана выкарыстоўваць веды свайго інжынернага калектыву. Ён быў моцны гэтай здольнасцю, і аўтарытэт яго таксама быў заснаваны на гэтай здольнасці.

...Новы дырэктар, якога прыслалі з Масквы — гэта быў час, калі перыферыйныя кадры маланкава і ўпрыцён замяняліся сталічнымі — быў, па-першае, намнога маладзейшы за Дробыша (дэталь немалаважная); па-другое, ён быў інжынер і па адукацыі і як практык. А Дробыш ад пасады да пасады рос, будучы вылучэнцам.

Аднак, што было самае крыўднае, і для Дробыша нават жахлівае, што на гэтым яго родным заводзе, дзе Дробыш ведаў у твар амаль кожнага чалавека, ад інжынера да рабочага, гэтай замене — старога дырэктара новым — як быццам ніхто асабліва не здзівіўся. Яго, вядома, шкадавалі, але не дзівіліся, і нікога як быццам не абурала, што вось прыслалі новага дырэктара, калі ён, Дробыш, столькі ўжо гадоў тут працуе, кіруе заводам і яшчэ столькі здольны працаваць і кіраваць. І гэта быў удар. Зусім нечаканы ўдар, усё роўна, як з-за вугла ў спіну.

Ён ведаў у твар амаль кожнага рабочага... Памятаючы, як сам ён некалі дабіваўся навукі і толькі к трыццаці гадам скончыў рабфак, а потым ужо быў пасланы на вучэнне ў авіяцыйны інстытут і к пачатку вайны паспеў скончыць тры курсы, памятаючы ўсё гэта, Дробыш па-бацькоўску ўнікаў у вучэнне свайго пралетарыята. Адразу па вайне было яшчэ і галадна і холадна, і не многа было ахвотнікаў сядзець з галодным жыватом у халодным вячэрнім класе ці аўдыторыі тэхнікума (пра інстытут гаворку вялі мо якія адзінкі на ўвесь завод — і то не вельмі адважна). Дробыш сам хадзіў у рабочыя інтэрнаты і да сябе ў кабінет выклікаў тых, у каго не хапала пораху выцягнуць, і выхаваццеляў тузаў і лаяў: «А вы куды глядзіце? Маладыя хлопцы і дзяўчаты — павінны вучыцца!»

А колькі клопатаў ён меў, колькі нагледзеўся і наслухаўся дзявочых і жаночых слёз! Маці-адзіночкі... Кожная з іх, спадзеючыся на сваю жаночую долю, верыла, хацела

верыць. А канчалася тым, што ласкавыя словы і гарачыя пацалункі вельмі хутка забываліся, а яна, дурная, аставалася адна. Дык каб жа адна, а то з дзіцем на руках. Без кватэры, без ясляў, без мужа... І дзіця не мела нават права на бацьку ў метрыцы. Прочырк! — насупраць графы «Імя бацькі»...

І ўсе яны — маці-адзіночкі — ішлі да яго. Ён — дырэктар — павінен быў знайсці ім помач, даць нейкую раду. І ён не толькі шкадаваў іх — ён іх лаяў і сарамаціў. І, як разгневаны бацька, калі бачыў, што бабскае дурноты было больш, чым бяды, выганяў з кабінета... («Ідзіце да старшыні заўкома — гэта яго клопат: бабы!..») Але яны ўсё роўна вярталіся да яго, і вяршыць іх лёс павінен быў ён, а не старшыня заўкома.

Дробыш і шкадаваў, і лаяў, і дапамагаў. У самога было дзве дачкі — і хоць дырэктарскія дочкі, а таксама з неаднолькавым лёсам нарадзіліся.

Калі ён пакідаў завод, Дробыша шкадавалі — тыя, хто прыйшоў з ім разам і хто разам з ім пачынаў. Новая ж змена, моладзь, якая прыйшла ўжо на ўсё гатовенькае і села за бездакорныя канвееры ў белых халатах і касынках (дактары!) — для гэтых ён быў проста старым дырэктарам. І таму новы — малады! — ім быў і бліжэй і цікавей. Усё правільна...

* * *

Дробыша, вядома, не пакінулі без працы. Якраз пачалі стварацца саўнаргасы, а ў саўнаргасах выдумляцца без ліку аддзелы. Прыдумалі аддзел і Дробышу (як-ніяк ён хадзіў у наменклатуры!). І ён загадваў і кіраваў гэтым аддзелам, аж пакуль саўнаргасы не ліквідаляліся, дакладна так і не ведаючы, чым жа канкрэтна павінен займацца яго аддзел і чаго павінен быў патрабаваць ад сваіх падначаленых ён, кірайнік гэтага аддзела. Людзі, праўда, ездзілі ў камандзіроўкі (і сам ён зрэдку ездзіў, але больш пасылаў ужо маладзейшых) і справаздачы пісалі (і здавалі гэтыя справаздачы па інстанцыі вышэй, і іх там прымалі), і засядалі, і вялі пратаколы, а папярэдне да гэтых пратаколаў пісалі рэзалюцыі... У вольны ж час, а яго таксама было дастаткова — часам, каторы дзень не ведалі ўсім аддзелам, які выдумаць сабе занятак — тады ўжо гулялі ў шахматы... Дома, дзе б гэта чалавек (ды і з кім?) адважыўся праседзець дзень над шахматнай дошкай? Ды і дзеці і жонка вочы б выкалалі. А калі ішоў на работу,

ішоў да сваіх папер і чарніла, дык хто цябе мог там папракнуць?

Дробыша, звыклага на заводзе да жалезнай дысцыпліны і працоўнага рытму, падначаленага завадскому канвееру, саўнаргасаўскае кола сваім напалову халастым ходам на першым часе нервавала і знясільвала. Але паступова (да чаго не прывыкае чалавек, асабліва калі разважыць, што папрацаваў ён на сваім вяку, дзякаваць богу, як чорны вол — няхай маладыя столькі папрацуюць) паступова ён прывык да свае новае пасады і таксама пачаў гуляць у шахматы на рабоце.

Скончыліся шахматы адначасова з саўнаргасамі.

Аднак цяпер па ўзросту Дробыш меў ужо магчымасць адпачываць у цяньку пад лаўрамі персанальнай пенсіі. Сто дваццаць рублёў чыстымі без выліку! Сябры Дробыша, якіх яшчэ тузалі і бласлаўлялі вымовамі і папярэджаннямі на розных адказных паседжаннях, зайздросцілі Дробашу: «Дзівак! Купі спінінг і цеш сабе цела і душу дзе-небудзь на беразе рэчкі, на вольным паветры. Тут жа, агінаючыся па службовых закутках, людзі не дыхаюць ім па адзінаццаць месяцаў на годзе...»

І Дробыш адразу і сапраўды загарэўся!

Купіў сабе гумавыя боты, плашч адмысловы, нават палатку... Накупіў рыбалоўных кручкоў і рознай іншай снасці, хоць да гэтага ён зроду вуды ў руках не трымаў. Не разумеў ён гэтай страсці: сядзець цэлы дзень карчом на адным месцы дзеля нейкіх дзвюх ці трох нікчэмных плотачак.

Неўзабаве ён звёў кампанію з асамі рыбалавецкага майстэрства. А яны ведалі толк не ў адной толькі рыбе — яны і «белае галоўкі» не цураліся, так што і Дробыш пачаў таксама час ад часу прычашчацца гэтым «святым» пітвом. (Калі быў дырэктарам, ніжэй каньяку не апускаў сябе. Але калі тое было!)

Аднак чаго не напісана чалавеку на раду, таго не напісана. Не было ў Дробыша зроду цікавасці да рыбы, дык адкуль яна магла гэтак апанаваць яго цяпер, калі яго, дзейнага і моцнага яшчэ чалавека, у пяцьдзесят пяць гадоў выправілі на пенсію?.. Дробышу вельму хутка спрацівела рыба. Дарэчы, яна зусім яму і не лавілася — не лавілася, і ўсё тут!

Яму патрэбны быў сапраўдны занятак. Каб ён быў у калектыве, каб быў некаму сам патрэбны. І ён згадзіўся на першае, што трапіла пад руку: пайшоў дырэктарам рэста-

рана, які перамалоў да яго ўжо некалькі дырэктароў. Дробыш добра ведаў, што не баляваць ён ідзе ў тыя мікрараённыя «Бярозы». Добра ведаў, аднак, і другое: у сваім жыцці ён рабіў нешта крыху і больш складанае і адказнае, чым тое, што чакала яго ў рэстаране. І ён пайшоў і ўзяўся ўзнаўляць яго з руін амаль з тым жа натхненнем, з якім некалі прыйшоў на свой завод. Вакол яго зноў былі людзі, а з людзьмі ён заўсёды любіў і ўмеў працаваць. І людзі любілі працаваць з ім. І нядзіўна, што не прайшло і года, як тыя вымарачаныя «Бярозы» ажывіліся і зашумелі. І знадворку люба стала зірнуць. Знайшоў ён мастакоў, і мастакі на добры сучасны лад і нутро іх абнавілі і перапланавалі. Нават у дзяўчат-афіцыянтак, і ў тых, адкуль і ўзялася толькі ахвота і добразычлівасць да гасцей!

Ён і сам, дырэктар, любіў прайсціся па ўтульных залах і, нібыта збоку, староннім позіркам, паглядзець на справу сваіх рук. Справа цешыла. Пры дзённым святле.

Вечарам, калі рэстаран набываў сваё ўласна рэстараннае аблічча, калі збіраліся выключна госці рэстаранныя,— нязменна прыходзіў на дзяжурства міліцыянер. І амаль ніводзін вечар не сядзеў без справы...

Дробыш таксама, як і днём, абыходзіў абедзве залы, спыняўся ля столікаў — скрозь яны былі заняты выключна зялёнай моладдзю: хлопцы і дзяўчаты. Завадскія, студэнты, з цэнтра прыязджалі.

Ён хацеў зразумець сэнс і стымул іх вясялосці і адчуваў, што не здольны зразумець. І стымул, і сэнс быў адзіны: выпіць. Пілі — усе аднолькава: і хлопцы і дзяўчаты...

Ён паспрабаваў наладжваць ім — цяпер гэта якраз уваходзіла ў моду, і пра гэта пісалі ўсе газеты, гаварылі па радыё, па тэлебачанні паказвалі — цікавыя сустрэчы. Сам званіў паэтам, званіў у тэатры, да кампазітараў. І яму ўсюды ахвотна адклікаліся і згаджаліся. Прыходзілі паэты і чыталі вершы пра каханне, пра космас, пра яго вялікасць рабочы клас. Артысты паказвалі сваё ліцадзейства. Спевакі спявалі... І нейкі час гэта добра патрымалася і выклікала цікавасць. А потым ці то паэтам абрыдла чытаць вершы загрувашчаным ядой і бутэлькамі столікам, ці то вершы іх слухаць надакучыла — паступова ўсё пайшло на спад, на спад, а потым і зусім захірэла. І засталося тое, што і было.

Дробыш нават не імкнуўся выклікаць у сваёй зрокавай памяці ўласнага юнацтва. Ён успамінаў свой — кажушна-бахілавы — пралетарыят, з якім пачынаў пасля вай-

ны. Параўнання зрабіць было немагчыма: тыя былі як насельнікі з іншае планеты. Але ж і гэтыя таксама і заводы будавалі, і варочалі аблогі цаліны, і ў вечную мерзлату ўгрызаліся... Не старыя ж — сто разоў заслужаныя і адзначаныя! — неслі цяпер увесь гэты цяжар на сваіх сагнутых плячах. Яны, гэтыя сённяшнія, неслі яго. І ўсё роўна...

Ён ніводнага дня не вяртаўся дадому раней за поўнач: ад іх скокаў і весялосці можна было чакаць чаго хочаш.

Дробыш вытрымаў у «Бярозах» два гады. І адчуў, што страшэнна стаміўся. Перш за ўсё стаміўся маральна. У імя чаго ён, немалады чалавек, прыкладаў тут столькі сілы і намаганняў? Каб патрафляць і прыслугоўваць (інакш ён ужо не вызначаў уласную вечаровую варту ў рэстаране) гэтай блазноце? Гэтым абкормленым сынкам і дачушкам, што нават уяўлення не маюць, а галоўнае і мець яго не жадаюць, колькі каштуе буханка хлеба... Ён лавіў сябе на супярэчанні: зусім не жадаючы тоўпіцца ў звычайным старэчым гурце, які бубніць толькі таму, што састарэў, сам ён бубніць гэтак жа, як і той праціўны яму старэчы гурт: яны, маўляў, гэта значыць, сучасная моладзь, не такія, як мы былі некалі... Ён стаміўся. І ён бачыў сам: сюды трэба маладога.

Дробыш адступіўся ад «Бяроз» якраз тады, калі сама пачыналася нечуваная дагэтуль міграцыя: сяло, асабліва моладзь, валам паваліла ў горад ад зямлі, якая нарадзіла і карміла яго, а горад, наадварот, кінуўся хапаць нявартую сялу зямлю, кінуўся абсаджваць яе садамі і агародамі, шукаючы на гэтых пустках той першапатрэбнай чалавеку асновы — еднасці з прыродай-матухнай, якая з ростам гарадоў руйнавалася самімі ж гарадамі.

Доўга не раздумваючы, і Дробыш таксама, як персанальны пенсіянер, без усякай нават чаргі ці якіх вялікіх там захадаў, таксама ўзяў сабе надзел пыраю і жаўтапеску, якога свет не бачыў (калі калгас сеяў жыта — сцяблі-на сцяблiну ледзь даганяла на гэтай няўдаліцы).

І вось тут, у Падгор'і — так прызывалася гэтая бяздзетная нераджалая мясціна — здалося Дробышу, знайшоў ён, нарэшце, той якраз занятак, які патрэбен быў яму, каб заглушыць адзіноту і пазбавіцца ад горкіх, як чэмер, думак. Бо яшчэ і жонка не раз падлівала масла ў агонь:

— Разумныя людзі даўно пабудаваліся. А ў цябе, калі былі такія магчымасці, ты і пальцам не варухнуў...

— А чаму ж ты сама не варушылася, седзячы пры тых маіх магчымасцях на гатовенькай дзяржаўнай дачы? —

пытаўся ў жонкі Дробыш.— Думала, што ўвесь век так і праседзіш у цяньку пад хвоямі на беражку возера?!. Не, мілая, ні дачы, ні цянёк, ні персанальныя машыны пажыццёва не даюцца!

І жонка змаўкала. Яна і сама паспела ўжо ўпэўніцца, што пажыццёва не даецца нішто... Каторае ўжо лета пякласся яна ў горадзе. Некуды ж выязджаць і наймаць недзе ў вёсцы ў чужой хаце пакой, дык і дзеці нават і слухаць не хацелі (навошта была ім тая вёска) і ён сам таксама не любіў чужых кутkoў. Сама яна па натуры памяркоўная і ўжыўчывая, сама б яна — чаму ж — ахвотна адпачыла б дзе-небудзь і ў вёсцы, нешта б нават і парабіла б на агародзе ці ў полі. Яна ззамаладу, як пакінула, калі дзеці былі яшчэ зусім малыя, сваё рахункаводства, так больш, апрача хатняга клопату, нідзе нічога і не ведала, ніякае работы. Цяпер столькі гаворкі пра фізічную працу, нібыта яна адзіны, самы верны сродак супраць насланні ўсіх гэтых інфарктаў, інсультаў і гіпертаній... Сама Зоя Амосаўна, дзякаваць богу, ніколі не хварэла. Можа таму, што, пакуль Дробыш быў дырэктарам завода, кожнае лета да самае восені яна і сапраўды жыла ў лесе на дачы, на беразе возера, з магазінам, з гатовым прывозам, а калі чаго і не ставала, то быў жа заўсёды Стась: пазвані толькі ў гараж ці сакратарцы Нэлачцы... Сам Дробыш цярпець не мог, каб яму званілі на работу ды яшчэ наконт машыны. Ён наогул не выносіў бабскай мітусні: дастань гэта, прывязі тое... Даставайце самі, калі трэба!.. І Зоя Амосаўна, жанчына практычная і разумная, мудра апчаджала самалюбства і аўтарытэт мужа-дырэктара: богу — богава, кесару — кесарава. Муж — дырэктар, і ён — свяшчэнная асоба.

Яна ўмела ладзіць з «малодшым камсаставам», падначаленым яе мужу (а, як вядома, «малодшы камсастаў» сам умее ладзіць з жонкай начальніка яшчэ лепш, чым з самім начальнікам). І ўсё ішло як лепей не трэба. Пакуль не скончылася дырэктарства.

...Як на крэўнага ворага, пайшоў Дробыш у наступ на настырны пырнік. Ён капаў і варочаў каменне, а яго назаўтра нібыта нарастала зноў. Дробыш з азартам, які можа быў у яго толькі ў тыя гады, калі ён пачынаў будаваць завод, дабываў цяпер цэглу, гравій, дошкі, толь, цвікі, фарбу... Ён ганяўся за шафёрамі-левакамі і заварочваў іх з торфам і гноем на свой надзел, як пераможца. І быў амаль шчаслівы, калі яму здаралася абскакаць якога-небудзь

зломка-суседа ці нават і ўдаву-суседку, што не ведала, з якога боку прыступіцца ёй да свае пырнікавае дзяржавы.

Вось дзе прыдаліся яму гумавыя боты і адмысловы плашч, і палатка! Калі надышла восеньская слата, Дробыш паставіў палатку і, каб не марнаваць часу на дарогу,— на электрычку і з электрычкі,— цяпер нават і начаваць заставаўся тут, на гэтым сваім яшчэ, як бубен, голым падворышчы. (Але ўжо сваім!) Спяшаўся паспець сад пасадзіць. У садова-ягадным заказніку працавала яго даўняя знаёмая. І па яе аўтарытэтных рэкамендацыях Дробыш і купляў свой будучы сад.

Цяпер ён сам сябе не пазнаваў. Ён дзівіўся, адкуль у яго, сына патомнага рабочага чалавека (яшчэ бацька яго некалі працаваў на тульскім аружэйным заводзе), адкуль у яго ўзялася гэтая сквапнасць да зямлі, да гэтых уласных чатырох сотак жаўтапеску, якое ён цяпер і аднае пядзі не саступіў бы суседу. Адкуль?

Здараліся дні, ён газеты не браў у рукі; цяпер яму натхненнем на цэлы дзень магла стаць сходна купленая ў шафёра-левака машына гною. З гэтым жа натхненнем, можна сказаць, з нічога (купіў у гаспадара развалюху, што ішла на знос) збудаваў ён і сваю дачу: прыгожы маляўнічы дамок, нават з мансардай, па літоўскаму праекту. З газам. З душам... Суседзі пад душ прыладжвалі жалезныя бочкі. А Дробышу знаёмы аўтамеханік недзе праз трэція рукі дастаў і памог узгрувасціць нейкі дзівосны корпус накшталт «лятаючай талеркі»...

Мінуў год, другі, трэці — і жонка ўжо хвалілася суседкам, што з дачы ёй хапае да новага ўраджаю — на ўсю сям'ю — і бульбы, і буракоў, і гуркоў з памідорамі, і салёных, і намарынаваных. Не кажучы пра варэнне і кампоты там розныя: агрэст пёр вёдрамі, вёдрамі мералі клубніку, парэчкі і вішні. А рабіна-чарнаплодка — яе асабліва апошнім часам раілі ад усіх, якія толькі навальваюцца на чалавека, хвароб — аж шалела!

Усё гэта трэба было, не ўпусціўшы тэрміну, у час выкапаць, абарваць, сабраць, засаліць, замарынаваць, перацерці, зварыць, высушыць, выціснуць, перагнаць... А потым жа — да новага ўраджаю — абавязкова і з'есці — усе гэтыя бачкі і бочкі, вёдры і каны, бутлі і слоікі... Каб на наступнае лета пачаць зноў усё спачатку. (Ці не ад гэтае чалавечае сквапнасці і перакорму ненасытнага чэрава і пайшлі ўсе новыя хваробы?)

12 Зак. 2210

Думалася некалі, на самым пачатку, што дача стане месцам, дзе на вольным паветры, у добрым суседстве з сонцам і птушкамі, можна будзе даць разумны занятак целу і адпачынак стомленым нервам. Атрымалася ж так, што ні сам ён, Дробыш, ні жонка, прыехаўшы на дачу, па цэламу дню не разгіналіся нават на хвіліну — не тое, каб птушак паслухаць, на сонца паглядзець не было калі. З паўкіламетра не болей было да лесу, а яны за колькі год ні разу не выбраліся схадзіць у той лес... Усё капалі, усё тузалі, непакоілі гэтыя свае няшчасныя чатыры соткі — каб выціснуць з іх усё, што можна было выціснуць.

Дробышу давялося муравацъ нават склеп пад падлогай на верандзе, бо ў гарадской яго кватэры не было такіх сховаў. Мужчыны-суседзі, як на экскурсію, хадзілі глядзець на Дробышава «бомбасховішча» — для вопыту. І Дробыш, здаволены, прымаў усе экскурсіі, хваліўся сам і цешыўся, калі яго хвалілі і зайздросцілі яму...

...А зімой таго ж года, калі снегам заваліла ўжо ўсе дарогі і падходы, нейкія прайдзісветы на лыжах заехалі і перамясілі ў Падгор'і траха не цэлую вуліцу. Перамясілі і ў Дробыша. Нічога не знеслі, не ўкралі — перабілі і пераламалі толькі ўсё, што ламалася і білася: вокны, дзверы, посуд, люстры... Нават шахматы пасеклі!

Дробыш да самае вясны, да цяпла, не паказваўся на дачы — не мог прымусіць, перасіліць сябе ачысціцца ад той гідоты. Так яму ўсё зрабілася няміла і праціўна. Быццам у душу напляваді.

А тут вясной раптам на ўсіх слупах з'явілася нейкая дурная аб'ява: абавязкова выполваць да каліва, высякаць з коранем, адуванчыкі. Каб нідзе ні кветачкі не засталося!

Дробыш прачытаў на сваім слупе такую аб'яву і накіраваўся да жонкі — тая шчыравала навыперадкі з цешчай свайго суседа.

— Каму гэта прыйшло ў галаву такое вар'яцтва?

— Чаму гэта вар'яцтва? — накінулася на Дробыша суседава цешча, якая тут летавала ўсё лета.— Я з Амосаўнаю яшчэ летась сварылася: з вашае мяжы гэтая пошасць разлятаецца па ўсіх суседзях. (Каб жа яна толькі сварылася з адною Амосаўнаю і толькі за адны гэтыя адуванчыкі.) З суседкай-доктаркаю ледзь не білася: тая ставіла свайго «Масквіча» пад вокнамі, дык несла бензінам.

— І чым жа яны вам гэтак шкодзяць? Цвітуць адуванчыкі, і няхай сабе цвітуць. Вясна ж — хораша...

— Мне хораша, калі я засек бульбы насыплю ды бочку

агуркоў насалю. А гэтага харaства мне не трэба! — і над галавою суседкі толькі мільганула яе згубіцелька-матыка.

— Цяпер, Аляксей Іванавіч, нават паэты павыполвалі з усіх сваіх сваіх вершаў гэтыя адуванчыкі, ды рамонкі з валошкаю,— вітаючыся з Дробышам за руку, дыпламатычна падтрымаў пазіцыю цешчы сам сусед — дацэнт-філолаг. Сам ён тут ніколі не капаў і не сеяў — ён толькі разы два ці тры на тыдні прыязджаў пасля працы надыхацца дачным паветрам. Заўсёды чысценькі, адпрасаваны, заўсёды ў бялюткай пад гальштукам сарочцы — дыпламат, а не дачнік.

— І думаеце, яны вельмі разумнейшыя, гэтыя вашы паэты, калі гэтак напалохаліся рамонкаў і адуванчыкаў, чым вось яны? — Дробыш кінуў на сваю жонку і дацэнтаву цешчу. (Тая ўжо змагалася на мяжы з другім суседам.) — Няхай бы ўзялі хоць раз ды выехалі ўсе вунь на тое аўсянае саўгаснае поле, дзе мы ходзім. Ды няхай бы там налеглі на свірэпу, што і аўса таго не відно нават...

І, не маючы жадання далей таўчы ваду ў ступе, Дробыш не вельмі далікатна падаўся ад дацэнта-філолага ў хлеўчык.

І вось якраз у гэты вясновы час, калі сама цвілі адуванчыкі і калі ў небе з ранку да вечара звінелі нястомныя жаўрукі, і зрабілася з Дробышам тое самае, пра што ўсе суседзі ў адзін голас сказалі: «Памяшаўся чалавек...»

Першай гэта сказала жонка.

Сам Дробыш і ёй, і суседзям сказаў, што прадае дачу.

...Дробыш спяшаўся на электрычку: пайшоў дождж, а ён не ўзяў плашча. І, каб не ліло за каўнер, ён надзеў на галаву цэлафанавы мяшэчак і прыціснуў ім каўнер. А штаны, каб не брохаць па дарозе, падкасаў. Відок быў той яшчэ... Дробыша абагналі дзве маладыя жанчыны, і адна з іх азірнулася на Дробыша і ўголас засмяялася:

— Якімі пудзіламі мы тут, на гэтых дачах, парабіліся!..

Сама-то яна не была падобна на пудзіла, і смех яе быў вясёлы і бяскрыўдны. І Дробыш не пакрыўдзіўся. Некага яна яму нагадвала. Гэты смех некага нагадваў яму. Нешта забытае, аднекуль здалёку, з нейкай нетутэйшай даўніны. Каб яна яшчэ раз азірнулася... Але яна не азірнулася. Відаць, здалёку пачуўся шум электрычкі — за цэлафанавым мяшком Дробыш не пачуў яго — бо жанчыны прыпусціліся бегчы. І дзіўна: яна толькі перахапіла з адnае

рукі ў другую напакаваную сумку, як Дробыша, па гэтым жэсце, нібыта маланкай асвяціла: Маша!

Вось на каго была падобна гэта жанчына, што назвала яго пудзілам!

Ён успомніў: ён прыехаў тады ў Алупку пасля абеду, злез з аўтобуса, нагнаў яе, і яны разам дайшлі да яго корпуса. Гэта была іх першая стрэча. Назаўтра яго выклікалі на прыём да ўрача. І яны, чакаючы прыёму, стрэліся другі раз. Калі ён прыехаў праз год, разам яны аб'ездзілі ўвесь Крым. У тую ж восень яна загінула ў аўтамабільнай аварыі. І вось сёння — праз столькі год — гэта маладая жанчына...

Цадзіў, як наняўся ўсёроўна, дождж. Дробыш вымак да ніткі... А недзе там, напэўна, свяціла сонца і білася хвалямі аб бераг мора. Дробышу нясцерпна захацелася пад тое сонца, на той бераг, да тых хваль.

З Падгор'я. Ад сваіх чатырох сотак.

...Дзяцей — дачок і сына — яго дача цікавіла мала. Яны паказваліся там толькі, калі паспявала клубніка ці садавіна. (Унукаў, праўда, дзеду і бабе падкідвалі яны на дачу ахвотна.) У дзяцей даўно ўжо было ў кожнага сваё жыццё... Цяпер яму нават не верылася, што быў час, калі ён, малады бацька, ганарыўся і цешыўся сваім бацькоўствам і сваім першынцам, што браў сына з сабою ў лазню і мыў у круглай драўлянай балейцы яго пяшчотнае дзіцячае цельца, што ён катаў некалі бялявага кучаравага хлопчыка з такім даверлівым карым позіркам на веласіпедзе; што быў бясконца шчаслівы, калі траплялся ў яго рэдкі выхадны, і, каб зрабіць сабе і сыну сапраўдную мужчынскую ўцеху, хадзілі яны разам на футбол. А зімой удвух — мужчыны — хадзілі на лыжах...

Цяпер у сына былі ўжо свае дзеці. Ён даўно перагнаў бацьку сваёй навукай, і цяпер — было прыкметна — адносіны з бацькам, сама прысутнасць бацькі, нярэдка былі яму ў цяжар. Нават на сямейныя святы ці калі здараліся нейкія службовыя поспехі, якія трэба было адзначаць, сын не запрашаў бацьку: ён як баяўся ці саромеўся, што сярод яго гасцей бацька будзе выглядаць... Што бацька будзе староннi, будзе не на месцы сярод яго гасцей.

У сына была разумная і добрая жонка. І запрашала яна. Але гэта было зусім, зусім іншае...

Дробыш ніколі б, ніводнаму чалавеку, нават жонцы, ніколі не прызнаўся б у гэтым найгарчэйшым адкрыцці,

якое ён зрабіў сам пра сябе. Жонка — маці, яна знайшла б сто прычын, каб апраўдаць свайго любага сыночка. Яго ж бацькоўскай душой валодалі зараз толькі бяздонны смутак і расчараванне. Ён марыў, каб сын вырас і быў сапраўдным мужчынам. Пражыўшы немалое і зусім не лёгенькае жыццё, ён у гэта паняцце ўкладваў той, што вызначаў самае галоўнае, сэнс, які меў на ўвазе перш за ўсё сапраўднага чалавека. А сын не выцягнуў, аказаўся легкаважкім і не па-мужчынску дробязкім.

Чаму і калі гэта здарылася?

На дачок ён не крыўдаваў. Яны былі жанчыны. Старэйшая здолела ўдачліва выцягнуць свой латарэйны білет і жыла ў дастатку з добрым разумным гаспадаром, раджала здаровых прыгожых дзяцей і мала чым іншым была заклапочана.

У малодшай, хоць разумней і дабрэй была за старэйшую, усё ішло наперакасяк: і гаспадара выбрала, што вочы лепей яго не бачылі б (і піў, і цягаўся без разбору, і руку падымаў) і дзеці бясконца хварэлі, а сама яна толькі і ведала, што сядзела дома па пустых медыцынскіх даведках ды разрывалася ўсюды адна і без пары старэла.

Сын і дочкі сказалі, што ім усё роўна: хоча бацька прадаваць дачу — няхай прадае. Яны жылі сваім уласным жыццём. І паміж гэтым іх жыццём і бацькавым ляжала зараз такая далёкасць, што не пераступіць яе, не наблізіцца, не даклікацца было ўжо немагчыма. Ні яму, бацьку, да іх, сваіх дзяцей. Ні ім — да яго.

І гэта таксама паяліла яго душу. Чаму ў яго такія дзеці? Чаму яны выраслі чужымі адно аднаму? Чаму паміж імі не засталося нават іскрынкі роднасці? Чаму сам ён не здолеў, як у іншых сем'ях, застацца неабходным для іх, як бацька?

І ён зноў і зноў з болем успамінаў, як яны, калі былі малыя, адно перад адным навыперадкі кожны раз кідаліся яму насустрач, віселі на шыі, карабкаліся на калені — як толькі ён пераступаў парог дому: «Татачка! Тата!..»

Цяпер яны званілі яму толькі па святах, у дзень нараджэння, у дзень Перамогі... Званіць адно аднаму — у гэтым у іх таксама не было патрэбы. Самі яны казалі: не было часу...

Усім званіла, усіх звязвала, усіх мірыла і страчала і праводзіла жонка. Усё трымалася на ёй. Яна, маці, нічога ні ад кога не патрабавала, ні за што ні на кога не скардзілася, не злавалася. Яна толькі нястомна дзейнічала:

яна рабіла ўсё, каб усім ім было добра — і яму, мужу, і ім, дзецям... Ён так не ўмеў. Яго крыўдзіла абыякавасць. Ён лічыў гэта няўдзячнасцю і, не згаджаючыся, што парог яго пераступіла ўжо яго ўласная старасць, крыўдаваў і пакутаваў усё больш і больш. У чым сэнс яго жыцця, калі яно нікому не патрэбна? Калі ад яго і следу не засталося — ад усіх яго парыванняў, ад яго бязмежнага гарэння, якім палалі некалі яго дні і ночы, калі ён здольны быў, здавалася, перавярнуць горы і цэлы свет. Калі ён быў нястомны, адважны, здавалася, быў бессмяротны і таксама патрэбны ўсяму свету?.. Дзеці не здольны былі зразумець гэтага. У іх г э т а ўсё было яшчэ наперадзе. А жонцы хапала клопату і без яго «выдумак»: унукі, хваробы, дача...

...Ведаючы, што нічога не зменіш і не пераставіш, жонка таксама як быццам змірылася і махнула на ўсё рукой; добра хоць да восені дацягнулі, хоць паспелі зрабіць запас яшчэ на адзін год... Жонка толькі чакала, што ж будзе далей.

А далей здарылася тое, з чаго пачалося гэтае апавяданне. Дробыш памяняў кватэру і пераехаў з жонкаю жыць у Алупку.

* * *

Ён ступіў на мілую зямлю, усю ў бляску і ззянні заінелага студзеня і амаль фізічна адчуў, што ён страціў, пакінуўшы гэту зямлю. З якой радасцю прамяняў бы ён цяпер усё дэкаратыўнае хараство поўдня, усе яго цыратовыя пальмы і млявыя магноліі з іх прытарным саладжавым чадам, за адзін вось толькі такі крышталёвы дзень! Ён на крылах вярнуўся б сюды назад. Але лёгка было сказаць: вярнуўся б...

На адзін толькі момант недзе падсвядома мільганулася, чаго каштаваў яму гэты пераезд і абмен кватэрамі (быццам ён выязджаў у чужую дзяржаву) — уся тая процьма напісаных і сто разоў перапісаных папер і паперак, значных і нічога не вартых, усе чэргі, тлумачэнні і фармальнасці ў міліцыі, у гарсаветах, у домакіраўніцтвах, пакуль дазволены быў яму абмен і прапіска. Нібыта ён мяняў не ўласную кватэру, а з нейкім патаемным намерам меўся звезці з сабою цэлы горад... А цеганіна і небыт з усім шматгадовым набыткам, з рэчамі, якія можна было і пакінуць ці нават зусім выкінуць і якія шкода было пакідаць і тым больш выкідаць, хоць і везці на новае

месца, у меншую кватэру, таксама не хацелася і не мела сэнсу, і ўсё ж даводзілася везці, добра разумеючы, які недарэчны і дарэмны ўвесь гэты клопат.

...Дробыш не пазваніў з аэрапорта ні аднаму са сваіх ранейшых сяброў — сёй-той з іх трымаўся яшчэ на вышыні — і не папрасіў машыны. Ён цярпець не мог спачуванняў, не выносіў, каб яго яшчэ мо шкадавалі. Не хацеў таксама слухаць і непазбежных у гэтым выпадку папрокаў: маўляў, чаго цябе панесла на той поўдзень, на чорта табе здалося тое мора. Мала табе было свайго... Усяго гэтага, як і разумных парад, ён наслухаўся яшчэ тады, калі застаўся без надзейнага жыццёвага грунту пад нагамі, калі збіраўся толькі мяняць кватэру і пераязджаць. Тады, сам здаровы, ён жартамі стараўся прыкрываць сваю крыўду, якая ныла ў ім, як ные застарэлая рана: сябры вельмі ахвотна давалі яму парады, але яшчэ ахвотней шукалі сабе занятку, каб толькі не стрэцца з ім, калі яму патрэбна была іх помач.

...Дробыш не захацеў нікому званіць, і пакуль жонка добрую гадзіну мерзла ў чарзе на стаянцы таксі, пакуль ён чакаў у неабсяжным, як ангар, мадэрновым холе аэрапорта, пасля першапачатковай расчуленасці і ўзрушэння ім паступова зноў завалодала тое знясіленне, якое было вынікам нейкай патаемнай разбуральнай сілы, што дзень пры дні руйнавала яго самога, руйнавала ўсё яго жыццё. Ён нікому пра гэта не гаварыў, нават жонцы,— раней такога з ім, калі ён нават і цяжка хварэў, ніколі не здаралася,— аднак цяпер, прыслухоўваючыся да сябе самога, ён ніколькі не сумняваўся: цяпер гэта было разбурэнне.

І калі яны з жонкай нарэшце прыехалі на таксі, не заязджаючы нават да дзяцей, адразу ў клініку да Мікіты Іванавіча, Дробыш ледзьве ўзышоў на другі паверх.

Мікіта Іванавіч, у белай доктарскай шапачцы, у белым, да звону накрухмаленым халаце, убачыўшы Дробыша на парозе свайго кабінета, аж адкінуўся на спінку крэсла.

— Гэта ты гэтакі вырабіўся на цёплых водах? — такім пытаннем, не вітаючыся, стрэў ён Дробыша.

Ад абвостранай хваравітай увагі Дробыша не ўнік выраз твару даўняга сябра: хто-хто, а ён гэтым сваім цяжкім азызлым тварам умеў валодаць не горш за якога-небудзь самага заслужанага тэатральнага прэм'ера. А не здолеў.

— Вось гэтакія мы з'явіліся да вас, Мікіта Іванавіч,— замучаная хваробай мужа і дарогай, ледзь стрымліваючы

слёзы, адказала за Дробыша жонка. Яна падтрымлівала яго пад руку.

Мікіта Іванавіч стрэўся з ёю толькі імгненным позіркам і, нічога не адказаўшы ёй, грузна ўзняўся з крэсла, засланіўшы сабою паўсцяны. У параўнанні з ім Дробыш здаўся... Праўда, ніякага параўнання зараз быць не магло, хоць некалі, калі яны былі яшчэ маладыя, і калі дужаліся, Дробыш не раз клаў Мікіту Іванавіча на лапаткі...

— Давай, брат Аляксей, распранайся, сядай і выкладвай усё па парадку,— загадаў Мікіта Іванавіч Дробышу, сам, аднак, мала спадзеючыся пачуць ад яго нешта такое, што б вельмі абнадзейвала і за што можна было б учапіцца, каб ўратаваць старога сябра.

Ён так і сказаў яму ў думках: «Баюся, браце Алёша, што спазніліся мы...» А ўголас, з прысутнай многім, асабліва прызнаным, дактарам іранічна грубаватай манерай звярнуўся да жонкі Дробыша:

— А вы, Зоя Амосаўна, як вы там пад ценем пальмаў квітнееце?

— Ой, не ўспамінайце мне пра тыя пальмы, Мікіта Іванавіч...— не стрымалася, заплакала жонка, як малому дзіцяці, памагаючы Дробышу распрануцца,— мо калі б не яны, нічога гэтага і не было б... Гэтага няшчасця...

Ёй і сапраўды ад тых пальмаў цяпер хацелася крыкам крычаць. Яна ж так працівілася гэтаму іх пераезду! Пакідаць такі горад... Такую кватэру — у самым цэнтры, на трэцім паверсе — дырэктарскую... І ехаць некуды за свет — ад дзяцей і ўнукаў, жыць сярод чужых і незнаёмых людзей, якія ні яны табе не патрэбныя, ні ты ім... Колькі яна сварылася з ім, і плакала, і пагражала, што не паедзе. Ды як бы яна не паехала? І што б яна рабіла, застаўшыся адна, усё жыццё пражыўшы за ім, як за каменнай сцяною? Усё жыццё яна ведала адно: куды іголка — туды і нітка... Але такая іголка і такое жыццё яе задавальняла... Нават калі яна здагадвалася ці нават пэўна ведала, што іголка адвіхнулася ўбок. А здаралася гэта не раз і не два... Таму і ў гэту дарогу яна пусцілася за ім толькі па-жаночы папалохаўшы слязьмі і сваркаю. Але яе палохане спыніць яго ўжо было не здольна. І нішто ўжо не здольна было тады спыніць яго і ўтрымаць тут. Тады яму здавалася толькі адно: каб жыць, ён павінен як мага хутчэй з'ехаць адсюль...

...Мікіта Іванавіч мыў рукі, а Дробыш збоку глядзеў на яго магутную спіну і напружаны чырвоны карак і са-

мога яго спякаў шчымлівы боль: куды ж падзелася яго ўласная сіла? Дзе, у які момант ён спатыкнуўся гэтак нешчасліва? І чаму гэтак доўга і гэтак зацята мые рукі і маўчыць яго стары друг?

Але цяпер, калі Мікіта Іванавіч засяроджана і доўга абмацваў, выстукваў і слухаў яго на халоднай цвёрдай канапцы, засланай белай прасцінай, Дробыш ужо як ні стараўся, нічога не здолеў ні пазнаць, ні здагадацца: цяжкі твар Мікіты Іванавіча быў непранікнёны, як мур.

Змучыўшы Дробыша і сам змучыўшыся, хоць, збоку гледзячы, ніхто гэтага і не заўважыў бы, Мікіта Іванавіч кінуў хутчэй Зоі Амосаўны, чым самому Дробышу:

— Можна апранацца.

І на нейкі момант, пакуль Зоя Амосаўна заступіла Дробыша, памагаючы яму апрануцца, адвярнуўся ад акна. Аднак, добра ведаючы, што маўчанне можа быць красамоўней за самыя пераканаўчыя словы, як быццам і не было гэтага пакутлівага агляду, як быццам Дробыш і не ляцеў да яго за паўтары тысячы кіламетраў, лёгка, усё роўна як бы так, між іншым (як умеюць спрактыкаваныя дактары), Мікіта Іванавіч звярнуўся да Дробыша:

— Значыць, мы вось як зробім з табою, Алёша... Падбяру я табе добрых хаўруснікаў і паляжыш ты ў мяне...

— Колькі? — спытаў Дробыш. Яго таксама не так ужо і лёгка было ашукаць. Не той быў выпадак, каб клапаціцца пра хаўруснікаў.

— А я што па-твойму — бог усемагутны, каб вось так табе адразу, з самалёта, і выдаць! Тыдзень паляжыш — і будзеш здароў! — няўлоўна перайшоў у другую танальнасць Мікіта Іванавіч (таксама вопыт!).— Не выключана, а хутчэй за ўсё так яно і будзе — і на маім стале паляжыш (абодвум было добра зразумела, на якім стале давядзецца паляжаць Дробышу). Табе ж гэта не ў навіну, калі трапляеш да мяне...

— Давай хаўруснікаў...— абыякава махнуў рукою Дробыш.

Мікіта Іванавіч зняў тэлефонную трубку, выклікаў ардынатарскую хірургіі.

— Доктара Каралёву! Тамара Барысаўна, прашу да мяне.

І пакуль чакалі доктара Каралёву, скардзіўся на жыццё. Кара мець дачок! Дачка... Адзіная. Пайшла замуж і, не пражылі з гаспадаром і года, развяліся. Бачыце, падалася ў навуку! Паехала ў Маскву, у аспірантуру... А яко-

му мужыку патрэбна жонка вучоная? З мужыка даволі жонкі! Каб вечарам яна не валілася ў пасцель ад сваіх адказных спраў трупам! Каб была добрая гаспадыня, каб як след пыніла дом і раджала дзяцей...

— Але ж вы не развяліся з Таццянай Андрэеўнай за тое, што яна ў вас таксама вучоная...— слаба ўсміхнулася Зоя Амосаўна, заступаючыся за дачку Мікіты Іванавіча.

— Колькі там тае навукі ў мае Таццяны Андрэеўны...

Уся гэтая гаворка была толькі тактыка, толькі прафесійны навык, гульня. Усе гэта добра разумелі: і сам Мікіта Іванавіч, і Зоя Амосаўна. Разумеў гэта і Дробыш. І ў той жа час гэта была святая хлусня — «ложь во спасение»... У дзверы пастукалі, зайшла доктар Кавалёва.

— Тамара Барысаўна, Аляксей Іванавіч — мой друг. Прашу вас узяць яго да сябе. Добра было б у трэцюю палату,— прыкметна мякчэй, чым гаварыў звычайна, звярнуўся да Каралёвай Мікіта Іванавіч.

Тамара Барысаўна перавяла позірк на Дробыша.

— У трэцюю не... У сёмай цяпер спакайней, Мікіта Іванавіч.

— Давайце ў сёмую.

Устаючы з крэсла і гэтым самым даючы ўсім зразумець, што жыццё і справы не стаяць на месцы, Мікіта Іванавіч напомніў Каралёвай:

— А вы, міленькая, не занеслі мне на подпіс справаздачу за мінулы месяц.

— Я не паспела, Мікіта Іванавіч, прабачце...— горача ўспыхнула ўсім тварам Каралёва.— Учора цэлы дзень змарнавала ў дэпутацкай камісіі...

— Як гэта «змарнавала ў дэпутацкай камісіі»! Савецкая ўлада — і на табе! «Змарнавала!» — яму, адчувалася, нават дакараць яе было прыемна...

— У мяне ўсё гатова, Мікіта Іванавіч. Мы толькі з Аляксеем Іванавічам уладкуемся. І я прынясу вам на подпіс... Хадзем, Аляксей Іванавіч.

Каралёва мякка ўзяла Дробыша пад руку і прапусціла яго перад сабой. Дробыш на момант затрымаўся ў дзвярах.

— Тамара Барысаўна, праз паўгадзіны каб справаздача была ў мяне!

Мікіта Іванавіч павярнуўся да свайго стала.

*1979*

# *Дзеці*

Апавяданні

## КАЛІНАВАЯ РУКАВІЧКА

Чаму рукавічка, калі казка будзе пра чырвоную каліну, пра старую яліну-казачніцу, пра ветра-бяздомніка?

А вось паслухай.

Расла на ўзлессі каліна. Была-была ўсё маленькай ды раптам, зусім неяк непрыкметна, вырасла. Зацвіла белым цветам, закрасавала — на дзіва і зайздрасць усім суседнім дрэвам.

— Ф-фарсуха,— пазіраючы на яе, аж трэсліся ў лажку асіны. Яны былі заўсёды бледныя і зялёныя, і заўсёды ім было холадна.

— Падумаеш, выстраілася,— шапталі хмурыя яліны. Яны насілі цёмнае адзенне і размаўлялі толькі шэптам.

Учэпістыя калючыя дубкі, што раслі на схіле пагорка, таксама непрыхільна паглядалі на маладую каліну: яна зусім не звяртала на іх увагі.

Толькі старая яліна-казачніца спачувальна пазірала на каліну-прыгажуню і жаласна ківала галавой:

— Пацвіце, пакрасуецца ды і завяне. Не яна першая, не яна апошняя... Па лесе гуляе бура, ломіцца грубая жывёла, чалавек ходзіць... А ў яго нядобрыя рукі. Ён ломіць і крышыць усё, што ні стрэне на дарозе. Усё крышыць і ломіць.

Яліна-казачніца пражыла доўгае жыццё і ўсяго нагледзелася за свой век.

Нарадзілася яна ў гэтым лесе даўным-даўно. Яшчэ да пажару. Тады тут жыла і яе маці, маладая стромкая елі-

на, і бабуля, гэтакая ж, як яна сама цяпер, згорбленая і пахмурая... А потым па лесе прайшоў пажар. Цэлы тыдзень, схапіўшыся загрудкі з агнём, змагаўся лес супроць смерці. Цэлы тыдзень агонь нішчыў лясны род. Згарэла маладая прыгожая яліна-маці, згарэла старая бабуля. Не засталося нікога ні з радні, ні з суседзяў. Нейкім цудам уратавалася ў гэтым пекле толькі яна — маладзенькая ялінка. Пажар не абмінуў і яе, але яна выжыла. Сагнулася на адзін бок, пакалечаная, але ўсё-такі жыла!

Мінуў год, за ім другі — і на пажарышчы пачалі адскакваць вясёлыя бярозкі, палез сям-там ельнік, пайшла ўсялякая лясная драбяза.

Мінула яшчэ некалькі гадоў, і вялікае лясное няшчасце, як і ўсё на свеце, пачало забывацца.

Вось чаму яліна-казачніца была самай старэйшай і самай мудрай у гэтым лесе.

Цэлымі днямі гойдалася яна на старэчых нагах ды моўчкі прыглядалася да ляснога жыцця: як трымаюцца і пра што вядуць гутарку маладзейшыя дрэвы, аб чым пяюць птушкі, куды лятае вецер-бяздомнік... Прыглядалася, прыслухоўвалася і ўсё шаптала сабе нешта, усё нешта шаптала...

А ноччу, калі ў лесе рабілася цёмна, хоць выкалі вока, да яліны-казачніцы прылятала старая сава. Днём яна спала, а ноччу гойсала па лесе, шукала сабе спажывы.

— Гэта ты, паўночніца,— нездаволена сустракала яе яліна,— не люблю я тваіх сквапных вачэй. Усе кругом спяць, а ты ўсё шнырыш, усё шнырыш па лесе. Сну няма на цябе.

— Я днём выспалася,— пазяхала сава,— а ноччу ў мяне паляванне: дзе дурное соннае зайчаня схаплю, дзе на мышыную сям'ю натраплю. Ху-ху-ху!

— Зладзейка ты...

— Ху-ху-ху! — зноў на самае вуха старой яліне рагатала сава.— Ты вельмі добрая...

І — мах-мах крыламі — знікла ў цемры.

— Паляцела...— бурчала ўслед ёй яліна-казачніца, пільна прыслухоўваючыся да шолаху ў вавёрчынай хаце.

Вавёрка жыла па суседству з ялінай у цёплым асінавым дупле. Яна была свавольніца і балаболка. Але старая яліна паважала вавёрку за працавітасць і спрыт.

Усё лета рыжым полымем гойсала яна з дрэва на дрэва. Быццам нельга было прыдумаць іншага занятку. Але варта было толькі азвацца недзе яшчэ зусім далёка

восені, як вавёрка кідала гульні і бралася за работу. Рамантавала сваю хату. Высцілала яе цёплым мохам. Заканапачвала ўсё дзірачкі. Потым з ранку да вечара насіла ў свой свіран смачныя лясныя арэхі. Не прысядала ні на хвіліну...

Старая яліна толькі дзівілася: адкуль у вавёркі столькі сілы, каб цэлымі днямі цягаць гэтыя ношкі? І сама не вытрымлівала. Набярэ поўны прыпол духмяных зярністых шышак і высыпле вавёрцы.

— На вось табе. Будзеш зімой лускаць і дзякаваць бабулі-яліне.

— Дзякуй, дзякуй, бабулечка. Яны такія смачныя, такія смачныя,— дзякавала вавёрка, набіваючы да столі засекі ў сваім свірне.

І зноў: цок-цок — зноў рыжай маланкай мільгала ў суседнім арэшніку.

Ого, вавёрка была вельмі дбайная, вельмі руплівая гаспадыня.

Пра гэта не раз гаварыла старая яліна і дзятлу-бондару, і зязюлі-мачысе.

— Паглядзі, як трэба пра дом клапаціцца ды пра дзяцей: і каб цёпленька ім было, і каб смачненька. А ў цябе, мачухно́, паслухай, як плачуць дзеці,— дакарала яна зязюлю.

І сапраўды, у лясным гушчары, дзесьці далёка-далёка, чутно было адзінокае жаласнае «ку-ку»...

— Няхай не лётаюць гэтак далёка, дык і блудзіцца не будуць, няхай дома сядзяць...— адмахвалася ад папрокаў зязюля.

— Дома,— ківала галавой яліна.— Дома... Які ж у іх дом? Вунь ты падкінула іх да мухалоўкі... Ну гадуе яна іх, ну корміць. Але ж не родная маці. Смачнейшага чарвячка яна аддасць не тваім дзецям, а сваім...

— Не твая справа,— не жадала слухаць яліну зязюля,— усюды ты свой нос уткнеш...

— Ага, не хочацца слухаць праўду. Горкая яна...— казала ўслед зязюлі яліна і, крыху памаўчаўшы, ужо дакарала дзятла: — А ты чаму такі дурны? Вучыўся б вось у вавёркі. Глядзі, што ёй абыходзіць. Адамкнула свіран, нагрэбла арэхаў ці шышак, і гора ёй мала. Сядзіць сабе ў цяпле, ласуецца. А ты штодня з гэтым сваім долатам па лесе лётаеш. А ці многа ім заробіш, калі холад гэткі і дзень — не згледзіш, як ён і праміне...

Дзяцел-бедалак, і праўда — зіма не зіма, холад не хо-

лад — дзень пры дні павінен быў зарабляць сабе на пражытак.

— Ат, цётачка, колькі мне чаго трэба,— звычайна адказваў ён старой яліне.— Дзяцей я пагадаваў. Старая мая, вы ж самі ведаеце, яшчэ леташняй зімы не перазімавала... Дык колькі мне аднаму трэба... От жа пражыву неяк зіму. Балазе, кажух цёплы маю.

— Так, так, дзіва што пражывеш,— нездаволена бурчала яліна.

Як і ўсе старыя, яна не любіла, калі з ёю не згаджаліся.

Яна змаўкала, збіраючыся крыху падрамаць. Але тут налятаў халодны сівер. Ён трос яе, выкручваў скурчанае ад старасці і холаду голле і ўзнімаў такі свіст і трэск, што спуджаная вавёрка зашывалася ў сваё дупло і не дыхала, быццам яе там і не было.

— Шалёны,— адмахвалася старая яліна,— адкуль цябе прыгнала!

— Ой, цётухна, адкуль прыгнала, не пытай. Скажы лепей, куды гоніць! — рагатаў вецер.

— Ведаю ўжо... Ляці сваёй дарогай, шыбенік.

Сівер узмахваў доўгім расхлістаным халатам, перакручваўся некалькі разоў у паветры і імкліва знікаў — гэтак, як і прыляцеў.

— Ох, скруціць ён галаву гэтай дурной каліне! Вунь як яна хіліцца, ледзь не да самай зямлі яму кланяецца...

Старой яліне з узгорка было добра відаць усё, што рабілася на ўзлессі.

І сапраўды, маладзенькая каліна яшчэ больш чырванела і харашэла, сустракаючы ветра.

— Ляцім са мною па свеце! — шаптаў ёй вецер-сівер.— Што ты тут бачыш, стоячы вунь ужо колькі год усё на адным месцы, усё пры гэтай дарозе?

— Людзі тут ходзяць і ездзяць...

— «Людзі ходзяць і ездзяць...» Дурная ты! Ты паслухай, што кажа пра гэтых людзей старая яліна. Яны загубяць цябе, паламаюць твае рукі... А ягады твае — навошта яны ім.

— Не кажы так. Мае ягады лечаць людзей... У цябе няма сэрца, і ты не ведаеш, як гэта цяжка, калі яно баліць. А людзі ўмеюць варыць з маіх ягад лекі і лечаць імі сэрца...

— «Людзі», «лекі»... Навошта яны табе здаліся! Мы з табой паляцім за мора, паляцім да такіх высачэзных

гор, якіх ты і не сніла ніколі. І ты тады забудзеш пра гэты свой лес, пра гэтую дарогу, на якую ты дзень і ноч глядзіш як утрапёная.

— І ніколі больш не вярнуся сюды?

— А чаго?

— Не, я не здолею... Я высахну і памру без свайго лесу,— плакала каліна.

— Ну, дык і заставайся тут! А мне няма часу з табой валаводзіцца. Не спадзявайся, каб я яшчэ лятаў да цябе...

Вецер-сівер узмахваў сваім халатом, пранізваў каліну смяротэльным холадам. Каліна калацілася, дрыжала, і на зямлю чырвонымі ягадамі сыпаліся яе горкія слёзы.

— Пачакай, не пакідай мяне адну!..— стагнала наўздагон ветру каліна.

Але вецер ужо не чуў яе.

* * *

А калі настала зіма і ў лесе не было ўжо ніводнага зялёнага лісціка, ніводнай кветачкі, ішла гэтай самай дарогай, каля якой расла каліна, жанчына з маленькім хлопчыкам.

— Мамачка! — закрычаў хлопчык і запляскаў у далоні.— Зірні, зірні — ягады!

Яны спыніліся.

— Гэта каліна, сынок. Бачыш, якая яна: зіма, мароз, а яна не баіцца...

— Можна сарваць?

— Толькі асцярожна. Не паламі галінак.

Хлопчык ірваў чырвоныя калінавыя ягады, клаў іх у сваю рукавічку і пяшчотна прыгаворваў:

— Не бойся, калінка-малінка. Мае ручкі не злыя. Галінак тваіх не паломяць, вершалінкі не скрышаць. Толькі ягадкі сарвуць — маме на лякарства...

Так ён прыгаворваў і ўсё клаў і клаў у сваю рукавічку чырвоныя ягады. І каліна радавалася: ашукваў яе вецер і яліна-казачніца памылялася. Добрыя ў чалавека рукі, разумныя...

Вось і канец гэтай лясной казцы. Той маленькі хлопчык захацеў назваць яе казкай пра калінавую рукавічку.

Ну што ж, няхай сабе рукавічка, няхай сабе калінавая...

*1962*

# ГЕША

— Гэта дзяўчынка?
— Не.
— Хлопчык?
— Не.
— А хто ж?
— Гусяня. Гуска.
— Раскажы.
— Калі будзеш добры і паслухмяны, раскажу.
— Буду.
— Ну, тады слухай.

...Прывезлі Гешу, каб засмажыць на свята. А як развязалі крыльцы, як пусцілі пахадзіць па двары — усім раптам шкада яе зрабілася. Як і ўсе гусі, Геша хадзіла павольна, важна, толькі неяк вельмі смешна налягала на правую нагу і правым крылом заграбала паветра, быццам збіралася падмесці наш двор да свята.

Пакалечылася Геша яшчэ як малая была. Аднойчы Гешына маці, квактуха Чубатка, павяла сваіх дзяцей-гусянят на прыгуменне. Гусяняты скублі маладую траўку, а маці бесклапотна грэблася ў пяску. І раптам, нібы камень з неба, упаў на малых коршак. Гусяняты самі адразу нічога не зразумелі, а перапалоханая маці ад жаху страціла голас. А калі апамяталася і з усяе сілы пачала кудахтаць — коршак з гусянём быў ужо вышэй гумна. Аднак ці то гусяня было занадта цяжкае, ці то трымаў ён яго нязручна, але малое вырвалася з кіпцюроў коршака і, акрываўленае, пакалечанае, упала ў зялёны бульбоўнік. Там яго і знайшлі. Гусяня адлілі вадой, адратавалі, і яно засталося жыць.

Гэта і была Геша.

Праўда, імя гэтае ёй далі ўжо дзеці нашага двара. Як толькі гуску дасталі з кошыка, усе абступілі яе і пачалі частаваць хто чым меў. Але гуска была на дзіва сарамлівай. На пачастункі яна не квапілася, а толькі коратка дзякавала: «Ге! ге!»

І тады самая маленькая з дзяцей, Наташа, беленькая дзяўчынка з вялікім чырвоным бантам на галаве, затупала ножкамі і запляскала ў ладкі:

— Геша! Геша!

І ўсе дзеці падхапілі ўслед за Наташай:

— Геша! Геша!

Так вось з'явілася ў Гешы імя. А як звалі яе дагэтуль? Ды ніяк: гусяня і гусяня.

Геша хутка прывыкла да свайго новага імя і адклікалася на яго ахвотна і, як заўсёды, коратка: «Ге!» Дзеці палюбілі Гешу, а яе маленькая гаспадыня Наташа нават есці адна адмаўлялася. І, каб не было слёз, Наташын столік, за якім яна звычайна абедала, цяпер выносілі на двор і ставілі пад старой бярозай. Сюды, пад бярозу, прыносілі місачку і з Гешынай ядой. Звычайна сяброўкі палуднавалі так: Наташа размазвала манную кашу па талерцы і ўсё гаварыла, гаварыла. А Геша ела моўчкі, чысценька падбіраючы ўсё да крошачкі, і толькі зрэдку коратка зазначала: «Ге!» — згаджалася або пярэчыла Наташы.

А калі Наташу вадзілі гуляць у гарадскі сад, Геша таксама ішла ўслед за ёю. Наташа гуляла ў лялькі, капалася ў пяску. І Геша, нібы дбайная, клапатлівая нянька, не адыходзіла ад яе ні на крок.

Так, у добрым сяброўстве, мінула восень. Настала зіма з маразамі і завеямі. Цяпер Наташу на вуліцу пускалі рэдка. Радзей паказвалася на двары і Геша. Яна сядзела ў цёплым драўляным хлеўчуку. Як і Наташа, яна сумавала па леце, па сонейку, па цяплу. Падысці да акна дома, каб паклікаць сваю сяброўку, Геша не адважвалася: пад вокнамі ляжала высокая гурба снегу. Аднойчы Геша паспрабавала падступіцца, але праваліласяпа самыя крылы, і яе ледзьве вызвалілі з гэтага халоднага белага палону. Праўда, каб Наташа не сумавала і не плакала, Гешу амаль кожны дзень пускалі на кухню.

— Грэйся! Грэйся! — клапатліва тупала каля Гешы Наташа.— Бачыш, які ў цябе чырвоны нос зрабіўся, як лапкі пачырванелі...

І Геша грэлася, палуднавала і размаўляла з Наташай, як заўсёды, коратка і неішматслоўна: «Ге! Ге! Добра! Цёпла!»

За зіму Геша непрыкметна вырасла, і, калі прыйшла вясна, па нашым двары хадзіла ўжо вялікая важная гусь.

Яна ведала ўсіх жыхароў двара. І ўсіх знаёмых яна сустракала і праводзіла да варот, далікатна вітаючыся і развітваючыся: «Ге! Ге!»

Аднойчы Геша знікла. Яе шукалі па ўсім двары, заглядвалі ва ўсе закуткі, пыталіся на вуліцы... Гешы не было. Мінуў дзень, мінуў другі. На трэці дзень пад вечар

прыгнаў яе дубцом на наш двор незнаёмы малады мужчына.

— Ваша птушка? — спытаў ён у суседкі.

— Вунь яе гаспадыня! — узрадавалася суседка, паказваючы на Наташу, якая гуляла ў лялькі.

Геша першая ўбачыла сваю маленькую сяброўку.

— Ге! Ге! Ге! — аж тры разы запар крыкнула Геша і, смешна ўзмахнуўшы крыламі, захісталася, запрысядала — подбежкам рушыла да Наташы.

— Гешка! — заплакала ад нечаканасці Наташа.— Мама, Гешка прыйшла! — закрычала яна і кінулася насустрач Гешы.— Ах ты, дурненькая, дзе ж ты прападала? Дзе ты была!..

— Ге! Ге! Ге! — усхвалявана паўтарала Геша.— Сама не ведаю...

А здарылася ўсё вельмі проста. Пасля абеду мама паклала Наташу спаць, а сама апранулася і пайшла да зубнога ўрача. Убачыўшы гэта, Геша вырашыла, што яна павінна абавязкова правесці гаспадыню. На вуліцы ў гэты час было вельмі людна — якраз вярталіся з абеду рабочыя. Геша трапіла ў людскі паток і згубіла гаспадыню. Наташына мама павярнула направа, а Геша павярнула — налева...

Ужо далёка ад дому яна пайшла следам за незнаёмым мужчынам — відаць, не пазнала і палічыла яго за Наташынага бацьку.

У чужым двары яна не знаходзіла сабе месца, і вось на трэці дзень незнаёмы мужчына вырашыў пайсці на пошукі Гешынага дома. І Геша пазнала свае вароты, пазнала свой двор...

— Ге-ге-ге! — раз-пораз задаволена паўтарала яна.— Знайшла ўсё-такі! Знайшла!

— Ах ты, мая разумніца, ах ты, мая залатая! — цалавала Наташа Гешу ў чырвоную дзюбу.

Геша радавалася:

— Ге-ге! І ты залатая!..

*1961*

## МАЯ ГАСПАДАРКА

Раніцай бабуля наліла мне шклянку малака — запіць снеданне — і сказала:

— Канчай, унучак, есці ды бярэмся за гаспадарку. Твае дзядзька і цётка напрацаваліся ўжо недзе ў полі, пакуль ты спаў.

— За якую гаспадарку? — не зразумеў я.

— А я табе раскажу.

Ну што ж, за гаспадарку дык за гаспадарку. У нас у горадзе ніякай гаспадаркі няма. А калі ў бабулі яна ёсць — буду дапамагаць. Так мне і мама дома сказала: «Глядзі, Вова, дапамагай бабулі. Яна старэнькая».

Бабуля і кажа:

— Пайдзі, унучак, зірні, куды гэта падзеліся нашы падушачкі...

— Добра, бабуля, зараз!

Я ўсхапіўся з-за стала і хуценька пабег у «новую» хату — так называлі чысты і заўсёды прыбраны пакой, дзе мы з бабуляй спалі. Там усё было ў парадку: ложкі засланы, а падушкі, узбітыя бабулінымі рукамі, узнімаліся ледзь не да столі. Маленькія падушачкі-думкі таксама ляжалі на месцы...

— Бабуля, яны ляжаць на ложках! — Мне нават дзіўна было з бабулінага загаду: сапраўды, куды ж ім дзецца — гэтым яе падушачкам?

— А дзіцятка ты маё! — пляснула рукамі бабуля і аж затрэслася ўся ад смеху.— А я думаю, чаго гэта ён у тую хату пабег, а ён падушак глядзець...

— Ты ж сама загадала мне,— пакрыўдзіўся я, не разумеючы, што магло так рассмяшыць бабулю.

— Дурненькі, гэта ж я сказала, каб ты пайшоў паглядзеў, дзе нашы гусяняткі ходзяць.

— Гусяняткі?.. А ты ж сказала: «Ідзі паглядзі падушачкі...»

— А з чаго ж падушачкі робяць?

— З чаго? Не з гусянят жа!..

— Ды пэўна ж — не з гусянят...— зноў засмяялася бабуля.

І растлумачыла мне, што падушкі робяць з пер'я і пуху, а пух і пер'е расце на гусях. А гусі вырастаюць з гусянят. Вось і выходзіць, што гусяняткі і сапраўды маленькія падушачкі...

Я ўсё зразумеў і другі раз ужо не ашукаўся б.

Пад вечар, як спала гарачыня, я ўзяў пужку — яе мне звіў з пянькі дзед Васіль — і пагнаў на выган бабуліных свіней: старую Рабую і двух чорных вепручкоў. Стаю сабе ля плота і свішчу пужкай у паветры: ж-жык! ж-жык! Цвіце жоўты, як сонейка, адуванчык — я па ім ж-жык! Паўзе па дарозе чорны бліскучы жук — я і яго ж-жык! Толькі адвярнуўся — аднекуль прыляцеў і кружыцца белы матылёк. Я і на яго замахнуўся — ж-жык! Але матылёк замахаў крыльцамі і паляцеў у жыта.

А я ўсё ж-жык і ж-жык у паветры!

Раптам чую, крычыць з поля цераз дарогу бабуліна суседка, цётка Ігналіха,— яна там буракі палола.

— Вова! Што ты там робіш? Паглядзі, дзе тваё сала ходзіць!

Глянуў я навокал: ляжыць мая торбачка з хлебам і салам, як і ляжала.

— Нідзе яно не ходзіць! — крычу ў адказ.— Ляжыць каля мяне.

— Ляжыць каля цябе?! А ты паглядзі добра, што тваё свінні робяць?

Я азірнуўся яшчэ раз. Сапраўды, свіней не было на выгане. Куды ж яны маглі падзецца? І раптам убачыў іх. Яны рылі лычамі бульбу за плотам. Я кінуўся выганяць свіней, а цётка Ігналіха стаяла са жменяй зелля ў руках і адчытвала мяне:

— Бач ты яго! Знайшоў сабе занятак з пугай. Глядзеў бы лепей свіней, калі прыгнаў пасвіць.

— А вы ж казалі — сала...— агрызнуўся я і тут жа здагадаўся: дык сала — гэта ж тыя самыя свінні! Усё роўна як і падушачкі... Усё тут наадварот завецца, усё не так, як у нас дома, у горадзе...

А то аднойчы мы з дзедам Васілём вазілі ў калгасе снапы. Дзед пасадзіў мяне на воз, сам ідзе збоку, канём кіруе. А насустрач нам старшыня калгаса.

— Што гэта ты,— кажа,— Вова, на хлебе едзеш?

А я адказваю:

— Я не на хлебе, а на снапах...

Ён засмяяўся і гаворыць дзеду:

— Вось, адразу відаць, што з горада! Вучы яго, дзед, як хлеб расце, вучы!

Усё вучы ды вучы — быццам я сам не вучуся і нічога не разумею. Паказала мне бабуля, як прапалоць граду,

дзе расла морква, дык я так чыста выпалаў, што ніводнай зялінкі не засталося... І вучыць не трэба было...

Або скажа мне бабуля: «Ідзі, Вова, стрэнь наша малачко. Яно ўжо недзе за рэчкай — ідзе дадому». Значыць, трэба ўзяць лусту хлеба ці жменю бурачнага лісту і ісці сустракаць нашу карову Белку. Яна так у бабулі прывучана: стрэнь чым-небудзь, а то міне двор і пойдзе па ўсёй вёсцы... Калі ж Белка не прыходзіць дадому, бабуля злуецца і крычыць: «Ото ж удалося малачко!»

Але мяне ўжо тут не ашукаеш! Малако, значыць, карова! А карова, значыць, малако!

Я сваю гаспадарку ўжо добра ведаю!

*1960*

## НОВАЯ ФЕРМА

Прыйшоў неяк дзядзька Валодзя з сенакосу і прынёс у шапцы яйкі дзікай качкі.

— Садзі, маці, квактуху, разводзь новую птушкаферму,— сказаў ён жонцы.

Жонка павойкала, пасварылася на дзядзьку, што забраў ён яйкі з гнязда, ды нічога не зробіш — пайшла на двор лавіць квактуху.

Квактуха спачатку патупала, патупала вакол рэшата, дзе ляжалі яйкі. Паквактала, паквактала. Таксама, мусіць, сварылася на гаспадароў, што не маглі яны раней знайсці ёй гэтую работу. Нарэшце супакоілася, ускочыла ў рэшата, умасцілася на яйках і замоўкла, заплюшчыла вочы — нібыта задрамала.

Але толькі паспрабаваў Дзімка працягнуць руку, каб пагладзіць Чубатку, як яна тут жа расплюшчыла вочы, сярдзіта ікнула і дзеўбанула хлопчыка ў руку.

— Ой! — ад нечаканасці і болю ўсклікнуў Дзімка.

А маці сказала:

— Не чапай квактуху, калі яна села на яйкі. Ёй цяпер не да жартаў.

І вынесла рэшата з квактухай і качынымі яйкамі ў камору.

А праз чатыры тыдні ў квактухі з'явіліся на свет дзеці.

Спачатку адно пастукалася дзюбкай у шкарлупіну яйка, нібы ў аконную шыбку. Пастукалася і піснула: «Дазвольце...» Потым другое, гэтак жа пастукалася і запішчала. А затым у гняздзе зашавялілася пяць, сем, дзесяць і аж усе дванаццаць жоўценькіх з шэрым пухлячкоў.

— Ну вось бачыш, сварылася на мяне тады, што забраў яйкі,— папракнуў дзядзька Валодзя жонку.— А хіба качка знайшла б у пакошы сваё гняздо? Пакідала ж яна яго ў чароце, як у лесе. А чарот скасілі, яйкі астылі б і прапалі. А цяпер вось у цябе яшчэ адна ферма, у дадатак да курынай...

Новую ферму назаўтра выпусцілі ў садок. Ох і клопату ж звалілася на маці-квактуху! Першым, з кім яна кінулася ў бойку, быў стары гультаяваты кот. Кот гэты і не думаў чапаць качанят. А квактусе здалося, што ён наўмысна пільнуе тут яе дзяцей, каб пахапаць іх усіх ды паесці. І яна рынулася ў бойку. Распусціла крылы, нема закудахтала і дзеўбанула напалоханага да смерці ката траха не ў самае вока. Кот коратка мяўкнуў і маланкай сігануў на высокую грушу-сапяжанку.

Расхваляваная квактуха вярнулася да дзяцей і загадала ім зараз жа ісці адсюль.

Пайшлі на прыгуменне, дзе слаўся маладзенькі сакавіты падарожнік. Качаняты скублі падарожнік і спрытна лавілі маленькіх мошак. Раптам на́ табе — з агарода пачулася ціўканне, і на прыгуменне вывела сваіх дзяцей — адно ў адно беленькіх прыгожанькіх куранятак — суседская квактуха. Кураняты трымаліся маткі і з цікаўнасцю пазіралі на качанят чорнымі лупатымі вочкамі.

Адно качаня падышло да гасцей, відаць, хацела бліжэй пазнаёміцца з імі. І тут нечакана чужая курыца-квактуха так дзеўбанула яго ў галаву, што небарака на нагах не ўтрымалася.

У Чубаткі ад злосці на няпрошаных гасцей ажно грэбень пачырванеў. Яна зноў, як нядаўна на ката, рынулася ў атаку на суседку.

Запішчалі кураняты, замітусіліся і кінуліся прэч качаняты. А маткі іх біліся так, што пер'е вакол ляцела.

Нарэшце здалася і адступіла квактуха-суседка.

Доўга не магла супакоіцца Чубатка: высока ўскідвала галаву і сярдзіта ікала ў бок суседскага агарода. Няхай паспрабуе яшчэ хто хоць раз пакрыўдзіць чым-небудзь яе дзяцей! Самых прыгожых і самых разумных дзяцей на свеце!

Назаўтра Чубатка напала на карову Белку. Белка напілася ў карыце вады і ішла ў хлеў. Па дарозе ёй захацелася панюхаць адно качаня. А Чубатцы здалося немаведама што... Ну і дзеўбанула ж яна Белку ў нагу! Напалоханая карова кінулася ў хлеў, нібыта ратавалася ад ваўка.

Не давала праходу Чубатка і парасятам, і старой свінні — нікому на двары не было жыцця ад яе. А Дзімка і Вова нават блізка баяліся падысці да качанят.

За якія тыдні два, перасварыўшыся з усім дваром і ўсёй вуліцай, Чубатка выправіла аднойчы звадзіць сваіх дзяцей да рэчкі. Не трэба будзе хоць ні з кім біцца.

І сапраўды, якое гэта было цудоўнае падарожжа! Яны ішлі дарогай, потым сцежачкай праз жыта. Чубатка кляпала паніклыя каласы, дзеці яе лавілі мошак... Затым пачалася сенажаць з духмянымі травамі.

На беразе рэчкі Чубатка прапанавала дзецям пагрэбціся ў жвіры, пашукаць корму. Але дзяцей нібы падмянілі. Звычайна паслухмяныя і пакорныя, тут, на беразе рэчкі, яны быццам звар'яцелі. Спачатку кінулася ў ваду адно, паплыло і нырнула! За ім другое, трэцяе...

Да смерці напалоханая Чубатка мітусілася на беразе і колькі мела сілы крычала:

— Куд-куды! Дапамажыце! Дапамажыце! Топяцца мае дзеці!..

Сама яна не толькі не ўмела плаваць, сама яна за ўсё сваё жыццё ні разу не намачыла ног да каленяў.

Але дзеці не слухалі яе. Тыя, што не адважыліся адразу кідацца ў ваду, глядзелі на смельчакоў, а потым і самі ныралі... Да самага вечара плавалі качаняты. Чубатка зусім змаглася, пакуль нарэшце сабрала сваіх неразумных дзяцей, каб весці іх дадому.

А назаўтра яны ўжо самі закамандавалі ёй:

— Пі-пі-пі!.. Хочам на рэчку!

Гэтым вечарам дадому вярталіся яны ўжо не ўсёй сям'ёй. Чацвёра качанят, колькі ні клікала іх маці, як паплылі ў чарот, так і не вярнуліся.

І яшчэ два разы вадзіла на рэчку сваіх дзяцей Чубатка. На чацвёрты дзень дадому вярнулася яна адна...

— Вось табе і новая ферма. Пацягнула ўсё-такі іх дадому, на балота,— сказаў дзядзька Валодзя.

Дзіма і Вова заплакалі, а маці папракнула іх:

— Яны ж дадому, да свае маткі паплылі... А каб вас забраць з дому ды завезці куды. Ці добра б вам было?

— Ай, я хачу з табою,— насупіўся Дзіма.
— І я хачу з табою! — абняў маму Вова.
— Ну вось бачыце,— засмяялася маці.— Паплылі качаняткі — і добра, што паплылі.

*1962*

## АРФА

Шмат гадоў прастаяла на калгасным прыгуменні, старая, без сіт, арфа.

Хто ведае, колькі часу яшчэ праліпела б яна, прытуліўшыся праламаным бокам да гумна, каб не дзіцячыя хованкі. Летам для гэтай гульні ўмовы найлепшыя. І ў лапуху схаваешся, і на яблыню ці вішню залезеш — хто цябе ў голлі ўгледзіць, і ў траву лёг — нібы патануў...

Бабка Марыля спяшалася накапаць на вячэру маладой бульбы. У полі стаяў усё той жа, што і цэлы дзень, прыглушаны гул малатарні, з калгаснага току вецер даносіў абрыўкі то смеху, то песні. Сонца хілілася да захаду. Трэба было распальваць у печы, рыхтаваць вячэру сям'і, якая неўзабаве збярэцца і сядзе, згаладаўшыся, за стол пасля дзённай працы.

Старая спяшалася і не вельмі зважала на малых, што займаліся на прыгуменні сваімі гульнямі. Ведала: у агуркі ні адзін пры ёй не асмеліцца лезці. За мак яна таксама была спакойная — няхай паспрабуе каторы хоць макаўку скруціць — яна сама вушы таму адкруціць.

Самая меншая дзяўчынка, Марыліна ўнучка Ірка, якой ішоў усяго пяты год, на дыбачках, быццам той, хто павінен быў шукаць, мог пачуць яе крокі, падбегла да бабкі і, захліпаючыся ад хвалявання, зашаптала:

— Бабачка, родненькая, схавай...

У бабкі Марылі не было лішняга часу. Аднак успамін аб сваім уласным дзяцінстве (зараз такім далёкім, што не верылася нават, ці было яно наогул) адбіўся на зморшчаным бабчыным твары цёплай усмешкай і разгладзіў глыбокія маршчыны. Адкінуўшы ўбок рыдлёўку, бабка Марыля порсценька прыкідала Ірку свежым цяўнікам і зноў спраўна ўзялася за рыдлёўку.

Прашмыгнулі, нібы мышы, упаўголасу папярэдзіўшы

бабку: «Не паказвайце, баба, дзе мы», і зніклі ў густым вішняку ўнук Васілёк і суседчын хлапчук Віцька.

Упалі ніц у разору непадалёк ад старой яшчэ двое. Стукнула арфа.

І хутка з усіх бакоў пачулася рознагалосае «ўжо!».

Бабка Марыля сама захапілася на хвілінку дзіцячай гульнёй. Разагнулася і, не праганяючы з твару ўсмешкі, з цікавасцю сачыла за маленькім Вовам. Той, нібы зайчынё, выскачыў з гумна, дзе ён, заплюшчыўшы вочы, добрасумленна чакаў гэтага сігналу, прабег спачатку ў адным напрамку, потым пастаяў хвілінку, падумаў і подбегам кінуўся ў другі бок.

Услед яму яшчэ раз піснула зусім недарэчнае «ўжо» Ірка. Але хлопчык, не разабраўшыся, адкуль яно прагучала, не звярнуў на яго асаблівай увагі. Бабка ж, сама міжвольна з'яўляючыся ўдзельніцай гульні, ціха папярэдзіла Ірку:

— Маўчы, унучка, і не абзывайся, а то цябе першую знойдзе...

Вова пабегаў кругом і, нікога не знайшоўшы, наблізіўся да старой і па-змоўніцку зашаптаў ёй:

— Баба Марыля, дзе яны?

Яна пашкадавала Вову і кіўком галавы паказала на вішняк. Хлопчык, чапляючыся і падаючы ў высокім бульбяніку, нарэшце дабраўся да вішняку і раптам шчасліва закрычаў:

— Вось яны! Васіль! Віця!

Васілёк і Віцька неахвотна вылезлі са свайго сховішча.

— А як ты ведаў, дзе мы? — запыталіся яны.

— А вось ведаў...— хітранька засмяяўся Вова. Неўзабаве ён пачаў знаходзіць аднаго за другім астатніх таварышаў.

Маленькая Ірка, пачуўшы вясёлы многагалосы гоман сваіх сяброў, не ўцярпела, сама вылезла:

— А вось і я...

Не было аднаго толькі Ігара. Заглядвалі ва ўсе куточкі, стапталі бабцы Марылі ўсю бульбу — як у ваду кануў. Нарэшце нехта здагадаўся:

— Можа, ён у арфе?

І ўсе шуганулі туды.

— Вось ён!

— Чаго ж ты сядзіш, хутчэй вылазь!

Ігар і сам рад быў бы выбрацца з арфы, але зрабіць гэта было не так проста.

Усё цела яго знямела, і ён тузаўся ва ўсе бакі і толькі крактаў:

— Ніяк не вылезці...

Бабка, якая зноў занялася сваёй справай, больш не звяртала ўвагі на дзяцей, а яны, колькі было сілы, цягнулі за рукі, за ногі, папіхвалі з усіх бакоў Ігара і нічога не маглі зрабіць.

Паклікалі бабку. Яна спачатку не паверыла. Думала, жартуюць з яе, старой, малыя. А потым, пачуўшы роспачны крык Ігара, кінулася да арфы. Тое, што яна ўбачыла на ўласныя вочы, здалося ёй вельмі страшным. Яна паспрабавала сама цягнуць хлопчыка, але ён яшчэ мацней заплакаў.

— Бацюхны мае, задушыцца дзіця! — ускліклула, памярцвеўшы ад страху, старая.

На плач і крык прыбегла са свайго агарода суседка.

— Што тут у вас робіцца?

— Авой, Аўдолька, бяжы хутчэй вазьмі пілу і сякеру... Арфу трэба секчы... Гэта ж Ігара ніяк не выцягнем з арфы.

Праз некалькі хвілін сякера і піла былі на месцы.

Ігар сядзеў у арфе і баяўся дыхнуць, яму здавалася, што сякера вось-вось уп'ецца яму ў галаву. Спрытныя суседчыны рукі ў момант разнеслі старую арфу на трэскі.

— А мой жа ты ўнучак,— смяялася і плакала бабка Марыля, выцягваючы ўнука з пасткі, у якую ён трапіў.

А калі першы страх мінуў і прыціхшыя дзеці ўселіся непадалёку ад бабкі і пачалі абмяркоўваць нядаўняе здарэнне з Ігарам, яна прыстрашыла іх:

— Будзе цяпер вам хаванка ад старшыні калгаса. Гэта вам не жарт: машыну пасеклі. З бацькоў цяпер, пэўна, па дваццаць працадзён знімуць у праўленні. Ды і ў школе вас не пахваляць, калі даведаюцца. Вось настаўнік возьме ды ўсіх і адправіць дадому: «Не патрэбны, скажа, мне школьнікі ў школе, што калгаснае дабро псуюць». Гэтак і парты нядоўга пасекчы з вашымі хованкамі...

— А хіба гэта мы seклі? Гэта ж цётка Аўдоля,— заступіўся за Ігара і за ўсю кампанію Васілёк.

— Ну, але, цяпер цётка Аўдоля вінавата,— ужо ідучы дахаты, адгукнулася бабка Марыля.— А чаго ж ён крычаў на ўвесь свет, як у арфе сядзеў? Няхай бы сам вылазіў, дык ніхто і не вінаваты быў бы,— кінула яна апошні папрок Ігару.

Той апусціў прысаромленыя вочы. Твар і вушы ў хлопчыка гарэлі ад хвалявання. Трэба ж было яму лезці ў гэ-

тую арфу. Цяпер сапраўды колькі непрыемнасцей можа быць і ад старшыні калгаса, і ад настаўніка. І бацька, напэўна, не даруе... Ах, каб гэта можна было зрабіць так — няхай бы як хацеў пакараў яго тата, але каб толькі астатніх ніхто не чапаў, каб астатнія не цярпелі праз яго, Ігара, дарэмна. А то старшыня, мусіць, сапраўды будзе склікаць праўленне, яшчэ і цётку Аўдолю ўмяшаюць у гэтую справу...

Усе гэтыя думкі паспелі прамільгнуць у галаве Ігара ў тую хвіліну прыкрага маўчання, якое запанавала на момант сярод дзяцей.

— Падумаеш, шчасце якое, арфа, ды яшчэ паламаная. Яна зусім і не патрэбная калгасу. Замест яе даўно новы трыер і веялку купілі,— зноў паспрабаваў апраўдаць усіх Васілёк.— Яна толькі перашкаджала тут.

— Гэта ты ўжо выдумляеш, брат. Нікому яна не перашкаджала. А калгасныя машыны ламаць забараняецца. Вось і ўсё,— панура сказаў дванаццацігадовы Віцька, самы старэйшы сярод дзяцей.

Маленькі Вова маўчаў і толькі пераводзіў напалоханыя сінія вочкі з твару на твар, сам не ўмеючы добра разабрацца, вялікую ці малую шкоду яны зрабілі. Самая малодшая, чатырохгадовая Ірка, якую яшчэ мала закранапі і хвалявалі падобныя падзеі, сядзела цяпер у бабчыным гурочніку і з апетытам ела зялёны храбусткі агурок.

— Ведаеце што, хлопцы,— рашуча звярнуўся да сяброў Ігар.— Вы тут усе пасядзіце, а я сам пайду і ўсё раскажу старшыні. Няхай, калі хоча, з майго таты зніме працадні, я ж пасвіў цэлы месяц калгасных цялят, дык у яго кніжцы і мае ёсць. А каб вы ўсе за мяне адказвалі — я не хачу. Бо я ж сам і ў хованку гэтую гуляць надумаўся...

І ён бягом накіраваўся ў калгасную канцылярыю.

Старшыня з рахункаводам і брыгадзірам праглядалі нарад на працу і аб нечым раіліся між сабой. Ігар бачыў іх заклапочаныя твары, але адкладваць надалей размову са старшынёй ён не мог.

— Дзядзька старшыня,— моцна паклікаў ён, пераступіўшы парог. І тут жа адчуў, як смеласць раптам пакінула яго і нейкі невядома адкуль узнікшы страх папоўз па ўсім яго целе.

— Дзядзька старшыня, я зламаў арфу,— нечакана адным духам выпаліў Ігар.

— Зламаў арфу? Якую арфу? Дзе? — відаць, даўно забыўшы пра існаванне калекі-арфы, здзівіўся старшыня.

«Можа, не трэба было казаць і нічога не было б?» — на адну секунду ўсумніўся ў сваім рашэнні Ігар, аднак тут жа забракаваў гэтую думку. І цяпер, калі ўсё самае страшнае было сказана, калі з яго плеч нібы гара звалілася, Ігар шчыра расказаў усё, што здарылася сёння на калгасным прыгуменні.

— Та-ак, справы, брат, неважнецкія. Калгасную маёмасць, хоць і старую, ламаць не прадугледжана ні ў адным статуце,— хаваючы ў густых рыжаватых вусах хітрую ўсмешку і гледзячы проста ў вочы Ігару, сказаў старшыня.

Ігар вытрымаў гэты позірк і смела папрасіў:

— Дык няхай праўленне зніме з майго таты працадні, толькі каб больш ні з кога, бо я вінаваты...

— Якія працадні?.. А-а, зразумела, зразумела,— старшыня пераглянуўся з брыгадзірам і рахункаводам.— За шкоду, значыць. Ну, вядома, трэба гэта зрабіць. Толькі пры чым твой бацька? Не ён жа вінаваты, а ты, ужо, можна сказаць, дарослы і свядомы чалавек... Трэба з цябе зняць, але ж у цябе няма сваёй працоўнай кніжкі. Значыць, нечым іншым ты павінен сваю віну выкупіць, няхай не цяпер, пазней крыху...

— Дзядзька, я калі вырасту і вывучуся на інжынера, дык я такую машыну зраблю, што яна ў сто разоў будзе лепшая за гэтую паламаную арфу...— горача і ўпэўнена паабяцаў Ігар.

— Трэба, брат, рабіць лепшую не за паламаную, а за цэлую, добрую машыну,— паправіў яго старшыня.

— За трыер у сто разоў лепшую мы з Віцькам зробім. Каб вы паглядзелі, які мы з ім самалёт змайстравалі!..

— Ну-у?! — здзівіўся старшыня.— Калі самалёты будуеце, дык трыер новы, ці як там ён будзе звацца ў вас, напэўна прыдумаеце,— не ўсумніўся ён.

— Прыдумаем. Яшчэ якую машыну прыдумаем! — бліснуў шчырымі вачыма Ігар.

— Ну, а калі так, дык трэба дараваць вам сёкняшнюю правіннасць. Толькі ты дасі слова, што ў нутро нашага самаходнага камбайна ці трактара ты ўжо не палезеш... Як вы думаеце, таварышы, можна дараваць? — звярнуўся старшыня да брыгадзіра і рахункавода.

— Трэба дараваць,— падтрымалі яго тыя.

— Пайду хлопцам скажу! — узрадаваўся Ігар і, забыўшы нават падзякаваць, куляй выляцеў на двор і памчаўся да сяброў з важнай навіной.

*1951*

## ВЕРНІСАЖ

Цэлы тыдзень мы з сястрой спрачаліся, сварыліся і некалькі разоў нават добра пабіліся. Мы вырашалі, які падарунак лепей зрабіць маме ў дзень Восьмага сакавіка.

Сястра сказала:

— Я вышыю маме сурвэтку. Коцік хлебча з талеркі малако.

Ох! Коцік хлебча малако!.. На сурвэтцы. А потым гэта сурвэтка будзе ляжаць на хлебніцы. І з хлебніцы трэба будзе браць і есці хлеб!.. Большай недарэчнасці нельга было прыдумаць.

— Ну, ведаеш, я з тваім коцікам есці хлеб з адной хлебніцы не збіраюся! — абурыўся я.

— А хіба я збіраюся табе яго дарыць? — укалола мяне сястра.

— Не мне, дык маме. Усё роўна.

— А вось і не ўсё роўна. Мама любіць усякія мае падарункі. І не твая справа, што захачу, тое і падарую!

Гэтай упартасці не магла прабіць ужо нават сетка (звычайная капронавая сетка, з якой мы ходзім у магазін). Сеткай гэтай я не раз карыстаўся, калі мама пакідала нас з сястрой удваіх і калі на мяне ўскладваўся абавязак выхоўваць сястру... Сёння займацца выхаваннем у мяне не было часу: да свята заставаўся ўсяго адзін толькі дзень, а мы не падрыхтавалі для мамы яшчэ ніякіх падарункаў.

І я пайшоў на хітрасць. Я надаў свайму твару выраз глыбокай развагі, нейкі час маўчаў, нібыта заняты сур'ёзным роздумам, а потым так звярнуўся да сястры:

— Коцік хлебча з талеркі малако, безумоўна, таксама нядрэнна... Але ж у мінулым годзе ты таксама вышывала маме коціка.

— Не, у мінулым годзе я вышывала зайчыка.

— Гм... Вось бачыш. А ў дзіцячым садзе таксама быў зайчык?

— Не, у дзіцячым садзе, калі я была ў старэйшай групе, я вышыла маме вішанькі. А ў малодшай групе я выразала маме прыгожы зялёны кружок. А на яго наклеіла яшчэ маленькія чырвоныя кружочкі... Калі не верыш — магу паказаць. Усе мае падарункі ляжаць у мамінум пісьмовым стале. Там усё маё багацце ляжыць, кажа мама. Мама кажа, што яна хавае яго і аддасць мне, калі я вырасту вялікая...

— Перагаварыць або спыніць маю сястру гэтаксама немагчыма, як немагчыма ўгаварыць яе не рабіць тое, што нікому не патрэбна і не цікава.

— Добра, добра,— зрабіў я ўсё-такі спробу спыніць яе.

Але дзе там! Адзін момант — і сястра разлажыла перада мной папку з яе багаццем, якое захоўвалася ў маміным стале. Падумаеш багацце! Пісьмо маме, калі мама ляжала ў бальніцы. Літары друкаваныя — і ўсе шыварат-навыварат:

МАМАЧКА Я БЕЗ ЦЯБЕ СУМУЮ

Незразумела толькі, чаму мама не разарвала гэтыя каракулі і не выкінула іх вон...

А то яшчэ ў гэтым «багацці» ляжаць сестрыны малюнкі. Ваза, падобная да вядра. І стол, у якога ўсе чатыры ножкі з аднаго боку... Потым сястра пачала выхваляцца пасмачкай валасоў, якую адстрыглі, калі ёй было дзевяць месяцаў. Пачала выхваляцца сваімі зайчыкамі і вішанькамі...

Я ўвесь гарэў нібы ў агні: і навошта маме спатрэбілася хаваць увесь гэты Натчын хлам? Не хапала яшчэ адной сурвэткі... А маме, безумоўна, няёмка будзе сказаць, што ёй надакучылі гэтыя коцікі і зайчыкі! Бедная мама!

Я, напрыклад... Я таксама рабіў падарункі маме на святы. Праўда, летась я забыўся пра мамін дзень. А ў дзень мамінага нараджэння атрымаў двойку за паводзіны... Падумаеш, на ўроку батанікі пацягнуў за касу Лорку-зубрылку, а настаўніца ўбачыла... Затое ў гэтым годзе я вырашыў зрабіць маме незвычайны падарунак! Такі падарунак, якога ніхто не зробіць.

— Ведаеш што,— завязваючы сваё багацце назад у папку, звярнулася да мяне сястра.— Я ўжо не буду вышываць коціка. Я перадумала.

— А што ж ты будзеш?

— Я падарую маме малюнак. Прыгожы, прыгожы, як у нашым музеі, дзе карціны.

— Малюнак?! — я аж падскочыў ад нечаканасці.

Як гэта я сам не здагадаўся. Мама так любіць, калі мы малюем, або іграем (сястра іграе на скрыпцы, я таксама крыху іграю, але мама кажа, што я лянуюся), або чытаем добрыя кніжкі...

У мінулую нядзелю мы хадзілі з мамай у музей і бачылі там столькі ўсякіх карцін! Ідучы дадому, мама сказала нам:

— Бачыце, дзеці, якую мы з вамі сёння радасць атрымалі.

Дык чаму ж і сапраўды не зрабіць маме гэту радасць? Я ж таксама магу падараваць ёй малюнак. І, напэўна, не горшы за Натчын...

— Я намалюю маме птушку! — паведаміла сястра з другога пакоя. Яна ўжо раскладвала на стале паперу і рыхтавала ваду для фарбаў. І рабіла гэта так урачыста, што я не вытрымаў, крыкнуў ёй:

— Падумаеш, задавака! І аддай, калі ласка, мае фарбы, я таксама буду маляваць.

— Жадзёба!

— Кажу табе, аддай!

— А вось і не аддам!

Нічога больш не кажучы, я накіраваўся да таго месца, дзе звычайна вісела наша сетка.

— Усё роўна не аддам! Усё роўна! — захныкала Натка.

— Плакса-вакса-гуталін, на насу гарачы блін! — падражніў я сястру.

— А ты... А ты...

Нарэшце нам надакучыла сварыцца і мы ўзяліся за маляванне. Сястра малявала птушку, а я... Я вырашыў намаляваць карціну зімовага лесу. Такую якраз, як у мастака Шышкіна.

— Ты хутка ўжо скончыш? — праз кожныя пяць хвілін пыталася ў мяне Натка.

Праз адчыненыя дзверы я бачыў, як сястра сядзела, высунуўшы кончык языка, старанна сцірала нешта сціркай, потым малявала кісточкай, а потым зноў сцірала і зноў малявала. Яна расчырванелася і аж спацела — так старалася.

У мяне ж... Я таксама стараўся. Але мой зімовы лес атрымліваўся такім зялёным і стракатым, якім не быў ён і летам. Я ўзяў другі аркуш і замест лесу намаляваў адну ўсяго яліну. Падумаеш... Затое поруч з ялінай я намаляваў прыкіданы снегам пень. Пень мне спадабаўся. Тады я намаляваў яшчэ адзін пень і таксама прыкідаў яго снегам. А поруч з ім яшчэ адзін і яшчэ адзін... Я так захапіўся, што не заўважыў, калі была скончана мая карціна. Праўда, атрымаўся не зімовы, а ссечаны лес...

— Ты ўжо хутка скончыш? — неўзабаве зноў запытала ў мяне сястра, размахваючы сваім малюнкам у паветры. Так яна сушыла яго.

— Хутка,— няпэўна адказаў я, на самай справе не ведаючы, як мне быць.

— А ў мяне ногі не атрымліваюцца,— паскардзілася Натка.— Можа, ты мне намалюеш ногі, Вовачка?

Ага, як намаляваць ёй ногі, дык тады я ўжо Вовачка...

— Давай сюды,— згадзіўся я.

І зрабіў гэта знарок: цікава паглядзець, што там у яе атрымалася?

Натка прынесла свой малюнак.

— Вось бачыш, усё добра, толькі ногі ў мяне...

— Ногі ў цябе... А якая гэта птушка?

— Голуб...

— Голуб? Які ж гэта голуб! Гэта ж варона!

— Сам ты варона! — накінулася на мяне Натка, аднак у час зразумела: яшчэ адна абраза, і я адмоўлюся маляваць ногі яе птушцы.

— І зусім не варона! І зусім голуб, як у нашага дзядзі Колі. Шэранькі...

— Шэранькі... А дзюба?

Дзюба ў Натчынага голуба сапраўды была доўгая і панурая.

— А хвост?

Хвост таксама быў, як у вароны.

Эх, мастачка!.. Давай я табе пакажу, як малююць сапраўдныя мастакі! Я узяў у Наткі кістачку.

Р-раз. Д-два. Р-раз. Д-два... Птушка абаперлася на зграбныя сізыя ножкі, здаецца, вось-вось зробіць некалькі нетаропкіх кароценькіх шажкоў...

— Ой, які прыгожанькі! Які прыгожанькі! — запляскала ў далоні сястра.

Яна так захаплялася сваім голубам, што мяне аж злосць разабрала. Намалявала нейкую варону, а форсу колькі! Каб не мае ногі, дык наогул не было б на што глядзець...

— Падумаеш, задавака!.. «Вароне где-то бог послал кусочек сыру...»

Я чакаў, што Натка накінецца на мяне будзе злаваць, плакаць... А яна раптам як засмяецца, як запляскае яшчэ мацней у далоні.

— Ой, як цудоўна! Ой, як цудоўна! А я не ведала, як назваць свой малюнак!.. Ты мне, Вовачка, толькі дамалюеш яліну (яліны ў цябе вельмі добра атрымліваюцца!), а сыр — сыр я і сама намалюю!

І Натка ўзялася за сыр. За мой сыр. Бо гэта ж я ёй падказаў яго.

А сам я сядзеў над сваім лесам і ўсё падмалёўваў і падмалёўваў прыкіданыя снегам пні...

Вось табе і зімовы лес. Вось табе і Шышкін... Безумоўна, лепш за ўсё было б узяць новы аркуш і, як кажа наш настаўнік малявання, памяняць тэму...

Скончыўшы з сырам, задаволеная сваім малюнкам, сястра звярнула нарэшце ўвагу і на маю работу.

— Што гэта ў цябе — адны пні? — Вочы ў Наткі шырока расплюшчыліся, губы ад здзіўлення выцягнуліся... І раптам яна як пакоціцца ад смеху на канапу: — Ой, памру! Ой, памру!

— І нічога смешнага няма,— пакрыўдзіўся я, прыкрываючы свае пянькі чыстым аркушам паперы.— Вельмі ўжо твая варона...

— Ведаеш... Ведаеш, як трэба назваць тваю карціну? — ледзь прамовіла скрозь смех Натка.

— Ну, як? — я не чакаў ад яе нічога добрага.

Натка зноў пакацілася на канапу.

— Плакала... Плакала Саша... як лес высякалі...

Дзіўна, але я таксама не пакрыўдзіўся на сястру. Як і яна, я таксама запляскаў у далоні і ў дадатак перакруціўся яшчэ на адной назе.

— Натка — ты геній!..

І тут жа зрабіў подпіс пад сваёй карцінай: «Плакала Саша, як лес высякалі...»

* * *

Назаўтра мы стрэлі сваю маму з работы яшчэ на парозе. Мы тут жа ўзялі ў яе з рук цяжкую сумку. (Мы стрымаліся! Мы не спыталі яе на гэты раз: «А што ты прынесла нам?..») Мы дапамаглі ёй распрануцца і ўрачыста, пад рукі, павялі яе ў пакой: там, на самым відным месцы, віселі нашы малюнкі — Натчын голуб, або «Вароне дзесьці бог паслаў кавалак сыру», і мой зімовы лес, або «Плакала Саша, як лес высякалі...»

— Ого! — ад прыемнага здзіўлення мама спынілася за некалькі крокаў ад нашых малюнкаў.— Ого! — паўтарыла яна.— Дык я папала на вернісаж!

Мы ніколі не чулі гэтага слова: вернісаж. І не ведалі, што яно азначае.

— Віншую цябе са святам, мамачка,— не вельмі ўпэўнена прамовіла Натка.

— І я віншую цябе...— гэтак жа няўпэўнена ўслед за сястрой паўтарыў і я.

— Дзякуй, дзякуй, мае залатыя мастакі! — пацалавала па чарзе Натку і мяне мама.— Ну, і калі ў нас сёння вернісаж!.. Дык на вернісажы звычайна мастакам гавораць прыемныя словы, хваляць іх... Вось і я...

Мама хуценька адвярнулася да свае цяжкое сумкі, дастала адтуль дзве каробкі цукерак і дала іх нам — Натцы і мне.

Вось што, аказваецца, азначала гэта дзіўнае слова — вернісаж.

Нам з сястрой яно спадабалася.

*1961*

## БАБУЛІНЫ КВАТАРАНТЫ

У сярэдзіне лета ў маленькім бабуліным доміку пасяліўся кватарант.

Прыйшоў ён да бабулі з паходным рукзаком за спіной і паляўнічай стрэльбай цераз плячо. На другім плячы ён нёс некалькі бамбукавых вудзільнаў. Быў ён высокі і худы, у акулярах, і гаварыў вельмі мала. Бадай што зусім не гаварыў. Прыйшоў ён раніцай, а ўвечары, калі сабраўся на рыбалку, за ім цягнуўся ўжо цэлы хвост малых з усёй нашай вуліцы. Хлапчукі самі не давалі прамовіць яму слова, наперабой расказваючы, дзе лепей падсекчы акуня, дзе бяруцца шчупакі. Знайшліся і ахвотнікі паказаць яму балота, на якім было ліха ведае колькі качак...

Бабулін кватарант уважліва слухаў малых, дазваляў ім пакратаць спінінг і бліскучыя ствалы дубальтоўкі. У гэтыя ствалы можна было глядзецца, нібы ў люстэрка, праўда, твар у іх здаваўся крыху шыракаватым.

Чалавек ён, відаць, быў добры і не скупы, бо пад вечар на нашай вуліцы з'явілася нямала хлопчыкаў-багацеяў. Аднаму ён даў кручок на шчупака, другому адматаў ажно пяць метраў лёскі, трэцяму выразаў хвацкае арэхавае вудзільна, а некаму нават дакляраваў падарыць адну сваю вуду, як будзе ад'язджаць у горад.

Не дзіва, што ўсе малыя лічылі гэты дзень самым адметным за ўсю вясну і лета. А бабулін кватарант адна-

галосна атрымаў сярод іх характарыстыку самага выдатнага чалавека, які толькі сустракаўся ім у жыцці.

Не падзяляла гэтай думкі, здаецца, толькі адна гаспадыня. Ужо назаўтра, расказваючы суседкам пра свайго новага кватаранта, яна, можна сказаць, зрабіла першую спробу забракаваць яго заслугі, гэтак узвялічаныя хлапчукоўскім насельніцтвам усёй вуліцы:

— Ат, нейкі дзівак, ды і толькі! Заваліў мне ўсю хату ламаччам,— меліся на ўвазе вуды, стрэльба і іншыя паляўнічыя і рыбацкія прылады кватаранта,— назбіраў поўны двор дзяцей і сам, як маленькі, слухае, што яны яму плятуць.

— Ну, а з вамі не вельмі часам ганарысты? Не вельмі камандуе і выдумляе? — цікавіліся суседкі.

— Ды не, гэтага не скажу... Я ж кажу, дзівак. Учора пытаюся: «Чым жа вас карміць? Ці патраплю часам?..» А ён набраў у адну руку цэлы пук гэтых дубцоў,— зноў-такі бабуля вяла размову пра вуды,— у другую ўзяў стрэльбу і кажа мне: «Вось дзе будзе наш харч...» Ноччу зноў. Я ўжо другі раз прачнулася, а ў яго агонь гарыць. Дзверы былі прычынены — я і зазірнула ў пакой, а ён чытае... А ўстала — яго ўжо няма. Праз акно, каб не грукаць дзвярыма, вылез і паляцеў на рыбалку. Дзівак, ды і толькі...

Аднойчы вярнулася бабуля з рынку і са сваёй бяздоннай кашолкі выцягнула стракатага пеўніка, развязала яму крылы і галянастыя ногі, звязаныя чырвонымі стужкамі, і скінула з каленяў на зямлю.

— Вось які вам сёння крупнік будзе,— звярнулася яна да свайго кватаранта, які ў гэты час каля студні абліваўся да пояса халоднай як лёд вадою.

— Гм...— усяго толькі і прамовіў той і пачаў ледзь не да крыві шараваць і расціраць сябе калматым зялёным ручніком.

Пеўнік жа, адчуўшы волю, гучна ўзмахнуў крыламі, ваяўніча тупнуў нагой і гэтак жа ваяніўча задзёр угору востры чырвоны грабеньчык:

— Ко!

Бабулі пеўнікава задзірыстасць не спадабалася:

— Бач ты, генерал знайшоўся! Нагой яшчэ прытупвае. Вось пагляджу я, як ты ў мяне ў гаршку прытупнеш...

Пеўнік, нібыта ён зразумеў бабулю, зноў гэтак жа гроз-

на ўскінуў грэбень і, сярдзіта маргнуўшы круглым вокам, коратка і тонка адпеў бабулі:

— Кук-рэ-ку!

— А ці варта сапраўды яго ў крупнік? Вунь які ён маладзец,— звярнуўся да бабулі кватарант і, не чакаючы адказу, накіраваўся ў свой пакой.

Адтуль ён вярнуўся з кавалкам булкі.

— Пеця! Пеця! — пачаў ён клікаць пеўніка, кідаючы на зямлю кавалкі булкі.

Пеўнік недаверліва ўзняў галаву і не крануўся з месца.

— Пеця! Пеця! — запрашаў яго пакаштаваць булкі бабулін кватарант.

Пеўнік зрабіў нерашучы паўкрок наперад, паспешліва і нясмела схапіў адзін кавалачак, потым другі, трэці...

Ён, відаць, быў галодны, і таму голад перамог страх: пеўнік аж давіўся — так даспадобы прыйшлася яму булка.

Бабулін кватарант тым часам наліў у бляшанку ад кансерваў вады і непрыкметна падсунуў яе пеўніку. Пеўнік і ад вады не адмовіўся.

— Бач, выгаладаўся,— паспачувала яму бабка і павярнулася да кватаранта.— Дык што ж сёння на абед прыдумаем, калі вам гэтак яго шкада?

— Прыдумаем што-небудзь, гаспадынька, прыдумаем... Хіба ж можна такога певуна ды пад нож... Гэта ж будзе злачынства.

Кватарант быў у гуморы, больш гаваркі, чым звычайна, і бабулі не захацелася псаваць яму настрой сваім бурчаннем.

— Ды пэўна ж, з голаду не памраце. Нешта ж іншае будзем маракаваць...

Прагнаўшы голад і смагу, пеўнік важна прайшоўся каля студні і падаўся да расчыненага ў пакоі кватаранта акна. Бабулін кватарант асцярожненька абышоў пеўня і паклаў на падаконнік яшчэ кавалачак булкі. Пеўніка яда больш не цікавіла, і ён не звярнуў на булку ўвагі.

Аднак зазірнуць, што робіцца ў пакоі, яму, відаць, хацелася. Ён пахадзіў, пахадзіў пад акном і раптам адважыўся: растапырыў шырока крылы, узмахнуў імі ў паветры — і ўзляцеў на падаконнік. Дзеўбануў раз булку і скінуў яе на двор. Потым яшчэ крыху патупаў, патупаў па падаконніку і зляцеў у пакой на падлогу.

— Бачылі, гаспадынька? Гэта будзе ўжо мой кватарант. Я — ваш, а Пеця — мой...

— Надта ж ён нахабны, гэты ваш кватарант,— пажар-

тавала бабуля,— без спросу, без дазволу — шусь у чужую хату.

— Не нахабны, а цікаўны,— паправіў бабулю яе кватарант,— знаёміцца з новым домам...

— Глядзіце, каб не прыйшлося вам падлогу мыць пасля яго.

— Кукарэку! — грозна крыкнуў з пакоя пеўнік — бабуліны словы, відаць, не спадабаліся яму.

— Ой-ёй, як страшна,— засмяялася бабуля і пайшла на кухню.

— Малайчына, Пеця, будзем лічыць, што знаёмства адбылося, і ніхто з нас не будзе скардзіцца на свой лёс,— сказаў бабулін кватарант.

Не прайшло і гадзіны, як пеўнік зноў дзёўб бабуліны крупы, падскакваў і біўся да крыві з суседскім пеўнем і наогул адчуваў сябе на двары паўнапраўным гаспадаром, быццам тут ён і нарадзіўся.

Заганяць яго на седала вечарам таксама не спатрэбілася. Не яго павялі, а ён сам павёў усіх бабчыных куранят у хляўчук, дзе стаяла каза. Назаўтра ён падхапіўся раней за ўсіх і, гарланячы як апантаны, разбудзіў усіх жыхароў свайго і суседняга дома. Усе, вядома, раззлаваліся на яго за гэтае няпрошанае, недарэчнае кукарэканне.

Адзін толькі бабулін кватарант не сердаваў на гарластага пеўніка. Ён саскочыў з пасцелі, накрышыў пеўніку снедання і ціхенька паклікаў:

— Пеця! Пеця!

Як і ўсякі, хто сумленна выканаў свой абавязак, пеўнік не прымусіў сябе доўга ўпрошваць. Распасцёр крылы і — мах, мах! — апынуўся на падаконніку. Паснедаўшы, ён, мусіць, вырашыў, што ўставаць гэтак рана няма патрэбы, і, узляцеўшы на спінку ложка, нібы на седала, заплюшчыў свае круглыя вочы.

Заснуў зноў і бабулін кватарант. Прачнуўся ён ад таго, што яму здалося, быццам нехта па ім ходзіць... Ён расплюшчыў вочы і вельмі здзівіўся. Яго ўчарашні «крупнік», як казала бабуля, нібы кацяня, прымасціўся на коўдры.

Кватарант адчуваў прыемнае цяпло і баяўся паварушыцца, каб не патрывожыць пеўніка.

Але пеўнік быў не з тых, хто доўга спіць.

Неўзабаве ён падхапіўся, страсянуўся, нібы праганяючы сон, і саскочыў на падлогу. Там ён пахадзіў, пахадзіў трохі і ўзляцеў на падаконнік.

— Заспявай, браток Пеця...

Пеўнік акінуў яго дапытлівым позіркам, нібыта хацеў спытаць: «А не жартуеш ты з мяне?»

— Паспявай, паспявай, Пеця,— на твары гаспадара не відаць было ніякага падвоху.

«Сапраўды, чаму я павінен адмовіць добраму чалавеку?» — так, мусіць, падумаў пеўнік.

І, выцягнуўшы стромкую белую шыю, ён заспяваў:

— Кук-рэ-ку!

Кожную раніцу Пеця прачынаўся раней за ўсіх і будзіў сваім крыкам жыхароў дома і суседзяў. Кожную раніцу залятаў ён у адчыненае акно бабулінага кватаранта, еў сваё першае снеданне і драмаў на седале — спінцы ад ложка. Потым ён перабіраўся на ложак і заканчваў свой сон на коўдры ў нагах бабулінага кватаранта. А потым спяваў яму сваё звычайнае «кукарэку» і накіроўваўся на двор.

А калі бабулін кватарант паехаў і не ўзяў пеўніка з сабою, ён некалькі дзён хадзіў пад зачыненым акном і ўсё некага здзіўлена клікаў:

— Ко! Ко! Ко!

І не спяваў ні разу небарака — сумаваў.

*1962*

## ЧЫНГІСХАН

Гэта мая трохгадовая суседка... Пачакайце, пачакайце, не перабівайце. Няма ніякай памылкі. Паўтараю: і суседка і Чынгісхан... У кароценькай ружовай сукенцы, з белым капронавым бантам на ўсю галаву, з гарэзлівымі чорнымі вочкамі. Яны то хаваюцца, нібы мышкі, у раскосых, вузенькіх шчылінках, калі Чынгісхан зацекаецца ад смеху, то льюць ручаём слёзы, калі Чынгісхан абавязкова хоча паставіць па-свойму, а гэта ніяк не ўдаецца. А то яшчэ гэтыя вачаняты ўмеюць хітра-хітра цікаваць сваю ахвяру: якога-небудзь карапуза, якога ў гэты самы момант Чынгісхану неабходна стукнуць па галаве...

А на самай справе ў суседкі мае — Чынгісхана — імя самае лагоднае, самае ласкавае з усіх, якія я толькі ведаю: Алёнка... Праўда, карыстаюцца ім звычайна толькі тата з мамай. А на вуліцы за свае раскосыя татарскія вочкі і за буйны нораў Алёнка адклікаецца на Чынгісхана.

Упершыню з'явілася яна на нашым двары гэтай зімою. Бягу я неяк з работы дадому (на вуліцы маразіна!) і ў сябе ля парога раптам страчаю круглую кадушачку, апранутую ў чырвонае палітцо, у валёнках, у пуховай хустцы. Каб не змерзла, кадушачку падперазалі папружкай. Цікавая асоба. Цікава пазнаёміцца. Хачу зазірнуць кадушачцы ў твар, а ў яе з-пад насунутай на самы лоб хусткі тырчыць толькі выцягнуты, як у вожыка, лычык. Такі пацешны, такі сімпатычны.

— Добры дзень вам, лычык! — вітаюся я з кадушачкай.

А яна раптам як фыркне на мяне:

— Ідзі!

Вось дык знаёмства.

Тут да кадушачкі падбегла мама (яна стаяла непадалёку з суседкай), пачала ўсчуваць яе, хацела нават набіць, ды я заступілася:

— Ну за што вы яе? Яна ж разумная дзяўчынка...

У адказ кадушачка толькі бліснула на мяне хітрымі раскосымі вочкамі і яшчэ больш надзьмулася: мусіць, не паверыла.

Праўда, потым адносіны ў нас наладзіліся. Цяпер Алёнка страчае кожны раз мяне з работы цудоўнай заявай:

— Я пайду да вас!

І няхай толькі не здолею я як-небудзь адхіліць гэту выдатную заяву, як яна ў момант абгоніць мяне і праз хвіліну ўжо малоціць кулакамі і нагамі ў нашы дзверы.

Звычайна я хачу абхітрыць Чынгісхана.

— У нас жа яшчэ няма нікога дома.

— А вось і ёсць! — і не думае нават зважаць на маю няўдалую дыпламатыю Чынгісхан, апярэджваючы мяне па лесвіцы. Па дарозе яна паведамляе мне:

— Мы будзем гуляць у лялькі.

«Мы» — гэта азначае, што на нашай пляцоўцы Чынгісхан прыхопіць яшчэ сваю сяброўку — сінявокае, шаўкавістае, нібы з мяккага лёну, стварэнне — Наташу.

Сваё абяцанне Чынгісхан не кідае на вецер. Не паспяваю я распрануцца, як у дзверы пачынаюць малаціць у дзве пары чаравік і кулакоў.

Гэта ідуць госці.

Гасцей гэтых, вядома, можна было б і адправіць — няхай бы лепей гулялі на вуліцы, але ў іх ёсць заступніца — мая дачка. Яна, хоць ужо і круціцца па гадзіне перад люстрам, таксама не адмаўляецца яшчэ пагуляць у лялькі з Чынгісханам і Наташай.

— Ах вы мае абязьяны! — сустракае яна гасцей.
— Ах ты мая базяна! — адказваюць ёй госці.
Агульная мова знойдзена. Госці падаюць на тахту жыватамі, дрыгаюць у захапленні нагамі, штурхаюцца, пішчаць, рагочуць.
Гэта нешта накшталт рытуалу.
Я безнадзейна махаю рукой: тут ужо нічога не зробіш. Дачка мая зацекаецца разам з гасцямі. «Базяны» сапраўды.
Потым мы садзімся абедаць.
— Мы таксама хочам есці! — патрабуе звычайна першай Чынгісхан. Яе не трэба запрашаць — яна ўжо за сталом.
— Мы таксама хочам есці! — уторыць Наташа.
— Вашы мамы хіба не кармілі вас дагэтуль? — пытаемся мы ў гасцей.
Не маргнуўшы, абедзве глядзяць святымі вачыма:
— Не, не кармілі.
— Ах, якія кепскія вашы мамы!
— Ах, якія кепскія васы мамы! — хорам паўтараюць госці.
— Ну, тады мыць рукі!
— Я не хачу! — умошчваецца на зэдлік Чынгісхан.
— І я не хацу! — паўтарае ўслед Наташа.
— Ну, тады марш з-за стала.
— А я не хачу! — не могучы топнуць, махае ў паветры нагой Чынгісхан і стукае смуглым кулачком па стале.
— І я не хацу! — тое ж самае паўтарае Наташа і таксама пляскае па стале беленькай, незагарэлай ручкай.
— Ах вы неслухі! — мая дачка бярэ гасцей за рукі і вядзе ў ванны пакой.
Госці ўпіраюцца, вішчаць, зацекаюцца ад смеху, але ідуць усё ж.
Пасля мыцця Чынгісхан імкнецца зноў захапіць ініцыятыву ў свае рукі.
— Мы не хочам баршча!
— Мы не хоцам барсца! — крычыць і Наташа.
— А што ж вы хочаце?
— Я хачу яйцо! — патрабуе Чынгісхан.
— І я хацу айцо! — уторыць Наташа.
— Айца няма. Ешце сырнікі са смятанай.
Бяруць відэльцы, поркаюць сырнікі, пэцкаюць іх у смятане, аблізваюць.
— Нясмачна! — неўзабаве паведамляе Чынгісхан і адсоўвае талерку.

— Нясмачна! — з набітым ротам бразгае відэльцам і Наташа.

— Ах вы парасяты! — не вытрымлівае дачка.— Вось я вас зараз!

— Ты сама парасята! — не застаюцца ў даўгу гарэзніцы і тут жа патрабуюць:

— А што вось гэта — хочам гэтага!

— Гэта кісель.

— Хочам кісялю! Хочам кісялю! — штосілы адна перад другой крычаць госці.

— Дай ім, калі ласка, кісялю і забірай іх хутчэй з-за стала,— прашу я дачку.

Пасля кісялю пачынаецца другое мыццё. А затым пачынаюцца лялькі, мішкі, пачынаецца чытанне, маляванне, спевы.

— «Пусть всегда буду я-а-а...» — на адной ноце, чамусьці заўсёды з канца, пачынае Чынгісхан.

— «Пусть всегда будет м-а-ама!» — успамінае пра маму Наташа.

...Штурхаючыся і збіваючы адна другую, яны працягваюць шматаваць на кавалачкі песню:

«Пусть всегда будет п-а-апа!»

«Пусть всегда будет б-а-абушка!»

Ах, якую святую праўду яны спяваюць!..

Потым на нейкі час усё сціхае — госці заняліся сур'ёзнай справай. Заходжу праз некаторы час у свой пакой... Госпадзі! Чынгісхан стаіць з нагамі на маім пісьмовым стале і з выглядам чалавека, занятага самай сур'ёзнай справай, цягнецца да партрэта Пушкіна. Ёй абавязкова трэба яго зняць і... скінуць на падлогу. На падлозе ўжо ляжыць левітанаўскі «Сакавік», падлога ўсцелена ўжо газетамі і часопісамі. На гэтай папяровай пярыне, сціскаючы ў абдымках ляльку, валяецца Наташа.

— Што ж гэта вы нарабілі, нягодніцы?

— Ідзі! Ідзі! — тупае на мяне па стале нагою Чынгісхан.

— Ідзі! Ідзі! — махае нагою ў паветры і Наташа. Ёй лянота ўставаць, аднак не хочацца адставаць і ад Чынгісхана.

— Дзеці,— іду я на хітрасць,— вас клічуць дадому ўжо вашы мамы.

— Ай! Не хочам дадому! — у адзін голас крычаць свавольніцы і як мага ціснуцца пад стол — хавацца ад мам.

І калі мамы сапраўды прыходзяць па дачок — іх вачам

адкрываецца відовішча, якое можна параўнаць з полем бою, пакінутым праціўнікам.

— Божа мой! — усплёскваюць рукамі мамы.— І навошта вы іх церпіце? Навошта вы пускаеце іх да сябе?

Дзівачкі... «Навошта»? Ну як ты іх не пусціш, як ты іх не будзеш цярпець, гэтых чынгісханаў...

*1963*

# ЯК Я БЫЎ ДОКТАРАМ

Ідучы на работу, мама загадала мне:

— Вова, у дванаццаць гадзін закапаеш Наташы вочы. Альбуцыд у шафцы.

— А-ай...— гатовая вось-вось раскіснуць, скрывілася мая любая сястрыца.

— Не «ай»! — строга спыніла яе мама і ўдакладніла, звяртаючыся да мяне: — Па дзве кроплі ў кожнае вока.

Мама ведала, каму дае даручэнне, і ўсё ж не стрымалася:

— І, калі ласка, нічога не пераблытай, як гэта ў цябе часта бывае...

Спачатку я хацеў быў пакрыўдзіцца, але перадумаў — я ж не дзяўчынка, каб надзімаць губы ад кожнай дробязі. Мой настрой узняўся, бо ўсё-такі не каму-небудзь іншаму, а мне мама даручыла лячыць Натку, і, непрыкметна тузануўшы сястру за касу, я горача запэўніў маму:

— Не хвалюйся, мамачка, роўна ў дзве гадзіны я закапаю ёй па дванаццаць кропель у кожнае вока!

— Я так і ведала! Ты ўжо і зараз, не паспела я за дзверы выйсці, усё пераблытаў... Не па дванаццаць кропель, а па дзве! І не ў дзве гадзіны, а ў дванаццаць... Ды глядзі, у школу не спазніся!..

— Не спазнюся, мамачка, не! Ідзі на работу, а то сама спознішся... Я добра памятаю: у дванаццаць па дзве!

Ледзь не падштурхваючы, я правёў маму да дзвярэй, там яна яшчэ раз строга паўтарыла сваё: «Глядзі ж, не забудзь і нічога не пераблытай», і я нарэшце з нейкім шчаслівым адчаем шчоўкнуў ключом у дзвярах.

Перакруціўшыся на адной назе і робячы выгляд, што бягу на каньках, я накіраваўся ў пакой, дзе была Натка —

мая хворая, або пацыентка, як кажа наш сусед па калідоры, доктар Бабровіч.

Натка сядзела, надзьмуўшыся, на канапе і перагортвала тоўсты стос «Мурзілак», сабраных за некалькі гадоў і сшытых тоўстымі шэрымі ніткамі,— гэта мяне тата прымусіў падшыць «Мурзілкі», каб не валяліся дзе папала, а былі разам.

Я паглядзеў на Натку: падумаеш, грамацейка знайшлася! У самой шчокі тоўстыя, ружовыя, на галаве бант, таксама ружовы, і два такія ж ружовыя банты ў тоўстых белых косах.

Я ніколі не мог прайсці паўз сястру, каб не пацягнуць яе за гэтыя косы з бантамі.

Так я зрабіў і зараз.

— Пусці, а то як дам!

Хоць Натцы ішоў усяго толькі сёмы год — мне ўвосень споўніцца ўжо адзінаццаць! — і дома яна была страшэнная плакса, здачы даваць яна ўмела. На нашым двары яе баяліся ўсе малыя. Але то былі малыя, а я... Зрабіўшы страшны твар і гіпнатызуючы Натку жудасным позіркам, я наблізіўся да яе і зларадна зашаптаў:

— А я табе закапаю не па дзве, а па дванаццаць кропель альбуцыду ў кожнае вока! Ага!

І я зарагатаў тым агідным смехам, які мы чулі ў махноўца, калі глядзелі ў тэатры лялек «РВС» Аркадзя Гайдара. Не ведаю, што больш напалохала Натку — мой страшэнны выгляд ці дванаццаць кропель альбуцыду, але яна пранізліва піснула, ускочыла з нагамі на канапу і загаласіла на ўсю кватэру:

— Не буду! Не хачу! Я маме скажу, як прыйдзе!..

Да мамінага прыходу было яшчэ далёка, мама толькі што выйшла...

А ўсё астатняе — «не буду», «не хачу» — мяне асабліва не турбавала. Я быў старэйшы ў доме і быў надзелены бязмежнай уладай.

Каб не аглухнуць ад гэтага піску і плачу, я парашыў лепш перайсці да халоднай вайны.

— Не хочаш, не будзеш,— значыць, аслепнеш! — тонам, ад якога, як мне здавалася, павінна была застыць кроў у жылах, прыгразіў я.

Натка ў момант прыціхла, недаверліва глянула на мяне і прыкусіла кончык указальнага пальца зубамі. Гэта азначала, што яна або нешта хітруе, або сапраўды спалохалася.

Цяпер, калі перамога была на маім баку, у мяне ча-

мусьці зусім адпала ахвота дражніць сястру. Аднак, паколькі я ўсё ж быў пераможцам, я не мог і не хацеў першым пачынаць перагаворы. Першай павінна была папрасіцца яна. У мяне.

Але сястра не спяшалася прасіцца. І я, каб яшчэ больш узвысіць сваю ўладу, падышоў да шафкі, дзе стаяла наша хатняя аптэчка, узяў з палічкі бутэлечку з альбуцыдам, павольна паднёс яе да правага вока, потым пабоўтаў, паглядзеў на святло. Затым, не спяшаючыся, узяў у рукі піпетку — такую шкляную трубачку, з маленькім гумавым пухірком на канцы, для закапвання вачэй...

— Мама сказала ў дванаццаць закапаць. А зараз яшчэ няма дванаццаці, яшчэ рана...— нібы сухі кляновы ліст, прашалясцеў у мяне за спіной дрыжачы шэпт.

Я распрастаў плечы і, не адказваючы Натцы, зноў паўтарыў па парадку ўвесь свой дослед: паднёс бутэлечку з альбуцыдам да вока, паглядзеў кроплі на святло, націснуў некалькі разоў піпетку.

— Яшчэ не пара закапваць,— мацней задрыжаў за маёй спіной роспачны шэпт.

Па натуры я зусім не такі строгі і злосны, якім заўсёды стараўся здавацца перад сястрой. З мяне ўжо было даволі і сваей улады, і яе страху перад гэтай уладай, і яе слёз. Стоячы бокам да сястры, я суха сказаў:

— А я і не збіраюся зараз закапваць.

— Мама гаварыла, каб мы прыбралі кватэру,— ратуючыся ад маіх лекаў, выдумала першае, што ёй прыйшло ў галаву, Натка.

— Ты што будзеш рабіць? — як і належыць мужчыну і пераможцу, велікадушна спытаў я.— Вазьмі павыцірай пыл, а я пайду дарожкі выб'ю...

— Я таксама хачу выбіваць дарожкі! — запярэчыла Натка, але, успомніўшы пра сваё заняволенае становішча, адразу ж пакорна адмовілася: — Ну добра, давай зробім, як ты хочаш...

Як я хачу!.. Мая сястра, якая ніколі ў жыцці нікому і ні ў чым не ўступала, цяпер гаварыла мне: «Давай зробім, як ты хочаш...» Вось што значыць перамога!

Я скакаў па лесвіцы цераз дзве прыступкі і цягнуў, нібы хвост, доўгую дывановую дарожку. Я нават спяваў «Барабаншчыка»:

Однажды ночью на привале
Он песню веселую пел,
Но, пулей вражеской сраженный,
Пропеть до конца не успел...

Праз гадзіну нашу кватэру было не пазнаць. Мы з Наткай, калі хацелі, умелі парадаваць маму. Мы нават падлогу вымылі, хоць спачатку і не думалі яе мыць. Праўда, шаруючы анучамі, мы не заўважылі, як намачылі і запэцкалі адзенне: я — сваю новенькую школьную форму, а Натка — сукенку, якую ёй падарылі на дзень нараджэння.

Пакуль мы з Наткай прыбіралі ў кватэры, а потым мокрай шчоткай чысцілі адзенне і сушылі яго на батарэі, час праляцеў непрыкметна. І калі мы зноў апрануліся, я раптам успомніў пра свае доктарскія абавязкі. Я глянуў на гадзіннік — які жах! Ужо было палова першай гадзіны.

— Натка! — закрычаў я.— Хутчэй лажыся на падушку, я табе закапаю вочы...

Натка скрывілася, але пакорна падмасціла сабе пад галаву аж тры вышываныя падушкі, што ляжалі на канапе, і легла, а я, кінуўшыся да шафкі, схапіў кроплі, піпетку і паспешліва прыступіў да сваіх абавязкаў доктара.

— Глядзі на паляўнічых! Глядзі на паляўнічых! — нервова камандаваў я сястры, якая ніяк не магла расплюшчыць вочы. У нас над канапай вісела карціна мастака Пярова «Паляўнічыя на прывале».

Натка глянула на паляўнічых, і я ў гэты момант капнуў ёй у вока адну кроплю.

— Ой-ёй-ёй! — заенчыла Натка.— Холадна!

— Дзе холадна? — здзівіўся я, мерачыся капнуць другую кроплю.

Але Натчына вока нібы зашылі. Яна качалася па канапе і ўсё прыгаворвала:

— Ой, Вовачка, холадна! У воку холадна!

Ад нашага суседа, доктара Бабровіча, я чуў, што з хворымі трэба абыходзіцца ласкава і далікатна, нават калі яны гавораць глупства або патрабуюць таго, чаго і самі не разумеюць.

— Гэта табе толькі так здаецца,— як мага больш ласкава сказаў я Натцы, хоць зараз куды з большай ахвотай тузануў бы яе за касу.— Ты глядзі толькі на паляўнічых...

Натка паверыла мне і зноў на нейкі момант расплюшчыла вока, і ў тую ж хвіліну я капнуў ёй другую кроплю.

— Ой, паміраю, ой, холадна!

Я ведаў, што другой такой прытворшчыцы, як наша Натка, у цэлым свеце няма. Я раз нават чуў, як мама гаварыла пра гэта з татам. І таму зараз не звяртаў асаблівай увагі на крыкі. Калі яна ўжо схапіла кан'юнкты-

віт — так называў хваробу Наткі доктар Бабровіч,— дык трэба ж неяк ратавацца. Пасля, калі вочы перастануць балець, можна будзе ёй добра надаваць. Але пакуль што, добра памятаючы, як павінен абыходзіцца з хворымі доктар, я як мага больш пяшчотна ўгаворваў сястру:

— Вось і ўсё! Вось і добра! Бачыш, адно вока ўжо закапалі. Цяпер давай другое... Глядзі на паляўнічых...

Але Натка толькі качалася па канапе і лямантавала:

— Ой, холадна! Ой, у нос пацяклі кроплі!

Гэта ўжо ніяк нельга было зразумець. Мне самому не раз закапвалі вочы альбуцыдам, але я ніколі не мёрз і ніколі кроплі не цяклі мне ў нос. З такой пацыенткай я напэўна мог спазніцца ў школу, ужо не кажучы пра тое, што, вядома, не паспею паснедаць і павінен буду ісці з дому зусім галодны.

— Ну, ведаеш, няма мне тут часу з табой цацкацца! — павысіў я нарэшце голас.— Глядзі на паляўнічых!

Як і ўсякая, нават самая смелая дзяўчынка, Натка баялася сапраўднага мужчынскага тону. Яна спалохана маргнула, і я тут жа спрытна капнуў ёй кропельку ў другое вока!

— Ай, Вовачка, міленькі, больш не трэба!

Што за глупства! Засталося капнуць адну толькі кроплю...

— Глядзі, піскуха! — далей вытрымліваць свой ласкавы доктарскі тон я не мог.— Вось я закапаю гэтыя кроплі сабе, хоць у мяне няма ніякага кан'юнктывіту...

Я нават не лёг, як Натка, на падушкі, а толькі адкінуў галаву і — раз, два! — закапаў сабе спачатку ў адно вока! Раз...— у другое!

І тут жа, не бачачы свету, я вобмацкам паставіў на край стала бутэлечку з лякарствам, паклаў піпетку і кінуўся на падушку поруч з Наткай.

— Ну што? — прастагнала Натка, тручы вочы кавалкам марлі.

— Н-нічога, зараз п-пройдзе,— не маючы сілы расплюшчыць вочы, прамармытаў я.

— Табе не холадна?

— Гм... Нешта халаднавата... У цябе не праходзіць?

— Не-е,— зарумзала Натка.— Яшчэ далей у нос пацякло...

«Пацякло ў нос» і мне. Пацякло нешта пахучае, рэзкае, халоднае. І, галоўнае, нельга было расплюшчыць вачэй.

— Ну, табе ўжо лепш? — спытаў я.

— Не, яшчэ горш... А табе?

Я вымушаны быў прызнацца, што і мне «холадна» і «яшчэ горш»...

— Што гэта за такі альбуцыд? Я больш ніколі не буду ім закапваць вочы. Я яго вон выкіну!..— хныкала Натка і совала па канапе нагамі.

Я ўжо і сам гатовы быў выкінуць за акно агідную бутэлечку... Раптам мяне насцярожыў нейкі добра знаёмы пах. У чым справа? Альбуцыд жа не пахне.

Я працягнуў руку да стала, схапіў бутэлечку і паднёс яе да левага вока, у якое паспеў капнуць усяго адну кроплю і якое яшчэ крышку расплюшчвалася... Цяпер ужо холадна зрабілася не толькі маім вачам, але і вушам, і нагам, і ўсяму целу...

У руках у мяне было ментолавае масла — ад насмарку!

— Натка, мы аслеплі! — у роспачы крыкнуў я.

У Наташы, як і заўсёды, на ўсё быў толькі адзін адказ: яна загаласіла на ўсю кватэру.

— Хутчэй бяжы на кухню! — крыкнуў я і, схапіўшы сястру за руку, пацягнуў яе да ўмывальніка.

Адкруціўшы кран, я прыгаршчамі пачаў ліць ваду сабе на твар, на вочы. Тое ж рабіла і знявечаная маім лячэннем Натка. Аднак умыванне мала дапамагло. Тады я наліў у кубкі гатаванай вады з чайніка. Узяўшы па кавалку марлі, мы з Наткай пачалі прамываць вочы цёплай вадой. Нам зрабілася крыху лягчэй. Тады мы пачалі наліваць ваду з чайніка яшчэ і яшчэ...

Нарэшце Натка спытала ў мяне:

— Ну што, цяпер мы не аслепнем?

Я не паспеў адказаць, бо да нас пастукалі. Мы кінуліся адчыняць. Суседка, цётка Поля, убачыўшы нашы чырвоныя твары і вочы, успляснула рукамі.

— Бацюхны мае, што гэта з вамі?

— Мы аслеплі! — урачыста паведаміла Натка.

— Што-о?!

— Мы закапалі вочы ментолавым маслам замест альбуцыду,— растлумачыў я.

— Божа ж мой! — ускрыкнула цётка Поля і, нічога больш не сказаўшы, кінулася да дзвярэй.

Мы былі вельмі здзіўлены яе паводзінамі: замест таго, каб пашкадаваць нас і чым-небудзь дапамагчы, яна пабегла да суседзяў.

Мы замкнулі на ключ кватэру і зноў пайшлі мыць цё-

плай вадой свае вочы. Цяпер у нас ужо была маленькая надзея — а можа, і не аслепнем? Вачам стала цяплей, і яны не так слязіліся. Толькі, праўда, з насоў у нас пацякло, як пры добрым насмарку.

Хвілін праз дзесяць у нашы дзверы застукалі так, што мы з Наткай аж скалануліся.

— Хто гэта? — прашаптала Натка.

— Не ведаю,— таксама шэптам адказаў я.

Стук паўтарыўся з новай сілай.

— Можа, зладзеі?

— Не, зладзеі прыходзяць ноччу,— не зусім упэўнена супакоіў я сястру.

Стук не спыняўся. За дзвярыма моцна гаманілі. Мы разабралі голас цёткі Полі:

— Далібог, яны там, мусіць, патруціліся... Я траха не самлела, як убачыла. Белыя як палатно!..

— Можа, у каго з суседзяў ключ падыходзіць да гэтай кватэры? А то прыйдзецца ламаць дзверы,— сказаў малады жаночы голас.

Мы з Наткай падышлі да самых дзвярэй і насцярожыліся.

— Няма такога ключа. Ва ўсіх у нас розныя ключы,— гаварыла цётка Поля.— Пабягу сякеру вазьму ды кватаранта свайго паклічу. Адны, без мужчыны, мы тут нічога не зробім...

На пляцоўцы затупалі, забегалі,— відаць, пабеглі па сякеру. Мы з Наткай не дыхалі.

За дзвярыма нехта грубым жаночым голасам сказаў:

— Такіх матак, што пакідаюць у дзяцей пад рукамі што папала, трэба было б у турму саджаць.

— Мяне непакоіць, што за дзвярыма не чуваць ні гуку,— зусім інакш, заклапочана і мякка, азваўся другі, малады голас.

Пры гэтых словах у нашы дзверы зноў пастукалі.

Мы з Наткай пераглянуліся.

— Не трэба адчыняць,— прашаптала Натка,— а то нашу маму засудзяць і пасадзяць у турму...

— А калі дзверы пасякуць?..

На пляцоўцы пачуліся цвёрдыя крокі, нехта моцна штурхануў дзверы, і мужчынскі голас крыкнуў:

— Дзеці, ану адчыняйце!

— Ён нас бачыць...

Натка, а следам за ёю і я на пальчыках адышлі да вешалкі і схаваліся за старое маміна паліто...

— Ламіце, кажу вам, дзверы! Гэта ж, не раўнуючы, дзеці, а не пянькі яловыя! Можа, іх там ужо і жывых няма...— Цётка Поля была, відаць, страшэнна напалохана і ледзь не плакала.

Заскрыгатала жалеза, затрашчалі дзверы... Мы з Наткай стаялі за вешалкай і чакалі, што вось-вось паляцяць трэскі... Што будзе, калі вернуцца дадому мама з татам і ўбачаць паламаныя дзверы? Больш маўчаць было нельга.

— Мы жывыя! — нейкім вельмі тоненькім галаском закрычала Натка і кінулася да дзвярэй. Я — услед за ёю.

— Мы жывыя! — лямантавалі мы ў адзін голас, ніяк не могучы павярнуць ключ у замку.

Калі дзверы, нарэшце, адчыніліся, мы твар у твар сутыкнуліся з дзвюма жанчынамі ў белых халатах. За іх спіной стаялі цётка Поля, яе кватарант і яшчэ суседзі з іншых кватэр.

— Ну што тут у вас? Жывыя? Здаровыя? — пераступаючы парог, звярнулася да нас маладая цёмнавалосая жанчына ў белым халаце. Гэта была доктар «Хуткай дапамогі». Яна глядзела на нашы чырвоныя твары, і вочы яе смяяліся.

Мы з Наткай збянтэжана апусцілі галовы.

— Ну, хутчэй расказвайце ўсё па парадку.

— А вы не будзеце саджаць у турму нашу маму? — спытала Натка. Нас цяпер больш за ўсё непакоіла гэта.

— Не, не буду,— смеючыся паабяцала маладая жанчына.

Старэйшая, таксама ў халаце, з чамаданчыкам, не згадзілася:

— А варта было б!.. Каб ведалі, як дарэмна ганяць «Хуткую дапамогу»...

— Ну, ну, Іванаўна...— мякка спыніла яе маладая і зноў звярнулася да нас:

— Ну, дык што здарылася?

— Вова лячыў мяне...— паказала на мяне Натка.

Я ўжо крыху пасмялеў, перастаў баяцца доктаркі з чамаданчыкам і расказаў усё па парадку.

*1957*

## СЯБРЫ

Лёня Саўчанка і Грыша Міхневіч вучыліся ў адным класе, сядзелі на адной парце і жылі на адной кватэры. У школе ўсе казалі, што іх і вадой не разальеш. І гэта сапраўды было так. Калі на вуліцы, гуляючы ў снежкі, Грыша адчуваў сябе пераможаным, то на дапамогу ён клікаў Лёню. І, наадварот, Лёня, які вучыўся слабей за Грышу, за дапамогай звяртаўся таксама толькі да сябра. Грыша ніколі не адмаўляўся, а толькі трос Лёню за чуб і прыгаворваў:

— Эх ты, галава — два вухі!

Лёня вырываўся з сябравых рук і нязлосна пагражаў:

— Пусці, а то як трэсну!..

— Ану, давай паспрабуем, хто каго адолее...— зухавата падстаўляў плячук Грыша.

Лёню не хацелася паддавацца.

Хлопцы браліся дужацца і, падскокваючы, нібы два пеўні, намагаліся адзін аднаго перахітрыць, падставіць ножку і пакласці, як сапраўдныя барцы, на абедзве лапаткі. Нязлосныя тумакі, вядома, не ішлі ў разлік. Іх хапала і пераможцу і пераможанаму.

Сварка, тая сварка, якая звычайна так прыніжае ў нашых вачах людзей, адбылася паміж імі зусім нечакана.

Грыша Міхневіч, якому вучоба давалася без асаблівых цяжкасцей, меў у сваім характары адну дрэнную рысу. Ён быў упэўнены, што выдатныя адзнакі заслужана ўпрыгожваюць толькі яго дзённік, а ўсім астатнім вучням яны ставяцца проста так, невядома за што...

Усё адбылося ў суботу, пасля раздачы кантрольных па алгебры. Быццам у насмешку, на гэты раз амаль палова класа атрымалі пяцёркі, а яму, Грышу Міхневічу, лепшаму вучню ўсёй школы, паставілі нейкую там няшчасную чацвёрку! І за што? За адзін толькі прапушчаны знак!

Пяцёрку атрымаў і Лёня Саўчанка.

Не могучы схаваць сваё расчараванне, Грыша ўзяў Лёнеў сшытак і, насмешліва разглядваючы яго, голасна, каб пачуў настаўнік, сказаў:

— Цікава выходзіць: хто спісваў, у таго пяцёрка, а хто сам рашаў...

— А хто ў цябе спісваў? — загарэўся Лёня.

— Ты спісваў,— з незалежным выглядам сказаў Гры-

ша.— Ты ж мінулы раз у такім ураўненні з двума невядомымі зрабіў памылку...

— Мінулы раз зрабіў, а на гэты раз вывучыў і не зрабіў!

Тут умяшаўся настаўнік і спыніў іх спрэчку.

А пасля ўрокаў, калі Грыша і Лёня ішлі дадому, у суседнюю вёску,— вучыліся яны ў мястэчку і жылі на кватэры,— тая спрэчка адчулася зноў.

Хлопцы спяшаліся завідна мінуць густы дрымучы лес. Тыдзень назад Лёнеў бацька сустрэўся тут з воўчай зграяй.

Грыша ішоў наперадзе, Лёня, які летам упаў з грушы і зламаў нагу, накульгваў з палачкай ззаду. Ісці было цяжка. Круціла і замятала дарогу мяцеліца. Ужо змяркалася, а да лесу заставаўся яшчэ ладны кавалак нялёгкага шляху.

— Давай адпачнём крышку, я не магу так хутка ісці,— сказаў Лёня.

Грыша зрабіў выгляд, што не пачуў, і нават не запаволіў кроку.

— Давай адпачнём, у мяне нага баліць,— мацней паўтарыў Лёня.

— Дома адпачнеш,— не спыняючыся і не аглядаючыся, буркнуў Грыша.

— Да дому яшчэ далёка.

— Дык што ж, мы праз тваю нагу ў лесе будзем начаваць?

— Ну і можаш ісці...

Раней, бывала, калі хто-небудзь з хлопцаў стамляўся ці папраўляў абутак, другі абавязкова чакаў яго, бо ведаў: лепшая надзея і дапамога ў дарозе — таварыш.

Лёня кінуў партфель на снег, сеў на яго і выпрастаў хворую нагу.

Уперадзе, у сівой завірусе, ледзь бачна была постаць сябра.

Лёня доўга не сядзеў.

Як толькі адышла нага, ён устаў і, абапіраючыся на палку, рушыў далей. Постаць Грышы ўжо ледзь-ледзь віднелася ўдалечыні. Хутка яна і зусім знікла. Наперадзе чарнеў лес.

Хлопчык азірнуўся. Незразумела адкуль узяўся страх. Успомнілася воўчая зграя, ад якой ледзь уратаваўся бацька. І, мусіць, наўрад ці ўратаваўся б, каб не запалкі і салома ў санях. Міжвольна Лёня памацаў свае кішэні і

ўспомніў: запалкі і смалякі, якія дала ім на дарогу гаспадыня кватэры, засталіся ў Грышы ў партфелі.

Хутчэй дагнаць яго! Або лепей гукнуць, каб пачакаў... Лёня наддаў кроку, але так і не гукнуў. Навошта? Грыша будзе потым у школе нос задзіраць і ўсім хваліцца, што Лёня без яго і дадому дайсці не мог.

А Грыша ішоў сабе наперад. Ён не бачыў, як садзіўся адпачываць Лёня. Ён думаў, што Лёня ідзе ззаду і не хоча гаварыць з ім, бо лічыць сябе пакрыўджаным. Аглядацца і пачынаць гаворку самому Грышу не хацелася. Зноў успомнілася Лёнева пяцёрка, і зноў нядобрае пачуццё завалодала Грышам. «Падумаеш, выдатнік знайшоўся. Больш чым на тройку не выцягнуў бы, каб не спісаў...»

Праўда, Грыша не быў цвёрда перакананы, што Лёня спісваў... Але ён ніяк не мог прымірыцца са сваёй чацвёркай і Лёневай пяцёркай па алгебры.

Зайшоўшы глыбей у лес, Грыша ўсё ж парашыў азірнуцца. Яму зрабілася страшна ісці лесам у такую завіруху аднаму. Ён пастаяў, пачакаў крыху. Лёні не было відаць. Тады Грыша вырашыў вярнуцца і пайсці сябру насустрач: відаць, і сапраўды ў яго моцна балела нага, калі ён застаўся гэтак далёка ззаду... Ужо зусім сцямнела. І раптам хлопца ахапіў страх. Было так страшна, што ў Грышы не хапіла адвагі гукнуць, паклікаць сябра... Дзе ён падзеўся? Можа, вярнуўся ў мястэчка, на кватэру? Трэба хутчэй бегчы дамоў і расказаць пра ўсё, што адбылося. Так, так. Хутчэй дадому!

І Грыша пабег.

...Праз лес ішлі дзве дарогі. Адна да вёскі, дзе жылі хлопцы, другая да балота, дзе стаялі стагі суседняга калгаса. Упоцемку лёгка было зблытаць дарогі, і Лёня, стомлены і пакрыўджаны, не заўважыў, як павярнуў направа, да балота...

* * *

У той вечар цётка Насця, Лёнева маці, прасявала на сіта муку. Бацька сядзеў на зэдліку, падшываў валёнкі.

— І трэба ж, гэтак мяце і круціць — свету белага не відаць,— ссыпаючы прасеяную муку, заклапочана прамовіла маці.

— Пара прыйшла, дык мяце і круціць. Летам не будзе месці,— азваўся Ігнат.

— Хаця б Лёня не надумаўся ў гэткую нягоду ісці.

— Не павінен, я казаў, каб не хадзіў...

У сенцах каля дзвярэй пачуўся шоргат. Відаць, ішоў нехта чужы, бо не мог знайсці клямку. Насця адчыніла дзверы, і парог пераступіла суседка.

— Добры вечар вам,— прывіталася яна.— А я ніяк клямку не намацаю.

— І не кажыце: я і сама часам паўгадзіны стаю пад дзвярыма,— падтакнула гаспадыня.

— Што гэта вы, пірагі надумаліся пячы, ці што? — звярнулася да Насці суседка.

— Ды вось малыя захадзіліся: спячы ды спячы. Хачу цеста паставіць.

— Яно ж пэўна,— паспешліва згадзілася суседка і з нейкай ненатуральнай цікавасцю запытала: — А дзе ж гэта ваш Лёня, хіба не прыйшоў яшчэ?

— Няма. Куды ён пойдзе ў такую непагадзь? У тую нядзелю я загадаў ім — і свайму і вашаму,— каб сядзелі на кватэры і не хадзілі...— адказаў Ігнат.

— Бацюхны мае! — раптам губляючы ранейшы тон, спалохана пляснула далонямі суседка.— А мой жа Грышка прыйшоў і кажа, што ваш Лёня ў дарозе адстаў ад яго... Я і пабегла даведацца, ці не дома ён.

Насця ажно выпусціла з рук сіта.

— Дзе ж ён, мой сыночак?! І чаму ж гэта яны не разам ішлі?

— Не ведаю, што ў іх там здарылася, бо мой нейкі вельмі сумны прыйшоў. Нават нічога ў рот не ўзяў.

— А людцы ж мае! Апранайся, Ігнат, ды бяжы хутчэй на канюшню, едзь шукаць!..

Ігнат праехаў лес і, так не сустрэўшы Лёню, вырашыў, што хлопцы ў дарозе, напэўна, пасварыліся, а мо нават і пабіліся, і Лёня вярнуўся назад на кватэру. Ён шпарчэй пагнаў каня... Уехаў у мястэчка. Трывожна пастукаў у дзверы дома, дзе кватаравалі хлопцы. На стук выйшла гаспадыня і, усхваляваная пытаннем Ігната, блытаючыся, пачала расказваць, што Лёня і Грыша адразу ж пасля ўрокаў разам пайшлі дадому. Яна казала ім, каб пераначавалі, але яны не паслухалі.

Тады Ігнат падумаў, што Лёня, напэўна, збіўся з дарогі і пайшоў на балота. Ад гэтай думкі яму аж горача зрабілася: балота яшчэ добра не замерзла і мясцінамі правальвалася.

Конь станміўся і ўжо не мог бегчы, але Ігнат усё паганяў яго і паганяў. Вось нарэшце і балота. Вунь ужо зачарнелі стагі.

— Лёнька-а! —гукнуў у завіруху і цемень ночы Ігнат.— Сынок!..

— О-ок! — глуха адгукнулася яму ноч.

— Лёнька-а! Лёня-а! — зваў бацька.

— А-а-а! — тонкім голасам адклікнуўся яму нехта здалёку.

— Сынок! Лёня! — мацней закрычаў Ігнат.

— Я ту-ут! — усё гэтак жа тонка данеслася з цемры.

Ігнат пагнаў каня на голас.

— Лёня-а! Лёня-а!..

...Лёня сядзеў пад стогам увесь мокры і скарчанелы. Здарылася якраз тое, чаго баяўся Ігнат: доўга блукаючы па балоце, хлопец праваліўся ў незамерзлую багну і, ледзь выбраўшыся з яе, насілу дацягнуўся да стога.

Бацька скінуў з сябе кажух, захутаў у яго Лёню і зноў хутчэй пагнаў каня.

— Патрымайся яшчэ сынок, зараз будзем дома.

Расцёрты гусіным салам і закручаны ў суконныя хусткі і коўдры, пад раніцу Лёня пачаў трэсціся ад холаду і трызніць. Пачыналася тое, чаго так цяжка было пазбегнуць: запаленне лёгкіх.

* * *

Неяк раніцай у нядзелю, калі Лёня ўжо ачуньваў, у сенцах пачулася нясмелае тупанне, потым дзверы адчыніліся, і ўвайшоў Грыша Міхневіч. Збянтэжаны, з пакункам у руках, ён доўга абмятаў ля парога валёнкі, ніяк не адважваючыся ні прывітацца, ні прайсці далей.

— Ну, даволі ўжо, праходзь, а то валёнкі парвеш,— не вельмі ветліва сустрэла хлопца Лёнева маці.

— Я, цётка, да вас... Можна?

— А чаму ж няможна? Ці даўно ты не вылазіў ад нас, а зараз гэтакі далікатны зрабіўся, што нават дазволу пытаеш...

Над Грышам зліταваўся Ігнат.

— Праходзь, брат,— падбадзёрыў ён хлопца.— Распранайся ды раскажы Лёню, якія вы ўрокі там прайшлі без яго.

— Я прынёс... я пакажу,— крыху пасмялеўшы, падышоў да стала Грыша.

Чамусьці не адважваючыся наблізіцца да Лёні, ён здалёку звярнуўся да яго:

— Я вось табе, Лёня, прынёс... Мая маці прыслала...— і, паклаўшы на стол пакунак, ён дастаў з яго некалькі яб-

лыкаў і маленькі гладышык.— Гэта мама табе ліпавага мёду прыслала. Кажуць, вельмі памагае, калі з гарачым чаем піць...

— Бач, які ты зараз добры зрабіўся,— зноў не стрымалася Лёнева маці.

Але бацька перабіў яе:

— Што было, тое быллём парасло. Усё прайшло, і няма чаго перагаворваць... Праходзь, брат, бліжэй да Лёні ды расказвай.

— Я зараз,— падсоўваючы да Лёневага ложка крэсла, ахвотна паабяцаў Грыша.— Я ўсё прынёс, усё пакажу...

Лёня глядзеў на Грышу шчаслівымі вачыма. Хлопцы даўно не бачыліся, даўно не вучылі разам урокаў, не дурэлі.

— Сядай сюды, на ложак,— Лёню здавалася, што так яны будуць бліжэй адзін да аднаго.— І ўсё расказвай...

— Раскажу! Усё раскажу.

Зразумеўшы, што ён памілаваны, Грыша перасеў на ложак да Лёні.

— Перш за ўсё скажу табе, брат: ну і даў тады мне бацька лупцоўку!..— з выглядам самага шчаслівага чалавека на свеце пахваліўся Грыша.

— За што лупцоўку? — не зразумеў Лёня.

— За што, за што?.. Варта было, дык і даў... А класнаму я сам усё расказаў... Усё, як было.

— Ну, гэта ты ўжо зусім дарэмна зрабіў...

— Не дарэмна! Я тады нават хацеў, каб мяне са школы выключылі.

— Вось дурань!

— Дурань, ды не таму... Ну што, пачнём з геаметрыі?

— Давай з геаметрыі...

1956

## ТАМАРЫНА АСТАНОЎКА

Нахмураная тайга абступіла ■ абодвух бакоў чыгуначную лінію. Бяжыць, уцякае ад яе сталёвая лента, дзе-нідзе пераскочыць цераз таежную рэчку, схаваецца ў тунелі. Выбежыць з-пад зямлі, а тайга, многагалосая, непраходная, зноў наступае на яе, сціскае ў сваіх абдымках...

Загубіўся і здаецца закінутым і ўсімі забытым у таежнай глушы невялікі домік пуцявога абходчыка. Гадоў пятнаццаць таму назад тут не спыняўся ні адзін цягнік. Праляціць, бывала, кур'ерскі, задрыжаць услед яму шыбы ў вокнах, жаласна зазвіняць шклянкі ў невялічкай пасуднай шафцы. А цягнік ускалыхне прарэзлівым свістам тайгу, напужае звяр'ё і птаства і мчыцца далей.

Абудзіць разы два ў суткі таежную цішу таварняк, пройдзе паштовы — і зноў ціха і адзінока вакол доміка пуцявога абходчыка.

Яшчэ на досвітку ўстае і накіроўваецца ў сваю звычайную дарогу пуцявы абходчык. Ліхтар у руках, за плячыма торба з рознымі прыладамі чыгуначніка, сярод якіх ляжаць два сцяжкі: жоўты і чырвоны.

Рупліва тупае каля печы гаспадыня: распальвае дровы, рыхтуе мужу і дачцэ снеданне.

Не спіцца і Тамары. Яе галава занята сваімі дзіцячымі клопатамі. Хуценька ўстае яна, прыбірае свой ложак, мыецца.

— Куды ты, дачушка, так рана? Паспала б крыху яшчэ. Большая вырасла б,— кажа ёй маці.

— А ў школу? — пытаецца ў сваю чаргу дачка, складаючы кнігі.— Хіба ты забыла?

Да школы, дзе вучылася Тамара, было восем кіламетраў. Таму з дому дзяўчынка выходзіла заўсёды на досвітку. Бліжэй не толькі школы, нават сяла ніводнага не было. Першыя два гады вадзіў і сустракаў яе дзень у дзень бацька. Потым ужо, на трэці год, Тамара пачала хадзіць адна. Бацька праводзіў яе толькі тады, калі ў яго траплялiся якія-небудзь справы на станцыі, дзе была школа.

Самым непрыемным на ўсім Тамарыным шляху быў тунель. Два разы ў дзень хапаў ён дзяўчынку і, спіснуўшы незразумелым страхам дзіцячае сэрца, штурхаў яе наперад. Глуха адклікалася на кожны крок рэха. Чужым, дзікім здаваўся ўласны голас. Стараючыся адагнаць ад сябе страх, Тамара дадавала кроку, бегла... А ззаду нехта таксама бег, моцна тупаў нагамі, здавалася, вось-вось дагоніць...

Чыгунка вырывалася на прастор, насустрач сонцу, і дзяўчынка ўздыхала з палёгкай, смела аглядалася назад. Але ззаду нікога не было. Толькі заміраючае рэха недзе ў другім канцы тунеля ўсё яшчэ паўтарала яе крокі.

Летам у дарозе было смялей. Ідучы дадому, Тамара некалькі разоў садзілася адпачываць. Яшчэ здалёк, нібы

добрай знаёмай, ківала ёй кучаравай галавой-верхавінай маладая хвойка. Адступіўшы некалькі крокаў убок, важна гойдаўся, вітаў яе стромкі кедр. Ля старой, пахіленай да зямлі гадамі і бурамі бярозы дзяўчынка садзілася, быццам каля роднай цёткі. Скідала з галавы хустку, рассцілала яе на зямлі і, нібы на абрусе, расклаўшы ўсё, што засталося з яды, частавалася, уголас размаўляючы сама з сабой і з цёткай-бярозай.

Моцна размаўляць і спяваць зрабілася звычкай для Тамары. Маці не раз вучыла яе, што калі зробіцца страшна, трэба размаўляць уголас. Дзяўчынка паспрабавала раз — і ёй чамусьці стала страшна. Другі раз яна адчула сябе лепш, а потым было ўжо ніколечкі не страшна. Наадварот, прыемна было расказваць дрэвам, чыгунцы, птушкам вывучаныя на памяць вершы, спяваць ім свае песні. Усё навокал слухала яе, паўтарала на свой лад, несла далей — па тайзе.

Кожны дзень даганялі і пераганялі Тамару або ішлі насустрач ёй цягнікі. Злосна чмыхаючы на ўсю тайгу, яны выдыхалі з магутных жалезных грудзей чорную хмару дыму, на момант хаваючы ў ім верхавіны магутных дрэў. Засланіўшыся рукой ад сонца, дзяўчынка доўга махала ўслед кожнаму цягніку, аж пакуль з вачэй яе не знікаў апошні вагон.

А потым ішла далей.

* * *

Аднойчы зімой пасля поўдня ўзнялася страшэнная завіруха. Пад вечар яна так разгулялася, што свету белага не відаць было.

Тамара са школы не прыйшла.

У хаце пуцявога абходчыка маці ламала рукі. Мінула ўжо колькі часу, а ні дачкі, ні мужа, які пайшоў ёй насустрач, не было.

Не пераставаў па-воўчы выць у коміне вецер, па-ранейшаму ашалела кідала ў шыбы прыгаршчамі снегу мяцеліца. Пераваліла ўжо далёка за поўнач, а іх усё не было.

Нарэшце пуцявы абходчык вярнуўся. Ён акінуў трывожнымі вачыма пакой і, не ўбачыўшы дачкі, бездапаможна сеў на лаву. У школе яму сказалі, што Тамара пайшла дадому...

Доўга яшчэ круцілася, не магла нацешыцца завіруха. Нарэшце, стаміўшыся, яна зацiхла, нібы заснула.

Раніцай, палохаючы прарэзлівым свістам навакольную цішыню, наблізіўся да маленькага доміка цягнік. Пуцявы абходчык, як і заўсёды, падняўшы жоўты сцяжок, паказваў, што дарога яму адчынена.

Параўняўшыся з пуцявым абходчыкам, цягнік яшчэ раз прарэзліва свіснуў і, сцішыўшы ход, раптам спыніўся... Не ведаючы, што здарылася, толькі адчуваючы, што здарылася нешта вельмі важнае, абходчык бягом кінуўся да паравоза. Адчыніліся дзверы — і чырванашчокая, вясёлая, кінулася з падножкі да бацькі Тамара.

— Забірай, служба, сваю казу ды не пускай болей блукаць яе адну ў завіруху па тайзе,— высунуўшыся з акна, сказаў абходчыку машыніст.

Цягнік зноў гукнуў на ўсю тайгу і памчаўся далей.

— Дзе ты была, дачушка? — не памятаючы сябе ад радасці, дапытваўся бацька.

І вось што расказала яму Тамара.

Ідучы не па чыгуначнай лініі, а ўздоўж насыпу, непрыкметна для сябе, калі пачалася завіруха, Тамара збілася з дарогі і паглыбілася ў лес. Тут, зусім згубіўшы напрамак, яна доўга блукала, з плачам клікала на дапамогу, але ўсё было дарэмна.

Канец, мусіць, быў бы невясёлы, каб, на шчасце дзяўчынкі, не напаткаў яе паляўнічы, які запазніўся ў лесе. Ён жыў якраз непадалёку ад станцыі, дзе была школа, і, даведаўшыся, адкуль Тамара, папрасіў раніцай машыніста давезці яе дадому.

* * *

Неўзабаве пасля гэтага здарэння каля маленькага доміка пуцявога абходчыка спыніўся паштовы цягнік. Злезлі два незнаёмыя чалавекі ў чыгуначнай форме.

— Тут будзе астаноўка,— сказалі яны Тамарынаму бацьку.

— Чаму? Якая? — нічога не разумеў пуцявы абходчык.

— Тамарына астаноўка,— адказалі яму чыгуначнікі і, бачачы, што ён і цяпер нічога не разумее, растлумачылі: — У Маскве даведаліся аб здарэнні з вашай дачкой і далі такі загад. Цяпер тут будуць спыняцца пасажырскія цягнікі. І ваша дачка будзе ездзіць у школу і са школы.

* * *

Тамара ўжо вырасла. Напэўна, ужо скончыла інстытут і, напэўна, сама працуе. А маленькая, на хвілінку, астаноўка каля доміка пуцявога абходчыка ёсць і зараз.

— Тамарына астаноўка,— гаворыць праваднік і расказвае пасажырам яе гісторыю.

*1950*

## ШУРКА РЭМЗІКАЎ

Так, напэўна, паступова і выветрылася б з памяці гэтая сустрэча, так, мусіць, і забыўся б Шурка Рэмзікаў, каб не вось які выпадак.

На чыгуначнай станцыі, якая знаходзілася даволі далёка ад горада, куды я ехала ў камандзіроўку, чакаць аўтобуса трэба было нешта каля гадзіны. Занятак — мінуй ён кожнага падарожніка! Час гэты, каб ён цягнуўся не так марудна, патрэбна было нечым заняць.

Каля цаглянай сцяны, на якой звычайным мазутам паўметровымі друкаванымі літарамі было напісана: «Багажнае аддзяленне», сабраўся натоўп. Праціснуўшыся наперад, я ўбачыла, што ў цэнтры агульнай увагі былі хлапчукі-падлеткі, чалавек пяць-шэсць. Выглядам сваім і адзежай яны маглі служыць выдатнай натурай мастаку-жывапісцу.

Справа была летняя, і хлапчукі апрануліся з такім разлікам, каб не лішне сябе абцяжарваць. Некаторыя мелі пры сабе школьныя партфелі, у аднаго вісела цераз плячо пацёртая кірзавая палявая сумка, адзін трымаў у руках новенькі чамаданчык — такія звычайна носяць дзяўчаты-студэнткі ды яшчэ спартсмены — са свежымі драпінамі і пісягамі на бліскучых чорных баках.

Бясспрэчна, гэтая маладзёжная група збіралася ў нейкую экспедыцыю або, наадварот, вярталася ўжо з нейкага далёкага падарожжа. Хутчэй за ўсё можна было меркаваць апошняе. Выгляд у экспедыцыі быў прыкметна пакамечаны, ды і самі ўдзельнікі яе глядзелі на свет, штосьці звесіўшы насы.

Тут жа стаяла некалькі жанчын, відаць, матак падарожнікаў.

Перад усёй гэтай групай важна пахаджваў уперад-назад міліцыянер-чыгуначнік.

Відаць, некага чакалі яшчэ.

— Бачылі рабінзонаў? — весела звярнуўся да мяне немалады мужчына, пасажыр, з якім мы ехалі дагэтуль у адным вагоне.— У Жлобіне затрымалі. У Казахстан збіраліся. Цалінныя землі асвойваць.

Я не паспела нічога адказаць, як ззаду нас пачуўся зычны вокліч:

— Разыходзьцеся, грамадзяне! Няўжо ў вас спраў няма іншых, як штурхацца тут?

Гэтаму шыракаплечаму міліцэйскаму старшыну, відаць, было даручана вырашыць лёс рабінзонаў.

— Здарова, арлы! — гэтак жа зычна прывітаў ён хлапцоў.— Хто тут сярод вас атаман? Няйначай, ты, — звярнуўся старшына да вузкаплечага хлапчука з тварам, усыпаным, нібы драздовае яйцо, густым рабаціннем.

«Атаман» пераступіў з нагі на ногу і яшчэ ніжэй апусціў галаву.

Маці «атамана» памкнулася была аб нечым папрасіць міліцэйскага старшыну, але толькі ўсхліпнула і не змагла вымавіць ні слова.

— А-а, і ты, Рэмзікаў, тут? — звярнуўся старшына да атаманавага суседа, знаёмага, відаць, яму па ранейшых спатканнях.— Даўно мы з табой не бачыліся! Мусіць, гэтак месяцы са два будзе?

У голасе міліцэйскага старшыны гучалі ноткі той нязлоснай насмешкі і гумару, па якіх лёгка ўгадваецца разумны чалавек, здольны глядзець глыбока і бачыць у душы другога чалавека нешта такое, аб чым той і сам часам не здагадваецца.

Рэмзікаў, прысадзісты падлетак, не адвёў убок хмурых вачэй і панура ўдакладніў:

— Менш.

«Рэмзікаў» — гэтае прозвішча было мне знаёма. І не толькі прозвішча.

Першая наша сустрэча адбылася ў гэтым жа горадзе каля трох год назад.

Памятаю, мароз на вуліцы — не вытрываць, а тут яшчэ вецер.

У новым гарадскім пасёлку дзесьці згубіўся дом маіх знаёмых. І, як на грэх, няма ў каго спытаць. Каму ахвота ў такое надвор'е нос на вуліцу высоўваць?

Раптам з двара, агароджанага напалавіну дашчаным парканам, вылятае на каньках хлапчук. Вушы рыжай шапкі наразлёт, кароценькая ватоўка падпяразана шырокай вайсковай папругай. Чырвоныя мультановыя штаны на самых непрактычных мясцінах упрыгожаны цёмнымі латкамі.

Раз — другі распісаўся канькамі на вузкай прыдарожнай канаўцы і спыніўся — разглядае мяне.

— Мулавейкі дзе жывуць? — перапытвае ён.— Вунь там, дзе чылвоная стлаха.

Хлапчук картавіць і ўвесь час вымаўляе «л» замест «р». Няпэўна махнуўшы ў бок наступнай вуліцы, ён тут жа энергічна шморгае рукавом па кірпатым носе і сам паведамляе мне:

— Іх бацька нагу зламаў.

— У бальніцы ляжыць?

— А дзе ж яшчэ? — кажа ён, лічачы маё пытанне недарэчным.

— Як цябе завуць?

— Шулка Лэмзікаў,— глухавата басіць мой новы знаёмы і зноў выцірае нос.

Мы не стаім на месцы. Мы ідзём: я — па замеценым снегам тратуары, Шурка «піша» канькамі побач па канаўцы.

— У якім ты класе?

— У чацвёртым.

Так яно і павінна быць. Шурку гадоў адзінаццаць-дванаццаць.

— Добра вучышся?

— Не, кепска.

У Шуркавым адказе столькі філасофскага спакою, што мне адразу здаецца, быццам у мяне здарылася нешта непрыемнае з вушамі.

— Кепска? — перапытваю я.— Чаму?

— Не хачу вучыцца.

— Чаму не хочаш? — мяне здзіўляе ўжо не сам адказ, мяне здзіўляе Шуркаў эпічны тон.

— Няма ахвоты.

Паспрабуй пераканаць чалавека, каб ён рабіў тое, да чаго ў яго ахвоты няма.

І я пакідаю ў спакоі вучобу і пытаюся пра другое:

— А з кім ты жывеш?

— З маткаю.

— А бацька ёсць?

Pамаўчаў, а потым панура:

— Айчым.

— За двойкі карае?

— Так я і буду чакаць, каб ён мяне біў,— і ў Шуркавых вачах на момант успыхвае злосны агеньчык.

— А школа ў вас добрая?

— Самая лепшая. Вунь яна! Ва ўсім горадзе другой такой няма. У тым годзе толькі пабудавалі. Чатыры паверхі.

Школа — новы белы будынак з калонамі —сапраўды выдатная. І займае яна, адчуваецца, не апошняе месца ў Шуркавым сэрцы. Злосны агеньчык у яго вачах патухае і загараецца новы: шчырага захаплення і гордасці.

— І настаўніца ў вас добрая? — Я стараюся адшукаць другі канчык заблытанага клубочка Шуркавай непаспяховасці.

Маўчыць, нешта ўзважвае. Потым зноў энергічны ўзлёт рукава да носа і, пасля кароткага маўчання, няпэўна:

— Добрая. Толькі любімчыкаў любіць.

— А ты не любімчык? — смяюся я.

— Не,— Шурка, мусіць, уявіў сябе любімчыкам, і яму самому зрабілася смешна.— Мяне дражняць яе любімчыкі, а яна нічога...

Шурка вельмі шчыры і цікавы для назірання чалавек, і мне не хочацца так хутка развітвацца з ім.

— Ну добра,— кажу я, хоць рабіць такі вывад у мяне няма зусім ніякіх падстаў.— Ты дрэнна вучышся. Ты не хочаш вучыцца. А кім ты хочаш быць?

Відаць, ніхто не пасеяў у Шуркавым сэрцы зярняці жыватворных мар аб будучыні. І таму ён басклапотны.

— Нікім.

— А што ж ты будзеш рабіць, як вырасцеш?

— Нічога.

— Дык што ж ты будзеш есці? — Іншага пытання я ўжо не магу прыдумаць.

— Усё.

— А дзе браць будзеш?

— Буду купляць.

— За што?

— За грошы.

— А дзе ж ты грошы будзеш браць?

— Маці дасць.

— Дык маці састарыцца, дзе ж яна іх возьме?

— Не састарыцца! — упэўнена адказвае Шурка і так

энергічна шморгае рукавом па кірпатым носе, што мне робіцца боязна, ці застанецца хоць на месцы гэты пачырванелы на марозе нос. Не, нічога, усё ў парадку.

Шурка раптам сам пачынае дапытваць мяне:

— А чаго вы ідзяце да Муравейкаў?

— Яны мае знаёмыя.

— А Лорка таксама двойкі хапае, мы з ёю ў адным класе,— раптам чамусьці вырашае насаліць маім знаёмым Шурка.— Учора па фізкультуры схапіла.

— Ну?!

— І задавака. Як атрымае пяцёрку — за вярсту ўсім хваліцца.

— Значыць, пяцёркі ўсё-такі Лорка атрымлівае? А ты сам атрымліваеш?

— Ёсць, што ў дваццаць разоў больш за яе атрымліваюць...

— Вось як?! — дзіўлюся я на самога Шурку. А ён уваходзіць у ролю поўнага адмаўлення Лорчынай асобы і хоча знішчыць яе ўшчэнт.

— А Лорчына маці варажбітка...— басіць ён.— На картах варожыць.

— Ну?! — яшчэ больш дзіўлюся я і пытаю: — А яшчэ што ты ведаеш пра Лорку?

— Я пра ўсіх усё ведаю. Пра ўсю вуліцу...

— А... верш на заўтра ты таксама ўжо ведаеш?

Пытаюся наўздагад і трапляю якраз у цэль: верш на заўтра зададзены.

— Я заўтра раніцай, да школы, вывучу,— па-свойму бесклапотна паведамляе Шурка і выпісвае на невялікай ледзяной сцяжынцы замыславатую фігуру.

Мы падышлі да невялікага доміка з чырвоным жалезным дахам.

— Вось тут Лорка Муравейка жыве,— паказвае Шурка і, мусіць, жадаючы хутчэй спыніць сваё дарожнае знаёмства, імчыцца далей.

Матляліся рыжыя вушы яго старой шапкі, мільгалі цёмныя латкі на чырвоных штанах. І хоць не відаць было яго вачэй, бачыўся мне кемлівы, насуплены і не зусім разгаданы позірк.

Нешта сімпатычнае было ў гэтым позірку.

...Шурка здорава змяніўся за гэты час. Выцягнуўся, неяк памужнеў. Нават чуб завёў.

На ім была паліняла блакітная саколка і падкасаныя вышэй каленяў няпэўнага колеру картовыя штаны. Чор-

ны, непаслухмяны і, як сам гаспадар, не дагледжаны чуб тырчаў ва ўсе бакі з-пад некалі малінавай, вышытай срэбрам, аксамітнай цюбецейкі. Шурка босы — і так горача...

— Ну што будзем рабіць з вамі, арлы? — зноў звярнуўся міліцэйскі старшына да хлопцаў.— Мне здаецца, што ўсім вам трэба спачатку ў аддзяленне міліцыі заглянуць. Там хутка вырашаць, каго з вас куды адправіць, калі ўжо вам так надакучыла жыць дома і вучыцца ў школе...

Старшына не паспеў скончыць, як раптам здарылася зусім нечаканае. Першым здаўся «атаман». Чалавек, яшчэ не спакушаны жыццём, ён памкнуўся да маці і, забыўшы на сваю годнасць падарожніка, загаласіў раптам на ўсю прывакзальную плошчу:

— Мамачка, я больш не паеду-у-у!..

Гэта паслужыла нібы сігналам да адступлення іншых. Вузкаплечага атамана з палявой сумкай на баку падтрымалі астатнія.

Капітуляцыя была самая ганебная.

Адзін толькі Шурка Рэмзікаў, грэбліва крывячы тоўстыя пасівераныя губы, незалежна пазіраў убок, усім сваім выглядам паказваючы, што несці адказнасць за гэтую няславу ён не збіраецца.

Падарожнікаў падтрымалі маткі. Становішча сапраўды здавалася крытычным.

Аднак, на агульнае здзіўленне, рыжавусы старшына зусім нечакана звярнуўся да галоўных дзеючых асоб з такім загадам:

— Ану, арлы, каб зараз жа мне ніякай вільгаці не было! І па дамах!.. Толькі майце на ўвазе: хто яшчэ раз надумаецца ехаць у Казахстан, хай загадзя напіша заяву ў аддзяленне міліцыі, тады адразу атрымае пуцёўку...

Гаварыў ён апошнія словы ўсур'ёз ці жартаваў — разабраць было цяжка. Але хлопцы і не стараліся вельмі разбірацца. Кожны спяшаўся прыкрыць сваё адступленне матчынай спіной...

Адзін Шурка Рэмзікаў застаўся. Па яго ніхто не прыйшоў. І гэта, відаць, яго асабліва не турбавала.

— Мне таксама ісці? — без усякага выразу на твары пацікавіўся ён.

— Абавязкова,— адказаў старшына.— З намі ў аддзяленне.— І тут жа, нібы спачувальна, спытаў: — Спасавала, брат Рэмзікаў, твая каманда?

— Ну іх,— зняважліва адмахнуўся Шурка.— Разявы... Яны пайшлі ўперадзе, я следам за імі.

У аддзяленні, у пакоі інспектара міліцыі, мы з Шуркам аднавілі наша колішняе знаёмства. За гэтыя тры гады Шурка, як ні скептычна адносіўся ён у свой час да вучэння, усё-такі здолеў дайсці да сёмага класа. Тут бы яму і выбраць ужо самастойную дарогу ў жыцці, але перашкодзіла пераэкзаменоўка па алгебры. Гэтая няўдача, аднак, асабліва не турбавала Шурку. Адчувалася, што навука па-ранейшаму не вабіла яго і не хвалявала. Але сказаць, што Шурка ўвогуле не змяніўся, нельга было. Ён ужо не спадзяваўся, як некалі, на маці, ён прагнуў самастойнасці, актыўных дзеянняў...

Сям'я Рэмзікавых (маці — прыбіральшчыца, айчым Шуркі — шафёр і яшчэ трое меншых за Шурку дзяцей) не мела асаблівых дастаткаў, і не дзіўна, што дзецям у сям'і даводзілася даволі цяжка.

Маці рэдка бывала дома. Заўсёды спяшаючыся, яна не паспявала як след дагледзець дзяцей і кожны раз на хаду наказвала Шурку сачыць за імі, каб не біліся, каб у пару клаліся спаць.

Шурка, які праз гэтых малых ніколі не меў вольнай хвіліны, звычайна агрызаўся на матчыны загады:

— Патрэбны яны мне. Сама глядзі іх. Я ўрокі яшчэ не вучыў.

— Аднолькавая з цябе карысць. Вучыш ці не — усё роўна двойкі хапаеш, а з троек не вылазіш ніколі,— сама таго не разумеючы, у самае сэрца раніла Шурку маці.

— Ну і няхай сабе. І не буду вучыць. Няхай сабе будуць адны двойкі...— глытаў горкія слёзы крыўды Шурка, стараючыся злосцю заглушыць усю безнадзейнасць свайго лёсу.

— Ну і няхай будуць, ліха цябе бяры! Я за цябе сэрца перазядаць не буду і біцца з табой не буду... Але глядзі, дазнаецца бацька, ён цябе навучыць.

— Які ён мне бацька...

Шурка не памятаў свайго роднага бацькі. Але ад маці і ад суседзяў ён ведаў, што бацька яго быў чалавек, якія рэдка трапляюцца: і разумны, і добры, і рукі меў залатыя... Бацька не вярнуўся з вайны.

А айчым... Шурка ніколі не мог дараваць яму здзеку з бацькавай фотакарткі. Фотакартка гэтая вісела ў вялікай рамцы на сцяне. У першы ж тыдзень, перабраўшыся ў іхнюю хату, п'яны айчым разбіў рамку і, скамячыўшы, пачаў ірваць фотакартку яго бацькі.

Жах і роспач апанавалі Шурку так, што ён спачатку

не мог нават крануцца з месца... І тады, і пасля ён не памятаў, як кінуўся на п'янага айчыма, як упіўся зубамі ў яго чорны ад масла і бензіну кулак, як адляцеў, адкінуты цяжкім ботам, і стукнуўся галавой аб ножку стала... З таго дня айчым стаў кроўным ворагам Шуркі.

Цвярозы, айчым здаваўся маўклівым, няшкодным чалавекам. Часцей за ўсё ён моўчкі сядзеў за сталом або лажыўся на ложак і, закінуўшы ногі на біла, каб не пэцкаць ботамі коўдры, курыў адну за другой цыгаркі... Яго не турбавалі малыя дзеці, якія лезлі да яго і клікалі татам. Ён іх не адганяў ад сябе, але і не лашчыў... Яму ўсё роўна было, што працякае страха і што трэба адрамантаваць дзверы. Няхай пра гэта клапоціцца жонка. Ён ведаў, што яна паклапоціцца.

Цвярозага айчыма Шурка баяўся і ненавідзеў, бадай што, больш, чым п'янага.

Аднак і ў Шуркавым незайздросным жыцці былі часам свае агеньчыкі, якія аздаблялі гэтае жыццё, напаўнялі яго асаблівым зместам і сэнсам, узбагачалі яго.

Адным з такіх агеньчыкаў быў спінінг.

Ён зачараваў Шурку і перавярнуў усё яго жыццё з таго дня, калі сусед Рэмзікавых, капітан Смыкадуб, паклікаў Шурку з сабой рыбачыць на Бярэзіну.

З таго дня спінінг стаў марай, запаветным жаданнем, Шуркавай пуцяводнай зоркай.

Гэтую мару песціў ён цэлы год. З ёю звязваў самыя неверагодныя падарожжы і ўловы... Першымі, з кім падзяліўся Шурка сваёй марай, былі яго малыя брат і сёстры — яго вечная нэндза і пакута. Не маючы ніякага ўяўлення, што гэта за рэч, і нават не ўмеючы вымавіць яе назвы, малыя захапіліся марай Шуркі і горача спачувалі брату.

Маці, якой не было часу займацца дзіцячымі выдумкамі, а тым больш не было адкуль браць грошы на іх, сустрэла Шуркаў спінінг, як і ўсё іншае, абыякава і спусціла хлопца з нябёс на зямлю.

— Глянь лепей, як ты штаны за тыдзень збузаваў. Грошай на аднаго цябе не набрацца.

— А я ў цябе і не прашу грошай. Я толькі кажу, што капітан Смыкадуб у нядзелю налавіў спінінгам поўнае вядро шчупакоў,— пакрыўдзіўся Шурка.

— Ведаю, я, куды ты хіліш... Капітан налавіў, дык ты яму не раўня. Капітан, калі захоча, і «Пабеду» купіць, то, можа, табе таксама захочацца?..

Гутарка ў такім плане працягвалася яшчэ з паўгадзіны.

Абое на гэты раз нікуды не спяшаліся. Маці мыла бялізну. Шурка, раскрыўшы задачнік, даўно забыў пра задачы і быў у палоне сваёй мары.

Разбілася гэтая мара зусім нечакана, і пакінула яна ў Шуркавым сэрцы глыбокую балючую рану.

Дні праз тры пасля размовы Шуркі з маткай у двор да Рэмзікавых убіўся нейкі чужы певень. На ўсёй вуліцы ні ў кога не было такога галянастага дурня.

Малыя пагналіся за пеўнем па двары. Шурка, засунуўшы два пальцы ў рот, дзіка свіснуў услед. Замест таго каб уцякаць з двара, певень-дурань неяк смешна прысеў на месцы, зусім як старая курыца, ікнуў і кінуўся ў хлеў. Страшэнна напалоханы, праз некалькі хвілін сядзеў ён на руках у Шуркі, дарэмна спрабуючы ўзмахнуць анямелымі крыламі. Шурка чуў нават, як часта білася напалоханае пеўнева сэрца: тук, тук, тук...

Якраз у гэты момант у варотах з'явіўся Казік Бондараў зваць Шурку ганяць мяча. Убачыўшы ў сябравых руках пеўня, Казік на момант забыў пра футбол і запытаў:

— Гэта вы купілі?

— Ды не, чужы прыбіўся.

— Чый?

— Ды не ведаю. Кажу, прыбіўся. Малыя пагналіся за ім, а ён у хлеў... Я там яго і злавіў.

— Давай прадамо! — раптам прапанаваў Казік.

— Навошта? — не зразумеў адразу Шурка.— Ён жа ўцёк ад некага.

— Ні ад кога ён не ўцёк. У каго ты бачыў такога на нашай вуліцы?

— Я не бачыў,— няўпэўнена адказаў Шурка і ў сваю чаргу пацікавіўся: — А што купім?

— Што купім, што купім,— перадражніў Казік.— Што захочам, тое і купім. Цукеркаў, марожанага. І малым прынясём.

— Спінінг купім!..— Сямігадоваму Шуркаваму брату магчымасці, звязаныя з пеўнем, здаваліся неабмежаванымі.

— Спінінг?!

Аб гэтым Шурка і не падумаў.

Праз паўгадзіны яны былі ўжо на рынку. Ішлі смела, нікога не баючыся: уперадзе Казік, ззаду Шурка, аберуч трымаючы пеўня.

Пеўня з Шуркавых рук бралі і ўзважвалі адна за адной жанчыны-пакупніцы. Але чамусьці ўсе яны хутка вярталі яго назад. Адны казалі — стары, другія пасміхаліся і называлі хлопцаў маладымі гандлярамі, трэція спяшаліся і наогул нічога не казалі, праводзячы хлопцаў і пеўня безуважнымі позіркамі.

Шурка і Казік прайшлі па ўсім рынку і непрыкметна апынуліся каля прадаўшчыцы марожанага. Пякло сонца, абодвум хацелася піць, хоць ты бяры і за дзве порцыі марожанага аддавай гэтага пеўня.

— Людцы добрыя, зірніце, ды гэта ж мой певень! — пачуўся раптам над вухам Шуркі крыклівы жаночы голас.— А я іду і думаю, што гэта ў Рэмзічыхі за патрэба з'явілася такая, што яна ажно хлопца паслала на базар з пеўнем.

Пульхная, як грэцкая аладка, рука, што прыліпла да яго худога плечука, і гэты крык на ўсю плошчу ледзь не да зямлі прыціснулі Шурку. Ён збялеў і не мог вымавіць ні слова: перад ім стаяла суседка — тоўстая жанчына з чырвоным, нібы налітым бурачным сокам, тварам. Круглы год не вылазіла яна з рынку, дзень у дзень займаючы там пэўнае месца.

— А яно вунь што! — лямантавала суседка.— Я трымаю пеўня, кармлю, а ён ужо на продаж пайшоў... Дзе ж гэта ты схапіў яго, галубок?

— Я не хапаў яго нідзе! — ірвануў Шурка сваё вуха з ліпкіх тоўстых пальцаў.— Ён сам прыйшоў... Чаго вы хапаеце мяне за вуха?

— Сам прыйшоў?! Ведаю я, як да вас усё само прыходзіць. Твая і матка такая!

Ад апошніх слоў Шурку зрабілася больш балюча, чым ад учэпістых пальцаў.

— Што вы ведаеце? — глытаючы слёзы, крыкнуў ён.— Спытайце ў Казіка, ён усё бачыў...

Але Казіка ўжо не было. Зразумеўшы, што справа павярнулася для іх зусім не так, як яны меркавалі, Казік непрыкметна нырнуў за чужыя спіны...

...Гэта быў першы прывод Шуркі Рэмзікава ў аддзяленне міліцыі.

Вечарам таго ж дня Шурка атрымаў дома — каторую ўжо за сваё кароткае жыццё — лупцоўку. Пасля «навукі» айчыма Шурка доўга не мог, як усе вучні, сядзець за партай.

Певень яшчэ больш папсаваў Шуркавы справы ў шко-

ле. Неяк так здарылася, што ніхто з настаўнікаў асабліва не здзівіўся, пачуўшы пра новы ўчынак Шуркі Рэмзікава. Ніхто не заступіўся за Шурку, ніхто шчыра не пацікавіўся, як адбылося ўсё на самай справе... Так непрыкметна да Шуркі-«гультая» прыліпла і другая, яшчэ больш крыўдная мянушка — «злодзей».

Другі прывод быў звязаны з суседавымі жытнікамі. Жытнікі гэтыя — чырванабокія, прамяністыя яблыкі — так дражнілі позіркі хлапчукоў, што, нарэшце, не хапіла ніякай цярплівасці. Налёт адбыўся ў ноч, калі, паводле данясення разведкі, гаспадар павінен быў адлучыцца з дому.

Прыглушана гоцнулі на той бок высачэзнага плота адзін за другім тры цені. Шурка перакінуў нагу цераз плот чацвёртым. У гэты самы момант недзе пад нагамі гыркнуў суседаў сабака, пачуўся ашалелы дзіцячы крык — і ўсё патанула ў агульным плачы і сабачым брэху...

Двое «налётчыкаў» на другі дзень былі прыведзены гаспадаром саду ў аддзяленне.

Зноў прыходзіла ў міліцыю і забірала Шурку дадому маці. Зноў шырокая папруга айчыма да крыві «вучыла» Шурку, як трэба жыць на свеце...

Цяпер Шурку чакала трэцяя сустрэча з маткай у міліцыі.

— Цёця, не трэба выклікаць маму,— прасіў ён інспектара міліцыі, і ў голасе яго гучалі слёзы.

— А што ж рабіць, Рэмзікаў? Што ж будзе з табою? Вось ты ўзяў і паехаў, а ці падумаў, што будзе з маткай?

Шурка маўчаў. Наўрад ці прыходзілі яму ў галаву такія клопаты.

— І, скажы мне, што б ты рабіў там, на цалінных землях? Што б вы ўсе там рабілі? — пытала ў Шуркі інспектар.

— Знайшоў бы справу,— панура азваўся Шурка.— Навучыўся б і шафёрам працаваў бы...

— Ды ты ж малы яшчэ?

— Падрос бы,— гэтак жа ўпэўнена, як калісьці ён гаварыў мне, што ніколі не састарыцца яго маці, сказаў Шурка і, памаўчаўшы, усхліпнуў: — Я ўсё роўна не буду... з імі... Усё роўна ўцяку...

— Уцячэш і будзеш бадзяцца па свеце,— строга спыніла яго інспектар.— А ты не ўцякай, а заслужы, дабіся, каб цябе паслалі туды людзі... Які з цябе зараз будзе шафёр? А вось паступіў бы, скажам, у аўтамеханічны тэхні-

кум, скончыў яго — тады едзь куды хочаш: на цалінныя землі, на будаўніцтва каналаў... Аўтамеханіку ўсюды работа знойдзецца. Было б толькі жаданне працаваць.

— Мяне не прымуць,— глуха прамовіў Шурка, пазіраючы ў зямлю.

— Здасі пераэкзаменоўку і паступіш. Абы ты захацеў паступіць, дык і мы, і школа дапаможам табе. Ад цябе ж самога ўсё залежыць.

— Каб прынялі...— зноў гэтак жа панура прамовіў Шурка, аднак на гэты раз у голасе яго гучала слабая нотка надзеі.

Маці не прыйшла па Шурку ў аддзяленне міліцыі. Каб абараніць хлопца ад пабояў, мы з інспектарам вырашылі самі пайсці з ім дадому.

Матку мы не засталі дома. Яна была яшчэ на рабоце. Шурку сустрэлі малыя. Яны наваліліся на яго з усіх бакоў, з піскам і смехам павіслі на ім, закруціліся з ім па двары...

У кутку двара, у цяньку пад вішняй, уткнуўшыся тварам у рукаў, спаў «Міцька» — так за вочы зваў Шурка айчыма.

Ён не ўзняў галавы, не прачнуўся нават на шум.

Малыя бесклапотна растлумачылі:

— Татка спіць п'яны...

Шурка зрабіў выразны жэст: пайшлі, малыя, на вуліцу!

Ён быў рады ім, сваім мучыцелям! З імі ён забыў пра сваё няўдалае падарожжа, забыў, што вечарам яго чакае яшчэ сустрэча з маткай, што на двары спіць п'яны «Міцька»...

Не, і зараз Шурка не здаваўся мне прапашчым чалавекам!

*1957*

## ЧЫРВОНЫ ГАЛЬШТУК

Мы з Галінкай назбіралі збанок суніц і, змораныя спёкай, з задавальненнем леглі адпачыць у цяньку шыракалістай арэшыны. Мая запаслівая пляменніца дастала з кішэні па скібцы хлеба і сур'ёзна растлумачыла:

— Мы заўсёды бяром з сабой яду, як ідзём у лес. Ходзім, ходзім, а як захочацца есці, сядзем і, што ў каго ёсць, разам ядзім. Кожненькі раз так. А якая смачная яда ў лесе!

Галінка гаварыла пра сябе і пра сваіх сяброў.

І сапраўды, тут, пад арэхавым кустом, пахучыя салодкія суніцы з кавалкам добра выпечанага жытняга хлеба здаваліся нам самай смачнай ядой на свеце.

Лёгкі шум лісця, лясны халадок настройвалі на разважанні. Мая спадарожніца падрабязна і па-дзіцячаму наіўна расказвала пра тое, як яна летась ездзіла з мамай па чыгунцы, і хоць цягнік увесь час бег назад, яны ўсё роўна апынуліся ў горадзе...

Яе няхітрым апавяданням, здавалася, не будзе канца. Заўважыўшы ці, хутчэй, адчуўшы маю некаторую няўважлівасць, Галінка змоўкла, падсунулася бліжэй і паклала сваю светлавалосую галоўку мне на руку.

— Ну чаго ж ты змоўкла, чаму больш нічога не расказваеш?

На маё запытанне дзяўчынка хітранька прыплюшчыла сінія, як васількі, вочы і пакруціла галавой:

— Я ўжо больш нічога не ведаю. Нічагусенькі! Вы лепш казку раскажыце.

— Якую ж табе казку расказаць?

— Абы-якую, толькі не з кніжак. З кніжак я ўжо ўсе ведаю. Сваю раскажыце, выдумайце,— ужо загадала яна мне.

Выканаць гэтую Галінчыну просьбу мне было не пад сілу, і я сказала ёй:

— Хочаш, я лепей табе верш які-небудзь на памяць раскажу?

Яна пацікавілася:

— Свой?

— Не, не свой. Раскажу табе верш Пушкіна ці Някрасава.

— Ай, не хачу... Каб свой расказалі, а Пушкіна і Някрасава я сама ведаю. Мы ў школе вучылі. І «Ля лукамор'я дуб зялёны», і «Генерал Таптыгін»...

Што было ёй на гэта сказаць? І я не зусім дарэчы прапанавала Галінцы:

— Ну, калі ты ўсё ведаеш, дык давай паспім крышку.

Яна пакрыўдзілася і на некаторы час змоўкла. Але потым хітранька паглядзела на мяне і сказала:

— А я вам нештачка не раскажу. А яно тут блізенька-

блізенька. Яно ведаеце дзе? — старалася зацікавіць мяне пляменніца.— Зусім, зусім недалёчка. Каля нечай бярозы. Толькі я не скажу дзе...

Мне падумалася, што гэта звычайная дзіцячая хітрасць, і я не звярнула на яе асаблівай увагі.

Дрымота, якая агарнула мяне на вольным лясным паветры, перадалася і Галінцы, і неўзабаве мы абедзве моцна заснулі.

Месяц адпачынку ў вёсцы зблізіў мяне з дзетварой, і ўсе падзеі з жыцця мясцовых жыхароў піянерскага і нават дашкольнага ўзросту былі мне знаёмы. Няйначай як праз маю даступную пляменніцу ўсім стала вядома, што ў маім чамадане ёсць добрыя два дзесяткі цікавых кніжак, і ўжо назаўтра пасля майго прыезду ў нас на ганку тоўпіліся госці.

— Ты ідзі першы!

— Не, ты ідзі...— чулася з двара.

Гэта былі першыя чытачы маёй дарожнай бібліятэкі. З таго дня і пачалася наша цесная дружба.

...Трэцяе ліпеня якраз супала з нядзеляй — выхадным днём у калгасе. Свята адчувалася па ўсім: былі вывешаны чырвоныя сцягі на хатах, чыста падмецены двары і вуліцы.

У калгасным клубе чакалі лектара з раёна, а потым павінен быў паказаць пастаноўку мясцовы калгасны драмгурток.

Моладзь была занята падрыхтоўкай да вечара. Людзі старэйшага ўзросту сядзелі на лаўках, гаманілі аб надзённых клопатах, успаміналі пра даўно адгрымеўшыя баі.

Не відаць было ў клубе толькі дзетвары. Вучні сабраліся ў школе, там у іх рыхтавалася нешта сваё, нікому пакуль што не вядомае.

Надвячоркам да мяне прымчаўся на веласіпедзе ганец, Міша Прахарчук, наш сусед.

— Вера Аляксандраўна! Піянеры нашага атрада запрашаюць вас на піянерскі касцёр, прысвечаны дню вызвалення Беларусі ад фашыстаў, а таксама памяці піянера нашай школы Васілька... Касцёр будзе каля Васільковай бярозы...

Міша стаяў перада мной у такой урачыстай позе, у такой чысценькай кашулі і такім гладка адпрасаваным піянерскім гальштуку, што я была расчулена.

А як ён добра, урачыста і без запінкі гаварыў!

Я падзякавала і сказала, што абавязкова прыйду, толькі, куды трэба ісці, не ведаю.

— Вас правядуць,— сказаў Міша і спрытна ўскочыў на веласіпед. Пузырылася на ветры яго белая кашуля, адлятаў назад, абвіваючы шыю, чырвоны гальштук.

І тут упершыню Міша ўявіўся мне зусім іншым, чым даводзілася бачыць яго амаль штодня. Я падумала, што з яго, няўрымслівага і напорыстага завадатара ўсіх благіх і добрых спраў, а часам, калі ўсё непатрэбнае адсеецца, а добрае адшліфуецца, напэўна вырасце цудоўны чалавек, выдатны камандзір вялікіх новых спраў...

Мая непаседа-пляменніца доўга не з'яўлялася дадому, а потым раптоўна ўварвалася ў хату і пачала прыспешваць мяне:

— Хутчэй, хутчэй, хутка ўсе пойдуць.

І, здавалася, усё на ёй хвалявалася: адпрасаваны шаўковы гальштук, белая вышытая блузка і нават шырокія блакітныя стужкі ў светлых косах.

Мы пайшлі.

Шчыльным строем, пад барабанны бой, амаль па-вайсковаму адбіваючы крок, па лясной дарозе ішлі піянеры да Васількавай бярозы.

Бяроза стаяла на вясёлай палянцы, акружанай тым самым лесам, дзе зусім нядаўна мы з Галінай збіралі суніцы і дзе яна так і не расказала мне нейкую цікавую гісторыю.

Яшчэ здалёк відаць было, як трапятаў у паветры невялічкі сцяжок на самай верхавіне бярозы.

— Васількоў гальштук,— паказаўшы на бярозу, шапнула мне Галінка,— ён захоўваецца ў нашым школьным музеі.

Строй піянераў спыніўся і замёр на месцы. Пад гукі горна старшы піянерважаты школы выйшаў з калоны і, аддаўшы салют, звонка і ўрачыста загадаў узняць піянерскі сцяг.

Па яго камандзе, строга і ўрачыста, са строю выйшлі наперад Міша Прахарчук і мая Галінка. Хвіліна, другая — і шырокае чырвонае палотнішча ўзмыла ў неба, завіхрылася і павольна паплыло ўгору, да маленькага трапяткога сцяжка — Васількавага гальштука.

* * *

Калісьці на гэтай палянцы стаяла хата старога лесніка. Жыў стары ўдваіх з жонкаю, ветлівай, добрай жанчынай. Дзеці іх даўно вывучыліся, выйшлі ў людзі і раз'ехаліся па свеце. І старыя жылі, можна сказаць, зусім адзінока — толькі і суседства было, што лес...

І вось напаткала іх няшчасце: памерла самая малодшая дачка, што жыла ў горадзе. Пасля яе застаўся маленькі Васілёк. Старыя пачалі пісаць, упрошваць яго бацьку: прывязі ды прывязі да нас унука. І табе аднаму з ім, і яму з табою без маткі цяжка ў горадзе. А мы, старыя, выгадуем табе сына, ні ў чым крыўды ён не зазнае. І бацька згадзіўся. Прывёз да дзеда з бабай свайго Васілька. Раны ў сэрцы дзіцяці хутка гояцца. І ўжо на другі дзень, пасля таго як хлопчык пасяліўся ў лясной хатцы, па ўсім лесніковым двары звінеў яго смех і песні. Усміхаліся і старыя дзед з бабай, радуючыся на ўнука.

Хлопчыку ўсё тут было нова і цікава. То раптам дзенебудзь між дзвюх ялін знойдзе рудагаловы, баравік, то натрапіць на вожыка, то ўбачыць над самай галавой рыжую вавёрку. А колькі птушак спявала ў лесе! І колькі гняздзечкаў з птушынымі яйкамі ведаў дзед!

Кожную вясну прылятала кукаваць у дзедаў сад зязюля.

Схаваецца недзе ў галлі старой бярозы і лічыць, і лічыць гады Васількавага жыцця:

— Ку-ку,— раз...

— Ку-ку,— два...

— Ку-ку,— тры...

Лічыць бабуля, а ўслед за ёй і Васілёк. А зязюля добрая, не шкадуе Васільку гадоў, зычыць іх яму яшчэ і яшчэ...

— Лічы сам, стамілася я,— кажа бабуля.

І Васілёк шчыра стараецца:

— Пяцьдзесят восем, пяцьдзесят дзевяць, пяцьдзесят дзесяць, шэсцьдзесят... Не, не так, спачатку: пяцьдзесят восем... Баба, мне зязюля пракукавала сто гадоў жыць,— прыбягаў да бабкі шчаслівы Васілёк.

— Бач, які прагны,— смяялася бабуля, полючы грады.— Ці не замнога будзе?

— Не замнога,— упэўнена адказваў хлопчык і імчаўся да сваіх неадкладных спраў, якіх у яго, напэўна, хапіла б на ўсе сто гадоў жыцця.

— Ну то і добра, жыві сабе наздароўе, чаму ж табе не жыць,— ужо наўздагон яму гаварыла бабка і тут жа цяжка ўздыхала: успамінала сваю малодшую дачку, Васількову маці.

...Вайна прыйшла сюды, калі Васілёк скончыў чатыры класы, перайшоў у пяты і ўжо даўно з гонарам насіў на шыі чырвоны піянерскі гальштук.

Аднойчы вечарам, гэта было ўжо ўвосень, у леснікову хату наведаліся партызаны.

Дзед хварэў, бабка баялася нават выходзіць з дому: так лютавалі ў вёсцы гітлераўцы. А ў партызан было заданне — тэрмінова даведацца, колькі фашыстаў у вёсцы і якая ў іх зброя. Самі яны зайсці ў вёску, вядома, не маглі, у іх яшчэ не было там сувязі.

Высокі маўклівы партызан у чорным кажушку, сабраўся быў ужо ісці з хаты, але другі, маладзейшы, светлавалосы, з вясёлымі вачыма, відаць, старшы, на хвілінку затрымаўся каля стала, аб нечым думаючы.

— Я схаджу ў вёску,— пачуўся з печы тонкі галасок.

Партызаны, здзіўленыя — пры святле газоўкі яны нават не заўважылі Васілька,— павярнулі галовы.

— Ану, пакажыся, арол,— з цікаўнасцю заглянуў на печ маладзейшы.

Васілёк злез на падлогу.

— Лепшага, брат, пасланца нам і не трэба, вось толькі ці здолееш...

— Яшчэ як здолею! Мяне там усе хлопцы ведаюць, я ж там вучыўся. Пайду быццам пра школу даведацца, а сам буду распытваць, у каго немцы і колькі. Хлопцам пра вас нічога не буду гаварыць. А яны ўсё ведаюць: і колькі кулямётаў, і стрэльбаў...

— Разведчык з цябе быццам нядрэнны, не ведаю толькі, як яно на справе будзе,— пільна гледзячы ў вочы Васільку, раздумліва прамовіў партызан.

— Не варта, Пятро, уцягваць хлапчука ў такую справу. Малы яшчэ. Наўрад ці здолее,— ціха заўважыў яго таварыш.

— А калі паспрабуем?

— Паспрабуйце,— горача папрасіў Васілёк, звяртаючыся да камандзіра.

— Глядзі, арол, сцеражыся,— пяшчотна пагладзіў яго стрыжаную галаву партызан і, як дарэсламу, падаючы руку на развітанне, загадаў: — Заўтра ў дзевяць гадзін вечара... Разумееш? Завыеш тры разы воўкам і ў дупло

бярозы пакладзеш паперку: колькі вінтовак, кулямётаў... Бывай, салдат, нам час ісці.

І яны пайшлі.

А назаўтра на досвітку паклала бабка Васільку ў кішэню кавалак хлеба і правяла яго аж на ўскрай лесу.

...З таго часу воўчае выццё чулася каля леснікова сядзібы ўсё часцей і часцей.

А вясной там лічыла гады нечага жыцця зязюля. Прачнецца ўночы і раптам кіне па ўсім лесе соннае, зычлівае — «Ку-ку! ку-ку!» і зноў змоўкне, засне.

Усе партызаны ведалі маленькага сувязнога. Ведалі яго і свае людзі ва ўсіх навакольных вёсках і, калі бачылі на вуліцы худзенькага белагаловага хлопчыка, клікалі кожны ў сваю хату: зайдзі, пагрэйся, дзіцятка... Ні аб чым не пыталіся, а што ведалі і што трэба было ведаць гэтаму хлопчыку, самі расказвалі.

Так ён і ваяваў, непрыкметны маленькі салдат.

...Трапіў Васілёк у бяду перад самым вызваленнем. П'яныя фашысцкія салдаты злавілі хлопчыка ў лесе і пачалі здзекавацца з яго. Загадвалі яму піць віно, скакаць і спяваць. І ён усё рабіў, бо вяртаўся з задання і ўночы павінен быў з двума зязюлінымі «ку-ку» перадаць партызанам сабраныя звесткі... Потым фашысты загадалі яму распрануцца. Гэтага ён зрабіць не мог. Тады яны самі здзерлі з яго старэнькую вопратку. І тады з грудзей хлопчыка адарвалася і ўпала на зямлю нешта чырвонае-чырвонае... Фашысты тапталі яго бруднымі ботамі, а яно ўсё роўна пунсавела жывой чалавечай крывёю...

Гэта быў піянерскі гальштук Васілька.

Ка́ты задушылі хлопчыка гэтым гальштукам, а потым ім жа прывязалі Васілька да старой бярозы, якой давяраў ён свае партызанскія тайны.

Загінулі ў той дзень і Васількові дзед і баба, была спалена і леснікова хата.

А ўночы, нячутна зняўшы нямецкіх вартавых, партызаны зайшлі ў сяло і акружылі школу, занятую фашысцкімі салдатамі пад казарму.

Пачулася кароткая каманда: «За смерць піянера-героя па фашыстах — агонь!»

Некалькі кулямётных чэргаў адна за другой разарвалі начную ціш. Кінутыя ў вокны ручныя гранаты дакончылі справу...



Успаміны аб героях Вялікай Айчыннай вайны закончыў стары калгаснік, былы партызан.

— А цяпер, таварышы маладая гвардыя,— звярнуўся ён да піянераў,— давайце ўсе разам спяём песню, з якой ішлі на бой і заўсёды перамагалі ворага нашы савецкія патрыёты.

І ён заспяваў моцным нізкім голасам:

Мы — маладая гвардыя
Рабочых і сялян!..

Песню падхапілі дзесяткі звонкіх дзіцячых галасоў.

Цямнела. Дагараў на лясной палянцы піянерскі касцёр. Зноў пад барабанны бой строіліся і роўнымі радамі праходзілі піянеры, салютуючы на развітанне маленькаму сцяжку на верхавіне бярозы.

Мы — маладая гвардыя
Рабочых і сялян!..

Далёка па лесе рэха разносіла словы песні. І ўслед за ёю імкнуўся маленькі чырвоны сцяжок — Васількоў піянерскі гальштук.

*1953*

## ПАРТЫЗАНКА КНІГА

Так звалі маладую гнядую кабылу. Кніга — таму што на лбе ў яе была белая плямка, якраз як разгорнутая кніга. Ну, а чаму партызанка — пра гэта вы, мусіць, ужо самі здагадаліся.

Трапіла яна ў партызаны пры наступных акалічнасцях. Яшчэ ў першыя месяцы вайны Кнігу параніла ў нагу асколкам гранаты. Рана была цяжкая, але гаспадар Кнігі, малады кавалерыст, пашкадаваў прыстрэліць кабылу і пакінуў яе на догляд старому селяніну з вёскі, за якую ішоў бой з фашыстамі.

— Не магу, рука не паднімаецца... Яна ж у мяне ўсё роўна як чалавек, разумее кожнае слова...— журботна гаварыў салдат селяніну, гладзячы панура апушчаную гала-

ву Кнігі.— Даглядай яе, дзядзька. Можа, і паправіцца. Тады яна яшчэ паслужыць...

Кніга слухала свайго гаспадара, пяшчотна церлася аб яго руку мяккай аксамітнай пысай, і ў яе разумных, бліскучых, як каштан, вачах чарнеў невыказны сум.

— Будзь жывы і здаровы сам, сынок. А за кабылу не турбуйся. Дагледжу,— абнадзеіў кавалерыста селянін.

— Дзякуй, бацька,— моцна пацісnуў яму руку салдат і пабег даганяць таварышаў.

З таго дня Кніга засталася ў новага гаспадара. І трэба сказаць, ёй пашанцавала. Быў той селянін чалавек добры і спагадлівы, лячыў і даглядаў параненую Кнігу па шчырасці. Кніга неўзабаве акрыяла, паправілася — толькі заднюю правую нагу ўсё падцягвала. Але і гэта прайшло да восені.

А ўвосень, неяк глухой дажджлівай ноччу, у акно да яе новага гаспадара пастукалі партызаны. Аднаму з іх трэба было як найхутчэй дабрацца да суседняй вёскі — такое ён меў заданне. Вось тады той чалавек і вывеў з хлява Кнігу... Кніга тонка заржала, ударыла капытом зямлю, але, адчуўшы, што повад трымае цвёрдая рука конніка, паслухмяна рушыла з двара.

З тае ночы Кніга і стала баявой партызанкай. Была яна кабыла надзвычай разумная, аднак і нораў мела! Не ўпадабае седака — і тады хоць ты забі яе: злосна ржэ і грызе цуглі, становіцца на дыбкі і толькі круціцца ў млынка на задніх нагах. А то часам, калі ў паходзе трэба пераходзіць брод,— возьме ды раптам ляжа ў ваду...

Некаторыя гарачыя хлопцы не любілі Кнігу, і ёй не раз ад іх даставалася. Але Кніга не жадала скарыцца. Яна толькі раздзімала ноздры і біла капытом зямлю.

Затое якой рахманай і паслухмянай рабілася Кніга ў руках таго, хто ўмеў прылашчыць яе. Так, невядома па якіх прыкметах, вызначала Кніга з усяго атрада партызанскую сувязную Таню. У Тані была тоўстая, да каленяў, цёмная каса (у гэтую касу не раз закручвала яна гранаты-«лімонкі» і так праносіла іх праз нямецкія і паліцэйскія пасты) і вясёлыя шэрыя вочы. Калі Таня смяялася, дык смех яе гучаў, нібы сярэбраны званочак. Кніга, калі яна была ў гэты час дзе паблізу, натапырвала свае кароткія вострыя вушы і прыслухоўвалася. А потым сама тоненька ржала: мусіць, выказвала сваё задавальненне.

Сябравалі яны шчыра і самаадданa. Кніга ўмела, калі трэба было замаскіравацца, легчы на зямлю і ляжаць не-

рухома да таго часу, пакуль ёй не дазвалялі ўстаць. Яна ўмела ступаць, як кот, зусім нячутна, і бег яе быў лёгкі і імклівы. Не адзін раз выносіла Кніга бясстрашную партызанку з-пад варожых куль. Затое і сама Таня не раз аддавала сваёй баявой сяброўцы апошнюю лусту хлеба...

Вось што здарылася з імі аднойчы.

Лясной дарогай Таня вярталася верхам на Кнізе з баявога задання. Стомленая бяссоннай ноччу, яна непрыкметна задрамала. Да лагера заставалася яшчэ некалькі кіламетраў, але разумная Кніга ведала ўсе партызанскія сцяжынкі, і можна было не баяцца, што яна не знойдзе дарогі... Таня прачнулася ад таго, што Кніга раптам спынілася і застыла на месцы як укопаная. Таня кранула кабылу стрэмем — у адказ Кніга толькі павяла натапыранымі вушамі. Таня пацягнула за повад — Кніга зноў не кранулася з месца, нават галавы не павярнула, толькі нецярпліва пераступіла з нагі на нагу, нібы папрасіла: «Не перашкаджай...»

«Нешта не так»,— насцярожанае хваляванне Кнігі перадалося і Тані. Яна перагнулася з сядла і пяшчотна пагладзіла морду кабылы.

Кніга зноў нервова ўздрыгнула, зноў застрыгла вушамі, да нечага пільна прыслухоўваючыся. Тады Таня саскочыла з сядла на зямлю і падалася ў бок кустоў, куды, не адрываючыся, глядзела Кніга. Кабыла таксама зрабіла некалькі крокаў услед за ёю. Рассоўваючы кусты, Таня пайшла далей. Кніга не адставала ад яе. Хваляванне Тані ўсё расло. Сон як рукою зняло. Цяпер і яна ўжо чула нейкі змешаны востры пах: пах гарэлай тканіны, бензіну і яшчэ чагосьці.

Намацаўшы ў кішэні ватоўкі наган, Таня асцярожна рассоўвала кусты і падавалася ўсё далей і далей ад дарогі. Ступаючы гэтак жа бясшумна, як і Таня, Кніга не адставала ад яе ні на крок. Раптам да Тані даляцеў слабы чалавечы стогн. Ад нечаканасці яна падалася назад. Стогн паўтарыўся. Слоў разабраць было нельга. Відаць, чалавек вельмі аслабеў. Можа, ён клікаў на дапамогу, можа, паміраў і прасіў піць...

Авалодаўшы сабой, Таня шэптам загадала кабыле:

— Кніга, стаяць!

А сама, узяўшы ў правую руку наган, асцярожна рушыла ў той бок, адкуль чуліся стогны.

Яшчэ куст кашлатай вербалозіны, яшчэ куст — і Таня замерла на месцы. На невялічкай, з хату велічынёй, па-

лянцы дыміліся абломкі самалёта. І сярод гэтых абломкаў ляжаў чалавек — лётчык... Разважаць не было калі, і Таня кінулася да яго. Гэта быў наш, савецкі лётчык.

Адзежа на лётчыку сатлела. Ад апёкаў і страшэннага болю ён страціў прытомнасць. Таня паспрабавала падняць яго і пасадзіць, але ён толькі працягла застагнаў і зноў, як нежывы, асунуўся на зямлю. Трэба было нешта рабіць, трэба было як мага хутчэй ратаваць яго...

І Таня ўспомніла пра сваю верную Кнігу. Разумная жывёліна, пачуўшы голас гаспадыні, у момант апынулася ля яе.

— Кніжачка, родная, дапамагай!..

Кабыла прыслухоўвалася да трывожнага Танінага голасу і паслухмяна рабіла ўсё, што ёй загадвала Таня. Вось яна асцярожна апусцілася на зямлю. Асцярожна павярнулася спіной да лётчыка, прыўзняла галаву — каб Таня магла прывязаць да яе шыі рукі лётчыка... Потым Кніга асцярожна паднялася з зямлі і пачакала, пакуль сядзе на яе сама дзяўчына. Потым гэтак жа асцярожна яны рушылі ў атрад.

З партызанскага атрада лётчыка адправілі на лячэнне ў шпіталь, на Вялікую зямлю.

...Пасля вайны лётчык выпадкова сустрэўся з Таняй на Тушынскім аэрадроме ў Маскве. Ён павінен быў весці самалёт, на якім Таня вярталася дадому з канферэнцыі прыхільнікаў міру. Лётчык пазнаў Таню, вельмі ўзрадаваўся і павёў яе знаёміцца са сваімі таварышамі.

— Гэта партызанка Тацяна... Таня. Яна выратавала мяне ад смерці,— расказваў ён лётчыкам.

— Не зусім я. Хутчэй выратавала вас Кніга. Гэта яна пачула...

— Праўда, праўда, і Кніга! Дзе яна цяпер — не ведаеце?

— Як жа. Ведаю. Адразу пасля злучэння з Чырвонай Арміяй мы аддалі яе калгаснікам. І цяпер яна добрасумленна працуе ў калгасе...

Такая вось гісторыя партызанкі Кнігі.

*1962*

## «Я — УНУК КАПІТАНА...»

Худы і загарэлы, у стракатай цюбецейцы і кароткіх штоніках, Лёнька важна крочыць па набярэжнай. З аднаго боку ён трымаецца за бабуліну руку — бабуля маленькая, круглая, у саламяным капелюшы. З другога боку выступае Лёнькаў дзед. Высокі, сухі, у франтаватай чорнай форме марскога афіцэра, з корцікам на баку, з залатым якарам на белай фуражцы, з трыма буйнымі зоркамі на пагонах. Капітан першага рангу... Можна лопнуць ад зайздрасці!

А Лёнька нават не азіраецца на наш цеплаход, на нашу палубу, на нас з Алікам.

— Ну што,— кажу я Аліку,— бачыў, які Лёнеў дзед? А ты не верыў.

— Падумаеш, мой тата...

Я ведаю, што скажа далей Алік. Ён абавязкова пачне хваліцца, што яго тата капітан цеплахода. І што ён, Алік, са сваім татам, можа, сто разоў хадзіў (Алік не памыліцца: ён не скажа, як недасведчаны ў марскіх справах чалавек,— плаваў ці, яшчэ горш, ездзіў. Алік скажа «хадзіў»), хадзіў і па Волзе з усімі яе цяперашнімі морамі, і па Волга-Данскому каналу, і заходзіў мо ў сто гарадоў.

— Тата — гэта не дзіўна. А вось дзед!

Дарослы чалавек, я разумею, што гэта кепска, што гэта зусім непедагагічна вось так не даць чалавеку выказацца і, можна сказаць, абарваць яго.

— Падумаеш!..— не хоча адразу здавацца Алік.

— Тата — што. А вось дзед, ды яшчэ такі, як у Лёні,— вось гэта марак! Вось гэта капітан!

Апошняе я кажу наўздагад, бо зусім не ўпэўнена, ці вадзіў Лёнеў дзед у плаванне караблі, як водзіць іх Алікаў тата. І ўсё роўна кажу так.

Аліку гэта не падабаецца, і ён наровіць як мага хутчэй адвязацца ад мяне.

— Падумаеш! — зняважліва кідае ён зноў, мільгаючы над трапам тугімі лытачкамі. Дасягнуўшы верхняй палубы, ён не звешваецца, як звычайна, уніз круглай стрыжанай галавой, не махае рукой на развітанне, не запрашае ў госці.

Усё зразумела: пакрыўдзіўся.

Ах, Алік, Алік...

Ах, Лёня, Лёня...

І мне раптам робіцца лёгка і весела на сэрцы. Як добра, што ў Лёні ёсць такі дзед!

* * *

Паказаліся яны на палубе ўжо недзе пад Углічам, калі ўсе пасажыры выйшлі падзівіцца на званіцу, што высілася над хвалямі Калязінскага вадасховішча. Не так даўно яшчэ званіца гэта ўзвышалася на плошчы горада Калязіна, а зараз яна служыць маяком для капітанаў.

Першым вынырнуў аднекуль круглагаловы, ружовашчокі здаравяка Алік. Адно задавальненне было назіраць за яго цікаўным кірпатым носам.

— Ты — чый?

— Я сын капітана! — задраўся ўгару кірпаты нос.

— Ну-у!..

А за Алікам неўзабаве вышмыгнуў і худы, цыбаты Лёня. Першы час ён усё не адыходзіў ад маці — як дзяўчынка, невысокай, тоненькай жанчыны з цяжкім вузлом смаляных валасоў. Спачатку яны доўга стаялі на носе цеплахода, захінаючыся ад тугога сутрэчнага ветру матчыным плашчом. А потым перайшлі на карму, узняліся на верхнюю палубу. Па выразу іх захопленых твараў відаць было, што ў падарожжах яны навічкі, што і сам цеплаход для іх — навіна, якой дагэтуль абое яны ні разу не стрэчалі.

Назаўтра прайшоў дождж, і палуба зрабілася слізкая, як каток. Хлапчукі гэта ўраз ацанілі і ўдвух ужо каталіся на каньках...

Алік і сапраўды быў сынам капітана нашага цеплахода і капітаншы, маладой распаўнелай жанчыны, якая рэдка калі паказвалася са сваёй капітанскай каюты.

А Лёня... Знаёмыя запэўнілі дома яго маці, што «ўціснуць» хлапчука на цеплаход будзе ўсё роўна, што два разы плюнуць. І яна адважылася і ўзяла сына з сабою, хоць у пуцёўцы чорным па беламу было напісана: «Дзецям да шаснаццаці год падарожжа на цеплаходзе не дазваляецца». І нацярпелася, вядома, гора. Пры пасадцы ёй прапанавалі або пакінуць сына, калі ёсць сваякі ці знаёмыя ў Маскве, або самой адвезці яго самалётам дадому і потым даганяць цеплаход. Ні таго ні другога зрабіць яна не магла. І яна ўмаліла капітана дазво-

ліць ёй узяць сына з сабой, паабяцаўшы, што тут жа адправіць тэлеграму і здасць яго сваім бацькам у Саратаве. На тым і парашылі.

Хлапчукі неўзабаве пасябравалі і былі неразлучныя.

Як капітанскі сын Алік адчуваў сябе на прывілеяваным становішчы. Ён быў на цеплаходзе, і асабліва сярод каманды, сваім чалавекам і таму вадзіў Лёню — навічка ў падарожных справах — па ўсіх закавулках цеплахода. Спускаўся з ім у трум і, з дазволу старэйшага механіка, спускаўся нават у машыннае аддзяленне. Аднак там, у машынным, ад грому і грукату дзівосных машын, якія рухаліся і рабілі нешта ўсе адразу, Лёня толькі глух і нічога не мог ні зразумець, ні адрозніць. Хлапчукі не раз заглядвалі і ў капітанскую рубку. І там, зусім як і яго бацька капітан, як і старпом, Алік камандаваў сам сабою: «Права руля!», «Лева руля!», «Поўны ўперад!»

— Вось што, браце,— звычайна казаў Алікаў бацька — высокі светлы мужчына ў сіняй форме капітана-рачніка,— давай-ка ты лепей поўны назад.

Лёня спачатку пабойваўся капітана і ўсёй каманды цеплахода, аднак, хутка асвойтаўшыся і адчуўшы, што капітан чалавек нязлосны, таксама наравіў кожны раз патрымацца за штурвал.

— Чаму гэта ўсюды стрэлкі і стрэлкі? — пытаўся ён.

— А гэта, брат, усё разумныя прыборы, якія паказваюць, які трымаем курс, з якой хуткасцю ідзём. Паказваюць, як машыннае аддзяленне працуе... Ты не быў у машынным?

— Быў.

— Ну і як?

— Там вельмі горача.

— Гм... Заўважыў ты, брат, правільна. Што гóрача — то горача... Ну, а як наконт машын — разабраўся?

— Усе яны вельмі грукаюць.

— І гэта, брат, верна. Грукаюць дык грукаюць... Ну, ладна, як здам вахту — пойдзем разам паглядзім што да чаго.

І капітан выконваў сваё абяцанне: здаўшы вахту, сам вадзіў хлопцаў у машыннае аддзяленне і тлумачыў ім «што да чаго».

Неяк у час адной такой сур'ёзнай мужчынскай гутаркі капітан спытаў у Лёнькі:

— Ну як, дадому, да бацькі, вернешся ўжо марakом?

Лёнька пачырванеў, неяк у момант сціснуўся адразу і нічога не адказаў.

— Бацька, кажу, здзівіцца? Кім ён працуе, твой бацька?

— А ў мяне няма...

— Ну-у...— адразу асекся і неяк няпэўна працягнуў капітан.— Даруй, брат...

— А што, твой бацька пакінуў цябе? — тут жа рашыў высветліць пытанне Алік.

— Не...— панурыўся Лёнька, і ў вачах яго заблішчалі слёзы.

— Ну, гэта не твая справа,— паспяшыў перамяніць курс гутаркі капітан, аднак Алік не зразумеў бацьку.

— Дык чаму ж яго няма ў цябе? Памёр?

— Алік! — прыкрыкнуў на сына капітан.

— Не памёр...— І, не сказаўшы больш ні слова, Лёнька бягом кінуўся ў сваю каюту да маці.

— Ну, і лапух, брат, ты... Нічога ў цябе няма вось тут — у машынным аддзяленні...— зняважліва пастукаў сына па лбе капітан і, не сказаўшы больш ні слова, нездаволены падаўся да сябе на мосцік.

...Ніхто не ведае, пра што была гутарка ў Лёнькі з маці, толькі пасля вячэры — звычайна ў гэты час гулялі яны ўдваіх на верхняй палубе — яны не паказаліся з каюты. Не відно было іх і назаўтра.

Пад вечар стрэўся мне пануранці Алік.

— Дзе ж твой прыяцель?

— Сам не ведаю.

— Як жа так?

— Не ведаю... Я сказаў. А ён пабег...

— Ну, калі сказаў нядобра, дык папрасі прабачэння, і ўсё тут будзе!

— Я не хацеў нядобра...

— Здараецца і так, што не хацеў.

— Я пайду?! — адразу неяк павесялеўшы, ні то запытаўся, ні то параіўся са мною Алік.

— Ну, вядома!

І праз паўгадзіны ў іх ужо быў ранейшы мір і згода. Яны ўжо сядзелі ў капітанскай каюце — галава ў галаву — каля расчыненага акна і горача нешта абмяркоўвалі. Я таксама сядзела на палубе, непадалёку ад капітанскай каюты.

— А мой дзядуля капітан!.. Я ўнук капітана...— данёсся да мяне ўсхваляваны голас Лёнькі.

Алік адказаў тонам чалавека, якому вядома ўсё на свеце:

— Дзядулі не бываюць капітанамі.

— А вось і бываюць!.. Мой дзядуля... Чэснае акцябрацкае.

Алік быў непахісны:

— Спытай у майго таты!

— А можа, твой тата і не ведае...— Чалавек па натуры мяккі і тактоўны, Лёнька не мог заявіць вось гэтак жа, безапеляцыйна, як Алік, што ў такім выпадку тата яго нічога не разумее.

— Не ведае!.. Мой тата ўсё ведае! Думаеш, як у цябе няма таты...

Падслухоўваць чужую гутарку брыдка, нядобра, несумленна. Я гэта ведала. І ўсё ж я не вытрымала:

— Лёня! Ідзі сюды!

Ён не пабег, як учора. Ён толькі плячук прыўзняў, намерваючыся далей бараніцца гэтым плечуком. Хавацца і прыкідвацца, што я нічога не чула, я не магла.

— Дзядулі могуць... Дзядулі бываюць капітанамі! Я ведаю!

Лёнька прыпыніў крок і пазіраў на мяне з недавер'ем.

— А капітаны, якія ў вайну тапілі фашысцкія караблі... А капітаны дальняга плавання!.. Яны плавалі і сто і дзвесце гадоў назад... Дык чаму дзядулі не могуць быць капітанамі? Могуць дзядулі быць капітанамі!

Гэта была цэлая прамова. Без сувязі, без канкрэтных імён і гістарычных прыкладаў... І ўсё роўна гэта была прамова ў абарону дзядуль-капітанаў.

І Лёнька расцвіў! Лёнька паверыў мне. Паверыў, бо я паверыла яму. Бо мы паверылі адно аднаму!

— Ага! — з выглядам пераможцы паглядзеў ён на Аліка.

— Падумаеш!..— Алік быў пераможаны.

...І вось мы прыйшлі ў Саратаў. Цяпер, прыжыўшыся і стаўшы на нашым цеплаходзе сваім чалавекам, Лёнька напэўна мог бы плысці да самай Астрахані. Але справа была зроблена, тэлеграма ў Саратаў была адпраўлена яшчэ з Масквы, і бабуля з дзядулем чакалі Лёньку на прыстані.

Худы і загарэлы, у стракатай цюбецейцы і кароткіх штоніках, не азіраючыся, Лёнька важна крочыць па саратаўскай набярэжнай. З аднаго боку ён трымаецца за бабуліну руку. З другога — за дзядулеву.

У дзядулі чорная форма марскога афіцэра. На баку ў дзядулі корцік. На фуражцы — залаты якар. А на залатых пагонах тры вялікія залатыя зоркі — капітан першага рангу! Можна лопнуць ад зайздрасці.

А Лёнька нават не азірнецца на наш цеплаход, на нашу палубу, на нас з Алікам.

І мне чамусьці адначасова робіцца і сумна і радасна. Як усё ж добра, што ў Лёнькі ёсць такі дзед!..

*1964*

## ЦЮЛІК

Шаўка не адразу пазнала Вову і Наташу. Як і яе ўласныя сыны, дзеці за год таксама выраслі і змяніліся: зрабіліся высокія і худыя. Шаўка не накінулася на дзяцей з брэхам, як гэта звычайна робяць нявыхаваныя сабакі, не загырчэла на іх, нават вушы не навастрыла.

Шаўка прыветліва замахала хвастом і пачала прынюхвацца, стараючыся прыпомніць, калі і дзе чула яна гэтыя зараз амаль не знаёмыя ёй пахі, якія ішлі ад новых дзіцячых сандаляў. Потым, ласкава ўсміхнуўшыся Вову і Наташы разумнымі жаўтаватымі вачыма, яна няспешна патрухала наперадзе. Яе прыветлівае маханне хвастом і выраз твару нібы гаварылі: «Пакуль я яшчэ не ўспомніла, хто вы, але гэта нічога. Я бачу, што вы неблагія дзеці. Асабліва ты, маленькі гарэза з вясёлымі карымі вачанятамі... Ты, відаць, гэтакі ж свавольнік, як і мае сыны...»

І, каб паказаць свае добрыя адносіны да маленькага госця, Шаўка лізнула гарачым шурпатым языком Вovaву руку.

— Ай! — у захапленні віскнуў Вова і абхапіў Шаўку за галаву.

— Ай! — следам за ім віскнула і Наташа, але ўжо са страху, што Шаўка ўкусіць яе брата.

Шаўка з дакорам зірнула на Наташу і асцярожна дакранулася хвастом да яе сукенкі, быццам папракнула: «А ты вось хоць і вялікая, а ўсё роўна — дзяўчынка. Напалохалася — а чаго?»

Стараючыся па-ранейшаму быць прыветнай і гасціннай, Шаўка бегла на крок спераду, віляючы хвастом і ўвесь час азіраючыся на гасцей.

На ганку, пад старым крэслам, спаў, скруціўшыся ў клубок, на падсцілцы адзін з Шаўчыных сыноў — шэры шчанючок з чорнымі падпалінамі на баках. Ён ці то не прачнуўся, ці то не звярнуў увагі на прыезд новых гасцей, толькі як ляжаў, так і застаўся ляжаць.

Разумеючы, як гэта нядобра і няветліва, і, мабыць, адчуваючы сябе няёмка, Шаўка падышла да сына, лёгенька пацягнула яго зубамі за вуха і сказала толькі — каратка і злосна:

— Гыр!

Шчанючок ускочыў і, спалохана азіраючыся вакол, зашыўся далей у кут за крэсла.

— Цюлік! — у адзін голас закрычалі дзеці.— Які ён зрабіўся вялікі і худы!

— Цюлік, а хто ж яшчэ,— сказаў вартаўнік дзядзька Іван.— Вырасці-то вырас, а розуму не набраўся.— У голасе вартаўніка прагучала шчырае спачуванне.

Нібы зразумеўшы дзядзьку Івана, Шаўка сумотна апусціла галаву і пяшчотна лізнула Цюліка ў нос.

— Ці паверыце, такі палахлівы ўрадзіўся, што проста глядзець на яго шкада. Уяўляеце, пеўня баіцца. Певень яго зусім забівае. У нас там у двары такі генерал са шпорамі пахаджае... Жарабяці баіцца — тое яго аднойчы так убрыкнула, што небарака адляцеў, быццам мячык. Родныя браты і тыя крыўдзяць яго. Вось гэты мой ваўкадаў...— Дзядзька Іван кіўнуў у бок Цюлікавага брата. Той сядзеў воддаль, падцягнуты, злы, з вострымі белымі зубамі ў ружовым роце.

— Нездарма яго Разбоем празвалі. Злосны, як чорт, так і цікуе, каб каго ўхапіць зубамі. Толькі мяне і баіцца. Мы з ім удвох дачу вартуем. До-о-о-бры вартаўнік! Чужога чалавека і блізка не падпусціць. Не ўтрымаеш — на шматкі парве!

— А нас ён таксама парве на шматкі?..— пасунуўся бліжэй да мамы Вова. Ён толькі быў прымерыўся пагладзіць па спіне Разбоя, але той так выразна ашчэрыў свае вострыя зубы, што Вовава рука імгненна апынулася за спіной.

— Ну! — сярдзіта павярнуўся да Разбоя дзядзька Іван.

Разбой падкурчыў хвост, апусціў галаву і неахвотна адышоўся — сеў пад елкаю.

Дзядзька Іван перакінуў цераз плячо паляўнічую стрэльбу.

— Сёння вы тут уладкоўвайцеся,— сказаў ён гасцям, а заўтра я вам пакажу, дзе ў нас баравікі растуць. Сёлета іх — хоць касу закладай...

Потым ён свіснуў Разбоя і пайшоў з ім сваёй дарогаю.

Пакуль дарослыя насілі ў пакой рэчы і ўладкоўваліся, дзеці тым часам працягвалі знаёмства з Шаўкаю і яе сынамі.

Прыбег каржакаваты і шыракаплечы, як маці, рыжы Жулік. Ён адразу ж безцырымонна абнюхаў Наташыну і Вовaву адзежу і лізнуў пячэнне, якое Вова трымаў у руцэ. Потым Жулік з задавальненнем праглынуў гэтае пячэнне і спыніўся перад дзецьмі з выглядам бессаромнага папрашайкі: «А што вы яшчэ мне дасцё?»

У Жуліка не было ніякага гонару. Ён быў абжора і гультай. Цэлыя дні пралежваў ён на ганку сталовай, дзе харчаваліся ўсе, хто жыў у гэтым лясным доме адпачынку. Хітруючы, Жулік першым атрымліваў усе самыя смачныя кавалкі і з кожным днём тлусцеў і рабіўся зусім безнадзейным гультаём.

Але, як і ўсякі праныра, тоўсты Жулік умеў прыкінуцца вельмі разумным і добрым, у той час, калі яго браты, Цюлік і Разбой, рабілі самыя сапраўдныя глупствы. Адзін немаведама чаго палохаўся людзей і ўцякаў ад іх, а другі, злуючы, што дачнікі цацкаюцца з яго братам, гыркаў на іх... Любіла Жуліка і песціла больш, чым астатніх сыноў, і маці, Шаўка. Гэты гультай і з ёю ўмеў быць ласкавым і пяшчотным. А якая маці ўтрывае ад гэтага?

Разбой меў адважны і незалежны нораў. Пра яго Шаўка не клапацілася. Свежую костку ён умеў здабыць сабе і ў бойцы. А вось Цюлік — па ім заўсёды балела сэрца ў Шаўкі. Ён і рос такі худы і няўдалы таму, што не ўмеў абараніць сябе. Ужо які быў гультай і абібок Жулік, а і той нараўіў заўсёды адабраць з зубоў Цюліка хоць чэрствы кавалак хлеба. Абы адабраць.

Што ж датычыць Разбоя, дык ён, як і кожны, хто мае сілу і моцныя зубы, глядзеў на Цюліка, як на нікчэмнасць, і пры кожным зручным выпадку гатовы быў вырваць хоць шмат шэрсці...

Маці ўсё гэта бачыла і разумела. Застаўшыся з Цюлікам удваіх, яна лізала яго бяскрыўдную і заўсёды сумную галаву і бедавала: «Чаму ты не такі, як твае браты?.. Усіх баішся, нічога сам не здолееш. Цяжка табе будзе жыць на свеце, дурненькі ты мой...»

Няўклюднага і палахлівага Цюліка недалюблівалі і дарослыя дачнікі.

— На і табе, неўдаль...— кідалі яны кавалак чэрствага хлеба Цюліку.

А ён звычайна сядзеў дзе-небудзь паводдаль, пад кустом арэшыны, і толькі палахліва назіраў, што адбывалася на ганку, дзе ляжаў і аблізваўся пасля смачнай ежы яго брат, ласкавы хітрун Жулік...

Калі ў дом адпачынку прыехалі дзеці, жыццё Цюліка перамянілася. Дзеці самі не елі, і ўсё самае смачненькае пакідалі яму. Пры дзецях не асмельваліся крыўдзіць Цюліка і яго браты. Цяпер і сам ён адчуў сябе смялейшым.

Напэўна, каб аддзячыць за гэта, кожны раз, калі дзеці хадзілі ў грыбы, Шаўка кароткім брэхам клікала Цюліка і заўсёды бегла следам за імі. Часам увязваўся і цягнуўся ўхваста за імі таксама і Жулік. Але спёка і лянота хутка вярталі яго назад да сталовай, у цянёк.

Здаралася, што нават Разбой пакідаў свайго гаспадара, дзядзьку Івана, і таксама бег услед за маткаю і братам.

Шаўку радавалі яе дзеці, і, нешта загадаўшы ім на сваёй, сабачай мове, яна кідалася подбежкам па лесе размяць свае старыя ногі, панюхаць незнаёмыя сляды, папалохаць дурных птушанят. Аднак далёка ад дачы яна і сама не адыходзіла, і сынам сваім не дазваляла. Нібы ведала, што дзяцей адных заводзіць у лес небяспечна — могуць зблудзіць ці чаго-небудзь напалохацца.

Аднойчы пасля снядання, дарэмна патраціўшы час на пошукі Цюліка — гэтага недарэку ніколі нельга было накарміць у час, ніколі ён не спяшаўся да яды,— дзеці ўзялі свае кошыкі і пайшлі ў грыбы.

— Шаўка! Цюлік! — паклікалі Вова і Наташа.

Шаўка дагнала іх на сцяжынцы, забегла наперад і спынілася, нібы паказваючы, што далей яна ісці не можа.

— Шаўка, а дзе Цюлік? — спыталі дзеці.

Шаўка заклапочана азірнулася навокал, быццам паказвала, што яна і сама не ведае, дзе Цюлік, што яна шукала яго ўсю раніцу і не знайшла.

— Хадзем, Шава! — лёгенька штурхнуў яе кошыкам Вова.

— За намі, Шаўка! — загадала ёй і Наташа.

Шаўка ступіла следам за дзецьмі некалькі крокаў і спынілася, занепакоеная чымсьці, увесь час трывожна азіраючыся.

— Каму я кажу! — прыкрыкнула на яе Наташа.

Шаўка зноў прабегла некалькі крокаў і зноў спынілася, стала да нечага прыслухоўвацца, навастрыўшы вушы.

— Ну!..

Але Шаўка не паслухала дзяцей. Пачакаўшы, пакуль Наташа і Вова схаваюцца за павароткаю, яна хуценька збочыла ў лес і пабегла, прынюхваючыся да перамешанага паху слядоў сваіх сыноў і нейкіх чужых пахаў. Увесь час яна спынялася, лавіла шматлікія лясныя гукі, імкнулася пачуць хоць якую вестку пра свайго сына.

Шаўка выбегла на дарогу і, прынюхваючыся, пабегла ў бок суседняга сяла. Раніцою тут праехаў воз з коламі, змазанымі дзёгцем. Нядаўна прагналі на пашу статак кароў... А вось чуваць пахі яе сыноў — Разбоя і Жуліка. Сёння яны паспелі ўжо тут прабегчыся.

Не чуваць было толькі слядоў Цюліка.

Ён знік яшчэ з вечара. Цэлы дзень ён бегаў за маткаю, і, каб хоць ненадоўга адчапіцца ад яго, Шаўка незаўважна выбегла на сцежку, па якой пайшлі на рэчку дзеці... Чаму яна так зрабіла — Шаўцы зараз цяжка было зразумець. Яна не падумала пра Цюліка і тады, калі вярнулася з рэчкі. Наспех павячэраўшы, яна скруцілася ў клубок пад ганкам сталовай. Цюліка там не было, і гэта на нейкае імгненне яе занепакоіла. Аднак ламота ў натруджаных за дзень нагах заглушыла непакой. Успомніўшы, што ў гэты час Цюлік звычайна гуляе з дзецьмі, Шаўка перастала думаць пра яго і хутка заснула.

Прачнулася яна раней, чым заўсёды,— ад холаду. Прачнулася і зразумела: холадна было таму, што пад бокам у яе не было Цюліка...

Шаўка выпаўзла з-пад ганка сталовай, пабегла да дачы, хоць і ведала, што звычайна ён спаў там толькі ўдзень. Цюліка каля дачы не было. Не прыбег ён і на снеданне.

Не знайшлі яго раніцай і дзеці, хоць і аблазілі ўсе закуткі. Не было яго і ў часе абеду, і ўвечары...

Шаўка ўвесь дзень амаль нічога не ела. Ногі яе балелі ад беганіны ў пошуках Цюліка. За тры дні яна прыкметна схуднела.

— Шавачка, не бядуй! — суцяшалі яе дзеці, але самі яны ледзь не плакалі — так ім шкада было беднага Цюліка.

— Хай бы лепш гэтага тоўстага кабана Жуліка ўкралі, чым Цюліка,— гаварылі дзеці.— А Цюлік такі дурненькі, такі баязлівы...

Гэтак жа разважаў і дзядзька Іван:

— Бачыш, што значыць — маці. І няўдалае, і дурное, а дзіця. Як шкадуе!

Шаўка слухала словы спачування, і ў яе разумных вачах стаялі слёзы.

Цюлік вярнуўся нечакана, калі ўжо была страчана ўсякая надзея, што ён вернецца. Прыбег пад вечар, худы, змарнелы і яшчэ больш напалоханы. Відаць, нялёгка яму даводзілася ўвесь гэты няшчасны тыдзень.

Першымі ўбачылі яго праз акно дзеці.

— Цюлік! Цюлік вярнуўся! — з адчаяным крыкам скаціліся яны па лесвіцы з другога паверха.

— Цюлік! Цюлька! Дзе ты быў? — абдымалі яго Вова і Наташа.

На крык адразу ж прыбег Разбой. На гэты раз ён не гыркаў і не кусаў Цюліка. Браты лізнулі адзін аднаму насы — такое, відаць, у сабак прывітанне — і разышліся. Разбой — да дзядзькі Івана, а Цюлік — да дзяцей.

За Разбоем прыбег і тоўсты Жулік. Ён пачаў круціцца вакол Цюліка і бесперапынна лізаць яго — як і ўсе таўстуны, ён усё ж быў дабрадушным стварэннем.

Шаўка даведалася пра сваю радасць апошняя. Цюлік сам пабег ёй насустрач. Яны сустрэліся без сведкаў, і ніхто не бачыў, якой была гэта сустрэча. Толькі калі яны вярталіся да дзяцей, Шаўка трымала сваю састарэлую за гэты тыдзень галаву на худой сынавай шыі, нібыта баялася нават на імгненне адпусціць ад сябе сваё шчасце.

Наташа, Вова і дзядзька Іван абступілі Шаўку з Цюлікам.

— Цюлька! Цюленька! Дзе ж ты столькі прападаў? — наперабой абдымалі дзеці схуднелага ўцекача.

— Глядзі, дурны-дурны, а дамоў усё ж вярнуўся. Знайшоў дарогу! — задаволена папыхваючы самакруткаю, пахваліў Цюліка дзядзька Іван.

Шаўка паглядзела на яго з дакорам. Потым перавяла свой позірк на сына, і яе вочы зрабіліся пяшчотнымі. «Ну які ж ён дурны?! Ён жа разумнік у мяне!.. Ён жа такі разумнік!..»

Так гаварылі шчаслівыя вочы Шаўкі.

*1955*

# *Люблю, хвалююся — жыву*

## Успаміны, партрэты, эсэ

### НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ

> О як бы я хацеў спачатку
> Дарогу жыцця па парадку
> Прайсці яшчэ раз...
>
> *Якуб Колас «Новая зямля»*

Вось такім жа, як сённяшні, калі я пішу гэтыя радкі, днём, з самага ранку засмучаным і зусім як бы не летнім, пад Кіевам, у Святошыне, дзе спынілася на выпадковы пастой, вяртаючыся з гасцей на Украіну мая сям'я, стрэла мяне тая жалобная вестка.

Радыё з Масквы паведамляла: памёр народны паэт Беларусі Якуб Колас.

Першае памкненне было — адразу ж кінуцца на вакзал ці на самалёт — і неадкладна ехаць або ляцець у Мінск! Каб развітацца. Каб разам з усімі сваімі беларускімі людзьмі пастаяць каля труны, каб з усімі разам правесці ў апошнюю дарогу...

Але як было дабівацца таго білета — у тым жнівеньскім мурашніку.

Так і не выехала і не вылецела, не пабачыла і не развіталася ў апошні раз. І таму доўга мучыла сумленне. І, як заўсёды ў такіх выпадках беззваротнай страты, успаміналася нешта вельмі асабістае і дарагое і значнае, што да болю кранала сэрца.

* * *

— Пайдзі, Аленка, у мой пакой і ў ніжняй шуфлядзе ў пісьмовым стале вазьмі цукерак. Вынесі дзецям...

Гэтак не раз падзываў мяне ў Караліпічавічах Канстанцін Міхайлавіч, вярнуўшыся з Мінска, куды ён адлучаўся да дактароў ці па нейкіх іншых справах. Ён ніколі не вяртаўся без цукерак і ласункаў усім дзецям, якія там адпачывалі ў гэты час са сваімі бацькамі-пісьменнікамі.

Звычайна Канстанцін Міхайлавіч жыў на першым паверсе і займаў дзесяты пакой. На другі паверх яму было ўжо цяжка ўзнімацца, ды там было і больш тлумна — сюды, у лес, на лета ўсе з'язджаліся з дзецьмі. Ніжні паверх быў спакайнейшы.

Пасля паездкі ў машыне, здарожыўшыся, Канстанцін Міхайлавіч адпачываў адзін дзе-небудзь у плеценым крэсле ці на лаўцы паводдаль ад дзяцінай беганіны і крыку.

...Я ішла да яго ў пакой, вельмі прасторны і ўтульны, адчыняла шуфлядку і набірала добрыя прыгаршчы цукерак (цукеркі звычайна былі ў самых розных яркіх і прыгожых паперках — відаць, купляючы, ён клапаціўся, каб цукеркі яшчэ і цешылі дзяцей) і несла іх Канстанціну Міхайлавічу.

Дзяцей не трэба было ўпрошваць — яны ўжо ведалі, што тут будзе, і ў момант абступалі яго крэсла.

— Ну, то частуй жа іх,— загадваў Канстанцін Міхайлавіч.— Вось гэтай маленькай,— паказваў ён на які-небудзь скасабочаны бант, дай вунь тую вялікую, з белым мядзведзем цукерку...

Справу гэту — частаванне — мы доўга не расцягвалі — і неўзабаве прыветны лясны дом наш залівала ўжо новая хваля радасці і ўзбуджэння: смакталіся цукеркі, азартна мяняліся «фанцікі», звінелі галасы...

Канстанцін Міхайлавіч, не мяняючы позы і стрыманага задавальнення і цікавасці на твары, назіраў за дзецьмі. Ён ніколі не падладжваўся пад іх, ніколі не ўмешваўся ў іх гульні і спрэчкі, як гэта любяць рабіць некаторыя пажылыя людзі — адразу ж павучаць і ўшчуваць вінаватых. Ён толькі назіраў. І напэўна параўноўваў і дзівіўся ў душы, якім непадобным можа быць маленства. І, вядома ж, успамінаў уласнае, вось гэтак сама сярод лесу... Толькі ў тым лясным — яго — маленстве нават і падабенства не было на гэтае, дзе толькі адны гульні — без аніякага клопату і запятку. Там абавязковай была працавітая пуга,

кош, сякерка. А тут панавалі бесклапотныя гумовыя мячыкі, прыбраныя лялькі, драўляныя коні, дзіцячыя веласіпеды... Дзве розныя планеты — на адным вяку!

— Чаму ж ты сабе нічога не пакінула? — пытаўся ў мяне, як у маленькай усё роўна, Канстанцін Міхайлавіч.

І я, маючы ўжо дваіх дзяцей, сапраўды чырванела, як малая.

— Я не хачу, дзякуй.

— Пайдзі яшчэ і вазьмі сабе ў мяне на стале плітку шакаладу,— адпраўляў мяне Канстанцін Міхайлавіч.

— Дзякуй, Канстанцін Міхайлавіч...

— Не «дзякуй», а пайдзі і вазьмі. На стале.

Гаварылася гэта строга і настойліва. І я ішла... І брала ў яго на стале плітку цудоўнага шакаладу «Люкс».

Мы з дзецьмі — вядома ж перш за ўсё каб быць удзячнымі Канстанціну Міхайлавічу за ўвагу і ласку, а таксама каб і яму зрабіць прыемнае — амаль штодня стараліся насіць яму ў пакой свежыя кветкі. Тады яшчэ Каралішчавічы не былі такія вытаптаныя, як зараз. Тады ўзмежак паўз дарогу да гравійкі быў аж усыпаны буйнымі ляснымі ландышамі. Мы набіралі цудоўны букет, неслі яго Канстанціну Міхайлавічу, і ён, калі быў у сябе ў пакоі, з задавальненнем нюхаў ландышы і паказваў, дзе лепей іх паставіць. Але ніколі не хваліў нас і не дзякаваў... Відаць, яго болей цешыла б, каб ландышы красавалі на волі, у срэбнай расе і сонцы.

...Усё тое лета ён быў найбольш адзін у Каралішчавічах. Прыязджалі часам даведацца яго «хлопцы»: Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Максім Лужанін... Сядзелі, гаманілі, паволі прагульваліся, потым зноў прысядалі, каб Канстанцін Міхайлавіч адпачыў. У яго была свая мясціна і свая лаўка — пад густой ялінай — па дарозе ў сталоўку.

А калі да яго ніхто не прыязджаў, блізкі і патрэбны яму, ён сам запрашаў каго-небудзь сесці каля яго, пагаманіць з ім. І тады ён распытваў, а часцей сам гаварыў — няспешна расказваў ці ўспамінаў — яшчэ з колішніх год, з часоў «лесніковай пасады», пра нейкія свае назіранні за птушкамі, за лесам, за надвор'ем (ён яго прадказваў, не памыляючыся). І ўсё ўмеў вытлумачыць не «па-вучонаму» (акадэмік, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук!), а гэтак, як тлумачаць у вёсцы старыя мудрыя людзі.

Можа, таму, што я адважылася папрасіць прачытаць мае «Шляхі-дарогі» (мне вельмі хацелася пачуць думку Якуба Коласа... І ён, прачытаўшы іх і зусім не захапіўшы-

ся тым маім напісаннем, потым нават склаў эпіграму пра тое, як «ратавала Алена карову»), Канстанцін Міхайлавіч і мяне запрашаў неаднойчы пасядзець з ім на лаўцы, можа, каб бліжэй прыгледзецца, зразумець, чаму гэтыя цяперашнія жанчыны не займаюцца сваёй спрадвечнай справай — не трымаюцца дому і сям'і, а хапаюцца за ўсё на свеце, некуды ўсё плішчацца, немаведама чаго дамагаюцца, каб хаця іх не апярэдзілі мужчыны...

У гэтым сэнсе погляды ў яго былі вельмі пэўныя і непахісныя. Ён з замілаваннем і павагай успамінаў той лад і парадак і тое нястомнае жаночае імкненне клапаціцца пра ўласнае гняздо, якія некалі былі ў яго нябожчыцы маці, звычайнай сялянскай жанчыны. Жанчына перш за ўсё павінна заставацца жанчынай... Каб была сям'я, каб дзеці былі на матчыных руках, а не гэтак, як зараз, параскіданыя па яслях і дзіцячых садах... А страву рыхтуе і корміць сям'ю таксама не сама гаспадыня, а чужая — з усяго свету — кабета, хатняя работніца. Які ў яе пра што ці пра каго будзе рупесак ці шкадаванне?

Ён і сваіх вучоных нявестак не вельмі шанаваў за гэта: ніводная не ведае, што робіцца ў хаце, усё на чужых руках!

Ён быў не абыякавы прыхільнік жаночага хараства і таленту жаночай душы.

— Але я ніколі не эксплуатаваў жанчыну. Я жанчыну любіў і заўсёды гатовы быў схіліць галаву перад жаночым лёсам, наканаваным ёй самой прыродай. Насіць і раджаць дзяцей у пакутах, аддаваць ім бяссонныя ночы... Я ўсё жыццё адносіўся да жанчыны з павагай.

Канстанцін Міхайлавіч глыбока і незабыўна насіў у сэрцы страту свайго самага блізкага і адданага друга Марыі Дзмітраўны. Яна была яго ідэалам — жанчыны і жонкі.

Ідэалы не паўтараюцца. Аднак душа, стомленая адзінотай, непазбежна прагне запаўнення і жыцця. З любасцю і павагай, не называючы імя (хоць яно і было вядомае), расказваў Канстанцін Міхайлавіч пра жанчыну, якая здолела б запоўніць гэту адзіноту. Але былі — з абодвух бакоў — дарослыя жанатыя дзеці. Яны мелі свае сем'і, мелі прыкметныя пасады і «вагу». І дзецям было «няёмка»... І дзеці паўсталі на абарону «ўласных правоў»: ніякіх спатканняў і стрэч!

Як я разумею цяпер, гэта было, відаць, не толькі жаданне «адкрыць душу» другому чалавеку, гэта хутчэй,

можа, была неадольная неабходнасць вызваліць уласную душу ад маўклівага цяжару.

І, відаць,— у гэтым сэнсе — я здавалася Канстанціну Міхайлавічу тады, у тым лясным асяроддзі, вартай даверу... Можа, таму, што была яшчэ маладая (а маладосць, як вядома, больш схіляе да даверу, чым спрактыкаваная сталасць), ці, можа, таму, што не здавалася, як іншыя, ні занадта «прыстойна ўладкаванаю», ні аблашчанай лёсам...

Мне вельмі хацелася тады, каб ён што-небудзь сказаў пра маю кніжку, за якую па тым часе мяне нямала хвалілі, ды і я таксама была задаволена ёю... І я не вытрымала і аднойчы спытала ў Канстанціна Міхайлавіча, ці спадабаліся яму мае «Шляхі-дарогі».

Ён адказаў не адразу, адказаў, гледзячы неяк убок:

— Мова вельмі нязграбная. Трэба вучыцца мове.

І гэта мяне страшэнна здзівіла. Нязграбная мова? У мяне і думкі пра гэта не было! Усе мае, як кастрыца жарсцвяныя, «маючыеся» і «працуючыя», «нагадваўшыя» і «змагаўшыеся» нават не краналіся тады маіх вушэй. Яны ўсё роўна як ватай былі заткнутыя.

— Без мовы... Калі няма адчування слова, то не трэба і пісаць,— так падагуліў нашу гутарку «на літаратурную тэму» Канстанцін Міхайлавіч.

У мяне не засталося тады ачування крыўды. Мне было толькі вельмі сорамна: як я магла адважыцца дакучаць — і каму? — Якубу Коласу! — са сваім чытаннем?

І ўсё ж, відаць, сорам той, за тое, уласцівае маладосці задавальненне ўласным «поспехам у літаратуры», пайшоў мне на карысць.

Не мог — думаю — не пайсці. Бо само ж Коласава слова, яго ўлада над маім уяўленнем, якім павінен быць пісьменнік, яно валодала мною — зразумела, падсвядома — яшчэ з самага дзяцінства. Яшчэ з тых зімовых вечароў, калі мы з мамай, седзячы зімою на печы, дралі курынае пер'е. І плакалі разам, паўтараючы на памяць — у каторы раз! — Коласаву «Долю батрачкі»:

Маці ў службу выпраўляе
Родную дзяціну
І украдкай выцірае
Рукавом слязіну.
«Будзь паслушна ты, дачушка,—
Навучае матка,—
Дагаджай чужым ты, служка,
Ды цярпі, дзіцятка.

Не адзін раз твае вочкі
Заплывуць слязою,
Твая доля цямней ночкі,
Цяжка быць слугою.
Не уважыць чужаніца
Ручак тваіх белых,
Поту выльецца крыніца
З шчочак загарэлых...

...І ўжо зусім — як і сёння памятаю — заходзілася ад жалю маё дзіцячае сэрца пасля развітання той няшчаснай Ганны з яе беднай маці:

Доўга маці ўслед глядзела,
Доўга паглядала,
Покі Ганны хустка бела
З вачэй не прапала...

Дзякуй богу, што ён кануў у нябыт, той час — такіх звычайных, хоць і ніколі не звычных, расстанняў матак са сваімі дзецьмі... Шкада толькі іншага, што літаратура наша ўсё радзей і радзей выклікае ў сённяшняга чытача — дзіцяці, юнака — сардэчнае ўзрушэнне і слёзы святога «сострадания страждущим», як некалі казалі...

Колькі памятаю сябе, калі ўжо і мамы не было, і калі гадавалася я сярод сваіх стрыечных сясцёр Сашы, Анюты і Ніны, слова Коласава было ў нашай хаце гэтакае ж звычайнае, як акраец хлеба, што заўсёды ляжаў на стале пад белым саматканым абрусам.

Нічога, напрыклад, не было прасцей маёй сястры Ніне, як паабяцаць мне (калі ад мяне патрэбна была якая помач), што яна будзе расказваць мне «сцішкі» (іх у яе галаве трымалася, як казалі ў нас дома, з добры мех) — і я ўжо была гатова на ўсё. Пасвіць за яе на талацэ коней, памагаць капаць бульбу, палоць грады, мыць у хаце падлогу, месці вуліцу, пабегчы па зелле свінням... І гэта ўжо нават і тады, калі я ўжо была «добра дзеўка» — вучылася ўжо ў школе і сама ведала колькі вершаў на памяць. Але адно дзела — ты сама сабе на выгане каля авечак па кніжцы чытаеш Коласавы «Ігрушы-сапяжанкі», і зусім іншае, калі нехта іх табе на памяць расказвае, «як артыстка» ўсё роўна...

Слухай, Костусь, што скажу я:
Папасі авечкі,
Можа, дзядзьку абману я,
Скрадуся з-за грэчкі,
У сад залезу, сапяжанак
Пазухі нарву я.
Сакаўных такіх, братанак!

А ну, пашанцуе!
Глянуў Алесь брату ў вочы,
Хітра засмяяўся...
Костусь быў да груш ахвочы:
— Ну, йдзі... Ды не баўся...

Ах, тыя сапяжанкі... У нас дома іх не было. Расла адна ігруша-сапяжанка і кожны год добра радзіла толькі ў братоў Тодара і Міхала Балвановічаў, расла якраз на мяжы іх садоў. Але хто там да яе мог падступіцца? Там хапала калатнечы на ўвесь засценак і паміж Міхаліхай і Тодарыхай.

Ішоў час. Імкліва міналі гады. Выган чаргаваўся са школай. І нечага няпэўнага, рамантычнага прагнула ўжо юначая душа... Тут якраз і стрэліся ёй на новых прасторах жыцця коласаўскія Сцёпка Барута і Аленка Гарнашка... І сталі для яе ў беларускай літаратуры ўзорам, сталі ідэалам — гэтакім, якім быў у літаратуры рускай Паўка Карчагін, а ў сусветнай — Авадзень.

...Як марылася стрэць вось гэтакага ж адважнага і ні на кога, са сваіх вясковых, не падобнага Сцёпку! Які здолеў бы, як і Сцёпка Барута коласаўскі, асушыць наша Кляпчанскае балота, дзе спрадвеку людзі ў нас тапіліся ад вясны да зімы... Які потым пешшу (як і Сцёпка Барута!) пайшоў бы на рабфак. Пэўна ж у Бабруйск (туды, казалі, было якраз сто вёрст ад нашага дома. Звесткі былі дакладныя: у Бабруйску жыла мая цётка Паўліна з дзядзькам Стафанам). І каб гэтак, як і Аленка Гарнашка, вынесці яму на дарогу ў торбу... Лепей, вядома ж, сала, чым аладак. А потым складаць яму ўласныя вершы. «Як я цябе люблю, хай скажа гэта рэчка... Хай скажа гэты салавей...»

...Я азіраюся на тыя, ужо бясконца далёкія гады свайго (і маіх аднагодкаў) галоднага і халоднага маленства і юнацтва: якія захапляючыя, якія найшчаслівейшыя дні зведала яно!

Кніга! Яна рабіла цуды. Яе ўлада над юначай і дзіцячай душой была бязмежная! Кніга чыталася з неадольнай прагай. Як найкаштоўнейшы скарб, яе хавалі ў запаветны куфар, каб потым з пашанай і сардэчным трапятаннем дастаць адтуль, шчасліва патрымаць у руках і зрабіць гэтакім жа шчаслівым некага іншага.

...Так з пасажнага куфра даставала і давала мне пачытаць кніжкі Якуба Коласа «У палескай глушы» і «У глыбі Палесся» некалі наша суседка Вера Віцева. Яна прыйшла

замуж у наш засценак і прынесла разам са сваім жаночым хараством яшчэ і хараство і непадабенства нейкай дзіўнай нетутэйшай душы... Кніжкі былі ў танных папяровых вокладках шэрага колеру. Старонкі ў іх рассыпаліся — колькі ж людзей да нашых Ліпнікаў іх прачытала! — і вокладкі толькі так прыкладваліся да іх.

— Глядзі, не пагубляй толькі старонак... Я нікому больш не даю чытаць, хаваю... А ты хароша дзеўка, дык чытай.

Я і сёння памятаю той зімовы, заснежаны дзень, калі я подбегам, трымаючы на грудзях пад світкай тое неацэннае багацце, вярталася дадому, каб хутчэй сесці чытаць.

Праз многа-многа год, трапіўшы ў камандзіроўку «у глыбіню Палесся», у Пінкавічы, дзе некалі настаўнічаў сам малады Якуб Колас і адкуль выйшаў і назаўсёды пасяліўся ў беларускай літаратуры настаўнік Лабановіч і разам з ім дзве чароўныя палескія кветкі, паненкі Ядвіся і Габрынька — я доўга блукала па тых сцежках і мясцінах, непазнавальна змененых часам, і глыбока ў душы сумавала... Хаця б які след знайсці тых чараў, той, колішняй, чысціні і прыгажосці, створанай Словам Коласа!

Вакол кіпела, віравала і тварыла сябе новае жыццё і хараство зусім іншага, новага Палесся.

...І сёння стаіць яшчэ ў нас дома, у колішнім садзе дзядзькі Мікалая, старая, зрадзелая ўжо ў голлі грушакасцянка. Мала, але ўсё яшчэ родзіць... Некалі вакол яе слалася шаўковая ўтульная мураўка. І так прыемна было прылегчы ці пасядзець на ёй у гарачыню, у спякотны дзень.

...А ўлетку дзевяцьсот дваццаць другога года — яшчэ жывуць людзі, якія памятаюць і ўспамінаюць — прыязджаў у нашу Даманшчыну і сядзеў пад гэтай самай касцянкай Якуб Колас. Прыязджаў з «Амільіным дзядзькам» (так вызначалася ў нашай вёсцы пасада народнага камісара аховы здароўя БССР А. А. Сянкевіча) і сядзеў у цяньку на мураве, а вакол яго сядзелі амаль усе жанкі і мужчыны нашага засценка («якраз прыгналі каровы на ранкі» — гэта ўсе добра памяталі). Колас чытаў «Новую зямлю». Чытаў «Раніцу ў нядзельку», «Дзядзьку ў Вільні» і, пэўна, «Падгляд пчол», бо і пра пчолы заўсёды ўспаміналі ўсе, хто тады быў там і слухаў тое чытанне.

Сядзелі там, побач з Коласам, і мая мама, і мае цёткі, і сёстры стрыечныя...

— Ну і чытаў, брат, Каласок! — нібыта ўчора гэта было, успамінае кніжнік і галоўны палітык нашых Ліпнікаў Міхал Няронскі,— увесь засценак паміраў ад смеху... А як скончыў, дык, не паверыш, мы, мужчыны, падкідалі яго на «ўра» і гэтак на руках да самае школы данеслі...

Не ведаю, з таго часу ці раней яшчэ, але ў нашай хаце «Раніцу ў нядзельку» ўсе ведалі, як «Отча наш»... На памяць.

«Дзень быў святы. Яшчэ ад рання блінцы пякліся на сняданне. А каля печы з чапялою стаяла маці. Пад рукою таўкліся дзеці, замінаді...»

І ў нашай вёсцы таксама ж кожную раніцу пякліся на сняданне блінцы! І мы, дзеці, хіба таксама не лавілі іх «на ляту»?..

...І вось адтуль, з таго часу, з маленства — Колас і застаўся з намі. І мы таксама — з ім і яго Словам.

На ўсё жыццё.

*1981*

# АДНА СТАРОНКА

Адна толькі — пра Кузьму Чорнага?

А зрэшты: хіба да гэтага часу — хіба не ўсё яшчэ напісана? Напісана і глыбока, і аналітычна, і акадэмічна-сумнавата... У кожнага свой Кузьма Чорны. Што ж датычыць непаўторнасці яго асобы і яго кніг, дык яны зусім не залежыць ад таго, колькі старонак будзе напісана...

Самая-самая першая стрэча.

...Гэта былі яшчэ тыя часы, калі Кніга не замыкалася, як нявольніца, у непрыступным паліраваным гарэме якога-небудзь пыхлівага кніжнага пашы; калі яна не ведала пышнага ўбрання і ў сваім будзённым рабочым адзетку дэмакратычна ўладкоўвалася на звычайнай паліцы публічнай бібліятэкі, каб аддана служыць і рабіць багацейшым кожнага, хто шукаў з ёю стрэчы.

Я вучылася ў шостым класе. Да таго часу я перачытала ўжо без разбору ўсе «рóманы» Шэлера-Міхайлава і князя Валконскага. Перачытала Мельнікава-Пячэрскага і Пісемскага. І таму, відаць, наш школьны бібліятэкар Толя Булат даваў мне чытаць кнігі «дарослыя»... Неяк зімой, у суботу, калі я забегла на перапынку ў бібліятэку памяняць на выхадны кнігу, Толя Булат, не выпускаючы з рук, паказаў мне зусім новенькую ў шэрым пераплёце кнігу.

— Даў бы табе на выхадны пачытаць цікавае, ды, баюся, згубіш па дарозе ці дома забудзеш...

Кожную суботу, на выхадны, мы, вясковыя дзеці, хадзілі дадому — адмыцца ў ночвах гарачага мылкага «лугу», змяніць бялізну і набраць яды на наступны тыдзень.

Зразумела, пасля такога ўступу «цікавае» зрабілася ў сто разоў цікавейшым!

«Трэцяе пакаленне» Кузьмы Чорнага бібліятэка толькі што атрымала, і кнігу трэба было вярнуць у панядзелак. Ахвотнікаў чытаць у школе было дастаткова.

Дома я чытала ўвесь той суботні вечар, чытала, калі ўжо ўсе палеглі і даўно паснулі, і назаўтра — увесь дзень, покуль не надышоў час збірацца назад у дарогу.

Я была так захоплена ўсім прачытаным за гэтыя імгненна прамільгнуўшыя вечар, ноч і дзень, што нават, сяк-так пакуючыся і збіраючы сябе ў дарогу, не магла ні пра што іншае ні думаць, ні гаварыць. І злавала сваіх хатніх.

— Была б карысць ад гэтых кніг, калі б яны яе нечаму людскаму вучылі,— сварылася цётка Іваніха, дзе я гадавалася,— а то слова путнага ад яе не пачуеш!

А «путныя словы» мне проста не было калі гаварыць: неабходна было абавязкова дачытаць кнігу.

І немагчыма паверыць: я дачытала яе і, ні на хвіліну пра яе не забываючы, забыла кнігу дома!

Мяне раптам нібыта токам ударыла толькі тады, калі ўсе мы, гуртам, паспеўшы прайсці вёрст з пяць, селі адпачыць на чыгуначным насыпе. Я пачала сутаргава перакідаць усё ў сваёй карзіне... Кнігі не было!

Было страшэнна боязна вяртацца дадому адной, насустрач ночы, па глухой заваленай снегам дарозе. І немагчыма нават уявіць сабе было, як я пакажуся заўтра ў бібліятэцы без кнігі... З плачам і горам вярталася я дадому.

Але вось непрыкметна дагнала мяне і пайшла са мною побач, спачуваючы і ўсцешваючы мяне, добрая і разумная Зося-служанка. А каб нам не было боязна ўпоцемку, нас усю дарогу суправаджаў адважны чырвонаармеец Кандрат Назарэўскі — абаронца ўсіх абяздоленых. За руку з намі дробненька, подбежкам тупала яго ўсмешлівая бялявая сястрычка Ірынка. А збоку, паводдаль, сціснуўшы ў рупэ пугу, упарта трымаўся свае сцежкі пастушок багацея Скуратовіча Міхал Тварыцкі...

Дарога была далёкая і няроўная. У небе скупа мігцелі зімнія зоркі. У густым зарасніку лазняку на Кляпчанскім балоце чутно было ні то выццё, ні то стогн — то маглі выць ваўкі, маглі быць і бандыты з банды Толіка Скуратовіча... Але побач ішлі непахісны чырвонаармеец Кандрат Назарэўскі і каваль Несцяровіч, з-пад Двух хат, што сабраў атрад партызан. Пад іх надзейнай абаронай зусім было не страшна вяртацца па забытую кнігу «Трэцяе пакаленне».

...І вось сёння, перачытваючы старонкі гэтае кнігі,— праз столькі год! — я зноў адчуваю над сабой яе неадольную ўладу. Уладу, бадай, перш за ўсё яе густой, смачнай мовы той зямлі — Случчыны,— дзе лёсам наканавана было нарадзіцца і мне таксама.

«Пакаштуйце, ну, пакаштуйце. От я вам адрэжу. Бачыце, якое сала! Там у іх саўгас — то каб вы паглядзелі! Парсюкі стаяць такія, што, каб я жыў, мядзведзь не ўбярэ. Як горы!.. А можа б вы для апетыту ўзялі б кроплю? Не хочаце! Не п'яце? А можа дзіця ў губу ўзяло б каліва? Спіць? Ну, няхай здарова спіць».

Кузьма Чорны!

І не трэба болей «старонак».

*1980*

## «ЯК ПОЗНА-ПОЗНА, І ЯК РАНА-РАНА...»

У мяне захаваліся здымкі.

Каралішчавічы. Наш Дом творчасці. Вакол эпічныя хвоі... І тут жа, на фоне гэтых хвой — не буйным планам — невялікі гурт пісьменнікаў, хто адпачываў у Каралішчавічах тым вераснем 1950 года. Усе мы на тым здымку такія маладыя. Амаль усе з дзецьмі...

О бязлітасны час! Я ўглядаюся ў тыя маладыя твары, знаёмыя і цяпер ужо незнаёмыя, нібыта шукаю ў іх адказу: «Калі ж гэта ўсё здарылася?» І ў вушах маіх, міжволі, як акорд рэквіема, гучыць у адказ: «Як позна-позна, і як рана-рана...»

Даўно няма ўжо сярод нас, немаладых і пасівелых, заўсёды некалі насмешлівага жартаўніка Усевалада Краўчанкі з таго здымка. Няма сціплага і негаваркога Пятра Валкадаева. Змоўк назаўсёды нязменна імпазантны «Кабзар» — Павел Кабзарэўскі...

Ды і сам Майстар тых здымкаў, што не забыў ніводнага «ўюнашы», ніводнай «атракавіцы» (кожнаму, калі не асабіста, дык поштай паслаў здымкі дадому) і сам Майстар пакінуў ужо нас.

Няма ўжо і Міхася Лынькова.

«Як позна-позна, і як рана-рана...»

* * *

Я не магу пахваліцца, як многія іншыя, ні асабістым сяброўствам, ні простым суседствам ці нейкімі выключнымі стрэчамі з Міхасём Ціханавічам. Я магу толькі бясконца расказваць і з удзячнасцю ўспамінаць пра той след і той уплыў, які пакінуў Міхась Лынькоў сваімі творамі, сваімі кнігамі ў маёй яшчэ дзяцінай, а потым юнацкай ужо душы.

Кажучы пра сябе асабіста, я не стаўлю сябе, аднак, у нейкія выключныя ўмовы, не хачу лічыць сябе выключэннем. Усё маё пакаленне беларускай моладзі даваеннага часу выхоўвалася на творах Лынькова. Мне ўспамінаецца, што ўсім нам тады хацелася жыць жыццём герояў Лынькова. І гэта дыктавалася не проста хрэстаматыйнымі ведамі біяграфіі пісьменніка і яго твораў. Ці мала каго мы «праходзілі» ў школе, ці мала каго вучылі нават на памяць.

Міхася Лынькова на памяць якраз і не вучылі. Ён сам

заставаўся ў памяці назаўсёды — непадробнай чалавечнасцю і рамантычным узлётам сваіх герояў. Яшчэ не ўмеючы спасцігнуць да канца ўсёй глыбіні людскіх страт і надзей, у шостым класе недзе, мы — чытачы і вучні Лынькова (бо Лынькова не проста чыталі — у Лынькова вучыліся) — ужо тады, на ўсё жыццё засталіся мы «Над Бугам», каля смяртэльна параненага чырвонаармейца Ваські Шкетава. Ужо тады назаўсёды запаў нам у душу той яго апошні ўсплёск бязмернага чалавечага суму: «Як позна-позна, і як рана-рана...»

Ужо тады натхняў нас прыклад бясстрашнага Міколкі-паравоза ісці ў жыццё толькі з адвагай і надзеяй.

З тае вучнёўскае пары непахісна і безаглядна паверылі мы і ў сілу адданага кахання і сяброўства, якія, як сцяг перамогі, неслі над жыццём героі Лынькова.

Які зайздросны пісьменніцкі лёс!

...Не дзіўна, мусіць, чаму потым, калі некаторыя з нас самі пачалі «спрабаваць пер'і», чаму — у першую чаргу — імкнуліся мы пачуць адзнаку нашым першым практыкаванням у літаратуры менавіта ў Міхася Лынькова.

Я не была выключэннем.

* * *

Перада мною на стале ляжаць два прадаўгаватыя, пажоўклыя ўжо ад часу, прыгожыя канверты (на думку прыходзіць крышку дзіўная аналогія: пра чалавечы твар, у прыватнасці пра жаночы, у такіх выпадках кажуць: з адбіткам колішняга хараства). Адпраўлены яны былі некалі з вуліцы Берсана ў Мінску на вуліцу Чалюскінцаў у Курск. На паштовых штэмпелях дата: 24 красавіка і 4 мая, 1948 год... Дваццаць дзевяць гадоў назад! Цэлае жыццё...

...Сваю аповесць «Шляхі-дарогі», якую я напісала, жывучы ў Курску, я паслала ў Беларускае дзяржаўнае выдавецтва з просьбай абавязкова аддаць яе на чытанне не каму іншаму, а толькі Міхасю Лынькову!

Уявіце сабе гэту маладую адвагу... Цяпер хіба, папярэдне не атрымаўшы дазволу, хіба я адважылася б на такі крок?

У выдавецтве мяне тады добра «памарынавалі» (праўда, калі казаць шчыра, то і зараз аўтар гэтага рэдка калі пазбягае), але «волю» маю выканалі. Дзіўна, аднак, не гэта. Дзіўна іншае, што сам Міхась Ціханавіч, завалены ў той час уласным пісьменніцкім клопатам і работай у

Акадэміі, згадзіўся чытаць тыя амаль пяцьсот старонак мае «сырое гліны»... Паспрабуйце зараз упрасіць каго-небудзь з нашых «акадэмікаў», калі ён заняты ўласнымі справамі (а калі і ў каго іх не бывае, тых спраў?), паспрабуйце ўпрасіць яго прачытаць якога-небудзь пачаткоўца.

Вось з тых далёкіх-далёкіх часоў і захаваліся ў мяне два прыгожыя канверты, а ў канвертах на гэтакай жа дасканалай паштовай паперы, напісаныя драбнюткім (бісерам!) почыркам пісьмы. Разбор, рэцэнзія, заключэнне, а ў цэлым бясконца тактоўная, глыбокая, пераканаўчая гутарка пра маю першую самастойную сцежку ў літаратуры (бо самая першая мая аповесць «У прастор жыцця» была хутчэй рэч пераймальная. А я размахнулася — аж «Шляхі-дарогі»!).

Ці трэба казаць, як хвалявалася я, чакаючы таго першага пісьма Міхася Лынькова... Чакала доўга. І вось, нарэшце!

«Вы ўжо, відаць, усе «чаканні паелі», спадзеючыся з дня на дзень атрымаць мой ліст. І, напэўна, «и руганием мя поругах» і ўсякім «злым речением мя поносях». Каюсь. Грэшны. Заслужыў. І Вам, як маладому аўтару, спачуваю; некалі быў у Вашай, груба кажучы, скуры... Аповесць прачытаў з задавальненнем. Зжыўся з некаторымі яе героямі, трымаю ў памяці паасобныя карціны, трапныя замалёўкі, трапныя параўнанні. Усё добрае, удачнае ў мастацтве заўсёды застаецца ў памяці».

Госпадзі, як яго было «поругах»!

У мяне перад вачыма, нібыта гэта адбылося толькі ўчора, адразу ж узнікла мая колішняя Урэцкая школа, узнікла першая ў жыцці сустрэча з «сапраўдным», «жывым» пісьменнікам — з Міхасём Лыньковым.

* * *

...Дык як было яго «поносях», калі і сапраўды ён быў завалены справамі і клопатамі. А ўсё роўна ж сабраўся з часам, прачытаў і напісаў...

«...Я не зусім вінаваты ў гэтым спазненні з адказам на Ваш рукапіс. Мне перадалі яго літаральна за два тыдні перад нашым рэспубліканскім сходам. Не меў ніякай фізічнай магчымасці пазнаёміцца з ім, бо трэба было экстранаканчаць падрыхтоўку даклада — правільней сам даклад. А пасля сходу я праляжаў некалькі тыдняў хворы. Я нават прасіў Піліпа Пестрака, каб ён паведаміў Вам аб

прычынах майго спазнення. За час маёй хваробы ў мяне на маёй службе ў Акадэміі сабралася тэрміновых рукапісаў (па падручніках па літаратуры для сярэдняй школы) старонак на 800. Іх трэба было безадкладна адрэдагаваць, бо ўсякія тэрміны, вызначаныя ЦК нашай партыі, былі прапушчаны. А тут яшчэ абарона дысертацый супрацоўнікамі нашага Інстытута. А я ж, грэшным дзелам, кіраўнік альбо часам афіцыйны апанент. А дысертацыі — гэта ж пухлыя рукапісы. А ўсё гэта адбірае вялізны кавалак часу. А тут зноў грып. Адным словам, як Марка па пекле...»

Як яго было «поносях»...

Як быццам ён быў абавязаны рабіць мне гэту «справаздачу»... Але ж рабіў, дакладна ўсё апісваў, бо добра памятаў сябе «ў скуры» маладога, пачаткоўца, таму што спачуваў і яго чаканню і яго надзеі.

Перачытваючы сёння пісьмы Міхася Ціханавіча, я адначасова бачу і чую не толькі яго, Настаўніка, але і сябе, няўмеку і спічку, якая, не маючы ні дастатковага жыццёвага вопыту, ні ведаў нялёгкага літаратурнага працэсу, у той жа час гатова была да змогі ўпарта адстойваць сваё (брыта — не, стрыжана!).

Самой мне сёння тое «сваё» ўяўляецца такім дзікім і штучным, а ён тады ў адказ на маю нязгоду, на той мой «кіпень», не толькі не абураецца, а нават, не ўзвышаючы голасу, адказвае мне:

«Добра, што Вы з сім-тым згаджаецеся з маіх довадаў. Добра, што адстойваеце і некаторыя свае пазіцыі. Той, хто адразу здаецца, не заўсёды сур'ёзна ставіцца да свае творчасці. Гэта не значыць, аднак, што Вы да канца, як гэта гаворыцца, правы... Вось і пачнем усё па парадку, паводле пунктаў Вашага пісьма».

І пачынае гэтак жа цярпліва зноў... Пераконваць. Тлумачыць. Аналізаваць схему паводзін і характараў маіх герояў... Паўтараю: цярпліва, нават без ценю незадаволенасці, раздражнення, ці, барані божа, перавагі.

А потым, відаць, калі пісьмо напісана ўжо і перачытана, ён раптам успомніць і на палях ужо, у «P. S.», дапіша: «Забыў сказаць: у Вас цудоўна выпісана летняя граза, багата свежага, новага ў гэтым апісанні. Надзвычай удалыя фразы: «Жыта, як перац, схапілі», «Прападзе жыта ў бабках, як бачыш бараной парасце» і інш.».

Вопытны настаўнік, ён добра ведаў педагагічны плён гэтага postcriptum'a.

І сапраўды, прачытаўшы яго, аднекуль прыходзіла раптам выратавальная раўнавага: ну, што ж, калі кампазіцыя нязграбная... Можа, і сапраўды «пастрыгчы» трохі і сямтам «пагабляваць» раздзелы і мову, можа, і сапраўды будзе лепш... Затое навальніца ў мяне якая свежая... І як удала я ўмею пісаць пра жыта. Не, кідаць у печ рукапіс, бадай, зусім няма патрэбы...

Яны ўмелі, нашы старэйшыя Настаўнікі, вучыць маладых. Умелі і заахвоціць, падтрымаць, абнадзеіць. Гэтаксама, як умелі паказаць і на неразважлівую маладую самаўпэўненасць, якая вельмі далёка ад разумнай упэўненасці.

* * *

Я пішу гэтыя ўспаміны ў Каралішчавічах, якія гэтак добра ведалі Міхася Лынькова... Тут кожная сцежка памятае яшчэ і сёння яго крокі, тут і дагэтуль лясное рэха паўтарае скліканне ўсіх «уюнашаў» і «атракавіц» да славутых каралішчавіцкіх вогнішчаў — з карчамі, з ламаччам, з сухастоем.

Над тымі вогнішчамі знахарыць і сёння непаўторны язычнік Міхась Лынькоў.

*Студзень 1977*

# МЕЛЕЖ

Мы все сойдем под вечны своды...
. . . . . . . . . . . 
И пусть у гробового входа
Младая будет жизнь играть,
И равнодушная природа
Красою вечною сиять.

*А. С. Пушкин*

1976 год. ВОСЕНЬ.

...Я пішу гэтыя радкі, калі яшчэ крываточаць сэрцы. Калі ўсемагутны час не зрабіў яшчэ свае справы і ўспамін балюча рэжа па-жывому. Калі, стрэўшыся выпадкова дзе-небудзь на вуліцы ці ў купалаўскім скверы, дзе ён любіў хадзіць, ці ў выдавецтве, куды ён заходзіў неаднойчы, калі выдаваліся яго кнігі,— мы ўсе, хто не раз страчаўся з ім на гэтых скрыжаваннях, цяпер непазбежна гаворку зводзім да аднаго: «А Мележ тут нам ужо ніколі не стрэнецца...»

Трагізм нашай людской сутнасці ў тым, што мы не здольны, ніколі не здольны да канца спасцігнуць і словамі выказаць нашы пачуцці да тых нават, каго мы і вельмі любім. І толькі тады, калі нас спасцігае непапраўная страта, тады толькі мы нібыта робімся відушчымі і ўжо са спазненнем робім гэтыя прызнанні.

Мележ нам ужо ніколі не стрэнецца...

Не стрэнецца. Не пажартуе з уласцівай яму мяккай усмешкай, спыніўшыся ў парозе тлумнай выдавецкай адрыніны. Ніколі ўжо не спытае, ці чыталі вы апошні часопіс з апошняй часткай з яго апошняга рамана...

Толькі зараз усведамляеш сэнс гэтага безвыходнага слова «апошні».

Апошні раз мы бачыліся і гаварылі з Іванам Мележам за паўтара месяца да яго смерці. На шостым з'ездзе пісьменнікаў у Маскве. У чэрвені 1976 года.

У час перапынку паміж пасяджэннямі я адбілася ад свайго беларускага гурту, была адна і адчувалася ў тым вавілоне неяк вельмі адзінока. Іван Паўлавіч таксама быў адзін. Ад двухгадзіннага сядзення і слухання ўсіх выступленняў, істотных і мала цікавых, ён выглядаў стомленым і хворым. На ім быў летні светла-шэрага колеру касцюм, і гэты колер яшчэ больш падкрэсліваў хваравітасць яго твару, пацягнутага нядобрай жаўцізной, з глыбокімі цёмнымі правaламі пад вачыма.

— Чаго я ехаў?.. Я так сябе кепска адчуваю. А тут трэба сядзець, слухаць...— паскардзіўся ён.

Як было яго разважыць?.. І я, каб неяк адвесці яго настрой і думкі ад яго стану, я — не ведаю, як яно ўжо атрымалася — загаварыла пра яго «Завеі, снежань». Мне хацелася шчыра падзякаваць яму за тое бясконцае захапленне, якое адчувала я тады, калі чытала іх...

— Вы паспелі прачытаць ужо апошні часопіс? — як заўсёды, калі гаворка ішла пра тое, што ён пісаў, праяснеў яго твар.

Мне здаецца — наколькі я ведала Мележа,— што цікавасць да яго кніг, да яго герояў любога чалавека, любога пісьменніка, таварыша была найвялікшым шчасцем яго жыцця. Чалавек даўно і цяжка хворы (хворы так даўно, што нават і самыя блізкія і тыя, хто яго любіў і даражыў ім, і спачуваў яму — нават і тыя прывыклі ўжо да гэтага, што ён заўсёды хворы: жыў і пісаў жа... і як пісаў!), а гэта значыць і пазбаўлены тых звычайных штодзённых радасцей, якія даруе жыццё здароваму чалавеку, ён ведаў іншую найвышэйшую радасць і шчасце — шчасце магутнага творчага здароўя і творчай перамогі. І таму так патрэбна было яму ведаць, што і той, хто чытаў яго творы, адчуваў тое ж самае, гэтаксама быў шчаслівы і радасны ад яго кніг.

Вось чаму ён так любіў, здаецца мне, гаварыць пра сваіх герояў. Яны былі яго дзецьмі. Яны нараджаліся ў яго здаровымі. І ён радаваўся і ганарыўся імі. І гэта не было адно і тое ж самае з той дробнай рысай чалавечага характару, якую на рускай мове вычарпальна вызначаюць словам «тщеславие».

...Я прачытала апошнюю частку яго рамана перад самым ад'ездам у Маскву. Яго героі, іх адчуванні, іх лёс, такі нялёгкі і складаны, былі яшчэ са мною, у маім сэрцы, і я, хвалюючыся сама, гаварыла пра гэта Івану Паўлавічу. Я бачыла, што яму гэта патрэбна было, як бывае патрэбна чалавеку лякарства, якое хоць і не паможа, а ўсё ж прыглушыць боль, супакоіць на нейкі час... І ён сам тады сказаў мне:

— Гаварыце, калі ласка... Зараз мне гэта вельмі неабходна.

Я не схільна нічога перабольшваць. Мележ і чуў і чытаў пра сябе і ад сваіх блізкіх сяброў і ад сваіх крытыкаў дастаткова і прыхільнага, і грунтоўнага, і вычарпальнага... У той жа момант, у тым маскоўскім пісьменніцкім віры,

дзе кіпела столькі і маладое, і здаровае энергіі (відаць, з прычыны свае хваробы ён трымаўся найбольш адзін), яму была патрэбна ўвага, цікавасць не толькі да нейкага там касмічнага літаратурнага працэсу, а і да яго самога асабіста. (Яму гэта заўсёды было патрэбна.)

На папярэднім з'ездзе, калі яшчэ толькі на ўвесь свой магутны рост узняліся ў айчыннай літаратуры яго «Людзі на балоце», ён быў імяніннікам. У дакладах жа на гэтым з'ездзе яго імя, вядома, вельмі пачэсна і вельмі заслужана, нібыта толькі ўзначальвала беларускую прозу — у той час, калі называліся і паўтараліся неаднойчы ўжо імёны новыя і маладыя...

Яму неабходна было, яму было патрэбна самае звычайнае чалавечае разуменне і сардэчнасць.

Ён тады прыехаў у Маскву з жонкай Лідзіяй Якаўлеўнай і малодшай дачкой. Жылі яны ў гасцініцы «Масква» і назаўтра збіраліся ехаць у Крым, у Місхор.

— І туды мне не хочацца ехаць. Спякота, напэўна, будзе...

Але загадзя былі набыты пуцёўкі. Былі ўжо куплены білеты на цягнік да Сімферопаля.

Яшчэ мы гаварылі тады пра тое, што яму неабходна паехаць у санаторый у Бухару, які славіцца сваім цудадзейным кліматычным лячэннем хворых на ныркі. Я расказала яму, што там лячылася мая цяжка хворая сваячка. І яе цяпер не пазнаць, як быццам і не было тае хваробы... Туды, у Бухару, едуць лячыцца людзі з-за свету.

Ён чуў пра гэты санаторый. Але неяк не надаваў значэння... І, як толькі вернецца з Крыма, казаў, параіцца з дактарамі і таксама пастараецца набыць туды пуцёўку.

— Толькі ж туды, мусіць, нялёгка і набыць яе,— сумняваючыся, заўважыў ён.

...Пасля званка мы разам з Іванам Паўлавічам накіраваліся ў залу пасяджэнняў. Мы хацелі і сесці разам: ён сказаў, што каля яго якраз пустуе месца. Але тое месца аказалася занятым, і я, шкадуючы, вярнулася на сваё ранейшае.

Недзе з сярэдзіны пасяджэння Мележ падняўся і, як заўсёды ён хадзіў, прыкметна схіліўшы галаву да плечука, няспешна выйшаў з залы. Хворы, стомлены чалавек, з нядобрай жаўцізной на твары, з глыбока запалымі вачыма.

Гэта было наша апошняе спатканне.

* * *

Філфак БДУ ў першыя пасляваенныя гады размяшчаўся на вуліцы Энгельса, у 2-й сярэдняй школе, на чацвёртым паверсе. У нашым стракатым студэнцкім вуллі вылучалася самаўпэўненая маналітная «Сходня» — студэнты, якія ў вайну займаліся ў Маскве на станцыі Сходня, дзе размясціўся БДУ. У жніўні 1944 года «Сходня» вярнулася арганізаваным эшалонам з Масквы. Начальнікам эшалона быў студэнт пятага курса Іван Мележ, які ва універсітэце вёў таксама вайсковую справу.

«Нясходня» і на лекцыях і ў час перапынкаў сціпла трымалася асабняком. «Нясходня» і жыла ў інтэрнаце на Нямізе. І, у той час, як прабіўная «Сходня» захапіла Нямігу 21 — асабняк ва ўсіх адносінах не раўня нашаму інтэрнату.

Філфак тады складаўся амаль выключна з дзяўчат. На нашым чацвёртым курсе было ўсяго чацвёра хлопцаў: Грыша Шкраба, Толя Барушка, Вася Тарасаў і Лёня Грыгор'еў.

Усе яны — кожны па-свойму — былі славутасцямі. Грыша Шкраба, напрыклад, вызначаўся як славутасць літаратурная: яго артыкулы ўжо друкавалі ў часопісах! На перапынках часцей за ўсё яны збіраліся ўтрох: Грыша Шкраба, Мікола Лобан і Іван Мележ. Мележ і Лобан — абодва пяцікурснікі — таксама нешта пісалі і недзе друкаваліся. Аднак што і дзе — нам, астатнім, было не вельмі вядома: большасць з нас, у тым ліку і я сама, з тагачасным літаратурным жыццём нашае сталіцы, а тым больш рэспублікі, былі знаёмыя вельмі слаба. Мы вывучалі толькі літаратуру «па праграме» (вось табе і філфак!).

А яны, утрох ля акна, гамоняць, спрачаюцца, пазіраюць на дзявочы карагод, пасмейваюцца... Добра памятаю Мележа таго часу: высокі, прыгожы, жанаты!

З яго жонкай Лідай — дзяўчынай выключнага харастава (да яе ніяк не стасавалася сталае паняцце «жанчына») я была знаёмая добра. Яна часта забягала ў наш пакой на Нямізе-1 да сваіх аднакурсніц-геаграфічак. Яны былі вельмі прыгожай парай з Мележам.

З самім Мележам за два гады вучэння на адным паверсе я наўрад ці загаварыла хоць два разы... Ад літаратуры «непраграмнай» я была гэтак далёка, як неба ад зямлі...

Многа пазней ужо, успамінаючы універсітэт, сам Мележ не раз казаў мне, што яшчэ тады, са студэнцкіх гута-

рак, ён заўважыў у мяне «схільнасць да літаратуры». (А я — хоць забі мяне — не памятаю тых гутарак!) Думаю ўсё ж, што Івану Паўлавічу, пры добрым настроі вельмі шчодраму на добрае слова, проста прыемна было сказаць мне прыемнае.

І тым не менш...

Вось я трымаю ў руках чытанае-зачытанае( я не люблю «цнатлівых» кніг і не ашчаджаю іх — абы толькі былі ахвотнікі чытаць!), першае яшчэ выданне «Людзей на балоце» ў вельмі дакладна адчутым і знойдзеным Наталляй Паплаўскай афармленні. Іван Паўлавіч сам прынёс мне іх у «Работніцу і сялянку»...

«Алене — якую я помню з тых дзён, калі мы абое сядзелі за партай ва універсітэце, якой я сімпатызую з першага яе апавядання, якой я ўдзячны за добрую падтрымку і якой я жадаю самага вялікага шчасця ў жыцці.

Іван Мележ.

18.5.62 г.

Мінск».

Пра «добрую падтрымку» я скажу крыху ніжэй, а вось пра гэта самае: прыемнасць сказаць другому чалавеку прыемнае...

Ого! Іншаму лягчэй перахварэць самому, чым сказаць добрае слова пра другога. І, як ні дзіўна, на гэту хваробу наш брат-пісьменнік хварэе не так ужо рэдка.

Колькі разоў даводзілася мне быць сведкаю, як рэкамендаваў сваіх таварышаў-пісьменнікаў на якім-небудзь афіцыйным прадстаўленні Іван Мележ. Якія знаходзіў ён для кожнага характарыстыкі і як умеў ён намаляваць у кароткай атэстацыі творчы партрэт, падкрэсліць тыя рысы таленту, пра якія дагэтуль сам той пісьменнік і не здагадваўся нават. Мележ рабіў гэта без афектацыі, без ужывання эпітэтаў у надзвычайнай ступені, рабіў не толькі «дзеля выпадку», а з задавальненнем, з гонарам і годнасцю паўнамоцнага прадстаўніка ўсёй беларускай літаратуры, якая ствараецца вялікім атрадам не адзначаных і не толькі прыгнаных да «абоймы» імён і талентаў.

Так было, памятаю, у Маскве на Савеце беларускай літаратуры, куды запрашалася вялікая група нашых празаікаў так званага тады яшчэ «сярэдняга пакалення», дзе прысутнічала і я таксама.

Так было на сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з пісьменнікамі і паэтамі В'етнама ў нашым старым яшчэ будынку Саюза. Іван Паўлавіч і як сакратар Саюза пісьмен-

нікаў БССР, і як старшыня Беларускага камітэта прыхільнікаў міру мала таго, што даў кожнаму з прысутных беларускіх пісьменнікаў творчыя характарыстыкі, ён дакладна ўспомніў, хто з нас калі і што напісаў ці зрабіў удзячнае для В'етнама.

Ад в'етнамцаў у адказ выступалі паэты. Яны свае вершы спявалі.

Пасля заканчэння сустрэчы — Мележ не быў бы Мележам: яго натуры заўсёды ўласцівы быў гумар,— сказаў, дабрадушна ўсміхаючыся:

— Не так я павінен быў прадстаўляць сёння в'етнамцам беларускую літаратуру. Трэба было і нам спяваць...

І тут усім уявілася, як бы раптам ён сам заспяваў свае раманы, ці апавяданні, ці нават п'есу — партыю за кожнага героя... (А спяваў ён, дарэчы,— мне не раз даводзілася яго чуць,— цудоўна! У яго быў мяккі, прыемнага тэмбру, барытон.)

Ах, з якім бесклапотным смехам і настроем, памятаю, разыходзіліся мы ўсе пасля тае стрэчы з в'етнамцамі!

* * *

Аднак не трэба думаць (той, хто быў з ім блізкі, той ведае гэта лепш за мяне), што Мележ быў толькі добразычлівым, толькі ўсмешлівым ці паблажлівым.

Не адзін год узначальваў ён камісію па прыёму ў Саюз маладых пісьменнікаў. І ўсе, хто працаваў побач з ім у гэтай камісіі — я маю адвагу гэта сцвярджаць — таксама прайшлі паказальную школу прынцыповасці, патрабавальнасці і вялікай чалавечнасці, якой вызначаўся сам Іван Мележ, як старшыня камісіі.

Ён быў непахісны ў адмаўленні ўсяго таго выпадковага, шэрага, бяздарнага, што звычайна ўмее гэтак пранырліва ціснуцца, паўзці, лезці, караскацца...

І ў той жа час Мележ не цярпеў на пасяджэннях, пры абмеркаванні кандыдатур, нядобразычлівых шпілечак, пустое балбатні, абыякавасці («Давайце адкладзем разгляд да наступнага разу!..» «А-а... усё роўна, давайце разгледзім сёння, каб наступны раз не разглядаць...»).

Тады Мележ рабіўся непазнавальны. Куды дзяваліся яго звычайная раўнавага і памяркоўнасць!

— Мы вырашаем лёс чалавека! І ніхто з нас не мае права забываць пра гэта,— абрываў ён таго, каму хацелася хутчэй абы адбыць, і тут жа папярэджваў: — Графаману

16 Зак. 2210

ці прайдзісвету напісаць новую заяву ці хоць дзесяць такіх заяў нічога не абыходзіць. А сумленны, сціплы чалавек наша легкадумства можа прыняць як канчатковы прысуд яго літаратурнаму лёсу.

Ён, як і ўсякі чалавек, таксама меў і свае прыхільнасці і свае слабасці. Заўсёды вельмі прыхільны быў да хлопцаў, якія служылі ці адслужылі ў арміі. А калі пры гэтым была яшчэ артылерыя!..

— Я сам — артылерыст,— жартаваў ён.— Артылерыя — бог вайны.

Несправядлівым ён быў адзін толькі раз. Абмяркоўвалі творчасць здольнага чалавека, які матросам на прамысловых суднах адплаваў некалькі гадоў на Далёкім Усходзе і надрукаваў з таго плавання дзве таленавітыя кніжкі апавяданняў. Здарылася так, што Іван Паўлавіч — ці то не паспеў, ці не меў магчымасці — не прачытаў ніводнай з гэтых кніжак. І ён, паслухаўшы выступленні («А навошта нам яго прымаць, няхай яго прымаюць тыя, пра каго ён піша...» «Чаму гэта хлопцу з Магілёва абавязкова спатрэбілася далёкаўсходняя тэма і абавязкова мора?..»), прапанаваў... пачакаць з прыёмам К. у Саюз пісьменнікаў, пакуль у яго не выйдзе яшчэ адна кніжка. Лёгка сказаць! Прайшоў час, і не ведаю, па чыёй прапанове, заява К. разглядалася зноў. І Мележ, які ўважліва прачытаў да гэтага пасяджэння абедзве кніжкі К., ужо сам вельмі горача адстойваў маладога аўтара, гаварыў, што ў яго кніжках ён адкрыў для сябе пісьменніка арыгінальнага таленту, цікавага і непадобнага на іншых.

У перапынку, калі мы атрымалі бюлетэні для тайнага галасавання, ён падышоў да мяне (я ў сваіх выступленнях абодва разы горача адстойвала К.):

— Не думайце пра мяне, што я крыважэрны чалавек ці забойца...— пажартаваў ён.— Бачыце, я не выкрасліў К. са спіску. Ён таленавіты чалавек, і я падзяляю вашу гарачую абарону.

Але К. зноў «правалілі»...

Чалавек, калі ён народжаны пісьменнікам, будзе пісаць... К. піша і зараз. Але нешта з ім усё ж здарылася. Здарылася, мне здаецца, якраз тое, аб чым папярэджваў неаднойчы сам Мележ:

— Наша легкадумства і безадказнасць чалавек можа ўспрыняць і як канчатковы прысуд яго лёсу. Ад гэтага няхутка ачуньваюць...

* * *

...Успамінаюцца нейкія асобныя штрыхі, рысы, моманты.

У старым яшчэ будынку нашага Саюза пісьменнікаў па вуліцы Энгельса... (Вось ужо колькі часу як існуе новы Дом літаратара, якім пэўна ж вельмі і прыемна і прэстыжна пахваліцца перад гасцямі... А душою, успамінамі — асабліва нас, старэйшых, усё роўна цягне ў той ранейшы, цесны, ды затое ўтульны, дзе кожны адчуваўся, як у сябе дома...) Ці то пасля нейкае нарады, ці то чакаючы яе — на другім паверсе, на цеснай пляцовачцы каля парэнчаў стаяць: Іван Мележ, Мікола Лобан, Мікола Аўрамчык, Алесь Кучар, здаецца... Не памятаю добра, з якога выпадку, а хутчэй за ўсё як працяг гутаркі і пэўнага настрою, Мележ успамінае на памяць.:

Пора, мой друг, пора! покоя сердце просит —
Летят за днями дни, и каждый час уносит
Частичку бытия...

І шчыра, непадробна здзіўляецца, калі і мы — наперабой — далучаемся да яго:

На свете счастья нет, но есть покой и воля.
Давно завидная мечтается мне доля —
Давно, усталый раб, замыслил я побег
В обитель дальную трудов и чистых нег...

— А Пушкіну было ўсяго трыццаць пяць гадоў, калі ён напісаў гэтыя вершы! — акідвае ўсіх нас позіркам Мележ. Сярод нас тут, на гэтым цесным «пятачку», даўнодаўно няма ўжо трыццаціпяцігадовых... І яго, відаць, асабліва ўражвае гэта наша відавочная «сівізна».

— У трыццаць пяць гадоў такія вершы...— хутчэй сам сабе дзівіцца ён.— А мы... А я... Але хіба мы старыя?! — з някрыўднай насмешкай прымерваецца да кожнага з нас Мележ.

— На свете счастья нет, а есть покой и воля...— зноў паўтарае ён і паволі накіроўваецца ўніз, па вузкай драўлянай лесвіцы, засланай зялёнай дывановай дарожкай.

Аднак з таго яго лірычнага маналогу мне найбольш запомнілася яго шчырае здзіўленне і нават як быццам расчараванне: адкуль гэта і мы, астатнія, таксама, як і ён, ведаем, ведаем на памяць гэтыя вершы Пушкіна?..

* * *

Прыпамінаю так, як самі па сабе ўзнікаюць успаміны. Не прытрымліваючыся ні храналогіі, ні нейкай там тэматычнай паслядоўнасці... Усім нам, хто яго ведаў, і тым, хто цяпер будзе сустракацца з ім толькі ў яго творах ды яшчэ ва ўспамінах яго сучаснікаў, усім нам дарага будзе — я ўпэўнена — адчуць жывога Мележа — не толькі пісьменніка, але і чалавека.

Недзе ў пачатку пяцідзесятых гадоў, Каралішчавічы. Сюды яшчэ ездзяць адпачываць нават самыя знакамітыя са знакамітых. «Сярэдніх» яшчэ з выпадку наезду «вышэйшага» госця пераводзяць і ў пакой «сярэдні»... Пачынаючым ці маладым увогуле рэдка калі выпадае трапіць сюды, а калі і трапляюць, дык хіба толькі ў першы ці пяты пакойчык, дзе ледзь туляцца адзін ложак і невялічкі пісьмовы столік з крэслам. (Зрэшты, як на сапраўдны творчы лад, то нават і класікам з класікаў ніколі нічога больш і не трэба было, каб пакінуць тое, што яны пакінулі...) У нашых Каралішчавічах тады, як, дарэчы, і зараз, як і ва ўсіх нашых і вельмі слынных Дамах творчасці, існаваў непахіснейшы «табель о рангах»...

Я жыла, вядома, у пятым пакойчыку. Іван Мележ з дачкой Людачкай (яна яшчэ ў школу не хадзіла) займаў сёмы. Ён тады працаваў, па-мойму, над «Мінскім напрамкам» і вельмі нерваваўся і хваляваўся з выпадку таго, што яго ў гэтым пакоі ўвесь час трымалі «часова»: меўся прыехаць Кандрат Кандратавіч Крапіва з Аленай Канстанцінаўнай, якія звычайна адпачывалі толькі ў сёмым пакоі. Ва ўсякім разе так папярэдзілі Мележа. І хоць Кандрат Кандратавіч з Аленай Канстанцінаўнай прыехалі недзе пад самы ўжо канец тэрміну — рабочы настрой ну, ды, вядома, і самалюбства Мележа — былі пазбаўлены раўнавагі...

Мне больш за ўсё запомніўся той малады Мележ, як вельмі прыкладны бацька. Я ні разу не пачула, каб ён калі ўзвысіў на дзіця голас ці каб нешта загадаў і яно адмовілася. Яго слова было законам, але не цяжарам для дзіцяці. Дзяўчынка ўставала разам з бацькам, умывалася і сама, як дарослая, заплятала свае цудоўныя светлыя, цераз усе плечкі, косы з ружовымі бантамі. І, гледзячы на іх дваіх, збоку, нельга было не захапляцца і не пазайздросціць.

Памятаю, што мы тады часта хадзілі гуляць па лесе,

хадзілі ў суніцы за Доўнараву хату — там тады на полі былі такія шырокія незааранresponse паплоўчыкі ўздоўж нявыкарчаванага дубняку і рэдкіх кустоў шыпшыны. На тых паплоўчыках як насыпана ўсё роўна было да чарнаты выспелых суніц. Цяпер не засталося ўжо і следу ні тых паплоўчыкаў, ні дубняку, ні шыпшыны, ні суніц. Няўмольным жалезным крокам там па голым цяпер палетку сягае лінія высакавольтных перадач... Хадзілі мы туды з Лідай Кірэенка, нябожчыкам Стаховічам і Мележам (а пра яго, пра Мележа, так цяжка пісаць руцэ «нябожчык»...).

Стаховіч нязменна жартаваў: інакш трымацца з жанчынамі ён не ўмеў, а Мележ іраваў то адной з нас, то другой — каб лішняе не бралі сабе ў галаву! — духмяныя кусцікі суніц і спяваў модную ў тыя гады песеньку:

Мы с тобою не дружили,
Не встречались по весне,
Но глаза твои большие
Не дают покоя мне.

І нам, абедзвюм, тады яшчэ зусім маладым жанчынам, было прыемна яго слухаць...

* * *

...У лістападзе семдзесят чацвёртага года ў ялцінскім Доме творчасці нас, беларусаў, сабралася цэлая калонія. Былі Мікола Аўрамчык, Ліда Арабей са сваім мужам мастаком Яўгенам Ганкіным, паэты Іосіф Васілеўскі, Кастусь Цвірка, Алесь Ставер. І я была.

Не памятаю, ці то завадны і кампанейскі Іосіф Васілеўскі, ці, можа, хутчэй Мікола Аўрамчык — нехта з іх падаў думку ўсім нам гуртам наведаць Мележа, які ў гэты час адпачываў з Лідзіяй Якаўлеўнай у Місхоры ў санаторыі «Беларусь».

І вось, доўга не збіраючыся, на катэры адправіліся мы ў Місхор. Прыехалі якраз, калі наступіла «ціхая гадзіна». Зайшлі да дзяжурнай сястры, сказалі, хто мы, да каго прыехалі. Сястра, не выказаўшы вялікага захаплення нашым з'яўленнем, пайшла ўсё ж да Мележаў. Неўзабаве яна вярнулася і са словамі: «Ён зараз выйдзе» зноў села да свайго стала.

Адчуваючыся няёмка, што прыехалі не ў час — адступаць, аднак, ужо было немагчыма — мы засталіся чакаць.

Прайшло даволі часу, і ў глыбіні шырокага, светлага калідора зноў расчыніліся бакавыя дзверы, куды заходзіла

сястра, і на парозе паказаўся Іван Паўлавіч. Ён быў у знаёмым усім нам шэрым пінжаку, такі некурортны, такі няпляжны...

Мы ўсе паспешліва пайшлі яму насустрач. І ён ішоў насустрач нам і прыязна ўсміхаўся.

— Прашу прабачэння, што прымусіў вас усіх мяне чакаць... Сёння быў цяжкі дзень. Была цяжкая працэдура...

У яго і на адпачынку, і ў санаторыі былі і «працэдуры» і «цяжкія дні»...

Нам трэба было прасіць прабачэння: гэта мы, можна сказаць, паднялі яго з пасцелі, калі яму так быў патрэбен адпачынак...

— Не, не! Лепшых лекаў, чым вы мне прывезлі, мне не прыдумаюць ніякія дактары! — ён сапраўды быў непадробна рады, што вось мы, такім гуртам, захацелі пабачыцца з ім, прыехалі і таксама бясконца рады гэтай стрэчы.

— Вунь вы ўсе якія малайцы...— вітаючыся з кожным з нас за руку, здавалася, пасвятлеў Іван Паўлавіч.— Хадзем, пабачыце маё жытло.

Мікола Аўрамчык, па праву блізкага сяброўства, спытаў у яго, ці працуе ён тут, ці піша.

— Пішу раман. У прадбанніку...— усмешка яшчэ больш адбівала хваравітасць яго твару.

Ён жыў тады ўжо ў «люксе».

Лаўрэат Ленінскай прэміі. Дэпутат Вярхоўнага Савета. Народны пісьменнік... У яго было ўжо ўсё: поспех, агульнае прызнанне, забяспечанае становішча, слава... Усё было! Не было толькі здароўя.

«Жытло» сапраўды было люксавае.

Гасцінную абстаўляў адмысловы гарнітур мяккай зручнай мэблі. Тэлевізар. На ўсю падлогу дыван. І, здаецца, нават крышталь у серванце... Запрашаючы нас садзіцца, ён гэтак жа насмешліва, як і аб «прадбанніку», паскардзіўся:

— А пісьмовага стала няма...

Была ў тым шыкоўным «люксе» яшчэ шыкоўная спальня, а пісьмовага стала не было. Ён павёў, паказаў нам, дзе піша раман. Сапраўды ў прадбанніку. У цесным маленечкім пакойчыку (без акна), перад ванным пакоем, стаяў невялічкі столік. Нават не пісьмовы, а занесены сюды, у гэты люкс, з такога незвычайнага выпадку, можа, з каморкі кастэлянкі ці сястры-гаспадыні...

На століку гарэла настольная лямпа і ляжаў раскрыты

рукапіс. І яшчэ на тым століку — адразу кінулася ў вочы — пластаўся на падносе вялізны разрэзаны кавун!

Лідзія Якаўлеўна паставіла на стол вазу з яблыкамі і запрасіла нас частавацца. А Іван Паўлавіч, нібыта апраўдваючыся, сказаў:

— Прабачце, што няма віна,— і са шкадаваннем дадаў: — Я ўжо даўно не п'ю віна...

Мы з Лідай Арабей узялі па яблыку. Яблыкі былі духмяныя, сакоўныя, смачныя. Мне захацелася яшчэ адно... Тут і хлопцы працягнулі рукі, і неяк непрыкметна гаворка выправілася, ажывілася, і ўсім нам неўзабаве адчулася проста і лёгка ў тых гасцях.

Цяжка дакладна зараз аднавіць у памяці, пра што ішла гаворка. Вядома ж, перш за ўсё і пра здароўе Івана Паўлавіча, і пра яго раман (усе яго і сябры, і чытачы даўно ўжо чакалі працягу яго «Палескай хронікі»). І ў друку і ў прыватных гутарках ён не таіўся, што піша працяг — трэці раман... Прызнаваўся, што пішацца цяжка, пакутліва: і прычына таму — адказнасць перад той гістарычнай і мастацкай праўдай, якую ён мусіць і павінен сказаць у гэтым новым рамане... І здароўе, хвароба, бальніцы...

Гаварылі пра літаратуру ўвогуле.

У гутарцы з Мележам заўсёды здзіўляла, адкуль, пры такой творчай, службовай і грамадскай занятасці, адкуль браліся ў яго сіла і час сачыць за літаратурным працэсам не толькі свае рэспублікі, не толькі краіны, а дасканальна арыентавацца і ведаць, што адбываецца ў літаратуры сусветнай.

...Потым яны з Лідзіяй Якаўлеўнай павялі нас паказваць будынак, у якім яны жылі. Гэта быў корпус санаторыя з найсучаснейшым абсталяваннем, з шыкоўнымі холамі, з салярыем, з басейнам...

— Тутэйшыя вастрасловы празвалі яго дваранскім гняздом,— відаць, гэты жарт падабаўся і самому Мележу...

Гнявіць бога грэх было: «гняздо» было зручнае... Як бы толькі адчувалася ў гэтым гняздзе мілая яго сэрцу Ганна, каб выпадкам трапіла сюды. Ці яе бацька Чарнушка. Або якая-небудзь куранёўская Сарока...

Пад гэтым дахам, у яго «прадбанніку», луналі толькі іх душы... Мы абышлі ўсе холы, усе залы, паглядзелі салярый, басейн.

У лоджыі ўсіх нас фотакарэспандэнт «Советского Крыма» П. А. Іваноў сфатаграфаваў на памяць. Ён таксама прыехаў разам з намі, каб змясціць у сваёй газеце рэпар-

таж: «Беларускія пісьменнікі ў гасцях у лаўрэата Ленінскай прэміі Івана Мележа». Іван Паўлавіч папрасіў Пятра Іванова абавязкова зрабіць нам усім на ўспамін аб гэтай стрэчы здымкі.

Гэтыя здымкі ў мяне ёсць і сёння.

Потым мы яшчэ палюбаваліся з лоджыі на мора, якое ляжала пад гарою, нібыта ў нас пад нагамі. Пагулялі па тэрыторыі санаторыя. Аднак і час ужо быў збірацца ехаць назад у Ялту... Колькі мы ні адгаворвалі, Іван Паўлавіч усё роўна пайшоў з Лідзіяй Якаўлеўнай правесці нас на верхнюю дарогу. І чакаў, пакуль мужчыны не падхапілі нейкае выпадковае таксі.

Ён усіх нас пацалаваў на развітанне і стаяў ля машыны, глядзеў, як мы, пяцёра, не звяртаючы ўвагі на пратэст шафёра, пакаваліся ў машыну.

Ён так і застаўся з таго вечара ў маёй памяці з узнятай рукой на ўзбочыне Севастопальскай дарогі.

А праз некалькі дзён яны з Лідзіяй Якаўлеўнай вярталіся ўжо назад у Мінск. Напярэдадні ад'езду яны прыехалі ў Ялту, каб развітацца. Мележ зайшоў да кожнага з нас у пакой. (Мы яго таксама не чакалі.) У гэты дзень і выгляд і настрой у яго былі куды лепшыя. Ён быў у выдатна пашытым гарнітуры, у берэце і з плашчом на руцэ. Сабраны, падцягнуты, я сказала б нават дзелавы па-дарожнаму. Але ў той жа час і вельмі ўважлівы і далікатны.

Лідзія Якаўлеўна цярпліва чакала яго ўнізе ў холе, пакуль ён рабіў свой «абход» усіх нас...

* * *

Засталіся яшчэ ў памяці сустрэчы з Іванам Мележам у «Работніцы і сялянцы» — даўнія. І апошнія — у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

У «Работніцу і сялянку» ён часта прыходзіў. Усе яго творы друкавала яму Яніна Балеславаўна Шабуня (Яня) — першакласная машыністка, якая вывела сваёй машынкай «у людзі» не аднаго пісьменніка...

У «Работніцы і сялянцы» Іван Мележ друкаваў усяго адно толькі апавяданне «Сустрэча за горадам». Тады ў рэдакцыях панаваў бязмежны страх перад «амаральнай» тэмай і «амаральным» героем... (Герой твора здрадзіў жонцы, ці, наадварот, героя твора, жанатага чалавека, пакахала дзяўчына...) Давялося і нам тады з Іванам Паўлавічам — я працавала ў «Работніцы і сялянцы» загадчы-

кам аддзела культуры і літаратуры — «пабіцца» з рэдактарам і адказным сакратаром рэдакцыі... Можа, таму ён сам больш ні разу так нічога і не прынёс у наш часопіс.

Я памятаю, як «калаціўся» над кожным сваім словам Мележ. І ў той жа час — мяне гэта і цяпер здзіўляе — ён вельмі ўважліва прыслухоўваўся (хутчэй за ўсё правяраў сябе) да мае «жаночае» думкі адносна паводзін яго герояў і асабліва гераіні.

— А што, па-вашаму, павінна адчуваць у такой сітуацыі жанчына? А як яна будзе сябе паводзіць? А што думае яна ў такі момант пра мужчыну?..— Ён, можа, як мала хто іншы з пісьменнікаў, верыў і davяраў перш за ўсё самому сабе. Але ён і правяраў сябе самога!

...Ён любіў зайсці па дарозе і пасля звычайнага ветлівага ўступу перавесці гутарку на сваю апошнюю кнігу, на свой раман, на сваіх герояў. Няма ні папроку, ні дакору яму за тое, што ён любіў гэтыя гутаркі і мог без стомы слухаць, калі гаварылі пра гэта іншыя. Што зробіш — гэта была рыса яго характару. (А куды ты дзенешся ад свайго характару?) За спіной у яго гэта рыса не раз выклікала сяброўскія жарты і таленавітыя імітацыі. Імітацыі-жарты — і не толькі сяброўскія...

...Колькі разоў у выдавецтве, куды ён ішоў часам «як на вайну», ён паўтараў: «Кепска адчуваю сябе... Можа, новай кнігі ўжо не дачакаюся...»

Лепш за ўсіх дактароў ведаючы, што жыцця яму адпушчана ўжо нямнога, ён усё ж спадзяваўся, ён з такой верай прагнуў пачуць кожны раз такое патрэбнае яму пярэчанне: «Як гэта не дачакацца новае кнігі?! Каму ж тады і чакаць...»

А ён не толькі не дачакаўся. Не дапісаў нават. І вось немагчыма паверыць. Немагчыма змірыцца: памёр Мележ...

* * *

Срэбны і чысты, як сабор, лес нячутна звоніць вечную памяць яго заціхлым крокам. І яго думкам, што не зніклі, а толькі адляцелі...

16 студзеня 1977 года,
Каралішчавічы

P. S. Час сцірае надпіс на камянёх?

Яшчэ ў кастрычніку мінулага года я пісала першыя старонкі гэтых успамінаў, і слёзы засцілалі мне вочы.

І вось мінулася восень і засыпала яго сляды залатым лістападам. І наступіла зіма. І таксама прыбрала яго дамоўку снегам...

Адыходзіць і сціхае паступова боль успамінаў. Высыхаюць слёзы.

...Неацэнную даніну памяці Івана Мележа — фотавыстаўку яго жыцця і творчасці — зрабіў у Доме літаратараў Уладзімір Крук.

Кожны раз, трапляючы ў гэты дом, ці то раніцой, ці днём, ці ўвечары, я заўсёды паднімаюся на другі паверх, спыняюся і, стрэўшыся вачыма з бязмоўным запытальным позіркам, ціха вітаюся:

— Добры дзень, Іван Паўлавіч!

І мне так хочацца цуда: каб ён усміхнуўся, каб пачуць ад яго, як некалі пры стрэчах:

— Пачакай, затрымайся...

*Вясна — лета 1977 года*

## «НЕКАЛЬКІ ХВІЛІН ЧУЖОГА ЖЫЦЦЯ»

Яну Скрыгану — семдзесят пяць.

Юбілей пачэсны, заслужаны. Юбілей, якім ёсць падстава ганарыцца.

Значыць — свята. І свята трэба святкаваць.

Хадзем жа тады на стрэчу з самім Янам Скрыганом.

Бачыце, вунь ён якраз і кіруецца насустрач нам. Імклівы крок. Плечы, дзякаваць богу, пад ношкай гадоў не прыгнуліся. У хітраватым прыжмуры вачэй — добразычлівая (скрыганаўская) усмешка. Кіёк у руках? Ды ён не для помачы. Ён хутчэй для своеасаблівага элеганту. А, можа, нават гэта проста водгалас тых незабыўных яшчэ «бурнапеністых» часоў «Літаратурна-мастацкай камуны», калі, «памятаючы прыклад рускага футурызму, што трэба нечым вылучыцца, хадзілі бадай што ўсе з кіямі і ў капелюшах, што на той час было навіною. Трымалі сябе ваяўніча і задзёрыста на літаратурных вечарах і дыспутах, траха не загрудкі хапаліся ў спрэчках».

Так усмешліва сам Ян Скрыган успамінае, як церабіла некалі сабе сцежку на літаратурны Парнас яго пакаленне.

Лепш гэта ці горш, чым як цяпер цярэбіць яе сённяшняе пакаленне паэтаў? (Як і кожны прававерны пісьменнік, Скрыган таксама пачынаў з вершаў.)

Для яго лепш таму, што гэта была маладосць яго ўласная і яго пакалення маладосць. Сённяшнія — у свае семдзесят пяць — некалі лепшай будуць лічыць сцежку таксама сваёй паэтычнай маладосці.

І ўсё правільна!

. . . . . . . . . . . . . . .

— Дзяньдобры! Дзяньдобры! Як жывецца? Як гадуецца?

Скрыганаўскую скорагаворку страчаеш таксама, як свята. Бо калі чуеш яго мову, то нібыта п'еш з празрыстае крышталёвае крыніцы. Ён захаваў у чысціні характво слова з тых яшчэ часоў, калі вясковым хлопцам, у кажушку, у сякіх-такіх чаравіках, упершыню пераступіў парог «Вясковага будаўніка». Калі, дастаўшы з-за пазухі невялічкую зрэбную торбачку, высыпаў з яе на рэдактараў стол цэлыя прыгаршчы залатога і срэбнага — звону! Звон той, слуцкі, адмысловы, спрадвеку назапашвалі ў сваіх скарбонках яшчэ даўнія-старадаўнія бабулі і прабабулі. У спадчыну перадавалася багацце не кожнаму з унукаў і праўнукаў...

«Бацька мой, як і кожны грэшны чалавек, вельмі ж хацеў забагацець. Ён залез у доўг у зямельны банк і купіў сабе недзе пад Слуцкам, у Хваявіцы, кавалак зямлі. Няўдобіцы — пяскі, балота ды імшарнік... Ён пераехаў туды, будаваўся, карчаваў, а сядзібу ў Труханавічах пакінуў старэйшай сястры Ульяне. Школы там не было, і я амаль увесь час аставаўся ў Ульяны: узімку вучыўся, а ўлетку памагаў ёй гадаваць дзяцей. Часам ездзіў і да бацькі. Божа мой: гушчэча, камары, нуда: наўкол у балотах бясконца крумкаюць жабы. А ўзімку чортведама як вусцішна выюць ваўкі.

Звычайна ўлетку, пакуль я быў меншы, на мне ляжалі абавязкі пастуха. Але з гадамі на плечы клалася і другая работа: араць, касіць, сеяць... Я ўмеў пілаваць дошкі, бандарыць, сталярыць, гнуць абады, рабіць сані і калёсы, саломаю ці гонтаю крыць стрэхі. Работа не пужала мяне, а пужала беспрасветнасць яе... Дзеля чаго тады жыць, каб быць толькі рабом зямлі?»

Так ад нязгоды бунтавала сэрца. А ў душы ішла свая патаемная работа, душа нямела ад незразумелага прадчування...

Так заўсёды бывае, калі ў чалавеку нараджаецца паэт.

Вершы былі адпраўлены ў газету «Вясковы будаўнік» па пошце, па пошце ж неўзабаве прыйшло і запрашэнне наведаць рэдакцыю. Які гэта быў дзень! Божа, які незабыўны дзень, калі яму прапанавалі застацца працаваць у газеце!

Ён апрацоўваў нататкі селькораў, збіраў падпіску, фальцаваў газету, хадзіў на вёрстку ў друкарню. А калі друкаваліся яго ўласныя вершы — ён адразу ж стаў актыўным членам Слуцкай філіі «Маладняка»,— ён падпісваў іх пагрозлівым псеўданімам Пірат. Ён быў тады пад моцным уплывам паэзіі Байрана. Байранаў «Карсар» вельмі імпанаваў яго тагачаснаму настрою і паэтычнаму густу.

Няцяжка ўявіць сабе, якое свята было ў Слуцкай філіі, калі вершы яе ўдзельнікаў трапілі ў кніжку «Маладняка»!.. Калі яе наведалі такія ўжо вядомыя пісьменнікі, як Кузьма Чорны і Язэп Пушча. (Гэта падзея нарадзіла «Першую стрэчу» — апавяданне Яна Скрыгана.) А потым быў у Мінску першы з'езд «Маладняка», і Слуцкая філія таксама ўдзельнічала ў гэтым з'ездзе. Там жа Ян Скрыган упершыню ўбачыў палымянага Міхася Чарота, убачыў Міхася Зарэцкага, Алеся Дудара, Андрэя Александровіча, Кандрата Крапіву, Міхася Лынькова. А таксама гасцей,

запрошаных з Украіны — Сасюру, Ягансена... Асабліва ж запалі яму ў вока маладыя і такія прыгожыя беларускія паэтэсы: Зіна Бандарына, Яўгенія Пфляўмбаум, Наталля Вішнеўская... Дзявочае хараство, жаночая маладосць — яны на ўсё жыццё засталіся натхненнем пісьменніка. А інакшым хіба можа быць мастак?

(«Жанчына! Ва ўсе часы і ўсімі народамі колькі напісана хвалы яе хараству! Я таксама яго палоннік. Але, божачка, як цяжка падумаць, што яно патрабуе вельмі дарагой абсады...»)

...Сёння можна толькі здзіўляцца і зайздросціць таму паэтычнаму катлу, у якім кіпеў тагачасны — дваццатых гадоў — Слуцак. Апанас Атава, Язэп Сукала, Іда Чырвань, Паўлюк Шукайла... Самі імёны — яны нібыта таксама ўзыходзілі на ўрадлівай слуцкай глебе.

І як быццам нават трохі шкада зараз, што знік і няма яго цяпер, гэтага наіўнага імкнення паэтаў — нават уласным прозвішчам! — «бушаваць» у літаратурным жыцці. Шкада, і часам адольвае сум, калі бачыш, як рацыянальна, як разважліва «бяруць Парнас» іншыя маладыя сёння. Першы наступ — заява ў Саюз — на членства. Другі, адразу ж — заява ў літфонд на кватэру. Наступны заход ужо і не лічыцца ніякім наступам: заява на грашовую дапамогу і пуцёўкі... Літфонд тут ужо сам уздымае рукі ўгару!

Шкада, што неяк вельмі сонна і млява і ў тваіх вокнах і на тваіх вуліцах сёння, старадаўні слаўны Слуцак...

І народны тэатр ёсць, і музей, і найлепшая, можа, на ўсю рэспубліку гарадская бібліятэка, дзе людзі робяць сваю работу зацікаўлена і натхнёна, і школ навейшых набудавана, і ўвогуле-то нямала інтэлігенцыі! А напорыстага бадзёрага скразняку — у культурным жыцці — няма яго!

...Я не хачу, каб гэты імгненны мой настрой зрабіў — божа барані! — адбітак на сённяшняй гаворцы пра Яна Скрыгана з нагоды яго юбілею.

Яго пакаленню, яго аднагодкам сумаваць не даводзілася. Не даводзілася і яму самому. Кіпела і бурліла філія. Пісаліся і друкаваліся вершы. Хапала работы ў рэдакцыі. Але работа ніколі не была для яго цяжкая. Яна, як і жыццё, цешыла. А жыццё ўжо надзейна станавілася на ногі. Ён ужо самастойна справіў боты, а да іх і галіфэ. А каб трымаць моду, дык адразу ж на галіфэ і леі нашыў.

Пасля Слуцка былі Расоны. Вялізнае сяло — хоць і раён... Там ён загадваў Нардомам, што мясціўся ў колішняй дамавой царкве ў маёнтку былога пана Глазкі. І там

жа быў сакратаром чыгуначнай камсамольскай арганізацыі. «Гэты час вельмі люблю ўспамінаць,— піша Скрыган.— Нам хацелася многа зрабіць...» І сапраўды, чаго тады толькі не патрабавалася! І сходы па сёлах праводзіць, і наладжваць культурную работу, і даклады рабіць, асабліва пра міжнароднае становішча... І ўсё пехатою, пехатою — толькі хіба ў дарозе дзе падкінешся да якога-небудзь дзядзькі на воз. Але ж і ногі былі — маладыя!

З Расонаў заўзяты начальнік Нардома паслаў у «Маладняк» аж цэлы сшытак вершаў. Яны ўзыходзілі і каласавалі ў яго душы, калі ён з усім юначым запалам імкнуўся засяваць землі даверанай яму Расоншчыны разумным, добрым і вечным... Сшытак з «Маладняка» вярнулі. Затое апавяданне «Таіса» ў газеце «Чырвоная Полаччына» надрукавалі адразу ж. І адразу ж ён стаў вядомы на цэлы раён! Апавяданне стала прадметам размовы на канферэнцыі настаўнікаў, якая праходзіла ў Полацку! І пасля гэтага, як некалі і ў Слуцку за першы надрукаваны верш, таксама прапанавалі яму пераехаць на работу ў рэдакцыю. Сакратаром «Чырвонай Полаччыны» на той час быў Пятрусь Броўка. «Наогул мне шанцавала на добрых людзей...» — напіша потым Ян Скрыган.

Зноў быў горад. Вакол газеты зноў гуртаваўся літаратурны актыў, і таму пісалася, і працавалася, і жылося з уздымам. У сааўтарстве з мінскімі пісьменнікамі былі падрыхтаваны і выйшлі з друку альманахі «Наддзвінне» і «Росквіт». У гэты недзе час — і друкаванне апавяданняў на старонках альманахаў і цёплыя ўважлівыя словы сяброў — і абумовіўся канчатковы пераход Янкі Скрыгана-паэта ў больш прывабны яму стан празаікаў...

Разумелася, аднак, добра і другое: поспехі раённага маштабу, вядома, цудоўна... Але вучыцца далей — неабходна таксама!

І паступова адзін за адным, адзін за адным пачалі яны кіравацца па навуку ў Мінск. У Мінск!

У Мінску адразу ж апынаціся ў гушчыні сапраўднай літаратурнай атмасферы. Не міналі ні сходаў, ні дыспутаў, ні літаратурных вечароў. Не міналі выпадку і самі ўдзельнічаць і выступаць. На самым пачатку, праўда, заснавалі сваю — з палачан-землякоў — «Літаратурна-мастацкую камуну». Больш ад зухаватасці і нязгоды, больш насуперак маладнякоўцам («Калі вы не прызнаеце нас у сваім «Маладняку», дык мы і самі!..»), чым ад усведамлення патрэбы часу і творчай неабходнасці... Гэта тады яны

хадзілі з кіямі і «ламалі дровы» з футурыстычных вершаў, якія ім — вясковым хлопцам — мала каму даваліся ў рукі. Гэта тады яны, падкінуўшы кажух пад бок на падлозе ў каморцы якой-небудзь «пані Стрыжэўскай», да ранку маглі спрачацца і чытаць адзін аднаму вершы.

Зноў былі бясконцыя паездкі, камандзіроўкі на новабудоўлі рэспублікі, на фабрыкі і заводы, у маладыя калгасы. А вакол было такое асяроддзе! Кузьма Чорны, Рыгор Мурашка, Платон Галавач, Васіль Каваль... Тут жа наладжвалася і новае таварыства: з Барысам Мікулічам, Сымонам Баранавых, Юліем Таўбіным. З Заірам Азгурам — быў час — яны былі «як спарышы». З Петрусём Броўкам старая дружба вялася яшчэ з Полацка.

...На месцы тагачаснага густога бору самых разнастайных і рознавялікіх талентаў і асоб шырыцца сёння вялізная аголеная палянка. Вакол яе абступіў іншы ўжо — у новай сіле і росквіце — лес. А на ўзлессі задзірыста імкне да сонца таксама ўжо зусім непадобны падлесак.

Ян Скрыган — на гале вялізнай палянкі — мне асабіста ўяўляецца трывалым, гаманкім, сонцалюбівым ясенем...

Як сам ён успамінае ў «Сваёй аповесці», давялося яму аж на васемнаццаць з лішкам гадоў перамяніць прафесію... «Я працаваў землякопам, цесляром, конюхам, вадавозам, будаўніком, сплаўшчыкам, бухгалтарам, планавіком, рэвізорам. Пабываў у Сібіры, Узбекістане, Эстоніі, зноў у Сібіры... І ўсюды на сваім шляху сустракаў добрых і благіх людзей. Найбольш добрых... Бо на добрым вучыўся сам».

...Яшчэ ў 1929 годзе выйшла самая першая кніга «Затока ў бурах», благаслаўлёная ў свет Цішкам Гартным. Праз два гады напісалася яшчэ адна кніга апавяданняў «Недапісаны профіль».

...Гартаю і перачытваю старонкі кніг Яна Скрыгана, якія выйшлі за апошнія гады.

Аповесць з адступленнямі «Кругі». Аповесць «Усюды твае сляды», «Некалькі хвілін з чужога жыцця». Апавяданні. Падарожжы. Дакрананне. Пярэгалас. Майстэрня. Чары слова...

Як глыбака пайшло ў зямлю карэнне. Як шырака і прасторна размахнулася голлем само паэтычнае дрэва. Які свежы і духмяны пошум лістоты.

І ўсё гэта — вынік нястомных, няўрымслівых пошукаў і работы патрабавальнага, удумлівага мастака. І грамадзяніна, які не толькі любіць родную зямлю, але таксама і

дбае пра яе будучыню. І сваёй творчасцю падае прыклад, як трэба ганарыцца гераічным мінулым свайго народа, як неабходна шанаваць яго славу, шанаваць і ў чысціні захоўваць роднае матчына слова.

Я знарок не спыняюся ў гэтым кароткім юбілейным слове (а няма нічога нудней за доўгую гаворку на юбілеях!) на падрабязным аналізе твораў Яна Скрыгана. (Гэту работу трэба рабіць капітальна — і будзённым днём.) Не хачу ляпаць лічыльнікамі і бразгаць бязменам, каб абавязкова да шэлега ўсё падрахаваць і ўзважыць.

Я перачытваю кнігі Яна Скрыгана — старонку за старонкай — і мне не хочацца развітвацца з імі... Я чую жывую інтанацыю пісьменніка. Бачу яго ўсмешку, яго насупленае брыво. Мяне спыняе яго роздум. З асалодаю, як бярозавік у летнюю гарачыню, усмак п'ю мову Скрыганавых старонак. І вучуся ў яго. Ён цікавы і патрэбны мне. Бо ён — не толькі пісьменнік. Ён — асоба. І гэта — такое датрыненне, як піша сам Скрыган — у літаратурным жыцці свята.

З днём нараджэння, Майстар!

Жывіце доўга і ў добрым здароўі, дарагі Іван Аляксеевіч!

*1979*

# КАБ СТРЭЦЦА СЁННЯ...

Уявіце сабе візіт: у дзверы рэдакцыі аднойчы раздаецца лёгкі стук, і на парозе з'яўляецца чалавек. Прыкметна пасівелы, у запыленых ботах, з паляўнічым сабакам і выдатнай паляўнічай стрэльбай за плячыма.

— Разрешите представиться: Иван Тургенев...

...Божа мой, як даўно ўсе мы не страчаліся з ім. За справамі, за клопатам, за прорвай чытання, якога колькі ні чытай — не адолееш усё роўна. Не бачыліся не інакш з таго дня, калі ў апошні раз зачыніліся за намі школьныя дзверы. Ці тады, калі на інстытуцкім экзамене «здавалі» яго вершы ў прозе... «Как хороши, как свежи были розы»... Трэба сказаць праўду: сэнс тых вершаў зразумелі і адчулі мы куды пазней. Калі ўласныя ружы і завялі і абсыпаліся ўжо...

* * *

Няўжо мы ўсё забылі б, каб не адзначаліся юбілеі?

...Івану Сяргеевічу Тургеневу спаўняецца сто пяцьдзесят гадоў з дня нараджэння. Гэта па календарах і юбілейных даведніках. Уявіць жа яго паўтарастагадовым старым, прачытаўшы яго творы, немагчыма... Колькі я памятаю сябе, колькі і дзе б мы яго ні «праходзілі» — у школе, у інстытуце, ва універсітэце — Тургенеў ва ўсе часы ўяўляўся вельмі блізкім і зразумелым. Вы з ім толькі даўно не бачыліся — і вось гэта нечаканая стрэча! Гэты натхнёны маналог: «Ці ведаеце вы, якое гэта захапленне выехаць вясной на досвітку? Вы выходзіце на ганак... На цёмным яшчэ небе сям-там міргаюць зоркі; лёгкай хваляй павявае зрэдку вільготны ветрык; чуецца стрыманы няпэўны шолах ночы; захутаныя ценем дрэвы ціха шумяць. Вось засцілаюць дыванам воз, да ног мосцяць скрынку з самаварам...»

Нічога, нічога, што вам не запрэглі брычкі! Што не паслалі дывана і не паставілі самавара... Да вашых паслуг спадарожны аўтобус, за плячыма ў рэчавым мяшку тэрмас з гарачым чаем (без дывана абыдзецеся...) А ўся прыгажосць і захапленне вашай паездкі наперадзе — у вашых руках ці, дакладней, нагах... Не лянуйцеся толькі!

«А тым часам усход запалаў, і па небе пайшлі ўжо залатыя палосы, у ярах заклубілася пара: жаўрукі звонка

заспявалі, падзьмуў перадсвітальны вецер, і паволі выплыла барвовае сонца. Хлынула патокам святло; і сэрца ваша затрапятала, як птушка. Ядрана, весела, люба».

Добрай раніцы, Іван Сяргеевіч!

...Прыгадзіўся некалі яшчэ ў школе вучаны тургенеўскі (ні з чым не параўнаны!) сінтаксіс. Вучыў ён не толькі наймудрэйшым граматычным перыядам і знакам прыпынку. Вучыў, мусіць, перш за ўсё ўглядацца ў хараство быцця і прыроды вакол цябе, вучыў і быць яму таксама ўдзячнымі на ўсё жыццё.

Успомнім усё тую жыватворную крыніцу, з якое, пачынаючы недзе з пятага класа, па глытку вучыліся піць мы радасць і захапленне і на роснай сенажаці, і ў бярозавым гаі, і на толькі што засеянай сялянскай ніве... Той крыніцай былі для ўсіх нас тургенеўскія «Запіскі паляўнічага».

Не трэба спасылак на Бялінскага (з ім мы стрэліся і ў яго вучыліся куды пазней ужо!), чаго каштавала — на шалях мастацтва — гэта кніга. Мы яе, як умелі, узважвалі на ўласных неспакушаных сэрцах.

«Бежын луг». Хто здольны, хоць раз у жыцці прачытаўшы яго, забыць той апісаны Тургеневым начлег і тых хлапчукоў, якія, здавалася, нам, сялянскім дзецям, даводзіліся адзінакроўнымі братамі? Як жывыя, перад вачыма стаяць яны і сёння.

А тургенеўскія Хор і Каліныч, а Ермалай і мельнічыха, а Касьян з Прыгожай Мечы, а спевакі...

Запомнілі і бурмістра, і павятовага пана Аркадзя Паўлавіча Пеначкіна («Насчет Федора — распорядиться»... За непадагрэтае віно — «распорядиться»...).

І будзе няпраўдай сказаць, што, чытаючы Тургенева, мы толькі сузіралі і захапляліся. Тургенеў вучыў нас і другому: дабраце і спагадзе да «прыніжаных і зняважаных». Вучыў ненавідзець зло, народжанае самаўпраўствам. Успомніце нямога Гарасіма. Успомніце — і не саромцеся прызнацца! — што вы самі плакалі над лёсам гэтага бяскрыўднага чалавека і над яго бяскрыўднай Му-му... І як моцна мы ненавідзелі старую звар'яцелую самадурку пані!

...А потым мы сталелі і чыталі ўжо другія кніжкі Тургенева. І зноў рабіліся (ці ва ўсякім разе хацелі, імкнуліся да гэтага) як быццам лепшымі. Тургенеў раскрыў перад намі непаўторнае святло кахання, чыстага і незамутнелага, як успетыя ім ранкі...

Мы не проста захапляліся, калі чыталі «Асю» ці «Веснавыя воды».

У нас кіпела галава і кружылася сэрца. Нам самім хацелася ўзнёслага, самаадданага тургенеўскага кахання, гэтакай жа, як у яго, самаахвярнасці ў імя кахання, хацелася нейкіх незвычайных учынкаў — безумоўна, высакародных...

«Лішнія людзі» — Лаўрэцкі і Рудзін. Нігіліст Базараў. Рэвалюцыянер Інсараў... Ніводзін з іх не меў падабенства з другім, і кожны з іх, па-свойму, быў выдатным чалавекам... А побач з імі свяціліся і надавалі зусім іншы сэнс жыццю (іншы, як ва ўсіх тых, хто жыў вакол) абаяльныя жаночыя вобразы — Ліза Каліціна, Наталля, Алена Стахава...

Такіх жанчын, магчыма, і не было ў жыцці, пісаў Леў Талстой, але Тургенеў напісаў, стварыў іх вобразы, і яны потым з'явіліся. «Я потым сам бачыў тургенеўскіх жанчын у жыцці»...

Тургенеўская жанчына. Тургенеўская дзяўчына... І сапраўды, хіба не ўвайшла яна — не толькі ў літаратуру, а і ў жыццё таксама — на доўгія часы?

І няхай сабе памянялася мода. Няхай з'явіліся іншыя ідэалы (і тургенеўскі ідэал — «старамодны» сёння — амаль забыўся). Тым, можа рамантычней яго гучанне: тургенеўская дзяўчына...

Вось бы стрэць яе сёння!

Або ўявіць сабе гэты візіт у рэдакцыю... Запыленыя боты, паляўнічая стрэльба за плячыма, у ягдташы качка і парка бекасаў...

— Разрешите представиться: Ива́н Тургенев.

Якія скарбы засталіся нам у спадчыну...

*1968*

# НЕЗАХМУРАНАЯ ВЯРШЫНЯ

«Я возвращался домой полями. Была самая середина лета. Луга убрали и только что собирались косить рожь».

Памятаеце — так пачынаецца «Хаджы-Мурат».

Мне заўсёды здавалася, што я ўяўляю тую дарогу, па якой Леў Талстой вяртаўся дадому, з дакладнасцю да кожнай павараткі, да кожнай калдобінкі; што ішла тая дарога не інакш як з-пад Булгашчыны (не нашага лесу), абмінала старую таямнічую нашу Дуброву, выходзіла на Доўгія Нівы і потым з невялікага пагорка кіравалася ўжо да Кароткіх Ніў... І вось там, недзе за дубровай, з краю палетка, размінаючыся са стрэчнай падводай, і пераехаў няўзнак колам цудоўны малінавы куст дзядоўніку, можа, мой дзядзька Мікалай, можа, канцавы Тодар, а можа, стары Васіль Гурын...

«Куст «татарника» состоял из трех отростков. Один был оторван и, как обрубленная рука, торчал остаток ветки. На других двух было на каждом по цветку. Цветки эти были когда-то красные, теперь же были черные. Один стебель был сломан, и половина его с грязным цветком на конце висела книзу; другой, хотя и вымазанный черноземной грязью, все еще торчал кверху... Видно было, что весь кустик был переехан колесом, и уже после поднялся и стоял боком, но все-таки стоял. Точно вырвали у него кусок тела, выкололи глаз. Но все-таки он стоит и не сдается... «Экая энергия! — подумал я,— все победил человек, миллионы трав уничтожил, а этот не сдается».

И мне вспомнилась одна давнишняя кавказская история...»

І напэўна таму, што такой «уласна маёй» уяўлялася мне тая дарога, па якой ішоў Талстой, і такім — да фізічнага адчування — застаўся ва мне «боль» скалечанага дзядоўніка, таму, напэўна, у нейкім выключным парадку, на нейкім выключна сваім месцы засталася ва мне і тая даўняя каўказская гісторыя, якую пачаў пісаць Леў Талстой у 1896 годзе ў сваіх маскоўскіх Хамоўніках, а мне, трапіўшы ў гэту маскоўскую сядзібу Талстога ўпершыню ў сваім жыцці толькі гэтай вясною, захацелася зноў перачытаць і ўспомніць яе.

Недасяжная і незахмураная вяршыня — такім на ўсё жыццё заставаўся ў маім эмацыянальным свеце Хаджы-

Мурат. Гэту вяршыню не затуманілі ні адлегласць, ні час, не засланілі ніякія іншыя пікі.

І, бадай, самае дзіўнае тое, што яе як быццам абышлі бокам і не крануліся нават і тыя некалі абавязковыя праграмныя штудыі, калі мы вучнямі ў школе ды і студэнтамі ў інстытуцкай аўдыторыі таксама, разам з нашымі настаўнікамі, як у анатамічным тэатры, добрасумленна прэпарыравалі ўсе тыя літаратурныя святыні, якія толькі трапляліся ў нашы нудныя падручнікі.

Як я — памятаю — баялася кожны раз, барані божа, зблытаць асвечаны падручнікам (усё на сваёй паліцы) парадак: тэма твора, ідэя твора, сацыяльны змест твора, дадатныя вобразы, адмоўныя вобразы...

Пра «сацыяльны змест» гаворка на ўроках вялася пры поўным неразуменні вучнямі зместу самога гэтага вызначэння. А «галоўную ідэю твора» трэба было, як ядро арэха, вылушчваць з якога-небудзь Рудзіна ці паноў Галаўлёвых, з «Анны Карэнінай» ці чэхаўскіх «Баб» або Ванькі Жукава... А «лішнія людзі» — вы думаеце, яны мала «выпілі крыві» толькі таму, што яны не знаходзілі сабе ў жыцці ніякага месца і занятку, і мы, вучні, павінны былі несці за гэта кару...

Праўда, аўтараў нашых падручнікаў потым далучылі да ліку вульгарных сацыёлагаў і звалі рознымі іншымі «бранными» словамі. Але факт заставаўся фактам: падручнікі і школьныя праграмы па літаратуры (майго некалі школьнага ўзросту), навучаючы, як трэба разумець літаратуру, у той жа час за сем вёрст абыходзілі галоўнае яе прызначэнне — яе выхаваўчую ролю шляхам эмацыянальнага ўздзеяння на сэрцы дзяцей і юнакоў — і начыста выпаласквалі з мастацкага твора яго душу.

А што было вышэй і чысцей, чым сама гэта святая душа, якая вітала над старонкамі твора, над яго «вобразамі»?

«В холодный ноябрьский вечер Хаджи-Мурат въезжал в курившийся кизячным дымом чеченский немирной аул Махкет.

Только что затихло напряженное пение муэдзина, и в чистом горном воздухе, пропитанном запахом кизячного дыма, отчетливо слышны были из-за мычания коров и блеяния овец, разбиравшихся по тесным, как соты, слепленным друг с другом, саклям аула, гортанные звуки споря-

щих мужских голосов и женские и детские голоса снизу от фонтана».

У гэтым немірным чэчэнскім ауле з яго кізячным дымам (у нас печы палілі бярозавымі дрывамі), са спевам муэдзіна (у нас дома царквы не было, і маліцца ездзілі і хадзілі ў няблізкае мястэчка толькі па святах), з гоманам каля фантана (пра фантан у нас таксама ніхто ўяўлення не меў: ваду ўсе чэрпалі з калодзежа ва ўласным двары) — тут, у гэтым ауле, быў зусім новы, незразумелы сусвет...

«Хаджи-Мурат этот был знаменитый своими подвигами наиб Шамиля, не выезжавший иначе, как со своим значком, в сопровождении десятков мюридов, джигитовавших вокруг него. Теперь, закутанный в башлык и бурку, из-под которой торчала винтовка, он ехал с одним мюридом, стараясь быть как меньше замеченным, осторожно вглядываясь своими быстрыми черными глазами в лица попадавшихся ему по дороге жителей».

Ён вельмі нагадваў сокала са старой таўлінскай казкі. Сокала злавілі, і ён жыў у людзей, а потым усё ж не вытрымаў, паляцеў і вярнуўся назад у горы. Сокал вярнуўся, але ён быў спутаны, і на яго путах засталіся званочкі. І сокалы адмовіліся ад яго. Ляці туды, сказалі яны яму, хто начапіў на цябе срэбраныя званочкі. У нас няма званкоў, няма і путаў. Сокал не захацеў вяртацца, не захацеў пакідаць свае горы. І другія сокалы заклявалі яго...

Старая таўлінская казка пра сокала, арганічная ў талстоўскім кантэксце, як дыханне самога Хаджы-Мурата, міжволі нагадала мне апошнія дыскусіі і разнастайныя «дыялогі» — а па сутнасці, хутчэй за ўсё спаборніцтва ў красамоўстве — вакол так званай, раптам узнікшай, праблемы міфатворчасці. Па сутнасці ж, ніякай праблемы няма, з «лёгкай» таленавітай рукі проста пайшла мода на аздобу...

Сумняваюся, каб, уводзячы ў мастацкую тканіну «Хаджы-Мурата» неацэнныя ўзоры народнай словатворчасці — казкі і песні,— Леў Талстой імкнуўся пераконваць некага, нібыта гэтыя элементы вымагаюцца ад яго ўзроўнем ці «прыступкай», на якую ўзняўся сучасны Талстому літаратурны працэс...

«Так заклююць і мяне...» — успамінае старую таўлінскую казку Хаджы-Мурат, пакутуючы ад няўпэўненасці свайго стану ў рускіх. Застацца яму тут, пакарыць Каўказ і заслужыць славу, чыны і багацце? Ці паверыць і вярнуц-

ца назад да Шаміля, які пагражае загубіць яго сям'ю — старую маці і жонку, пагражае асляпіць любага яго сына — джыгіта і прыгажуна Юсуфа?

Выйсця не было.

Злапомслівы Шаміль не даравау Хаджы-Мурату яго дзёрзкасці, калі ён сказаў, што пасля Шаміля імамам застанецца той, у каго вострая шабля. І Шаміль паслаў сваіх людзей, каб яны схапілі Хаджы-Мурата, каб забіць яго... Але Хаджы-Мурат адбіўся і выйшаў да рускіх. І яго ўласны лёс цяпер быў у руках рускіх.

«Глаза Воронцова говорили, что он не верит ни одному слову из всего того, что говорил Хаджи-Мурат, что он знает, что он, враг всему русскому, всегда останется таким и теперь покоряется только потому, что принужден к этому... Глаза же Хаджи-Мурата говорили, что старику этому надо бы думать о смерти, а не о войне, но что он хоть и стар, но хитер, и надо быть осторожным с ним».

...Наўрад ці ведаў Хаджы-Мурат пра лёс «немірнога», непакорнага рускага Паэта, які некалі, больш за трыццаць ужо гадоў назад, як і сам ён цяпер, гэтаксама быў спутаны ўладай гэтага каварнага старога «з лісіным брытым тварам».

Пра той даўні час і пра таго вялікага Паэта ў гэтым тыфліскім палацы намесніка цара цяпер наўрад ці хто ўспамінаў калі. Нават і сама састарэлая жонка «сардара» княгіня Елізавета Ксавер'еўна...

І ўжо зусім напэўна, што ў тым палацы не здрыганулася б ніводнае сэрца, калі б раптам сярод звычайнага бляску «по маленькому только дельцу» з'явіўся б афіцэр Каменеў у суправаджэнні казака з мехам у руках...

«Это была голова, бритая, с большими выступами черепа над глазами и черной стриженой бородкой и подстриженными усами, с одним открытым, другим полуоткрытым глазом, с разрубленным и недорубленным черепом... Несмотря на все раны головы, в складке посиневших губ было детское доброе выражение».

Толькі адна дачка фельчара, раней Машка, а потым Мар'я Дзмітрыеўна (з якою «майор жил в супружестве») памянула смерць Хаджы-Мурата шчырымі жаночымі слязьмі.

...Я даўно не перачытвала «Хаджы-Мурата». І вось нечаканае здзіўленне: не, нічога не забылася за даўнасцю часу! І нічога не змянілася ў адносінах ні да самога твора, ні да яго герояў, як гэта нярэдка здараецца з намі пры

чытанні аднаго і таго ж твора, аднаго і таго ж пісьменніка ў розным узросце.

Наўрад ці многа хто стане пярэчыць, што ў юнацтве, напрыклад, амаль усе мы аддавалі перавагу м і р у і па-спешліва перагортвалі старонкі в а й н ы (сумна было чытаць...). У самога ж Льва Талстога!.. А пасталеўшы, потым ужо страшэнна дзівіліся з саміх сябе: сумна?!.

Або хіба не мяняліся нашы адносіны — зноў жа з узростам — да Анны Карэнінай і Аляксея Аляксандравіча Карэніна? Ці так ужо безапеляцыйна (спасцігшы жыццё з усімі яго складанасцямі) асуджаем мы «вушы», якія «тырчаць» у Карэніна, асуджаем увесь яго жыццёвы кодэкс? І ці гэтак ужо безаглядна даруем у с ё Анне за тое толькі, што яна ні з чым не палічылася і пайшла насустрач толькі каханню да Вронскага?

І нават светазорная Наташа Растова (яна была ідэалам таксама і майго ўласнага юнацтва!) мяне, сённяшнюю, у нечым расчароўвае нават і яна... Гэтае «ў нечым» сёння я ўжо ніяк не магу прыняць, у юнацтве ж яно проста не заўважалася.

...Я даўно не перачытвала Хаджы-Мурата. У промнях талстоўскага генія ён застаўся для мяне па-ранейшаму — я паўтару яшчэ раз гэта параўнанне — вяршыняй, якую не засланілі ніякія іншыя вяршыні.

Нават і тады, калі я раптам спатыкаюся аб такое вось нечаканае (даўно заўважанае і да мяне!): «Накурившись, между солдатами завязался разговор».

Значыць, і Талстой, як і мы ўсе, «смертныя», мог не заўважыць такога? Значыць, і ён, як і мы?.. Дык ці не бліжэй ён нам яшчэ ад гэтага! Прызнаюся, я паўтараю Карнея Чукоўскага. Гэта яго (можа, не зусім дакладна) словы, сказаныя пра Някрасава. Праўда, у зусім іншым дачыненні.

...Я нідзе не карысталася перакладам. Я хацела, каб «мой» «Хаджы-Мурат» заставаўся «Хаджы-Муратам» толькі Льва Талстога.

*1978*

# КАМЕНТАРЫІ

## АДНО ІМГНЕННЕ
Апавяданні

Крыніцай асноўнага тэксту для большасці апавяданняў з першых двух раздзелаў гэтага тома з'яўляецца тэкст выдання: Алена Васілевіч. «Адно імгненне». Выбраныя апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1974 г.

Спасылкі на гэтае выданне не даюцца. Іншыя крыніцы агавораны.

*«Тая першая зіма».* Выдадзена на рускай мове.

*«Рахмат».* Выдадзена на рускай і татарскай мовах.

*«Трэцяя палата».* Выдадзена на рускай мове.

*«Пісар страявой часці».* Выдадзена на рускай мове.

*«Ты пайшоў насустрач вайне».* Выдадзена на рускай і літоўскай мовах.

*«Халодная гара».* Выдадзена на рускай мове.

*«Антонаўкі».* Выдадзена на рускай мове.

*«Пані старшыніха прыехала...»* Выдадзена на рускай мове.

*«Адно імгненне».* Выдадзена на рускай, англійскай і французскай мовах.

*«Хто — дурань?..»* Выдадзена на рускай і нямецкай мовах.

*«Інтэрв'ю».* Выдадзена на рускай мове.

*«Грэх».* Выдадзена на рускай мове.

*«Карэспандэнтка».* Выдадзена на рускай мове.

*«Чужыя вершы».* Выдадзена на рускай мове.

*«Доктар Вайковіч».* Выдадзена на рускай мове.

*«Сустрэча на досвітку».* Выдадзена на рускай мове.

*«Праз многа год».* Выдадзена на рускай мове.

*«Дзядзька Іван».* Выдадзена на рускай мове.

*«Вечная тэма».* Выдадзена на рускай мове.

*«Пасаг».* Выдадзена на рускай мове.

*«За акном чаромха».* Выдадзена на рускай і венгерскай мовах.

*«Навальніца».* Выдадзена на рускай мове.

*«Падчарыца».* Выдадзена на рускай і армянскай мовах.

*«Мой тата прыехаў»*. Выдадзена на рускай мове.

*«Бабіна лета»*. Выдадзена на рускай і ўкраінскай мовах.

*«Васіліса»*. Друкуецца па выданню: Алена Васілевіч. «Я з вамі». Апавяданні і нарысы. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1964 г.

*«Іванава фабрыка»*. Друкуецца па выданню: Алена Васілевіч. «Мыс Добрай Надзеі». Апавяданні і нарысы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1977 г.

*«Мыс Добрай Надзеі»*. Друкуецца па выданню: Алена Васілевіч. «Мыс Добрай Надзеі». Апавяданні і нарысы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1977 г. Выдадзена на рускай і літоўскай мовах.

*«Гаварылі трынаццаць мінут»*. Друкуецца па выданню: Алена Васілевіч. «Мыс Добрай Надзеі». Апавяданні і нарысы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1977 г. Выдадзена на рускай і ўкраінскай мовах.

*«Зімовая дарога»*. Друкуецца па выданню: Алена Васілевіч. «Мыс Добрай Надзеі». Апавяданні і нарысы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1977 г. Выдадзена на рускай мове.

*«Горкі ліпавы мёд»*. Друкуецца па выданню: Алена Васілевіч. «Мыс Добрай Надзеі». Апавяданні і нарысы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1977 г. Выдадзена на рускай мове.

*«Над горадам прашумеў лівень»*. Друкуецца па выданню: Алена Васілевіч. «Мыс Добрай Надзеі». Апавяданні і нарысы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1977 г. Выдадзена на рускай мове.

*«Марыула»*. Друкавалася ў газеце «Літаратура і мастацтва» 7 сакавіка 1977 г. Выдадзена на рускай і татарскай мовах.

*«Падгор'е»*. У скарочаным выглядзе друкавалася ў газеце «Літаратура і мастацтва» 30 сакавіка 1979 г. Выдадзена на рускай мове.

## ДЗЕЦІ

### Апавяданні

*«Калінавая рукавічка»*. Выдадзена на рускай мове.

*«Геша»*. Выдадзена на рускай мове.

*«Мая гаспадарка»*. Выдадзена на рускай мове.

*«Новая ферма»*. Выдадзена на рускай мове.

*«Арфа»*. Выдадзена на рускай мове.

*«Вернісаж»*. Выдадзена на рускай мове.

*«Бабуліны кватаранты»*. Выдадзена на рускай мове.

*«Чынгісхан»*. Выдадзена на рускай мове.

*«Як я быў доктарам»*. Выдадзена на рускай і кіргізскай мовах.

*«Сябры»*. Выдадзена на рускай мове.

*«Тамарына астаноўка»*. Выдадзена на рускай мове.

*«Шурка Рэмзікаў»*. Выдадзена на рускай мове.

*«Чырвоны гальштук».* Выдадзена на рускай і кіргізскай мовах.

*«Партызанка Кніга».* Выдадзена на рускай і кіргізскай мовах.

*«Я — унук капітана».* Выдадзена на рускай і армянскай мовах.

*«Вожык».* Выдадзена на рускай мове.

*«Цюлік».* Друкавалася ў часопісе «Бярозка», № 12, 1957 г. Выдадзена на рускай мове.

## ЛЮБЛЮ, ХВАЛЮЮСЯ — ЖЫВУ

### Успаміны, партрэты, эсэ

*«На ўсё жыццё...»* Друкавалася ў часопісе «Полымя», № 1, 1982 г.

*«Адна старонка».* Друкавалася на рускай мове ў часопісе «Неман», № 6, 1980 г.

*«Як позна-позна, і як рана-рана...»* Друкуецца па выданню: «Святло яго душы». Успаміны пра Міхася Лынькова. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1979 г.

*«Мележ».* Друкавалася ў часопісе «Полымя», № 3, 1979 г. Выдадзена на рускай мове.

*«Некалькі хвілін чужога жыцця».* Друкавалася ў часопісе «Полымя», № 11, 1980 г.

*«Змястоўная лічба».* Друкавалася ў часопісе «Работніца і сялянка», № 1, 1981 г.

*«Каб стрэцца сёння...»* Друкавалася ў газеце «Літаратура і мастацтва» 12 лістапада 1968 г.

*«Незахмураная вяршыня».* Друкуецца па выданню: «Леў Талстой і Беларусь». Артыкулы, эсэ, апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1981 г.

